Археологическое наследие представляет собой основное свидетельство человеческой деятельности в прошлом.

*Хартия по охране и использованию археологического наследия*

# УСТУП

Археалогія Беларусі IX—XIII стст. уяўляе сабой лагічны працяг далейшага развіцця нашай краіны ва ўмовах канчатковага разлажэння першабытнаабшчыннага ладу, зараджэння і развіцця раннефеадальнага грамадства, узнікнення і развіцця гарадоў, узнікнення і развіцця дзяржаўнага ладу. За адносна кароткі гістарычны перыяд умовы жыцця грамадства рашуча і кардынальна змяніліся. Яно перайшло ад бяскласавага грамадства да класавага ладу.

Гэта важны і адказны перыяд у гісторыі нашай краіны. Імкліва ішло наперад развіццё жыцця ва ўсіх яго праявах — эканамічнай, сацыяльнай, грамадскай, палітычнай, культурнай. У гэты час завяршылася фарміраванне насельніцтва нашай краіны, адбыўся канчатковы пераход ад бяскласавага першабытнаабшчыннага ладу да класавага феадальнага грамадства. Узніклі першыя дзяржаўныя ўтварэнні — княствы. Узнікаюць і развіваюцца гарады, важнейшыя асяродкі адміністрацыйнага і эканамічнага жыцця. Далейшае развіццё атрымлівае культура і адбываецца пераход ад язычніцкіх уяўленняў да хрысціянскага веравызнання.

У гэты час узнікла і пачала распаўсюджвацца пісьменнасць, з'явіліся першыя пісьмовыя творы.

Асноўнай крыніцай для вывучэння гісторыі Беларусі гэтага пераяду ў папярэднія дзесяцігоддзі з'яўляліся старажытныя летапісы. На працягу стагоддзяў, ад X да XVIII, яны паслядоўна ў штогадовых запісах фіксавалі важнейшыя падзеі, што адбываліся ў краіне. Аднак летапісы маюць свае недахопы. Яны засяроджваюць увагу на палітычнай і ваеннай хроніцы, падзеях, што мелі месца ў княжаскай сям'і, і выключных прыродных з'явах, якія адбываліся ў бліжэйшых рэгіёнах. Летапісы нераўнамерна асвятляюць ход падзей у розных рэгіёнах, засяроджваючы ўвагу на падзеях у бліжэйшых з іх да летапісных цэнтраў. Амаль поўнасцю адсутнічаюць звесткі аб эканамічным развіцці краіны, населеных пунктах. Да таго ж пісьмовыя крыніцы вельмі лёгка знікалі ў выніку пажараў пад час заваёўніцкіх захопаў гарадоў, цэркваў і манастыроў, дзе захоўваліся гэтыя летапісныя дакументы. Таму на сённяшні дзень для аднаўлення гісторыі Беларусі ў гэты перыяд пісьмовых крыніц яўна недастаткова. У існуючых летапісах паведамленні аб гарадах на тэрыторыі нашай краіны, палітычных падзеях, што адбываліся на яе тэрыторыі,

носяць выпадковы, урыўкавы характар. Таму на аснове толькі пісьмовых паведамленняў аднавіць гісторыю нашай краіны немагчыма.

Усведамляючы недастатковасць пісьмовых звестак, даследчыкі вымушаны былі шукаць і выкарыстоўваць іншыя крыніцы ведаў. Такімі крыніцамі сталі археалагічныя помнікі і археалагічныя матэрыялы, што выяўляюцца ў час іх даследаванняў.

Археалагічныя помнікі IX—XIII стст. на тэрыторыі нашай радзімы сустракаюцца даволі часта. Яны ўяўляюць сабой рэшткі населеных пунктаў і пахавальныя помнікі. Рэшткі ўмацаваных населеных пунктаў называюцца гарадзішчамі, а неўмацаваных — селішчамі. Пахавальныя помнікі — гэта ў асноўным курганныя могільнікі. Па асаблівасцях пахавальнага абраду і пахавальнага інвентару, што клалі разам з нябожчыкам і які захаваўся і выяўляецца пры раскопах курганоў, можна вызначыць час пахавання і племянную прыналежнасць нябожчыка. Гэта дапамагае ўдакладніць час рассялення і межы рассялення плямёнаў. Вывучаючы гарадзішчы, можна выявіць іх тапаграфію, планіроўку, абарончыя збудаванні, забудову, а таксама вызначыць занятак насельніцтва, яго гаспадарчую дзейнасць, гандлёвыя і культурныя зносіны, узровень развіцця культуры. Без перабольшання можна сказаць, што на сённяшні дзень археалагічныя матэрыялы сталі асноўнай крыніцай нашых ведаў не толькі гісторыі канкрэтных гарадоў, але і агульных з'яў і падзей з жыцця насельніцтва на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст.

Археалагічнае вывучэнне помнікаў IX—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі пачалося ў пачатку XIX ст. У 1810 г. ваенны інжынер Т. Нарбут раскапаў некалькі курганоў ля Рагачова і ў Быхаўскім павеце. Гэта былі першыя раскопкі археалагічных помнікаў з мэтай выявіць іх паходжанне, прыналежнасць і час узнікнення. Сістэматычна археалагічнымі раскопкамі пачалі займацца аматары-археолагі з сярэдзіны XIX ст. Гэта браты К. П. і Я. П. Тышкевічы, М. М. Турбін, К. А. Гаворскі, М. Ф. Кусцінскі, Р. Г. Ігнацьеў, Е. Р. Раманаў, Ф. В. Пакроўскі, Г. Х. Татур, М. П. Авенарыус, М. Мышанкоў, М. В. Фурсаў, С. Ю. Чалоўскі, У. З. Завітневіч і інш. Намаганні даследчыкаў у гэты час засяроджваліся на раскопках курганных могільнікаў. Больш складаныя метадычна, працяглыя па часе і дарагія па сродках даследаванні гарадзішчаў старажытных гарадоў яшчэ не былі даступныя даследчыкам.

Даследаванні курганоў у XIX ст. і вывучэнне выяўленых у іх матэрыялаў дазволілі адшукаць спецыфічныя асаблівасці, якія адпавядалі асобным летапісным групам усходняга славянства і былі прызнаны за іх этнавызначальныя прыкметы. Па гэтых прыкметах удалося ўдакладніць межы рассялення асобных усходнеславянскіх летапісных племянных груп, што было немагчыма зрабіць толькі на падставе пісьмовых паведамленняў (Спицын, 1899). Такія арэалы рассялення ўсходнеславянскіх летапісных плямёнаў былі вызначаны і на тэрыторыі Беларусі для рассялення крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.

У XX ст. даследаванні курганоў працягвалі Ю. В. Шавельскі, С. А. Дубінскі, А. М. Ляўданскі, І. А. Сербаў, У. П. Сушчынскі, І. Х. Юшчанка, А. Зм. Каваленя, А. О. Рынейскі, І. Р. Калодкін, М. Н. Канвісараў.

У пасляваенныя гады раскопкі курганоў праводзілі Ю. У. Кухарэнка, І. В. Біруля, Т. М. Каробушкіна, В. В. Сядоў, П. Ф. Лысенка, А. і У. Галубо-

вічы, Г. В. Штыхаў, В. Н. Рабцэвіч, Г. Ф. Салаўёва, У. У. Багамольнікаў, Л. У. Дучыц, Ф. Д. Гурэвіч, З. М. Сяргеева, К. В. Паўлава, Ю. А. Заяц, В. М. Ляўко, А. В. Квяткоўская, Г. М. Семянчук. Новыя раскопкі курганоў пашырылі матэрыяльную базу даследаванняў па многіх пытаннях гісторыі насельніцтва Беларусі. Асабліва выніковымі былі даследаванні курганоў у Паўночнай Беларусі (Штыхаў Г. В.), якія спрыялі высвятленню ранняй гісторыі крывічоў, і даследаванні ў Беларускім Пабужжы (Каробушкіна Т. М.), што ўдакладнялі пытанні славянскага рассялення ў гэтым рэгіёне.

Адметную старонку ў вывучэнні старажытнасцей IX—XIII стст. складаюць археалагічныя даследаванні гарадзішчаў старажытных гарадоў Беларусі. У вывучэнні гэтага віду помнікаў існавала пільная неабходнасць і патрэба. Гарады — вынік эканамічнага і сацыяльнага развіцця раннефеадальнага класавага грамадства, аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі і развіцця гандлю, развіцця новай палітычнай структуры на ўзроўні раннефеадальных княстваў — дзяржаў. Таму менавіта ў гарадах былі засяроджаны вышэйшыя дасягненні, эканамічныя, культурныя і сацыяльна-палітычныя вынікі ў развіцці грамадства. Сапраўдны ўзровень развіцця грамадства немагчыма ўсвядоміць, не вывучыўшы ўзровень развіцця гарадоў, інакш гэта было б скажонае прадстаўленне аб сапраўдным стане развіцця ўсходняга славянства. Як адзначалася вышэй, гэтыя бакі жыцця ўсходняга славянства слаба адлюстраваны ў старажытных летапісах і іншых пісьмовых творах. Да таго ж старажытныя пісьмовыя крыніцы дайшлі да нашага часу ў вельмі невялікай колькасці.

Матэрыялы археалагічных даследаванняў — магутны сродак у папаўненні недастатковых звестак аб развіцці старадаўніх гарадоў усходніх славян і жыцці ўсходняга славянства ўвогуле. Трэба мець на ўвазе, што менавіта ў гарадах найбольш інтэнсіўна працякала жыццё ў самых розных формах і відах, найбольш інтэнсіўна адкладваўся культурны пласт, у якім утрымліваліся розныя згубленыя і выкінутыя рэчы, паўфабрыкаты і адходы розных рамёстваў і паўсядзённай дзейнасці гараджан.Таму раскопкі гарадоў былі найбольш перспектыўнымі ў атрыманні і накапленні новых матэрыялаў для асвятлення жыцця ўсходніх славян.

Аднак даследаванні гарадоў патрабавалі новага, вышэйшага ўзроўню метадычных ведаў і прыёмаў даследавання, які быў яшчэ не выпрацаваны археалагічнай навукай у першыя дзесяцігоддзі яе існавання. Для правядзення такіх археалагічных даследаванняў патрабавалася значная канцэнтрацыя падрыхтаваных спецыялістаў і наяўнасць значных фінансавых сродкаў. Па сутнасці гэта стала магчымым на тэрыторыі Усходняй Еўропы толькі з 30-х гадоў XX ст.

Даследаванні гарадоў на тэрыторыі Беларусі ў перадваенныя гады насілі выпадковы характар. У 1931 г. пачаліся земляныя работы на Замкавай гары ў Гродне, пад час якіх былі ўскрыты рэшткі старажытнага горада. У 1936 г. пры правядзенні земляных работ на Замкавай гары ў Давыд-Гарадку былі выяўлены рэшткі драўлянай забудовы гэтага горада XII—XIII стст. і праведзены яго раскопкі. Невялікія работы на Замкавай гары ў Ваўкавыску у 1925 г. правёў Ю. Ядкоўскі.

Значны размах набылі археалагічныя даследаванні старажытных гарадоў у пасляваенны час. На вялікай плошчы былі ўскрыты рэшткі

старажытных гарадоў — Мінска (Тарасенка В. Р., Загарульскі Э. М., Штыхаў Г. В.), Полацка (Мітрафанаў А. Р., Тарасенка В. Р., Штыхаў Г. В, Тарасаў С. В., Каргер М. К.), Гродна (Варонін М. М., Звяруга Я. Г., Ткачоў М. А., Трусаў А. А.), Навагрудка (Гурзвіч Ф. Д.), Віцебска (Штыхаў Г. В., Ткачоў М. А., Ляўко В. М., Калядзінскі Л. У., Бубенька Т. С.), Турава (Полубаярынава М. Д., Лысенка П. Ф.), Пінска (Раўдзіна Т. У., Міралюбаў Б. В., Лысенка П. Ф.), Бярзсця (Лысенка П. Ф.), Давыд-Гарадка (Лысенка П. Ф.), Слуцка (Загарульскі Э. М., Лысенка П. Ф., Калядзінскі Л. У.), Клецка (Лысенка П. Ф., Бубенька Т. С., Пазнякоў В. С.), Гомеля (Макушнікаў А. А.), Браслава, Друцка, Мсціслаўля (Аляксееў Л. У.), Оршы (Драгун Ю. У., Ляўко В. М.), Заслаўля (Заяц Ю. А.).

Раскопкі гарадоў выявілі вялізную колькасць матзрыялаў, што асвятляюць асобныя старонкі жыцця асобных гарадоў і раннефеадальную эпоху ўвогуле. Найбольшую каштоўнасць уяўляюць сабой гарадзішчы тых гарадоў, у якіх дзякуючы асаблівасцям пласта (вільгаць) захоўваюцца рзшткі драўляных пабудоў і вырабаў з матзрыялаў арганічнага паходжання. Гзта гарадзішчы старажытных Гродна, Мінска, Полацка, Віцебска, Бярзсця, Пінска, Давыд-Гарадка, Слуцка, Слоніма. Археалагічныя даследаванні гэтых гарадоў выяўляюць рзшткі старажытных пабудоў, што дазваляе вывучаць гарадскую планіроўку і забудову таго часу. Калекцыі рэчавых знаходак з гэтых гарадзішчаў вызначаюцца разнастайнасцю катэгорый прадметаў. Багатыя на рэчавы матэрыял гарадзішчы Навагрудка, Ваўкавыска, Друцка, Лукомля.

Археалагічныя матэрыялы, накопленыя пад час раскопак, значна пашыраюць нашы веды і дазваляюць з недаступнай раней паўнатой вывучаць старажытную гісторыю нашай радзімы. На падставе гэтых матэрыяпаў у 1972 г. супрацоўнікамі сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР выдадзена другая частка абагульняючай працы «Очерки по археологии Белоруссии». Кніга была прысвечана абагульненню накопленых на той час матэрыялаў 50—60-х гадоў. Аднак даследаванні працягваліся. З'явіліся дзесяткі манаграфій, прысвечаных гісторыі асобных гарадоў (Гродна, Мінск, Полацк, Навагрудак, Бярэсце, Пінск, Гомель, Заслаўль, Орша, Віцебск) і тэрыторый (Полацкая зямля, Тураўская зямля, Панямонне, Беларускае Пабужжа, Беларускае Паазер'е), плямёнаў (дрыгавічы, крывічы), заняткаў (земляробства), сотні навуковых артыкулаў, прысвечаных асобным вынікам работ на канкрэтных помніках. Выяўленне, накапленне і публікацыі новых матэрыялаў даюць магчымасць на новым узроўні абагуліць існуючыя веды па старажытнай гісторыі Беларусі IX—XIII стст. Накопленыя ў 70—90-я гады матэрыялы дазваляюць больш поўна асвятліць некаторыя пытанні з гісторыі этнічнага і гаспадарчага развіцця тагачаснага насельніцтва, станаўлення і развіцця гарадоў і сельскіх паселішчаў ва ўмовах раннефеадальнага грамадства на нашай тэрыторыі. Даследаванне асобных помнікаў і тэрыторый яскрава сведчыць аб высокім узроўні эканомікі і гаспадаркі і ранніх узнікненні гарадоў на тэрыторыі Беларусі. Па гэтых паказчыках гісторыя насельніцтва на нашай тэрыторыі ніколькі не саступае суседнім краінам, а часам і пераўзыходзіць некаторыя з іх. Новы абагульняючы

твор па археалогіі Беларусі IX—XIII стст. адрозніваецца ад папярэдняга, што стаў ужо бібліяграфічнай рэдкасцю, больш поўнай публікацыяй новых і ранейшых матэрыялаў, больш грунтоўнай доказнасцю высадаў, больш шырокім разглядам асобных з'яў з мінулага Беларусі.

Значным дасягненнем беларускай археалогіі з'яўляецца выяўленне, даследаванне і музеефікацыя старажытнага Бярэсця. Створаны на падставе выяўленых матэрыялаў унікальны музей «Бярэсце» — адзіны ў свеце па экспазіцыі старажытнага драўлянага горада.

Аўтарская работа па напісанню трэцяга тома «Археалогіі Беларусі» выканана супрацоўнікамі аддзела археалогіі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

1а Зак. 3644

## Раздзел 1

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ САЮЗЫ ПЛЯМЁНАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Вывучэнне гісторыі Беларусі канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. па гістарычных крыніцах, як і іншых тэрыторый Усходняй Еўропы, грунтуецца звычайна на паведамленнях старажытных летапісаў. Як ужо адзначалася, летапісы ў асноўным утрымліваюць паведамленні аб палітычных падзеях, сямейную хроніку княжацкага жыцця або успамінаюць выключныя прыродныя з'явы (землятрус, сонечнае зацямненне, павадак, неўрадлівы год і голад, нашэсце саранчы і г. д.). Паведамлянні аб эканамічным і гаспадарчым жыцці ў ім адсутнічаюць. Тым больш што летапісец апісваў добра вядомыя яму падзеі наваколляў летапіснага цэнтра або падрабязнасці палітыкі князёў і прыбліжаных. Звесткі аб навакольных княствах, гарадах, іх гаспадарцы амаль поўнасцю адсутнічаюць або носяць выпадковы, кароткі і ўрыўкавы характар. У адпаведнасці з гэтым немагчыма скласці поўнае ўяўленне аб жыцці асобных рэгіёнаў тэрыторыі Беларусі і яе насельніцтва.

Недахоп пісьмовых звестак вымусіў звярнуцца да выкарыстання археалагічных помнікаў. На тэрыторыі Беларусі размяшчаюцца розныя археалагічныя помнікі перыяду ранняга феадалізму: гарадзішчы, (рэшткі ўмацаваных пасяленняў), селішчы (рэшткі неўмацаваных пасяленняў), курганныя могільнікі. Іх раскопкі з мэтай атрымання канкрэтных звестак гістарычнага характару пачаліся ў пачатку мінулага стагоддзя (Т. Нарбут). Асабліва актыўныя даследаванні пахавальных курганоў пачаліся ў сярэдзіне XIX ст. (Тышкевічы К. і Я., Завітневіч У. З., Кусцінскі М. Ф., Раманаў Е. Р. і інш.). Раскопкі курганоў выявілі спецыфічныя для асобных плямёнаў этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні, што дало магчымасць удакладніць этнічныя межы рассялення летапісных плямёнаў і час іх рассялення на землях Беларусі. Ранні археалагічны матэрыял дазваляе таксама зазірнуць у часы, не асветленыя нават ранім недатаваным летапісным успамінам, і вызначыць час і накірунак засялення славянамі тэрыторыі Беларусі. Так, найбольш значнае па тэрыторыі рассялення летапіснае племя дрыгавічоў мае генетычную сувязь з насельніцтвам культур тыпу Лукі-Райкавецкай і Карчак, якая папярэднічала першай, што рассялілася ў другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. на правабярэжжы р. Прыпяць і паўночнай Валыні. На тэрыторыі Паўднёвай і Цэнтральнай Беларусі яны з'явіліся, як сведчаць археалагічныя помнікі, у IX—X стст. н. э.




*Мал. 1. Карта рассялення ўсходніх славян ў IX—XI стст.*

На поўначы Беларусі ў Падзвінні частка шматлікага і магутнага племені крывічоў (разам з іх часткай — палачанамі) рассялілася ў выніку неаднаразовай каланізацыі, што хвалямі набягалі на Падзвінне. Як мяркуюць археолагі, такія хвалі каланізатараў паходзілі з захаду, з зямель паўночнай Польшчы, а таксама з суседняй тэрыторыі пскоўскіх крывічоў.

Загадкавай застаецца папярэдняе месца жыхарства продкаў радзімічаў. На землях Пасожжа яны з'явіліся, як відаць, у IX ст.

Па меркаваннях даследчыкаў, славянскія групы насельніцтва прыходзілі на тэрыторыю, заселеную балцкім насельніцтвам. Каланізацыя не была раптоўнай і выбуховай з поўным знішчэннем папярэдняга насель-

ніцтва. Славяне каланізавалі тэрыторыю паступова, асімілюючы мясцовае насельніцтва. Сведчаннем гэтага з'яўляецца значная частка элементаў матэрыяльнай культуры, што была засвоена славянамі ад папярэднікаў. Гэта перш за ўсё жаночыя ўпрыгожанні, што выяўлены ў курганных пахаваннях. Да нядаўняга часу заставалася спрэчным пытанне аб пранікненні славянскага насельніцтва на Пабужжа і Панямонне. І толькі даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў выявілі перавагу ў гэтых раёнах перасяленцаў дрыгавічоў (Біруля І. В., Каробушкіна Т. М., Паўлава К. В., Гурэвіч Ф. Д.).

Гаворачы аб славянскіх летапісных плямёнах, трэба разумець умоўнасць гэтага тэрміна. У IX—X стст. славянскае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі перажывала стадыю канчатковага распаду першабытнаабшчыннага ладу і развіцця феадальных адносін. Тут ужо не было першабытнай роўнасці, адбывалася маёмаснае расчляненне, выдзялялася сацыяльная вярхушка, племянныя князі, і ўтвараліся зачаткі дзяржаўных «племянных» княжэнняў. Такія княжэнні вядомы па летапісах у дрыгавічоў, і крывічоў. Працэс гэты быў павольным і паступовым і адпавядаў развіццю ўсіх усходнеславянскіх плямёнаў. Аднак перажыткі племяннной арганізацыі ўсходніх славян доўгі час заставаліся ў свядомасці сучаснікаў і адзначаюцца летапісцамі яшчэ ў XIII ст.

Развіццё феадалізму прывяло да ўмацавання дзяржаўных пачаткаў і стварэння феадальных княстваў-дзяржаў. На тэрыторыі Беларусі старэйшымі такімі княствамі былі Полацкае — на поўначы і Тураўскае — на поўдні Беларусі. Яны ўзніклі адначасова ў канцы X ст. на падставе ранейшых племянных княжэнняў крывічоў і дрыгавічоў. Іх першымі князямі былі Рагвалод у Полацку і Тур у Тураве (магчыма, асоба легендарная). Яны засяроджвалі ўладу, як можна меркаваць, над усёй этнічнай тэрыторыяй рассялення палачан і дрыгавічоў.

Эканамічнай асновай насельніцтва Беларусі IX—XIII стст. з'яўлялася сельская гаспадарка. У гэты час сельскае насельніцтва складала абсалютную большасць насельніцтва феадальных княстваў на тэрыторыі Усходняй Беларусі (90 — 95 %) і асноўным відам паселішчаў былі невялікія сельскія паселішчы. Аднак з развіццём вытворчых сіл, феадальнай дыферэнцыяцыяй насельніцтва, выдзяленнем і развіццём рамяства і гандлю развіваецца новы тып пасяленняў — гарады. Узнікненне і развіццё гарадоў — з'ява выключнай важнасці ў жыцці кожнага народа. Гэта факт канцэнтрацыі насельніцтва і важнейшых дасягненняў у эканоміцы і культуры грамадства, што спрые далейшаму прагрэсу ва ўсіх галінах жыцця.

Важнымі састаўнымі часткамі эканамічнага жыцця насельніцтва на сучаснай тэрыторыі Беларусі былі рамяство і гандаль. Рамяство ў першую чаргу арыентавалася на задавальненне асноўных штодзённых вытворчых і гаспадарчых патрэб насельніцтва. Гэта найперш выраб прылад працы, інструментаў апрацоўкі мясцовай сыравіны. Рамяство існавала паўсюдна. Аднак у сельскіх мясцовасцях яно было больш простым. Найбольш складаныя і якасныя інструменты і прылады працы выраблялі гарадскія рамеснікі, больш кваліфікаваныя і ўмелыя.

Нягледзячы на панаванне натуральнай гаспадаркі, існаваў гандаль з замежнымі краінамі і мясцовы гандаль, што звязваў мясцовыя вы-

творчыя цэнтры (гарады) з сельскім наваколлем. Гэта прасочана па знаходках шматлікіх прывазных рэчаў пры раскопках гарадоў, селішч і курганных пахаванняў.

Ідэалагічнымі ўяўленнямі ўсходнеславянскіх плямёнаў дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў у час іх рассялення на тэрыторыі Беларусі было язычніцтва, пакланенне сілам прыроды. Існаваў агульнаславянскі пантэон багоў (Пярун, Велес, Сімаргл, Дажджбог, Стрыбог). Па ўсёй верагоднасці, існавалі мясцовыя свяцілішчы з праўлянымі выявамі багоў і багінь, што былі ахоўнікамі і абаронцамі насельніцтва. У канцы X ст. рашэннем вялікага князя кіеўскага, які на гэты час падначаліў большасць усходнеславянскіх саюзаў плямёнаў, была прынята хрысціянская рэлігія візантыйскага ўзору. Хрысціянскае веравызнанне пачало хутка распаўсюджвацца. На думку даследчыкаў, адначасова ў Полацку і Тураве былі створаны епіскапствы, што з'яўляліся цэнтрамі распаўсюджання хрысціянства.

У заключэнне кароткай папярэдняй характарыстыкі насельніцтва Беларусі канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. трэба закрануць важнае пытанне аб яго этнічнай прыналежнасці. На сённяшні дзень не існуе аднолькавых падыходаў да яго вырашэння. Адны даследчыкі лічаць гэты перыяд часам фарміравання і існавання агульнай усходнеславянскай старажытнарускай народнасці (Шахматаў А. А., Грэкаў Б. Д., Рыбакоў Б. А., Траццякоў П. М., Ліхачоў Д. С., Ціхаміраў М. М., Маўродзін М. В., Сядоў В. В., Загарульскі Э. М. і інш.). Другія адмаўляюць гэту супольнасць, бо лічаць працэс незавершаным (Штыхаў Г. В.). Пры вызначэнні рашэння па гэтаму пытанню неабходна ўлічваць такія этнічныя прыкметы, як мова, сумеснае кампактнае пражыванне ў пэўным рэгіёне, адзінства матэрыяльнай і духоўнай культуры, этнічную самасвядомасць і саманазву, усведамленне агульнай этнічнай прыналежнасці.

Адзінства агульнай усходнеславянскай мовы адзначана яшчэ летапісцам. Магчыма існаванне мясцовых дыялектаў. Аднак гэта не адмаўляе адзінства мовы. Дыялекты існуюць у рускай, украінскай, літоўскай, нямецкай, французскай, англійскай, іспанскай і іншых мовах. Але гэта не з'яўляецца падставай для адмаўлення існавання агульнай нацыянальнай мовы.

Адзінства тэрыторыі ўсходніх славян зафіксавана ў пісьмовых крыніцах і матэрыялах археалагічных даследаванняў. На ўсіх абшарах Усходняй Еўропы існавалі адзіны ўзровень развіцця вытворчых сіл і адзіная матэрыяльная і духоўная культура.

Характэрным для сучаснікаў старажытнасці з'яўлялася ўсведамленне прыналежнасці да адзінай этнічнай агульнасці. Гэта адлюстравана ў творах летапісцаў, найбольш адукаваных людзей свайго часу. Славянскае насельніцтва Усходняй Еўропы яны называюць рускімі людзьмі незалежна ад рэгіёнаў іх рассялення, а саму тэрыторыю — рускай зямлёй.

Пералічаныя вышэй факты прыводзяць да высновы, што ў перыяд развіцця феадалізму адбываўся працэс фарміравання і развіцця адзінай старажытнарускай народнасці на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы. Землі і насельніцтва сучаснай тэрыторыі Беларусі таксама былі ўцягнуты ў гэты працэс і з'яўляліся складаючай часткай гэтай этнічнай супольнасці. Аднак рэгіянальныя асаблівасці ў выглядзе субстрату папярэдняга

мясцовага насельніцтва (балтаў, фінаў) абумовілі этнічныя асаблівасці развіцця насельніцтва асобных рэгіёнаў і прывялі ў далейшым да фарміравання трох асобных славянскіх народаў (беларусаў, рускіх, украінцаў). Аднак нельга перабольшваць гэты ўплыў. Аснову продкаў беларускага народа складалі ўсходнія славяне, роднасныя на шырокай плошчы Усходняй Еўропы. І нельга ігнараваць гэтую роднасць, гэта непазбежна прывядзе да свядомага ці несвядомага скажэння гістарычнай праўды.

## 1. ПОЛАЦКІЯ КРЫВІЧЫ

**Летапісныя паведамленні.** У недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў», дзе гаворыцца аб рассяленні славян на прасторах Усходняй Еўропы, паведамляецца пра палачан: «Инии седоша на Двине и нарекошася Полочане, речьки ради, яже втечеть в Двину, имянем Полота, от сея прозвашася Полочане». Далей летапісец гаворыць аб княжэннях: «...а другое (княжэнне.— *Г. Ш.*) на Полоте, иже Полочане. От них же и Кривичи, иже седять на верх Волги, и на верх Двины и на верх Днепра, их же град есть Смоленск; туде бо седять Кривичи» (ПВЛ. Ч. 1. 1950. С. 13). Пад 862 г. летапісец паведамляе: «...а перьвии насельници... вь Полотьски кривичи...» Гэта значыць, што Полацк заснавалі крывічы.

У летапісе гаворыцца лра крывічоў і палачан. Ва ўводзінах «Аповесці мінулых гадоў» палачане названы чатыры разы, крывічы — тройчы. У Іпацьеўскім летапісе крывічы названы пад 1128 г., а полацкія князі «крывіцкімі» — яшчэ пад 1140 і 1162 гг.

У летапісе назва «полочаны» скарыстана пад 1092 г. у адносінах да жыхароў Полацка. «Полочаны», «Полочане» ў сэнсе як жыхары Полацка і Полацкай зямлі названы ў Іпацьеўскім спісе пад 1139, 1151, 1159, 1160, 1162, 1167, 1195 гг. Пытанне пра палачан, якія фігуруюць ва ўводзінах «Аповесці мінулых часоў», уздымалася раней у спецыяльнай літаратуры. Большасць даследчыкаў прыйшлі да высновы, што назва з'яўляецца тэрытарыяльнай. Палачанамі называлі жыхароў Полацка і яго зямлі, у склад якой у XI ст. уваходзіла значная частка дрыгавічоў. Мусіць, назва «палачане» паходзіць ад назвы города Полацка.

Паведамленне летапісаў «Палачане. Ад іх жа крывічы...» выклікала розныя тлумачэнні спецыялістаў. Адны меркавалі, што плямёны крывічоў паходзяць ад «палачан», іншыя даказвалі, што крывічы жылі на поўнач ад палачан. Але летапісец узнікненне назвы «палачане» звязвае з назвай р. Палата. Ад Палаты паходзіць назва горада, а ад Полацка — «палачане». Летапісец непасрэдна не гаворыць пра першапачатковае рассяленне палачан на Палаце. На гэта ён быццам бы намякае далей, калі гаворка ідзе пра княжэнне «на Полоте, иже полочане». У дадзеным выпадку яго можна зразумець па-іншаму: княжэнне заснавана з цэнтрам у Полацку, размешчаным на Палаце, а жыхары называюцца палачанамі.

**Межы рассялення.** Паводле археалагічных даных, полацкія крывічы займалі ў раннім сярэднявеччы тэрыторыю, якая абмяжоўвалася на поўначы сярэднім цячэннем рэк Свольны, Дрысы і верхнім цячэннем ракі Ловаці. Далей на поўнач тэрыторыя басейну ракі Вялікай і Пскоўскага возера належала пскоўскім крывічам, паводле вызначэння

В. В. Сядова. На захадзе група крывічоў-палачан шчыльна суседнічала з лета-літоўцамі. Правабярэжная частка басейна Дзісны, левага прытока Заходняй Дзвіны, належала крывічам. На захад адсюль пачыналася вобласць, дзе жылі плямёны літоўцаў. Найбольш заходнім паселішчам крывічоў з'яўляўся горад Браслаў (Дучыц, 1991. С. 3).

На поўдні полацкія крывічы суседнічалі з дрыгавічамі і радзімічамі (мал. 1). Граніца паміж крывічамі і дрыгавічамі праходзіла прыкладна па лініі Заслаўе, Лагойск, Барысаў, Крупкі, Шклоў. В. В. Сядоў мяркуе, што крывіцкая тэрыторыя «языком» апускалася ніжэй па Дняпру да в. Лучын Рагачоўскага раёна, што пацвярджаецца археалагічнымі матэрыяламі (Седов, 1982. С. 158).

Вызначэнне мяжы рассялення полацкіх крывічоў са смаленскімі выклікае цяжкасці. Паміж культурай крывічоў полацкіх і смаленскіх шмат агульных рыс, на што даследчыкі неаднаразова звярталі ўвагу, карыстаючыся назвай «смаленска-полацкія крывічы» (Енуков, 1990. С. 13).

Між тым М. Я. Грынблат на аснове этнаграфічных даных даказваў, што рассяленне палачан на ўсход не дасягала лініі Віцебск — Езярышча, а раён Віцебска, як і тэрыторыя на поўнач ад яго і ўсё міжрэчча Заходняй Дзвіны і Дняпра, належаў вобласці смаленскіх крывічоў, а не палачан, г. зн. полацкіх крывічоў (Гринблат, 1968. С. 131). Прасачыць гэта на археалагічных матэрыялах пакуль што немагчыма.

Даследчыкі выказваюць меркаванне, што ўздоўж левабярэжжа р. Обаль праходзіць заходняя мяжа распаўсюджання культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў (Булкин, 1995. С. 222). А. А. Мяцельскі сцвярджае, што Віцебск і Смаленск у IX—X стст. уяўлялі ў этнічных і гаспадарчых адносінах адзінае цэлае (Мяцельскі, 1997. С. 191).

Раскопкі курганоў у Аршанскім, Шклоўскім раёнах пацвердзілі іх прыналежнасць крывічам (Ляўко, 1997. С. 172, 176). Але няма адказа на пытанне, якім крывічам — полацкім ці смаленскім — належалі курганы, размешчаныя ў Смаленска-Полацкім памежжы ў X—XII стст. У наваколлі Віцебска некалькі курганоў даследавана каля вёсак Старое Сяло і Лятохі, якія адносяцца да культуры ранніх доўгіх курганоў V—VII стст. (Штыхаў, 1992. С. 113—114). Такія курганы поўнасцю адсутнічаюць на тэрыторыі Смаленшчыны. Што датычыць канстатацыі тоеснасці ці адрознення курганоў другой паловы VIII—X ст. на Смаленшчыне і Віцебшчыне, то для гэтага неабходны далейшыя археалагічныя даследаванні, у першую чаргу ў Віцебскім раёне.

Не існавала выразнай мяжы паміж крывічамі і радзімічамі. У раёне Іпуці і басейна Осцера яны змешваліся паміж сабой. У левабярэжнай частцы Верхняга Падзясення крывічы шчыльна суседнічалі з вяцічамі. Крывіцка-вяціцкая мяжа ішла ў паўночным напрамку да вярхоўя Масквы-ракі (Седов, 1982. С. 158, 159).

Археалагічныя даныя ў асноўным пацвярджаюць звесткі летапісаў аб шырокім рассяленні крывічоў на абшарах лясной паласы Усходняй Еўропы (мал. 1).

**Вывучэнне археалагічных помнікаў.** У 40-х гадах XIX ст. Ф. А. Вільчынскі даследаваў некалькі курганоў паблізу мястэчка Ушач і в. Павулле. У 50-я гады XIX ст. раскопкі курганоў праводзілі К. А. Гаворскі

ў раёне Полацка і М. Ф. Кусцінскі пераважна на Лепельшчыне (Алексеев, 1996. С. 92, 117). Адсутнасць навуковых публікацый абясцэньвае матэрыял для археалагічнай навукі.

У наваколлі Лагойска раскопкі курганоў праводзілі ў XIX ст. браты Тышкевічы, якія заклалі асновы беларускай археалогіі. Яўстафій Тышкевіч у 1837—1843 гг. вёў раскопкі курганоў каля свайго радавога маёнтка разам з Канстанцінам Тышкевічам (Кахаоўскі, 1984. С. 47—53). Тышкевіч у 1855 г. заснаваў Віленскі музей старажытнасцей, якому перадаў калекцыі ўласных збораў. Матэрыялы з раскопак курганоў Тышкевічамі, у значнай ступені дэпаспартызаваныя, знаходзяцца зараз у Археалагічным музеі ў Варшаве і апублікаваны Л. Д. Побалем. Тут прысутнічаюць драцяныя бранзалетападобныя скроневыя кольцы — этнічная прыкмета крывічоў (Поболь, 1979. С. 165). Разам з тым сярод рэчаў з раскопак братоў Тышкевічаў і М. М. Турбіна сустракаюцца металічныя зярнёныя пацеркі — прыкмета дрыгавічоў (Лысенко, 1991. С. 138, 139). Гэта сведчыць аб змяшэнні крывічоў-палачан з дрыгавічамі ў Цэнтральнай Беларусі ў XI—XII стст.

Е. Р. Раманаў пачынаючы з 1868 г. на працягу 20 гадоў вывучаў курганы. Многія каштоўныя матэрыялы ён атрымаў пры раскопках курганных могільнікаў у вёсках Вядцы, Спіцах, Лукомлі, Закур'і, Чарцах у былым Сенненскім павеце (Романов, 1889. С. 146—150). Дэталёвыя раскопкі курганоў правёў Ф. У. Пакроўскі. Апублікаваныя яго работы не страцілі значэння да нашага часу (Покровский, 1895. С. 166—220).

Даследаванне курганоў у 20-я гады звязана з навуковай дзейнасцю А. М. Ляўданскага. Вывучыўшы курганны могільнік каля Бельчыц, Рудні, Гаравых пад Полацкам, ён вызначыў эвалюцыю пахавальнага абраду: трупаспаленне, інгумацыя на грунце, пахаванні ў падкурганных ямах (Ляўданскі, 1930. С. 173). Раскопкі Ляўданскага на працягу доўгага часу заставаліся асноўнай крыніцазнаўчай базай для асвятлення гісторыі крывічоў-палачан.

У 30-я гады на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ў 1921 г. адышла да Польшчы, значныя даследаванні правялі У. Галубовіч і А. Галубовіч. Прыкладна 150 вывучаных імі курганоў размешчаны ў раёнах Беларускага Падзвіння (Голубович Е., Голубович В., 1945. С. 127).

Новыя шырокія даследаванні курганоў праведзены полацка-віцебскім атрадам інстытута гісторыі АН Беларусі ў 1965—1991 гг., калі пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава вывучаліся курганы ў розных раёнах Віцебскай і паўночнай частцы Мінскай абласцей. Курганныя насыпы даследаваліся поўнасцю, раскопкамі «на знос». Было вывучана каля 300 курганоў (Штыхаў, 1992. С. 16—18).

Л. В. Аляксееў, даследуючы Друцк, адначасова вывучаў курганы ў яго наваколлі каля вёсак Сінчукі, Арава, Чаркасова (Алексеев, 1966. С. 36). З. М. Сяргеева даследавала 45 курганоў на тэрыторыі былога Друцкага княства (Сергеева, 1972. С. 61—64). Яна спецыяльна разгледзела пытанне пра ўзаемапранікненне элементаў матэрыяльнай культуры балтаў і славян. Акрамя таго, З. М. Сяргеева ў 1974—1975 і 1981 гг. даследавала ў Верхнядзвінскім раёне 40 курганоў каля вёсак Абрамава, Сукалі, Лісна, Зашчырына, Дзянісенкі.

Л. У. Дучыц вывучыла ў Браслаўскім, Верхнядзвінскім, Міёрскім раёнах з 1977 па 1985 г. 90 курганоў. Яна зрабіла спробу акрэсліць паводле абраду пахавання і інвентару асобныя мікрараёны ў Браслаўскім Паазер'і (Дучыц, 1991. С. 92). У 1989—1991 гг. Л. У. Дучыц даследавала курганы ў Глыбоцкім, Лепельскім, Ушацкім раёнах і пацвердзіла, што ў пахавальным абрадзе і інвентары полацкіх крывічоў адзначаюцца балта-славянскія рысы (Дучыц, 1993. С. 123).

Звыш ста гадоў вывучалі розныя даследчыкі курганныя могільнікі ў наваколлі Заслаўя. Ёсць звесткі пра раскопкі 142 курганоў, значная колькасць з якіх належала крывічам (Заяц, 1995. С. 51). Каля в. Ізбішча Лагойскага раёна ў 1987—1991 гг. даследавана 110 курганоў. Сярод іх дакладна вызначаны пахаванні крывічоў X—XI стст. (Штыхаў, 1992. С. 9, 71).

Артэфакты IX—X стст., якія належалі полацкім крывічам (пераважна ляпная кераміка) выяўлены ў гарадах Полацкай зямлі — Полацку, Віцебску, Лукомлі (Штыхов, 1978. С. 8, рис. 2), на гарадзішчы Свіла-1 (Мітрафанаў, Каробушкіна, 1975. С. 38). Асноўнымі крыніцамі вывучэння этнічнай сітуацыі ў раннім сярэднявеччы і перадумоў фарміравання беларускай народнасці з'яўляюцца матэрыялы з раскопак курганных могільнікаў.

**Аб раннім этапе культуры доўгіх курганоў.** У Паўночнай Беларусі ў V—VII стст. склалася культура доўгіх курганоў (ранні этап), пра гістарыяграфію якой ужо гаварылася (Археалогія Беларусі. Т. 2. 1999. С. 376—379). У культуры доўгіх курганоў вылучана тры стадыі Беларускага Падзвіння (Штыхаў, 1992. С. 107). Першая стадыя прадстаўлена раннімі доўгімі і круглымі курганамі. На Віцебшчыне ў 60—70-я гады Г. В. Штыхаў выявіў курганы сярэдзіны і трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Яны даследаваліся каля в. Янкавічы ва ўрочышчах Атокі і Павалішына ў Расонскім раёне, каля в. Дарахі ў Гарадоцкім раёне. У курганным могільніку Павалішына ў кургане № 3 пад дзірваном знаходзіліся перапаленыя косці і раскіданыя кавалкі ляпной керамікі — гладкасценнай і з расчосамі (прачэрчванні зроблены касцяным грэбенем познарымскага часу). Гэта першае пахаванне з расчосанай керамікай, якая служыць надзейным культурна-храналагічным індыкатарам. Паселішчы з такой керамікай вядомы на тэрыторыі Беларусі ў вялікай колькасці (Поболь, 1983. С. 390—397). Унікальнасць пахавання ў падоўжаным кургане Павалішына тлумачыцца, верагодна, тым, што з'яўленне самога курганнага абраду адбылося незадоўга да знікнення помнікаў з расчосанай керамікай. Адзінкавыя паселішчы з ёй знойдзены на поўдні Пскоўскай вобласці і ў вярхоўі ракі Вялікай.

Надзвычай цікава, што могільнікі культуры доўгіх курганоў выяўлены ажно ва ўсходняй частцы Наўгародскай зямлі ў басейне ракі Малогі. Насельніцтва гэта было прышлым, з'явілася тут ў V ст., магчыма, з Заходняй Дзвіны і верхняга цячэння Дняпра (Башенькин, 1997. С. 21—27). Верагодна, носьбіты культуры ранніх доўгіх курганоў каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. прасунуліся з Паўночнай Беларусі на Пскоўшчыну і ў вярхоўі ракі Вялікай.

Гэта не супярэчыць дылеме, выказанай расійскімі даследчыкамі, якія пішуць аб двух «усходніх» патоках рассялення славян: «адзін накі-




*Мал 2 Інвентар курганоў канца VIII—IX ст з в Баркі Полацкага раена 1—7, 18, 19, 21—23, 25, 28—31, 35—42 — бронза, 8, 27, 32, 34, 43 — жалеза, 9—17, 33 — косць, 24, 26 — шкло, 44 — гліна*

роўваўся з захаду на ўсход, да Дняпра ў сярэднім яго цячэнні (Кіеў), і затым да поўначы па Дняпру.., а другі — з паўднёвай Прыбалтыкі, магчыма, э ніжняй Віслы, на ўсход — у будучы Наўгародска-Пскоўскі арэал» (Топоров, 1999. С. 276).

**Пахавальны абрад і інвентар курганоў канца VIII—X ст.** У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. раннія доўгія курганы V—VII стст. (Штыхаў, 1992. С. 41) у Паўночнай Беларусі змяняюцца помнікамі, якія атрымалі ў літаратуры назву «смаленска-полацкія доўгія курганы» (Седов, 1995. С. 229). Яны адрозніваюцца ад ранніх доўгіх курганоў памерамі. Іх даўжыня звычайна складае 10—20 м і не перабольшвае 30 м.

Гэтыя курганныя могільнікі другой паловы ці канца VIII—X ст. складаюцца з насыпаў рознай формы ад доўгіх валападобных да падоўжаных, авальных і круглых, прычым апошнія пераважаюць. Могільнікі будаваліся на месцы былых паселішчаў V—VII стст., што асабліва часта назіраецца на Смаленшчыне. Таму ў насыпах курганоў сустракаюцца фрагменты глінянага посуду (Шмидт, 1963. С. 93). Але самай істотнай асаблівасцю смаленска-полацкіх курганоў з'яўляецца своеасаблівасць пахавальнага інвентару, які ўключае рэчы жаночага галаўнога ўбору тыпу лета-літоўскіх вайнаг, трапецападобныя падвескі, касцяныя падвескі ў выглядзе птушак і інш. (мал. 2:9—15). Курганы апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. даследаваў на Віцебшчыне Г. В. Штыхаў каля вёсак Баркі, Бяскатава, Дарахі, Вышадкі, Смалькі.

У курганных могільніках VIII — пачатку X ст. трупаспаленне амаль заўсёды знаходзіцца пад насыпам. Здараецца, што кальцыніраваныя косці сабраны ў неглыбокай ямцы, а зверху змешчана перакуленая дагары пасудзіна. Гэта дэталь пахавальнага абраду зბліжае смаленска-полацкія курганы з больш ранніми доўгімі курганамі V—VII стст. (Археалогія Беларусі. Т. 2. С. 378).

Большасць курганоў бедныя на інвентар ці зусім яго не маюць. І калі сярод іх ёсць славянскія пахаванні, што мы дапускаем, пацвердзіць гэта комплексамі пахавальнага інвентару няма магчымасці. Аднак зрэдку сустракаюцца пахаванні з вялікай колькасцю пашкоджаных агнём упрыгожанняў. Каля в. Баркі (Полацкі раён) у кургане № 2 знойдзена 11 касцяных упрыгожанняў качак, 20 бронзавых трапецападобных падвесак, жалезная спражка, спіралькі, фрагменты шыйнай грыўні і інш. (мал. 2). У кургане № 6 знойдзена пяць бронзавых спіралек, тры трапецападобныя падвескі, шкляныя пацеркі э блакітнага шкла. У пахаванні выяўлены таксама рэшткі караляў (маністаў), у якіх чаргаваліся шкляныя пацеркі і шэрагі спіралек. Ёсць фрагменты шыйнай грыўні (мал. 2:25), ранняга бранзалета з трохвугольным выступаючым рабром (мал. 2:39). У кургане выяўлены жаночыя ўпрыгожанні, распаўсюджаныя ў балтаў і характэрныя таксама для культуры доўгіх курганоў Смаленшчыны (Енуков, 1990. С. 52—59). Паблізу в. Вышадкі ў малым круглым кургане № 14 у 1980 г. знойдзена каля 300 фрагментаў ад пашкоджаных агнём упрыгожанняў, у іх ліку рэшткі доўгага ланцужка, складзенага ў чатыры нізкі, да якога прымацоўваліся трапецападобныя падвескі і іншыя ўпрыгожанні (Штыхаў, 1992. С. 46. Мал. 30:8—11).

Багацце пахавальнага інвентару ў асобных курганах VIII—IX стст., відаць, з'ява не столькі сацыяльная, што сведчыла пра маёмасную




*Мал. 3. Ляпныя гаршкі VIII — пачатку X ст. з курганоў: 1—3 — Баркі; 4—5 — Смалькі; 6 — Вусце; 7—10 — Дарахі; 11—15 — Глінішча; 16 — Плусы; 17 — Слабодка; 18—19 — Домжарыцы; 20 — Пуканаўка*

няроўнасць, колькі этнагенетычная. Папулярнасць металічных жаночых упрыгожанняў характэрна для балтаў. У дадзеным выпадку ўпрыгожанні сведчаць пра славянізаваных балтаў, адносна нешматлікіх на тэрыторыі фарміравання полацкіх крывічоў. Рэдкай з'яўляецца знаходка ў кургане № 3 могільніка Дарахі-2 ніжняга каменя ад жорнаў. Прыкладная дата гэтага могільніка каля Дарахоў VIII—IX стст. Уся кераміка з раскапаных курганоў характэрна для культуры доўгіх курганоў Смаленшчыны.

Пахаванні ў курганах паблізу Полацка на ўскраіне в. Глінішча амаль цалкам адносяцца да X ст. У могільніку 60 паўсферычных курганоў, з якіх даследавана 20. Спальванне памерлых адбывалася на месцы ўзвядзення насыпу. Рэшткі крэмацыі зграбаліся ў кучку. Знойдзены 6 ляпных (мал. 3:11—15) і 4 кругавыя гаршкі (Штыхаў, 1992. С. 52. Мал. 34:11—15). Ляпныя пасудзіны вельмі архаічныя і належаць да культуры смаленскіх доўгіх курганоў. Ацэнка курганоў як пахаванняў полацкіх крывічоў не выклікае сумнення. Паміж культурай доўгіх курга-

ноў VIII—IX стст. і курганамі X ст. каля в. Глінішча ёсць агульныя рысы як у пахавальным абрадзе, так і ў рэчавым матэрыяле, асабліва ў ляпной кераміцы. Звычайная рыса ляпнога посуду VIII—X стст.— акруглы плячук у верхняй частцы тулава, шыйка з адагнутым зрэдку прамым венчыкам. Сустракаюцца пасудзіны, арнаментаваныя па краі насечкамі ці зашчыпамі. У шмат якіх гаршкоў дно з вонкавага боку пасыпана пяском. Найбольшае пашырэнне тулава прыпадае на верхнюю частку пасудзіны. Дадзеная кераміка пераходзіць непасрэдна ў раннекругавы ўсходнеславянскі посуд (мал. 3:1—20).

У інвентары курганоў апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. асаблівую цікавасць уяўляюць бронзавыя плоскія серпападобныя скроневыя кольцы э заходзячымі канцамі, часта арнаментаваныя выпуклымі паяскамі, з двух бакоў ёсць зубчастая нарэзка. Яны неаднаразова знойдзены на Смаленшчыне (Шмидт, 1963. С. 105), выяўлены на Віцебшчыне ў курганах паблізу вёсак Бяльмонты, Вусце на Богінскім возеры (Покровский, 1895. С. 183—212), Рудня і Глінішча пад Полацкам (мал. 4:18), Дарахі-2, г. зн. на тэрыторыі, дзе адбывалася фарміраванне смаленскіх і полацкіх крывічоў. Скроневыя серпападобныя кольцы былі жаночым упрыгожаннем ранніх крывічоў. В. В. Сядоў лічыць, быццам іх прататыпамі з'яўляліся «лунічныя» вісочныя ўпрыгожанні, шырока распаўсюджаныя ў далёкіх Дунайскіх землях (Седов, 1995. С. 232—233). Пытанне гэтае патрабуе далейшага вывучэння.

**Курганы канца X—XII ст. Абрад пахавання.** У Віцебскай вобласці даследавана звыш 80 курганных могільнікаў, у якіх дакладна выяўлены абрад пахавання — трупапалажэнне (інгумацыя). Даследаваныя курганы XI—XII стст. у плане круглыя (бываюць акруглыя), па форме паўсферычныя, падобныя на круглыя насыпы ранейшых перыядаў. Нярэдка курганы насыпаліся на месцы папярэдніх селішчаў V—VII стст. (Плусы, Дарахі-5, Вышадкі, Слабодка-1, Ізбішча). У могільніках колькасць курганоў бывае розная. Каля в. Захарнічы ў могільніку налічвалася 15 курганоў, а каля в. Вышадкі курганных насыпаў прыкладна 200.

Сярод трупапалажэнняў вылучаюцца некалькі відаў пахаванняў. Больш ранні і распаўсюджаны звычай змяшчэння памерлых у аснове насыпу на попельна-вугальным пласце, які ўяўляе сабой змешаныя попел, вугаль і пясок. Ёсць пахаванні на падэшве кургана на чыстым грунце.

У помніках XI ст. зафіксавана значная колькасць інгумацый у ямах пад курганамі. Ямы ў плане прамавугольныя з закругленымі вугламі. Іх звычайная даўжыня 1,8—2,5 м, шырыня 1,2—1,5 м, глыбіня ад 0,3 да 1,1 м. Спачатку гарызонт абпальваўся, затым выкопвалася яма, у якую клаўся нябожчык. Такія пахаванні даследаваны ў курганным могільніку каля в. Захарнічы Полацкага раёна. Аднак у Ізбішчы Лагойскага раёна звычайна месца абпальвалася пасля засыпкі пахавальнай ямы з памерлым.

Трупапалажэнні ў насыпе, якія знаходзяцца на спецыяльнай падсыпцы вышынёй прыкладна 0,3—0,5 м, у Падзвінні рэдкія (каля 7 працэнтаў). Яшчэ радзейшыя пахаванні, зробленыя пазней у гатовым насыпе.

Сляды дрэва ў пахаваннях сустракаюцца часта, але выразныя абрысы дамавін прасочваюцца рэдка, як гэта выяўлена ў Вышадках і Плусах.




*Мал. 4. Інвентар курганоў X ст. з в. Глінішча Полацкага раёна: 1, 3, 11, 12, 15, 16, 18, 19, 29 — бронза; 2, 8—10, 17, 19, 20, 22—24 — шкло; 4, 5—7, 25, 27, 28 — жалеза; 13 — косць; 26 — гліна*

Пра драўляныя дамавіны, якія знаходзіліся ў пахаваннях, можна меркаваць па знаходках жалезных цвікоў, аднак іх параўнальна мала (Лукомль, Закур'е, Заслаўе).

У большасці даследаваных курганоў у Віцебскай вобласці рэшткаў драўляных збудаванняў не знойдзена. Дамавіны маглі поўнасцю спарахнець. Аднак частка памерлых, відаць, хавалася без дамавін. Такая ж з'ява назіраецца ў іншых месцах на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Нябожчыкаў маглі загортваць у саваны ці накрываць тканінамі (Моця, 1987. С. 19). Для гэтай мэты магла выкарыстоўвацца бяроста. У Мінску бяростай абкладвалі крышкі дамавін.

А. Галубовіч і У. Галубовіч насуперак меркаванням іншых археолагаў прыйшлі да высновы, што курганы з трупапалажэннямі ў ямах няправільна лічыць больш познімі ў параўнанні з пахаваннямі на грунце ў аснове кургана (Голубович Е., Голубович В., 1945. С. 135). Раскопкі ў Захарнічах, Плусах і іншых месцах паказваюць, што пахаванні ў ямах (спачатку неглыбокіх) праводзіліся сапраўды ўжо ў першай палове XI ст., калі быў шырока распаўсюджаны абрад пахавання на гарызонце. Гэта пацверджана раскопкамі курганоў у Ізбішчы Лагойскага раёна (Штыхаў, 1997. С. 68).

У Беларускім Падзвінні большасць трупапалажзнняў у курганах арыентавана галавой на захад (уключаючы паўночны і паўднёвы захад). Адпаведна зробленаму статыстычнаму падліку яны складаюць 81,82 %. Інгумацыі з усходняй арыенціроўкай (уключаючы паўночна-ўсходнюю) складаюць каля 11 %. Верагодна, на тэрыторыі Беларусі гэтая з'ява абумоўліваецца ўплывам балцкай пахавальнай абраднасці, як лічыць В. В. Сядоў. На другіх тзрыторыях аналагічная з'ява можа тлумачыцца па-іншаму (Соловьева, 1963. С. 95).

Для параўнання варта нагадаць адпаведныя даныя, выяўленыя пры вывучэнні курганных могільнікаў у верхнім цячэнні Свіслачы ў паўднёвай частцы Полацкай зямлі. У курганных могільніках Заслаўя (Мінскі раён) пераважае заходняя арыенціроўка касцяка (61,82 %). Усходнюю арыенціроўку мелі 16,36 % пахаванняў, паўночную — 5,45 %, паўднёвую — 4,55 % (Заяц, 1995. С. 49).

Курганы з мерыдыяльнымі трупапалажэннямі ў Віцебскай вобласці складаюць 6,5 %. Калі ў іх бачыць таксама субстратную з'яву, дык варта меркаваць пра ўплыў фіна-угорскай пахавальнай абраднасці, для якой характэрна паўночная арыенціроўка пахаваных. У гэтай сувязі выклікае цікавасць курганны могільнік каля в. Ізбішча Лагойскага раёна Мінскай вобласці (мал. 5). У дадзеным могільніку выяўлены 73 трупапалажэнні (мужчынскія, жаночыя, у меншай колькасці дэіцячыя), у якіх можна вызначыць арыенціроўку касцякоў. З заходняй арыенціроўкай зафіксавана 29 пахаванняў, з паўночнай — 25, з прамежкавай паўночна-заходняй — 17, пра якія нельга сказаць, куды іх аднесці. Два іншых належаць да ўсходняй арыенціроўкі са значным адхіленнем на поўнач. Пра 25 названых пахаванняў патрэбна растлумачыць, што сярод іх значная колькасць мае арыенціроўку галавой на поўнач без усялякіх адхіленняў. Большасць з іх мужчынскія. Аднак у пахавальным інвентары этнавызначальныя фіна-угорскія рэчы адсутнічаюць. У насыпах курганоў Ізбішчанскага могільніка шмат камянёў (мал. 5:6).




*Мал. 5. Матэрыял з курганоў в. Ізбішча Лагойскага раёна: 1—5 — вырабы з бронзы X—XI стст. з курганоў; 6 — план кургана 91; 7 — ляпны гаршчок з кургана 8*

У курганах, якія раскапаны на тэрыторыі Полацкай зямлі, касцякі ляжаць на спіне. Палажэнне рук памерлых мае многа варыянтаў: абедзве рукі выцягнуты ўздоўж тулава; адна рука выцягнута ўэдоўж тулава, другая — ляжыць на жываце ці ўнізе жывата на тазавых касцях; абедзве рукі складзены на жываце; адна рука выцягнута ўздоўж тулава, кісць другой — каля падбародка; кісці дэвюх рук — каля падбародка (звычай характэрны для балтаў); дзве рукі складзены на грудзях (хрысціянскі звычай) і інш. Падобнае палажэнне рук адзначана ў іншых ўсходнеславянскіх плямёнаў, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі (Богомольников, 1994. С. 27, 28).

Крывічы названы летапісцам сярод плямёнаў, якія «творяху трызну» над памерлымі і «не ведуще закона Божиа». Нягледзячы на недастатковасць сведчанняў пісьмовых крыніц аб рэлігійных вераваннях крывічоў-палачан, не выклікае сумнення, што яны былі язычніцкімі. Пацвярджаюць гэта даныя раскопак пахавальных курганоў.

Па пахавальных звычаях праслежваецца ўстойлівасць язычніцкіх уяўленняў у XI—XII стст. Гэтая ўстойлівасць назіраецца ў самой традыцыі збудавання курганоў, у шырокім выкарыстанні агню, для пракальвання глебы на падэшве, рэшткаў стравы і трызны (Вядзец, Драздова, Ізбішча). Пра язычніцкі звычай гаворыць пахавальны інвентар. Пры пахаваннях бываюць падвескі-амулеты э іклаў мядэведзя і іншых эвяроў (Ізбішча). У магілы разам э памерлымі клалі часткі туш жывёлін.

Пра захоўванне язычніцкіх вераванняў сведчыць папулярнасць сярод жаночых упрыгожанняў падвесак у выглядзе конікаў, качак і іншых «засцерагальнікаў» (лыжачка, ключ, грабеньчык і г. д.). Нават крыжыкі выкарыстоўваліся ў складзе маністаў у якасці ўпрыгожанняў-падвесак (Ізбішча, Дзмітраўшчына).

Сярод старажытнасцей смаленскіх і полацкіх крывічоў сустракаюцца пласцінчатыя падвескі ў выглядзе коніка. Асаблівае распаўсюджанне іх на Смаленшчыне дазваляе меркаваць аб іх вырабе ў Смаленску ці паблізу яго (Рыбаков, 1948. С. 458). Такія конікі лічыліся амулетамі, звязанымі з шанаваннем каня. У Беларусі яны знойдзены ў гарадах (Віцебск, Лукомль, Лагойск), на паселішчы на Менцы, на Маскавіцкім гарадзішчы. У кургане каля в. Пуцілкавічы Ушацкага раёна выяўлена пяць такіх конікаў (Поболь, 1979. С. 118).

Краніялагічнае даследаванне матэрыялаў э раскопак курганоў полацкіх крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў упершыню зрабіў на пачатку 30-х гадоў Г. Ф. Дэбец. Згодна з яго заключэннем, чарапы павінны быць аднесены да ліку еўрапеоідных. Бліжэйшыя аналогіі ўсходнім славянам Беларусі «ў расавых адносінах знаходзяцца ў групах этнічна неславянскіх». Даследчык адзначыў іх падабенства да насельніцтва Люцынскага могільніка таго ж перыяду на тэрыторыі Латвіі. Пазней Дэбец абагуліў усе краніялагічныя даныя па ўсходніх славянах. Ён лічыў, што заходняя галіна крывічоў (полацкія крывічы) сфарміравалася на іншай расава-генетычнай аснове, чым усходняя (верхняволжская), якая звязана расавай блізкасцю з окскімі фінамі. Галоўным кампанентам у фарміраванні ўсходніх славян было не прышлае, а старажытнае мясцовае насельніцтва (Дебец, 1948. С. 236, 237). В. В. Сядоў звярнуў увагу на супадзенне арэалаў розных антрапалагічных тыпаў э арэаламі археала-

гічных культур і выказаў думку аб іх розным этнічным генезісе (Седов, 1954. С. 12—18).

Антрапалагічныя даследаванні канчаткова пацвердзілі, што немагчыма гаварыць аб адзінай маналітнай расе ўсходніх славян. Неаднароднасць антрапалагічнага складу племянных груп усходняга славянства з'явілася вынікам іх фарміравання на аснове мясцовага балцкага (леталітоўскага) і фінскага насельніцтва (Алексеев, 1969. С. 207).

**Пахавальны інвентар курганоў канца X—XII ст.** Для нашчадкаў полацкіх і смаленскіх крывічоў XI—XII стст. характэрны пэўны тып жаночых упрыгожанняў — скроневыя бранзалетападобныя кольцы. Дыяметр кольцаў — 5—11 см. Пскоўскія крывічы гэтымі ўпрыгожаннямі не карысталіся. Уяўленне пра два камплекты скроневых кольцаў крывічоў (12 адзінак) дае гараўлянскі скарб, знойдзены ў Глыбоцкім раёне (мал. 135). Варта адзначыць, што скроневыя кольцы з завязанымі канцамі выяўлены пры раскопках дзядзінца Полацка. Крывіцкія скроневыя кольцы — частая знаходка ў курганах былога Друцкага княства (в. Багрынава і інш.) (мал. 6:2).

Жаночыя ўпрыгожанні Полацкай зямлі даволі разнастайныя. Шыйныя маністы ўключаюць розныя, пераважна шкляныя, радзей сердалікавыя, пацеркі. Нярэдка іх бывае ў пахаванні да 100 адзінак. У Чарневічах пацеркі, нанізаныя ў некалькі радоў на ніткі, утваралі прыгожае маніста жоўтага колеру.

У Ізбішчанскім могільніку ў пахаваннях знойдзена каля 7 тысяч шкляных пацерак пераважна X — пачатку XI ст. Толькі ў адным з курганоў іх было 600 экземпляраў. Вывучэнне калекцыі пацерак дапамагае прасачыць геаграфію вырабаў: гэта Пярэдняя Азія (Сірыя), Візантыя, Кіеў. Пацеркі маглі трапляць на берагі Дзвінасы як з Кіева, так з Полацка і Ноўгарада. У маністах выкарыстоўваліся нават антычныя пацеркі. Яны вельмі «заношаныя», але ў нізцы займаюць цэнтральнае палажэнне (Скрипченко, 1996. С. 69).

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што ўсходнеславянскае насельніцтва Паўночнай Беларусі захоўвала ў X—XI стст. пэўныя балцкія традыцыі ў матэрыяльнай культуры і было цесна звязана з плямёнамі Усходняй Прыбалтыкі. Гэта прасочваецца на прыкладзе так званых зверагаловых бранзалетаў, якія знойдзены на шэрагу помнікаў Полацкай зямлі (Браслаў, Кублічы, Парэчча, Плусы, Наўры, Багрынава, Лагойск, Чарневічы і інш.). Найбольшая колькасць такіх бранзалетаў выяўлена ў міжрэччы Заходняй Дзвіны, Бярэзіны, у вярхоўях Пцічы. Даволі часта разам з такімі бранзалетамі сустракаліся іншыя знаходкі прыбалтыйскіх тыпаў: латгальскія галаўныя ўпрыгожанні, складзеныя са спіралек, асобныя тыпы шыйных грыўняў, спіралепадобныя пярсцёнкі, трапецападобныя падвескі. Балцкія элементы ў некаторых курганах настолькі значныя, што можна меркаваць аб захаванні невялікіх астравоў балцкага насельніцтва ў пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. (Сергеева, 1985. С. 95, 97).

У ранні сярэднявеччы на тэрыторыі Полацкай зямлі шырока былі распаўсюджаны металічныя падковападобныя фібулы. Паколькі такія вырабы ў старажытнасцях балтаў з'яўляюцца некалькі раней, чым у славян, і ў вялікай колькасці прадстаўлены многімі варыянтамі, прыня-

та лічыць, што землі балтаў былі першай вобласцю вырабу і развіцця гэтага тыпу ўпрыгожанняў (Lietuvos... 1978.IV. S. 146—147). Самы распаўсюджаны тып фібул у курганах — бронзавыя вырабы са скручанымі ў выглядзе спіралі канцамі (мал. 5:3—5). Яны маюць рознае сячэнне: круглае, авальнае, трохвугольнае, ромбападобнае. Асобныя варыянты фібул паступалі ў Полацкую зямлю ў выніку гандлю. Аднак большасць, асабліва спіралеканцовых, выраблялася, відаць, на месцы.

Інвентар мужчынскіх пахаванняў бяднейшы за жаночых. Але тут часцей сустракаюцца прылады працы. У некаторых могільніках частай знаходкай з'яўляюцца сякеры (Заслаўе, Ізбішча). У Ізбішчы выяўлена 26 жалезных сякер розных памераў. Большасць іх належыць да аднаго найбольш распаўсюджанага тыпу з апушчаным шырокім лязом (тып IV). Акрамя сякеры каля пояса пахаванага звычайна знаходзяцца нож і падковападобная фібула. Зрэдку памерламу клалі зброю, што пацвярджаецца знаходкамі наканечнікаў коп'яў і стрэл, а таксама рыбалоўныя прыстасаванні (знаходкі восцяў) і сярпы.

Гліняны посуд сустракаецца ў мужчынскіх і жаночых пахаваннях. Ляпныя «плячыстыя» гаршкі IX — пачатку X ст. рабіліся з неадмучанай гліны з дамешкам буйназярністай жарствы. Сценкі іх няроўныя і шурпатыя. Звычайна пасудзіну рабілі на цвёрдай падстаўцы. Для таго каб пасудзіна не прыліпала да яе, падсыпалі пясок.

У другой палове X ст. даволі інтэнсіўна выкарыстоўваўся ганчарны круг для прыгатавання гаршкоў. Выпадкі сумеснага знаходжання ляпной і кругавой керамікі ў курганах вельмі рэдкія. Часта гаршкі маюць рэшткі нагару, што сведчыць аб іх выкарыстанні для прыгатавання ежы. Ранне-кругавыя пасудзіны маюць просты адагнуты вонкі венчык з акруглым ці зрэзаным краем. У XI ст. з'яўляюцца гаршкі з патоўшчаным венчыкам, так званым «карнізікам» (мал. 123:1, 9, 10). Для XII—XIII стст. характэрны гаршкі са складаным венчыкам, акруглы край якога загнуты ўсярэдзіну і прыстасаваны для прылягання крышкі. Шыйка гаршка высокая, мяккапрафіляваная (мал. 123:3, 4, 14). Клеймы на днішчах гаршкоў сустракаюцца рэдка. Па сутнасці толькі на адным гаршку з кургана каля в. Плусы змешчана выразнае кляймо ў выглядзе пялёсткавай разеткі. Больш клеймаў выяўлена ў Ізбішчы.

Манеты знойдзены ў курганах на тэрыторыі Полацкай зямлі ў шэрагу пунктаў: Багрынава, Багданаўскае возера, Вядзец, Заслаўе, Ігуменскі ўезд, Ізбішча, Навасёлкі, Парэчча, Пуцілкавічы, Слабодка, Чарневічы, Шо (Равдина, 1988. С. 22, 37, 131). Пераважаюць сярэбраныя арабскія манеты. У кургане каля в. Славені ў складзе маніста выяўлена падвеска, вырабленая з саманідскага дырхема, чаканенага пры эміры Наср Ібн-Ахмедзе, у г. Шашы (914—943). Палова арабскага дырхема выяўлена ў кургане на ўскраіне г. Гарадок 802—902 гг. (Саманіды,Ісмаіл-ібн Ахмат).

На тэрыторыі, дзе абарачаліся арабскія дырхемы і сярэбраныя зліткі, ужываліся гіркі-разнаважкі. Чатыры гіркі канца X ст. знойдзены ў кургане Даўборскага могільніка каля в. Опса (Браслаўскі раён). Дзве чашачкі ад шаляў і 6 гірак выяўлена ў кургане каля в. Драздова (Талачынскі раён). Гіркі і дэталі шаляў у курганах сведчаць, што тут былі пахаваны людзі, якія мелі адносіны да гандлю. Гіркі-разнаважкі служылі ім для




*Мал 6. Старажытнасці смаленска-полацкіх крывічоў*

зверкі на шалях грашова-вагавых адзінак, якія меліся ў абароце. Яны з'явіліся тады, калі ў скарбах другой паловы X ст. распаўсюдзіліся абломкі манет, што было выклікана неабходнасцю ўзважваць манетнае серабро, у тым ліку абрэзкі дырхемаў.

Знаходкі мячоў у курганах Беларусі — з'ява надзвычай рэдкая. Такі курган раскапаны каля в. Гарадзілава (Маладзечанскі раён). У ім знойдзены ўрна з перапаленымі касцямі, сагнуты меч, два наканечнікі дзідаў, цуглі, спражка. Верагодна, гэта варажскае пахаванне.

Фіксуюцца больш багатыя і зусім бедныя пахаванні. У багатым пахаванні, раскапаным Е. Р. Раманавым каля в. Аўсянікі (Чашніцкі раён), у кургане знаходзіліся срэбны медальён, дротавае кальцо, чатыры пярсцёнкі, грыўня, пацеркі, лунніца, вянок з дрэва, абшыты скурай

і тканінай, на якім пацеркі на дроце з падвескай, дзве «завушніцы», кальцо, нож. Побач у бедным кургане адзінкавы касцяк быў наогул без рэчаў.

У Плусах пры багатым пахаванні (курган 6) знойдзены пляцёны бранзалет, пярсцёнак, скроневыя кольцы, маніста з 220 шкляных пацерак. Гэта амаль поўны набор жаночых упрыгожанняў XI—XII стст. У такім жа складзе жаночыя ўпрыгожанні прадстаўлены ў Домжарыцах. Аднак з 12 даследаваных курганоў шэсць пахаванняў не маюць ніякага інвентару (Штыхаў, 1992. С. 145—147). Лічыцца багатым пахаванне ў кургане каля в. Лісна, у якім знойдзены рэшткі шоўкавай тканіны з залатым шытвом. У некаторых пахаваннях выяўлены драўляныя вёдры з жалезнымі абручамі і ручкамі-дужкамі. У вёдрах, мусіць, быў напой з мёду.

Відаць, аб'ектыўным археалагічным крытэрыем вызначэння сацыяльнага статуса пахаванага з'яўляецца колькасць працы, якая была патрачана на ажыццяўленне пахавальнага абраду, уключаючы насыпанне кургана. Ва ўсходніх славян у IX—XII стст. грамадства было шматукладным, у якім спалучаліся рысы родаплемяннога, рабаўладальніцкага (патрыярхальнае рабства) і раннефеадальнага ўкладаў (Нарысы... 1994. С. 79—86). Значнага класавага падзелу тады яшчэ не існавала. Гэтым тлумачыцца тое, што паводле археалагічных матэрыялаў даволі цяжка прасачыць працэс вылучэння грамадскіх груп, прадстаўнікі якіх займалі розныя месцы ў сацыяльнай структуры грамадства.

Недастаткова высветлена пытанне, калі і якім чынам зніклі пахавальныя курганы. Адбывалася гэта неадначасова ў розных населеных пунктах Полацкай зямлі. У гарадах язычніцкі звычай пахаванняў знікаў раней, чым у сельскай мясцовасці, што добра прасочваецца на прыкладзе Полацка і Мінска (Штыхаў, 1992. С. 91, 92). Грунтавыя могільнікі крывічоў X—XI стст. в. Казлоўцы Міёрскага і в. Пашавічы Браслаўскага раёнаў (мал. 7: 1—6) рэдкія на тэрыторыі Полацкай зямлі (Семянчук, 1993. С. 128, 129). Яны сведчаць аб уплыве абраднасці суседніх латгалаў, у якіх тады былі распаўсюджаны грунтавыя пахаванні (Финно-угры и балты. 1987. С. 128).

Язычніцкія звычаі ў сельскай мясцовасці зніклі на працягу доўгага часу пад уплывам хрысціянства. У археалагічнай навуцы прынята лічыць, што курганныя пахаванні былі заменены грунтавымі магіламі ў XIV ст.

Каля в. Вышадкі Гарадоцкага раёна даследаваны курганы са своеасаблівымі каменнымі канструкцыямі. Памерлыя змешчаны ў ямах-«калодзежах», якія зроблены ў насыпах больш ранніх курганоў і нагадваюць пахаванні «жальнічнага» тыпу, характэрныя для Наўгародскай зямлі XII—XV стст. (Ласкавы, Лаппо, 1994. С. 148—160).

У апошнія гады вывучаны каменныя магілы ў шэрагу раёнаў Віцебскай вобласці. У адрозненне ад асноўнага арэала іх распаўсюджання — Гродзеншчыны — каменныя магілы на Віцебшчыне звычайна знаходзяцца па суседству з больш раннімі курганамі. Каля в. Ваўча Докшыцкага раёна ў 1990 г. даследавана 20 каменных магіл. У чатырохвугольнай яме на глыбіні ад 0,8 да 1,4 м ляжалі ў выцягнутым стане нябожчыкі. Палажэнне рук рознае: складзены на поясе; адна рука сагнутая, другая на поясе і г. д. Шкілеты арыентаваны галавой на захад.

Нябожчыкаў хавалі заўсёды ў трунах, без інвентару. У некаторых жаночых пахаваннях знойдзены бляшкі ад галаўных убораў. Каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна даследавана 11 пахаванняў. Усе магілы абкладзены камянямі. Абрад пахавання той жа, што ў могільніку Ваўча. Так, пад круглым насыпам кургана вышынёй 0,65 м была яма глыбінёй 0,8 м. У ёй выяўлена жаночае пахаванне. На чэрапе былі бляшкі ад галаўнога ўбору, зробленыя з серабра і пакрытыя пазалотай (Кваткоўская, 1992. С. 31). В. В. Сядоў лічыць такія могільнікі жальнікамі (Седов, 2000. С. 7, 10).

Апісаныя магілы датуюцца XIII—XIV стст. Іх можна разглядаць як пераходны тып пахаванняў ад курганоў да грунтавых магіл. Змяненні ў пахавальным абрадзе адбываліся ў тым, што насып кургана па памерах і вышыні змяншаўся, а яма пад насыпам паглыблялася. У яму апускалася труна з нябожчыкам.

**Пытанне фарміравання крывічоў-палачан.** Вышэй падрабязна былі разгледжаны матэрыялы з раскопак курганоў у Беларускім Падзвінні VIII—XII стст. Аднак раскопкі курганоў на поўначы Беларусі даюць *магчымасць сцвярджаць, што найбольш старажытныя доўгія і круглыя* ў плане курганы ў Беларускім Падзвінні ўзнікаюць у V—VII стст. Гэта так званая культура ранніх доўгіх курганоў (Археалогія Беларусі. Т. 2. С. 376—384). Вельмі магчыма, што ў V—VII стст. славяне пранiклі на тэрыторыі, занятыя балтамі і фіна-уграмі.

У VIII—IX стст. мела месца другая хваля каланізацыі ў Беларускае Падзвінне, што характарызавалася ў матэрыяльнай культуры з'яўленнем ляпной керамікі з плечыкамі (мал. 3). Гэта таксама не прывяло да канчатковай славянізацыі мясцовага насельніцтва. Балцкія элементы ў культуры доўгіх курганоў і ў культуры ранніх крывічоў займаюць значнае месца. Але цяжка пагадзіцца з думкай, што крывічы — гэта балты (Загарульскі, 1998. С. 28, 232). Каланізуючы лясную паласу, уступаючы ў цесную сувязь з мясцовым насельніцтвам, славяне ўспрымалі ў большай ці ў меншай меры культурна-этнаграфічныя асаблівасці абарыгенаў, атрымлівалі ў спадчыну элементы іх матэрыяльнай культуры. У выніку змяшэння славян з мясцовымі балтамі фарміравалася новая этнічная супольнасць, якая аказалася славянамоўнай, паколькі ініцыятыва належала славянам. З узнікненнем сталых умацаваных населеных пунктаў усходніх славян у IX ст. (Полацк, Віцебск, Лукомль) працэс каланізацыі і славянізацыі Беларускага Падзвіння, дзе распаўсюджаны доўгія курганы, набіраў сілу. Так ішло фарміраванне полацкіх крывічоў па археалагічных даных. Лінгвісты таксама прыйшлі да высновы, што уклад балцкага насельніцтва ў гісторыю Верхняга Падняпроўя, а значыць, і ў гісторыю крывічоў быў значным (Топоров, Трубачев, 1962. С. 229—244).

Даследчыкі адрозніваюць адгалінаванні крывіцкага саюза плямёнаў, а менавіта полацкіх, смаленскіх, ізборскіх крывічоў з іх цэнтрамі Полацкам, Смаленскам, Ізборскам.

Крывічы-палачане — федэрацыя плямёнаў, якая вылучылася з крывіцкага аб'яднання са сваім старым цэнтрам — Полацкам, па якому ў летапісе яны названы палачанамі. Падобныя стварэнні паходзяць ад палітычных арганізацый эпохі ваеннай дэмакратыі. У ваенна-адміністрацыйных адносінах яны абапіраліся на сістэму ўмацаванняў — гарадзі-




*Мал. 7. Бронзавыя вырабы з грунтавога могільніка каля в. Казлоўцы Міёрскага раёна — 1—6; бронзавыя бранзалеты з раскопак гарадзішча ў Лукомлі Чашніцкага раёна — 7, 8*

шчаў. На заключным этапе рассялення славян у Паўночнай Беларусі ўзнікаюць гарады.

У крывічоў-палачан у IX ст. існавалі ўмацаваныя паселішчы — Полацк, Віцебск, Лукомль, на аснове якіх потым сфарміраваліся гарады ў сацыяльна-эканамічным іх разуменні (Штыхов, 1978. С. 31—53). Адначасова палачане стварылі адно з ранніх тэрытарыяльна-палітычных аб'яднанняў — племянное «княжэнне», якое дало пачатак Полацкаму княству — старажытнай, найбольш моцнай дзяржаве на тэрыторыі Беларусі.

Надзвычай цікавае паведамленне Лаўрэнцьеўскага і Радзівілаўскага летапісаў пад 1176 г. аб Полацку як старшым горадзе, у падпарадкаванні якога былі малодшыя гарады: «Спрадвеку наўгародцы, смаляне, кіяне, палачане, усе іх улады, як на думу (нараду) на веча сыходзяцца, і што старшыя (гарады) вырашаць, тым і прыгарады кіруюцца». Сярод прыгарадаў Полацка рана вылучыліся па свайму значэнню Мінск, Друцк, некалькі пазней Віцебск.

## 2. ДРЫГАВІЧЫ

**Летапісныя паведамленні.** На рубяжы 1-га і 2-га тысячагоддзяў н. э. тэрыторыю Цэнтральнай і Паўднёвай Беларусі займала адно з усходнеславянскіх племянных аб'яднанняў — дрыгавічы.

Звесткі аб дрыгавічах у старажытных пісьмовых крыніцах вельмі нешматлікія і абмежаваныя, маюць выпадковы характар і не даюць магчымасці стварыць паслядоўны малюнак аб іх паходжанні, рассяленні, сацыяльным і гаспадарчым жыцці.

Першы ўспамін дрыгавічоў у старажытнарускіх летапісах прыводзіцца ў найбольш старажытнай, недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў», што паведамляе аб рассяленні ўсходнеславянскіх плямёнаў пасля іх перасялення з Дуная: «... а друзии седоша межи Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 5). Гэты запіс сведчыць аб прыналежнасці дрыгавічоў да славян і прыблізна паказвае раён іх рассялення. Славянская іх прыналежнасць пацвярджаецца ў чарговым летапісным успаміне, у якім раздзяляюцца славянскія і іншамоўныя плямёны Усходняй Еўропы: «...се бо токмо словенск язык в Руси...», «...а се суть инии языци...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 8). У гэтым запісу дрыгавічы пералічваюцца сярод плямёнаў славянскай этнічнай прыналежнасці. Тут жа ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў» дрыгавічы ўпамінаюцца пры пералічэнні славянскіх плямёнаў, што маюць сваё «княжение» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 8). Гэта сведчыць аб тым, што дрыгавічы знаходзіліся ў ліку найбольш развітых усходнеславянскіх плямёнаў.

Гэтыя ўспаміны папярэднічаюць пачатку датаванага летапісання (сярэдзіна IX ст.). Б. А. Рыбакоў лічыць, што існаванне такіх «княжений» ва ўсходнеславянскіх плямёнаў датуецца VI—VIII стст. н. э. (История СССР с древнейших времен до наших дней. 1966. Т. 1. С. 482). Аднак першым гістарычным датаваным успамінам усходнеславянскіх дрыгавічоў у пісьмовых крыніцах трэба лічыць упамінанне дрыгавічоў у працы візантыйскага імператара і гісторыка Канстанціна Багранароднага «Об управле-




*Мал. 8. Карта рассялення дрыгавічоў*

нии государством» (948 г.) у ліку плямёнаў, што плацілі даніну кіеўскаму князю (Канстанцін Багранародны, 1934. С. 9—10).

У далейшым дрыгавічы ўспамінаюцца ў 1116 г., калі мінскі князь «...Глеб бо бяше воевал дреговичи и Случеск пожег...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 282). Апошні летапісны ўспамін дрыгавічоў адносіцца да 1149 г., калі кіеўскі князь Юрый Уладзіміравіч аддаў чарнігаўскаму князю Святаславу Ольгавічу «... и Случеск, и Клечьск и вси дреговичи...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 384).

Дрыгавічы вядомы і па іншых крыніцах. У апавяданнях аб цудах св. Дзмітрыя Салунскага ўпамінаецца, што драгувіты жылі ў Македоніі ля Салуня. Каля 676 г. разам з іншымі славянскімі плямёнамі асаджалі Салунь, у 678 г. забяспечвалі харчаваннем войскі аварскага кагана, у 685 г. зноў вялі вайну з Салунем. У 758 і 886 гг. яны ўспамінаюцца як жыхары Салуня, што займаліся земляробствам (Шафарик, 1837. Т. 2. Кн. 1. С. 213). Па пісьмовых крыніцах дрыгавічы вядомы таксама сярод палабскіх славян (Шафарик, 1837. Т. 2. Кн. 3. С. 214).

Паходжанне назвы славянскіх плямёнаў старажытныя летапісцы часта звязвалі з асаблівасцямі мясцовасці, у якой рассялялася племя.

Дрыгавічы, як відаць, атрымалі сваю назву па прыродных асаблівасцях рэгіёна рассялення, надзвычай насычанага вялізнымі абшарамі балотаў — дрыгвой (Седов, 1982. С. 113).

Доўгае ўжыванне летапісцамі племянной назвы дрыгавічоў (да 1149 г.) сведчыць аб доўгім захаванні ў іх этнічных прыкмет (дыялектных асаблівасцей мовы, звычаяў, формы вераванняў і абрадаў, самасвядомасці, асаблівасцей псіхічнага складу, этнічных формаў жаночых упрыгожанняў).

Летапіснае паведамленне не называе дакладных меж рассялення дрыгавічоў (мал. 8). На паказанай тэрыторыі «межи Припетью и Двиною» ў паўночных раёнах той жа летапіс рассяпяе крывічоў. Матэрыялы археалагічных даследаванняў удакладняюць тэрыторыю рассялення дрыгавічоў. Па матэрыялах дрыгавіцкіх курганоў у канцы XIX ст. У. З. Завітневіч зрабіў вывад, што характэрным этнавызначальным прадметам для дрыгавічоў з'яўляюцца буйныя металічныя бочкападобныя ажурныя (радзей — суцэльныя) зярнёныя пацеркі (так званага дрыгавіцкага тыпу) (Завитневич, 1890). Па іх распаўсюджанню У. З. Завітневіч устанавіў, што паўднёвая мяжа рассялення дрыгавічоў праходзіць на поўдзень ад Прыпяці, усходняя — па Дняпры і водападзелу Бярэзіны і Друці, паўночная — ад вярхоўяў Друці ў напрамку Барысава і Заслаўля, а заходняя — па вярхоўях Шчары на Пінск.

У далейшым рассяленне дрыгавічоў разглядалася ў работах А. У. Успенскай, Я. І. Цімафеева, В. В. Сядова, І. П. Русанавай, Г. Ф. Салаўёвай, Л. В. Аляксеева, П. Ф. Лысенкі, Т. М. Каробушкінай, К. Мусяновіч, А. Камінскага. Вывады гэтых даследчыкаў аб паўднёвай, усходняй і паўночнай граніцах рассялення дрыгавічоў істотна не разыходзяцца з вывадамі У. З. Завітневіча. Аднак адносна заходняй мяжы рассялення дрыгавічоў існуюць істотныя разыходжанні.

У. З. Завітневіч праводзіць заходнюю граніцу дрыгавічоў у раёне Пінска. В. В. Сядоў далучаецца да гэтага погляду, дадаючы, аднак, што дрыгавічы прымалі ўдзел у каланізацыі Брэсцкага Пабужжа і Верхняга Панямоння. А. У. Успенская і Я. І. Цімафееў мяркуюць, што заходняя граніца дрыгавічоў праходзіла па левабярэжжы Заходняга Буга. Да гэтага ж вываду прыходзяць К. Мусяновіч і А. Камінскі.

**Археалагічныя помнікі** на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў (гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі) сведчаць аб густой заселенасці мясцовасці (Покровский, 1895; Антонович, 1901; Кухаренко, 1961; Штыхов, 1971; Поболь, 1983; Лысенко, 1991; Коробушкина, 1992). Іх археалагічнае вывучэнне пачалося ў пачатку XIX ст. і доўгі час абмяжоўвалася толькі раскопкамі курганных могільнікаў. У 1810 г. Т. Я. Нарбут раскапаў некалькі курганоў у ваколіцах Рагачова і Старога Быхава. Курганы былі расцэнены як магілы невядомага народа, што жыў да рассялення славян (Narbutt, 1818; Ён жа, 1835—1841). З. Д. Хадакоўскі ў 20-х гадах XIX ст. апісаў асобныя помнікі былога Бабруйскага павета Мінскай губерні (Доленго-Ходаковский, 1837). Настаўнік Слуцкай гімназіі М. Гесе каля 30 гадоў займаўся скупкамі старажытнасцей і раскопкамі курганоў у наваколлях Слуцка. Сабраная ім вялікая калекцыя загінула ў пажары 1860 г. (Алексеев, 1967. С. 157).

У сярэдзіне XIX ст. актывізаваліся археалагічныя даследаванні ў паўночна-заходняй частцы Беларусі і Літве. У наваколлі Лагойска праводзілі раскопкі К. П. Тышкевіч (Тышкевич, 1865), Я. П. Тышкевіч (Тышкевич, 1838. С. 51—58), а ля Заслаўля — М. М. Турбін (Российский исторический музей, 1893). Вынікі даследаванняў прыцягваюць увагу гісторыкаў (Турчыновіч, 1859) і этнографаў. Вядомы этнограф і падарожнік П. М. Шпілеўскі апісвае асобныя гістарычныя і археалагічныя помнікі, паведамляе мясцовыя легенды і паданні аб іх. Газеты друкуюць артыкулы і паведамленні краязнаўчага характару, у якіх успамінаюцца археалагічныя помнікі (Крашевский, 1837. С. 140—210; Татур, 1891, 1892; Игнатьев, 1878, 1879). Невялікія раскопкі праводзяць аматары (Куклинский, 1874. С. 174, 263; Завитневич, 1890. С. 8). Нават на старонках «Описания церквей и приходов Минской епархии» сустракаюцца апісанні асобных археалагічных помнікаў. На жаль, задуманая шырока работа Р. Г. Ігнацьева «Курганы и городища Минской губернии» абмежавалася толькі тэрыторыяй Мінскага павета (Игнатьев, 1878—1879). Невялікія раскопкі гарадзішчаў у Ігуменскім і Бабруйскім паветах былі праведзены ў канцы 60-х гадоў Я. Завішам.

У канцы XIX ст. Г. Х. Татурам была зроблена спроба сістэматызацыі археалагічных крыніц (Татур, 1891, № 84, 87, 89, 93, 95, 97, 99, 101, 104, 106, 109, 112, 115, 118, 121, 123, 126, 129; 1892, № 3, 6, 9, 11, 15, 20, 29, 33). Праведзеныя Г. Х. Татурам вялікія раскопкі курганоў у Ігуменскім і Мінскім паветах (каля 200 курганоў) страчаны для навукі з-за гібелі калекцый і адсутнасці публікацый.

У 80-х гадах XIX ст. у Мозырскім павеце праводзіў раскопкі курганоў І. Тышкевіч, ужываючы састарэлую методыку раскопак калодзежамі ў месцы галавы пахаванага (Завитневич, 1890. С. 10).

Выключная роля ў вывучэнні курганных могільнікаў дрыгавічоў належыць У. З. Завітневічу. На працягу некалькіх сезонаў ён абследаваў у розных раёнах 82 могільнікі і раскапаў каля 700 курганоў. Па аб'ёму работ гэта і на сённяшні дзень буйнейшыя даследаванні, а сабраная ім калекцыя — асноўны матэрыял пры вывучэнні дрыгавічоў. Неабходна адзначыць, што раскопкі У. З. Завітневіч праводзіў па загадзя прадуманаму плану (Завитневич, 1889. Архіў ІГМК, ф. 1, 1889, № 20, арк. 3—4). У. З. Завітневіч паставіў мэтай па археалагічным матэрыяле ўдакладніць граніцу рассялення дрыгавічоў, для чаго правесці раскопкі ў раёне Турава, Пінска і Мазыра, выявіць характэрныя рысы пахавальнага абраду дрыгавічоў і прасачыць іх рассяленне ў наваколлях Рэчыцы, Бабруйска, Барысава, Лагойска, Мінска, Заслаўля і вярхоўях Нёмана. Ён адным з першых звярнуў увагу на асаблівасці пахавальнага абраду і магільных збудаванняў (ямы, зольныя праслойкі, зрубы, дамавіны, урны ў насыпе і на слупе і г. д.). У. З. Завітневіч ужываў гістарычны падыход і статыстычны метад пры апрацоўцы матэрыялаў даследаванняў, адным з першых сістэматызаваў курганы па пахавальным абрадзе і прыйшоў да вываду аб змене абрадаў у аднаго і таго ж племені.

Аднак У. З. Завітневіч няправільна вызначыў парадак змены абрадаў, недаацэньваў значэнне пахавальнага інвентару. Правільна вылучыўшы этнавызначальныя прадметы (пацеркі так званага дрыгавіцкага тыпу), ён не пераадолеў скептычнага падыходу ў выкарыстанні іх для вызначэння

рассялення пляменаў. Тым не менш асноўныя вывады У. З. Завітневіча аб межах рассялення дрыгавічоў вытрымалі праверку часам (Завитневич, 1895. С. 221, 295).

Адначасова з У. З. Завітневічам раскопкі курганоў у Бабруйскім павеце праводзілі М. Мышанкоў (Мышенков, 1892), М. А. Янчук (Янчук, 1889. С. 60—64), М. П. Авенарыус (Авенариус, 1893), а ў Падняпроўі — М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі (Фурсов, Чоловский, 1893). У канцы XIX і пачатку XX ст. Е. Р. Раманаў праводзіў абследаванні і раскопкі курганоў у Падняпроўі (Романов, 1908; Ён жа, 1910; Ён жа, 1912). У 90-х гадах XIX ст. Ф. В. Пакроўскім была складзена «Археологическая карта» Гродзенскай губерні.

У канцы XIX — пачатку XX ст. на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў праводзіліся назіранні М. Мілавідавым у г. Пінску над землянымі работамі на былым старасцінскім замку (Миловидов, 1898), абследаванні раскапанага ў Тураве шыфернага саркафага (Минская старина, 1911. Вып. 2. С. 263—268). У 1916 г. у Мінскім і Барысаўскім паветах праводзіў раскопкі курганоў Ю. В. Шавельскі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўтварэння БССР даследаванні археалагічных помнікаў на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў праводзіліся ў асноўным супрацоўнікамі беларускіх навуковых устаноў і мясцовымі краязнаўцамі. У 1921 г. курганы пад Заслаўем раскопваў У. П. Сушчынскі (Вестник народного комиссариата просвещения ССРБ, 1921. № 2). У 1925 г. пачаў даследаванні ля Гомеля супрацоўнік Гомельскага музея І. Х. Юшчанка (Юшчанка, 1930). С. С. Шутаў і М. М. Улашчык у 1926 г. абследавалі помнікі ў ніжнім цячэнні р. Свіслачы (Дубінскі, 1928), а ў 1927 г. С. С. Шутаў і А. З. Каваленя займаліся вывучэннем помнікаў у міжрэччы Прыпяці і Сцвігі. На гарадзішчы ў Тураве яны залажылі шурфы, у якіх выявілі прадметы тыповага гарадскога ўжытку, а ля в. Рычоў раскапалі тры курганы (Каваленя, Шутаў, 1930. С. 339—373). У 1928 г. А. З. Каваленя абследаваў гарадзішчы і курганы ў раёне Рагачова (Каваленя, 1930. С. 145—155). У 1929 г. экспедыцыя А. М. Ляўданскага праводзіла даследаванні гарадзішча і могільнікаў у раёне Турава, Мазыра, Хойнікаў, Брагіна. На гэтай тэрыторыі было раскапана звыш 90 курганоў, закладзены шурфы на гарадзішчах Турава і Слуцка (Дубінскі, 1930. С. 510—513). У 1930 г. А. О. Рынейскі абследаваў помнікі на правым беразе р. Пціч, А. І. Ляўданскі — у Рагачоўскім раёне, І. Р. Калодкін — сярэдняе цячэнне Бярэзіны (Рынейскі, 1932. С. 197—214; Ляўданскі, 1932. С. 230—235). У 1931 г. экспедыцыя А. М. Ляўданскага абследавала вярхоўі Бярэзіны да Бабруйска (Ляўданскі, 1932. С. 230—235). А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч абследавалі месцазнаходжанні жалезнай руды ў Палессі (Ляўданскі, Палікарповіч, 1932).

Характэрнымі для беларускай археалогіі даваеннага перыяду былі арганізацыя сістэматычных абследаванняў археалагічных помнікаў, раскопкі курганных могільнікаў, шырокае разгортванне краязнаўчага руху. Даследаванне гарадоў і паселішчаў шырокай плошчай арганізавана не было.

Помнікі дрыгавічоў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў перадваенны час не падвяргаліся сістэматычным даследаванням. Выключэннем з'яў-

ляюцца абследаванні гарадзішча ў в. Гарадное (Столінскі раён) і раскопкі гарадзішча ў Давыд-Гарадку Р. Якімовічам у 1937—1939 гг. (Jakimowicz, 1939). У 30-я гады абследаванні курганоў у наваколлі Брэста праводзіў К. Салевіч (Salewicz, 1939. S. 166—170). Р. Гарашкевіч апублікаваў даныя аб помніках у наваколлі Пінска (Horoszkiewicz, 1928). Невялікія раскопкі курганоў праводзілі У. і А. Галубовічы і М. Новак (Hołubowicz, 1938; Cehak-Hołubowiczowa, 1940. S. 32—68; Кухаренко, 1961. С. 21).

Пасля Вялікай Айчыннай вайны абследаваннямі і раскопкамі на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў займаліся супрацоўнікі Інстытута археалогіі АН СССР Ю. У. Кухарэнка, В. В. Сядоў, П. А. Раппапорт. Т. У. Раўдзіна, М. К. Каргер, Ф. Д. Гурэвіч, К. В. Паўлава, І. П. Русанава, сектара археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР Э. М. Загарульскі, Ю. І. Драгун, Я. І. Бібікаў, П. Ф. Лысенка, Т. М. Каробушкіна, Л. У. Калядзінскі, Т. С. Бубенька, Я. Г. Звяруга, В. С. Пазнякоў, А. В. Іоў. У гэты час пачынаюць даследавацца шырокай плошчай паселішчы (у асноўным гарады).

Адным з першых даследаванні гарадзішчаў і селішчаў раннефеадальнага перыяду пачаў Ю. У. Кухарэнка. У 5 могільніках (ля в. Ясенец і Малыя Круговічы Ганцавіцкага, Відзібор, Атвержычы, Велямічы Столінскага раёнаў) Брэсцкай вобласці ім раскапана 44 курганы (Кухаренко, 1983. С. 88—91). Па розных крыніцах ім складзены звод археалагічных помнікаў раннефеадальнага перыяду (Кухаренко, 1961).

У 1955 г. Т. У. Раўдзінай і Б. В. Міралюбавым былі пачаты і ў 1957 г. прадоўжаны раскопкі так званай Замкавай гары ў Пінску. У раскопках ускрыта частка абарончага вала і прылягаючай да яго плошчы (Равдина, 1957. С. 150—153; Яна ж, 1963. С. 110—112; Яна ж, 1966. С. 285—290).

Э. М. Загарульскі ў 1957 г. абследаваў гарадзішчы старажытных гарадоў, а ў далейшым — помнікі ў ніжнім цячэнні Свіслачы, праводзіў раскопкі Мінска, Свіслачы, Стрэшына, Рагачова, Вішчына (Загорульский, 1958. С. 3—13; Ён жа, 1982). У 1963 г. Ю. І. Драгун правёў абследаванне курганных могільнікаў у Слуцкім раёне і ля в. Ржаўка раскапаў 3 курганы. У 1964 г. ён займаўся даследаваннямі на гарадзішчы Жужпянка і на селішчы ля яго.

У 1959 і 1962 гг. на тэрыторыі Камянецкага і Высокаўскага раёнаў І. В. Біруля раскапаў 123 курганы ў 11 могільніках. У 1960 і 1961 гг. выратаваўчыя раскопкі на дзядзінцы і вакольным горадзе старажытнага Пінска праводзіў Я. І. Бібікаў. П. А. Рапапорт у гэты ж час абследаваў гарадзішчы на мяжы Брэсцкай і Гомельскай абласцей. У Тураве ў шурфе была расчышчана кладка кірпічнай пабудовы XII—XIII стст. (Раппопорт, 1960—1961).

Пад час 1961 г. В. В. Сядоў абследаваў гарадзішчы і курганныя могільнікі ў басейнах рэк Случы, Лані, Пцічы, у ваколіцах Турава, Копыля. Ля г. Копыля, в. Рычоў (Жыткавіцкі раён) і в. Свішчова (Камянецкі раён) раскапана 10 курганоў (Седов, 1963). Другі атрад гэтай экспедыцыі праводзіў раскопкі на гарадзішчы старажытнага Турава (кіраўнік М. Д. Полубаярынава) (Полубояринова, 1963. С. 44—48; Яна ж, 1963а. С. 233—238).

У 1963 г. М. К. Каргерам ускрыты рэшткі вялікага храма другой паловы XII ст., пабудаванага з плінфы на вапне з цэмянкай (Каргер, 1965).

Археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі АН БССР (кіраўнік П. Ф. Лысенка) у 60—70-х гадах праводзіла раскопкі Турава, Пінска, Давыд-Гарадка, Слуцка, Клецка, Брэста, Рагачова і абследавала Лучын, Стрэшын, Рэчыцу, Брагін (Лысенко, 1974; Ён жа, 1985; Ён жа, 1991).

У 80-я гады вялікія работы па даследаванню курганоў у Брэсцкім Пабужжы праводзіла Т. М. Каробушкіна. У 13 могільніках яна раскапала 122 курганы (Коробушкина, 1993).

Працягваліся раскопкі ў Мінску (Штыхаў, 1982). У сярэднім Панямонні доўгі час вывучала Навагрудак Ф. Д. Гурэвіч (Гуревич, 1983), Я. Г. Зяруга праводзіў раскопкі ў Ваўкавыску і Слоніме (Зверуго, 1975; Ён жа, 1989). Раскопкамі курганоў у наваколлі Навагрудка займаліся Ф. Д. Гурэвіч і К. В. Паўлава (Гуревич, 1983; Павлова, 1973. С. 56—61; Яна ж, 1974. С. 59—69; Яна ж, 1965. С. 99). Архітэктурныя помнікі вывучалі М. К. Каргер, М. В. Малеўская, П. А. Рапапорт, Я. Г. Зяруга (Зверуго, 1989). Раскопкі курганных могільнікаў у наваколлі Мінска праводзілі Г. В. Штыхаў, В. Е. Собаль (Штыхов, Соболь, 1978), а на правабярэжжы Дняпра — У. У. Багамольнікаў (Богомольников, 1978). Невялікія работы па даследаванню курганоў праводзілі П. Ф. Лысенка, С. С. Шырынскі, Я. Г. Рыер (Лысенко, 1968. С. 43—55; Ширинский, 1965. С. 121—123; Риер, 1976).

Для пасляваеннага часу характэрна перавага даследаванняў паселішчаў, галоўным чынам гарадоў, над даследаваннем курганных пахаванняў.

У пасляваенныя гады праводзіліся не толькі палявыя даследаванні дрыгавічоў. А. У. Успенская абагуліла матэрыялы э пахаванняў дрыгавічоў (Успенская, 1953). Я. І. Цімафееў вывучаў рассяленне паўднёва-заходняй групы ўсходніх славян (Тимофеев, 1961). Пахавальныя помнікі дрыгавічоў неаднаразова былі аб'ектам вывучэння В. В. Сядова (Седов, 1963. С. 197—203; Ён жа, 1963а. С. 112—113; Ён жа, 1970; Ён жа, 1982; Ён жа, 1995). Матэрыялы археалагічнага вывучэння дрыгавічоў абагульняліся ў манаграфічных работах (Лысенко, 1974; Ён жа, 1985; Ён жа, 1991; Коробушкина, 1993) і абагульняючых працах.

**Пахавальны абрад.** Важнейшыя пытанні гісторыі дрыгавічоў — тэрыторыя і час рассялення, генетычныя сувязі і ўзаемаадносіны з суседзямі вырашаюцца па матэрыялах даследавання археалагічных помнікаў рознага характару. Важнейшай крыніцай з'яўляюцца пахавальныя помнікі. Асноўнай формай пахавальных помнікаў дрыгавічоў з'яўляюцца курганныя насыпы над нябожчыкам (мал. 9). Пахавальныя курганы дрыгавічоў блізкія па знешнім выглядзе. Яны круглыя ў плане і маюць паўсферычную форму, якая часта парушаецца. Пад уплывам прыродных фактараў курганы прымаюць выцягнутую, авальную форму, іх паверхня пашкоджана ямамі, дрэвамі. У асобных выпадках курганы маюць канічную (в. Любонічы, курганы № 14, 18, 19) або квадратную ў аснове (в. Ясенец, г. Капыль) форму.

Ля падножжа курганоў часта можна заўважыць кальцавыя канаўкі — ровікі, што ўтварыліся пры выемцы зямлі, калі насыпаліся курганы. Нярэдка кальцавыя ровікі перарываюцца перамычкамі для падыходу да кургана пры насыпанні.

Па размерах курганы вельмі разнастайныя. Ля в. Акулінка (Мазырскі раён) курганы маюць вышыню 0,15—0,20 м пры дыяметры каля 4 м. Сустракаюцца і курганы вышынёй да 3 м і дыяметрам 17—18 м (Клічаўскі раён, в. Лянёўка). Часцей за ўсё курганы маюць вышыню ад 1 да 1,5 м. Сустракаюцца адзінкавыя курганы выключна вялікіх памераў. Два курганы вышынёй да 5 м былі ўскрыты на ўскраіне Пінска, а адзін — ля старажытнага Брэста (Кухарэнка, 1968. С. 87—90; Шпилевский, 1958). Верагодна, яны аднатыповыя з чарнігаўскімі курганамі — «Гульбішча», «Чорная магіла».

Курганы ўтвараюць могільнікі, часцей за ўсё ў 2—4 дзесяткі курганоў. Могільнікі з некалькіх або ў некалькі сот курганоў рэдкія. Варта ўлічваць, што курганы пастаянна разбураюцца.

На тэрыторыі дрыгавічоў мала могільнікаў, што налічваюць звыш 100 курганоў (ля в. Рычоў — 270, в. Мохаў — 620, в. Пашкаўка — 100, в. Пажаркі — 152, в. Холмеч — 113, вв. Левашы, Лянёўка — 300, в. Валасовічы — 267, в. Маруліны — 500). Вялікія могільнікі размешчаны ў асноўным у Падняпроўі і на Бярэзіне. Таксама мала сустракаецца могільнікаў з невялікай колькасцю курганоў. З 64 могільнікаў, абследаваных У. З. Завітневічам у 1889, 1890, 1892 гг., толькі 6 з іх мелі менш 15 курганоў.

Курганныя могільнікі дрыгавічоў распаўсюджаны нераўнамерна. Найбольш шчыльна яны размешчаны ў наваколлях Мінска, Клецка, Слуцка, у Падняпроўі і на Бярэзіне. Дрыгавічы займаліся ў асноўным земляробствам і жывёлагадоўляй і з гэтай прычыны сяліліся ў найбольш спрыяльных для такіх заняткаў умовах з найбольш урадлівымі глебамі. Спрыяла канцэнтрацыі насельніцтва блізкасць гарадоў і гандлёвых шляхоў. Значна менш могільнікаў у балоцістых мясцінах Палесся. Менш курганоў і ў Заходняй Беларусі. Тут іх распашка ішла найбольш інтэнсіўна. Поўнасцю зніштожаны курганы ў густазаселеным міжрэччы Ясельды і Піны (так званае Пінскае Загароддзе), у міжрэччы Гарыні і Прыпяці, міжрэччы Сцвігі і Прыпяці.

Значнай перашкодай у вывучэнні курганных старажытнасцей дрыгавічоў з'яўляецца недасканалая методыка іх даследавання. У ранейшыя часы даследавалі калодзежам, або траншэяй, пры недастатковай дакументальнай фіксацыі (Тышкевіч, Турбін). Адсутнічае дакументацыя па раскопках Р. Г. Ігнацьева, Г. Х. Татура, Ю. В. Шавельскага. Пры добрых апісаннях раскопак У. З. Завітневіча і М. А. Мышанкова няма графічнай і фатаграфічнай дакументацыі. Вялікія даследаванні 1929 г. апублікаваны толькі ў кароткай інфармацыі С. А. Дубінскага (Дубінскі, 1930). Па гэтых прычынах пахавальны абрад дрыгавічоў забяспечаны матэрыяламі значна горш за пахавальны інвентар.

Курганы дрыгавічоў па спосабу пахавання дзеляцца на дзве асноўныя групы — пахаванне трупаспаленнем (крэмацыя) і пахаванне трупапалажэннем (інгумацыя). Па колькасці рэзка перавышае інгумацыя. У. З. Завітневіч адзначае, што ў Мозырскім павеце крэмацыя выяўлена ў 5 % пахаванняў, у Бабруйскім павеце — у 7,6 % і ў Рэчацкім — у 25,8 % ад агульнай колькасці пахаванняў. Невялікая колькасць крэмацый сустракаецца і ў іншых рэгіёнах, як правіла, у агульных могільніках з пахаваннямі інгумацыяй. У дрыгавічоў мала могільнікаў толькі з абрадам

*Мал. 9. Пахавальны абрад дрыгавічоў (схема)*

крэмацыі — у былым Мозырскім павеце выяўлены ля в. Барыскавічы (урочышча Гарадзінка), у былым Рэчыцкім павеце — ля в. Сянское (урочышча Казлова Курганне), ля в. Малейка (урочышча Курганне), ля в. Пажаркі, (урочышча Горкі ля Пашкаўкі), ля в. Левашы (урочышча Казакоў Сад), а ў былым Бабруйскім павеце — ля в. Ольса (урочышча Сомік), ля вёсак Чырвоны Бераг, Дулебня, Тачылішча, Навасады (Дзяржынскі раён).

Могільнікі з абодвума відамі пахаванняў сустракаюцца значна часцей (больш за 30). Пахаванні крэмацыяй у іх нешматлікія (1—3 пахаванні).

Па асаблівасцях абраду пахаванні крэмацыяй бываюць у насыпе і ў аснове кургана, пахаванні рэшткаў крэмацыі ў урне і без яе, спальванне нябожчыка на месцы кургана альбо ў баку ад яго, выкарыстоўванне дадатковых збудаванняў пры пахаванні.

Пахаванні рэшткаў крэмацыі ў насыпе кургана складаюць звыш 35 % ад агульнай колькасці крэмацый (24 з 67). Звычайна яны сустракаюцца з іншымі абрадамі ў тым жа могільніку. І толькі ў адным могільніку ля в. Пашкаўка (урочышча Горкі, былы Рэчыцкі павет) з 7 раскапаных курганоў у 6 было пахаванне крэмацыяй у насыпе і ў адным — у аснове

кургана. У гэтым жа могільніку ў курганах № 77 і № 79 выяўлены рэшткі вертыкальных слупоў ад падножжа кургана да яго вяршыні. У. З. Завітневіч звязвае іх з вядомым па летапісным паведамленні абрадам «на путях на столбе» (Завитневич, 1892). У пяці выпадках вядомы пахаванні ў урнах.

Урнавыя пахаванні спаленнем бедныя знаходкамі. Апрача ўрнаў знойдзены толькі 2 нажы. Па аналогіі з чарнігаўскімі і гнездаўскімі курганамі гэты тып пахавання дрыгавічоў можна датаваць X ст.

Бязурнавыя пахаванні ў насыпе кургана сустракаюцца часцей за крэмацыі ў урнах у насыпе (26). Пахаванні гэтага тыпу таксама бедныя пахавальным інвентаром. У кургане № 65 Сянскога могільніка знойдзена сякера, у кургане № 79 ля в. Пашкаўка (урочышча Горкі) — серп і бронзавая спражка, у кургане № 242 ля в. Казазаеўка — бронзавы медальён і каменная пацерка, у кургане № 133а ля в. Вялікая Ольса — адна шкляная пацерка, у кургане № 197 ля в. Валасовічы — чатырохвугольная бронзавая спражка, у кургане № 3 у Арлянскім с/с — нож. Неаднаразова ў такіх курганах сустракаліся абломкі ляпной керамікі (Капыль, Арлянскі с/с), у кургане ля Пінска знойдзена арабская манета Нуха ібн Насра 952—953 гг. чаканкі. Як відаць, гэты абрад таксама трэба датаваць X ст.

Трупаспаленні на гарызонце сустракаюцца прыблізна разы ў два часцей за крэмацыі ў насыпе. Яны вядомы па ўсім арэале дрыгавічоў, аднак часцей сустракаюцца ў былым Рэчыцкім павеце. Яны таксама бываюць урнавыя і бязурнавыя. Урнавыя пахаванні сустракаюцца радзей. Пахаванні ў урнах выяўлены ля в. Гарывада (курган № 24), ля в. Пашкаўка, урочышча Горкі (курган № 80), ля в. Казазаеўка (курган № 240). У бязурнавых пахаваннях крэмацыі на гарызонце даследчыкі, як правіла, адзначаюць кастрышча з рэшткамі попелу, вуглёў, перапаленых костак. Як відаць, трупаспаленне адбывалася на месцы насыпкі кургана.

Нешматлікую групу складаюць курганы з крэмацыяй на гарызонце, у якіх прасочваюцца рэшткі вертыкальных слупоў. У аснаванні курганоў застаюцца сляды попелу і вуглёў. Магчыма, тут таксама адбывалася пахаванне ўрны з прахам на слупе.

Пахаванні крэмацыяй на гарызонце значна часцей утвараюць пераважаючыя групы ў могільніках. Яны выяўлены ля вёсак Мохаў, Малейкі, Левашы (урочышча Казакоў Сад), Казазаеўка (урочышча за Свірыдаўскім шляхам), Навасады (Дзяржынскі раён), Аўцюцэвічы (Рэчыцкі раён).

Інвентар у пахаваннях трупаспалення ў аснове кургана сустракаецца рэдка. Кераміка ў пахаваннях гэтага тыпу таксама ляпная, але сустракаецца і ганчарная. З асобых знаходак адзначаны бронзавыя бранзалеты, спражкі, нажы, шкляныя і каменныя пацеркі, сякеры, бронзавы медальён. Знойдзеныя прадметы маюць шырокія храналагічныя рамкі існавання. Аднак суіснаванне ў курганах гэтага тыпу ляпной і ганчарнай керамікі сведчыць, што гэты абрад ужываўся ў час змены ляпной керамікі ганчарнай, а значыць, у канцы X — пачатку XI ст.

Трупапалажэнне (інгумацыя) у кургане ў дрыгавічоў таксама мае розныя дэталі і асаблівасці. Па месцазнаходжанню пахавання ў кургане

пахаванні бываюць у насыпе кургана, на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні (на гарызонце), у падкурганнай яме. Пахаванні розняцца па арыенціроўцы і палажэнню рук памерлага. Часта пахаванні адбываліся без труны, а ў многіх выпадках — у труне або іншых канструкцыях, яе замяняючых. Зрэдку ў курганах выяўляюцца спецыяльныя збудаванні над нябожчыкам у выглядзе драўлянага зруба з двухсхільным дахам. Курганныя трупапалажэнні адрозніваюцца таксама наяўнасцю або адсутнасцю пахавальнага інвентару, месцазнаходжаннем ў кургане, наяўнасцю ці адсутнасцю папялішчаў і іх месцазнаходжаннем у кургане.

Інгумацыя на гарызонце з'яўляецца найбольш шматлікай формай пахавання. Радзей за ўсё сустракаюцца пахаванні на падсыпцы ці ў насыпе кургана. Інгумацыі з аднымі і тымі ж асаблівасцямі звычайна не ўтвараюць асобных могільнікаў. Тым не менш такія групы сустракаюцца часцей за пахаванні з крэмацыяй і часцей за ўсё такія групы ўтвараюць інгумацыі на гарызонце.

Інгумацыі ў насыпе кургана выяўлены амаль па ўсім арэале дрыгавічоў і не адзначаны толькі ў Заходняй Беларусі. Часцей яны сустракаюцца ў басейне Бярэзіны. Вышыня падсыпкі над узроўнем гарызонту бывае ад 0,2 да 0,5 м і зрэдку дасягае аднаго метра і вышэй. Курганы з інгумацыяй у насыпе ўтрымліваюць па адным нябожчыку. Аднак вядомы пахаванні і па два нябожчыкі (Усохі — курган № 40; Казакоў Сад — курган № 162; Рычоў — курган № 160; Рылаўшчына — курган № 2; Заслаўе — група II, курган № 8), а ў двух выпадках выяўлены па 4 нябожчыкі (Эсьмоны, група III, курган № 7; Чэрнікаўшчына — курган № 5). У курганах з інгумацыяй у насыпе захоўваецца звычайная заходняя арыенціроўка нябожчыкаў. Аднак ёсць і адхіленні ад гэтага агульнага правіла.

Інвентар пахаванняў інгумацыяй у насыпе нешматлікі. З этнавызначальных прадметаў у іх знойдзены крывіцкае скроневае кальцо (Заслаўе, група II, курган № 8) і дрыгавіцкія пацеркі (Чэрнікаўшчына, курган № 5; Любонічы, курган № 15; Эсьмоны, група III, курган № 7; Свішчова, курган № 14). Гэта азначыць, што такі абрад не з'яўляецца ўласцівым толькі адной этнічнай групе.

Знаходкі датуючых прадметаў у курганах з інгумацыяй у насыпе нешматлікія (ляпная і ганчарная кераміка, пацеркі-лімонкі X — пачатку XI ст.). Яны датуюць гэты абрад пахавання канцом X — пачаткам XI ст.

Трупапалажэнне (інгумацыя) у аснове кургана (на гарызонце) найбольш распаўсюджана на тэрыторыі дрыгавічоў. Колькасць пахаванняў па гэтым абрадзе ў могільніках і могільнікаў з гэтым абрадам пераўзыходзіць іншыя. Гэтую асаблівасць адзначаў яшчэ У. З. Завітневіч (Завитневич, 1895. С. 295).

Курганы з інгумацыяй на гарызонце па знешнім выглядзе і памерах не адрозніваюцца ад іншых курганоў. Яны звычайна ўтрымліваюць па аднаму пахаванню. Аднак вядомы выпадкі, калі пад адным курганом пахаваны два, тры і нават больш нябожчыкаў. Гэта рэдкія выпадкі, яны распаўсюджаны па ўсім арэале дрыгавічоў і не ўласцівы якому-небудзь асобнаму рэгіёну.

Арыенціроўка нябожчыкаў у грунтавых пахаваннях пераважае заходняя, аднак адзначаецца і процілеглая арыенціроўка. У двайных паха-

ваннях часцей за ўсё сустракаюцца мужчынскае і жаночае пахаванні, але ёсць і двайныя жаночыя або жанчыны і дзіцяці. У трайных пахаваннях бываюць пахаванні мужчыны, жанчыны і дзіцяці, двух мужчын і адной жанчыны або дзвюх жанчын і аднаго мужчыны.

Пахавальны інвентар групавых пахаванняў не адрозніваецца ад адзіночных. Найбольшая іх частка ўтрымлівае матэрыялы XI—XII стст.

Пахаванні ў падкурганных ямах сустракаюцца па ўсім арэале дрыгавічоў у адрозненне ад пахаванняў трупаспаленнем або інгумацыяй у насыпе кургана, аднак радзей за інгумацыю на гарызонце (у 3—4 разы). Звычайна яны адзначаюцца ў агульных могільніках з іншымі відамі пахаванняў. Асобныя могільнікі толькі з гэтым відам пахавання сустракаюцца рэдка.

Падкурганная яма мае глыбіню 0,3—1,4 м. Як правіла, у яме пахаваны адзін нябожчык, большасць з іх пакладзены на спіне галавой на захад, зрэдку — з невялікімі адхіленнямі на поўдзень ці поўнач. Рукі пераважна скрыжаваны на грудзях ці жываце. Часцей, чым пры іншых абрадах, сустракаюцца рэшткі трун. Зрэдку сустракаецца засыпанне вапнай (Мікулічы) ці вуглем (Пярэкаль, курган № 82). Пахавальны інвентар курганоў з ямнымі пахаваннямі значна бяднейшы за пахаванні на гарызонце. Часцей сустракаюцца ўпрыгожанні ў жаночых пахаваннях (пацеркі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы) і рэчы бытавога прызначэння ў мужчынскіх і жаночых пахаваннях (гаршкі, нажы). У пахавальным інвентары няма ранніх прадметаў, якія б датаваліся раней за XI ст. Большасць знаходак датуецца XI—XII і XI—XIII стст. Таму можна меркаваць, што ямны абрад на тэрыторыі дрыгавічоў узнік не раней XII ст.

Асобая роля ў вывучэнні пахавальнага абраду дрыгавічоў належыць У. З. Завітневічу. Спачатку ён прытрымліваўся высновы, што кожнаму летапіснаму племені ўласцівы свой асобны абрад пахавання. Ён лічыў характэрным для дрыгавічоў пахаванне на гарызонце, для драўлян — у падкурганнай яме (без посуду), для палян — у ямах (з посудам), для северан — трупаспаленне (Завитневич, 1890. С. 22—24). У далейшым ён прыйшоў да вываду аб эвалюцыі і змене формы пахаванняў у адных і тых жа плямёнаў. На яго думку, найбольш старажытным відам пахаванняў з'яўляецца абрад «зарывания в землю», які пазней змяняецца пахаваннем на паверхні і крэмацыяй (Завитневич, 1892. С. 34, 37, 47). Пры гэтым трупаспаленне ў дрыгавічоў ён лічыў запазычаным ад северан (Завитневич, 1892. С. 59). Пазней ён дапаўняе гэты вывад тым, што пахаванне ў ямах таксама трэба лічыць запазычаным абрадам (Завитневич, 1895. С. 224—225). У. З. Завітневіч звяртае ўвагу на дадатковыя дэталі гэтых асноўных відаў пахаванняў. Аднак ён няправільна вызначыў парадак іх змены і не змог устанавіць храналагічныя межы іх прымянення.

Абагульненнем курганных матэрыялаў дрыгавічоў, у тым ліку вывучэннем пахавальнага абраду, у пасляваенныя гады займалася А. У. Успенская (Успенская, 1953. С. 10—11; Яна ж, 1953а). Яна прыйшла да вываду, што курганы з трупаспаленнямі адносяцца да канца X ст., пахаванні на гарызонце — да перыяду з канца X па XII ст. (сустракаюцца і пазней), а пахаванні ў падкурганнай яме з'яўляюцца з другой паловы XII ст. і існавалі ў першай палове XIII ст.

Я. І. Цімафееў у канцы 50-х гадоў вывучаў матэрыялы паўднёва-заходняй групы ўсходніх славян і прыйшоў да высновы, што асноўным этнічным паказчыкам з'яўляецца пахавальны абрад і што пахаванні ў ямах адначасовыя пахаванням на гарызонце і ў насыпе (Тимофеев, 1961. С. 57, 58, 64, 67). Аднак, прызнаючы пахавальны абрад этнічнай прыкметай, Я. І. Цімафееў у адну блізкароднасную групу ўсходніх славян залічвае плямёны, што мелі розныя абрады пахавання (Тимофеев, 1961. С. 56). На гэта справядліва звяртаў увагу В. В. Сядоў (Седов, 1962. С. 197). У той жа час наўрад ці можна пагадзіцца з прапановай Я. І. Цімафеева аб адначасовым узнікненні абраду інгумацыі на гарызонце і ў падкурганнай яме. У палян, драўлян і валынян сапраўды абрад пахавання ў падкурганнай яме прымяняўся з IX—X стст. Аднак нельга механічна распаўсюджваць гэту з'яву на тэрыторыю суседніх плямёнаў, што мелі не зусім аднолькавы пахавальны абрад і яго датыроўку (Русанова, 1966. С. 14, 24).

В. В. Сядоў значную ўвагу звяртаў пахавальнаму абраду дрыгавічоў (Седов, 1963. С. 113—114; Ён жа, 1970. С. 79, 85—89; Ён жа, 1982. С. 113—123). Ён адзначае існаванне розных абрадаў у дрыгавічоў і пагаджаецца з вывадам А. У. Успенскай аб рознай датыроўцы іх існавання (Седов, 1982. С. 118).

Пахаванні з процілеглай арыенціроўкай у дрыгавічоў сустракаюцца таксама, як і ў іншых усходнеславянскіх плямёнаў. Рукі нябожчыкаў укладаліся звычайна ўздоўж тулава, але даволі часта — на грудзях ці жываце. Значная частка пахаванняў на гарызонце ці ў яме адбывалася ў трунах. Зрэдку сустракаліся пахаванні, у якіх труны абгортвалі бяростай, засыпалі вапнай ці вуголлем. У раскопках М. А. Мышанкова (Макарычы) і У. З. Завітневіча ў былым Бабруйскім павеце ў курганах выяўлены зрубныя (2—4 вянкі) «церамкі», перакрытыя двухсхільным дахам, у якіх змяшчалі нябожчыкаў у труне або на асобнай дошцы-падкладцы. Яны нешматлікія, сустракаюцца на невялікай плошчы і вядомы таксама на тэрыторыі радзімічаў, і асабліва драўлян.

У пахавальным абрадзе дрыгавічоў прыцягвае ўвагу даследчыкаў яшчэ адна дэталь — попельная праслойка. Яна сустракаецца таксама ў драўлян, валынян, радзімічаў і крывічоў. Гэта сведчыць аб аднолькавых (або блізкіх) пахавальных уяўленнях і звычаях у значнай часткі ўсходніх славян.

**Пахавальны інвентар** мае выключна важнае значэнне для вызначэння часу і арэалу рассялення дрыгавічоў, узроўня сацыяльна-эканамічнага развіцця і накірунку эканамічных сувязяў. Асаблівае значэнне пры гэтым маюць некаторыя віды жаночых упрыгожанняў, уласцівыя асобным усходнеславянскім плямёнам. Яны дазваляюць удакладніць арэалы плямёнаў і іх межы з суседзямі. Знаходкі гэтых этнавызначальных прадметаў дазваляюць вызначыць час і тэрыторыю першапачатковага рассялення дрыгавічоў і намеціць шляхі іх далейшага рассялення. Датуючыя прадметы дазваляюць рашыць пытанне аб паслядоўнасці змены дэталяў пахавальнага абраду. Пахавальны інвентар нясе інфармацыю аб асноўных занятках насельніцтва, характары і ўзроўні развіцця вытворчых сіл, аб асобных відах рамеснай вытворчасці. Знаходкі прывазных вырабаў сведчаць аб эканамічных сувязях з бліжнімі і аддаленымі

тэрыторыямі. Пахавальны інвентар дае падставы меркаваць аб узроўні сацыяльнага развіцця, развіцці і змене ідэалагічных уяўленняў. Трэба ўлічваць, што пахавальны інвентар адлюстроўвае жыццё найбольш шматлікай сацыяльнай групы дрыгавічоў — вясковага насельніцтва.

Для датыроўкі курганных старажытнасцей і пахавальнага абраду дрыгавічоў асабліваe значэнне маюць знаходкі манет. Манеты знойдзены ў Пінску ў кургане з трупаспаленнем (дынастыя Саманідаў — 952—953 гг. н. э.); у кургане № 20 з інгумацыяй на гарызонце ля г. Барысава ў раскопках 1886—1887 гг. У. З. Завітневічам (вызначэння няма, манета не захавалася); у кургане № 115 з інгумацыяй у яме ў раскопках У. З. Завітневіча ля в. Мікулічы былога Рэчыцкага павета (вызначэння няма, манета не захавалася); у кургане № 147 з інгумацыяй на гарызонце ля в. Холмеч (урочышча Завужэлле) былога Рэчыцкага павета з раскопак У. З. Завітневіча (дырхем X ст. Насра сына Ахмеда і сярэбраная візантыйская манета Канстанціна Багранароднага — 948—959 гг.); у кургане № 157 з інгумацыяй на падсыпцы ва ўрочышчы Казакоў Сад каля в. Левашы былога Рэчыцкага павета (дырхем Мансура сына Нуха і «падражанне» манеце Насра сына Ахмеда); у кургане № 18 з трупапалажэннем ля Заслаўля з раскопак А. М. Ляўданскага (дырхем Нуха сына Насра 942—954); у кургане ля в. Саланое з раскопак Е. Р. Раманава ў 1905 г. (срэбная кельнская манета X ст.); у кургане № 1 з грунтавой інгумацыяй ля в. Новыя Орлавічы Слонімскага раёна з раскопак П. Ф. Лысенкі (лівонскі солід Карла V Густава 1654—1660 гг.); у кургане № 1а з раскопак Я. П. Тышкевіча ў былым Ігуменскім павеце («копія арабскай манеты» — верагодна, дырхем X ст.).

Манеты датуюць знойдзеныя разам прадметы. З імі знойдзены сердалікавыя пліткавыя і прызматычныя пацеркі, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя цыліндрычныя і рабрыстыя пацеркі, дрыгавіцкія буйназярнёныя пацеркі і скроневыя кольцы. Найбольшую цікавасць у пахавальным інвентары ўяўляюць прадметы бытавога прызначэння, жаночыя ўпрыгожанні з ліку так званых этнавызначальных прадметаў, уласцівых толькі дрыгавічам, і датуючыя прадметы, што маюць адносна вузкі час бытавання.

**Металічныя буйназярнёныя пацеркі** з'яўляюцца асноўным этнавызначальным прадметам для дрыгавічоў. Яны маюць ажурны дротавы або суцэльны металічны корпус, па якім у шахматным парадку напаяны срэбныя шарыкі зерні. Іх лакалізацыя на тэрыторыі дрыгавічоў і адсутнасць на тэрыторыі іншых усходнеславянскіх плямёнаў былі адзначаны яшчэ У. З. Завітневічам (Завитневич, 1895. С. 221, 295). У далейшым гэты вывад быў прызнаны і пацверджаны ў работах А. А. Спіцына, А. У. Успенскай, Я. І. Цімафеева, В. В. Сядова, П. Ф. Лысенкі (Спицин, 1899; Успенская, 1953; Тимофеев, 1962; Седов, 1963. С. 197—203; Ён жа, 1963а. С. 112—113; Ён жа, 1970; Ён жа, 1982; Лысенко, 1972. С. 27—36). Часам іх няправільна называюць пацеркамі «мінскага тыпу» (Успенская, Загорульский, 1965. С. 130), на што звяртае ўвагу В. В. Сядоў (Седов, 1982. С. 114). Выраб такіх пацерак не звязаны з Мінскам. Яны распаўсюджаны на этнічнай тэрыторыі дрыгавічоў, таму іх правільней называць дрыгавіцкімі пацеркамі. Выраб такіх упрыгожанняў патрабаваў высокакваліфікаванай працы, складанай тэхналогіі і імпартных матэрыялаў, што




*Мал 10 Пахавальны інвентар· 1—6 — бусы, 7—11, 15 — скроневыя кольцы, 12—14, 16—19 — дрыгавіцкія буйназярненыя пацеркі, 20, 22 — прывескі, 21, 24 — пярсцёнкі, 23, 25 — бранзалеты, 26 — спражка 1, 5 — Наўры, 2—3, 4, 6 — Мольнічы, 8 — Ігуменскі павет, 7, 9—24, 26 — з раскопак Завітневіча, 25 — Брацянка*

прыводзіла да іх высокага кошту і тлумачыць іх даволі рэдкія знаходкі ў курганным матэрыяле.

Цыліндрычныя ажурныя пацеркі знойдзены ў былых Ігуменскім, Мінскім, Мазырскім, Рэчыцкім паветах. Значна больш іх знойдзена ў былым Бабруйскім павеце. Знойдзены таксама ў раёне Барысава, на Пцічы, у Падняпроўі. Знаходкі цыліндрычных ажурных пацерак у Верхнім Панямонні і Брэсцкім Пабужжы сведчаць аб рассяленні дрыгавічоў у гэтых раёнах, а знаходкі на левабярэжжы Дняпра — аб усходніх граніцах іх рассялення.

Вядомы дрыгавіцкія пацеркі і за межамі асноўнай дрыгавіцкай тэрыторыі. На правабярэжжы Прыпяці і ў верхнім цячэнні Убарці яны знойдзены ў могільніках каля вёсак Андрэевічы, Олеўск, Лапацічы, Тэпяніца і ля в. Ракітна (Яроцкі Я. Л.), па верхнім цячэнні р. Львы ля в. Церабяжова (Кухарэнка Ю. У.), каля вёсак Барыскавічы, Глініца, Скрыгалаўская Слабада (Завітневіч У. З.). На левабярэжжы Дняпра яны знойдзены ў курганах ля в. Чырвоная Слабада (Фурсаў М. В., Чалоўскі С. Ю.), вёсак Нісімкавічы, Раманавічы, Цяруха (Раманаў Е. Р.), ля в. Пабярэжжа-Мурава ля Барысава (Ляўданскі А. М.), ля Лагойска (Турбін М. М., Тышкевіч К. П.), ля Заслаўя (Ляўданскі А. М.). У Верхнім Панямонні яны вядомы ў ваколіцах Навагрудка, в. Платава (Галубоввіч А.), в. Высокае Валожынскага раёна (Яроцкі Я. В.). У Брэсцкім Пабужжы іх знаходкі адзначаны ў курганах ля вёсак Ратайчыцы, Свішчова, Войская, Любашкі, Трасцяніца, Кусцічы (Біруля І. В., Сядоў В. В., Каробушкіна Т. М.). На левабярэжжы Заходняга Буга дрыгавіцкія пацеркі выяўлены ў могільніках ля вёсак Каранёўка, Бацікі Дальнія, Рагаўка, Паева, Чаканава і на Драгічынскім гарадзішчы (Авенарыус М. П., Дубінскі С. А.).

За межамі дрыгавіцкай тэрыторыі дрыгавіцкія пацеркі знойдзены на Райкавецкім гарадзішчы (Ганчароў У. К.), пры раскопках Ізяслава (паведамленне М. К. Каргера) і ў наваколлі Луцка (Раугут З.). У адзінкавых экземплярах яны вядомы ў іншым этнічным асяроддзі — ля в. Высокае Ашмянскага раёна, у Цілжы (Латвія), у Сярэднім Падняпроўі, на тэрыторыі радзімічаў. Дрыгавіцкія пацеркі сустракаюцца часцей за ўсё ў складзе пахавальнага інвентару, у матэрыялах пасяленняў іх знаходзілі вельмі рэдка (Мінск, Бярэсце, Гродна, Драгічын, Райкі, Заслаўе).

Разам э цыліндрычнымі ажурнымі буйназярнёнымі пацеркамі знойдзены такія датуючыя знаходкі, як пацеркі шкляныя пазалочаныя рабрыстыя (X—XII стст.), трохпацеркавыя буйназярнёныя скроневыя кольцы (IX—XIII стст.). У адных пахаваннях з ажурнымі дрыгавіцкімі пацеркамі знойдзены пацеркі шкляныя пазалочаныя бочкападобныя і бітрапецоідныя, нажы, пярсцёнкі кругладротавыя, скроневыя кругладротавыя колцы, шкляныя пацеркі, вітыя бронзавыя бранзалеты і пярсцёнкі, манетападобныя прывескі, пляцёныя пярсцёнкі, буйназярнёныя бочкападобныя пацеркі, пацеркі з чорнага хрусталю.

**Бочкападобныя буйназярнёныя пацеркі** з суцэльным полым бронзавым корпусам знойдзены ў могільніках па Бярэзіне, у Заслаўі, у былых Рэчыцкім і Мазырскім паветах, на Пцічы, на Дняпры. Разам з імі выяўлены шкляныя пасярэбраныя і пазалочаныя пацеркі, віты бронзавы дротавы пярсцёнак, паўтараабаротныя скроневыя кольцы, манетападобная бронзавая прывеска, пацеркі сердалікавыя і з чорнага хрусталю, кругладротавыя пярсцёнкі.

**Шарападобныя буйназярнёныя пацеркі** сустракаюцца ў пахаваннях дрыгавічоў значна радзей за цыліндрычныя ажурныя і бочкападобныя з суцэльным корпусам. Яны маюць суцэльны полы корпус, упрыгожаны напаянымі шарыкамі зерні. Знойдзены ля Лагойска (раскопкі Тышкевіча і Турбіна), у былым Бабруйскім павеце (Завітневіч У. З.), на Пцічы (Ляўданскі А. М.), пад Мінскам (Сербаў І. А.), у наваколлі Навагрудка (Паўлава К. В.), ля в. Орлавічы (Лысенка П. Ф.). Разам з імі выяўлены сердалікавыя круглыя пацеркі і паўтараабаротныя скроневыя кольцы (Тышкевіч, Турбін).

**Трохпацеркавыя скроневыя кольцы** з буйназярнёнымі дрыгавіцкімі пацеркамі на дужцы падобны на дрыгавіцкія буйназярнёныя пацеркі. На кругладротавай дужцы насаджаны дзве альбо тры ажурныя ці суцэльныя пацеркі некалькі меншых памераў. Канцы дужкі абрублены прама, але часам маюць спіралепадобны загіб. Такія скроневыя кольцы не сустракаліся ў былым Рэчыцкім павеце і на Верхнім Панямонні. Яны толькі два разы знойдзены ў Пабужжы і не адзначаны ў паўночнай зоне рассялення дрыгавічоў. Значна часцей яны сустракаюцца ў Падняпроўі, на Бярэзіне і Прыпяці. Як правіла, яны прысутнічаюць у тых могільніках, у якіх знаходзілі буйназярнёныя дрыгавіцкія пацеркі.

**Вузлаватыя скроневыя кольцы** так званага кіеўскага тыпу лічацца этнавызначальнай прыкметай палян. На поўнач ад Прыпяці яны знойдзены толькі ў былым Рэчыцкім павеце ў могільніках ля вёсак Казазаеўка, Левашы, Адамаўка, Холмеч. У парубежным з палянамі раёне ля воднага Дняпроўскага шляху маглі з'явіцца ў выніку міжплямяннога абмену. У больш паўночных раёнах яны сустрэты толькі ў могільніку ля в. Абрыцкая Слабада (курган № 13).

**Пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы** выраблялі з круглага меднага ці срэбнага дроту (або са сплаву) таўшчынёй 1,5—2,5 мм. Яны ўтвараюць акружнасць дыяметрам 2—3 см і паводле выгляду падзяляюцца на паўтараабаротныя (назву прымянялі К. П. Тышкевіч, А. М. Ляўданскі, А. У. Успенская, В. В. Сядоў), простыя самкнутыя, загнутаканцавыя і *S*-канцавыя.

**У паўтараабаротных кольцах** дрот робіць паўтара абароту (часам больш або менш). Яны вядомы на тэрыторыі дрыгавічоў, драўлян, валынян. У крывічоў іх няма.

**Простыя пярсцёнкападобныя** дротавыя скроневыя кольцы з прамымі самкнутымі канцамі сагнуты ў адзін абарот. Яны вядомы па ўсім арэале дрыгавіоў, Аднак радзей сустракаюцца ў заходніх раёнах.

**Загнутаканцавыя скроневыя кольцы** маюць адзін расплясканы і завернуты ў спіраль канец. Яны сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі рассялення паўднёва-заходняй групы ўсходніх славян, выключаючы заходнія рэгіёны.

**Скорневыя кольцы з *S*-падобным завітком** на канцы (мазаўшанскія) не характэрны для дрыгавічоў і знойдзены толькі ў заходніх раёнах іх арэала на Брэсцкім Пабужжы і ў двух курганах на Бярэзіне і Случы (Аздзяцічы, Падзерскія Агароднікі).

**Каменныя сердалікавыя пацеркі** сустракаюць ў невялікай колькасці ў складзе нізкі з іншых пацерак. Толькі ў адным з курганоў ля Лагойска (раскопкі К. П. Тышкевіча) знойдзена 10 сердалікавых пацерак, і ў курга-

не № 2 ля в. Пятроўшчына (раскопкі І. А. Сербава) іх знойдзена 8 штук. Сердалікавыя пацеркі сустракаюцца па ўсім арэале дрыгавічоў. Рэдкая іх форма — **пліткавыя** пацеркі сустракаецца ў асноўным у паўночных раёнах рассялення дрыгавічоў. Значна часцей выяўляюцца **прызматычныя і біпірамідальныя** сердалікавыя пацеркі. Яны распаўсюджаны ў асноўным ва ўсходніх раёнах дрыгавіцкага арэала, недалёка ад Дняпроўскага воднага шляху. У Пабужжы і Панямонні практычна невядомы. **Круглыя** сердалікавыя пацеркі знойдзены ў адзінкавых экземплярах (Аздзяцічы, Ніжараўскія Хутары).

**Пацеркі з горнага хрусталю** сустракаюцца па адной-дзве ў пахаванні. Большасць іх знаходак засяроджана ў паўднёва-заходнім раёне рассялення дрыгавічоў.

**Шкляныя пацеркі** ў дрыгавічоў сустракаюцца часцей, чым у палян, драўлян, валынян, аднак радзей, чым у крывічоў, вяцічаў, северан. Пацеркі па форме бываюць круглыя, рабрыстыя, зонныя, цыліндрычныя, бочкападобныя, прызматычныя, лімонкі (адзіночныя, двайныя, трайныя) і г. д., а па колеру — сінія, жоўтыя, зялёныя, паласатыя, глазчатыя, беларамбічныя.

**Шкляныя пасярэбраныя і пазалочаныя пацеркі** маюць вялікае значэнне ў вырашэнні храналагічных пытанняў. Пры іх вырабе на шкляную аснову накладваецца тоненькая срэбная або залатая фальга, паверх якой накладваўся тонкі слой шкла. Яны вядомы ў матэрыялах усіх усходнеславянскіх плямёнаў і сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі дрыгавічоў. Найбольш распаўсюджаны цыліндрычныя пацеркі. Яны вядомы па ўсім арэале дрыгавічоў і сустракаюцца ў нізках разам з іншымі пацеркамі. Радзей знаходзяць бочкападобныя пацеркі. Па 1—3 яны ўваходзяць у нізкі з іншых пацерак, аднак вядомы выпадкі, калі ў адной нізцы іх бывала больш за 10 (Абрыцкая Слабада, Аздзяцічы) і нават 15 пацерак (Аздзяцічы). Яны сустракаюцца ў Пабужжы, на Прыпяці (Рэчыцкі павет) і вельмі рэдка ў Панямонні. Значна радзей знаходзяць пацеркі рабрыстыя і бітрапецоідныя. Зона іх распаўсюджання — поўнач і ўсход дрыгавіцкай тэрыторыі. Пасярэбраныя пацеркі сустракаюцца радзей пазалочаных.

**Зонныя шкляныя пацеркі** часцей сустракаюцца ў складзе нізак з іншымі пацеркамі. Вялікія нізкі пацерак з курганоў ля Лагойска для дрыгавічоў не характэрны і з'яўляюцца хутчэй крывіцкім уплывам. У Пабужжы і Панямонні зонныя пацеркі не знойдзены.

**Лімонныя, беларамбічныя і цыліндрычныя** пацеркі сустракаюцца ў невялікай колькасці і ў асноўным у паўночным і ўсходнім рэгіёнах рассялення дрыгавічоў.

**Рабрыстыя пацеркі** распаўсюджаны галоўным чынам у паўночнай частцы дрыгавіцкага арэала. **Бітрапецоідныя і паласатыя** пацеркі сустракаюцца часцей, і ў асноўным ва ўсходняй частцы рассялення дрыгавічоў. У гэтым жа рэгіёне сустракаюцца і бочкападобныя пацеркі.

У Пабужжы і Панямонні пацеркі — знаходка рэдкая. Яны найбольш часта сустракаюцца ў паўночнай зоне рассялення дрыгавічоў і на Бярэзіне, г. зн. у зонах кантактаў з крывічамі, у якіх гэты від жаночых упрыгожанняў быў у шырокім ужытку.

**Металічныя жаночыя ўпрыгожанні** — пярсцёнкі, бранзалеты, прывескі, грыўні, грузікі, пацеркі — у пахаваннях дрыгавічоў знаходзяць даволі часта.

**Кругпадротавыя пярсцёнкі** сустракаюцца найбольш часта ва ўсіх раёнах рассялення дрыгавічоў, як правіла, па аднаму, часцей на правай руцэ, часам на абедзвюх.

**Вітыя пярсцёнкі** таксама распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі дрыгавічоў па адным-два ў пахаванні. Радзей сустракаюцца ложнавітыя пярсцёнкі. **Пласцінчатыя** пярсцёнкі сустракаюцца розных форм, аднак у невялікай колькасці. **Пласцінчатыя «вусатыя»** і **завязаныя** засяроджаны ў паўночных рэгіёнах дрыгавічоў, суседніх з крывічамі.

**Бранзалеты** на тэрыторыі дрыгавічоў сустракаюцца пласцінчатыя, дротавыя і вітыя. Найбольш распаўсюджаны **кругпадротавыя,** у Падняпроўі, былым Бабруйскім павеце, паўночных раёнах рассялення дрыгавічоў. У Пабужжы і Верхнім Панямонні іх няма. **Вітыя** і пласцінчатыя таксама распаўсюджаны ў паўночных раёнах дрыгавіцкага арэала. **Змеінагаловыя** бранзалеты засяроджаны ў паўночным раёне рассялення дрыгавічоў.

Плоскавыпуклыя разамкнутыя бранзалеты знойдзены ў Панямонні.

**Грыўні** — шыйныя дротавыя ўпрыгожанні, знойдзены ў парубежных з крывічамі раёнах, у якіх яны былі ў шырокім ужытку. У дрыгавіцкіх курганах яны выяўлены двух тыпаў — вітыя і жгутавыя. У дрыгавічоў, відавочна, гэта вынік крывіцкага ўплыву.

**Прывескі** ў дрыгавічоў нешматлікія і нехарактэрныя. Яны выяўляюцца ў пагранічных раёнах і хутчэй за ўсё сведчаць аб міжплемянных кантактах і ўплывах. У Падняпроўі ў пагранiччы з радзімічамі сустракаюцца лунніцы (Новы Быхаў, Каменка, Кардон, Праскурня, Віркаў). На пагранiччы з крывічамі (Віркаў, Усціж) знойдзены прывескі-канькі, характэрныя для крывічоў. У гэтай жа паўночнай зоне ў складзе нізак сустракаюцца бронзавыя спіральныя трубачкі, уласцівыя крывічам.

**Манетападобныя зярнёныя прывескі** часцей за іншыя адзначаюцца ў дрыгавічоў. Апрача заходніх і паўночна-заходніх раёнаў, яны сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі дрыгавічоў у складзе нізак разам з пацеркамі. У нізках звычайна па адной прывесцы, адзін раз знойдзена дзве, а адзін раз — сем. У былым Бабруйскім павеце выяўлены дзве якарападобныя прывескі, нетыповыя для ўсходніх славян.

**Грушападобныя званочкі** з крыжападобнай прарэзкай шырока распаўсюджаны ва ўсходніх славян. У дрыгавічоў іх мала і распаўсюджаны яны ў паўночных раёнах іх рассялення (Абрыцкая Слабада, Відагошча, Заслаўе), у Падняпроўі (Новы Быхаў, Кардон, Гарывада, Мохаў), у Пабужжы (Ратайчыцы).

**Прылады працы** ў пахаваннях дрыгавічоў знаходзяць рэдка. **Сякеры** — нешматлікія, сустракаюцца на тэрыторыі ўсяго рэгіёна, апрача Пабужжа. Амаль усе яны належаць да тыпу рабочых, з шырокім адцягнутым назад лязом. Баявая сякера-клявец знойдзена аднойчы (в. Ясенец Ганцавіцкага раёна).

**Сярпы** выяўлены ў 6 пахаваннях з 5 могільнікаў (2 — у Заслаўі). Яны сведчаць аб занятках земляробствам і вырошчванні зерневых культур.

З іншых прылад вытворчасці знойдзены нажніцы (Мохаў), шылы

(Мохаў, Колпень), шыферныя біканічныя і бочкападобныя праслiцы. У могільніку ля в. Мікуліцкі Двор выяўлены рэшткі маленькіх вагаў.

**Нажы** — самая частая знаходка ў пахаваннях. Яны сустракаюцца на ўсёй тэрыторыі як у мужчынскіх, так і ў жаночых пахаваннях.

**Крэсівы** — знойдзены ў курганах ля вёсак Гліпіца, Буклёўка, Кастрыцкая Слабада.

Рэшткі **драўляных вёдраў**, пастаўленых у нагах нябожчыка, вядомы ва ўсіх рэгіёнах рассялення дрыгавічоў (выключаючы Верхняе Панямонне).

**Прадметы ўзбраення** сустракаюцца рэдка. Наканечнікі коп'яў сустрэты толькі ў былым Рэчыцкім павеце (2 разы) і ля в. Колпень (адзін раз) на парубежжы дрыгавіцкіх зямель. Баявая сякерка-клявец з адцягнутым квадратным абушком і вузкім лязом знойдзена ля в. Ясенец (Ганцавіцкі раён).

**Прыналежнасці касцюма** сустракаюцца рэдка. Падковападобныя фібулы для верхняга адзення сустракаюцца ў паўночных раёнах рассялення дрыгавічоў і толькі адзін раз знойдзены ў паўднёвым (в. Янаўка, былы Рэчыцкі павет).

**Лірападобныя і паясныя спражкі** знойдзены ў курганах на Дняпры, Прыпяці і на Бярэзіне. **Паясныя кольцы** распаўсюджаны па ўсім арэале рассялення дрыгавічоў. Маленькія літыя бронзавыя **грыбападобныя гузікі** сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. **Касцяныя засцежкі** знойдзены адзін раз (в. Мікулічы). У гэтым усходнім раёне ля скроняў памерлай знойдзены невялікія медныя талеркападобныя бляшкі (Колпень, Мікулічы).

**Датыроўка** пахавальнага абраду і працэсу рассялення дрыгавічоў ажыццяўляецца ў асноўным на падставе пахавальнага інвентару. Асобныя знаходкі маюць дакладную дату вытворчасці (манеты) або вузкія хранапагічныя рамкі існавання, а іншыя датуюцца ўжо гэтымі прадметамі і маюць апасродкаваныя, але пераканаўча ўстаноўленыя хранапагічныя межы.

**Манеты** — найбольш дакладна датуючы сродак. Часцей сустракаюцца арабскія манеты X ст. Яны знойдзены ў курганах з трупаспаленнем (Пінск), курганах з трупапалажэннем на гарызонце (Барысаў, курган № 20; Холмеч, курган № 147; Саланое, курган № 5), у пахавальнай яме глыбінёй да 1,5 аршына, абмазаный вапнай (Мікулічы, курган № 11; Заслаўе, курган № 28).

Знойдзеныя разам з манетамі прадметы самі набываюць датуючыя ўласцівасці. Разам з манетамі X ст. выяўлены дрыгавіцкія круглыя зярнёныя пацеркі, трохпацеркавыя буйназярнёныя скроневыя кольцы, пацеркі сердалікавыя пліткавыя, шкляныя рабрыстыя і цыліндрычныя пазалочаныя і пасярэбраныя пацеркі, скроневыя кольцы паўтараабаротныя і самкнутыя, бронзавыя гузікі, бронзавы бранзалет з самкнутымі канцамі, фібула падковападобная спіральнаканцавая.

Значная аднастайнасць пахавальнага інвентару ўсходніх славян дазваляе для датыроўкі прыцягваць аналагічныя знаходкі з іншых тэрыторый. У пахаваннях крывічоў, радзімічаў, северан, вяцічаў значна больш манет, чым у дрыгавічоў. З іх дапамогай каменныя пацеркі (сердалікавыя і хрустальныя) атрымалі надзейныя датуючыя межы і датуюцца X—

XI стст., а біпірамідальныя — X—XII стст. (Фехнер, 1959. С. 152). Хрустальныя пацеркі круглай формы існавалі з X па XIII ст., а хрустальныя 14-гранныя — з IX па XII ст. (Фехнер, 1959. С. 156). Шкляныя пасярэбраныя і пазалочаныя пацеркі зонныя і бітрапецоідныя датуюцца X—XI стст., а цыліндрычныя, бочкападобныя і рабрыстыя — X—XII стст. (Фехнер, 1959. С. 160).

**Пацеркі з каляровага шкла** маюць шырокія храналагічныя рамкі існавання, а асобныя іх віды — больш вузкія. Найбольш раннія з іх — рабрыстыя, дынепадобныя і цыліндрычныя датуюцца IX—X стст., у X—XI стст. існавалі так званыя лімонападобныя і беларамбічныя пацеркі, а ў X—XIII стст. былі распаўсюджаны сінія рабрыстыя пацеркі з непразрыстага шкла (Фехнер, 1959. С. 170—171). Дрыгавіцкія пацеркі і кругладротавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы маюць шырокія рамкі батавання.

**Прывескі** маюць розныя даты існавання. Грушападобныя званочкі з крыжавіднай прарэзкай датуюцца X—XI стст., манетападобныя прывескі выдзяляюць раннія (X—XI стст.) і больш познія (XII—XIII стст.). Аднак яны не характэрны для дрыгавічоў. Прывескі-канькі датуюцца XI—XII стст.

Вітыя завязанаканцавыя і змяінагаловыя бранзалеты датуюцца X—XI стст. (сустракаюцца на памежжы з крывічамі). Вітыя бранзалеты і вітыя пярсцёнкі датуюцца XII—XIII стст. Пласцінкавыя вусатыя і завязанаканцавыя пярсцёнкі датуюцца X — пачаткам XI ст. Найбольш распаўсюджаныя ў дрыгавічоў дротавыя пярсцёнкі адносяцца да X—XIII стст.

**Падкавападобныя фібулы** са спіральнымі канцамі існавалі ў X—XI стст., але асобныя іх віды існавалі ў XIII ст.

**Паходжанне і рассяленне** дрыгавічоў вывучаецца на падставе пахавальнага інвентару і пахавальнага абраду. Датыроўка па інвентару сведчыць, што найбольш старажытным відам дрыгавіцкіх пахаванняў з'яўляюцца курганы з трупаспаленнем і ляпной керамікай.

Непасрэднымі папярэднікамі дрыгавічоў у паўднёвым іх арэале было насельніцтва культуры тыпу Карчак. Шырокае іх даследаванне было арганізавана ў пасляваенны час. Ю. У. Кухарэнка сапаставіў іх з несумненна славянскімі помнікамі так званай пражскай культуры на тэрыторыі Чэхаславакіі і паўднёвай Польшчы, склаў карту іх распаўсюджання па тэрыторыі СССР і вызначыў арэал гэтай культуры (Кухаренко, 1960. С. 111—124). Вялікую работу па вывучэнню гэтых помнікаў на тэрыторыі Валыні правяла І. П. Русанава, якая абагуліла вынікі даследаванняў у манаграфіі «Славянские древности VI—IX вв. между Днепром и Западным Бугом» (Русанова, 1973). У гэту работу аўтарам уключаны таксама дрыгавіцкія курганы з трупаспаленнем з правабярэжжа Прыпяці (Барыскавічы, Аўцюцэвічы, Казазаеўка, Сцяпанаўка, Левашы, Холмеч, Сянское, Малейкі, Рычоў і інш.).

Помнікі гэтага часу на тэрыторыі Беларусі вядомы ў басейне Заходняга Буга (Радасць, Скорбічы, Кусцічы, Дзям'янчыцы), на левабярэжжы вярхоўяў Прыпяці (Аздзяцічы, Глінна, Гарадзішча, Моладава), у нізоўях Гарыні (Гарадзішча, Любліна, Верасніца) (Кухаренко, 1960. Русанова, 1973). У нізоўях Сцвігі такія помнікі абследаваны Л. Д. Побалем (Верасніца, Знаменка, Сямурадцы) (Поболь, 1969) і Ю. У. Кухарэнкам (Куха-

ренко, 1961). У гэтым жа раёне курганы з трупаспаленнем ля в. Рычоў раскопваў У. З. Завітневіч (Завитневич, 1889). Гарадзішча і курганы ля в. Хільчыцы абследавалі А. З. Каваленя і С. С. Шутаў (Каваленя, Шутаў, 1930). На сярэдняй Прыпяці помнікі гэтага часу вядомы ля Петрыкава, Скрыгалаўскай Слабады, Барыскавіч, Аўцюцэвіч, а на Дняпры — у могільніках былога Рэчыцкага павета. У апошнія гады даследаванні гэтых помнікаў на Прыпяці праводзіць В. С. Вяргей (Вяргей, 1997). Асноўная колькасць помнікаў гэтага тыпу і часу засяроджана ў вярхоўях Прыпяці, Стыры, Гарыні, Случы і на правабярэжных прытоках сярэдняга Дняпра (Славечна, Уж, Цецераў, Ірпень) (Русанова, 1973).

Помнікі гэтага часу падраздзяляюцца на гарадзішчы, селішчы, курганныя і бескурганныя могільнікі. Іх славянская прыналежнасць не выклікае сумненняў (Кухаренко, 1955; Ён жа, 1961; Русанова, 1973; Седов, 1970). Матэрыяльная культура гэтых помнікаў бедная. Аднак кераміка ўтварае паслядоўны рад пераходных форм і змыкаецца непасрэдна з раннімі формамі славянскага ляпнога посуду, што дазваляе прасочваць генетычную пераемнасць усходнеславянскіх плямёнаў гэтай тэрыторыі (драўлян, палян, валынян, дрыгавічоў) ад іх папярэднікаў — носьбітаў культуры тыпу Карчак (Русанова, 1968).

На тэрыторыі Беларусі помнікі культуры тыпу Карчак нешматлікія і размешчаны ў асноўным на правабярэжжы Прыпяці. Помнікі тыпу Лукі-Райкавецкай, што змяняюць іх, таксама нешматлікія і вядомы ў басейне р. Лясная, ля Пінска і ў раёнах размяшчэння помнікаў тыпу Карчак (Русанова, 1973). Урнавае трупаспаленне ў насыпе кургана ля х. Вірткі (Старобінскі раён Мінскай вобласці) Ю. У. Кухарэнка і В. В. Сядоў адносяць да ліку балцкіх, а Л. Д. Побаль лічыць яго славянскім (Кухаренко, 1965. С. 18; 1970. С. 84; Поболь, 1973. С. 491, 493).

Рассяленне дрыгавічоў на левабярэжжы Прыпяці прасочваецца па курганных могільніках. Найбольш ранція з іх утрымліваюць трупаспаленні і ляпны гліняны посуд. Пахаванні з трупаспаленнем адзначаюцца на ўсёй тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. Аднак найбольшая іх колькасць засяроджана ў Падняпроўі (былы Рэчыцкі павет) і ніжнім цячэнні Бярэзіны. Трупаспаленні з ляпным посудам нешматлікія. На тэрыторыі рассялення дрыгавічоў В. В. Сядовым улічаны 18 пунктаў з крэмацыяй, ляпной керамікай (Седов, 1970). Тым не менш апублікаваная карта трупаспаленняў з ляпным посудам патрабуе карэктыў у чатырох пунктах (Чырвоны Бераг, Любонічы, Валасовічы, Вялікія Аўцюцэвічы). У публікацыях і справаздачных матэрыялах кераміка не ўспамінаецца наогул. У публікацыях і справаздачах аб трох пунктах (в. Пажаркі, урочышча Горкі ля Пашкаўкі, вв. Левашы, Вялікая Ольса) кераміка ўпамінаецца без дастатковай характарыстыкі, каб аднесці яе да ліку ляпной. На карце таксама не ўлічаны 4 пункты з трупаспаленнем і ляпной керамікай (Пінск, Капыль, Мохаў, Арлянскі с/с). Гэтыя дапаўненні і выключэнні пашыраюць тэрыторыю ранняга рассялення дрыгавічоў і здымаюць вузкую лакалізацыю іх рассялення (Падняпроўе, Бярэзіна). Улічваючы, што на правабярэжжы Прыпяці, адкуль засялялася левабярэжжа, ляпны посуд ужо ў X ст. змяніўся ганчарным, час засялення левабярэжжа трэба датаваць IX—X стст. (Русанова, 1973. С. 19).

Да ранніх помнікаў, што храналагічна змыкаюцца з трупаспаленнямі з ляпным посудам і змяняюць іх, адносяцца раннія трупапалажэнні з ранняй ганчарнай керамікай. Яны вядомы на Случы (Навасады, Каменка), на Верхнім Панямонні (Суляцічы, Гарадзілаўка, Ладзеннікі), на Бярэзіне (Сінчукі) пад Друцкам. Гэтыя помнікі размешчаны ў асноўным у раёнах з трупаспаленнямі з ляпной керамікай, яны пашыраюць рэгіён ранняга рассялення дрыгавічоў у напрамку Верхняга Панямоння (могільнікі ля Навагрудка). Відавочна, у гэтым накірунку адбывалася рассяленне дрыгавічоў у X—XI стст. Пацвярджэнне гэтаму меркаванню можна бачыць у раннім заснаванні на гэтай тэрыторыі Навагрудка, Слоніма, Ваўкавыска. Старэйшыя паселішчы ў наваколлі Ваўкавыска з'явіліся ў сярэдзіне або ў другой палове X ст. (Зверуго, 1975. С. 20). Гэтым жа часам датуецца заснаванне Навагрудка (Гуревич, 1981. С. 157). Праўда, старажытнейшыя курганы з трупаспаленнем на гэтай тэрыторыі не ўтрымліваюць дрыгавіцкіх этнічных прадметаў, а абрад трупаспалення распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі рассялення ўсходнеславянскіх плямёнаў. Аднак у пахаваннях з трупапалажэннем у наваколлі гэтых гарадоў неаднаразова знаходзілі дрыгавіцкія пацеркі (Гарадзілаўка, курган № 3; Мольнічы, курган № 8; Орлавічы, курган № 1; Платава, курган № 4). Скроневыя пярсцёнкападобныя і паўтараабаротныя кольцы, уласцівыя паўднёва-заходняй групе ўсходніх славян, што не сустракаюцца ў курганах крывічоў, знойдзены ў Верхнім Панямонні ў курганах ля в. Высокае (курган № 1), Маруліны (курган № 2), Мольнічы (курган № 4), Суляцічы (курганы № 2, 3, 4, 6, 8, 10, 12, 13). Распаўсюджанне ў Панямонні курганоў з трупапалажэннем, з дрыгавіцкімі пацеркамі, паўтараабаротнымі скроневымі кольцамі і іншым інвентаром XI ст. дае падставу меркаваць, што курганы з трупаспаленнем больш ранняга часу (без этнавызначальнага інвентару) належалі дрыгавічам.

У Пабужжы таксама вядомы курганы з трупаспаленнем (Войская, курганы № 17, 18; Радасць, курган № 1). Інвентар іх не захаваўся. У другіх курганах гэтых жа могільнікаў інвентар аналагічны інвентару дрыгавіцкіх пахаванняў (трохпацеркавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, дрыгавіцкія буйназярнёныя пацеркі, ганчарны посуд) (Бируля, 1959. С. 156). У гэтых могільніках таксама існавала этнічная пераемнасць, і безынвентарныя курганы з крэмацыяй, верагодна, адносіліся да таго ж этнічнага насельніцтва, якое ў больш позні час пакінула трупапалажэнні з дрыгавіцкім інвентаром, г. зн. да дрыгавічоў. Праўда, пабужскія курганныя могільнікі ў курганах утрымліваюць значныя ўключэнні камянёў, а часам і каменныя вымасткі. З гэтай прычыны гэтыя могільнікі часам лічаць яцвяжскімі пахаваннямі (Седов, 1964. С. 50—51).

У далейшым В. В. Сядоў удакладніў гэта вызначэнне і такія курганныя могільнікі лічыць пахаваннямі яцвягаў, «падвергшихся славянскаму культурнаму влиянию и славянизации» (Седов, 1970. С. 81; Ён жа, 1982. С. 120).

Аднак такая інтэрпрэтацыя пахаванняў у каменных курганах патрабуе магутнага каланізацыйнага патоку ўсходніх славян. Інакш нешматлікае насельніцтва славянскіх каланістаў само стала б ахвярай асіміляцыйных працэсаў з боку мясцовага насельніцтва. Гэтаму супярэчаць не-

шматлікасць курганоў з землянымі насыпамі і яўная перавага ў колькасці курганоў з уключэннем камянёў. Гэта супярэчнасць можа быць вырашана, калі дапусціць, што славянскае насельніцтва Пабужжа таксама насыпала курганы з выкарыстоўваннем камянёў, што адпавядала б славянскаму інвентару гэтых курганоў. Прычынай гэтага можа быць высокая засмечанасць камянямі зямель Пабужжа. Адсутнасць камянёў у курганах у іншых раёнах усходнеславянскага арэала можа тлумачыцца адсутнасцю іх у гэтай мясцовасці (Палессе, Сярэдняе Падняпроўе і інш.). Гэта тлумачыць і наяўнасць славянскага інвентару ў каменных курганах і малую колькасць чыста земляных насыпаў пры моцным культурным і этнічным уплыве славян, і працэс славянізацыі краю.

Час славянізацыі Пабужжа датуецца пахаваннямі з трупаспаленнямі з ганчарнай керамікай (X—XI стст.) і пасяленнямі тыпу Лукі-Райкавецкай (Радасць, Скорбічы, Кусцічы, Дзям'янчыцы), якія ўтрымлівалі як ляпную (VIII—IX стст.), так і ганчарную кераміку (Русанова, 1973; Коробушкина, 1985).

**Этнічнае вызначэнне** славянскага насельніцтва Пабужжа не знаходзіць адназначных вырашэнняў. Большасць даследчыкаў схільны бачыць у іх дрыгавічоў (Довнар-Запольский, 1891. С. 59; Успенская, 1953. С. 19; Тимофеев, 1961. С. 73). Не згодны з гэтым Ю. У. Кухарэнка. Ён вылучае ў асобную групу парныя курганы з трупаспаленнем (тыпу Галаўно), пашырае іх на Пабужжа, а пахаванні ў іх атаясамліваў з пахаваннямі валынян (Кухаренко, 1969). Аднак такому вызначэнню пярэчыць нязначная колькасць помнікаў гэтага тыпу, адсутнасць іх у Пабужжы, адсутнасць у іх этнавызначальнага матэрыялу, магчымасць выпадковага захавання пары курганоў пры масавым зніштажэнні астатніх курганоў могільніка. Улічваючы яўную перавагу дрыгавіцкага інвентару ў курганах на тэрыторыі Пабужжа, асноўным усходнеславянскім насельніцтвам на Пабужжы трэба лічыць дрыгавічоў, дапускаючы магчымасць пранікнення сюды і прадстаўнікоў іншых плямёнаў.

**Час рассялення дрыгавічоў** па ўсім арэале іх пражывання вызначаецца датуючымі знаходкамі пахавальнага інвентару. Манеты X—XI стст. вядомы ў пахаваннях дрыгавічоў у Падняпроўі (Холмеч, Казакоў Сад, Мікулічы, Салаunion), у курганах ля Барысава, Заслаўя. Вузлаватыя скроневыя кольцы так званага кіеўскага тыпу (X—XI стст.) вядомы ў Падняпроўі (Адамаўка, Казазаеўка, Холмеч, Казакоў Сад) і на поўнач ад Мінска (Абрыцкая Слабада). Пліткавыя сердалікавыя пацеркі (X—XI стст.) выяўлены ў паўночных раёнах дрыгавіцкага арэала (Чэрнікаўшчына, Заслаўе, Барысаў), на Случы (Ніжараўскія Хутары, Падзеры), у Панямонні (Гарадзілаўка). Сердалікавыя прызматычныя пацеркі (X—XI стст.) вядомы на поўначы дрыгавіцкай тэрыторыі (Заслаўе, Пятроўшчына, Рылаўшчына, Чэрнікаўшчына, Абрыцкая Спабада), на Бярэзіне (Аздзяцічы, Любонічы, Кастрыцкая Слабада), на Дняпры (Задруцце, Праскурні, Саланое, Новы Быхаў, Холмеч), на Прыпяці (Рычоў ), на Случы (Ніжараўскія Хутары), у Панямонні (Мольнічы). Распаўсюджанне ранняга інвентару (X—XI стст.) у курганных пахаваннях дрыгавіцкай тэрыторыі сведчыць аб раннім (да X ст.) рассяленні дрыгавічоў на шырокай тэрыторыі. Гэта адпавядае паведамленням старажытных летапісаў і ранняму

ўзнікненню на гэтай тэрыторыі старажытных гарадоў (Тураў, Бярэсце, Навагрудак, Слонім, Пінск, Гродна, Слуцк, Клецк і інш.).

**Межы асноўнага арэала дрыгавічоў** дазваляе ўдакладніць археалагічны матэрыял, выяўлены раскопкамі, і ўдасканаленне метадаў яго гістарычнай інтэрпрэтацыі.

**Паўднёвую мяжу** рассялення дрыгавічоў У. З. Завітневіч спачатку праводзіў па Прыпяці, а потым прывёў доказы засялення дрыгавічамі правабярэжжа Прыпяці (Завитневич, 1889. С. 22—24; Ён жа, 1890. С. 22—24). Мяжа з палянамі праходзіла ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці, дзе адзначаецца значная колькасць пахаванняў у падкурганных ямах, характэрных для палян (Русанова, 1960. С. 68). На пагранiччы з драўлянамі вядомы дрыгавіцкія могільнікі ля вёсак Скрыгалава, Скрыгалаўская Слабада, Барыскавічы, Буклеўка, Рычоў, Відзібор, Церабяжоў. У глыбіні драўлянскай тэрыторыі вядомы пахаванні з дрыгавіцкімі пацеркамі ля вёсак Андрэевічы, Тэпяніца, Ракітна, Олеўск, Лапацічы, Зубкавічы. На захад ад Гарыні Я. І. Цімафееў адзначае павялічэнне пахаванняў у падкурганных ямах на поўдзень ад лініі Роўна — Луцк і пераважную колькасць пахаванняў на гарызонце к поўначы ад яе. У гэтай лініі адзначаны знаходкі дрыгавіцкіх пацерак ля вёсак Калодзенка, Бялеў, Стары Жукаў-1, Стары Жукаў-2. Перасопніца, Паддубцы, Крупа (Тимофеев, 1961. С. 73). Але ва ўсіх гэтых могільніках пераважаюць пахаванні ў ямах. Дрыгавіцкія пацеркі вядомы таксама ў курганах ля г. Луцка і в. Будзераж.

**Усходняя мяжа** рассялення дрыгавічоў праходзіла ў асноўным па Дняпры. Асобныя дрыгавіцкія могільнікі вядомы на яго левабярэжжы (Кардон, Ветачка). Знаходкі дрыгавіцкіх пацерак адзначаны ў курганах ля вёсак Чырвоная Слабада, Гадзілавічы, Пахомаў Манастыр, Цярухі, Хізова, Гетманская Буда. Але ў гэтых могільніках большасць радзіміцкага інвентару. На правабярэжжы Дняпра радзіміцкі інвентар пераважае ў могільніках ля вёсак Праскурня, Каменка, ля Новага Быхава (Рыбаков, 1930; Соловьева, 1967).

**У паўночнай зоне** рассялення дрыгавічоў ля Лепеля ў могільніку ля в. Мацюшына Сцяна знойдзены 4 дрыгавіцкія пацеркі. Могільнік ля в. Наўры Мядзельскага раёна наўрад ці мае этнавызначальныя дрыгавіцкія знаходкі і наўрад ці можа быць адзначаны як дрыгавіцкі, як гэта вызначаюць даследчыкі (Гуревич, 1962. С. 99; Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 5—51). Улічваючы яўную перавагу крывіцкіх матэрыялаў і могільнікаў на тэрыторыі Мядзельскага і Лепельскага раёнаў, варта прызнаць, што мяжа дрыгавічоў і крывічоў праходзіла ў раёнах Заслаўя, Лагойска, Барысава, дзе выяўлены дрыгавіцкія могільнікі.

**Заходняя мяжа** рассялення дрыгавічоў у розных даследчыкаў мела розныя вызначэнні. У. З. Завітневіч яе праводзіў па вярхоўях Віліі, Нёмана, Шчары (Завитневич, 1895. С. 590). В. В. Сядоў таксама лічыць, што: «На западе естественным рубежом между дреговичской территорией и Брестским Побужьем были обширные болотистые пространства (так называемое Выгонгоновское болото)» (Седов, 1982. С. 116). Праўда, В. В. Сядоў прызнае, што дрыгавічы таксама засялілі Верхняе Панямонне і Брэсцкае Пабужжа, аднак вызначае, што: «...эти места не могут быть отнесены к собственно дреговичской территории, так как дрегови-

чи были не единственным восточнославянским племенем, заселявшим их» (Седов, 1982. С. 116).

Сустракаецца і іншы погляд у работах даследчыкаў. Яшчэ М. П. Авенарыус звяртаў увагу на падабенства інвентару каменных курганоў ля в. Каранёўка, у якім сустракаліся дрыгавіцкія пацеркі, з матэрыяламі Драгічынскага гарадзішча (Авенариус, 1890. С. 1—43). А. А. Спіцын таксама прытрымліваўся такой ацэнкі старажытнасцей Пабужжа (Спицин, 1899. С. 325, 328). На думку А. У. Успенскай, дрыгавічы ў раёне Бельска і Беластока з'явіліся ў канцы XII—XIII ст., Я. І. Цімафееў адзначае суіснаванне дрыгавіцкіх і мазавецкіх пахаванняў (Тимофеев, 1961. С. 73).

Варта заўважыць, што польскія даследчыкі адзначаюць стабільнае ўсходнеславянскае засяленне на левабярэжжы Заходняга Буга. К. Мусяновіч засяроджвае ўвагу на курганных пахаваннях, якія яна лічыць дрыгавіцкімі, у могільніках Бельскага павета (Невярова-Сохі, Каменка), на знаходках у іх дрыгавіцкіх пацерак і паўтараабаротных скроневых кольцаў і гаворыць аб каланізацыі мазаўшан на тэрыторыі Падляшша, заселенай дрыгавічамі (Musianowicz, 1955. S. 246—247). На падставе распаўсюджання курганоў (дрыгавічы) і каменных магіл (мазаўшане) яна прыходзіць да вываду аб суіснаванні гэтых этнічных груп на Падляшшы ў шырокай зоне Пабужжа (уключаючы левабярэжжа) з найбольш шчыльным засяроджаннем гэтых тыпаў пахаванняў адпаведна ва ўсходнім і заходнім раёнах арэала (Musianowicz, 1960. S. 187—230). Адзначаючы прыкладную роўнасць колькасці дрыгавіцкіх і мазавецкіх могільнікаў ля Драгічына, даследчыкі лічаць гэты горад рускім (дрыгавіцкім) (Musianowicz, 1962. 587—608).

А. Камінскі на поўнач ад Заходняга Буга руска-мазавецкую мяжу праводзіць па р. Лізе і р. Нараўка і лічыць рускімі гарадамі Бельск і Сураж (Kamiński, 1956. 131—168). Паўночная мяжа дрыгавічоў у гэтай зоне, на думку А. Камінскага, праходзіла па р. Нараў (Kamiński, 1963. S. 7—41). К. Мадрэўская таксама адзначае, што ў курганным могільніку XI—XII стст. (у раёне Бельска) ля в. Чарна Велька былі пахаваны дрыгавічы (Dzirzykray-Rogalski, 1964. S. 128).

Рашаючае значэнне ў вызначэнні этнасу асноўнага насельніцтва Брэсцкага Пабужжа маюць даследаванні курганоў на поўнач ад Брэста. У гэтым рэгіёне ў асноўным даследчыкамі І. В. Бірулей і Т. М. Каробушкінай раскапана звыш 250 курганаў (Бируля, 1970. С. 120—121; Ён жа, 1966, С. 280; Ён жа, 1966а. С. 140; Коробушкина, 1983. С. 42—45; Яна ж, 1993). Ва ўсіх даследаваных могільніках, у цэлым бедных інвентаром, выяўлены практычна адзіны ўсходнеславянскі інвентар, у складзе якога этнавызначальныя дрыгавіцкія пацеркі (Каранёўка, Бацікі Дальнія, Рогаўка, Паева, Чаканава, Любашкі, Ратайчыцы, Свішчова, Кусцічы і на Драгічынскім гарадзішчы). Гэта дае падставу ўключыць тэрыторыю Сярэдняга Пабужжа ў арэал дрыгавіцкага засялення, не выключаючы магчымасці рассялення асобных груп іншай этнічнай прыналежнасці.

**Верхняе Панямонне** таксама ўваходзіць у зону асноўнага дрыгавіцкага арэала. Тут вядомы элементы валынскай, драўлянскай, крывіцкай, мазаўшанскай культур. Так, у Ваўкавыску выяўлены паўзямлянкі, у Ваўкавыску і Навагрудку — кераміка, аналагічная той, што сустракаецца

ў курганных пахаваннях ля Навагрудка (Павлова, 1973. С. 58, 61). Праўда, паведамленні аб асобных пахаваннях з тыпова крывіцкімі бранзалетападобнымі скроневымі кольцамі (Гарадзілаўка) памылковыя (Павлова, 1973; Седов, 1982. С. 121, карта 16). Сустракаюцца ў Верхнім Панямонні і каменныя магілы (Высокае) (Павлова, 1981. С. 78—84; Седов, 1982. С. 121, карта 16). Аднак несумненна ў гэтым рэгіёне перавага пахавальных помнікаў дрыгавічоў. Гэта асабліва выразна выяўляецца ў шырокіх раскопках курганных могільнікаў у наваколлі Навагрудка (каля 100 курганоў) (Павлова, 1983, С. 45—47). Улічваючы гэта, пры ўсёй складанасці этнічнай сітуацыі ў Верхнім Панямонні, ёсць усе падставы ўключаць гэты рэгіён у арэал асноўнай дрыгавіцкай тэрыторыі. Трэба мець на ўвазе, што пацвярджэннем гэтага вываду з'яўляецца актыўны працэс узнікнення і развіцця ўсходнеславянскіх гарадоў на дадзенай тэрыторыі (Гродна, Навагрудак, Ваўкавыск, Слонім).

**Эканамічнае развіццё** дрыгавічоў выяўляецца па пісьмовых паведамленнях і археалагічных матэрыялах. Летапісы ўпамінаюць розныя катэгорыі сельскага насельніцтва («смерд», «ратай», «ратайный староста», «ролейные закупы»), сельскагаспадарчыя прылады («рало», «плуг»), прадукцыю сельскагаспадарчай вытворчасці («жыто», «обилие», «сено», «овощь», «пшено», «ярица», «озимь»), сельскагаспадарчыя работы («орать», «молотить», «веять»). Аснову эканомікі і гаспадарчага жыцця Старажытнай Русі складалі земляробства, жывёлагадоўля, рамесная вытворчасць, промыслы, гандаль. Археалагічныя матэрыялы пераканаўча сведчаць аб вядучай ролі земляробства: «...Раскопки окончательно решили вопрос о земледельческом характере славянского хозяйства, о развитии ремесла, происхождении городов, возникновении славянских дружин и т. п.» (Рыбаков, 1966. С. 338). Як відаць з устаўной граматы Мсціслава Уладзіміравіча, насельніцтва Бярэсця (і яго наваколля) вырошчвала жыта, авес, лён, разводзіла авечак, курэй, буйную рагатую жывёлу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 932). У раскопках гарадоў нярэдка сустракаюцца прылады сельскагаспадарчай вытворчасці. У пахавальных помніках сельскагаспадарчы інвентар адзначаецца рэдка. Значную ролю ў гаспадарчым жыцці адыгрывала жывёлагадоўля, а ў эканамічным развіцці дрыгавічоў — развіццё рамеснай вытворчасці, і ў першую чаргу сродкаў вытворчасці. Цэнтрамі рамеснай вытворчасці былі гарады, тут жа працавалі майстры найбольш высокай кваліфікацыі. Аднак існавала і вясковае рамяство. Значнага развіцця дасягнулі апрацоўка чорнага і каляровага металаў, ганчарства і апрацоўка дрэва, кастарэзнае і скураапрацоўчае (і кравецкае) рамёствы. Акрамя таго, насельніцтва займалася прадзеннем, ткацтвам, папяваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Знаходкі імпартных вырабаў сведчаць аб развіцці гандлю.

**Сацыяльнае развіццё** ўсходніх славян прасочваецца па паведамленнях пісьмовых крыніц. Летапісы сведчаць, што напярэдадні ўтварэння старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве ў дрыгавічоў побач з іншымі, найбольш развітымі ў сацыяльных адносінах, плямёнамі існавала «свое княжение». Значыць, у дрыгавічоў адбываліся распад першабытнаабшчынных адносін і вызраванне феадальных, класавых адносін. Найбольш ранція археалагічныя помнікі дрыгавічоў — курганы з трупаспаленнем ужо адлюстроўваюць сацыяльную дыферэнцыяцыю.

Узнікненне гарадоў таксама сведчыць аб умацаванні класавага грамадства. У XI ст. на тэрыторыі дрыгавічоў складваецца палітычнае ўтварэнне больш высокага ўзроўню — Тураўскае княства з развітай феадальнай грамадскай структурай. У сувязі са зменай грамадскага ладу мяняецца сацыяльнае значэнне самой племяннай назвы — дрыгавічы. Спачатку гэта этнічнае і дзяржаўнае вызначэнне, а з умацаваннем і развіццём феадальнага княства — толькі этнічнае. З фарміраваннем адзінай старажытнарускай дзяржавы ўзнікалі перадумовы і ажыццяўляўся працэс складвання адзінай старажытнарускай народнасці. Але ў той жа час, відавочна, захоўваліся рэшткі племянных дыялектаў, звычаяў, нораваў. Гэта своеасаблівасць падкрэсліваецца захаваннем спецыфічных племянных жаночых упрыгожанняў — металічных буйназярнёных пацерак.

## 3. РАДЗІМІЧЫ

**Летапісныя паведамленні.** Першыя звесткі аб радзімічах атрыманы з пісьмовых крыніц. У «Аповесці мінулых гадоў» запісана: «Радимичи бо и вятичи от ляхов бяста бо два брата в лясехъ Радимъ а другыи Вятокъ и пришедша съдоста Радимъ на Съжю и прозваша радимичи» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 9). Радзімічы разам з вяцічамі названы таму, што яны мелі не толькі агульнае паходжанне, але і іншыя агульныя рысы культурных традыцый, якія іх аб'ядноўвалі. Кожнае з гэтых плямёнаў мела сваю асобную тэрыторыю кампактнага пражывання. У летапісе няма звестак аб тым, што радзімічы мелі свае княжацкія цэнтры і княжэнні.

Хутчэй за ўсё такія княжацкія цэнтры, асабліва ў пачатковы перыяд іх існавання, у іх усё ж былі. Іншая справа, што яны ўжо не існавалі ў той перыяд, аб якім вядзе гаворку летапісец. Гэта акалічнасць прывяла да таго, што з XII ст. радзімічы і вяцічы страчваюць сваю палітычную і адміністрацыйную самастойнасць. Землі радзімічаў былі ўключаны ў склад Чарнігаўскага і Смаленскага княстваў, а на землях вяцічаў у басейне Акі была ўтворана самастойная Разанская зямля, тэрыторыя Падмскоўя была ўключана ў склад Чарнігаўскага княства.

Агульныя рысы гэтых плямёнаў выяўляюцца і ў падабенстве выгляду этнавызначальных жаночых упрыгожанняў. Сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы радзімічаў па форме нагадваюць сямілопасныя скроневыя кольцы вяцічаў.

Далей летапісец зазначае, што вяцічы і радзімічы ў згодзе жывуць не толькі паміж сабой, але і з суседзямі (палянамі, северанамі, драўлянамі). Пры іх апісанні ён кіраваўся агульным паходжаннем гэтых плямёнаў, падабенствам гістарычнага лёсу. Аднак пры апісанні летапісец не змог пазбегнуць і памылак у звестках, аб якіх ён паведамляў. Падзеі адбываліся даўно і за прайшоўшы час абраслі легендарнымі звесткамі, што запісваліся ім без дадатковага крытычнага асмыслення. Апрача таго, з боку летапісца адчуваюцца таксама пагардлівыя адносіны да плямёнаў, якія жылі на поўнач ад Кіеўскага княства. Апісваючы звычаі ўсходнеславянскіх плямёнаў, ён разглядае і норавы радзімічаў разам з апісаннем падобных з'яў, вяцічаў і іншых паўночных суседзяў. Летапісец паведамляе: «А радимичи и вятичи и северо адинъ обыча имяху

живяху в лесе яко же всякыи звер ядуще все нечисто и срамословье в нихъ пред отци и пред снохами и бъраци не бываху в нихъ, но игрища межю селы и схожахуся на игрищи на ппясанье и на все бесовъскыя песни и ту оумыкаху жены собе с нею же кто свещевашесь имяхуть по две три жены» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 10). Да гэтага апісання трэба адносіцца крытычна. Вядома, трэба ўлічваць, што Нестар-летапісец пісаў аб радзімічах у канцы XI—пачатку XII ст., а апісваў больш ранняе жыццё гэтага племя, пачынаючы з самага пачатку з'яўлення яго на ўказанай ім тэрыторыі. Несумненна, летапісныя звесткі аб мінулым не маглі цалкам адпавядаць рэчаіснасці. Тым не менш яны маюць важнае значэнне пры вывучэнні радзімічаў.

Сёння, пасля таго як прайшло больш тысячагоддзя з часоў, апісаных у летапісе, з улікам атрыманых археалагічных матэрыялаў неабходна ўважліва разгледзець летапісныя паведамленні і пагадзіцца з тымі з іх, якія пацверджаны знаходкамі, і адхіліць тыя, якія з'явіліся наслаеннямі часу.

Важнымі звесткамі Нестара-летапісца з'яўляецца апісанне абраду пахавання ў радзімічаў на дахрысціянскай стадыі іх развіцця. Пахавальны абрад апісаны ім праўдападобна. Ён паведампяе: «...и аще кто оумярше творяху трызну надъ нимъ и по семъ творяху кладу велику и възложать на кпаду мертвеца и съжигаху и по семь събравше кости вложаху въ ссудъ малъ и поставляху на столпе на путехъ» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 10). Па яго словах, такія ж звычаі існуюць у вяцічаў, крывічоў і іншых плямёнаў, якія не былі знаёмы з хрысціянскімі звычаямі, а жылі па сваіх «поганских» язычніцкіх законах. Абрад трупаспалення існаваў ва ўсіх усходнеславянскіх плямёнаў, а што тычыцца месца ўстанаўлення ўрны з перапаленымі касцямі, то гэта нельга разумець літаральна. Хутчэй за ўсе летапісныя паведамленні трэба растлумачыць так, што ўрну з рэшткамі нябожчыка пасля спальвання дзесьці ў баку змяшчалі ў якім-небудзь спецыяльным збудаванні. Несумненна, што менавіта такім быў пахавальны абрад у радзімачаў у пачатковы перыяд іх прыходу на тэрыторыю Пасожжа.

Усяго ў «Аповесці мінулых гадоў» радзімічы ў той ці іншай сувязі ўпамінаюцца шэсць разоў. Два першыя недатаваныя паведамленні даюць магчымасць даведацца, адкуль і куды прыйшлі радзімічы, якія ў іх былі норавы і звычаі. З чатырох датаваных паведамленняў можна атрымаць звесткі аб іх грамадскім ладзе. Пад 885 г. значыцца: «В лето 885 посла Олег к радимиче река кому дань даете. Они же реша козарам и рече им Олег. Не давайте козарамъ но мне давайте и вдаша Олгови по шелягоу яко же и козарам и бе облада Олег деревляны поляне и радимичи» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 17). Адсюль вынікае, што радзімічы, як і іншыя ўсходнеславянскія плямёны, мелі сваё самастойнае грамадскае ўладкаванне. Яны павінны былі плаціць даніну спачатку хазарам, а потым кіеўскаму князю Алегу. Можна зрабіць выснову, што радзімічы мепі сваіх племянных правадыроў, вайсковую арганізацыю, здопьную адладзіць свае адносіны з хазарскім каганатам і з кіеўскім князем.

Аб вайсковай здольнасці радзімічаў сведчыць такі летапісны запіс: «В лето 907 Олег на греки Игоря оставивъ в Киеве поя же множество

варягъ и словен и чюди и кривичи и мерю и поляны и северо и деревляны и радимичи и хорваты и дулебы и тиверцы» (ПСРЛ, Т. II. Стб. 21).

Як відаць, для ўдзелу ў паходзе Ігар сабраў вялікае рознаплемянное войска, якое нават не магло змясціцца на караблях. Частка войска рушыла да Царграда на конях. Магчыма, радзімічы таксама плылі на караблях. Дабіўшыся перамогі над Царградам, Алег атрымаў даніну па дванаццаць грыўняў серабра на кожнага ўдзельніка паходу.

Доўгі час радзімічы плацілі даніну кіеўскаму князю, але іншы раз ён вымушаны быў прымяняць супраць іх сілу, каб прымусіць радзімічаў выконваць свае абавязкі. Аб гэтым сведчыць наступны запіс: «В лето 984 иде Володимиръ на радимичи и бе бу него воевода Волчи Хвостъ и посла пред собою Володимиръ Волчия Хвоста и срете радимичи на реце Пищане победи Волчии Хвостю радимичи тем и Русь корятся радимичемъ глюще. Пищаньци Волчья Хвоста бегаютъ быша же радимичи от рода ляховъ и придеша ту веселища и платять дань в Руси и по повозъ везутъ и до сего дне» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 71). Хутчэй за ўсе Волчы Хвост з войскам быў пасланы супраць радзімічаў мінавіта з мэтай прымусу ў сувязі з іх адказам выплочваць кіеўскаму князю даніну або знізіць яе памеры. Але ў гэтым выпадку радзімічы не абмяжаваліся адной толькі выплатай. Пасля гэтага паходу іх тэрыторыя была ўключана ў склад Кіеўскай дзяржавы (Рыбаков, 1982. С. 321; Насонов, 1951. С. 41; Седов, 1982. С. 151—152). Некаторыя даследчыкі лічаць, што ўключэнне тэрыторыі радзімічаў у склад Кіеўскай дзяржавы адбылося ў той час (885 г.), калі радзімічы былі вымушаны плаціць даніну кіеўскаму князю (Очерки по археологии Белоруссии. 1972. Ч. 2. С. 36).

Апошні ўспамін аб радзімічах адносіцца да другой паловы XII ст. У вайне 1169 г. паміж кіеўскім князем Мсціславам Ізяславічам і ўладзіміра-валынскім князем Андрэем Мсціславічам апошні вымушаны быў адступіць і бегчы да Дарагабужа, дзе не атрымаў прыстанішча і падтрымкі, і павінен быў «...анъ суворотятся та на радимичи к Андрееви Суждалю» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 537).

Пасля гэтага радзімічы ні ў якой сувязі не ўпамінаюцца ў летапісах. Тэрыторыя рассялення радзімічаў стала аб'ектам барацьбы князёў за сферы ўплыву. Асноўнымі ўдзельнікамі гэтай барацьбы былі кіеўскія, чарнігаўскія і смаленскія князі.

**Гісторыя вывучэння.** Вывучэнне старажытнасцей радзімічаў пачалося яшчэ ў пачатку XIX ст. У той час і ў першыя дзесяцігоддзі XX ст. вывучалі ў асноўным толькі курганныя старажытнасці радзімічаў. Першым пачаў раскопкі кurганоў радзімічаў Т. Нарбут. З другой паловы XIX ст. у магілёўскім Падняпроўі раскопкі курганоў радзімічаў былі працягнуты М. М. Турбіным, А. С. Уваравым, Д. Я. Самаквасавым, Е. Р. Раманавым. У Навазыбкаўскім раёне на паўднёва-ўсходняй ускраіне рассялення радзімічаў больш трохсот курганоў раскапаў П. М. Яроменка. У 90-я гады XIX ст. курганы радзімічаў вывучаліся У. Б. Антановічам, У. І. Сізовым, М. У. Фурсавым, С. Ю. Чалоўскім. Вынікі раскопак указаных аўтараў у выглядзе дзённікаў і справаздач былі апублікаваны (Антанович, 1898. С. 316—318; Ён жа, 1894а. С. 14—15; Ён жа 1984б. С. 10—11; Сизов, 1890. С. 141; Фурсов, 1892. С. 236—245; Фурсов, Чоловский, 1892; Чоловский, 1893). Каштоўныя матэрыялы раскопак

вялікай колькасці курганоў засталіся амаль страчанымі для навукі. Нават апублікаваныя матэрыялы такіх даследчыкаў, як П. М. Яроменка і Е. Р. Раманаў, якія раскапалі не адну сотню курганоў, не могуць быць паўнацэннымі крыніцамі для наступных пакаленняў даследчыкаў (Еременко, 1896. С. 72—84; Спицин, 1896. С. 84—95; Ён жа, 1896. С. 95—102; Еременко, 1906. С. 87—90; Романов, 1889. С. 129). У той час яшчэ не было выпрацавана адзінай методыкі палявых работ, археалагічнай тэрміналогіі, не звярталі ўвагі на недакладнасць апісання працэсу раскопак. Адсутнасць палявой дакументацыі не дае магчымасці выкарыстаць археалагічныя матэрыялы тых гадоў у неабходнай меры. Менавіта з гэтымі цяжкасцямі сустракаюцца даследчыкі (Рыбаков, 1932. С. 83).

Але, нягледзячы на істотныя недахопы ў метадычным плане, раскопкі курганоў радзімічаў у тыя часы мелі вельмі важнае значэнне для накаплення матэрыялаў. Сур'ёзным у гэтым сэнсе набыткам з'яўляюцца раскопкі С. М. Сакольскага, які напрацягу дваццаці пяці гадоў вывучаў старажытнасці на пагранічны радзімічаў і крывічоў, у Роспаўльскім раёне Смаленскай вобласці.

У паслярэвалюцыйныя гады абследаваннямі і вывучэннем курганоў радзімічаў займаліся беларускія археолагі (Дубінскі, 1928. С. 275—281; Юшчанка, 1930. С. 513—515; Даўгяла, 1927. С. 363—364; Сербаў, 1930. С. 240—241) і бранскія краяведы, якія таксама публікавалі вынікі сваіх даследаванняў. У цэлым да пачатку 30-х гадоў быў час накаплення матэрыялаў аб радзімічах без археалагічных абагульненняў.

Капітальнай працай па гісторыі радзімічаў з'яўляецца публікацыя Б. А. Рыбакова «Радзімічы» (Рыбакоў, 1932. С. 81—151). Гэта першая абагульняючая навуковая праца аб радзімічах. Яна была напісана на падставе летапісных паведамленняў і курганнага матэрыялу, бо матэрыялаў па селішчах і гарадзішчах радзімічаў яшчэ не было. Гэта праца не страціла сваёй высокай навуковай значнасці да цяперашняга часу. Яна з'явілася вялікім укладам у вывучэнне аднаго з буйных усходнеславянскіх плямёнаў. Б. А. Рыбакоў на курганным матэрыяле высветліў пытанне аб паходжанні радзімічаў і межах іх рассялення і выдзяліў сярод пахавальнага інвентару комплекс этнавызначальных жаночых упрыгожанняў, датуючыя рэчы, а таксама рэканструяваў іх сацыяльна-палітычны лад, гаспадарку, рэлігію і мастацтва.

Тым не менш вывучэнне радзімічаў працягвалася. Патрабаваліся новыя матэрыялы, каб пацвердзіць або ўдакладніць вывады Б. А. Рыбакова.

Значную цікавасць уяўляюць раскопкі курганоў на радзіміцка-дрэгавіцкім памежжы. У 1962 г. І. І. Арцёменка раскапаў у трох групах насыпаў каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна (левабярэжжа Дняпра) усходнеславянскія пахаванні XI—XII стст. (Артеменко, Соловьева, 1963. С. 101—104). У адной з груп усходнеславянскія пахаванні былі ўпускнымі ў курганы эпохі бронзы.

На паўднёва-ўсходнім памежжы радзімічаў і крывічоў у 50-я гады В. А. Падзін раскопваў курганы каля в. Кветунь Трубчэўскага раёна Бранскай вобласці, дзе ім было ўскрыта 192 курганы X—XIII стст. Але ім апублікаваны матэрыялы толькі з 35 найбольш багацейшых знаходкамі курганоў (Падин, 1958. С. 218—226; Ён жа, 1976. С. 197—210).

Г. Ф. Салаўёвай у Гомельскай і Магілёўскай абласцях даследавана 203 курганы ў 15 населеных пунктах (вёскі Абакумы, Абідавічы, Бацвінава, Ветачка, Вішанька, Гадзілавічы, Дзям'янкі, Мадора, Новы Крыўск, Прудкі, Старгорад, Ходасавічы, Халапеева, Шапчыцы, Юдзічы). Ёй упершыню ўдалося выявіць помнікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., а таксама наяўнасць у пахаваннях XI—XII стст. «вогненнага» кальца. Мяркуючы па пахавальным інвентары, адны з іх Г. Ф. Салаўёва звязвае са славянамі (Дзям'янкі і, верагодна, Вараніно), іншыя (Царковішча, Прудnікі) — хутчэй за ўсё з літоўскімі плямёнамі (Соловьева, 1966. С. 253). Большасць атрыманага ёю матэрыялу апрацавана і апублікавана (Соловьева, 1968. С. 352—356; Яна ж, 1963. С. 95—101; Яна ж, 1967. С. 187—198; Яна ж, 1970. С. 304—305; Яна ж, 1971а. С. 65—66; Яна ж, 1971б. С. 124—132; Яна ж, 1972. С. 50—53; Яна ж, 1970. С. 98—102; Яна ж, 1971. С. 75—89; Яна ж, 1973. С. 23—24).

На падставе вывучэння помнікаў на тэрыторыі рассялення радзімічаў у Пасожжы і Верхнім Падняпроўі Г. Ф. Салаўёвай удалося пацвердзіць думку Б. А. Рыбакова аб выдзяленні сярод радзімічаў васьмі племянных груп. Кожная з іх мае свае спецыфічныя рысы, якія вылучаюць яе сярод іншых племянных груп. Унесла Г. Ф. Салаўёва свой уклад у вывучэнне і ўдакладненне межаў рассялення радзімічаў. Выяўленне і вызначэнне ранніх помнікаў трэцяй чвэрці і канца 1-га тысячагоддзя н. э. дало Г. Ф. Салаўёвай магчымасць вырашаць пытанне аб паходжанні гэтага племя і аб часе яго з'яўлення на вызначанай тэрыторыі. Апрача таго, Г. Ф. Салаўёва ўпершыню пачала вывучаць пасяленні радзімічаў, без чаго немагчыма аднавіць гісторыю ні аднаго народа (Соловьева, 1969, С. 111—113).

У. У. Багамольнікаў з 1973 г. на тэрыторыі радзімічаў раскапаў 57 курганоў. На падставе вывучаных ім матэрыялаў з 918 курганоў была зроблена класіфікацыя і параўнальная характарыстыка пахавальнага абраду, распрацавана храналогія старажытнасцей радзімічаў, удакладнены межы рассялення радзімічаў і пытанні аб тыпалогіі племянных сяміпрамянёвых скроневых кольцаў, этнавызначальных упрыгожанняў радзімічаў. Выяўленне этнаграфічных асаблівасцей жаночага касцюма радзімічаў з такой паўнатой упершыню зроблена У. У. Багамольнікавым. Ён лічыў, што жаночы касцюм уключаў у сябе спалучэнне ў розных варыянтах сяміпрамянёвых і пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, дробны бісер, залачоныя шкляныя пацеркі і розныя падвескі (лунніцы, крыжыкі і інш.)

Вынікі сваіх даследаванняў, зробленыя на падставе вывучэння матэрыялаў радзімічаў, былі апублікаваны У. У. Багамольнікавым (Багамольнікаў, 1976. С. 39—40; Ён жа, 1977а. С. 88—96; Ён жа, 1977б. С. 106—109; Ён жа, 1977в. С. 35—36; Ён жа, 1979. С. 66—72; Ён жа, 1982. С. 98—103; Ён жа, 1983. С. 32—34; Ён жа, 1985. С. 30—31; Ён жа, 1989. С. 96—98). У адрозненне ад іншых даследчыкаў (Рыбакоў, 1932. С. 239; Соловьева, 1956. С. 156—159; Алексеев, 1980. С. 42) У. У. Багамольнікаў не бачыць падстаў для выдзялення сярод пахавальнага інвентару радзімічаў лакальных груп, адпаведных першапачатковым плямёнам, уваходзіўшых у склад радзіміцкага племяннога саюза (Богомольников, 1988. С. 14). Зусім адмаўляць наяўнасць лакальных груп у радзімічаў няма падстаў.

Гаворка можа ісці толькі аб колькасным складзе гэтых груп. Магчыма, у будучым у гэта пытанне будуць унесены адпаведныя карэктывы.

Я. Г. Рыер з 1979 г. вёў раскопкі курганоў каля вёсак Эсьмоны Бялыніцкага і Калодзецкая Касцюковіцкага раёнаў Магілёўскай вобласці. Ён сістэматызаваў вынікі раскопак 417 курганоў з 93 могільнікаў Магілёўшчыны. Ім праведзены раскопкі на васьмі са ста вядомых па пад'ёмных матэрыялах селішчах (Риер, 1983. С. 137—141). На падставе вывучэння керамічнага матэрыялу Я. Г. Рыер зрабіў класіфікацыю 68 паселішчаў вывучаемай тэрыторыі.

У 1977—1985 гг. курганныя старажытнасці радзімічаў вывучала экспедыцыя БДУ імя У. І. Леніна пад кіраўніцтвам В. Н. Рабцэвіча і А. М. Плавінскага. Імі было вывучана 55 курганоў у Рагачоўскім раёне Гомельскай вобласці (вёскі Ветачка, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Цагельня, Юдзічы). Даследчыкамі праведзена работа па вывучэнню ранніх курганоў радзімічаў, якія дакладна датаваны па знойдзеных у іх матэрыялах. У кургане каля в. Юдзічы была выяўлена падвеска, якая зроблена з сярэбранай манеты X ст. (арабскі дырхем). Каля в. Каласы пад курганамі XI—XII стст. імі быў знойдзены грунтавы могільнік VII—VIII стст. Выяўленыя ў ім гліняныя гаршкі адносяцца да культуры VI—VIII стст. тыпу Тушамлі—Банцараўшчыны (Плавинский, 1988. С. 144). Гэта адкрыццё дае магчымасць атрымаць уяўленне аб часе і этнічнай прыналежнасці насельніцтва, якое жыло тут да прыходу радзімічаў.

З 1983 г. А. А. Макушнікаў даследуе гісторыю насельніцтва Пасожжа з пачатку фарміравання і развіцця ў радзімічаў феадальных адносін і да з'яўлення на гэтай тэрыторыі гарадоў. Ён вядзе раскопкі сельскіх і гарадскіх паселішчаў, а таксама і могільнікаў. Даследчык зрабіў выснову, што ў паўднёвай частцы Беларускага Падняпроўя жыло насельніцтва дзвюх этнакультурных груп — калочынскай і ўсходнеславянскай, якія з'яўляюцца тут у VIII—IX стст. і існуюць да IX—X стст., калі на змену ім прыходзіць старажытнаруская культура. А. А. Макушнікаў лічыць, што асноўная частка помнікаў VIII—X стст. пакінута радзімічамі (Макушников, 1987. С. 18—19). Сярод мноства археалагічных помнікаў Ніжняга Пасожжа і прылягаючых да яго ўчасткаў басейна Дняпра ён выдзяляе менавіта тыя, якія напярэдадні ўтварэння старажытнарускай дзяржавы належалі радзімічам. Ім быў вывучаны характар паселішчаў насельніцтва ўказанага рэгіёна, асаблівасці жылых і гаспадарчых пабудоў, прадметаў побыту, пахавальнага абраду. А. А. Макушнікаву ўдалося паказаць, што на даследаванай ім тэрыторыі ў VIII ст. на змену помнікам калочынскага тыпу прыходзяць помнікі, якія набліжаюцца да роменскіх. Даследчык пацвярджае гэта зменай у насельніцтва разглядаемай тэрыторыі жыллёвых пабудоў, керамічных вырабаў, пахавальнага абраду. Атрыманыя матэрыялы дазволілі яму выказаць абаснаваны вывад аб тым, што ў канцы 1-га тысячагоддзя н. э. Ніжняе Пасожжа і прылягаючая да яго тэрыторыя была заселена радзімічамі (Макушников, 1987. С. 19). Аб гэтым сведчаць курганныя пахаванні без урнаў з трупаспаленнямі ў баку ад месца насыпання кургана. Апрача таго, на двух паселішчах X ст. каля в. Нісімкавічы Чачэрскага раёна ім былі знойдзены этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні радзімічаў — язычковыя і петлепадобныя падвескі.

З 1986 г. А. А. Макушнікаў вядзе паспяховыя раскопкі старажытнага Гомеля. Атрыманыя вынікі далі магчымасць зусім па-новаму вырашаць праблему аб часе ўзнікнення гарадоў на тэрыторыі рассялення радзімічаў.

**Паходжанне радзімічаў.** Доўгі час вучоныя падзялялі думку летапісца аб ляшскім паходжанні радзімічаў. У наш час гэтай думкі мала хто прытрымліваецца. На яе баку былі польскія вучоныя Ф. Буяк і Я. Тышкевіч. Аднак іх грунтаванне польскага паходжання радзімічаў аказалася беспадстаўным і не было прызнана. Яшчэ ў пачатку XX ст. Я. Ф. Карскі на прыкладах лінгвістыкі даказаў беспадстаўнасць думак тых вучоных, якія на лінгвістычных прыкладах імкнуліся даказаць ляшскае паходжанне радзімічаў. Ён пераканаўча засведчыў самастойнае развіццё беларускай мовы і выказаў меркаванне аб тым, што раней радзімічы жылі недалёка ад ляхаў (Карский, 1903. С. 71—72). Гэта меркаванне аказалася жыццяздольным, а з цягам часу з'яўляліся доказы. У сярэдзіне 20-х гадоў чэшскі вучоны-славіст Л. Нідэрле пацвердзіў такое заключэнне і адзначыў, што выраз летапісца «пришли от ляхов» трэба разумець, што прыйшлі яны ад польскіх межаў (Нидерле, 1956. С. 161—162). Летапісец указвае не на этнічную прыналежнасць радзімічаў, а на тэрыторыю, па суседству з якой яны жылі.

Г. Ф. Салаўёва звярнула ўвагу на заключэнне лінгвістаў аб агульнасці назваў Пасожжа і Прыднястроўя і прыйшла да высновы, што няма падстаў весці паходжанне радзімічаў ад ляхаў (Соловьева, 1958. С. 357). З думкай аб тым, што першапачатковую тэрыторыю радзімічаў трэба шукаць у Прыднястроўі, згодзен В. В. Сядоў (Седов, 1970. С. 143).

Закранаючы пытанне аб паходжанні радзімічаў, яшчэ ў 30-я гады Б. А. Рыбакоў разумеў, што аднаго курганнага матэрыялу для яго вырашэння яўна недастаткова. Ужо ў той час ён меў звесткі аб гарадзішчах на гэтай тэрыторыі, што давала яму падставу лічыць яе заселенай яшчэ ў дакурганны перыяд, і адзначаў, што змена насельніцтва праходзіла тут мірным шляхам (Рыбаков, 1932. С. 134). У апошні час вывучэнне ўсіх відаў помнікаў (курганоў, гарадзішчаў, паселішчаў) дае магчымасць сцвярджаць, што ў Ніжнім Пасожжы і прылягаючых да яго раёнах Падняпроўя адбылася змена насельніцтва. На падставе адрозненняў у дэталях пахавальнага абраду і матэрыяльнай культуры можна ўпэўніцца, што помнікі гэтага рэгіёна V—VII стст. карэнным чынам адрозніваюцца ад помнікаў VIII—X стст. (Макушников, 1987. С. 18). У этнічных адносінах насельніцтва значнай часткі гэтых помнікаў з'яўлялася радзімічамі (Макушников, 1987. С. 19).

Падабенства прамянёвых радзіміцкіх і роменскіх скроневых кольцаў, факт наяўнасці на ранніх радзіміцкіх помніках ранняй роменскай керамікі сведчаць, што «прарадзімай» радзімічаў трэба лічыць паўночназаходнюю частку роменскай культуры (Шинаков, 1981, С. 17; Шинаков, Гурьянов, 1994. С. 256).

**Тэрыторыя рассялення радзімічаў.** Адным з важнейшых пытанняў гісторыі любога народа з'яўляецца тэрыторыя яго рассялення. Усе даследчыкі ў той ці іншай ступені разглядалі гэта пытанне. Надзвычай важным з'яўляецца пытанне аб межах рассялення радзімічаў. Летапісец лакалізаваў іх па Сажу, а больш падрабязныя межы рассялення радзімі-

*Мал 11 Карта рассялення радзімічаў*

чаў па пісьмовых звестках правесці немагчыма. Археалагічныя матэрыялы, атрыманыя ў выніку раскопак паселішчаў і могільнікаў, дапамагаюць лакалізаваць радзімічаў на больш дакладна вызначанай тэрыторыі, з улікам узаемнага пранікнення з суседзямі Улічваючы недастатковасць пісьмовых паведамленняў, галоўным крытэрыем у вырашэнні гэтага пытання з'яўляюцца археалагічныя матэрыялы, галоўным чынам этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні. Асноўнымі ў гэтым сэнсе жаночымі ўпрыгожаннямі з'яўляюцца сяміпрамяневыя скроневыя кольцы, якія насілі радзімічкі ад аднаго да васьмі штук (вескі Дзям'янкі, курган № 3, Юдзічы, курган № 17). Дэталевае вывучэнне сяміпрамяневых скроневых кольцаў (Шинаков, 1980. С. 110—127) дало падставы спрадвечна радзіміцкімі лічыць кольцы з гладкім шчытком і сямю промнямі. Апрача сяміпрамяневых скроневых кольцаў Б. А. Рыбакоў да этнавызначальных упрыгожанняў адносінаў рознай формы падвескі — біэліпсоідныя (мал. 12:22), язычковая (мал. 12:9), а таксама пласцінкавыя грыўні (Рыбаков, 1932. С 99). З улікам распаўсюджання этнавызначальных рэчаў Б. А. Рыбакоў у асноўным правільна акрэсліў межы рассялення радзімічаў (Рыбаков, 1932, С 153). Суседзямі радзімічаў на захадзе былі дрыгавічы. Далей мяжа рассялення радзімічаў паварочвала на ўсход і перасякала Днепр, Сож, Сноў, затым на ўсход ад г Стара-

дуба праходзіць паміж ім і правым берагам Судасці. На паўднёвым усходзе суседзямі радзімічаў былі северане. На ўсходзе мяжа паміж радзімічамі і вяцічамі ішла некалькі на захад ад правага берага Судасці і выступам даходзіла да Болвы, дзе перасякала Дзясну. На поўначы яна праходзіла на поўдзень ад Гарадка — Мсціслава — Чавус — Новага Быхава. Тут іх суседзямі былі крывічы.

У сувязі з вывучэннем новых помнікаў і атрыманнем новых матэрыялаў межы рассялення радзімічаў былі некалькі ўдакладнены. Апрача таго, В. В. Сядоў да этнавызначальных упрыгожанняў дадаў шыйныя грыўні з заходзячымі разеткападобнымі канцамі (мал. 12:21). Яны часцей за ўсё ў параўнанні з іншымі ўсходнеславянскімі тэрыторыямі сустракаюцца на зямлі радзімічаў, гэта дало падставу даследчыку зрабіць выснову аб іх радзіміцкім паходжанні (Седов, 1970. С. 139—140, рис. 39). Г. Ф. Салаўёва лічыць, што на поўдні і паўночным усходзе або ў тых месцах, дзе па суседству з радзімічамі жылі вяцічы і северане, яны не мелі цвёрдых межаў і мірным шляхам пранікалі на гэтыя тэрыторыі. Радзімічы былі блізкімі па матэрыяльнай культуры да суседніх плямёнаў і не перашкаджалі такому пранікненню. Чаго нельга сказаць аб радзіміцка-крывіцкім памежжы, дзе крывічы ўвесь час адцяснялі радзімічаў. Такі вывад Г. Ф. Салаўёва зрабіла на падставе вывучэння на тэрыторыі радзімічаў населеных пунктаў, сугучных назве «крывічы». Каля в. Новы Крыўск курганы X—пачатку XI ст. пакінуты радзімічамі, а XI—XII стст.— крывічамі. Гэта тлумачыцца пранікненнем крывічоў на тэрыторыю радзімічаў (Соловьева, 1968. С. 355—356) і пацвярджаецца тыповымі радзіміцкімі знаходкамі ў курганах паблізу вёсак Абідавічы, Ветачка, Гадзілавічы (Соловьева, 1968. С. 356).

У. У. Багамольнікаў на падставе вывучэння двухсот сяміпрамянёвых кольцаў з гладкім шчытком, у асноўным на матэрыялах Кветуні, некалькі ўдакладніў межы рассялення радзімічаў і асабліва іх кантакты з крывічамі і северанамі (Богомольников, 1983. С. 32—34, рис. 7). Згодна з матэрыялам, знойдзеным В. А. Падзіным каля Кветуні, У. У. Багамольнікаў уключае ў арэал тэрыторыі радзімічаў Трубчэўск. На думку В. А. Падзіна, гэты могільнік з'яўляецца некропалем горада і пакінуты радзімічамі (Падин, 1976. С. 209).

Такім чынам, на паўднёвым усходзе мяжа рассялення радзімічаў праходзіла ў раёне Старадуб — Трубчэўск. На поўначы да радзіміцкай тэрыторыі былі далучаны Мсціслаў і Чавусы. Пашырэнне межаў радзімічаў на поўначы можна пацвердзіць лінгвістычнымі матэрыяламі. Так, аналізуючы ўжыванне слова «радзімец» у Слаўгарадскім раёне, І. Я. Яшкін заўважыў, што яно вельмі часта выкарыстоўваецца ў паўночнаўсходніх гаворках не ў якасці асноўнага, а другараднага слова, а ў іншых месцах гэтага рэгіёна яно выступае як слова-паразіт. Ужываецца яно і ў якасці прыхільнасці або пакарання. Выразы з прымяненнем гэтага слова пашыраны ў Чэрыкаўскім, Крычаўскім, Чавускім, Хоцімскім, Мсціслаўскім і Касцюковіцкім раёнах. Найбольш вядомы выразы: «Ці тут і мой радзімец», «Ідзі ты да радзімцаў», «Якога ты тут радзімца песціла» (Яшкін, 1968. С. 109). Шырокае ўжыванне гэтага слова на тэрыторыі рассялення радзімічаў тлумачыцца тым, што засталіся яны тут з тых далёкіх часоў, калі насельніцтва гэтага рэгіёна ўсведамляла сябе радзі-

мічамі, і таму прыведзеныя выразы дажылі да сённяшніх дзён і перадаюцца праз пакаленні.

Удакладненне паўночнай мяжы радзімічаў пацвярджаецца археалагічным і лінгвістычным матэрыяламі. На захадзе мяжа паміж радзімічамі і дрыгавічамі амаль не змянілася, бо мяжой з'яўляўся Днепр. Як на ўсякім парубежжы, тут мелі месца ўзаемапранікненні адных на тэрыторыю другіх. Бывалі выпадкі, калі радзімічы і дрыгавічы карысталіся адным і тым жа могільнікам. Такое становішча прасочана пры вывучэнні курганоў каля в. Курганне Жлобінскага раёна. Радзімічы выкарыстоўвалі яго ўсходнюю частку, а дрыгавічы — заходнюю (Богомольников, Косолапов, Тарабей, 1975. С. 415). Гэты факт яскрава сведчыць аб мірным суіснаванні двух усходнеславянскіх плямёнаў. А той факт, што кожнае племя хавала сваіх нябожчыкаў з пэўна вызначанага боку могільніка, тлумачыцца тым, што, нягледзячы на агульныя рысы паміж усходнеславянскімі плямёнамі, былі і адметныя, якія патрабавалі ад іх прытрымлівацца строга ўстаноўленых правіл. У раёне крывіцка-радзіміцкага памежжа назіраецца паступовае пранікненне крывічоў на радзіміцкую тэрыторыю.

**Пахавальны абрад.** Пахавальны абрад спалення і пахаванне рэшткаў з пахавальнага вогнішча ў посудзе «на столпе на путех», аб якіх паведамляе летапісец, увесь час былі археалагічна невядомы. Тлумачыцца гэта тым, што бескурганныя пахаванні з трупаспаленнем вельмі нетрывалыя, таму і не захоўваюцца. Але ў 1982 г. на зямлі радзімічаў каля в. Нісімкавічы-1 удалося знайсці такія пахаванні на паселішчы калочынскай культуры. Выяўлены пахаванні з трупаспаленнем у баку, рэшткі якіх былі ссыпаны ў круглыя ямкі, а таксама знойдзены рэшткі пахавальнага вогнішча, рассыпанага на старажытнай дзённай паверхні. Як грунтавыя, так і рэшткі, рассыпаныя па паверхні зямлі пахаванняў, датаваны канцом X ст. і звязаны з бескурганным абрадам «на столпе». Першапачаткова гэтыя пахаванні мелі «столпы»-дамавіны, а пасля таго, як яны згнілі, рэшткі рассыпаліся па зямлі (Макушнікаў, 1996. С. 168—185; Макушников, 1999. С. 140—142).

Але ў VIII—X стст. на радзіміцкай тэрыторыі з'яўляюцца пахаванні з трупаспаленнем пад курганным насыпам.

Вывучэнне курганоў радзімічаў дазваляе аднавіць пахавальны абрад, прасачыць яго развіццё і змену. Курганы радімічаў маюць круглую форму вышынёй 0,2—1,5 м, дыяметрам 6—10 м. Зрэдку пясчаныя насыпы дасягаюць вышыні 3 м. Па колькаснаму складу адзначаюць адзінкавыя курганы, часцей іх бывае да некалькі дзесяткаў насыпаў. Зрэдку колькасць курганоў у групе дасягае да двухсот — чатырохсот. Вялікія па колькасці курганныя могільнікі звязаны з гарадскімі некропалямі. Так, каля в. Гадзілавічы паблізу Рагачова раней было да 400 курганоў. Г. Ф. Салаўёва лічыць гэты могільнік некропалем Рагачова (Соловьева, 1972. С. 53). У адрозненне ад сельскіх жыхароў гараджане мелі некалькі рознаэтнічных могільнікаў. Жыхары Рагачова — радзімічы па паходжанню — хавалі сваіх нябожчыкаў каля в. Гадзілавічы, а паляне, якія паходзілі з кіеўскай зямлі, зрабілі свой некропаль каля сучаснай вёскі Ходасавічы (Соловьева, 1972. С. 53). Каля в. Кветунь Трубчэўскага раёна Бранскай вобласці адзначаны курганны могільнік, які некаторыя

даследчыкі не толькі звязваюць з радзімічамі (Падин, 1976. С. 209—210; Богомольников, 1986. С. 94), але і лічаць гарадскім некропалем Трубчэўска. Першапачаткова ў некалькіх групах налічваліся тысячы курганоў. Пытанне аб этнакультурнай прыналежнасці гэтых курганоў канчаткова не вырашана. Ёсць меркаванне, што гэты могільнік належыць северанам (Шинаков, 1987. С. 195; Сухобоков, Юренко. 1988. С. 91). Другія даследчыкі лічаць, што разглядаемы могільнік — могільнік апорнага пункта «Рускай зямлі» (Моця, 1988. С. 95). Пакуль дакладна вядома, што ён з'яўляецца гарадскім, і таму для яго, як і для могільніка пад Рагачовым, характэрна поліэтнічнасць. На ім выяўлены курганы радзімічаў, вяцічаў, северан (Шинаков, Гурьянов, 1994. С. 257; Шинаков, Гурьянов, Миненко, 1998. С. 143—145).

Як ужо было адзначана, у VIII—X стст. у радзімічаў існаваў абрад трупаспалення, над рэшткамі якога насыпалі курган. Трупаспаленне праводзілі на месцы, на пясчанай падсыпцы вышынёй 0,35—0,5 м. У асобных выпадках вышыня падсыпкі дасягала аднаго і нават двух метраў (в. Краснаполле). Іншы раз у пахаваннях з трупаспаленнем удаецца прасачыць рэшткі драўляных збудаванняў, якія мелі форму дамавіны або простага драўлянага слупа. Каля вёскі Дзям'янкі Г. Ф. Салаўёвай удалося раскапаць курганы з трупаспаленнем, у якіх рэшткі пахаванняў былі змешчаны ў ямах дыяметрам 38—44, глыбінёй 25—34 см. У адным кургане разам з кальцыніраванымі касцямі знойдзена спражка і трохгранны наканечнік стралы VI—VIII стст. У другім кургане на гарызонце былі расчышчаны тры ляпныя гаршкі, два з якіх падобны на гаршкі з Тушамлі і Абідні, трэці — усходнеславянскі (Соловьева, 1967. С. 189). В. В. Сядоў не згодны з такой трактоўкай. Ён лічыць, што Г. Ф. Салаўёвай ускрыты ранні грунтавы могільнік з трупаспаленнем, а потым у XI ст. на яго месцы былі насыпаны курганы радзімічаў (Седов, 1970. С. 134). На самай справе ў двух курганах Г. Ф. Салаўёвай былі знойдзены рэшткі пахаванняў па абраду трупаспалення на гарызонце. А ў трэцім кургане, на думку В. В. Сядова, касцяк не захаваўся (Седов, 1970. С. 134). Але калі нават аднесці ўсе гэтыя пахаванні з трупаспаленнем да даславянскага насельніцтва, хаця адзін усходнеславянскі гаршчок ёю ўсё ж быў знойдзены ў кургане № 2, то іншыя ўскрытыя на гэтым могільніку Г. Ф. Салаўёвай пахаванні X ст. бясспрэчна славянскія. Так, у кургане № 4 Г. Ф. Салаўёва выявіла жаночае пахаванне, зробленае на месцы па абраду трупаспалення. У цэнтры кургана расчышчана вогнішча з перапаленымі касцямі. Пад вогнішчам выяўлены рэшткі чатырох спаленых драўляных слупоў. У заходняй частцы пахавання знойдзены косці чэрапа і скроневыя кольцы, што дае падставу вызначыць заходнюю арыенціроўку нябожчыцы. Тут жа адзначаны рэшткі разбітага глінянага посуду, які даў магчымасць датаваць гэты курган дакладна X ст. (Соловьева, 1967. С. 190). У кургане № 9 на гэтым могільніку ўскрыта пахаванне, зробленае па абраду трупаспалення ў баку. На гарызонце ў цэнтры кургана была расчышчана попельна-вугальная пляма з рэшткамі перапаленых касцей. У паўднёвай частцы пахавання знойдзены рэшткі абпаленага драўлянага слупа.

З 35 раскапаных В. А. Падзіным курганоў каля в. Кветунь у 9 знойдзены пахаванні па абраду трупаспалення. Ёсць выпадкі спальвання

нябожчыка дзесьці непадалёку ад месца, куды потым прыносілі рэшткі пахавальнага вогнішча і насыпалі курган. Сярод рэштказ пахавальнага вогнішча В. А. Падэіну траляліся непашкоджаныя агнём рэчы нябожчыкаў. На гэтай падставе ён робіць вывад, што перад спальваннем пахавальны інвентар знаходзіўся далёка ад агню і толькі пасля таго, як было зроблена спальванне нябожчыка і рэшткі з вогнішча былі сабраны і рассыпаны на гарызонце будучага насыпу, рэчы былі прынесены і пакладзены разам з кальцыніраванымі касцямі. Сярод касцей трапляліся і некранутыя вогнішчам асобныя косткі, напрыклад, фалангі пальцаў, пазванок (Падин, 1976. С. 198).

Раннія курганы з трупаспаленнем адкрыты Г. Ф. Салаўёвай каля в. Вараніно. У курганах № 8, 9 рэшткі спальвання нябожчыкаў былі прынесены на месца будучага кургана і рассыпаны ў выглядзе круга дыяметрам 0,5—0,6 м, таўшчынёй 7—10 см. У кургане № 8 сярод попелу, вуголля і перапаленых касцей знойдзены развал ляпнога гаршка, а ў кургане № 9 выяўлена бочкападобная пацерка. У кургане № 11 яна расчысціла рэшткі драўлянага збудавання прамавугольнай формы памерамі 0,84×0,58 м. Вышыня гэтай пабудовы складала 30 см. Усе тры курганы Г. Ф. Салаўёва датуе VII—IX стст. (Соловьева, 1965. С. 19). Той факт, што гэтыя пахаванні пакінуты менавіта радзімічамі, бясспрэчны, бо ў больш позні час, у X ст., яны хавалі сваіх сародзічаў з дэталёвым захаваннем усіх рыс абраду, якія зафіксаваны даследчыцай у апісаных вышэй курганах. Рэшткі пахавальнага вогнішча рассыпалі ў выглядзе круга з наступным насыпаннем кургана ці змяшчалі рэшткі нябожчыка ў дамавіну і спальвалі, а затым хавалі ў падкурганным насыпе. Радзімічы іншы раз пры абрадзе трупаспалення выкарыстоўвалі дамавіны. Такія выпадкі зафіксаваны ў кургане № 4 каля в. Дзям'янкі. Г. Ф. Салаўёвай даследавана пахаванне з трупаспаленнем жанчыны ў дамавіне на чатырох слупах вышынёй 8—10 см і памерамі 1,3×1,1 м. Яна лічыць, што спальванне праходзіла на адным месцы, а потым рэшткі нябожчыка змяшчалі ў дамавіну, прыносілі на месца будучага кургана, спальвалі дамавіну і насыпалі курган. Гэта пахаванне надзейна датавана не толькі абрадам пахавання, але і знаходкамі. У цэнтры дамавіны быў уваткнуты ранняй формы жалезны серп, сярод спаленых рэштказ выяўлены пасярэбраныя і залачоныя бочкападобныя пацеркі (Соловьева, 1967. С. 196). Зафіксаваны выпадкі, калі абрад трупаспалення праводзіўся наступным чынам: калоду з нябожчыкам змяшчалі ў спецыяльна для гэтага зробленую лёгкага тыпу дамавіну, а потым падпальвалі яе, затым насыпалі курган. Змешчаная ў дамавіну калода, выяўленая ў кургане № 7 каля в. Бацвінава, мела ў даўжыню 2,2 м, шырыню — 0,5 м. У кургане № 2 каля в. Ветачка па абраду трупаспалення было пахавана два нябожчыкі. Рэшткі першага пахавання былі прынесены з месца спалення і змешчаны на пясчанай падсыпцы, потым праз некалькі гадоў рэшткі другога спаленага нябожчыка былі прынесены сюды і пахаваны ў выкапанай у гэтым жа кургане яме. Дно ямы было выслана дошкамі. Дошкамі было пакрыта і само збудаванне. Пасля змяшчэння ў яго рэштказ нябожчыка збудаванне было падпалена. Знойдзеныя пры першым пахаванні рэчы (бронзавая абкладка кашалька, касцяная рукаятка нажа з цыркульным арнаментам, кавалкі ганчарнага гаршка) далі магчымасць

надзейна датаваць першае пахаванне X ст. Гэтым жа часам трэба датаваць і другое пахаванне, якое было зроблена некалькімі гадамі пазней. Хутчэй за ўсё другі нябожчык прыходзіўся родзічам першаму.

У кургане № 3 каля в. Ветачка ў адным кургане знойдзены рэшткі трох чалавек, пахаваных па абраду трупаспалення. Рэшткі першага пахавання знаходзіліся на пясчанай падсыпцы вышынёй 0,6 м. Яны змяшчаліся ў драўляным спаленым збудаванні памерам 1,6×1 м. У паўночна-ўсходнім сектары кургана расчышчана попельна-вугальная пляма магутнасцю 4 см з перапаленымі касцямі (1,7×1,38 м). На адлегласці аднаго метра на паўночны ўсход ад гэтага пахавання была расчышчана круглай формы пляма дыяметрам 94 см, у якой сустракаліся перапаленыя косці. Паміж гэтымі пахаваннямі стаялі два раннеганчарныя гаршкі X ст. Усе тры пахаванні былі зроблены ў X ст. адначасова.

У XI ст. у радзімічаў, як і ў іншых усходнеславянскіх плямёнаў, адбываецца змена пахавальнага абраду. Існуючы абрад трупаспалення паступова замяняецца абрадам трупапалажэння. Змена абраднасці была выклікана зменай рэлігіі, калі ў 988 г. кіеўскім князем Уладзімірам было прынята хрысціянства, якое стала распаўсюджвацца на тэрыторыю ўсёй старажытнай Русі. Большасць пахаванняў XI ст. зроблена ўжо па абраду трупапалажэння. Але радзімічы, як і іншыя ўсходнеславянскія плямёны, не маглі адразу адмовіцца ад прымянення агню пры пахаванні. Перад пахаваннем радзімічы старанна выпальвалі на зямлі круглай або няправільнай формы пляму і рабілі пахаванне на вогнішчы або попельна-вугальным пласце (в. Дзям'янкі, курганы № 5—8, 12, 17, 21, 25, 27—31; в. Бацвінава, курганы № 7—8, 11—12, 14—15; в. Мадора, курганы № 3, 6; в. Студзёная Гута, курганы № 1, 12; в. Гадзілавічы, курганы № 6—9; в. Гадзілавічы (лясная група), курганы № 7—9, 15, 17, 19; в. Ветачка-3, курганы № 5—6; в. Ветачка-4, курганы № 4—5, 11; в. Старгорад, курган № 2; в. Шапчыцы, курган № 3).

Большасць пералічаных кургаоў мела пад насыпамі пласт пракаленай зямлі ад 10 да 20 см. Але сярод іх ёсць і такія, дзе замест разнядзення вогнішча на месца будучага кургана падсыпалі пласт прынесенага сюды попелу, які, мяркуючы па апісанню Г. Ф. Салаўёвай, быў тонкі і ачышчаны ад вугалля (Ветачка-4, курган № 11). Аднак трэба падкрэсліць, што прынесены попел быў таксама насыпаны з мэтай ачышчэння месца і выконваў тую ж ролю, што і вогнішча.

Пры абрадзе трупапалажэння пахаванні праводзіліся ў дамавінах, калодах, трунах. Безумоўна, гэта не ўсюды ўдаецца прасачыць, паколькі дрэва без слядоў агню ў пяску вельмі дрэнна захоўваецца, але такія выпадкі ёсць. Іншы раз, асабліва на першых парах пасля прыняцця хрысціянства, дамавіны і калоды нясуць на сабе сляды агню. Каля в. Гадзілавічы (лясная група), у кургане № 6 Г. Ф. Салаўёва выявіла драўляны абпалены зруб (дамавіну), які зверху быў накрыты дошкамі. Дакладная датыроўка змены абраду трупаспалення абрадам трупапалажэння была ўстаноўлена знаходкамі надзейна датаваных рэчаў. Так, у курганах з трупапалажэннем (в. Дзям'янкі, курганы № 10, 11) Г. Ф. Салаўёвай былі знойдзены раннія рэчы X — пачатку XI ст. Калі курган № 10 быў датаваны на падставе залачоных пацерак, то ў кургане № 11 была знойдзена падвеска, зробленая з сярэбранага саманідскага дырхе-

ма Амад-ібн-Ісмаіла, чаканенага ў 911—912 гг. у Самаркандзе. Менавіта гэта знаходка дазволіла Г. Ф. Салаўёвай датаваць курган канцом X — пачаткам XI ст. (Соловьева, 1967. С. 195).

Пахаванні па абраду трупапалажэння з'явіліся ў радзімічаў вельмі рана. Але яны таксама нясуць на сабе сляды агню. У кургане № 6 каля в. Дзям'янкі доўгая дамавіна (2,8 м) была пастаўлена на 6 слупоў на вогнішча дыяметрам 5—6 м. Дах дамавіны цалкам згарэў і праваліўся, але поўнасцю згарэць ёй не далі, пачалі насыпаць курган (Соловьева, 1967. С. 194). Агонь ахапіў не толькі дамавіну, але і нябожчыка, аднак агонь быў своечасова спынены. Несумненна, гэты курган быў насыпаны ў пераходны перыяд (канец X — пачатак XI ст.) У больш позні час слядоў агню на пахавальных драўляных збудаваннях не заўважана. Пры наяўнасці дамавіны і калоды апошняя ўстаўлялася ў дамавіну, апе ёсць іншыя выпадкі, калі калода шчыльна ставілася да дамавіны. У кургане № 1 каля в. Бацвінава калода да злёгку заглыбленай у зямлю дамавіны была пастаўлена з паўночнага боку. Аналагічнае месцазнаходжанне калоды адносна дамавіны зафіксавана ў кургане № 6 каля в. Шапчыцы. Вядомы выпадкі пахавання нябожчыкаў у трунах (в. Бацвінава, курган № 2, Ветачка-1, курган № 9).

Большасць пахаванняў па абраду трупапалажэння зроблена на гарызонце. Гэта акалічнасць дала падставу Г. Ф. Салаўёвай у 50-я гады выказаць меркаванне, што пахаванні ў падкурганнай яме не характэрны для радзімічаў (Соловьева, 1956. С. 160). У 60-я гады яна ўпэўнілася, што такія пахаванні ёсць. Яны выяўлены ёй каля вёсак Гадзілавічы (лясная група, курганы № 11—13), Старгорад (курган № 5), Мадора, (курган № 3), Дзям'янкі (курганы № 15—16, 19—20, 22—23). Даўжыня магільных ям ад 1,0 да 3,5 м, шырыня — ад 0,6 да 1,1 м, глыбіня — 0,25—0,6 м.

У асобных выпадках прасочаны ровікі глыбінёй 30 см, якія ўтварыліся пры насыпанні курганоў (Дзям'янкі, курганы № 4, 5; Шапчыцы, курганы № 1, 2).

Апрача таго, вакол курганоў зафіксаваны «вогненныя кольцы», што засталіся ад агню, якім быў акружаны курган у час пахавання. Г. Ф. Салаўёва лічыць іх характэрнымі для радзімічаў, хаця сустракаюцца яны на іх тэрыторыі не так ужо часта (Бацвінаўка, курган № 7; в. Ветачка-4, курган № 18; в. Гадзілавічы, курган № 16; в. Дзям'янкі, курган № 3; в. Мадора, курган № 1; в. Шапчыцы, курган № 2; в. Юдзічы, курган № 1).

У асобных выпадках «вогненныя кольцы» прасочаны непасрэдна вакол пахаванняў (Гадзілавічы-1, курганы № 1—5; Шапчыцы, курган № 1). Несумненна, у час пахавання вакол набожчыка спальвалі сухое галлё. Курган насыпалі пасля яго поўнага спальвання. Прызначэнне «вогненнага кальца» як вакол кургана, так і вакол пахавання адно і тое ж — ачышчэнне месца для пахавання нябожчыка. Гэта рыса пахавальнага абраду вядзе свой пачатак з язычніцкіх часоў. У перыяд, калі радзімічы хавалі нябожчыкаў па абраду трупаспалення не на месцы спальвання, яны змяшчалі рэшткі з пахавальнага вогнішча на ачышчаную агнём зямлю і толькі пасля гэтага насыпалі курган.

Звычайна радзімічы хавалі па адным чалавеку ў кургане, арыентуючы нябожчыкаў галавой на захад. Але сустракаюцца і двайныя пахаванні (Бацвінава, курган № 11; в. Гадзілавічы, курган № 11; в. Вішанька, курган № 4; в. Шапчыцы, курган № 5). На тэрыторыі радзімічаў часцей за іншыя ўсходнеславянскія тэрыторыі сустракаюцца пахаванні з усходняй арыенціроўкай. Пераважна галавой на ўсход арыентаваны памерлыя ў мужчынскіх пахаваннях, жаночых пахаванняў з усходняй арыенціроўкай у радзімічаў менш. В. В. Сядоў тлумачыць такое становішча пераманнем гэтай дэталі пахавальнага абраду ад папярэдняга абарыгеннага балцкага насельніцтва, для якога падобная арыенціроўка з'яўлялася звычайнай. Г. Ф. Салаўёва, асабліва пасля вывучэння ёй могільніка каля в. Бацвінава, дзе ўсе мужчынскія пахаванні, за выключэннем двух, мелі заходнюю арыенціроўку, а ў парных пахаваннях калі-нікалі жаночыя пахаванні былі арыентаваны галавой на ўсход, растлумачыла гэта сувязямі з Літвой і Латвіяй (Соловьева, 1982. С. 80). Апрача ўсходняй арыенціроўкі тут яна ў мужчынскіх пахаваннях знаходзіла балцкія рэчы, а ў жаночых — радзіміцкія. Бліжэй за ўсё да ісціны ў рашэнні гэтага пытання стаіць В. В. Сядоў, паколькі аднымі сувязямі гэтую з'яву растлумачыць нельга. Вядома, што папярэдняе насельніцтва, якое жыло тут да прыходу радзімічаў, пакінула помнікі тыпу Калочына і Банцараўшчыны-Тушамлі. Абедзве гэтыя культуры самастойныя, але ў іх , на думку В. В. Сядова, ёсць агульныя рысы. Відавочна, што радзімічы налажыліся на мясцовы балцкі этнакультурны пласт і ўспрынялі ўплыў на сваю матэрыяльную культуру. Гэта можна прасачыць на рэчавым матэрыяле. Яшчэ ў 30-я гады Б. А. Рыбакоў меркаваў, што вытокі радзіміцкіх грыўняў трэба шукаць у балцка-фінскім асяроддзі, і нават у балцкім больш падабенства (Рыбаков, 1932. С. 91).

**Пахавальны інвентар.** Пахавальны інвентар у радзімічаў багаты і разнастайны. Асаблівым багаццем адзначаюцца жаночыя пахаванні. Мужчынскія — намнога бяднейшыя. Звычайна іх суправаджаюць гаршкі, нажы, крэсівы, паясныя кольцы і спражкі. Пахаванні дружыннікаў ад звычайных мужчынскіх пахаванняў адрозніваюцца большай колькасцю знаходак. Чатыры такія пахаванні раскапаны А. В. Падзіным каля в. Кветунь. Асабліва трэба вызначыць на гэтым могільніку курган з трупапаленнем, у якім сярод перапаленых касцей былі знойдзены дзве баявыя сякеры.

Багаты пахавальны жаночы інвентар быў дасканала прааналізаваны Б. А. Рыбаковым (Рыбаков, 1932, С. 82—97), таму неабходна спыніцца толькі на самым характэрным і новым матэрыяле, асабліва на яго дэталізацыі і дадатковых звестках. Гэта выклікана яшчэ і тым, што ў апошнія гады ў тыпалагічную класіфікацыю пахавальнага інвентару радзімічаў унесены некаторыя змяненні (Багамольнікаў, 1988. С. 9—10). Аснову жаночага галаўнога ўбора складалі сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, якія жанчыны насілі ад аднаго (Ветачка-4, курган № 11; Ветачка-5, курган № 1; Бацвінава, курганы № 2, 11) да васьмі (Дзям'янкі, курган № 3; Юдзічы, курганы № 1, 7) штук. У першых двух выпадках знаходзілася па чатыры кальцы з кожнага боку, у другім — тры з правага, пяць — з левага. У кургане № 9 каля в. Ветачка-4 чатыры такія кальцы знаходзіліся злева, тры — справа, якія былі звязаны разам скураным раменьчыкам.




*Мал. 12. Рэчавы матэрыял з пасялення і курганоў ля в. Нісімкавічы: 1—7 — званочкі, 8, 9, 13—14, 21, 24, 28 — прывескі, 10, 12 — накладкі, 11 — наканечнік шыйнай грыўні, 16. 18, 27 — фібулы, 19, 22 — сяміпрамяневыя скроневыя кольцы, 20 — складная брытва, 23 — фібула з язычком у выглядзе мужчыны з барадой, 25 — паясное кальцо, 26 — бранзалет*




*Мал. 13. Пахавальны інвентар з курганоў радзімічаў: 1—8 — пярсцёнкі; 9—16 — бранзалеты; 17, 19, 20, 25 — пацеркі; 18 — красапа; 21, 23 — шыйныя грыўні; 22, 23, 33—41 — прывескі; 26 — цуглі; 27—29 — спражкі; 30—31 — фібулы; 32 — яйка-пісанка*

Характэрнай асаблівасцю касцюма радзімічкі з'яўляюцца каралі са шкляных пацерак у шматлікіх спалучэннях з падвескамі самай featureпрознай формы. Найбольш распаўсюджанымі пацеркамі з'яўляўся бісер, і ў большасці сваёй зялёнага колеру. Знойдзены таксама пасярэбраныя і залачоныя пацеркі, іншы раз да 150 штук пры адным пахаванні (Дзям'янкі, курган № 3) featureрознай формы (бочкападобныя і цыліндрычныя). Ёсць выпадкі, калі пры адным пахаванні знаходзіліся адзінкавыя пацеркі. Так, у кургане № 4 каля в. Дзям'янкі іх было толькі восем штук. У багатых жаночых пахаваннях выяўлялі па некалькі караляў. У кургане № 3 каля в. Шапчыцы-1 пры адным пахаванні знойдзена тры рады дробнага бісеру, два рады шкляных пацерак featureрознай формы і адзін рад манетападобных сярэбраных падвесак. Каралі з кургана № 3 каля в. Бацвінава здзіўляюць разнастайнасцю формаў уключаных у іх

падвесак. Іх аснову складае бісер, які быў перамежаваны шасцю лунніцамі, рознай формы падвескамі, з якіх шэсць язычковай формы, сем пятлістай і чатыры гронкападобнай. У адным разбураным кургане каля в. Калодзецкая Я. Г. Рыерам былі сабраны 64 прадметы, якія складалі касцюм заможнай жанчыны. У склад набору ўпрыгожанняў уваходзілі шыйныя грыўні, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, падвескі, спражкі ў выглядзе зоркі, шкляныя і сердалікавыя пацеркі.

У кургане Ветачка-4 выяўлены каралі, якія складаліся з 198 дробных бронзавых пацерак і 54 білонавых кроплепадобных прывесак, што былі перамежаваны шклянымі пацеркамі. У цэнтры паміж бронзавымі пацеркамі былі размешчаны тры злёгку перавітыя нізкі бісеру і сем лунніц. Сярод металічных падвесак сустракаюцца прывескі э выявай галавы быка. Чатыры такія падвескі знойдзены ў кургане № 4 каля в. Гадзілавічы (лясная група). Апрача іх у гэтых каралях меліся тры зярнёныя рыбападобнай формы падвескі. Званочкі з бронзы таксама ўваходзілі ў каралі радзімічак з даўніх часоў (мал. 12:1—7).

У кургане № 18 з трупаспаленнем капя в. Гадзілавічы разам з кавалкамі ляпнога гаршка знойдзены каралі, у якія ўваходзілі 18 бронзавых званочкаў і больш 80 штук бісеру. Абрад трупаспалення і ляпная кераміка сведчаць аб ранняй даце насыпання гэтага кургана.

Шыйныя грыўні адрозніваюць радзімічак ад жанчын іншых усходнеславянскіх плямёнаў. Яны мелі рознуе форму — пласцінкавую або ромбападобную ў сячэнні. Канцы шыйных грыўняў таксама былі розныя, у тым ліку мелі форму, калі адзін з іх заходзіць за другі. Вітая бронзавая грыўня з 14 зубчыкамі-засцежкамі знойдзена ў кургане № 2 (Ветачка-4), з заходзячымі канцамі — у кургане № 9 (Ветачка-4), двухскатнапласцінкавыя са шматграннікамі на канцах — у кургане № 1 (Бацвінава).

Гліняныя цэлыя гаршкі па адным, зрэдку — па два ставілі каля ног нябожчыкаў (Ветачка-2, курган № 16; Ветачка-4, курганы № 7, 13; Гадзілавічы, курган № 16, пах. 1, 17; Шапчыцы, курганы № 1, 3), іншы раз гаршкі стаялі каля галавы (Бацвінава, курган № 4; Дзям'янкі, курган № 4) і ў насыпе кургана (Бацвінава, курганы № 3, 11, 13; Шапчыцы, курган № 2). Каля в. Халапеева ў насыпе кургана № 4 выяўлены мініяцюрны гліняны кубачак дыяметрам 4,5 і вышынёй 2 см.

Частай знаходкай як у мужчынскіх, так і ў жаночых пахаваннях радзімічаў з'яўляюцца нажы. У некаторых мужчынскіх пахаваннях зрэдку траляліся па два нажы (Бацвінава, курганы № 4, 8). Адзін з нажоў з кургана № 8 быў у ножнах э меднымі накладкамі і з арнаментаванай рукаяццю на доўгім бронзавым ланцужку.

З унікальных знаходак трэба назваць бязмен (Гадзілавічы, курган № 16), складаную металічную брытву (пасяленне каля в. Нісімкавічы), фібулу з язычком у выглядзе барадатага мужчыны (Нісімкавічы, курган № 19) (мал. 12:23), мініяцюрныя гузікі, пярсцёнкападобныя і пласцінкавыя нашыўкі на галаўны ўбор у выглядзе бляшак (Ветачка-4, курган № 18), 14 касцяных прывесак (Юдзічы, курган № 2) (мал. 14:1—14), керамічную лыжачку-льячку (Юдзічы, курган № 4) (мал. 14:15).



*Мал. 14. Інвентар з курганоў ля в. Юдзічы: 1—14 — падвескі з косці (к. 2); 15 — пьячка (к. 4)*

У курганах радзімічаў сустракаюцца рэчы, якія можна разглядаць у якасці дару нябожчыку. У жаночым пахаванні (Бацвінава, курган № 1) каля левага бядра нябожчыцы знойдзены рэшткі сумкі з тканіны, у якой знаходзіліся бронзавая гірка, шыфернае прасліца і бронзавы званочак. Каля ног жанчыны (Шапчыцы, курган № 3) стаяў ларэц з бісерам. Загорнутыя ў кару бярозы восем рэдкай формы перавітых спіраллю скроневых кольцаў («кудравых») выяўлены ў кургане № 30 каля в. Шапчыцы. Каля в. Каласы ў кургане № 8 у скураным мяшэчку каля пояса жанчыны знаходзіліся 5 шырокарогіх лунніц, бронзавы пярсцёнак і 143 пацеркі бісеру. Адзін дар у сумцы, якая вісела на поясе нябожчыка, знойдзены ў мужчынскім пахаванні. А ў сумку, ад якой захавалася касцяная пласціна з дзвюма адтулінамі і два металічныя колцы, былі пакладзены крэсіва з крэменем і тачыльны брусочак, касцяны грабеньчык у касцяным чахольчыку і нож з касцяной рукаяткай. У двайным жаночым і дзіцячым пахаванні каля в. Ветачка быў знойдзены дар нябожчыцы ў выглядзе 8 бронзавых кольцаў незвычайнай формы, якія былі аб'яднаны адным з кольцаў і перавіты бронзавым дротам, загорнутым у бяросту і пакладзены каля галавы дзяўчынкі 5—6 гадоў.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё радзімічаў.** Вывучэнне паселішчаў і могільнікаў радзімічаў дае падставу зрабіць абаснаваны вывад аб тым, што з'явіліся яны на тэрыторыі Пасожжа і суседніх з ім землях Падняпроўя ў VIII — IX стст. і даволі хутка абжылі гэтыя мясціны. Працэс

феадалізацыі праходзіў у іх тымі ж тэмпамі, што і на тэрыторыі іншых усходнеславянскіх плямёнаў. Відавочна, што ўсе сацыяльна-эканамічныя працэсы адбываліся ў іх аднačасова з аналагічнымі працэсамі ва ўсёй Усходняй Еўропе. Ніякіх адхіленняў у гэтым плане ў радзімічаў не было. Археалагічныя матэрыялы з'яўляюцца важнай крыніцай пры вырашэнні мноства пытанняў, звязаных з шматграннай ранняй гісторыяй радзімічаў, асабліва пры разуменні іх сацыяльна-эканамічнага жыцця, а таксама пры вырашэнні асноўнага пытання — аб часе прыходу радзімічаў на гэту тэрыторрыю

Першыя гарады тут, як і на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы, э'явіліся даволі рана. У X ст. ужо існавалі Гомель, Чачэрск. На старонкі летапісаў гарады радзімічаў трапілі даволі позна. Першыя ўпамінанні аб іх адносяцца да XII ст. (Крычаў, Прапошаск — 1136 г., Рагачоў — 1142 г.). Ёсць падставы лічыць, што і пералічаныя гарады, як Гомель і Чачэрск, таксама існавалі намнога раней іх першага летапіснага ўспаміну. У XI — XII стст. у радзімічаў былі вядомы прыватнаўладальніцкія феадальныя замкі (Вішчын, Збораў), і ніякіх супярэчлівых гістарычнаму развіццю адставанняў, як лічылі раней некаторыя гісторыкі, на гэтай тэрыторыі не было.

Аснову эканомікі радзімічаў складала сельская гаспадарка. Аб гэтым сведчаць матэрыялы раскопак паселішчаў як сельскага, так і гарадскога тыпу. Шматлікія высакаякасныя знаходкі сведчаць аб развіцці ў радзімічаў розных рамёстваў, і ў першую чаргу кавальскага. Жалеза яны, як і ўсе жыхары Усходняй Еўропы, здабывалі ў сельскай мясцовасці. Гэта можна пацвердзіць знаходкамі рэшткаў глінабітнага горна і жалезнага шлака каля в. Нісімкавічы-2 (Макушников, 1999. С. 139). Тут жа выяўлены кавальскія вырабы з прымяненнем высокіх тэхналогій, сярод якіх трэба адзначыць складную стальную брытву X ст. Гэта дае ўпэўненасць у развіцці кавальскага рамяства на месцы. Прадукцыя па вытворчасці жалеза ў выглядзе таварных крыц вывозілася ў горад, а таксама выкарыстоўвалася мясцовымі кавалямі. У радзімічаў відавочна спецыялізацыя такіх відаў рамёстваў, як жалезаробчае, кавальскае, ганчарнае, ювелірнае, кастарэзнае.

Цікава адзначыць, што на двух могільніках на адлегласці 15 км адзін ад другога знойдзены гаршкі аднаго майстра. На кожным гаршку стаяла яго кляймо, якое мела дэфект, што выразна прачытваецца на абодвух гаршках. Апрача таго, на абодвух гаршках з нутранога боку ад дзішча да верху засталіся адбіткі пальцаў майстра. Факты сведчаць аб тым, што яны былі выраблены не толькі пры дапамозе аднаго ганчарнага круга, але і адным майстрам, прадукцыя якога разыходзілася па ўсёй акрузе, нават трапляла на супрацьлеглы бераг Дняпра.

Апрача металургічнага ў радзімічаў было развіта ювелірнае рамяство. Сведчаннем гэтаму з'яўляюцца знаходкі на паселішчы Нісімкавічы керамічных тыгляў і ювелірнага зубіла.

Унікальнай для курганных старажытнасцей з'яўляецца знаходка ў кургане глінянай льячкі, у якой плавілі метал, і металічнага шлака. Несумненна, што ў гэтым кургане быў пахаваны ювелір, разам з якім пакладзены прылады яго працы. Гэты факт з'яўляецца доказам аб існаванні ў радзімічаў свайго ювелірнага рамяства. Знойдзены таксама

прадметы высокамастацкага кастарэзнага майстэрства. У выглядзе амулетаў-конікаў і качачак, а яшчэ да 6 пры адным пахаванні «кудравых» скроневых кольцаў, якія вельмі рэдка сустракаюцца ў курганах. Апрача таго — каралі з жоўтага бісеру, у склад якога ўваходзіла пяць лунніц. Другія каралі складаліся з бісеру і 15 біэліпсоідных падвесак (Плавінскі, 1983. С. 41).

Для разумення сацыяльна-эканамічнага жыцця радзімічаў важнае значэнне мае вывучэнне іх сельскіх паселішчаў. Даследаваннем гэтых помнікаў у Магілёўскім Падняпроўі займаўся Я. Г. Рыер.

Прасачыўшы дынаміку іх развіцця, даследчык устанавіў, што пачынаючы з XI ст. памеры сельскіх паселішчаў паступова пачалі змяншацца і к пачатку XIV ст. на Магілёўшчыне паяўляюцца маладворныя вёскі (Рыер, 1983. С. 142). А самым спрыяльным часам для развіцця на гэтай тэрыторыі вёскі, на думку Я. Г. Рыера, быў раннефеадальны перыяд, пакуль не пачалася ў XIII ст. эпоха шырокай феадалізацыі.

На падставе размяшчэння 111 сельскіх паселішчаў і 533 курганных груп Я. Г. Рыер прыйшоў да высновы, што насельніцтва Магілёўскага Падняпроўя ў X—XII стст. знаходзілася ў прамой залежнасці ад наяўнасці на гэтай тэрыторыі рэк і лясоў (Риер, 1982. С. 107). У першую чаргу засяляліся ўрадлівыя рачныя даліны. Найбольш густа, на яго думку, засяляліся даліны невялікіх рэчак. Могільнікі ад паселішчаў знаходзіліся на адлегласці 0,3—2 км. У развіцці сельскіх паселішчаў эпохі феадалізму Я. Г. Рыер выдзеліў тры перыяды. Да першага ён аднёс перыяд IX—X стст. У гэты перыяд праходзіў распад абшчынных адносін і фарміраванне феадальных. Другі этап пачынаецца ў XI ст. і працягваецца цэлых тры стагоддзі, да XIV ст. З XIV ст. пачынаецца трэці перыяд. У час другога перыяду адбываецца змяншэнне памераў паселішчаў, якія ўзніклі ў першым перыядзе. Больш таго, змяншаецца іх колькасць. Некаторыя з паселішчаў знікаюць наогул (Риер, 1978. С. 33).

Доўга пытанне аб даследаванні гарадоў на тэрыторыі радзімічаў заставалася нявырашаным. У гістарычнай навуцы склалася такое ўстойлівае меркаванне аб тым, што ў сацыяльна-эканамічным жыцці радзімічы ўступалі іншым усходнеславянскім плямёнам, якія жылі з імі па суседству. Атрымлівалася так, што былі старажытныя гарады ў крывічоў — Полацк (IX ст.), дрыгавічоў — Тураў (канец X ст.). Гэтыя гарады з'яўляліся племяннымі цэнтрамі названых усходнеславянскіх плямёнаў. А радзімічы быццам бы не мелі свайго цэнтра, які б іх аб'ядноўваў (Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2. 1972. С. 41—42). Такое становішча давала некаторым даследчыкам падставу меркаваць, што сацыяльны лад радзімічаў даўжэй за ўсіх захаваў архаічныя рысы, карані якіх ішлі да першабытнаабшчыннага ладу. Менавіта гэтым тлумачылі вучоныя адсутнасць у радзімічаў у X і нават XI ст. гарадоў.

Нягледзячы на тое што такі вывад супярэчыць гістарычнаму працэсу, што праходзіў у жыцці ўсходнеславянскіх плямёнаў, ён трывала трымаўся ў навуковай літаратуры. Калі быць паслядоўным, то неабходна было б прызнаць, што ў радзімічаў былі нейкія адхіленні ад агульнага працэсу развіцця гаспадарчага і палітычнага жыцця, якія стрымлівалі феадалізацыю на тэрыторыі радзімічаў. Хаця такіх падстаў не было, але тым не менш якіх-небудзь значных зрухаў у вырашэнні гэтых пытанняў

не было да 1986 г. У 1986 г. А. А. Макушнікаў прыступіў да вывучэння тэрыторыі старажытнага Гомеля. Вынікі даспедавання дазволілі абгрунтаваць вывад аб тым, што Гомель у X — XI стст. не толькі існаваў, але і з'яўляўся добра ўмацаваным цэнтрам радзімічаў. Вынікі раскопак сведчаць аб тым, што Гомель складаўся з дзядзінца і вакольнага горада, якія мелі ўмацаванні, і на першых парах іх агульная плошча складала каля 4 га (Макушников, 1988 а. С. 27—30; Ён жа, 1988 б. С. 99—101; Ён жа, 1989. С. 86—87; Ён жа, 1989 а. С. 69).

Такім чынам, ёсць падставы ўпэўніцца ў тым, што ўзнік Гомель як племянны цэнтр радзімічаў і з цягам часу становіцца рамесніцка-гандлёвым цэнтрам Ніжняга Пасожжа. Разам з развіццём горада павялічвалася і яго плошча. З пачатку яго ўзнікнення яна складала каля 4 га, а ў XII—XIII стст. павялічылася ў дзесяць разоў і складала не менш 40 га. Мяркуючы па абарончых збудаваннях, імі ў X ст. было ахоплена ад 3 да 8 га. Калі нават узяць сярэднюю лічбу, якую прыводзіць А. А. Макушнікаў, атрымліваецца, што Гомель у X ст. быў даволі значным горадам. Важнае значэнне мае то, што вывучэнне дало магчымасць упэўніцца ў існаванні ў Гомелі не толькі ўмацаванага вакольнага горада, але і неўмацаванага пасада. Яго ў 1975 г. даследаваў М. А. Ткачоў. Жыццё на пасадзе пачалося ў XI ст. Раскопкі А. А. Макушнікава пацвердзілі гэту дату. Вядома, што менавіта гандлёва-рамесніцкі пасад выдзяляе горад сярод другіх феадальных цэнтраў. Апрача таго, сляды пасада зафіксаваны А. А. Макушнікавым у двух іншых месцах (каля вакольнага горада і падножжа дзядзінца).

Такім чынам, з самага пачатку выдзяляецца выразная структура Гомеля. Спачатку гэта ўмацаваныя дзядзінец і пасад (X—XI стст.). Разам з тым пачынаючы з XI ст. пачаў развівацца вакольны горад. Пасля даследаванняў А. А. Макушнікава не прыходзіцца сумнявацца ў тым, што развіццё феадалізму ў радзімічаў у параўнанні з іншымі ўсходнеславянскімі плямёнамі ішло больш павольнымі тэмпамі. У радзімічаў, як і ў суседніх крывічоў, рана з'явіліся гарады. Самым раннім і значным з іх несумненна быў Гомель. Прычынай таго, што доўгі час існавала не адпаведная рэчаіснасці думка аб познім узнікненні ў радзімічаў гарадоў, з'явілася тое, што яны пазней за іншыя трапілі на старонкі летапісаў, а таксама іх позняе вывучэнне.

Археалагічныя раскопкі Гомеля выявілі ў ім майстэрні па вырабу зброі, шкляных упрыгожанняў. Былі развіты ў горадзе іншыя рамёствы (Макушников, 1988 в. С. 21—22; Ён жа, 1991. С. 48—51; Ён жа, 1994. С. 43—46). Майстэрня XII — пачатку XIII ст. па вырабу зброі ў Гомелі з'яўляецца унікальнай для тэрыторыі ўсёй старажытнай Русі.

У XII ст. у сувязі з далейшым ростам горада першапачатковыя абарончыя збудаванні былі перабудаваны.

Такім чынам, А. А. Макушнікаў пры даследаванні горада ўстанавіў, што на тэрыторыі радзімічаў таксама існаваў свой племянны цэнтр, які ўзнік даволі рана, а дакладней — адначасова з раннімі гарадамі ў крывічоў і дрыгавічоў. Гомель быў адным з такіх цэнтраў. А агульная плошча ўмацаваных дзядзінца і вакольнага горада ў Гомелі была на першых парах намнога большай за тыя, што існавалі ў самых старажытных гарадах паўночнай і паўднёвай Беларусі — у Полацку і Тураве, якія

таксама з'яўляліся племяннымі цэнтрамі. Так, агульная ўмацаваная плошча Полацка IX—X стст. разам з селішчам складала больш 1 га (Штыхаў, 1975. С. 26), а Турава ў X — пачатку XI ст.—2,25 га (Штыхов, Лысенко, 1966. С. 54). Гэтыя звесткі пацвярджаюць, што па памерах умацаванай гарадской плошчы ранні Гомель намнога пераўзыходзіў іншыя раннія гарадскія цэнтры.

Такія гарады на тэрыторыі радзімічаў, як Прупой (Слаўгарад), Чачэрск, былі значна меншыя па памерах і не змаглі прэтэндаваць на кіруючую ролю ў зямлі радзімічаў. Згодна з археалагічнымі матэрыяламі, абодва гэтыя гарады вядомы з XI ст. Раскопкі М. А. Ткачова паказалі, што пачыналіся яны з невялікай плошчы. І толькі ў XI ст. вакол дзядзінца Чачэрска пачынае фарміравацца пасад (Ткачев, 1976. С. 428). Нягледзячы на тое што Прупой і Чачэрск вывучаны недастаткова, атрыманы звесткі аб іх абарончай сістэме, структуры і ў некаторай ступені аб іх матэрыяльнай культуры. Крычаў, па звестках М. А. Ткачова, таксама вядзе свой пачатак з XI ст.

На зямлі радзімічаў існавалі і вывучаліся таксама і феадальныя сядзібы, якія прадстаўлялі сабой умацаваныя паселішчы-замкі феадалаў. Без даследавання гэтага тыпу помнікаў характарыстыка сацыяльнай тыпалогіі паселішчаў на зямлі радзімічаў у эпоху феадалізму была бы няпоўнай, таму што менавіта прыватнаўладальніцкія замкі разам з княжацкімі церамамі і гарадамі з'яўляліся асноўнымі феадальнымі цэнтрамі (Тимощук, 1988. С. 70).

На зямлі радзімічаў даследаваны два замкі, размешчаныя ў Рагачоўскім раёне (вёскі Вішчын, Збораў).

Найбольш вывучаным з'яўляецца паселішча каля в. Вішчын, якое даследаваў у 1977—1984 гг. Э. М. Загарульскі. Вызначана, што замак быў пабудаваны на беразе Дняпра на рубяжы XI—XII стст. і ўмацаваны трыма лініямі валоў і равоў. Па грэбені вала праходзіла яшчэ адна лінія драўляных умацаванняў (Загорульский, 1983. С. 86—90). Уздоўж вала на гарадзішчы ўскрыты драўляныя наземныя пабудовы. Гарадзішча праіснавала больш 150 гадоў і ў 1128 г. было разбурана войскамі літоўцаў і палачан (Загорульский, 1983. С. 89).

Жыхары гарадзішча займаліся сельскай гаспадаркай і рамяством. Знойдзена нават майстэрня ювеліра. З усіх знаходак трэба вылучыць рэчавы скарб вагой 2,8 кг. Апрача 34 жаночых упрыгожанняў у склад скарбу ўваходзілі 18 сярэбраных плацежных зліткаў, кіеўскіх, наўгародскіх і літоўскіх грыўняў. Усе ўпрыгожанні выраблены з серабра на высокім мастацкім узроўні. Рэчы былі доўгі час у карыстанні. У склад скарбу ўваходзілі 4 колты, сярод якіх 2 пазалочаныя, зробленыя ў тэхніцы перагародчатай змалі з выявай птушак з абодвух бакоў. Адзін колт мае форму зоркі, другі — ажурную кайму па краю з выявай дзвюх птушак і крына. Два бранзалеты, адзін кручаны з двух жгутоў, другі — пласцінкавы з пазалотай, выявай птушак і арнаментаў, чатыры пакрытыя золатам крынападобныя прывескі, тры сярэбраныя з пазалотай пацеркі, дзве расны і два ланцужка да іх. Надзвычай рэдкімі ўпрыгожаннямі з'яўляюцца расны, якія складаюцца з канічнай формы вярхушкі з прычэпленымі да яе на ланцужках бляшакамі (Загорульский, 1982. С. 89). Трэба меркаваць, што гэты від упрыгожанняў быў даступны толькі княжацка-баярскай феадальнай знаці (Седова, 1981. С. 17).

Другі феадальны замак, таксама размешчаны на крутым беразе Дняпра, з 1963 г. вывучала Г. Ф. Салаўёва. Гэта гарадзішча Збораў (8 км ад Рагачова). Яно ўяўляе сабой невялікую, добра ўмацаваную пляцоўку. На гарадзішчы знойдзены рэчы, якія з'яўляюцца характэрнымі для феадальных замкаў. Сярод імпартных трэба назваць кавалак бронзавай чашы з выявай жанчыны, якая чытае кнігу, і лацінскімі літарамі АСА, шкляны чырвоны бранзалет і сценку бакала з тонкага шкла. Г. Ф. Салаўёва лічыць, што гэту чашу зрабілі на Ніжняй Эльбе ў Саксоніі (Соловьева, 1969. С. 112). Згодна са знаходкамі, сядзіба феадала была пабудавана ў XII ст., а ў XIII ст., нягледзячы на ўмацаванні, была знішчана. Прыватнаўладальніцкія замкі на зямлі радзімічаў, мяркуючы па двух вывучаных, з'яўляюцца на рубяжы XI—XII стст. і перастаюць існаваць у XIII ст., як і на тэрыторыі ўсёй старажытнай Русі. Іх будавалі ў густанаселеных месцах паблізу гарадоў. Вывучэнне гэтага віду помнікаў істотна дапаўняе агульную карціну развіцця феадалізму на тэрыторыі рассялення радзімічаў. Аказваецца, развіццё феадальных адносін тут праходзіла тымі ж шляхамі, што і на тэрыторыі ўсёй Усходняй Еўропы. Сацыяльна-эканамічны ўзровень радзімічаў адпавядаў узроўню іншых усходнеславянскіх народаў.

Аб духоўным жыцці радзімічаў і іх рэлігійных вераваннях можна меркаваць па выніках вывучэння свяцілішча на беразе возера Святога (Добрага) каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна. Тут ускрыты цэлы комплекс язычніцкіх збудаванняў канца X — пачатку XI ст. Галоўнае свяцілішча мела круглую форму дыяметрам 7 м. Яно было абкружана ровікамі з вуглём. У цэнтры выяўлена яма ад скульптуры галоўнага бога Перуна (Куза, Соловьева, 1972. С. 152). З усіх бакоў, за выключэннем заходняга, дзе ёсць пашкоджанне, прасочаны ямкі ў форме паўмесяца, якія таксама запоўнены вуголлем і кавалкамі бітых гаршкоў. У ямках і ровіках гарэў агонь, у які кідалі разбіты посуд ад ахвярнай ежы і пітва. Непадалёку ад галоўнага свяцілішча даследчыкамі расчышчана такое ж свяцілішча, але меншых памераў, якое вучоныя звязваюць з адным з мясцовых племянных багоў радзіміцкага саюза. На адлегласці 10 м на ўсход ад свяцілішча выяўлена жыллёвая пабудова жраца, якая істотна дапаўняе ўскрыты комплекс. Такі унікальны рэлігійны комплекс гэтага часу з'яўляецца адзіным помнікам такога роду на ўсёй тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі Усходняй Еўропы свяцілішчы ёсць на Украіне (Кіеў, р. Гнілапяць) і ў Ноўгарадзе (урочышча Пярынь).

Аб ажыўленым гандлі радзімічаў з далёкімі і больш блізкімі суседзямі сведчаць знаходкі рэчаў немясцовага паходжання. Да іх у першую чаргу трэба аднесці кавалкі бронзавай чашы, знойдзенай на гарадзішчы каля в. Збораў, выраблена́й у ніжнім цячэнні Эльбы, мініяцюрную бронзавую фігурку чалавека, выяўленую каля в. Калодзецская, якая паходзіць са скандынаўскіх краін (Риер, 1981. С. 13—19), фібулу са скандынаўскім арнаментам з паселішча каля в. Ходасавічы, кавалак танкасценнага шклянога кубка, шкляны бранзалет чырвонага колеру (Соловьева, 1969. С. 113; Риер, 1976. С. 90). На селішчы непадалёку ад г. Чавусы знойдзены шкляныя пацеркі візантыйскай вытворчасці (Риер, 1981. С. 19).




*Мал 15 Скарб шыйных грыўняў з в Козі Рог*

Унікальны для тэрыторыі Беларусі скарб, у які ўваходзілі 7 шыйных сярэбраных грыўняў XI—XII стст., выраблёных у тэхніцы складанага жгута, знойдзены каля пасёлка Козій Рог (мал. 15). Гэтыя рэчы сведчаць аб гандлевых сувязях радзімічаў з суседнімі землямі Кіеўскай Русі. Падобныя грыўні ніколі не сустракаліся на зямлі радзімічаў, што дало магчымасць даследчыкам зрабіць меркаванне аб іх вырабе ў адной з гарадскіх майстэрняў не на тэрыторыі радзімічаў (Литвинов, Макушников, Дробушевский, 1987. С. 266).

Большасць упрыгожанняў, якія складалі скарб, выяўлены на феадальным замку каля в. Вішчын, таксама немясцовага паходжання. Апрача таго, на тэрыторыі радзімічаў знойдзена шмат манетных скарбаў, сярод якіх есць раннія (X ст.). У каталогу М. У. Раўдзінай, прысвечаным знаходкам манет у пахаваннях X—XI стст. старажытнай Русі, прыведзены 15 пунктаў з тэрыторыі радзімічаў, дзе разам з пахаваннямі знойдзены арабскія сярэбраныя дырхемы, дэнарыі, бракгэаты і міліярысіі (Бацвінава, Чачэрскі раен; Бацвінаўка, Крычаўскі раен; Бердыж, Вялікія Нямкі, Вотня, Гадзілавічы, Дзям'янкі, Збораў, Казарычы, Кветунь, Курганне, Міцькаўка, Рабцава, Чабатовічы) (Равдина, 1988. С. 6—7 (карта), 25, 30, 31, 37, 38, 50, 61, 62, 66, 67, 71, 79, 85, 104, 108, 109, 124). Апрача таго, разам з арабскімі дэнарыямі ў двух выпадках знойдзены па чатыры срэбранікі Уладзіміра канца X ст. (Вотня) і Святаслава (Міцькаўка). У Кветуні адначасова з дэнарыямі выяўлены міліярысіі Канстанціна Багранароднага (913—959).

Усе пералічаныя знаходкі з'яўляюцца доказам шырокіх гандлевых сувязяў радзімічаў з арабскім Усходам, Грэцыяй. Неабходна адзначыць, што ў асноўным усе манеты, у тым ліку і срэбранікі, выкарыстоўваліся ў складзе караляў у якасці падвесак. Выключэнне складаюць толькі дырхемы, якія не маюць вушак для падвешвання, знойдзеныя на трох помніках (Вялікія Нямкі, Бацвінаўка Крычаўскага раена, Вотня). У свой

час Б. А. Рыбакоў тлумачыў гэтую з'яву слабасцю курса каштоўных металаў у радзімічаў. Менавіта таму, лічыў ён, манеты, якія траплялі да радзімічаў, ператвараліся ў падвескі (Рыбаков, 1932. С. 116). Манеты, выкарыстаныя ў якасці падвесак, выяўляюцца і ў складзе скарбаў на зямлі радзімічаў.

Такім чынам, у асноўным толькі дзякуючы археалагічнаму матэрыялу ёсць магчымасць усебакова разглядзець гісторыю радзімічаў і растлумачыць прычыны складаных сацыяльна-эканамічных працэсаў, якія праходзілі на іх тэрыторыі. Некаторыя з іх, напрыклад прыход радзімічаў на Русь, у наш час толькі набліжаюцца да свайго канчатковага вырашэння.

## 4. НАСЕЛЬНІЦТВА ПАНЯМОННЯ

Згодна з «Аповесцю мінулых гадоў», прастора паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной, састаўной часткай якой з'яўляецца басейн Верхняга Нёмана, была вобласцю рассялення дрыгавічоў. Аднак, мяркуючы па больш позніх летапісных звестках і грунтуючыся на даных археалогіі (у першую чаргу на матэрыялах пахавальных помнікаў), можна сцвярджаць, што далёка не ўсё Верхняе Панямонне было дрыгавіцкім. У паўночнай яго частцы вядомы помнікі крывічоў, у паўночна-заходняй — усходнелітоўскіх, у заходняй — яцвяжскіх плямёнаў. Ды і ў цэнтральных раёнах разглядаемага рэгіёна разам з дрыгавіцкімі сустракаюцца помнікі іншых усходнеславянскіх плямёнаў ці помнікі дрыгавічоў, якія адчувалі на сабе моцны ўплыў суседзяў.

**Археалагічныя помнікі славян.** Вывучэнне славянскіх пахавальных помнікаў Верхняга Панямоння пачалося ў 80-я гады мінулага стагоддзя М. Федароўскім і М. А. Цыбішавым. Першы праводзіў раскопкі ў наваколлях Слоніма (Gloger, 1882. S. 491—492), другі — у наваколлях Навагрудка (Цыбишев, 1893. С. 73—76). Два курганныя могільнікі каля вытокаў Нёмана (у Койданаве і Чэрнікаўшчыне) даследаваў у канцы 80-х гадоў У. З. Завітневіч (Завитневич, 1888. С. 274—280). Пасля У. З. Завітневіча раскопкі славянскіх курганоў у Верхнім Панямонні не праводзіліся аж да 30-х гадоў бягучага стагоддзя, калі не лічыць асобных невялікіх работ, якія зводзіліся ў асноўным да простай здабычы рэчаў (такія, напрыклад, работы М. А. Янчука ў вытоках Нёмана, на р. Усе) (Российский Исторический музей. 1893. С. 140—141).

У 30-я гады славянскія могільнікі Панямоння даследавалі польскія археолагі Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. Да пачатку другой сусветнай вайны ім удалося апублікаваць вынікі вывучэння толькі двух могільнікаў — каля вёсак Наўры і Платава (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 5—51; Cehak-Hołubowiczowa, 1938. S. 183—197). Матэрыялы з іншых помнікаў не былі ўведзены ў навуковы ўжытак.

У пасляваенныя гады значныя работы па даследаванню славянскіх пахавальных помнікаў у наваколлях Навагрудка праведзены Славяналітоўскім атрадам Прыбалтыйскай археолага-этнаграфічнай экспедыцыі (кіраўнік Ф. Д. Гурэвіч) (Гуревич, 1962. С. 97—112) і курганным атрадам Навагрудскай археалагічнай экспедыцыі (кіраўнік К. В. Паўлава) (Павлова, 1981. С. 78—84). Атрадам пад кіраўніцтвам К. В. Паўлавай раскопва-

ліся курганы ў шасці могільніках (Батароўка, Брацянка, Гарадзілаўка, Мольнічы, Сялец, Суляцічы) і бескурганны могільнік вакольнага горада старажытнага Навагрудка (Павлова, 1967. С. 36—39). У іншых месцах рэгіёна даследаванні праводзілі Я. Г. Звяруга, П. Ф. Лысенка, Ю. І. Драгун, Г. В. Штыхаў. Вынікі раскопак большасці кurганоў да цяперашняга часу не апублікаваны, па некаторых ёсць толькі кароткая інфармацыя.

Сустракаюцца славянскія курганныя могільнікі ў разглядаемым рэгіёне амаль паўсюдна. Выключэннем з'яўляецца паўночна-заходняя яго частка, дзе лакалізуюцца так званыя ўсходнелітоўскія курганы. Па звестках Г. В. Штыхава, толькі ў межах Гродзенскай вобласці вядома звыш 150 курганных могільнікаў, большасць з якіх пакінута славянскім насельніцтвам (Штыхов, 1971. С. 12). Аднак яўным перабольшаннем з'яўляецца сцвярджэнне Ф. Д. Гурэвіч пра тое, што пры даследаваннях, якія яна праводзіла, у Беларускім Панямонні рэдка можна сустрэць населены пункт, каля якога не было б курганоў (Гуревич, 1962. С. 96). Некаторыя з адзначаных у яе работах курганоў пры дадатковым іх вывучэнні аказаліся звычайнымі пясчанымі ўзгоркамі прыроднага паходжання (Седов, 1969. С. 346—347).

Большасць могільнікаў размяшчаецца па берагах рэк (ручаёў) і азёраў ці ў непасрэднай блізкасці ад іх. Да параўнальна нядаўняга часу ў многіх помніках налічвалася 100 і больш насыпаў. Так, у могільніку каля в. Наўры, даследаваным у 1934 г. Г. Цэгак-Галубовіч, налічвалася ў час раскопак звыш 100 курганоў (пры гэтым, як адзначала даследчыца, значная колькасць курганоў была разбурана, калі праз могільнік пракладвалі дарогу) (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 5). У могільніку паблізу в. Брацянка ў 1960-я гады было больш за 130 насыпаў (Гуревич, 1962. С. 97). Найбольш вялікі могільнік, які складаўся з 500 насыпаў, адзначаны М. П. Авенарыусам у канцы XIX ст. каля в. Маруліны Навагрудскага раёна. Помнікі, якія налічваюць каля 100 і больш насыпаў, захаваліся да цяперашняга часу каля вёсак Камена, Любоўшы Вілейскага, Навасёлкі, Нагаўкі Мядзельскага, Пекары Маладзечанскага раёнаў).

Разам з вялікімі вядомы могільнікі, якія складаюцца з двух дзесяткаў, а то і менш аднаго дзесятка курганоў. Верагодна, раней іх было значна больш. Асабліва шмат курганоў разбурана ў апошнія дзесяцігоддзі. У цяперашні час у многіх сучасных адміністрацыйных раёнах Гродзенскай вобласці не засталося па сутнасці ні аднаго славянскага курганнага могільніка.

Славянскія курганы Панямоння маюць звычайна паўшарападобную форму (форму паўсферы ці сферычнага сегмента). Дыяметр у іх звычайна вагаецца ў межах ад 5 да 15 м, вышыня — 0,5—2,0 м. Курганы дыяметрам больш за 15 м і вышынёй больш за 2 м адзінкавыя. Насыпы, за рэдкім выключэннем, складаюцца з пяску з уключэннем гумусавых праслоек і камення. Каля падэшвы насыпаў нярэдка назіраюцца падоўжаныя ямкі ці раздзеленыя перамычкамі неглыбокія раўкі. Разам з паўсферычнымі зрэдку сустракаюцца падоўжаныя і, як выключэнне, доўгія курганныя насыпы.

**Пахавальны абрад.** Пануючым абрадам пахавання ў славянскіх курганах басейна Верхняга Нёмана было трупапалажэнне. Трупаспаленне сустракаецца значна радзей. Пры гэтым пахаванні, зробленыя па адным

і другім абрадзе, сустракаюцца нярэдка ў адных і тых жа могільніках, але суадносіны іх роэныя. Напрыклад, з 29 даследаваных у Наўрах курганоў 22 былі з трупапалажэннямі, адзін — з трупаспаленнем і ў 6 пахаванняў не было (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 25). У могільніку каля в. Гарадзілаўка з 5 даследаваных Ф. Д. Гурэвіч курганоў у 4 зафіксаваны спаленні (Гуревич. С. 98). Затое ва ўсіх 8 раскапаных К. В. Паўлавай курганах гэтага могільніка сустрэты пахаванні толькі па абраду трупапалажэння (Павлова, 1973. С. 57). Такім чынам, нават у адным могільніку, але на розных яго ўчастках суадносіны трупапалажэнняў і трупаспаленняў маглі быць розныя.

У курганах з трупаспаленнем кальцыніраваныя косці часам ляжаць у насыпе. Пры гэтым глыбіня іх залягання ў розных курганах нават аднаго і таго ж могільніка можа быць рознай: у курганах, раскапаных М. А. Цыбішавым у Гарадзілаўцы, яны знойдзены на глыбіні 1,5 м ад паверхні, а пры раскопках Ф. Д. Гурэвіч — адразу пад дзірвановым слоем (Цыбишев,1893. С. 75—76; Гуревич, 1962. С. 99). Зрэдку рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў магільную ямку, выкапаную ў мацерыку, але часцей за ўсё — каля падэшвы кургана.

Зафіксаваны спаленні як на месцы пахавання, так і па-за межамі могільніка. Пры спаленнях на месцы пахавання каля падэшвы курганнага насыпу знаходзяцца рэшткі пахавальных вогнішчаў ці праслойкі попелу і вуголля, сярод якіх трапляюцца дробныя абломкі кальцыніраваных касцей, фрагменты металічных вырабаў і керамікі. У курганах са спаленнем па-за межамі могільніка кальцыніраваныя косці старанна адабраны і ссыпаны кучкай.

Пахавальны інвентар у курганах з трупаспаленнем вельмі бедны. Найбольш частай знаходкай з'яўляюцца абломкі гліняных пасудзін (ад адной да трох), выробленых на ганчарным крузе. Ляпныя таўстасценныя гаршкі адзінкавыя. У мужчынскіх пахаваннях сустракаюцца клінкі, нажы і тачыльныя камяні, у жаночых — упрыгожанні (пацеркі, скроневыя кольцы, бранзалеты) і дробныя прылады працы (нажы, прасліцы).

Курганы з пахаваннямі па абраду трупапалажэння па сваім знешнім выглядзе нічым не адрозніваецца ад курганоў з трупаспаленнем: тыя ж паўшарападобныя ці паўсферычныя пясчаныя насыпы, тыя ж неглыбокія ямкі ці раўкі каля падэшвы. Магчыма, толькі ў іх (ды і то не заўсёды) больш плоскія вяршыні.

У многіх курганах з трупапалажэннем каля падэшвы курганнага насыпу знаходзяцца рэшткі вогнішчаў. Так, напрыклад, з 22 даследаваных курганоў з трупапалажэннем у Наўрах у 9 на грунце захаваліся слаі вуголля і попелу. У астатніх 13 курганах насып непасрэдна пераходзіў у мацярык. У сувязі з гэтым даследчыцай выказана меркаванне, што перад пахаваннем нябожчыка месца, якое прызначалася для ўзвядзення кургана, ачышчалася ад дзірвану і іншай расліннасці. Шкілеты ляжалі на слоі вогнішча. Косці ачарнелі ад вуголля. Але ні ў адным выпадку ні косці шкілетаў, ні прадметы пахавальнага інвентару не былі пашкоджаны агнём. У чатырох курганах праслойкі зямлі, перамешанай з вуголлем, трапляліся ў насыпе (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 7, 10).

Пераход ад трупаспалення да абраду трупапалажэння можна прасачыць на прыкладзе аднаго з курганоў у Брацянцы, дзе знойдзены пашкоджаны агнём шкілет (Гуревич. С. 107).

Попельныя праслойкі на гарызонце сустрэты ў 70 % курганоў з трупапалажэннем у наваколлі Навагрудка. У адных выпадках гэта былі ледзьве прыкметныя праслойкі, што ўтварыліся пры спальванні раслінласці на месцы будучага кургана. Але ў большасці выпадкаў яны ўяўлялі сабой даволі магутныя праслойкі, што дасягалі таўшчыні 10—12 см і не з'яўляліся вынікам дзеяння агню на самой пахавальнай пляцоўцы. Попел быў прынесены сюды ў халодным выглядзе. У шмат якіх курганах попел сустракаецца не толькі пад пахаваннямі, але і над імі. Нярэдка попельна-вугальныя праслойкі прасочваюцца ў насыпе на 20—30 см вышэй за пахаванні. Пясок пад імі перапалены. Гэта, безумоўна, рэшткі вогнішчаў, відаць, рытуальнага прызначэння. Ніякіх рэчаў у вогнішчах не знойдзена (Павлова, 1981. С. 79; Яна ж, 1973. С. 57).

Зрэдку ў славянскіх курганах Панямоння з трупапалажэннямі на гарызонце пад пахаваннямі сустракаюцца падсыпкі з пяску, што адрозніваюцца ад насыпу па колеру і структуры (Эканомія, Брацянка, Гарадзілаўка) (Павлова,1981. С. 79). Зрэдку выяўляюцца рэшткі дамавін.

У кожным з курганоў з трупапалажэннем на ўзроўні старажытнай паверхні знаходзілася звычайна адно пахаванне. Нябожчыкі ляжалі ў выцягнутым становішчы, на спіне, галовамі на захад, паўночны ці паўднёвы захад. Пераважала паўднёва-заходняя арыенціроўка, што сведчыць пра павышаную смяротнасць у вясенне-летні перыяд. Усходняя арыенціроўка сустракаецца вельмі рэдка. У старанна дакументаваных раскопках пахавальных помнікаў наваколля Навагрудка, напрыклад, яны зафіксаваны толькі ў адным гарадзілаўскім кургане (Павлова, 1981. С. 79). Рукі ў большасці нябожчыкаў ляжалі ўздоўж тулава, радзей — адна з іх была сагнута ў локці і ляжала на грудзях, а яшчэ радзей — сагнуты абедзве рукі і кісці на жываце.

Разам з трупапалажэннем на гарызонце ў славянскіх курганах Панямоння сустракаюцца, хоць і нячаста, пахаванні ў магільных ямах. Усе магільныя ямы выкапаны ў мацерыку (глыбіня да 1 м), маюць прамавугольную ці авальную ў плане формы, выцягнуты з захаду на ўсход (часам з адхіленнямі к поўдню ці поўначы). Нябожчыкі ляжаць на дне ямы ў выцягнутым становішчы, галовамі на захад ці адпаведна з адхіленнямі на паўднёвы ці паўночны захад. Зрэдку пад касцякамі ёсць падсыпкі з пяску. У адным кургане ў Батароўцы прасочваліся рэшткі дамавіны (Павлова, 1973. С. 81).

Як пахаванні на гарызонце, так і пахаванні ў магільнай яме бываюць парнымі. Так, у Суляціцкім могільніку з 20 даследаваных курганоў 5 утрымлівалі парныя пахаванні (адно на гарызонце, чатыры ў магільных ямах). З 6 раскапаных курганоў ў Батароўцы ў двух былі парныя пахаванні (жанчыны і дзіцяці) (Павлова, 1973. С. 81). Пахаванне мужчыны і жанчыны выяўлена ў адным з курганоў каля в. Платава (Cehak-Hołubowiczowa, 1938. S. 188).

Каля падэшвы і ў насыпе некаторых курганоў сустракаюцца розныя па велічыні камяні. Аднак рэгулярных абкладак (вянцоў) з камянёў, што так характэрны для ўсходнелітоўскіх курганоў, не выяўлена. Няма таксама насыпаў, якія б, як і яцвяжскія курганы Сувалкіі, былі цалкам складзены з камянёў ці з камянёў і зямлі. Камяні ў насыпах заўсёды ляжаць хаатычна, на розных узроўнях. Толькі каля падэшвы насыпаў




*Мал 16 Пахавальны інвентар з Наўранскага курганнага могільніка: 5, 6, 13 — пярсцёнкі, 2, 3, 7—9 — пацеркі, 4 — бразготка, 10 — бранзалет, 11 — падвеска, 1, 12 — скроневыя кольцы, 14, 16—19, 21 — фібулы, 15 — прасліца, 20 — грыўня*

(г. зн. на пахавальных пляцоўках) у іх размяшчэнні назіраецца некаторая сістэма: яны групуюцца вакол пахаванняў, пастаўлены каля ног і галавы нябожчыкаў. Каля краю магільных ям, часцей за ўсё ў галавах і ў нагах, зрэдку таксама сустракаюцца па адным-два камяні. У адным з курганоў Суляціцкага могільніка куча невялікіх камянёў ляжала на дне ямы за чэрапам. У трох курганах Батароўскага могільніка камянямі былі перакрыты ямы зверху (Павлова, 1981. С. 82).

**Пахавальны інвентар** у панёманскіх славянскіх курганах з трупапалажэннем непараўнальна багацейшы за курганы з абрадам трупаспалення. Насыпы, у якіх сустрэты касцякі без рэчаў, адзінкавыя.

Найбольш частай знаходкай з'яўляюцца гліняныя пасудзіны, што стаяць у галавах ці каля ног нябожчыка. Сярод іх толькі адзінкавыя экземпляры выраблены рукамі (такая, напрыклад, пасудзіна слоікавай формы э Наўранскага могільніка) (Hołubowicz, 1937. Tabl. V, 6). Усе астатнія выраблены на ганчарным крузе (калі не поўнасцю, дык хоць абточаны ў верхняй частцы).

Таксама, як і ў іншых славянскіх землях, формы пасудзін з курганных могільнікаў Панямоння звычайна аднародныя, у той час як на суседніх сінхронных гарадзішчах і селішчах яны разнастайныя. Так, ва ўсіх гарадзілаўскіх гаршках адагнуты вонкі венчык, кароткая шыйка, крутыя плечыкі і конусападобнае тулава, арнаментаванае гарызантальнымі лініямі, пачынаючы з плечыкаў і да самага дна (Павлова, 1973. С. 58—59). Гаршкі з могільніка каля в. Брацянка дакладна ідэнтычныя гарадзілаўскім (Павлова, 1965. Мал. 37).

Кераміка з могільніка паблізу в. Платава адрозніваецца ад керамічнага матэрыялу Гарадзілаўкі і Брацянкі толькі арнаментам (хвалісты ці яго няма зусім) і формай венчыка. Ва ўсіх гаршкоў э гэтага могільніка амаль аднолькавыя прапорцыі. Мала чым яны адрозніваюцца і па памерах: вышыня — 14,2—17,5 см, дыяметр венчыка — 13,8—17,0 см, найбольшы дыяметр тулава — 16,0—19,0 см, дыяметр донца — 8,1—10,4 см (Hołubowicz, 1938. S. 14. Tabl. I).

Яшчэ менш адрозніваюцца адна ад адной па форме і памерах пасудзіны з Наўранскага могільніка. Ва ўсіх у іх (за выключэннем памянёнай ужо пасудзіны слоікавай формы) лёгка адагнуты вонкі венчык, кароткая шыйка і акругла-канічнае тулава. Частка пасудзін упрыгожана арнаментам у выглядзе асобных хвалістых ліній, пракрэсленых па венчыку, шыйцы ці тулаву. У адным выпадку хвалісты арнамент спалучаўся з гарызантальным. Памеры пасудзін: вышыня — 10,5—13,0 см, дыяметр венчыка — 10,7—14,5 см, найбольшы дыяметр тулава — 12,3—17,5 см, дыяметр донца — 5,8—8,5 см (Hołubowicz, 1938. S. 66—69. Tabl. V).

Керамічныя матэрыялы з раскопак славянскіх курганоў Панямоння не дазваляюць, на жаль, дакладна адказаць на пытанне аб прызначэнні пасудзін у пахаваннях. Часта ў іх знаходзяцца вуголле і попел. Гэта дазволіла некаторым даследчыкам выказаць меркаванне, што ў іх прыносілі вуголле, каб запаліць ахвярнае (памінальнае) вогнішча ці акурваць нябожчыкаў спецыяльнымі травамі. Аднак нярэдка сустракаюцца пасудзіны, у якіх зусім не было вугалля. Хімічным аналізам пасудзін з Наўранскага могільніка ўстаноўлена, што ў іх гатавалі ежу




*Мал 17 Пахавальны інвентар з курганоў каля весак Кастыкі (1—27) і Камена (28—30) 1—3 — пярсцёнкі, 4—8 — скроневыя кольцы, 9—11 — праслiцы, 12—15 — пацеркі, 16 — шыла, 17, 18, 22 — нажы, 19 — іголка, 20 — тачыльны камень, 21, 26 — цвікі, 23 — скураны футляр, 24, 25 — шыйныя грыўні (?), 27 — сякера, 28, 29 — гаршкі, 30 — наканечнік кап'я*

(Hołubowicz, 1937. S. 63). (Па назіраннях аўтара, пасудзіны перад тым, як змясціць у курганы, прыкрывалі дошчачкамі ці абвязвалі палатном.) Ці выкарыстоўваліся пасудзіны ў хатніх умовах, ці ў іх толькі адзін раз гатавалі рытуальную ежу для нябожчыкаў, невядома. Нявысветленым застаецца таксама прызначэнне пахавальных пасудзін, у якіх (як, напрыклад, у Гарадзілаўцы) не знойдзена ні вуголля, ні рэшткаў ежы (Паўлова, 1965. С. 103).

У могільніках з трупапалажэннем на гарызонце ў галавах ці каля ног нябожчыка зрэдку ляжалі дужкі і акоўкі ад невялікіх драўляных вёдзер. У насыпах кургаиоў з пахаваннямі ў магільных ямах зрэдку сустракаліся абломкі разбітых у старажытнасці гліняных пасудзін. У некаторых Суляціцкіх курганах на краях магільных ям і ў саміх ямах паблізу пахаванняў знойдзены адбітыя толькі ніжнія часткі пасудзін (Паўлова, 1965. С. 103).

Акрамя керамікі, пахавальны інвентар славянскіх курганоў Панямоння з трупапалажэннем параўнальна бедны. У жаночых пахаваннях часцей за іншыя ўпрыгожанні сустракаюцца пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з заходзячымі адзін за адзін канцамі, так званыя паўтараабаротныя. У пахавальных помніках наваколля Навагрудка з пахаваннямі ў магільных ямах пераважаюць кольцы з адагнутым у адваротны бок адным канцом. Радзей сустракаюцца пярсцёнкападобныя кольцы са спіральным завітком на канцы. У могільніку каля в. Брацянка знойдзена некалькі такіх кольцаў дыяметрам 5—6 см, зробленых з серабра (Паўлова, 1965. С. 82). Ад аналагічных вырабаў з іншых могільнікаў яны адрозніваюцца як па сваіх памерах (там яны значна меншыя), так і па матэрыяле вырабу (у іншых месцах яны выраблены з медзі ці бронзы). Зрэдку ў курганах Панямоння сустракаюцца невялікія драцяныя кольцы з S-падобным завітком на канцы. Знойдзены таксама адзінкавыя экземпляры пярсцёнкападобных вітых кольцаў, канцы якіх завязаны ці загнуты кручкамі і счэплены паміж сабой, а таксама скроневых кольцаў з полымі шарападобнымі напускнымі пацеркамі.

Каралі з пацерак у пахаваннях жанчын нешматлікія. Яны складаліся з дробных пацерак сіняга, светла-зялёнага ці матавага шкла (ад адной да шасці ў пахаванні) з дабаўленнем да іх адзінкавых экземпляраў паставых, сердалікавых, крыштальных і гліняных. Шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя пацеркі сустракаюцца рэдка. У некалькіх курганных могільніках Панямоння (Чэрнікаўшчына, Высокае, Платава, Гарадзілаўка, Сялец, Арловічы) знойдзены буйныя металічныя пацеркі, аздобленыя напаянымі на іх паверхню дробнымі шарыкамі-зерню.

Зрэдку ў жаночых пахаваннях трапляюцца круглыя металічныя прывескі, бразготкі-гузікі з лінейнай ці крыжападобнай прораззю, драцяныя рубчастыя і пласціністыя пярсцёнкі, паясныя спражкі і засцежкі да адзення. Да ліку рэдкіх знаходак адносяцца бранзалеты. У Наўрах знойдзены бранзалет са змяінагаловымі канцамі. Пласціністы і віты бранзалеты знойдзены ў Навасёлках, пласціністы бранзалет, арнаментаваны кропкамі,— у Марулінах. Шыйная грыўня сустрэта толькі адзін раз (Наўры). Яна складаецца з двух медных круглых у сячэнні гладкіх дроцікаў, перавітых зверху сканным дротам.




*Мал 18 Інвентар з пахаванняў Навагрудскага курганнага могільніка (в Брацянка): 1 — пацеркі, 2 — пярсценак, 3—8 — скроневыя кольцы, 9, 10, 16, 20 — нажы, 11, 13 — кольцы, 12 — крэсіва, 14 — сланцавая пласціна, 15 — спражка, 17, 19 — гаршкі, 18 — сякера*

Прылады працы ў жаночых пахаваннях нешматлікія. Яны пададзены толькі праслiцамі і нажамі. Калі праслiцы сустракаюцца толькі ў жаночых пахаваннях, то нажы характэрны як для жаночых, так і для мужчынскіх. Пры гэтым у мужчынскіх яны сустракаюцца значна часцей. Так, напрыклад, у Наўрах нажы знойдзены ў 8 з 11 мужчынскіх і ў 2 з 5 жаночых пахаванняў (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 24—27).

Акрамя нажоў пахавальны інвентар мужчын пададзены сякерамі, крэсівамі, спражкамі і фібуламі. Сярод сякер найбольш шматлікія два тыпы: з шырокім, адцягнутым уніз лязом, дзвюма парамі бакавых шчакавіц трохвугольнай формы і падоўжным выразным абухом; з такім жа шырокім і адцягнутым уніз, як і ў першага тыпу, лязом, але без шчакавіц і больш простым абухам з кароткімі адросткамі. Сякеры гэтых тыпаў спалучалі ўласцівасці прылад працы і зброі. На Русі яны з'явіліся ў X ст., а ў XI ст. былі вядомы ў Прыбалтыцы і ў Польшчы (Кирпичников, 1966. С. 36—37). Крэсівы сустракаюцца як аднапязовыя калачападобныя, так і двухлязовыя авальныя. Сярод паясных спражак часцей за іншыя трапляюцца лірападобныя і прамавугольныя. Фібулы, якія звычайна сустракаюцца ў адных комплексах з сякерамі, адносяцца да наступных тыпаў: са спіральназагнутымі канцамі; з паступова патоўшчанымі конусападобнымі канцамі (адна з наўранскіх фібул гэтага тыпу арнаментавана паўкруглымі, S-падобнымі і авальнымі лініямі); з чатырохграннымі канцамі са зрэзанымі верхнімі вугламі. Акрамя спражак і фібул у мужчынскіх пахаваннях трапляюцца паясныя бронзавыя і жалезныя кольцы.

**Датыроўка і этнічная прыналежнасць курганоў.** Аналіз дэталяў пахавальнага абраду і рэчавых комплексаў дазваляе з неабходнай верагоднасцю датаваць славянскія курганы Верхняга Панямоння з трупаспаленнямі X—XI стст., а з трупапалажэннямі — XI—XII стст. Пераход ад аднаго абраду да другога ў розных частках рэгіёна праходзіў неадначасова. На ўсходзе і поўдні гэта адбылося на паўстагоддзе, а то і цэлае стагоддзе раней, чым на захадзе, асабліва на паўночным захадзе.

Значна больш складанае (у параўнанні з датаваннем) пытанне аб этнічнай інтэрпрэтацыі гэтых пахавальных помнікаў. Да цяперашняга часу не высветлены асноўныя і другасныя прыкметы для вызначэння прыналежнасці таго ці іншага могільніка ці асобнага пахавання. Адны даследчыкі галоўнай этнавызначальнай прыкметай лічаць абрад пахавання (дакладней — дэталі пахавальнага рытуалу), а склад пахавальнага інвентару — другарадным. Другія, наадварот, на першае месца выстаўляюць пахавальны інвентар (дакладней — асобныя катэгорыі рэчаў), а пахавальную абраднасць — на другое.

На думку У. З. Завітневіча, найбольш істотнай прыкметай для дрыгавіцкіх курганоў з'яўляюцца трупапалажэнні на гарызонце (Завитневич, 1895. С. 225). Аднак, як пераканаўча даказала І. П. Русанава, палажэнне нябожчыкаў каля падэшвы насыпу характэрна не толькі для дрыгавічоў, але і для драўлян. Асноўнай прыкметай, уласцівай драўлянскім курганам, з'яўляецца, на яе думку, наяўнасць попельнай праслойкі вышэй пахавання, а дрыгавіцкім — вогнішчаў пад імі (Русанова, 1960. С. 63—68).

А. А. Спіцын характэрнымі прыкметамі дрыгавіцкіх старажытнасцей лічыў пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з заходзячымі адзін за адзін канцамі (паўтараабаротныя), буйныя зярнёныя пацеркі і наяўнасць унутры курганоў зрубаў ці церамкоў-дамавін (Спицын, 1899. С. 325—327). Буйназярнёныя пацеркі і паўтараабаротныя скроневыя кольцы адносіць да ліку этнавызначальных прыкмет дрыгавічоў і А. В. Успенская. Наяўнасць дамавін у курганных насыпах і рэшткаў вогнішчаў пад пахаваннямі яна лічыць другараднымі прыкметамі (Успенская, 1953. С. 97—124).

Згаджаючыся з вызначэннямі этнічных прыкмет дрыгавічоў, зробленымі У. З. Завітневічам і А. В. Успенскай, і прызнаючы змешаны характар культуры славянскіх пахавальных помнікаў Панямоння, Ф. Д. Гурэвіч адзначае перавагу ў іх дрыгавіцкага этнічнага элементу над крывіцкім. Да племянных прыкмет крывічоў яна адносіць (разам з іншымі) знаходжанне касцяка ў грунтавой яме і знаходжанне ва ўжытку скроневых кольцаў са звязанымі канцамі (Гуревич, 1962. С. 136). Аднак, як справядліва адзначае В. В. Сядоў, стан памерлых каля падэшвы кургана, у магільнай яме, пад насыпам ці ў самім насыпе не можа быць прыкметай размежавання дрыгавіцкіх і крывіцкіх старажытнасцей. Курганы розных тыпаў аднолькава часта сустракаюцца ў абласцях рассялення абодвух плямёнаў. З ліку прыкмет, характэрных для дрыгавічоў, В. В. Сядоў выключае таксама наяўнасць каля падэшвы кургана рэшткаў вогнішчаў, паколькі гэта асаблівасць пахавальнага абраду таксама ўласціва і крывічам, і радзімічам. На думку В. В. Сядова, найбольш тыповай этнавызначальнай прыкметай дрыгавічоў з'яўляюцца буйныя металічныя пацеркі, пакрытыя зерню. Пярсцёнкападобныя паўтараабаротныя скроневыя кольцы для дрыгавічоў не менш характэрныя, чым зярнёныя пацеркі, але этнічнавызначальным дрыгавіцкім упрыгожаннем лічыцца не могуць, бо яны сустракаюцца ў курганах драўлян, валынян і ў славянскіх могільніках Падляшша (Седов, 1970. С. 80—81).

Такім чынам, як відаць з выкладзенага вышэй, у пытаннях этнічнай інтэрпрэтацыі пахавальных помнікаў Панямоння (таксама, дарэчы, як і іншых тэрыторый) даследчыкі прытрымліваюцца розных, часам дыяметральна процілеглых поглядаў. А між тым назапашаны на гэтых помніках матэрыял дазваляе ўжо цяпер з неабходнай доляй дакладнасці вызначыць іх племянную прыналежнасць. Асновай для такіх высноў з'яўляецца дакладны аналіз і дэталёвая картаграфія асаблівасцей як пахавальнага абраду, так і рэчавага інвентару. Толькі комплекснае вывучэнне ўсяго матэрыялу дасць жадаемыя станоўчыя вынікі.

Асноўную масу пахаванняў у паўднёвых і цэнтральных раёнах Верхняга Панямоння ў X—XI стст. складаюць пахаванні дрыгавічоў, драўлян, у меншай ступені — валынян. Зрэдку ў цэнтральных раёнах сустракаюцца пахаванні крывічоў. Высветленае на падставе пахавальнай абраднасці і рэчавага інвентару змяшэнне ў гэтых раёнах элементаў культуры паўночнай і паўднёвай груп усходніх славян знайшло сваё адлюстраванне ў двух тыпах домабудаўніцтва: паўночнага, які пададзены наземнымі зрубамі, і паўднёвага, дзе панавалі паўзямлянкі і зямлянкі (Гуревич, 1976. С. 25). У кераміцы Ваўкавыска і Навагрудка на ранніх этапах існавання гэтых гарадоў выразна прасочваюцца рысы, падобныя

да керамікі Валыні (Малевская, 1972. С. 17). У могільніках наваколля Навагрудка, што адносяцца да XII—XIII стст., найбольш выразна выступаюць пахаванні валынян і носьбітаў культуры каменных курганоў Нёманска-Бугскага міжрэчча (Павлова, 1981. С. 83). Пахаванні апошніх зафіксаваны таксама ў могільніку паблізу г. п. Краснае Сяло ў наваколлі Ваўкавыска (Jaskanis, 1962).

Што датычыцца паўночных раёнаў разглядаемага рэгіёна, то тут разам з дрыгавіцкімі выразна выступаюць пахаванні крывічоў. Некаторыя могільнікі гэтай часткі Панямоння, і ў першую чаргу крывіцка-дрыгавіцкага паўзмежжа, зусім правільна інтэрпрэтуюцца даследчыкамі як змешаныя (такім, напрыклад, з'яўляецца Наўранскі могільнік) (Штыхов, 1971. С. 196—197). У пахавальным абрадзе і рэчавым інвентары некаторых славянскіх у сваёй масе курганных пахаванняў паўночна-заходняга Панямоння часта прасочваюцца этнічныя прыкметы балцкіх (усходнелітоўкіх) плямёнаў (Павлова, 1981. С. 40; Зверуго, 1985. С. 100—112).

**Доўгія і падоўжаныя курганы.** Асобае месца сярод пахавальных помнікаў Панямоння займаюць помнікі, вядомыя ў археалагічнай літаратуры пад назвай доўгіх і падоўжаных курганоў, асноўнай тэрыторыяй распаўсюджання якіх з'яўляюцца вярхоўі Волгі, Дняпра, Заходняй Дзвіны, бассейн р. Вялікай і наваколлі Пскоўскага возера.

У 1954 г. С. А. Тараканавай выказана меркаванне, што доўгія і падоўжаныя курганы вядомы не толькі ў басейне Заходняй Дзвіны, але і на поўдзень ад гэтай ракі (Тараканова, 1954. С. 82). Неўзабаве Ф. Д. Гурэвіч зрабіла спробу прасачыць распаўсюджанне такіх курганоў па ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі. Разам з вядомымі помнікамі было выяўлена больш дваццаці курганных могільнікаў, у складзе якіх ёсць доўгія і падоўжаныя насыпы. Усяго ў басейне Нёмана, міжрэччы Заходняй Дзвіны і Дзісны адзначана 46 такіх пунктаў (Гуревич, 1958. С. 55—59). На тэрыторыі Польшчы доўгія і падоўжаныя насыпы зафіксаваны па Нараву і Заходняму Бугу (Musianowicz, 1955. S. 272).

Доўгія і падоўжаныя курганы звычайна знаходзяцца ў тых жа могільніках, што і круглыя, але колькасць іх, як правіла, значна меншая. У некаторых выпадках падоўжаныя курганы ўтвараюць асобныя групы.

Доўгія курганы на тэрыторыі Заходняй Беларусі не раскопваліся. Пры выпадковых работах знаходзілі ў іх косці і асобныя рэчы. Падоўжаныя курганы даследаваліся ў 14 пунктах (пераважна ў басейне Дзісны і Віліі). Па знешнім выглядзе яны ўяўляюць сабой авальныя ці прамавугольныя ў плане насыпы даўжынёй да 20 м, шырынёй да 10, вышынёй да 1,5 м. Каля падэшвы некаторых насыпаў захаваліся раўчукі, зрэдку з перамычкамі. Пануючым абрадам пахавання з'яўляецца трупаспаленне па-за межамі могільніка. (Рэшткі вогнішчаў у курганах сустракаюцца вельмі рэдка.) Пераважаюць адзінкавыя пахаванні. Радзей сустракаюцца двайныя і яшчэ радзей калектыўныя. Пахавальны інвентар нешматлікі. Перш за ўсё гэта гліняныя пасудзіны (пераважна гаршкі, радзей міскі), дробныя прылады працы і прадметы ўжытку (нажы, прасліцы, тачыльныя камяні, крэсівы), упрыгожанні (бронзавыя прывескі, спіралькі, трубачкі і інш.) (Гуревич, 1958. С. 60—63).

На думку Ф. Д. Гурэвіч, доўгія і падоўжаныя курганы былі пахаваль-

ымі помнікамі, уласцівымі не толькі крывічам. У міжрэччы Нёмана і Заходняга Буга яны пакінуты дрыгавічамі. З'яўляючыся тыпова славянскімі пахавальнымі збудаваннямі, распаўсюджваюцца і ў асяроддзі пагранічнага літоўскага насельніцтва (Гуревич, 1958. С. 65). В. В. Сядоў таксама дапускае, што сярод пахаванняў доўгіх курганоў, асноўная маса якіх належала славянам (крывічам), ёсць пахаванні мясцовага ўсходнебалцкага насельніцтва (Седов, 1970. С. 101—103, 113). Зыходзячы з самога факта наяўнасці доўгіх курганоў у басейне Верхняга Нёмана, В. В. Сядоў выказаў меркаванне, што крывічы перасяліліся на Пскоўшчыну, у вярхоўі Заходняй Дзвіны і Ловаці з раёна Панямоння і Бугска-Віслелскага міжрэчча. Сваё меркаванне ён пацвярджае лінгвістычнымі данымі пра падабенства старажытнапскоўскай гаворкі са старажытнапольскімі гаворкамі (Седов, 1960. С. 55—59).

На фоне бедных на знаходкі славянскіх падоўжаных курганоў Панямоння значна вылучаюцца аналагічныя па форме насыпаў пахавальныя помнікі ўсходнелітоўскага насельніцтва. У іх у вялікай колькасці знаходзяцца прадметы ўзбраення воіна і рыштунак баявога каня (наканечнікі дзідаў, сякеры, нажы, цуглі і інш.), а таксама разнастайныя металічныя ўпрыгожанні (грыўні, бранзалеты, падвескі, фібулы, пярсцёнкі, званочкі і інш.).

У складзе славянскіх курганных могільнікаў Верхняга Панямоння часам сустракаюцца курганы, у якіх няма пахаванняў, так званыя кенатафы. Г. Цэгак-Галубовіч называе іх «пустымі» (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 6, 10). З такой назвай, безумоўна, нельга пагадзіцца. У некаторых «пустых» курганах знойдзены рэчы. Так, напрыклад, у адным кургане Наўранскага могільніка знойдзены сярэбранае бранзалетападобнае кальцо з завязанымі канцамі і фрагменты арнаментаванай пасудзіны.

Гарадскі могільнік X—XI стст. даследаваўся толькі ў Навагрудку. У іншых гарадах Панямоння не высветлена нават месцазнаходжанне такіх могільнікаў гэтага часу. З 30 раскапаных у некропалі старажытнага Навагрудка курганоў у 6 знойдзены пахаванні па абраду трупаспалення на месцы, 2 спаленні па-за межамі могільніка і 22 трупапалажэнні на гарызонце. Нябожчыкі ляжалі ў выцягнутым становішчы, на спіне, галавой на захад (зрэдку з адхіленнем на поўнач ці на поўдзень), рукі выцягнуты ўздоўж тулава ці ляжаць на грудзях. На пахавальных пляцоўках і непасрэдна пад пахаваннямі заўсёды меліся праслойкі попелу — ці прынесенага аднекуль, ці пакінутага ад рытуальных вогнішчаў. У некаторых курганах вакол пахаванняў і паблізу вяршыні насыпу ляжалі камяні. Каля ног нябожчыкаў ці побач з імі стаялі гаршкі. Пахавальны інвентар параўнальна бедны. У асноўным гэта жаночыя ўпрыгожанні (скроневыя кольцы, каралі са шкляных, сердалікавых і крышталёвых пацерак), пярсцёнкі, спражкі. З прадметаў побыту сустракаюцца нажы і крэсівы. Зброя пададзена сякерай з шырокім, апушчаным уніз лязом і круглай абуховай адтулінай (Павлова, 1965. С. 104).

Пра пахавальны абрад жыхароў старажытнага Ваўкавыска можна меркаваць на падставе пахаванняў, якія знойдзены на тэрыторыі дзядзінца (6 пахаванняў) і вакольнага горада (5 пахаванняў). Усе нябожчыкі на дзядзінцы («Шведская гара») арыентаваны галавой на паўднёвы захад. Становішча касцякоў выцягнутае, на спіне, тварам уверх на

паўднёвы ўсход, рукі ўздоўж тулава (у аднаго памерлага рукі сагнуты і падцягнуты да галавы). Усе пахаванні знаходзіліся ў ямах, глыбіня якіх не перавышала 0,4 м. Ніякіх рэчаў не знойдзена. Усе касцякі на тэрыторыі вакольнага горада (Замчышча) таксама зарыентаваны галовамі на паўднёвы захад, але ляжалі на правым баку, рукі злёгку выцягнуты ўперад (у аднаго пахаванага яны былі паднятыя да галавы). Глыбіня ям 0,7—0,8 м. Ніякіх рэчаў не знойдзена (Зверуго, 1975. С. 130).

Пахаванне набожчыкаў непасрэдна ў межах гарадскіх умацаванняў было звязана, відаць, з нейкай працяглай асадай горада. Такое становішча назіралася ў Гродне ў сярэдзіне XIII ст., калі нябожчыкаў прыйшлося хаваць на тэрыторыі крэпасці (Воронин, 1954. С. 54).

У гісторыі Навагрудка быў таксама перыяд (другая палова XI ст.), калі памерлых хавалі не на гарадскіх могілках, а непасрэдна на тэрыторыі вакольнага горада. Раскопкамі ўскрыты бескурганны могільнік (103 пахаванні), які ўзнік на вакольным горадзе ў перыяд часовага спынення тут жыцця ў выніку нейкай катастрофы, відаць, ваеннага характару. Але можна дапусціць і іншае меркаванне. Магчыма, недзе недалёка была царква, каля сцен якой і з'явіліся могілкі (Павлова, 1967. С. 39).

Усе пахаванні выкананы па абраду трупапалажэння ў неглыбокіх ямах. Некаторыя нябожчыкі былі пахаваны ў трунах, іншыя — толькі пакрыты дошкамі. Злучаліся дошкі трунаў без цвікоў (ніводнага цвіка не знойдзена). Пераважная большасць касцякоў ляжала ў выцягнутым становішчы, на спіне, галавой на захад (з адхіленнем на поўдзень, радзей — на поўнач), рукі складзены на грудзях ці на жываце, у рэдкіх выпадках выцягнуты ўздоўж тулава. Некалькі касцякоў ляжала ў скручаным становішчы, на баку, галавой на поўнач ці паўднёвы ўсход, рукі сагнутыя ў локцях, а кісці прыцягнуты да падбародка. Такім чынам, зафіксаваны два абрады пахавання: хрысціянскі і нейкі зусім іншы. Археалагічны матэрыял не дазваляе пакуль адказаць на пытанне, прадстаўнікі якой этнічнай групы насельніцтва горада пахаваны ў скручаным становішчы.

У пахавальным інвентары славянскіх курганоў Верхняга Панямоння сустракаюцца, як ужо адзначалася вышэй, драцяныя скроневыя кольцы з *S*-падобным завітком, характэрныя для польскіх плямёнаў Мазовіі і Падляшша. Наяўнасць іх у пахавальных помніках Панямоння сведчыць аб тым, што разам з усходнеславянскімі плямёнамі сюды пранікалі і заходнія славяне.

**Археалагічныя помнікі балцкага насельніцтва.** Разам са славянскімі на тэрыторыі Панямоння маюцца пахавальныя помнікі балцкіх плямёнаў. Сярод іх найбольш поўна даследаванымі з'яўпяюцца так званыя **ўсходнелітоўскія курганы.** У другой палове XIX — пачатку XX ст. іх даследавалі К. П. і Я. П. Тышкевічы, Л. А. Кандратовіч (У. Сыракомля), А. К. Кіркор, А. А. Плятар, В. А. Шукевіч, Э. А. Вальтэр, Ф. В. Пакроўскі, П. С. Рыкаў. Пасля вайны іх вывучаюць А. Таўтавічус, Р. Кулікаўскене, О. Кунцэне, Я. Г. Звяруга і інш.

Вобласць распаўсюджання ўсходнелітоўскіх курганоў на захадзе абмежавана сярэднім цячэннем Нёмана, на поўначы — вярхоўямі р. Швянтойі, на ўсходзе дасягае возера Свір, на поўдні ахоплівае басейн

р. Меркіс (Таутавичюс,1959. С. 142). У межах вывучаемага рэгёна курганы размешчаны ў вярхоўях Віліі і на правабярэжжы Нёмана ўздоўж граніцы з Літвой.

Курганы звычайна размяшчаюцца паблізу рэк і азёр. Колькасць насыпаў у могільніку, як правіла, невялікая (ад некалькіх да некалькіх дзесяткаў). Могільнікі, якія налічваюць каля 100 і больш насыпаў, з'яўляюцца выключэннямі. Так, напрыклад, у могільніках каля вёсак Лоша (Астравецкі раён) і Чорная Лужа (Мядзельскі раён) у канцы XIX ст. налічвалася па 80 насыпаў, а ў Засвірскім могільніку (Мядзельскі раён) у той час іх было каля 200. Насыпы круглыя ў плане. Дыяметр вагаецца ад 5—6 м да 10—12 м, вышыня — ад 0,6—0,7 м да 1,0—1,2 м. Курганы дыяметрам больш за 15 м і вышынёй больш за 1,5 м адзінкавыя. У больш ранніх курганоў (IV—VIII стст.) каля асновы маюцца вянцы з камянёў рознай велічыні, пакладзеных у адзін або два рады. Пры наяўнасці двух радоў камяні ляжаць або на адным узроўні, або адзін рад на другім. Часамі кольцы з камянёў маюцца ўнутры насыпаў (Косаўшчына, Лідскі раён), а каменныя вымасткі пакрываюць значную частку насыпу (Гускі, Мядзельскі раён; Піпьвіны, Астравецкі раён; Янава, Пастаўскі раён і інш.). Каля асновы больш позніх курганоў (IX—XII стст.) зрэдку прасочваюцца прадаўгаватыя (авальныя ці дугападобныя) ямы або неглыбокія равы. Паходжанне ям і равоў тлумачыцца не толькі тым, што з іх бралі зямлю для курганнага насыпу (яе для гэтай мэты было далёка недастаткова), але, відавочна, і нейкім рытуальным іх прызначэннем (Куликаускиене, 1952. С. 108).

А. З. Таўтавічус падраздзяліў усходнелітоўскія курганы на тры храналагічныя групы: першая — IV—V стст., другая — V—VIII стст. і трэцяя — канец 1-га — пачатак 2-га тысячагоддзя н. э. (Таутавичюс, 1959. С. 135—137).

Для курганоў IV—V стст. характэрны абрад трупапалажэння. Нябожчыкаў звычайна клалі ў падкурганныя грунтавыя ямы глыбінёй 0,1—1 м. У кургане, як правіла, знаходзіцца адно-два пахаванні, зрэдку — тры. Другое пахаванне часам знаходзіцца каля асновы насыпу, над магільнай ямай з першым пахаваннем. Становішча касцякоў выцягнутае, галовамі на захад. Пахавальны інвентар прадстаўлены перш за ўсё ўпрыгожаннямі: скроневыя кольцы, шыйныя грыўні, падковападобныя змаліраваныя фібулы, ажурныя падвескі з эмаллю. Прадметы ўзбраення пададзены ўтулкавымі наканечнікамі дзідаў і ўмбонамі шчытоў, а прылады працы — вузкалязовымі тапарамі (яны аднначасова з'яўляліся і прадметамі ўзбраення), сярпамі, нажамі, шыламі, прасліцамі.

У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. абрад трупапалажэння замяняецца абрадам трупаспалення. Для ўсіх усходнелітоўскіх курганоў V—XII стст. характэрна трупаспаленне па-за межамі могільніка. Рэшткі спаленняў змяшчаліся ў неглыбокіх грунтавых ямах, але часцей за ўсё ссыпаліся каля асновы кургана або ў яго насыпе. Спаленні ў грунтавых ямах сустракаюцца рэдка. Выключэннем з'яўляецца могільнік каля в. Чорная Лужа (Мядзельскі раён), у якім яны складаюць большасць (у 9 з 12 раскапаных курганоў). Глыбіня ям 0,35—0,6 м. Часам спаленыя косці абкладваліся камянямі або змяшчаліся ў каменныя скрынкі. У трох грунтавых ямах кургана № 5 Чорналужанскага могільніка меліся




*Мал. 19. Пахавальны інвентар з курганных могільнікаў Вайшкуны (1—20) і Лынтупы (21—34): 1—9 — бразготкі; 10 — ланцужок; 11—13 — абломкі грыўняў; 14 — спіралька; 15 — шпілька; 16, 23 — шылы; 17, 29 — наканечнікі коп'яў; 18, 28, 34 — сякеры; 19, 21, 32 — прасліцы; 20 — балабон; 22, 25—27 — нажы; 24, 33 — фрагменты бранзалетаў; 30, 31 — спражкі*

такія скрынкі з цэлых і колатых камянёў. Дном і крышкай кожнай з іх з'яўляліся цэлыя звернутыя ўнутр плоскім бокам камяні. На дне некаторых грунтавых ям прасочваюцца праслойкі чыстага, відаць, азёрнага пяску. Акрамя Чорнай Лужы асобныя спаленні ў грунтавых ямах выяўлены ў курганах паблізу вёсак Рымшанцы (Смаргонскі раён) і Паніззе (Мядзельскі раён) (Покровский, 1899. С. 77, 102, 106—117). Пахавальныя ўрны ва ўсходнелітоўскіх курганах ужываліся надзвычай рэдка.

У кургане часцей за ўсё бывае адно пахаванне, радзей — два і яшчэ радзей — тры-чатыры. Аднак сустракаюцца насыпы, у якіх колькасць пахаванняў дасягае пяці-шасці. Па шэсць пахаванняў мелася ў курганах № 5 і № 6 у Чорнай Лужы, кургане № 3 (раскопкі 1976 г.) у Засвіры, пяць пахаванняў выяўлена ў кургане № 11 паблізу ст. Смаргонь. Пахаванні звычайна змяшчаюць невялікую колькасць прынесеных з вогнішча касцей і пашкоджаны агнём пахавальны інвентар.

Найбольш характэрнай асаблівасцю курганоў з трупаспаленнем V—VIII стст. з'яўляецца мноства прадметаў узбраення. Амаль у кожным мужчынскім пахаванні гэтага часу сустракаюцца адзін-два, а то і тры наканечнікі дзідаў. Часта трапляюцца вузкалязовыя сякеры і баявыя (даўжынёй да 25 см) нажы, радзей — умбоны шчытоў. Рыштунак коннага воіна і верхавога каня прадстаўлены шпорамі, страмёнамі, цуглямі, вупражнымі кольцамі і спражкамі. Прылады працы пададзены сярпамі, шыламі, тачыльнымі брускамі, а ўпрыгожанні — шыйнымі грыўнямі, арбалетнымі і падковападобнымі фібуламі, бранзалетамі з патоўшчанымі канцамі, спіральнымі пярсцёнкамі і інш.

У канцы VIII—IX ст. паступова перасталі абкладваць усходнелітоўскія курганы каменнымі вянцамі. Познія (IX—XII стст.) курганы з трупаспаленнем па сваім знешнім выглядзе не адрозніваюцца ад пахавальных помнікаў суседніх славянскіх плямёнаў: тая ж паўшарападобная форма насыпу, узведзенага з пяску, тыя ж падоўжаныя (авальныя ці дугападобныя ў плане) ямы ці неглыбокія з перамычкамі равы каля асновы. Сярод позніх курганоў зрэдку трапляюцца прадаўгаватыя або авальныя насыпы (Засвір, Лынтупы).

Пануючым абрадам у курганах з трупаспаленнем канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. з'яўляецца пахаванне на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы ці некалькі вышэй яго. Такі абрад зафіксаваны ва ўсіх адзінаццаці даследаваных у 1976 г. засвірскіх курганах, у васьмі з дзевяці (раскопкі 1977 г.) лынтупскіх курганах, ва ўсіх дзевяці курганах каля в. Вайшкуны (Пастаўскі раён). Пахаванні ў насыпе размяшчаюцца на рознай вышыні. Рэшткі трупаспаленняў падчас змяшчаюцца ў верхняй частцы насыпу на глыбіні ўсяго 10—15 см ад паверхні. Такія спаленні выяўлены ў Лынтупах (курган № 4, раскопкі 1977 г.), Чорнай Лужы (курган № 6) і іншых месцах.

Пры наяўнасці ў кургане некалькіх пахаванняў яны часцей за ўсё размяшчаюцца аднолькава, на ўзроўні старажытнага гарызонту глебы ці некалькі вышэй. Але сустракаецца і рознае размяшчэнне: у аснове кургана і ў насыпе (Пільвіны), у аснове кургана, насыпе і ў грунтавой яме (Чорная Лужа). Калі ў кургане адно пахаванне, яно, як правіла, знаходзіцца ў цэнтры насыпу. Калі ж пахаванняў некалькі, то асобныя з іх могуць размяшчацца на самым краі насыпу.

Курганы X—XII стст. звычайна сустракаюцца ў тых жа могільніках, у якіх вядомы і больш раннія насыпы. Але ў некаторых могільніках (Зязюлька (Сідарышкі), Астравецкі раён; Маркіняты, Ашмянскі раён) выяўлены толькі познія курганы.

У курганах канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. прадметы ўзбраення сустракаюцца рэдка і толькі ў багатых пахаваннях. Для больш ранніх з іх характэрны адналязовыя кароткія мячы, для больш позніх — двухлязовыя. Чатыры сагнутыя мячы з рознымі па форме галоўкамі (навершшамі) знойдзены ў курганным могільніку ў Гуркавіцах (Вілейскі павет). У. Антаневіч лічыць іх нарманскімі (Antoniewicz, 1930. S. 117). Відаць, два кароткія (даўжынёй 36 і 40,5 см) сагнутыя мячы выяўлены разам з умбонам шчыта ў адным са смаргонскіх курганоў (№ 8). П. С. Рыкаў палічыў іх за шаблі (Рыков, 1914а. С. 12; Ён жа, 1914б. С. 16). У Гарадзілаве (Маладзечанскі раён) знойдзены сагнуты ўчатыры столкі меч з трохчасткавай галоўкай (Покровский, 1892. Табл. XIV, 1). Праўда, курган у Гарадзілаве некалькі адрозніваецца ад усходнелітоўскіх курганоў па абраду пахавання (рэшткі спалення змешчаны ў урну) і, магчыма, належаў іншаземцу.

Падобна таму, як у курганах V—VIII стст. пёры наканечнікаў дзідаў, так у пахаваннях канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. клінкі мячоў сагнуты. Прыведзеная ў непрыдатны стан зброя не павінна была служыць жывым (Гуревич, 1947. С. 32, 37).

У курганах X—XII стст. сякеры сустракаюцца рэдка. На змену вузкалязовым сякерам больш ранняга часу прыйшлі сякеры з шырокім лязом і авальнай правушынай для тапарышча (некаторыя з іх з закраінамі). У жаночых пахаваннях гэтага часу амаль знікаюць сярпы, а калі і сустракаюцца, то даволі буйных памераў (так званага літоўскага тыпу). Значна менш стала і ўпрыгожанняў. Часцей за іншыя сустракаюцца шыйныя грыўні і падковападобныя фібулы (у тым ліку з патоўшчанымі канцамі), радзей — бранзалеты, спіральныя пацеркі ў выглядзе падвойнага конуса і спіральныя пярсцёнкі. Наканечнікі дзідаў у мужчынскіх пахаваннях сталі больш масіўнымі. Цуглі — двухсастаўныя кальцавыя, часам з псаліямі, страмёны — звычайна з шырокай падножкай.

У пахавальным інвентары ўсходнелітоўскіх курганоў вельмі мала керамікі. У ранніх курганах гэта ляпныя невялікія пасудзіны слоікавай формы, гаршкі і міскі. У курганах пачатку 2-га тысячагоддзя н. з. знойдзены ганчарныя гаршкі, часам упрыгожаныя тыповым для ўсходнеславянскіх пламёнаў хвалістым арнаментам. Колькасць пасудзін у адным кургане звычайна не адпавядае колькасці пахаванняў. Напрыклад, каля падэшвы кургана № 16 у Засвіры (раскопкі 1895 г.) знойдзены чатыры гаршкі, а пахаванняў у насыпе гэтага кургана было толькі два (Покровский, 1899. С. 87). Аднак у падаўляючай большасці выпадкаў колькасць пахаванняў значна перавышала колькасць пасудзін, як цэлых, так і разбітых. На думку Ф. В. Пакроўскага, у гэтых пасудзінах пераносілі рэшткі трупаспаленняў з вогнішча у курган ці ўжывалі іх для акурвання магіл у дні памінання нябожчыкаў і ніколі не выкарыстоўвалі ў якасці пахавальных урнаў (Покровский, 1895. С. 195, 209; Ён жа, 1899. С. 94). Кераміка з курганоў абпалена значна горш за кераміку, знойдзеную на сінхронных гарадзішчах і селішчах.

У курганах канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. часта сустракаюцца пахаванні з трупаспаленнямі без усякага інвентару. У некаторых курганах X—XI стст. трапляюцца вогнішчы, на якіх быў спалены конь або чалавек з канём (Засвір, курганы № 7 і 20, раскопкі 1895 г.); вялікая колькасць вугалёў і перапаленых касцей пакрывалі мацярык на ўсёй плошчы курганоў. У тых выпадках, калі пахаванне чалавека знаходзілася ў адным кургане з канём, яно, як правіла, пазбаўлена пахавальнага інвентару. Гэта дазволіла А. Таўтавічусу выказаць меркаванне, што існаваў звычай хаваць з канём не толькі воінаў, але і простых земляробаў (Таутавичюс, 1959. С. 137).

У канцы 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. з. у басейне Верхняй Віліі, як і ва Усходняй Літве, шырокае распаўсюджанне атрымалі паявіўшыяся яшчэ у сярэдзіне 1-га тысячагоддзя пахаванні коней. Спаленага або неспаленага каня звычайна хавалі асобна ад чалавека. Пахаванні сустракаюцца як у аснове кургана ці яго насыпу, так і ў падкурганнай яме (Куликаускене, 1952. С. 117; Яна ж, 1953. С. 211, 213—214). Перапаленыя косці каня выяўлены Ф. В. Пакроўскім у асновах кургана № 2 у Паніззі і кургана № 7 у Пільвінах. У адным з будранскіх курганоў меўся касцяк каня галавой на паўднёвы ўсход, відаць, забітага на месцы пахавання (Покровский, 1899. С. 77, 120, 138). Косці коней знойдзены ў двух з сямі даследаваных (раскопкі 1976—1977 гг.) курганах каля в. Сідарышкі. У адным кургане каля в. Гарадок (Маладзечанскі раён) шкілет каня знаходзіўся ў яме глыбінёй 0,7 м. Конь ляжаў на правым баку, ногі падагнуты, галава на паўднёвы ўсход. Інвентар «конскіх пахаванняў»: двухзвённыя і трохзвённыя цуглі, псаліі, спражкі, вупражныя кольцы, медныя пласцінкі, шпянькі-заклёпкі.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва, якое пакінула ўсходнелітоўскія курганы, ва ўсіх даследчыкаў, пачынаючы з Ф. В. Пакроўскага, сумненняў не выклікала. Яшчэ ў 1896 г. А. А. Спіцын пісаў, што курганы з абрадам трупаспалення і характэрным інвентаром, вядомыя па цячэнню Віліі і Сярэдняму Нёману, пераходзячы месцамі на яго левы бераг, патрэбна лічыць літоўскімі (Спицын, 1896. С. 103). Літоўскімі помнікамі лічылі курганы басейна Віліі У. Антаневіч (Antoniewicz, 1930. S. 112—114), Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (Cehak-Hołubowiczowa, 1937. S. 84—88; Hołubowiczowie H. i W., 1940. S. 6—7). Гэты пункт гледжання падзяляюць усе сучасныя даследчыкі. Па-рознаму вырашаецца імі толькі пытанне аб тым, якім канкрэтна плямёнам належалі гэтыя помнікі. Адны даследчыкі (Ф. Д. Гурэвіч, Р. Кулікаўскене) звязваюць іх з аўкштайтамі, іншыя (А. Таўтавічус, Р. Ябланскітэ-Рымантэне) лічаць іх помнікамі некалькіх аб'яднанняў літоўскіх плямёнаў (Гуревич, 1947. С. 39; Куликаускене, 1950. С. 17; Таутавичюс, 1954. С. 17—18; Яблонските-Римантене, 1954. С. 18).

Найбольш познія ўсходнелітоўскія курганы датуюцца пачаткам XIII ст. Звычай хаваць нябожчыкаў у курганах знік, відаць, у час складвання літоўскай народнасці (Таутавичюс, 1959. С. 142). Трупы нябожчыкаў па-ранейшаму спальваюць, але хаваюць у грунтавых магілах. У некаторых рэгіёнах Літвы трупаспаленне захавалася да XIV—XV стст. У 1377 г. быў спалены разам з 18 конямі князь Альгерд (паводле Длугаша гэта адбылося каля Крэўскага замка), а ў 1382 г. — князь Кейстут.

Такое працяглае захаванне абраду трупаспалення было ў значнай ступені звязана з барацьбой супраць крыжакоў. Яна набыла форму барацьбы рэлігійнай, адной з праяў якой і з'яўлялася захаванне абраду спалення трупаў супляменнікаў (Гуревич, 1947. С. 35, 37).

**Яцвяжскія курганныя могільнікі** звычайна складаюцца з некалькіх дзесяткаў невысокіх (як правіла, да 0,5 м) плоскіх збудаванняў з камянёў ці каменна-земляных насыпаў дыяметрам ад 5 да 20 м. Для II—IV стст. характэрна біабраднасць: разам з трупапалажэннем сустракаецца трупаспаленне. На рубяжы IV—V стст. трупаспаленне робіцца адзіным абрадам пахавання. Рэшткі спаленняў (звычайна бязурнавыя) змяшчаюцца ці ў невялікіх ямах пад насыпам, ці сярод камянёў самога насыпу. Колькасць пахаванняў у адным кургане розная: ад двух-трох да дзесяці і больш (у так званых «сямейных» курганах). Самыя позні трупаспаленні адносяцца да рубяжа 1-га і 2-га тысячагоддзяў. Па сваім устройству і знешнім выглядзе курганы гэтага часу не адрозніваюцца ад больш ранніх. Толькі колькасць пахаванняў у адным насыпе скарачаецца да аднаго-двух.

На правабярэжжы Верхняга Нёмана (дакладней — у міжрэччы Нёмана і Віліі) вядомы каменныя курганы IV—VIII стст. з трупаспаленнем. На думку В. В. Сядова, гэтыя курганы, як і каменныя магілы больш позняга часу, пакінуты тут яцвяжскім племенем, якое, як і вобласць, ім заселеная, у старажытнасці называлася Дайновай (Седов, 1968. С. 24—30).

Адным з першых і лепш даследаваных помнікаў рубяжа 1-га і 2-га тысячагоддзяў быў могільнік у былым маёнтку Ясудава (ускраіна сучаснага г. п. Сапоцкін) Гродзенскага раёна. У 1908 г. С. Крукоўскі даследаваў 15 кургаоў. Трынаццаць з іх мелі ў плане круглую форму, два — падоўжаную. Дыяметр круглых кургаоў ад 5,5 да 12,5 м. Унутры некаторых насыпаў сустракаліся прамавугольныя ці круглыя ў плане збудаванні з каменя. Найбольш буйныя з іх (у кургане № 2) мелі памеры 3,5×3 м. Пахавальны абрад ва ўсіх курганах — трупаспаленне на грунце (у адным выпадку касцяк быў спалены няпоўнасцю).

Бязурнавыя пахаванні знаходзіліся ў насыпе ці на ўзроўні вогнішчаў. Урны сустракаліся ў розных частках насыпаў. Пахавальны інвентар разнастайны: гліняныя пасудзіны (гаршкі, збаны, цыліндрычныя пасудзіны), нажы, наканечнікі дзідаў, падкovападобныя фібулы (жалезныя і бронзавыя), пласціністыя бранзалеты, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі з заходзячымі адзін за адзін канцамі, вітыя грыўні, шкляныя пацеркі. Шматлікія абломкі аплаўленага шкла. Колькасць пасудзін у курганах розная: ад адной да адзінаццаці. Усе яны выраблены на ганчарным крузе, упрыгожаны хваляй, вузкімі і шырокімі паласамі, насечкамі і штампамі.

Датаванне і этнічная прыналежнасць могільніка ў Ясудаве рознымі даследчыкамі вызначалася па-рознаму. А. А. Спіцын датаваў яго IX—X стст. і адносіў да так званай клайпедскай (мемельскай) культуры (Спицын, 1925. С. 143). У. Антаневіч лічыў яго па часе больш познім помнікам (X—XI стст.), а па этнічнай прыналежнасці — усходнелітоўскім (Antoniewicz, 1928. S. 206). Р. Якімовіч адзначаў, што ў гэтым могільніку кераміка заходнеславянская, а металічныя вырабы літоўскія. Значыць, помнік належаў змешанаму славяна-літоўскаму насельніцтву (Jakimo-

wicz, 1939—1948). В. В. Сядоў Ясудаўскія курганы лічыць яцвяжскімі і найбольш раннія з іх адносіць да IX ст. Пры гэтым той факт, што ў гэтых і іншых яцвяжскіх курганах сустракаецца старажытнаруская кераміка, В. В. Сядоў лічыць зусім заканамерным. Такая кераміка была распаўсюджана ў помніках і іншых суседніх са славянамі плямёнаў: ва ўсходнелітоўскіх курганах, на літоўскіх пількалнісах, паселішчах латгалаў, помніках прускіх плямёнаў (Седов, 1964. С. 48).

У 50-я гады Ф. Д. Гурэвіч раскапала тры курганы ў могільніку паблізу в. Суляцічы Навагрудскага раёна. У насыпе аднаго з іх на розных узроўнях знойдзены камяні і невялікая колькасць вуголля. У другім — амаль пад самым дзірвановым слоем было цэлае покрыва з камянёў. У гэтым кургане таксама знойдзены шмат вуголля і асобна перапаленыя косткі. Некалькі абпаленых костак сустрэлася і ў трэцім кургане. У насыпе гэтага кургана знойдзены абломкі дзвюх кругавых пасудзін — міскі і гаршка. У міскі адагнуты вонкі венчык з жалабком на ўнутраным баку, донца на паддоне, паверхня гладкая. Паверхня гаршка ўпрыгожана лінейным арнаментам (Гуревич, 1962. С. 100, 204). Наяўнасць у Суляціцкіх курганах кругавой керамікі старажытнарускага аблічча дазваляе датаваць іх канцом 1-га — пачаткам 2-га тысячагоддзя.

Курган з трупаспаленнем, у якім не было пахавальнага інвентару, раскапаны Я. Г. Зверугам у 1969 г. на ўскраіне Ваўкавыска, недалёка ад гарадзішча Муравельнік. Насып кургана складаўся ў асноўным з пяску, але ўжо, пачынаючы з самой вяршыні, у ім часта трапляліся камяні. Па меры паглыблення ў насып камянёў было ўсё больш. Тыя, што ляжалі каля падэшвы кургана, утваралі нешта накшталт канцэнрычных аркужнасцей. У цэнтры насыпу на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні было авальнае ў плане ядро, складзенае з даволі шчыльна прылягаючых адзін да аднаго камянёў. Пад ядром знаходзіліся дзве невялікія злучаныя паміж сабой ямкі, запоўненыя попелам. Ніякіх рэчаў ні ў насыпе кургана, ні ў самім пахаванні не знойдзена (Зверуго, 1970. С. 309). Падобны па сваім узвядзенні курган, які змяшчае пахаванне па абраду трупаспалення без інвентару, даследаваны Я. Г. Зверугам у 1975 г. каля в. Мітроні Ваўкавыскага раёна (Зверуго, 1976. С. 418).

У XI—XII стст. абрад трупаспалення ў каменных курганах змяняецца абрадам трупапалажэння. У басейне верхняга Нёмана і Віліі каменныя курганы XI—XIII стст. з трупапалажэннем даследаваліся Э. А. Вальтэрам, З. Глогерам, В. Шукевічам, С. Яроцкім, Я. Г. Зверугам. Асабліва каштоўнай крыніцай з'яўляюцца даволі падрабязна апублікаваныя матэрыялы з раскопак В. Шукевіча.

Узвядзенне курганоў застаецца ранейшым: каменнае покрыва, якое складаецца з аднаго ці некалькіх ярусаў (сустракаюцца курганы цалкам складзеныя з каменя), ці каменна-земляны насып, у якім камень складае істотны кампанент. Нябожчыкаў клалі альбо на мацярык, альбо ў падкурганную яму. Пераважная большасць памерлых арыентавана галавой на захад, хоць сустракаецца і ўсходняя арыенціроўка. У кожным кургане знаходзіўся, як правіла, адзін касцяк, у рэдкіх выпадках — два-тры. У двайных пахаваннях — звычайна жанчына і дзіця.

Пахавальны інвентар часцей сустракаецца пры позніх трупапалажэннях. У жаночых пахаваннях гэта сярэбраныя і бронзавыя пярсцёнка-



*Мал 20 Інвентар з курганоў каля вёсак Каўпакі (1—23) і Падрось (24—53) 1—12, 20—22, 25—30, 34, 35 — скроневыя кольцы, 13—18, 41—47 — пацеркі, 19, 40 48, 49 — нажы, 23, 31 — крэсівы, 24 — бранзалет, 32 — праслiца, 33 — прывеска, 36—39 — пярсцёнкі, 50 — серп, 51—53 — гаршкі*

падобныя скроневыя кольцы з S-падобнымі ці спіральнымі завіткамі, пярсцёнкападобныя кольцы з заходзячымі канцамі. У міжрэччы Нёмана і Віліі часта сустракаюцца рэшткі налобнай павязкі ў выглядзе сярэбраных ці бронзавых бляшак з цісненым узорам. Шкляныя, паставыя і гліняныя пацеркі сустракаюцца рэдка.

Пахавальны інвентар мужчынскіх пахаванняў прадстаўлены наканечнікамі дзідаў, сякерамі, паяснымі спражкамі, крэсівамі (калачападобнымі і авальнымі). Жалезныя нажы і кругавыя пасудзіны сустракаюцца як у мужчынскіх, так і ў жаночых пахаваннях.

Каменныя курганы з трупапалажэннем першых стагоддзяў 2-га тысячагоддзя ў паўднёвай частцы Верхняга Панямоння да цяперашняга часу застаюцца маладаследаванымі. Адзіным помнікам, які раскопваўся, з'яўляецца могільнік каля в. Каўпакі Гродзенскага раёна. У 1975 г. Я. Г. Звяруга раскапаў тут 12 курганоў (11 круглых і адзін падоўжаны) (Зверуго, 1976. С. 418). Ва ўсіх курганах амаль адразу ж пад дзірвановым слоем былі даволі шчыльна прылягаючыя адзін да аднаго камяні рознай велічыні. Найбольш буйныя з іх размяшчаліся, як правіла, па краях вымастак. У некалькіх курганах знойдзены нешматлікія рэшткі чалавечых касцей, у некаторых знаходзілася вуголле. Аднак слядоў трупаспалення не знойдзена. Пахавальны абрад даволі бедны: каля двух дзесяткаў паўтараабаротных пярсцёнкападобных скроневых кольцаў з заходзячымі канцамі, пяць шкляных пацерак, два скроневыя трохпацеркавыя кальцы, мініяцюрны нож і авальнае крэсіва.

Пытанне аб этнічнай прыналежнасці каменных курганоў XI—XIII стст. даследчыкамі вырашалася па-рознаму. А. А. Спіцын лічыў іх, як і каменныя магілы, помнікамі славянскага (рускага) насельніцтва (Спицын, 1899. С. 303, 309). Славянскімі, але не рускімі, а мазавецкімі лічаць каменныя курганы польскія археолагі. Да помнікаў усходнелітоўскіх плямёнаў адносіць курганы міжрэчча Нёмана і Віліі А. В. Таўтавічус (Таутавичюс, 1959. С. 133—134). В. В. Сядоў усе каменныя курганы Верхняга Панямоння бясспрэчна звязвае з яцвягамі (Седов, 1964. С. 50—51).

З каменнымі курганамі непасрэдна звязаны так званыя **каменныя магілы.** Гэта паўшарападобныя, падоўжаныя ці прамавугольныя ў плане, нязначна ўзвышаныя над зямлёй пахавальныя збудаванні. Яны звычайна лакалізуюцца ў параўнальна невялікім раёне правабярэжжа Нёмана (Лідскі, Шчучынскі, Воранаўскі раёны Беларусі і сумежныя раёны Літвы). Тут на працягу 1884—1894 гг. вялікія раскопкі праведзены В. Шукевічам і Э. А. Вальтэрам.

Пахаванні ў каменных магілах адбываліся па абраду трупапалажэння. Нябожчыкаў клалі ў грунтавыя ямы ў выцягнутым становішчы, галавой пераважна на захад (усходняя арыенціроўка сустракаецца радзей, а яшчэ радзей — паўднёвая). У кожнай магіле знаходзіцца звычайна адзін касцяк, але сустракаюцца два-тры, рэдка чатыры.

Пахавальны інвентар мужчынскіх пахаванняў уключае ў сябе прадметы ўзбраення (наканечнікі дзідаў, баявыя сякеры, нажы, шаблі, шпоры), прылады працы (рабочыя сякеры, тачыльныя камяні), прадметы побыту (крэсівы з крэменямі, паясныя спражкі, бляшкі) і нешматлікія ўпрыгожанні (пярсцёнкі, спіралькі).




*Мал. 21. Інвентар з каменных магіл: 1, 3, 4, 23 — бранзалеты, 2 — пацерка, 5, 15, 16, 22 — прывескі, 6—8, 20 — пярсценкі, 9—11, 13, 14 — бляшкі, 12, 18, 19, 21 — скроневыя кольцы, 17 — спражка (1, 3, 5, 8, 12, 13, 21—23 — Вензаўшчына, 2, 4, 6, 7, 9—11, 14—20 — Дварчаны)*

Пахавальны інвентар жаночых пахаванняў складаюць пераважна ўпрыгожанні. Найбольш характэрнымі сярод іх з'яўляюцца галаўныя венчыкі з квадратных і трохвугольных бляшак (большасць з іх з цісненым арнаментам). Часта сустракаюцца скроневыя кольцы, завушніцы, бранзалеты, пярсцёнкі, каралі з пацерак, ракавін каўры і падвесак у выглядзе крыжыкаў і званочкаў. Прылады працы і рэчы побыту ў жаночых пахаваннях вельмі рэдкія.

Уся знойдзеная ў каменных магілах кераміка, за выключэннем адной пасудзіны з Ланкішак, кругавога вырабу. Гэта гаршкі з прамым ці адагнутым венчыкам і арнаментам у выглядзе гарызантальных ліній, хваляў, насечак і паглыбленняў.

У шэрагу выпадкаў у каменных магілах знойдзены манеты: пражскія грошы XIII—XIV стст., манеты літоўскіх князёў Кейстута і Вітаўта (XIV—XV стст.), польскіх каралёў Аляксандра, Сігізмунда-Аўгуста і інш. (XV—XVI стст.) і больш позняга часу.

Знойдзеныя матэрыялы дазваляюць датаваць найбольш раннія каменныя магілы XII—XIII стст., магчыма, нават канцом XI ст. Верхняя дата помнікаў пакуль што не можа быць дакладна вызначана. Вялікія сумненні выклікае правільнасць датавання найбольш ранніх магіл X ст., як гэта робіць А. В. Квяткоўская ў артыкуле, які падводзіць некаторыя вынікі даследаванню каменных могільнікаў Беларускага Панямоння (Квятковская, 1986). Не адпавядае сапраўднасці сцвярджэнне даследчыцы аб тым, што землі Панямоння і Пабужжа ніколі не ўваходзілі ў склад старажытнарускай дзяржавы, а з пачатку XIII ст. знаходзіліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага (Квятковска, 1998. С. 178).

Раздзел 2

# СЯРЭДНЕВЯКОВАЯ ВЁСКА Ў IX—XIII стст.

У X—XIII стст. абсалютная большасць насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі пражывала ў сельскай мясцовасці. У адрозненне ад гарадоў, якія (разам з іншымі функцыямі) з'яўляліся рамеснымі і гандлёвымі цэнтрамі, сельскія паселішчы сканцэнтроўвалі сельскагаспадарчую вытворчасць — земляробства і жывёлагадоўлю, а таксама промыслы (збіральніцтва, паляванне, рыбалоўства, бортніцтва).

Да нядаўняга часу кола крыніц па гісторыі сельскіх паселішчаў было абмежавана вельмі нямногімі помнікамі пісьменнасці, і перш за ўсё — летапіснымі звесткамі. І толькі апошнія тры-чатыры дзесяцігоддзі гэта кола стала прыкметна пашырацца за кошт ахреалагічных помнікаў — селішчаў і гарадзішчаў. Селішчы выяўлены паўсюдна, дзе праводзіліся разведкі. Пры гэтым колькасць іх знаходзіцца ў прамой залежнасці ад таго, наколькі той ці іншы рэгіён даследаваны ў археалагічных адносінах. Большасць селішчаў адкрыта там, дзе меліся ўрадлівыя глебы, лясы і воды. Даследаваннямі ўстаноўлена, што ў XI—XIII стст. адбываецца змяншэнне памераў селішчаў, што, відаць, было звязана з ростам феадальнага землеўладання, захопам абшчынных зямель і заняволленнем свабодных сялян феадаламі.

Гарадзішчаў розных тыпаў (феадальных сядзіб, гарадзішчаў-сховішчаў, памежных крэпасцей, свяцілішчаў і, верагодна, паселішчаў сельскіх абшчыннікаў) зарэгістравана на 1970 г. удвая больш — адна тысяча. Але, як устаноўлена даследаваннямі, большасць з іх узнікла ў жалезным веку і выкарыстоўвалася сярэдневяковым насельніцтвам далёка не заўсёды. Несумненна ўзнікшымі ў XI—XIII стст. з'яўляюцца феадальныя сядзібы — замкі і гарадзішчы, якія, падобна як і замкі, маюць правільную геаметрычную форму, што не залежыць ад рэльефу мясцовасці і з'яўляецца вынікам задумы будаўнікоў.

Пытанне аб значэнні земляробства і звязанай з ім жывёлагадоўлі ў жыцці ўсходніх славян даўно перастала быць дыскусійным. Працамі гісторыкаў, і перш за ўсё археолагаў, пераканаўча паказана, што земляробства з'яўлялася асноўным заняткам усходнеславянскага насельніцтва задоўга да ўтварэння дзяржавы.

Археалагічныя раскопкі паселішчаў вывучаемага часу і ў асноўным — гарадоў далі вялізны матэрыял, які сведчыць аб высокім узроўні развіцця земляробства на тэрыторыі Беларусі: шырокі склад вырошчваемых культур, прагрэсіўная паравая сістэма, высакаякасныя прылады працы. Асноўнымі крыніцамі з'яўляюцца знаходкі зярнят культурных

раслін разам са спадарожнічаючым пустазеллем і частак земляробчых (у тым ліку ворных) прылад. Сярод хлебных злакавых, зернебабовых і валакністых — усе вядомыя да нядаўняга часу культуры. Вядучай земляробчай культурай з'яўлалася азімае жыта. Ва ўмовах стараворных глеб папярэднікам азімага жыта магло быць толькі паравое поле. Значыць, пасевы гэтай культуры бясспрэчна сведчаць аб прымяненні паравой сістэмы, прынамсі, найбольш простых яе форм — двухполля і трохполля. Даволі шырока было распаўсюджана зараз амаль невядомае ў Беларусі проса. Вядомы былі агародныя (рэпа, капуста, хмель, цыбуля, часнок) і садовыя (яблыні, вішні) культуры. Сярод земляробчых прылад — жалезныя наканечнікі сох і рал, сярпы, драўляныя рыдлёўкі з жалезнымі акоўкамі.

*Асноўнай крыніцай, якая дазваляе вызначыць ролю жывёлагадоўлі,* роўна як і палявання, з'яўляюцца астэалагічныя матэрыялы. Сярод свойскай жывёлы пераважаюць буйная рагатая жывёла і свінні. Некалькі менш дробнай рагатай жывёлы і яшчэ менш коней, якія выкарыстоўваліся не толькі ў транспартных і ваенных мэтах, у якасці цяглавай сілы ў земляробстве, але і дзеля ежы. Іншыя археалагічныя матэрыялы, якія сведчаць аб развіцці жывёлагадоўлі,— гэта косы-гарбушы, нажніцы для стрыжкі авец, балабоны-бразготкі (вешаліся на шыі каровам), рыштунак верхавых коней, скрабніцы для іх чысткі.

Сярод паляўнічых звяроў найбольш шматлікія рэшткі касцей дзікай жывёлы, на якую палявалі пераважна дзеля мяса (зубр, лось, высакародны алень, кабан, касуля). Сярод іншых звяроў многа касцей бабра. На яго палявалі з-за каштоўнай шкуры, смачнага мяса і бабровай струі, якая прымянялася ў медыцыне і з'яўлялася прадметам вывазу. Косці ўласна пушных звяроў нешматлікія, таму што іх тушы пасля таго, як была знята шкура, пакідаліся ў лесе. Паляўнічая зброя нешматлікая. Значна багацей прадстаўлены рыбалоўныя снасці (кручкі, блешні, гарпуны, восці, пешні, грузілы і паплаўкі для сетак). Матэрыялы, якія сведчаць аб занятках насельніцтва бортніцтвам, вельмі нешматлікія перш за ўсё таму, што ў якасці борцевых інструментаў ужываліся звычайныя сякеры, свёрлы, долаты і іншыя дрэваапрацоўчыя прылады. Аб занятках насельніцтва збіральніцтвам сведчаць знаходкі лясных арэхаў, жалудоў і іншых пладоў дзікарослых раслін.

## 1. СЕЛЬСКІЯ ПАСЕЛІШЧЫ

Для абазначэння сельскіх паселішчаў у пісьмовых крыніцах дамангольскага перыяду ўжываліся некалькі тэрмінаў — «сяло», «вёска», «пагост», «двор», «дом», «град». Кожнаму з гэтых тэрмінаў адпавядаў пэўны тып паселішчаў, хоць у розных месцах адным і тым жа тэрмінам называліся розныя тыпы паселішчаў (Довженок, 1969. С. 9).

Найбольш часта ўжываўся тэрмін «сяло». Так называліся значныя па плошчы і колькасці жыхароў паселішчы вольных абшчыннікаў і феадальна-залежных сялян-смердаў. У Іпацьеўскім летапісе пад 1276 г. гаворыцца пра сёлы каля Турыйска — «Турийск на реце Немне» (ПСРЛ. Т. II. 1962. Стб. 874). Тэрмін «вёска» ў крыніцах эпохі Кіеўскай Русі ўпамінаецца толькі адзін раз. Вёскамі пачынаючы з XIV ст. называліся невялікія сялянскія паселішчы, адміністрацыйна звязаныя з больш буй-

нымі населенымі пунктамі (магчыма, гэта былі выселкі з буйных сёл, якія захавалі з імі мінулыя сувязі). Я. Э. Бломквіст дапускае, што апошнія без царквы называліся вёскай ужо ў XVI ст. У Наўгародскай зямлі і на тэрыторыі Беларусі для абазначэння невялікіх сельскіх паселішчаў шырока ўжываўся тэрмін «весь» — вёска (Бломквист, 1956. С. 34).

Пагостамі пачынаючы з X ст. называлі адміністрацыйныя цэнтры сельскіх акруг. Тут адбываліся мірскія сходы, збіраліся падаткі, чыніліся суды. У пагосце будаваліся цэрквы, а побач размяшчаліся абшчынныя могілкі (Седов, 1960. С. 30). Ва ўстаўной грамаце Расціслава Мсціславіча (1136 г.) упамінаюцца «пагосты-акругі», у тым ліку на тэрыторыі Беларусі — Басея на р. Басе, прытоку Проні (Усачев, 1963. С. 229—230). Тэрмін «пагост» быў распаўсюджаны пераважна ў паўночных раёнах Русі. На тэрыторыі Беларусі шырокае распаўсюджанне атрымаў тэрмін «сяло». Так, напрыклад, у назвах населеных пунктаў Беларускага Панямоння слова «сяло» ў спалучэнні з іншымі словамі (Вялікае, Малое, Новае, Краснае, Рускае, Крывое) сустракаецца каля 20 разоў. Вытворная ад «сяла» назва Навасёлкі зафіксавана больш за 50 разоў. «Пагост» вядомы толькі адзін. Рэдка, пераважна ў заходніх раёнах, сустракаецца ў назвах слова «весь» (Рапанович, 1980; Ён жа, 1981; Ён жа, 1982).

Памянёным у пісьмовых крыніцах сельскім паселішчам (сяло, вёска, пагост, весь) адпавядае асобы тып археалагічных помнікаў, так званыя селішчы. Гэта рэшткі адкрытых неўмацаваных паселішчаў плошчай ад некалькі сот квадратных метраў да некалькі гектараў. На буйных селішчах (ці паблізу) часта размешчаны рэшткі ўмацаваных паселішчаў — гарадзішчы. Некаторыя з іх служылі месцам часовага сховішча ад небяспекі для вольных сялян-абшчыннікаў з навакольных неўмацаваных паселішчаў (гарадзішчы-сховішчы), другія з'яўляліся месцам жыхарства феадалаў-землеўладальнікаў і іх чэлядзі (замкі), трэція былі населены ваеннымі людзьмі, вартавымі атрадамі (крэпасці).

Для абазначэння ўмацаваных сельскіх паселішчаў у пісьмовых крыніцах ужываюцца тэрміны «град», «дом», «двор». Пры гэтым калі «градам» называецца ўсялякі ўмацаваны пункт (у тым ліку горад ва ўласным сэнсе слова), наогул любое ўмацаванне, то «двор», «дом» азначае месца жыхарства феадала. Для абазначэння ўмацаваных феадальных сядзіб у гістарычнай і археалагічнай літаратуры ўжываецца тэрмін «замак».

Вызначыць характар і прызначэнне ўмацаваных паселішчаў удаецца далёка не заўсёды. Некаторыя гарадзішчы-сховішчы, магчыма, выкарыстоўваліся сялянамі-смердамі для больш ці менш працяглага пражывання. Сярод феадальных замкаў былі такія, дзе жылі не самі землеўладальнікі, а асобы, якія ажыццяўлялі ад іх імя гаспадарчую, адміністрацыйную і ваенную ўладу. Некаторыя паўзмежныя крэпасці, якія кіраваліся прадвадзіцелямі гарнізонаў, маглі на нейкі перыяд з'яўляцца адначасова і месцам жыхарства феадалаў.

**Неўмацаваныя сельскія паселішчы.** Археалагічнымі помнікамі неўмацаваных паселішчаў (сяло, вёска, пагост) з'яўляюцца селішчы. Вывучэнне гэтых помнікаў на тэрыторыі Беларусі пачалося па сутнасці толькі ў пасляваенныя гады. Лепш за іншыя рэгіёны даследавана тэрыторыя Панямоння, Магілёўскага Падняпроўя, Прыпяцкага Палесся і Пабужжа. У Беларускім Панямонні вядома каля 60 селішчаў (Гуревич, 1962. С. 84),

у Магілёўскім Падняпроў — 77 (Риер, 1982а. С. 113), у басейнах Верхняй Прыпяці (да р. Гарынь) і Заходняга Буга — 66 (Иов, 1991. С. 9).

Неўмацаваныя паселішчы Беларусі размяшчаліся, як правіла, па берагах рэк і азёраў. У рачных і азёрных далінах былі зручныя для земляробства ўчасткі, а таксама неабходныя для ўтрымання свойскай жывёлы лугі і пашы. Рыбныя багацці вадаёмаў шырока выкарыстоўваліся мясцовым насельніцтвам для папаўнення харчовых запасаў. Рэкі ва ўмовах лясной зоны былі калі не адзінымі, дык найбольш зручнымі шляхамі зносін.

Па сваім месцазнаходжанні паселішчы Заходняга Палесся падзяляюцца на тры тыпы: выцягнутыя нешырокай паласой уздоўж першай надпоймавай тэрасы ці карэннага берага вадаёма (37,8 %); размешчаныя на выступаючых у пойму мысах тэрас, зрэдку пры ўпадзенні ручаёў у рэкі (10,6 %); размешчаныя на пясчаных дзюнах і астанцах тэрас у поймах рэк (51,6 %) (Иов, 1991. С. 9). У Магілёўскім Падняпроўі таксама пераважаюць паселішчы, выцягнутыя ўздоўж рачных берагоў і на ўзвышанасцях у поймах рэк. Мысавыя паселішчы сустракаюцца радзей. Аддаленасць паселішчаў ад вады рэдка перавышае 100 м (Риер, 1982а. С. 114). Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі селішчы, што звязаны з гарадзішчамі, прылягаюць ушчыльную да іх.

Пытанне пра памеры неўмацаваных паселішчаў сельскага тыпу ў гістарычнай літаратуры працяглы час заставалася дыскусійным. Адны гісторыкі лічылі, што паселішчы былі маладворнымі і мелі невялікія памеры (Успенская, Фехнер, 1956. С. 18). Пацвярджэнне гэтага яны знаходзілі ў пісцовых кнігах, згодна з якімі нават у XV—XVI стст. на поўначы асноўная маса сельскіх паселішчаў складалася з 1—3 двароў (Всеславская, 1936. С. 120). Іншыя даследчыкі дапускалі, што разам з невялікімі існавалі буйныя паселішчы. Вырашыць пытанне дапамаглі даныя археалагічных вышукаў.

Археалагічныя матэрыялы дазваляюць з упэўненасцю сцвярджаць, што частка паселішчаў у раннефеадальны час налічвала па некалькі дзесяткаў сялянскіх двароў і адпаведна займала значную плошчу. Паселішча паблізу в. Дакудава Лідскага раёна цягнецца ўздоўж Нёмана прыблізна на 1,5 км пры шырыні паласы да 200 м. Плошча паселішча каля в. Гарадзілаўка Навагрудскага раёна роўная прыкладна 125×130 м. І ў той жа час на гэтай тэрыторыі існавалі паселішчы, якія складаліся з некалькіх, магчыма, 2—3 двароў. Так, на паселішчы каля в. Альхоўка Навагрудскага раёна культурны слой прасочваецца на працягу 100—120 м уздоўж берага Нёмана, захопліваючы паласу не больш за 50 м (Гуревич, 1962. С. 184, 191, 199). Памеры паселішчаў Магілёўскага Падняпроўя вагаюцца ад 200×700 м да 25×100 м (Риер, 1982а. С. 114). Значныя ваганні назіраюцца ў памерах паселішчаў Заходняга Палесся: ад 4—5 га да дзесятых долей гектара (Иов, 1991. С. 14).

На тэрыторыі Заходняга Палесся ўдалося прасачыць тэндэнцыю змяншэння памераў паселішчаў на працягу IX—XV стст. Так, калі плошча паселішчаў IX—X стст. дасягала 4—5 га (у асноўным каля аднаго гектара), то паселішчаў XI—XIII стст. складала 0,4—0,7 га (хаця былі да двух гектараў), а ў XIV—XV стст.— не перавышала 0,6 га (Иов, 1991. С. 11). Падобная з'ява зафіксавана ў цэнтральных раёнах Смаленскай зямлі, дзе таксама адбываецца паступовае змяншэнне сельскіх

паселішчаў. Калі ў IX—X стст. усе паселішчы былі даволі буйнымі (плошчай ад 0,65 да 4 га), то ў XI—XIII стст. разам з буйнымі з'яўляюцца і невялікія (0,2—0,5 га), а ў XIV—XV стст. буйныя паселішчы знікаюць зусім і пераважаюць невялікія (Седов, 1960. С. 23). Такі ж малюнак назіраецца і ў Магілёўскім Падняпроўі (Риер, 1982б. С. 139). Прычынай змяншэння памераў сельскіх паселішчаў з'яўляецца, відаць, рост феадальнага землеўладання, што вяло да захопу абшчынных зямель і заняволення вольных сялян.

Планіроўка паселішчаў залежала ў вялікай ступені ад іх месцаразмяшчэння. Паселішчы, выцягнутыя ўздоўж берагоў рэк, мелі, як правіла, радавую забудову, а тыя, што размяшчаліся на мысападобных выступах тэрас і ўзвышанасцях у поймах рэк, кучавую. Што датычыцца колькасці радоў забудоў пры прыбярэжнай планіроўцы, то гэта залежала ад шырыні паселішча: пры шырыні да 50 м — аднарадная забудова, пры шырыні 80—100 м — двухрадная (Седов, 1960. С. 26). Магчыма, былі паселішчы і са шматраднай забудовай. Даных для храналагічнага вылучэння асобных тыпаў забудовы, іх варыянтаў пакуль недастаткова.

Сярод усіх сельскіх паселішчаў Беларусі, на якіх праводзіліся раскопкі, найбольш значныя работы праведзены ў Хатомелі (Столінскі раён). Яны дазволілі высветліць не толькі характар планіроўкі, але і тып забудовы.

Хатомельскае паселішча складаецца з гарадзішча і селішча. Селішча размяшчаецца адразу за знешнімі валамі гарадзішча, прылягаючы да яго з захаду і ўсходу. З поўначы і поўдня да гарадзішча падыходзіць забалочаны ўчастак (Кухаренко, 1957. С. 90—91).

На селішчы, культурны пласт якога датуецца VII—X стст., ускрыты рэшткі 16 жылых пабудоў паўзямлянкавага тыпу. Яны размяшчаліся двума радамі, якія ішлі паралельна знешняму валу, г. зн. паўтаралі канфігурацыю гарадзішча. Адлегласць паміж асобнымі паўзямлянкамі вагалася ад 1 да 5 м, а паміж радамі — не перавышала 2 м. Пры гэтым больш раннія жытлы размяшчаліся ў бліжэйшым да гарадзішча радзе, больш познія — у другім, знешнім радзе (Кухаренко, 1957. С. 92—93; 1961. С. 24; Русанова, 1958. С. 41).

Усе ўскрытыя паўзямлянкі прамавугольнай у плане формы, даўжынёй 4—6 м, шырынёй 3—5 м (сярэдні памер 6×4 м). У мацярык паглыблены на 0,2—0,8 м. Падлога роўная. Печы глінабітныя на драўляным каркасе. Каля адной з паўзямлянак знаходзілася надворная печ такой жа, як і ў жытлах, будовы. Над ёю была зроблена паветка тыпу шалаша, сляды ад якога ў выглядзе ямак ад слупкоў выяўлены вакол печы. У некаторых паўзямлянках былі невялікія склепы. Вакол жытлаў размяшчаліся розныя па велічыні і глыбіні ямы гаспадарчага прызначэння (Кухаренко, 1961. С. 24—26).

Паўзямлянкавае жытло квадратнай формы (4,5×4,5 м) знойдзена на паселішчы каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна. У зямлю яно было паглыблена на 0,6 м. У адным з вуглоў захаваліся рэшткі печы-каменкі, якая, відаць, стаяла не на мацерыку, а на зрубе ці апалубцы з дрэва. Чэрань печы быў зроблены з плоскіх камянёў, абмазаных глінай. Паблізу печы амаль у цэнтры жытла размяшчалася авальная ў плане перадпечная яма памерам 3,2×1,2 м, глыбінёй 0,65 м (Соловьева, 1970. С. 305).

Рэшткі разбуранай паўзямлянкі, заглыбленай у мацярык на 0,5 м, ускрыты на паселішчы каля в. Гарадзілаўка Навагрудскага раёна. Падлога ў ёй была глінабітная. У запаўненні жытла траплялiся кавалкі абпаленай глінянай абмазкі з адбіткамі дрэва. На мацерыку выяўлены рэшткі вогнішча дыяметрам каля 2 м, а вакол яго — ямкі ад слупоў (Гуревич, 1962. С. 87). Магчыма, гэта сляды ад паветкі, як у Хатомелі.

Рэшткі двух разбураных жытлаў паўзямлянкавага тыпу і двух наземных жытлаў выяўлены на селішчы паблізу г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага раёна. І тыя, і другія мелі, відаць, зрубную канструкцыю, паколькі ямы ад слупоў адсутнічаюць. У абодвух тыпаў жытлаў печы былі складзены з камянёў без прымянення гліны (Зверуго, 1989. С. 98).

На селішчы, што размешчана на паўднёва-ўсходняй ускраіне г. Чавусы, ускрыта частка наземнага жытла з рэшткамі печы-каменкі, выяўлены сляды дзвюх наземных гаспадарчых пабудоў і розныя па форме і памерах ямы, што засталіся ад разначасовых слупавых збудаванняў (Риер, 1978. С. 428).

Відаць, падобна да таго, як і на адкрытых паселішчах сумежных рэгіёнаў Украіны (Валынь, Пабужжа), на паселішчах паўднёвай Беларусі асноўным тыпам жытлаў былі паўзямлянкі. У цэнтральнай і, відавочна, паўночнай Беларусі адзіным тыпам жылля былі наземныя зрубныя дамы.

На адкрытым паселішчы X—XIII стст. каля в. Дружба (Рылаўшчына), на паўднёва-заходняй ускраіне Мінска (мікрараён Малінаўка-1) ускрыты рэшткі 23 наземных жытлаў розных памераў. Дамы малых памераў (плошчай да 16 кв. м) былі аднакамернымі, а сярэднія (плошчай 18—24 кв. м) і вялікія (звыш 24 кв. м) маглі быць двухкамернымі і нават двухпавярховымі. Усе жытлы мелі драўляныя падлогі, пад якімі звычайна знаходзіліся падпольныя ямы розных форм (авал, прамавугольнік, ромб і інш.), глыбіні (ад 0,2 да 1,25 м) і памераў. З 22 даследаваных рэшткаў печаў 17 былі глінабітнымі, 5 зроблены з камянёў і гліны і толькі адна каменная. Прыпечныя ямы глыбінёй 0,2—1,2 м мелі форму, блізкую да круга, авала, трапецыі ці прамавугольніка. Ролю прыпечнай ямы нярэдка адыгрывала асобнае паглыбленне ў сярэдзіне ці каля аднаго з краёў падпольнай ямы (Заяц, 1994. С. 143—144).

Сярод знаходак з культурнага слоя адкрытых паселішчаў, як звычайна, пераважаюць абломкі глінянага посуду. На ранніх паселішчах сустракаюцца абломкі ляпнога і кругавога посуду, на позніх — толькі кругавога. У паўднёва-ўсходнім раскопе хатомельскага паселішча абломкі ляпнога посуду складаюць 70 % ад агульнай колькасці керамікі. У паўночна-ўсходнім — 60 %. Гэта ў асноўным гаршкі з адцягнутым, у большасці выпадкаў злёгку ўплошчаным венчыкам і параўнальна добра выяўленымі плечыкамі. Некаторыя з іх, відаць, падпраўлены на ганчарным крузе. Частка пасудзін арнаментавана насечкамі ці пальцавымі ўціскаючымі па краі венчыка, хвалістымі барозначкамі ці іх радамі па плечыках і тулаву. Знойдзены ляпныя круглыя патэльні з невысокімі борцікамі. Некаторыя кругавыя гаршкі па форме і складзе цеста вельмі блізкія да ляпных (Кухаренко, 1961. С. 24).

Акрамя керамікі знойдзены жалезныя нажы (усе невялікія з прамымі спінкамі), наканечнікі глебаапрацоўчых прылад, чарэсла, абломкі сярпоў, зубы састаўных восцяў, двухшыпавы наканечнік стрэлы, коп'і,




*Мал. 22. Рэчы з паўзямлянкі на селішчы каля г. п. Краснасельскі: 1 — сякера; 2 — фібула; 3 — шпілька; 4 — наканечнік стралы; 5 — кручок; 6 — нож; 7, 8, 10 — тачыльныя брускі; 9, 11, 12 — праслiцы*

спражкі, кольцы, долаты, гліняныя і шыферныя праслiцы, абломкі тачыльных брускоў, абломак жорна, жалезны шлак (Кухаренко, 1961. С. 24—27).

На паселішчы каля г. Чавусы знойдзены нажы, спружынныя нажніцы, рыбалоўны кручок, каменныя і гліняныя грузілы, шыферныя праслiцы, шпоры, наканечнікі дроцікаў, абломак цугляў. Найбольш шматлікай катэгорыяй знаходак з'яўляюцца ўпрыгожанні: бронзавыя пярсцёнкі, пласціністыя і дротавыя фібулы, крыжыкі, сяміпрамянёвае скроневае кальцо, лунніца, скроневае кальцо з S-падобным завітком, абломак вітой шыйнай грыўні, абломак бранзалета, шкляныя пацеркі. Вялікая колькасць упрыгожанняў, знаходкі прадметаў узбраення дазволілі аўтару раскопак выказаць меркаванне, што на месцы вышукаў знаходзілася сядзіба прадстаўніка ўладальніцкай адміністрацыі ці дружынніка-земляроба (Риер, 1978. С. 423).

Цікавы комплекс знаходак знойдзены ў запаўненні адной з паўзямлянак на паселішчы паблізу г. п. Краснасельскі. Тут знойдзены жалезныя нажы, шылы, посахападобная шпілька з S-падобным завітком, фібула са

спіральна завітымі канцамі, гліняныя прасліцы (Зверуго, 1989. С. 97—98). Асаблівай увагі заслугоўвае жалезная сякера з адцягнутым кнізу лязом і малаточкападобнай круглай у папярочным сячэнні прыстаўкай абуха, што заканчваецца грыбападобнай плешкай (галоўкай). Такія сякеры для ўсходнеславянскіх старажытнасцей не характэрны, яны знойдзены ў Польшчы і былой Усходняй Прусіі (Кирпичников, 1966. С. 35).

Амаль уся знойдзеная на Краснасельскім паселішчы кераміка выраблена на ганчарным крузе. Сустрэты адзінкавыя фрагменты пасудзін з налепным валікам, арнаментаваным пальцавымі зашчыпамі ці касымі насечкамі. Абломкі ляпных пасудзін адзінкавыя.

Даследаванні адкрытых сельскіх паселішчаў у Магілёўскім Падняпроўі і Заходнім Палессі дазволілі прасачыць пэўныя тэндэнцыі ў іх развіцці. З 52 датаваных на падставе керамічнага матэрыялу паселішчаў Магілёўскага Падняпроўя 11 (21 %) узніклі ў канцы IX—X ст., 37 (71 %) — у XI—XIII стст. і 4 (8 %) — у XIV—XVI стст. У XIV—XVI стст. шмат якія існаваўшыя раней паселішчы знікаюць: у XIV ст. працягвалі існаваць 27 паселішчаў, у XV—XVI стст. — толькі 17 (Риер, 1982б. С. 138—139). Падобнае становішча зафіксавана і ў Заходнім Палессі: паселішчы IX—X стст. складаюць 18 %, XI—XIII стст. — 70, XIV—XV стст. — 12 % усіх вядомых у рэгіёне паселішчаў (Иов, 1988. С. 14). Значнае павелічэнне колькасці паселішчаў у XI—XIII стст. было, безумоўна, звязана з ростам колькасці насельніцтва, пашырэннем ворыўнага земляробства, з ростам феадальнага землеўладання.

Некаторыя паселішчы IX—X стст. узніклі на месцы селішчаў ранняга жалезнага веку. Асобныя э іх існавалі вельмі непрацяглы час, здаралася, усяго некалькі дзесяткаў гадоў. Час існавання другіх працягваўся 4—5, а іншы раз — 6—7 стагоддзяў.

На невялікай адлегласці ад паселішчаў (у Магілёўскім Падняпроўі — 2—3 км) звычайна знаходзяцца курганныя могільнікі. Пры больш буйных паселішчах існуюць, як правіла, і больш буйныя могільнікі (напрыклад, у г. Чавусы: паселішча — 2,5 га, могільнік — 130 насыпаў) (Риер, 1982а. С. 116). Аднак зафіксаваны выпадкі, калі плошча паселішча складае некалькі дзесятых гектара, а могільнік налічвае да сотні і больш курганоў. Відаць, гэта могільнікі некалькіх суседніх паселішчаў, аб'яднаных у абшчыну.

**Планіроўка гарадзішчаў.** Найбольш характэрнымі для тэрыторыі Беларусі рэшткамі абарончых збудаванняў з'яўляюцца гарадзішчы, цесна звязаныя з ахоўнымі ўласцівасцямі прыроднага рэльефу мясцовасці. Пераважаюць гарадзішчы двух тыпаў: астраўныя і мысавыя. Большая частка астраўных гарадзішчаў Тураўскай зямлі размешчана на ўзвышшах ці невысокіх узгорках сярод цяжкапраходных балот. Астраўныя гарадзішчы Панямоння (так званай Чорнай Русі) і Полацкай зямлі размешчаны на асобных ізаляваных узгорках з больш ці менш крутымі схіламі, хоць сустракаюцца таксама на астравах сярод балот і вадаёмаў.

Прыкладам найпрасцейшага варыянта астраўнога ўмацавання, размешчанага сярод забалочанай нізіны, з'яўляецца гарадзішча каля в. Харомск Столінскага раёна. Яно займае асобны ўзгорак, які ўзвышаецца над узроўнем балота на 4 м. Пляцоўка падтрохвугольнай формы, памерам 25×50 м паўтарае абрысы ўзгорка, схілы якога былі, відаць, штучна




*Мал 23 Планы гарадзішчаў каля весак Мерачоўшчына (1), Хатомель (2), Саннікі (3), Радагошча (4), Мсцібава (5), Індура (6)*

падрэзаны (яны даволі крутыя, хоць невысокія). Валоў і равоў на гарадзішчы няма (Раппопорт, 1967. С. 74).

Больш складаную планавую схему мае астраўное гарадзішча каля в. Хатомель. Яно займае найбольш высокую частку доўгай грады, выцягнутай з захаду на ўсход. Пляцоўка авальнай формы памерам 30×40 м, з поўначы і поўдня абаронена даволі крутымі схіламі, а з захаду і ўсходу адрэзана ад працягу грады двума дугападобнымі валамі з кожнага боку. Паміж валамі і з напольнага боку знешніх валоў выкапаны равы (Кухаренко, 1961. С. 22).

Сярод гарадзішчаў, што знаходзіліся на асобных узгорках, некаторыя таксама маюць штучныя абарончыя збудаванні. Іх пляцоўкі па сваёй форме паўтараюць абрысы ўзгоркаў. Плошча невялікая — да 1000 кв. м ці крыху больш. Пляцоўкі няроўныя, звычайна значна зніжаюцца па краях. Ды і краі могуць быць вызначаны ў нейкай ступені толькі ўмоўна, бо яны пераходзяць у схілы. У некаторых месцах схілы носяць яўныя сляды штучнага падразання з мэтай надаць ім большую круцізну. Па краях пляцовак, відаць, былі драўляныя сцены. Да ліку такіх умацаванняў адносяцца гарадзішча каля вёсак Жыровіцы і Дзераўная Слонімскага, Ольжава Навагрудскага раёнаў і інш.

Больш складаную планіроўку маюць гарадзішчы, якія, як і папярэднія, размешчаны на ізаляваных узгорках, але пляцоўкі іх на асобных участках ці па ўсім перыметры абаронены землянымі валамі. Формы пляцовак адпавядаюць абрысам узвышанасцей, на якіх яны размешчаны. Такія гарадзішчы паблізу в. Сегда Карэліцкага, Пурневічы Баранавіцкага раёнаў і каля г. Косава (урочышча Мерачоўшчына). Авальная ў плане пляцоўка гарадзішча каля в. Сегда, памерам 25×53 м, узвышаецца над поймай р. Неўда амаль на 30 м. З двух бакоў (паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду), там, дзе схілы ўзгорка больш пакатыя, яна абаронена валамі вышынёй 2—2,5 м. З усходняга боку ёсць тэраса. Пляцоўка гарадзішча каля в. Пурневічы таксама авальнай формы, памерам прыблізна 25×40 м. Над далінай р. Сваротва ўзвышаецца больш чым на 10 м. Яна няроўная, паніжаецца да краёў. Па ўсім перыметры ўмацавана валам вышынёй 2—4,5 м. Няправільна авальная пляцоўка гарадзішча паблізу г. Косава памерам прыкладна 40×60 м з усходняга боку, дзе схілы ўзвышанасці невысокія і палогія, абаронены двума паралельнымі валамі вышынёй каля аднаго метра. Паміж валамі праходзіць неглыбокі роў. На іншых участках валоў і равоў няма.

Гарадзішчы мысавага тыпу на тэрыторыі Панямоння і Полацкай зямлі сустракаюцца радзей за астраўныя. У Тураўскай зямлі іх прыкметна менш, затое ў Магілёўскім Падняпроўі яны з'яўляюцца па сутнасці адзіным тыпам (з 34 гарадзішчаў — 33 мысавыя) (Риер, 1982 а. С. 112). Яны размешчаны на мысах узгорыстых град ці мысападобных выступах плато берагоў рэк, звычайна каля ўпадзення ў іх ручаёў (часта цяпер перасохлых).

Прамежкавае становішча паміж астраўнымі і мысавымі ўмацаваннямі займае гарадзішча каля в. Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна. Яго пляцоўка памерам 50×65 м займае не ўсю, размешчаную ў забалочанай мясцовасці ўзвышанасць, а толькі яе частку. Ад працягу ўзвышанасці пляцоўка аддзелена валам і ровам (Ляўданскі, 1928. С. 85).

Найбольш простым варыянтам умацаванняў мысавага тыпу з'яўляецца гарадзішча паблізу в. Ягначы (х. Янова) Зэльвенскага раёна. Яно знаходзіцца на мысе ўзгорыстай узвышанасці, якая прылягае да даліны Шчары. Няправільна авальная ў плане пляцоўка, памерам 25×50 м, узвышаецца над поймай на 8—10 м. З напольнага боку яна абаронена валам і ровам, з астатніх трох бакоў — крутымі схіламі. Такую ж планавую схему мае гарадзішча ў в. Свіслач Асіповіцкага раёна. Яно размешчана на ўзгорку вышынёй 10—12 м пры зліцці рэк Бярэзіны і Свіслачы. Пляцоўка блізкай да трохвугольніка формы, памерам 50×80 м, з напольнага паўночна-заходняга боку аддзелена шырокім (каля 20 м) ровам. Сляды вала ў цяперашні час не прасочваюцца.

Больш складаную планавую схему мае гарадзішча ў в. Высоцк Слонімскага раёна. Яно размешчана на мысе ўзгоркавай грады. Пляцоўка авальнай формы памерам 25×35 м з напольнага паўночна-ўсходняга боку абаронена валам вышынёй 2,5—3 м і ровам. З паўночна-заходняга боку яна таксама закрыта валам, але больш нізкім, чым першы (рова тут няма). Абодва валы злучаюцца, закрываючы ўсю паўночную частку пляцоўкі. З паўднёвага боку пляцоўкі знаходзяцца крутыя падрэзаныя схілы вышынёй 10—13 м.

Сярод умацаванняў мысавага тыпу сустракаюцца гарадзішчы, якія з напольнага боку абаронены не адным, а двума, а то і трыма валамі. Такія гарадзішчы каля в. Агароднікі Карэліцкага і Радагошча Навагрудскага раёнаў. Трохвугольная ў плане пляцоўка гарадзішча каля в. Агароднікі памерам 20×30 м займае мыс надпоймавай тэрасы р. Молчадзь. Над узроўнем ракі яна ўзвышаецца на 15 м. З напольнага боку пляцоўка абаронена дугападобным валам, перад якім ёсць адрэзак яшчэ аднаго вала. Гарадзішча каля в. Радагошча размешчана на мысападобным выступе карэннага берага р. Неўда. Авальная пляцоўка памерам 55×80 м узвышаецца над поймай ракі амаль на 20 м. З напольнага боку (поўначы, усходу, паўднёвага ўсходу) прасочваюцца два паўкруглыя ў плане валы вышынёй да аднаго метра, перад якімі знаходзяцца невялікія паніжэнні, магчыма, сляды заплыўшых равоў. З паўночна-заходняга боку паміж унутраным і знешнім валамі — невялікі адрэзак трэцяга вала.

Тыпова мысавую структуру мае гарадзішча паблізу в. Панізоўе Лагойскага раёна (на беразе р. Гайна). Амаль квадратная пляцоўка памерам 178×180 м узвышаецца над узроўнем ракі прыблізна на 20 м. Пры абследаванні гарадзішча ў 20-я гады добра прасочваліся дугападобны вал і роў, якія адразалі пляцоўку ад берагавога плато (Ляўданскі, 1925. С. 94). Да цяперашняга часу не захаваліся нават іх сляды.

Умацаваннем тыпова мысавым з'яўляецца таксама гарадзішча, размешчанае на высокім берагавым выступе Гарадзішчанскага возера каля в. Гарадзішча Пінскага раёна. Пляцоўка — авальнай формы, памерам 22×27 м. З заходняга і паўночнага бакоў схілы гарадзішча даволі крутыя, відаць, штучна падрэзаны. Сляды земляных абарончых збудаванняў на паверхні не прасочваюцца (Вергей, Иов, 1989. С. 38). Рэшткі пахаванага вала былі выяўлены пры раскопках. Такіх гарадзішчаў, планавая структура якіх не можа быць поўнасцю вызначана толькі шляхам абследавання паверхні, на тэрыторыі Беларусі даволі шмат.

Сустракаюцца гарадзішчы, якія спалучаюць у сабе асаблівасці ўмацаванняў мысавага і астраўнога тыпаў. Такое, напрыклад, гарадзішча знаходзіцца каля в. Мыта Лідскага раёна. Авальная пляцоўка памерам 20×30 м размешчана на мысе, але займае не ўсю яго плошчу, а асобны ўзгорак. Краі ўзгорка крыху павышаны, што дазваляе меркаваць пра існаванне ў старажытнасці вала.

Разам з гарадзішчамі, форма пляцовак якіх паўтарае форму займаемых імі ўзвышшаў, на тэрыторыі Беларусі існуюць умацаванні, якія не залежаць ад канфігурацыі рэльефу мясцовасці. Яны маюць геаметрычна правільную круглую ці авальную форму. Больш чым у іншых рэгіёнах такія гарадзішчы сустракаюцца ў Тураўскай зямлі і ў Панямонні (Раппопорт, 1967. С. 76—77, 83—88, 93—94), а ў Магілёўскім Падняпроўі вядома толькі адно — каля в. Ялізава Асіповіцкага раёна (Риер, 1982 а. С. 112).

Сярод гарадзішчаў Тураўскай зямлі і Панямоння, якія маюць правільную круглую ці авальную форму, вылучаюцца два варыянты: адны з іх размешчаны на ўзгорках (гэта асаблівасць зблiжае іх з умацаваннямі астраўнога тыпу), другія — на плоскай нізіннай, нярэдка забалочанай мясцовасці. Калі ў Тураўскай зямлі пераважаюць у асноўным гарадзішчы другога варыянта, то ў Панямонні — першага.

Прыкладам умацавання першага варыянта з'яўляецца гарадзішча ў в. Саннікі Дзятлаўскага раёна. Яно размешчана на ўзгорку, які ўзвышаецца над наваколлем на 12—15 м. Узгорак мае ў плане няправільна авальную форму, а пляцоўка гарадзішча — форму правільнага круга. Схілы ўзгорка палогія. Таму каля асновы гарадзішча зроблена падрэзка, схілы сталі больш крутымі на вышыню 3—4 м, чым прыродныя схілы ўзгорка.

Правільную, не залежную ад прыроднага рэльефу круглую форму (дыяметр каля 70 м) мае гарадзішча Замэчак у Заслаўі.

На тэрыторыі Беларусі сустракаюцца таксама ўмацаванні, якія маюць геаметрычна правільную форму, але не круглую, як названыя вышэй, а чатырохвугольную. Да іх адносяцца гарадзішчы каля в. Галынка Шчучынскага, Гарадзішча Воранаўскага і Ялізава Асіповіцкага раёнаў.

Першае гарадзішча размешчана на карэнным беразе Нёмана. Квадратная ў плане пляцоўка памерам 70×70 м узвышаецца над далінай ракі на 5 м. З захаду і поўначы яна абаронена валам вышынёй да 3 м з унутранага боку і да 5 м са знешняга. З усходу і поўдня яе абараняюць крутыя схілы. Другое гарадзішча знаходзіцца на ізаляваным узгорку. Прамавугольная пляцоўка памерам 60×80 м узвышаецца над далінай р. Радунька на 8 м. Па перыметры яна абаронена валам, вышыня якога з унутранага боку дасягае 3 м, са знешняга — 5 м. За валам знаходзіцца роў шырынёй 8—10 м. Гарадзішча каля в. Ялізава па планавай схеме блізкае да Галынкаўскага. Амаль прамавугольная з закругленымі вугламі пляцоўка памерам 85×105 м з трох бакоў (захаду, поўдня і ўсходу) абаронена двума падковападобнымі валамі і двума равамі. Вышыня валоў 1,5—2 м, шырыня равоў 10—12 м. З паўночнага боку валоў і равоў няма, аховай з'яўляецца круты і высокі (10—12 м) бераг р. Бярэзіна.

Асобую групу ўмацаванняў, якія маюць звычайна правільную геаметрычную форму, складаюць гарадзішчы-замчышчы, якія вылучаюцца сярод астатніх сваімі значна больш магутнымі абарончымі збудаваннямі і невялікімі пляцоўкамі. У Панямонні гэта Індура, Мсцібава, Збочна, у Падняпроўі — Вішчын, Збораў, Свіслач і інш.

Гарадзішча ў в. Індура размешчана на высокім узгорку на адлегласці прыкладна 0,5 км ад р. Індурка. Яно мае дзве пляцоўкі: унутраную (цэнтральную) і вонкавую. Унутраная пляцоўка, якая займае вяршыню ўзгорка, амаль круглая ў плане, зусім невялікіх памераў — яе дыяметр 16—18 м. Па перыметры яна акружана валам вышынёй каля 2 м. З паўночнага боку ў вале ёсць два ўезды. Перад валам прасочваюцца сляды заплыўшага рова. На адлегласці 20—30 м ад унутранага вала праходзіць знешні вал вышынёй таксама каля 2 м. Ён у плане мае авальную форму. Уезд на гарадзішча праразае вал з паўночна-заходняга боку. Побач з уездам знаходзіцца лейкападобная яма дыяметрам каля 12 м, відаць, рэшткі старажытнай студні.

Гарадзішча каля в. Мсцібава размяшчаецца ў нізіннай, вельмі забалочанай мясцовасці. Яго пляцоўка ўзвышаецца над узроўнем балота ўсяго на адзін метр. Гарадзішча мае форму ідэальна правільнага круга. Дыяметр пляцоўкі 30 м, дыяметр гарадзішча па грэбені вала 56 м. Па ўсім перыметры яна абаронена магутным (каля 5 м вышынёй) добра захаваным валам з крутымі схіламі. Уезд знаходзіцца з усходняга боку. Ён праразае вал да падножжа. На адлегласці 50—100 м на поўнач ад гарадзішча, абгінаючы яго паўкругам, цячэ р. Альшанка, а на адлегласці 120—150 м на поўдзень і паўднёвы захад ад яго, там, дзе мясцовасць паступова павышаецца, праходзіць доўгі (больш за 200 м) невысокі вал, які абодвума канцамі ўпіраецца ў балота. Перад валам на ўсім яго працягу захаваліся сляды заплыўшага рова. Гэтыя дадатковыя ўмацаванні прыкрывалі гарадзішча з найбольш зручнага для падыходу ворага боку.

Гарадзішча каля в. Збочна пабудавана на невысокім прыродным мысе паблізу р. Акоўка. З трох бакоў (поўначы, захаду і поўдня) да яго прылягае забалочаная нізіна. Пляцоўка авальнай формы памерам 45×60 м прыкметна павышаецца ў цэнтры. Над дапінай ракі яна ўзвышаецца на 6—7 м. Па ўсім перыметры акружана валам вышынёй да 2 м. Уезд знаходзіцца з паўднёва-заходняга боку. Другі ўезд на пляцоўку ў паднёва-ўсходняй частцы. Ён у адрозненне ад першага праразае вал не да асновы, а праходзіць праз яго вяршыню. На адлегласці 15—20 м ад вала, які акружае цэнтральную пляцоўку, знаходзіцца другі вал вышынёй да 3 м. З паўночнага боку ён адсутнічае (відаць, быў зрэзаны, калі пракладвалі побач дарогу). Праз знешні вал праходзіць адзін праезд у паўднёва-заходняй частцы. Прастора паміж валамі з трох бакоў (поўначы, захаду і поўдня) паніжаецца ў напрамку знешняга вала. З усходняга боку быў роў шырынёй да 10 м, які аддзяляў цэнтральную пляцоўку ад працягу ўзвышша.

Гарадзішча паблізу в. Вішчын Рагачоўскага раёна знаходзіцца на высокай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Паўкруглая ў плане пляцоўка памерам 65×120 м з напольнага боку абаронена трыма паралельнымі лініямі валоў і равоў. Агульная шырыня абарончых збуда-

ванняў роўная 30 м. Вышыня знешніх валоў 2,5—3 м, глыбіня равоў да 3,5 м. З боку ракі вала, відаць, не было, надзейнай аховай з'яўляўся круты абрыў тэрасы.

Гарадзішча каля в. Збораў Рагачоўскага раёна размешчана на левым карэнным беразе Дняпра. Паўкруглая ў плане пляцоўка памерам 50×53 м узвышаецца над узроўнем вады ў рацэ на 17—18 м. З боку поля (захаду, паўднёвага захаду і часткова поўдня) яна ўмацавана валам і ровам. Вышыня вала каля 4 м, шырыня — 10—15 м, глыбіня рова 2,5—3 м, шырыня — каля 15 м. Звернуты да ракі бок гарадзішча, відаць, не меў штучных абарончых збудаванняў. Ён быў абаронены крутым абрывам берага ракі.

Гарадзішча ў в. Свіслач Асіповіцкага раёна знаходзіцца на ўзгорку з высокімі і крутымі схіламі ў зліцці рэк Свіслачы і Бярэзіны. Пляцоўка па форме блізкая да трохвугольніка з закругленымі вугламі, памерам 67×77 м, з паўночна-заходняга боку абаронена дугападобным ровам шырынёй да 22 м і глыбінёй больш за 6 м. Сляды валоў не прасочваюцца.

**Матэрыяльная культура, храналогія, сацыяльнае аблічча гарадзішчаў.** Адзіным на тэрыторыі Беларусі поўнасцю раскапаным гарадзішчам з'яўляецца Хатомельскае. Магутнасць культурнага слоя ў цэнтральнай частцы пляцоўкі не перавышала 0,4 м, па краях даходзіла да 2—2,5 м. На ўчастках каля вала праслойка пажарышча таўшчынёй да 0,2 м падзяляла культурны слой на два гарызонты (верхні і ніжні). У мацерыку знаходзілася вялікая колькасць розных ям. Частка з іх, невялікая па памерах (дыяметр 0,3—0,5 м, глыбіня 0,7—0,8 м), засталася ад слупоў. Астатнія ямы вялікія, няправільна авальнай формы. Адна такая яма памерам 5×2 м знаходзілася амаль у цэнтральнай частцы пляцоўкі. У мацярык яна была паглыблена на 0,4 м (ад сучаснай паверхні на 0,8 м). Астатнія сем ям размяшчаліся каля вала па краях пляцоўкі, нібыта аблямоўваючы яе. Даўжыня іх вагалася ад 3,5 да 7 м, шырыня — ад 1,5 да 3,5 м, глыбіня ў мацерыку — ад 0,3 да 0,7 м. Каля некаторых ям і на прасторы паміж імі знаходзіліся попельныя плямы ад невялікіх вогнішчаў, магчыма, сляды ачагоў (Кухаренко, 1961. С. 22—23).

Амаль усе знойдзеныя на гарадзішчы рэчы, у тым ліку абломкі гліняных пасудзін, знаходзіліся па краях пляцоўкі. Пры гэтым пераважная іх большасць знойдзена ў верхнім гарызонце.

Сярод металічных вырабаў пераважаюць прадметы ўзбраення і конскага рыштунку. Знойдзена 15 наканечнікаў стрэлаў (у тым ліку 7 утулкавых), 3 жалезныя пласцінкі ад панцыра. Сустрэты жалезныя двухустаўныя цуглі (3 экз.), жалезныя паясныя спражкі (адна падковападобная, другая гітарападобная), скаба — абойма ад рэменя. Параўнальна частай знаходкай з'яўляюцца нажы (7 экз.). Усе яны невялікія, з прамымі ці злёгку выгнутымі спінкамі. Знойдзены два жалезныя крэсівы, жалезнае долата, абломкі жалезных прадметаў нявызначанага прызначэння. Астатнія рэчы, у тым ліку ўпрыгожанні і прылады працы, прадстаўлены адзінкавымі экземплярамі. Сярод іх — сяміпрамянёвае скроневае кальцо з серабра, абломак сярэбранага бранзалета з крыху патоўшчанымі канцамі, паставая пацерка з жоўтымі вочкамі, біканічнае шыфернае прасліца. Асабліва цікавым з'яўляецца абломак глінянай ліцейнай фор-

мы для адліўкі бранзалетаў з плоскімі канцамі. У верхнім гарызонце знойдзены два гліняныя біканічныя прасліцы.

Кераміка ніжняга гарызонту пададзена гаршкамі з невысокімі, злёгку адагнутымі венчыкамі (закругленымі ці плоскімі) і слаба выяўленымі плечыкамі, а таксама невялікімі круглымі патэльнямі з невысокімі борцікамі. У верхнім гарызонце сустрэты гаршкі такога ж тыпу, што і ў ніжнім. Аднак пераважаюць пасудзіны з больш адагнутым венчыкам і прыкметна выяўленымі плечыкамі. Разам з ляпнымі знойдзены пасудзіны, вырабленыя на ганчарным крузе. Апошнія складаюць 18% ад агульнай колькасці абломкаў пасудзін, знойдзеных на гарадзішчы. Некаторыя пасудзіны па форме і арнаментацыі вельмі блізкія да ляпных. Сярод ляпных ёсць такія, верхняя частка якіх падпраўлена на ганчарным крузе. Некалькі абломкаў ляпных пасудзін характэрны для зарубінецкіх паселішчаў і могільнікаў (Кухаренко, 1961. С. 23).

На падставе прарэзкі вала высветлена, што на яго вяршыні з дубовых бярвёнаў таўшчынёй да 30 см былі збудаваны своеасаблівыя клеці, запоўненыя пяском. У далейшым, калі клеці згарэлі, абпаленыя бярвёны і пясок спаўзлі па схілах вала. Гэтым, дарэчы, трэба растлумачыць і наяўнасць праслойкі вогнішча па краях пляцоўкі (Кухаренко, 1961. С. 23).

Хатомельскае гарадзішча ўзнікла ў VII ст. Першапачаткова яно з'яўлялася сховішчам для навакольнага насельніцтва і не мела ніякіх пастаянных жылых збудаванняў. Вакол гарадзішча размяшчалася неўмацаванае паселішча, знаходкі на якім не адрозніваліся ад гарадзішчанскіх. Пазней, у VIII ст., гарадзішча было моцна ўмацавана — падсыпаны вал вакол пляцоўкі, зроблены знешнія вал і роў. Склад знаходак на гарадзішчы рэзка адрозніваецца ад комплексу знаходак на селішчы (тут прадметы ўзбраення і ўпрыгожання, там — сельскагаспадарчыя прылады). Магчыма, гэта ўжо сядзіба дружынных вярхоў (Русанова, 1976. С. 51—52).

Пры раскопках гарадзішча каля в. Гарадзішча Пінскага раёна знойдзены жалезныя нажы, рыбалоўныя кручкі, шылы, ромбападобны чаранковы наканечнік стралы, абломак сярпа, бронзавае драцяное скроневае кальцо, шкляныя пацеркі, фрагменты гліняных прасліц, абломкі тыгляў, льячак, адходы чорнай і каляровай металургіі (Вергей, Иов, 1989. С. 39).

Сярод знойдзенай на гарадзішчы керамікі амаль 2/3 складаюць абломкі кругавых пасудзін. Ляпная кераміка прадстаўлена ў асноўным гаршкамі тыпу Лукі-Райкавецкай, якія датуюцца апошняй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. Верхняя частка асобных ляпных пасудзін падпраўлена на ганчарным крузе. Сярод кругавой керамікі пераважаюць гаршкі так званага курганнага тыпу з манжэтавым венчыкам і пасудзіны э простым, плаўна адагнутым вонкі венчыкам, край якога зрэзаны ці злёгку адцягнуты ўніз.

Слядоў жылых пабудоў ні ў культурным слоі магутнасцю да 3 м, ні ў мацерыку не выяўлена. Магчыма, таму, што слой моцна перамешаны (у XVIII—XIX стст. тут была капліца і рабіліся пахаванні). Відаць, першапачаткова гарадзішча служыла сховішчам для насельніцтва прылягаючага да яго неўмацаванага паселішча. Пазней, верагодна, на ім жылі

і працавалі рамеснікі, якія займаліся апрацоўкай металаў, пра што сведчаць шматлікія вытворчыя адходы. В. С. Вяргей і А. В. Іоў дапускаюць, што сярод жыхароў паселішча былі нарманы (Іоў, Вяргей, 1993. С. 123—125).

Пры раскопках на гарадзішчы Харомск высветлілася, што магутнасць культурнага слоя на пляцоўцы вельмі нязначная — у сярэднім 0,2—0,3 м і толькі на асобных участках даходзіла да 0,6 м. У некалькіх месцах на пляцоўцы прасочаны гліняныя і вугальныя праслойкі. У раскопе плошчай 188 кв. м знойдзена ўсяго толькі каля сотні абломкаў ляпных пасудзін (у тым ліку мілаградскіх і зарубінецкіх) і адзін расціснуты кругавы гаршчок з лінейным арнаментам эпохі Кіеўскай Русі (Залашко, 1988. С. 59—63). Індывідуальныя знаходкі таксама вельмі нешматлікія: крамянёвы выраб (магчыма, рэтушор), сякера са сланцу, фрагменты двух жалезных нажоў, біканічнае шыфернае прасліца, гліняныя грузікі ад вертыкальнага ткацкага станка (Залашко, 1988. С. 59—63).

Гарадзішча служыла сховішчам для навакольнага насельніцтва на працягу вельмі доўгага часу. Яно не мела штучных земляных умацаванняў. Магчыма, як і гарадзішчы астраўнога (узгоркавага) тыпу Паўночнай Беларусі, было па перыметры пляцоўкі ўмацавана частаколам (Ткачев, 1969. С. 111).

Найбольш вывучанай на тэрыторыі Беларусі катэгорыяй умацаваных паселішчаў негарадскога тыпу з'яўляюцца гарадзішчы — рэшткі феадальна-уласніцкіх замкаў. У сваю чаргу сярод іх па ступені вывучанасці вылучаецца Вішчынскае гарадзішча. Даследавана 2350 кв. м культурнага слоя, што складае больш за 2/3 плошчы. Таўшчыня слоя вагалася ад 0,4 м у цэнтры пляцоўкі да 1,5 м на краі. Месцамі трапляліся кавалкі крэменю са слядамі апрацоўкі і шліфаваныя каменныя сякеркі. Аднак ранні слой стратыграфічна не вылучаўся (Загорульский, 1983. С. 86—87).

На пляцоўцы выяўлены рэшткі 6 наземных аднакамерных драўляных пабудоў. Тры з іх былі зрубнымі: дзве з'яўляліся жытламі (у іх захаваліся развалы печаў і рэшткі дашчатых падлог), трэцяя — майстэрня ювеліра. Побач з жыллём знаходзілася гаспадарчая пабудова тыпу свірна з абгарэлым зернем. Усе пабудовы размяшчаліся ўздоўж вала на даволі значнай (10—15 м) адлегласці адна ад другой. Магчыма, прастора паміж імі была занята пабудовамі лёгкага тыпу, рэшткі якіх не захаваліся (Загорульский, 1983. С. 87—88).

Рэчавы комплекс Вішчынскага гарадзішча багаты і разнастайны: сельскагаспадарчыя і прамысловыя прылады, інструментарый рамеснікаў і адходы вытворчасці, побытавыя рэчы і ўпрыгожанні, прадметы ўзбраення воіна і рыштунак баявога каня. Знойдзены абломкі лемяшоў, сярпоў, матык, жорнаў, рыбалоўныя кручкі, гліняныя грузілы для сетак. Дрэваапрацоўчы інструментарый прадстаўлены сякерамі, долатамі, свердзеламі, малатком з цвікадзёрам; кавальскі і слясарны — зубілам і молатам. У майстэрні ювеліра знойдзены запоўненая бронзай льячка і тры віды матрыц: для вырабу падвесак у форме лілеі (крыны), бляшак і колтаў з выявай грыфона. Частымі знаходкамі з'яўляюцца жалезныя шлакі і свінцовыя пласціны (апошнія, відаць, выкарыстоўваліся для вырабу эмалей).

Знойдзены каля 100 нажоў, звыш 70 прасліцаў, нажніцы, шылы, іголкі, шкляныя пярсцёнкі, 510 фрагментаў шкляных бранзалетаў, больш за 20 пацерак. Ювелірныя ўпрыгожанні прадстаўлены бранзалетамі (пласціністыя, вітыя, кругладрацяныя, трохгранныя з выявай галоўкі звера на канцах), шпількамі (адна з галоўкай у форме квадрыфолія, другая з крыжападобнай галоўкай), пярсцёнкамі, манетападобнымі прывескамі, нацельнымі крыжыкамі, бразготкамі з крыжападобнымі прарэзамі (Загорульский, 1983. С. 88).

У 1979 г. на гарадзішчы знойдзены выдатны па сваёй мастацкай каштоўнасці скарб вельмі дарагіх ювелірных упрыгожанняў і плацежных сярэбраных зліткаў. У склад скарбу ўваходзілі чатыры колты (у тым ліку два выкананыя тэхнікай перагародчатай эмалі), дзве расны, два бранзалеты (адзін віты з канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак, другі — двухстворкавы пласціністы), чатыры крынападобныя прывескі, тры пацеркі, два ланцужкі, тры грыўні наўгародскага тыпу, шэсць — кіеўскага і дзевяць грыўняў літоўскага тыпу. Усе рэчы выраблены з высакапробнага серабра. Два колты, пласціністы бранзалет, пацеркі і крынападобныя прывескі пазалочаныя. Усе ўпрыгожанні былі ва ўжытку доўгі час, некаторыя з іх сталі непрыгоднымі. Па аналогіі са скарбамі, схаванымі ў часы мангола-татарскага нашэсця, датуюцца другой паловай XII — першай трэццю XIII ст. (Загорульский, 1983. С. 88—89).

Даследаванні далі багатую калекцыю зброі, у тым ліку цяжкаўзброенных воінаў (рыцараў), і прадметаў, звязаных з вайсковым побытам. Знойдзены перакрыжаванне і навершша мяча, наканечнікі стрэлаў і дзідаў, абрыўкі кальчугі, кісцень, пласціны ад панцырнага даспеха, шпоры, страмёны, цуглі.

Раскопкамі ўстаноўлена, што на грэбені ўнутранага вала была абарончая сцяна з гарызантальных бярвёнаў таўшчынёй 18—23 см, злучаных адно з адным «унахлёст» (у месцах злучэння былі высечаны паглыбленні). Бярвёны падоўжанай сцяны ўмацоўваліся кароткімі (каля 1,2 м) папярочнымі сценкамі, размешчанымі на адлегласці 5—5,5 м адна ад адной. Са знешняга боку ніжнія бярвёны былі прысыпаны шчыльнай глінай. З боку гарадзішча да сцяны прылягала гарызнатальная пляцоўка, магчыма, з драўляным насцілам. Невысокая сценка з дошак аддзяляла вал ад участка забудовы. Пры шурфоўцы знешняга вала ніякіх прыкмет навальных збудаванняў не знойдзена. Відаць, першапачаткова (XII ст.) гарадзішча мела больш простыя абарончыя збудаванні, магчыма, толькі ўнутраны вал. Знешнія валы былі насыпаны ў XIII ст. (Загорульский, 1983. С. 87).

Магутныя абарончыя збудаванні, невялікія памеры пляцоўкі, наяўнасць дарагіх упрыгожанняў і іншых прывазных вырабаў, значная колькасць рыцарскай зброі і абарончага ўзбраення дазваляюць лічыць Вішчынскае гарадзішча рэшткамі феадальнага двара-замка. Час яго існавання — сярздзіна XII — сярэдзіна XIII ст. Э. М. Загарульскі лічыць магчымым атаясамліваць Вішчынскі замак з летапіснай Воішчынай, захопленай і, відаць, разбуранай у 1258 г. аб'яднанымі войскамі літоўцаў і палачан (Загорульский, С. 1983. С. 89).

Рэшткамі феадальнага замка з'яўляецца таксама Збораўскае гарадзішча. У яго невялікая пляцоўка, абароненая магутнымі валамі і глыбокім

ровам. Разам з прадметамі мясцовай вытворчасці знойдзены прывазныя вырабы. Сярод іх абломак бронзавай чашы з гравіраванай пагруднай выявай жаночай фігуры, якая ў левай руцэ трымае раскрытую кнігу (правая рука апушчана), донца танкасценнага шклянога бакала, шматлікія абломкі шкляных бранзалетаў, у тым ліку чырвонага колеру (такія бранзалеты на Русі не выраблялі́ся). Г. Ф. Салаўёва выказала меркаванне, што Збораўскае гарадзішча было рэзідэнцыяй мясцовых рагачоўскіх князёў. На карысць такога меркавання сведчыць таксама незвычайны для зямлі радзімічаў курганны могільнік дружыннікаў, размешчаны на адлегласці 8 км ад Зборава (Соловьева, 1969. С. 112). Рэчавы комплекс гарадзішча датуецца ў асноўным XII ст. У XIII ст. яно спыніла сваё існаванне. Таксама, як і ў Вішчыне, у культурным слоі Збораўскага гарадзішча трапляліся матэрыялы эпохі бронзы і ранняга жалеза.

Рэшткамі феадальных двароў на тэрыторыі Панямоння з'яўляюцца гарадзішчы каля вёсак Мсцібава, Індура, Збочна.

Магутнасць культурнага слоя на ўсёй пляцоўцы Мсцібаўскага гарадзішча не перавышае 0,3—0,4 м і толькі непасрэдна каля вала дасягае 0,6 м. Насычанасць культурнага слоя знаходкамі вельмі нязначная. Знойдзены адзінкавыя фрагменты керамікі XII—XIII стст., некалькі жалезных прадметаў, невялікая колькасць костак жывёлы, нешматлікія абломкі керамікі XVI—XVIII стст. У цэнтры пляцоўкі ўскрыты рэшткі калодзежа XVII ст., у ніжняй частцы якога захаваўся зруб памерам 1,55×1,55 м, зроблены з чэсаных дошак, пакладзеных на рабро. Знойдзены абломкі калодзежнага жураўля і частка драўлянага вядзерца (Тараканова, 1955. С. 107—108). Ёсць падставы меркаваць, што гэты калодзеж быў збудаваны на месцы больш ранняга калодзежа. Час узнікнення ўмацаванага паселішча ў Мсцібава адносіцца да XII — пачатку XIII ст. У дакументах XV і XVI стст. яно, як і размешчанае побач мястэчка, называлася Мсцібогавым Гарадком. Гэта дазволіла П. А. Рапапорту выказаць меркаванне, што на пачатковым этапе гэта быў замак валынскага баярына Мсцібога, памянёнага ў Іпацьеўскім летапісе пад 1202 г. (Раппопорт, 1962. С. 107). Узведзеная ў перыяд феадальнай раздробленасці ўмацаванне выкарыстоўвалася ў нейкай ступені і ў значна больш позні час.

На Індурскім гарадзішчы культурны слой прысутнічае як на ўнутраной, так і на знешняй пляцоўках. Магутнасць яго дасягае 0,8 м. Разам з прадметамі вайсковага побыту (наканечнікі стрэлаў, шпоры, цуглі і інш.) выяўлены сельскагаспадарчыя і прамысловыя прылады (косы, сярпы, жорны, рыбалоўныя кручкі і інш.). Знойдзена таксама вялікая колькасць прадметаў хатняга ўжытку і ўпрыгожанняў. Уся кераміка кругавая, пераважна з тыповым для ўсходнеславянскіх зямель лінейнахвалістым арнаментам. Сустракаюцца пасудзіны, упрыгожаныя квадратным, рамбічным і авальным рашэцістым штампам, які шырока прымяняўся ў арнаментацыі керамікі Мазовіі і бліжэйшага яе наваколля (Малевская, 1972. С. 18—19). Наяўнасць такой керамікі ў Індуры адлюстроўвае кантакты мясцовага насельніцтва з заходнімі суседзямі. Гарадзішча датуецца XI—XIII стст. (Гуревич, 1962. С. 193). Яго матэрыяльная культура вельмі блізкая да культуры суседняга Гродна.




*Мал. 25. Знаходкі з гарадзішча ў в. Індура: 1—3 — наканечнікі стрэл; 4 — загатоўка наканечніка арбалетнай стралы; 5 — спражка, 6 — вушка з прабоем; 7—10 — нажы; 11, 13 — іголкі; 12 — рыбалоўны кручок; 14, 18, 20 — муфты; 15—17 — фібулы; 19, 27 — бранзалеты; 21, 22 — праколкі, 23 — ігральная косць; 24, 26 — прасліцы; 25 — тачыльны камень; 28 — ручка; 29 — серп; 30 — каса*




*Мал. 26. Прадметы ўзбраення і рыштунку воіна з гарадзішча Кульбачына: 1—18 — наканечнікі стрэл, 19 — шпора, 20 — бляха ад шчыта, 21, 22 — наканечнікі коп'яў*

*Непарушаны культурны слой магутнасцю 0,4—0,7 м на гарадзішчы* каля в. Збочна захаваўся толькі ў асобных месцах. Цэнтральная пляцоўка моцна пашкоджана познімі перакопамі. На ёй знойдзены фрагменты керамікі XII—XIII стст., косткі свойскай і дзікай жывёлы, абломкі цэглы. Адзінкавыя фрагменты керамікі старажытнарускага часу сустрэты на прасторы паміж унутраным і знешнім валамі. Па даных Е. Міхайлоўскага, валы гарадзішча ўзведзены з камянёў, пакрытых зямлёй (Михайловский, 1893. С. 172). На самай справе камяні пакрываюць толькі схілы валоў, ды і то ў нешматлікіх месцах. Што датычыць самога насыпу, то ён узведзены з пяску і гравію. Культурны слой на гарадзішчы адносіцца ў асноўным да XII—XIII стст. Матэрыялы больш позняга часу сустракаюцца пераважна на ўнутранай пляцоўцы.

Ёсць на тэрыторыі Верхняга Панямоння гарадзішчы, якія па знешнім выглядзе і планавай схеме падобныя на феадальныя двары, але адрозніваюцца ад іх па сваім прызначэнні. Гэта рэшткі градаў — крэпасцей на славяна-літоўскім памежжы, населеных, відаць, прафесійнымі воінамі, якія адначасова былі і земляробамі. Такімі з'яўляюцца гарадзішчы каля вёсак Касцянёва і Кульбачына Шчучынскага раёна.

Касцянёўскае гарадзішча размяшчаецца на схіле ўзвышанага правага берага р. Касцянёўка. Круглая ў плане пляцоўка дыяметрам каля 70 м акружана валам вышынёй 2—3 м і шырынёй каля асновы 14—16 м. За валам прасочваюцца сляды заплыўшага рова. Уезд знаходзіўся з заходняга боку. Раскопкамі ўстаноўлена, што паселішча ўзнікла ў XI ст. Існавала яшчэ ў XIV—XVI стст. Таўшчыня культурнага слоя 0,5 м у паўднёвай частцы пляцоўкі і 1 м у паўднёва-заходняй яе частцы. Вал тройчы падсыпаўся і паверх насыпу стаялі дубовыя абарончыя канструкцыі. У XII ст. унутраны схіл вала быў абліцаваны каменем (Седов, 1974. С. 29—30; Ткачев, 1977. С. 418; Піваварчык, 1993. С. 103—104).

Кульбачынскае гарадзішча знаходзіцца на схіле палогага левага берага р. Астрынка і прылягае ўшчыльную да забалочанай яе поймы. Авальная ў плане пляцоўка памерам 55×70 м абаронена валам, вышыня якога з напольнага боку дасягае 3—3,5 м, з унутранага — 2—2,5 м, шырыня вала каля 12 м. З напольнага боку за валам прасочваецца заплыўшы роў. З заходняга боку вал перарываецца (тут, відаць, знаходзіўся ўезд). Таўшчыня культурнага слоя 0,2—0,6 м. Пры раскопках знойдзены рэшткі печаў-каменак і матэрыялы (у тым ліку шмат прадметаў узбраення і рыштунку конніка), якія дазваляюць датаваць паселішча XII—XIII стст. (Седов, 1974. С. 27; Пивоварчик, 1994. С. 190—199).

Касцянёўскае і Кульбачынскае гарадзішчы з'яўляліся, відаць, найбольш паўночнымі абарончымі пунктамі Чорнай Русі на мяжы з літоўскімі землямі. Яны належаць да тыпу ўмацаванняў, узведзеных незалежна ад рэльефу мясцовасці. Такія ўмацаванні вядомыя ва ўсіх абласцях старажытнай Русі. У X—XI стст. з'яўляюцца ў яе паўднёва-заходніх землях, у XII ст.— на паўночным усходзе (Седов, 1974. С. 27). Абодва гарадзішчы загінулі ў выніку варожага нашэсця. Магчыма, гэта звязана з паходам на Літву шматлікай мангола-татарскай раці Бурундая ў 1258—1259 гг. Пасля пагрому ў XIII ст. жыццё на Кульбачынскім гарадзішчы спынілася аж да XVI ст.




*Мал 27 Знаходкі з гарадзішча Шаўнева 1—3 — нажы, 4 — шыла, 5 — шпілька, 6—8 — ключы, 9 — вушка ад меднага катла, 10, 11 — спражкі, 12 — цвік, 13 — наканечнік стралы, 14, 17 — прабоі, 15 — прыстасаванне для замыкання вісячым замком, 16 — дужка ад вісячага замка, 18 — абломак шпоры, 19—21 — праслiцы, 22 — грэбень, 23 — бразготка, 24 — абломак сопла*

Феадальнай сядзібай сярэдзіны XII — пачатку XIV ст. з'яўлялася, верагодна, Шаўнеўскае гарадзішча (Горацкі раён), размешчанае на высокім (8—10 м) мысе левага берага р. Каменка. Пляцоўка падтрохвугольнай формы, памерам 45×40 м умацавана валам, рэшткі якога даўжынёй 15 і вышынёй 2 м захаваліся з усходняга боку (Мяцельскі, 1996. С. 65—67).

Час узнікнення шмат якіх умацаваных сельскіх паселішчаў Беларусі, таксама як і час спынення жыцця на іх, можа быць вызначаны толькі ў шырокіх храналагічных рамках. Без правядзення шырокіх раскопачных даследаванняў не можа быць з неабходнай дакладнасцю вызначана таксама іх сацыяльная сутнасць. Ні на адным з паселішчаў, якія ўмоўна лічацца пасёлкамі вольных абшчыннікаў, не праведзена значных раскопак. Адно назіранне, зробленае ў асноўным на падставе матэрыялаў разведак, не выклікае ніякага сумнення. Гэта тое, што большасць сярэдневяковых умацаванняў узнікла на паселішчах папярэдняга перыяду. У Магілёўскім Падняпроўі 32 з 34 сярэдневяковых гарадзішчаў узніклі на паселішчах папярэдніх эпох (Риер, 1982 а. С. 112). На падставе керамічнага матэрыялу вызначаны час узнікнення 16 гарадзішчаў рэгіёна. У канцы IX—X ст. існавала толькі адно гарадзішча (сховішча), што ўзнікла на месцы ўмацаванага родавага пасёлка. У XI ст. з'явілася 10 новых гарадзішчаў, у XII ст.— чатыры, у XIII ст.— адно. Некаторыя з гэтых дат, безумоўна, папярэднія, але яны дазваляюць усё ж такі намеціць пэўныя тэндэнцыі ў развіцці ўмацаваных паселішчаў Магілёўскага Падняпроўя (Риер, 1982 б. С. 139). Пераважная большасць умацаваных паселішчаў і ў іншых рэгіёнах Беларусі таксама ўзнікла ў XI—XII стст.

Гарадзішчы-сховішчы, якіх, акрамя Палесся, больш за ўсё на тэрыторыі Панямоння, функцыяніравалі ў асноўным у X і XI стст. У XII—XIII стст. іх амаль не выкарыстоўвалі. Па меры будаўніцтва гарадоў, замкаў і крэпасцей патрэба ў сховішчах змяншалася і іх паступова пакідалі.

Ёсць на тэрыторыі Беларусі ўмацаванні, якія не могуць быць аднесены ні да аднаго з тыпаў паселішчаў — ні часовых, ні пастаянных. Гэта гарадзішчы-свяцілішчы.

Адно такое гарадзішча знаходзіцца каля в. Верхаўляны Бераставіцкага раёна. Яно размешчана на ўзвышаным беразе р. Шэпша. Гарадзішча вельмі невялікае — яго памеры па грэбені вала з поўначы на поўдзень 32 м, з захаду на ўсход — 27,5 м. Круглая ў плане пляцоўка дыяметрам 7 м акружана ровам глыбінёй 0,5—1,2 м і валам вышынёй 1,5—3 м. З заходняга боку ёсць праход. Ён пераразае вал не да асновы, а толькі яго верхнюю частку. З паўночнага боку паміж пляцоўкай і ровам знаходзіцца яма, магчыма, больш позняга паходжання. У культурным слоі таўшчынёй 0,15—0,2 м на пляцоўцы выяўлена праслойка вугольчыкаў, абломкі кругавой керамікі і крэмені са слядамі апрацоўкі. У рове (таўшчыня слоя 0,4 м) ускрыта выбрукоўка з камянёў. Знойдзены косці і зубы жывёлы, слабаапрацаваныя крэмені, вуголле, фрагменты кругавой керамікі. Каменная выбрукоўка выконвала рытуальныя функцыі. Тут знаходзіліся «палаючыя ахвярнікі», куды кідалі мяса жывёлы і рытуальныя разбітыя пасудзіны. Пад камянямі на мацерыку выяўлены вуголле і фрагменты керамікі XI—XII стст. Аналагічныя свяцілішчы вядомы на

Смаленшчыне, у Паўночнай Букавіне, на землях паморскіх славян (Зайкоўскі, 1993. С. 124).

На базе ўмацаваных сельскіх паселішчаў (асабліва замкавага тыпу) узніклі шмат якія сярэдневяковыя гарады Беларусі (Ваўкавыск, Копысь, Лукомль, Рагачоў, Стрэшын і інш.) (Ваганава, 1985. С. 5). Аднак пераважная большасць такіх паселішчаў стала не гарадамі, а вёскамі. Тут неабходна адзначыць, што не ўсе вядомыя па пісьмовых крыніцах уладальніцкія паселішчы («двары»), у тым ліку рэзідэнцыі феадалаў («вялікія двары»), мелі абарончыя збудаванні ў выглядзе валоў і равоў. Яны, відаць, былі абаронены моцнымі агароджамі (частакол, тын). Такія паселішчы таксама маглі з'явіцца базай для ўзнікнення некаторых гарадоў, а тым больш вёсак.

## 2. ЗЕМЛЯРОБСТВА

**Гісторыя даследавання.** Вывучаныя матэрыялы з археалагічных помнікаў даюць магчымасць скпасці канкрэтнае ўяўленне аб узроўні стану і развіцці земляробства ў IX—XIII стст. і аб той ролі, якую яно адыгрывала ў жыцці тагачаснага грамадства тэрыторыі Беларусі (Коробушкина, 1979. С. 3, 102—103). Земляробства складала аснову эканамічнага і гаспадарчага жыцця сярэдневяковага насельніцтва ўсёй старажытнарускай дзяржавы. Тэрыторыя сучаснай Беларусі ўяўляла сабой адну з важнейшых частак гэтай дзяржавы, таму вывучэнне земляробства яе тэрыторыі мае важнае значэнне не толькі для вывучэння гісторыі Беларусі, але і старажытнай Русі ў цэлым.

Раней вучоныя па-рознаму ацэньвалі ролю земляробства ў жыцці сярэдневяковага грамадства. Адны з іх важнейшымі галінамі гаспадаркі ўсходніх славян лічылі гандаль і дапаможныя промыслы, другія прызнавалі вядучую ролю за земляробствам, але далей канстатацыі факта з-за адсутнасці канкрэтнага археалагічнага матэрыялу не пайшлі (Соловьев, 1959. С. 235—236, 250). Для вывучэння гаспадарчай дзейнасці славян многа зрабіў чэшскі вучоны археолаг-славіст Л. Нідэрле. На падставе археалагічных, этнаграфічных, тапанімічных і лінгвістычных даных ён зрабіў вывад, што ўжо ў VI—VIII стст. славяне становяцца аседлымі земляробамі (Нидерле, 1956. С. 309). Вучоны даказаў яшчэ ў 20-х гадах XX ст., што ў гэты час заходнія славяне ўжо прымянялі трохпольную сістэму земляробства, і дапускаў існаванне трохполя і ва ўсходнеславянскіх плямёнаў.

У наш час гісторыкі і археолагі даказалі, што гэта галіна гаспадарчай дзейнасці ва ўсходніх славян была важнейшай, і на падставе багатых археалагічных і пісьмовых крыніц паказалі, што і ўзровень развіцця земляробства ўсходніх славян быў даволі высокім, і ім займаліся сельскія жыхары і гараджане. Вялікі ўклад у вывучэнне гэтага пытання ўнёс Б. Д. Грэкаў, які на падставе багатых матэрыялаў і вывадаў папярэднікаў даказаў, што ўзровень развіцця земляробства ўсходніх славян быў даволі высокім яшчэ да складання Кіеўскай дзяржавы. У эпоху Кіеўскай Русі земляробства працягвала развівацца разам з ростам вытворчых сіл і дасягнула высокага ўзроўню ва ўсіх славян. Ім была даказана першапачатковая роля земляробства сярод усіх заняткаў

усходніх славян, і ўпершыню ў гістарычнай навуцы вывучаны земляробчая тэхніка і сістэмы земляробства, якія прымянялі на тэрыторыі старажытнай Русі. Ён даказаў, што з VIII—IX стст. з упэўненасцю можна гаварыць аб вядучай ролі земляробства ў паўночных частках тэрыторыі Русі, а Сярэдняе і Паўднёвае Падняпроўе займалася земляробствам намнога раней. На думку Б. Д. Грэкава, прымяненне сістэм земляробства ў старажытнай Русі залежала ад прыродных умоў. Самай распаўсюджанай формай земляробства, лічыў ён, было ворнае палявое земляробства з вырошчваннем яравых і азімых культур і прымяненнем пара (Греков, 1952. С. 2—58). Вывады Б. Д. Грэкава цалкам адпавядаюць вывадам Л. Нідэрле. Для гістарычнай навукі вырашэнне гэтых пытанняў мела найважнейшае значэнне, і ад правільнага разумення асноўных рыс эканамічнага жыцця ўсходніх славян залежала вырашэнне такіх важнейшых пытанняў гістарычнай навукі, як узнікненне феадалізму і ўтварэнне старажытнарускай дзяржавы. Больш таго, без ведання асноў эканамічнага жыцця ўсходніх славян нельга зразумець высокі ўзровень развіцця разнастайных рамёстваў, які быў дасягнуты ўсходнімі славянамі ў перыяд Кіеўскай Русі. У 30-я гады гаспадарчае жыццё насельніцтва Усходняй Еўропы вывучалі П. М. Траццякоў і В. П. Пятроў. П. М. Траццяковым былі абагульнены матэрыялы па ляднаму земляробству (Третьяков, 1932. С. 1—39). Ён прыйшоў да вываду аб паходжанні ворнага земляробства з ляднага. Гэты вывад вытрымаў праверку часам. Не з усімі высновамі П. М. Траццякова потым пагадзіліся вучоныя, але ў цэлым яго работа з'явілася для свайго часу значным укладам у распрацоўку праблемы па вывучэнню земляробства Усходняй Еўропы. П. М. Траццяковым створаны агульны правільны накірунак вывучэння земляробства. Ён даў магчымасць правільна зразумець аграномічныя асаблівасці ляднага земляробства, якое адыгрывала пэўную ролю ў гаспадарцы ўсходніх славян.

В. П. Пятроў прыйшоў да вываду аб узнікненні ворнага палявога земляробства з ляднага на ўсёй тэрыторыі Усходняй Еўропы і ўзнікненні яго задоўга да паяўлення жалезнай сякеры. На яго думку, спачатку яно было звязана не з павалам дрэў, а з падсяканнем на іх кары.

Вялікая заслуга ў вывучэнні земляробства старажытнай Русі належыць В. І. Даўжанку. Ён вывучаў як тэхніку земляробства, так і яго сістэмы, а таксама склад культур, якія вырошчвалі ў той час (Довженок, 1961). Але ў сувязі з адсутнасцю матэрыялаў па асобных тэрыторыях старажытнай Русі некаторыя яе рэгіёны не былі прадстаўлены ў манаграфіі В. І. Даўжанка. Так, у ёй адсутнічаюць матэрыялы па тэрыторыі Беларусі.

Значным укладам у распрацоўку пытанняў сярэдневяковага земляробства з'яўляюцца публікацыі А. У. Кір'янава, прысвечаныя вывучэнню гэтай важнейшай галіны гаспадаркі наўгародскіх славен (Кирьянов, 1952; Ён жа, 1959). Даследчык упершыню звярнуўся да вывучэння не толькі культурных раслін, але і зерня тых раслін, якія засмечваюць тыя ці іншыя культурныя і з'яўляюцца іх пастаяннымі спадарожнікамі. Гэта дало яму магчымасць вызначыць склад культур, якія там вырошчвалі, і аднавіць сістэмы земляробства, якія прымянялі ў той час. Ён даказаў, што ворнае земляробства з прымяненнем вупражных ворных прылад

на тэрыторыі Наўгародскай зямлі склалася ў VI—VIII стст. Але з цягам часу земляробчая тэхніка ўскладнялася, а разам з гэтым пашыраўся склад культурных раслін.

У апошнія дзесяцігоддзі вельмі актыўна і пладатворна пытанні ранняга земляробства распрацоўваў Ю. А. Красноў. Ён вывучаў земляробчую тэхніку, прылады ўборкі і апрацоўкі атрыманага ўраджаю, а таксама і сістэмы земляробства, якія прымянялі ва Усходняй Еўропе з самага пачатку з'яўлення земляробства і ў больш позні час. Асаблівую ўвагу даследчык надаваў старажытным і сярэдневяковым ворным прыладам Усходняй Еўропы (Краснов, 1965; Ён жа, 1970; Ён жа, 1971; Ён жа, 1975; Ён жа, 1987). Значны ўклад у вывучэнне земляробчай тэхнікі тэрыторыі Усходняй Еўропы ўнёс А. У. Чарняцоў, які на падставе вывучэння вялікай колькасці металічных нарогаў зрабіў іх класіфікацыю, а таксама спробу звязаць кожны з іх з той ці іншай ворнай прыладай (Чернецов, 1972; Ён жа, 1972; Ён жа, 1973).

Земляробства тэрыторыі Беларусі доўгі час не з'яўлялася тэмай спецыяльных даследаванняў. У 50—60-я гады з'явіліся першыя асобныя артыкулы, прысвечаныя земляробству асобных населеных пунктаў, а таксама публікацыі, у якіх у той ці іншай меры закраналася гэта галіна сельскагаспадарчай дзейнасці ў старажытнасці. Пытанні, звязаныя з земляробствам, разглядаліся ў абагульняючых працах па гісторыі і археалогіі, а таксама ў асобных манаграфіях, прысвечаных археалагічнаму вывучэнню таго ці іншага горада або гарадоў цэлага княства (История Белорусской ССР. 1972; Очерки по археологии Белоруссии. 1972; Кирьянов, 1954; Лысенко, 1974; Тарасенко, 1963). А. У. Кір'янаў, вывучаючы матэрыялы па земляробству старажытнага Гродна, зрабіў важныя вывады аб прыладах апрацоўкі зямлі і аб вырошчванні ў Панямонні даволі шырокага складу зерневых і бабовых культур. Сельскагаспадарчую вытворчасць старажытнага Полацка па матэрыялах раскопак 1959—1960 гг. вывучаў В. Р. Тарасенка, які разгледзеў і датаваў сельскагаспадарчыя прылады працы, іх дэталі, вызначыў іх функцыянальнае прызначэнне. Ім падрабязна даследаваны і вызначаны з дапамогай батанікаў склад сельскагаспадарчых культур, а таксама раслін, якія засмечваюць гэтыя культуры. Даследчыку ўдалося ўстанавіць, што вядучай харчовай культурай у XIII—XIV стст. у Полацку з'яўлялася азімае жыта, якое складала тут 50% ад усяго злакавага зерня. На гэтай падставе В. Р. Тарасенка зрабіў вывад, што ў гэты час у Полацку існавала папаравая сістэма земляробства, бо папярэднікам азімага жыта магло быць толькі паравое поле. У канцы 60-х гадоў Т. М. Каробушкінай былі вывучаны і абагульнены матэрыялы за дванаццаць гадоў раскопак старажытнага Мінска (Коробушкина, 1967). Усебаковае вывучэнне сельскагаспадарчай тэхнікі і зерневага матэрыялу, у тым ліку і пустазелля, якое засмечвае культурныя расліны, дало магчымасць вызначыць склад культур, якія вырошчвалі ў Мінску і яго акрузе, і сістэмы земляробства. Матэрыялы па земляробству Навагрудка апублікаваны Ф. Д. Гурэвіч (Гуревич, 1965). У гэтым горадзе не вельмі многа знойдзена матэрыялаў па земляробству, але дастаткова, каб упэўніцца, што тут, як і ў іншых гарадах таго часу, гарадское насельніцтва займалася земляробствам. А. У. Кір'янаў вывучаў зерне з Браслава (Кирьянов, 1961).

Земляробства Ваўкавыска выкладзена ў публікацыях Я. Г. Звяругі. Адна з іх спецыяльна прысвечана землеапрацоўчым прыладам (Зверуго, 1969). Зерневы матэрыял з Ваўкавыска даследаваны Н. А. Кір'янавай (Кирьянова, 1969). Сельскагаспадарчыя прылады з раскопак гарадоў Верхняга Панямоння вывучаны Я. Г. Звяругам (Звяруга, 1975).

Разрозненыя матэрыялы па земляробству не давалі магчымасці цалкам уявіць земляробства тэрыторыі Беларусі ў сярэдневяковы перыяд. Трэба было абагуліць увесь матэрыял па земляробству і на яго падставе ахарактарызаваць землеапрацоўчую тэхніку і прылады ўборкі і перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, прасачыць яе змены і вызначыць склад культурных раслін, вядучае значэнне культур у пэўны час і вырашыць асноўнае пытанне земляробства: аб сістэмах земляробства на тэрыторыі Беларусі. У канцы 70-х гадоў такая публікацыя выйшла ў свет (Коробушкина, 1979), у ёй паказаны стан земляробства на тэрыторыі Беларусі ў дамангольскі перыяд. Апрача археалагічнага матэрыялу ў ёй выкарыстаны пісьмовыя крыніцы, этнаграфічныя даныя. У публікацыі выкарыстаны зерневы матэрыял з раскопак 15 археалагічных помнікаў, батанічны аналіз якога праводзіўся ў спецыяльных лабараторыях. Вынікі вывучэння зерня культурных раслін разам з насеннем пустазелля дазволілі зрабіць вывады аб вядучых зерневых культурах у той ці іншы перыяд часу, а таксама аб прымяненні сістэм земляробства.

**Глебы і клімат.** Глебы разам з кліматам з'яўляюцца адным з важнейшых умоў заняткаў земляробствам, з улікам якіх складаецца той ці іншы накірунак сельскагаспадарчай дзейнасці. Глебаўтвараючыя працэсы праходзяць пастаянна, аднак за апошнія 800—900 гадоў глебы сучаснай тэрыторыі Беларусі асаблівых карэнных змяненняў не пацярпелі. У сувязі з гэтым і адсутнасцю даных аб глебах сярэднявечча выцякае неабходнасць даваць характарыстыку сучасных глебаў тэрыторыі Беларусі, што з нязначнымі адхіленнямі дасць магчымасць атрымаць уяўленне аб тагачасных глебах.

Глеба — гэта верхні слой зямлі (магутнасцю да 2 м), дзе канцэнтруюцца сонечнае цяпло, вільгаць і мініральныя рэчывы. Глеба склалася пад уздзеяннем біялагічных фактараў, атмасферных ападкаў і дзейнасці чалавека. Глебаўтвараючыя пароды з'яўляюцца асноўным фактарам, будаўнічым матэрыялам, з якога яны фарміруюцца. Механічны склад парод з'яўляецца важнейшай прыкметай глебаўтварэння. На Беларусі развіваюцца наступныя глебаўтвараючыя працэсы: падзолісты, дзярновы, балотны, саланчаковы (Роговой, Медведев, Булгаков и др., 1952). Падзолістыя глебы ўтвараюцца на занятых лесам землях і вельмі пашыраны на тэрыторыі Беларусі. У старажытныя часы такіх глебаў было значна больш, паколькі тады значная тэрыторыя Беларусі была занята лясамі. Пад уздзеяннем розных працэсаў падзолістыя глебы становяцца залішне пясчанымі, перагніванне лісця і хвоі паскарае гэты працэс. Хуткі рост ападзольвання залежыць ад хуткасці росту расліннасці, дзякуючы чаму яны адрозніваюцца добрай і нават павышанай урадлівасцю. Добрая структура, наяўнасць перагною дае магчымасць вырошчваць на такіх глебах добрыя ўраджаі зерневых і іншых культур. Такія глебы характэрны для поўдня Беларусі (міжрэчча Прыпяці і Сцвігі,

у Жыткавіцкім і Столінскім раёнах). На паўночным захадзе Беларусі пануюць дзярнова-падзолістыя глебы, якія пры дастатковай вільгаці таксама ўрадлівыя. Яны займаюць шырокую тэрыторыю ў цэнтральнай і паўночнай Беларусі. Сярэдневяковы земляроб шырока выкарыстоўваў такія глебы, бо ў той час іх было больш. Вядома, што глебы, занятыя раней лясамі (сасновымі, яловымі, бярозавымі), павышаюць іх урадлівасць. Апрача таго, урадлівасць павышае травяністая расліннасць, якой пры адсутнасці нагляду за лесам належыць дамінуючае значэнне ў біялагічным кругазвароце (Шумаков, 1963. С. 172). Гэта давала магчымасць земляробам у старажытнасці атрымліваць з іх добрыя ўраджаі. Алювіяльна-лугавыя глебы таксама шырока выкарыстоўваліся ў той час, паколькі яны маюць рыхлую структуру і багатыя карыснымі рэчывамі.

На ўсіх гэтых глебах, за выключэннем тарфяна-балоцістых, у старажытнасці займаліся земляробствам і атрымлівалі нядрэнныя ўраджаі.

**Клімат.** Для паспяховага вядзення земляробства вялікае значэнне мае клімат, які ў адрозненне ад надвор'я змяняецца нячаста. Карэнныя яго змены адбываюцца вельмі рэдка, і за апошнія 800—900 гадоў назіраліся толькі нязначныя яго адхіленні. Англійскі кліматолаг К. Брукс сцвярджае, што ў Цэнтральнай Еўропе з першых стагоддзяў нашай эры клімат быў блізкі да сучаснага. Выключэннем з'явілася тое, што з пачатку IX і па XII ст. уключна ў Еўропе выпадалі значныя ападкі, а 1200—1300 гг. адметныя штормамі і дажджлівымі зімамі (Брукс, 1952. С. 282).

На Беларусі клімат пераходны ад марскога да кантынентальнага. На яго аказвае ўплыў блізкасць Балтыйскага мора на захадзе і марское паветра з Атлантычнага акіяна, якое садзейнічае выпаданню вялікай колькасці ападкаў. У асноўным на Беларусі выпадае 500—600 мм атмасферных ападкаў за год. У засушлівыя гады іх колькасць змяншаецца да 300 мм, у вільготныя — павялічваецца да 1000 мм. Палявыя работы пачыналі разам з вясновым адтаваннем зямлі. Атлантычнае паветра прыносіць цяпло і вільгаць. Такія з'явы назіраліся і ў старажытныя часы, аб чым сведчаць летапісныя звесткі. Так, у Іпацьеўскім летапісе пад 1190 г. запісана: «Зимой в Пинске было тепло, сошел снег...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 672). Лета было вельмі сухое, таму: «Городен погоре вcovь и церквы каменая от блистания молние и шибения грома» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 634). А. Х. Шкляр вывучаў пытанні аб уплывах клімату на сельскую гаспадарку і падзяліў тэрыторыю Беларусі на тры аграгракліматычныя зоны, сярод якіх па ступені кантынентальнасці клімату выдзяляе заходнюю, усходнюю і 19 раёнаў, цесна звязаных з фізіка-геаграфічнымі ўмовамі (Шкляр, 1959). Нават паўночныя раёны рэспублікі, па А. Х. Шкляру, прыгодныя для земляробства. Тут можна вырошчваць яравыя і азімыя культуры, а таксама лён, грэчку і бабовыя. У цэнтральнай аграт эхнічнай зоне таксама ёсць усе ўмовы для вырошчвання лёну, яравых і азімых культур. У паўднёвай зоне, дзе пясчаныя і лёгкасуглінстыя ўрадлівыя глебы, апрача яравых і азімых культур добра саспявае проса, якое з поспехам вырошчвалі і ў цэнтральнай зоне, дзе былі для гэтага добрыя ўмовы. Такім чынам, усе агракліматычныя зоны ў старажытнасці былі спрыяльныя для заняцця земляробствам. Але неабходна

ўлічваць, што ў X—XIII стст. земляроб павінен быў прыкласці больш асабістых намаганняў, каб падрыхтаваць і апрацаваць зямлю для пасеву.

**Прылады апрацоўкі глебы.** Пры вывучэнні любой гістарычнай эпохі тэхніцы апрацоўкі глебы адводзіцца значнае месца. Развіццё металургіі ў X—XIII стст. стварыла спрыяльныя ўмовы для ўдасканалення землеапрацоўчых прылад працы і земляробства ў цэлым. На падставе археалагічных знаходак можна атрымаць уяўленне аб канструкцыі землеапрацоўчых прылад, іх канструкцыйных асаблівасцях і тых зменах, якія праходзілі на працягу часу. Графічныя выявы і этнаграфічныя матэрыялы маюць толькі другараднае значэнне. Сельскія паселішчы вывучаны ў нас недастаткова, і асноўныя знаходкі дэталяў землеапрацоўчых прылад паходзяць з гарадскіх паселішчаў. Але тым не менш па іх можна атрымаць поўнае ўяўленне аб земляробчых прыладах працы, таму што з гарадоў землеапрацоўчыя вырабы ў выглядзе тавару паступалі ў сельскую мясцовасць. Знаходкі гэтага кшталту сустракаюцца рэдка, але за доўгія гады вывучэння археалагічных помнікаў іх накапілася даволі значная колькасць, якая дазваляе меркаваць аб тыпах прылад, часе іх з'яўлення, змяненні асобных канструкцыйных асаблівасцей. У сувязі з тым, што гараджане займаліся земляробствам, знаходкі дэталяў сельскагаспадарчай тэхнікі пры іх археалагічным вывучэнні заканамерны: па знойдзеных дэталях сельскагаспадарчых прылад можна скласці не толькі канкрэтныя ўяўленні аб іх, але і прасачыць, якія змяненні адбываліся ў іх канструкцыі на працягу стагоддзяў. Земляробчая тэхніка як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці была аднолькавай. Ворныя прылады ў той час рабілі ў асноўным з дрэва, і толькі асобныя іх дэталі былі металічнымі. У сувязі з тым, што дрэва недаўгавечнае і амаль не захоўваецца, адзінымі для вывучэння застаюцца металічныя дэталі. Часткі з драўніны з'яўляюцца рэдкім выключэннем. З гэтай прычыны існуюць цяжкасці пры рэканструкцыі ворных прылад. Знаходкі металічных дэталяў таксама сустракаюцца нячаста, і за многія гады раскопак на некаторых помніках не знойдзена ніводнай знаходкі гэтага прызначэння, на іншых — па адной, зрэдку — дзве-тры і самае большае — пяць (Гродна). Для характарыстыкі землеапрацоўчых прылад выкарастаны адно драўлянае рала, адна расоха двухзубая сахі, трыццаць восем металічных нарогаў і два чарэслы.

Рыхліла зямлю і барана-сукаватка, якая дажывае на Беларусі да XX ст. (Молчанова, 1968. С. 28). Барана, зробленая з дрэва з сукамі, вядома сярод этнаграфічных матэрыялаў (Малчанова, 1968). Апрача таго, зямлю рыхлілі пры дапамозе драўляных рыдлёвак з металічнымі акантоўкамі: іх знаходзяць часцей за самі рыдлёўкі, якія трапляюцца толькі там, дзе добра захоўваецца дрэва (Мінск, Полацк, Брэст, Віцебск, Слонім).

**Рала** — вупражная ворная прылада, якая з'яўляецца на Беларусі з часоў пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. Падобнае рала было знойдзена ў тарфяніку каля в. Капланавічы Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці (Поболь, 1963. С. 19). Такой прыладай можна рыхліць зямлю. Рала падразае наральнікам зямлю і рассоўвае яе па баках (Чернецов, 1972. С. 142). Па пабудове рабочай часткі і спосабу працы выдзяляюць




*Мал. 28. Наральнікі і чарэслы: 1—2 в. Дворыцкая Слабада; 3—5 — в. Хатомель*

два тыпы гэтых прылад: бясполазныя і ралы з полазам або падэшвенныя. Апошнімі шляхам яго нахілу ў бок можна дасягнуць няпоўнага пераварочвання пласта зямлі і падразаць карані пустазелля, якое засмечвае культурныя расліны. Падэшвенныя ралы дазваляюць праводзіць больш глыбокую баразну і лепш апрацоўваць зямлю.

Бясполазныя ралы больш манеўраныя і лёгкія, таму незамянімыя пры апрацоўцы і асваенні новых зямель. Улічваючы дадатныя бакі як аднаго, так і другога тыпу ралаў, спецыялісты лічаць, што яны суіснавалі. Іх прымянялі ў залежнасці ад неабходнасці, і яны не маглі быць заменены адно другім (Краснов, 1987. С. 72).

Другое драўлянае рала было знойдзена ў Брэсце ў пласце XIII ст. (мал. 28:1). Гэта адзінае драўлянае рапа сярэдневяковага часу ва ўсёй Усходняй Еўропе. Зроблена яно з дуба, мае прамы градзіль даўжынёй 155 см, ролю якога адыгрываў ствол дрэва. Ад яго адыходзіць сук даўжынёй 42,5 см, які з'яўляецца асноўнай часткай рала. У сувязі з яго абломам цяжка сказаць што-небудзь пэўнае аб наяўнасці ў гэтага рала металічнага наральніка. Можна толькі меркаваць, што ён мог быць. На градзілі ёсць тры адтуліны. Першая з іх шырынёй 4,5 см, размешчаная адразу пасля задняга канца, была прызначана для замацавання ў ёй рукаяткі, за якую чалавек трымаўся ў час ворыва. Другая адтуліна зроблена наўскасяк, і ў яе ўстаўлялася і замацоўвалася металічнае чарэсла, якое разразала пласт зямлі перад тым, як наральнік узрыхліць яе. Трэцяя адтуліна ля пярэдняга канца была прызначана для замацавання ў ёй калка, да якога прымацоўвалася ярмо, або з яе дапамогай можна было падоўжыць градзіль, які ў гэтай ворнай прыладзе нянадта доўгі. Па іншых меркаваннях, трэцяя адтуліна была прызначана для дадатковага наральніка. Наперадзе гэта рала, на іх думку, для трываласці мела кола, што малаверагодна. Ралы прыведзенай канструкцыі не характэрны для тэрыторыі Беларусі ні ў старажытнасці, ні ў больш познія часы (Молчанова, 1968. С. 18), таму такую рэканструкцыю брэсцкага рапа (Краснов, 1987. С. 20; Ён жа, 1987а. С. 90) нельга лічыць удалай.

Аб тым, што ў часы сярэднявечча на тэрыторыі Беларусі прымянялі рала з чарэслам, сведчаць знаходкі на помніках гэтага часу наральнікаў разам з чарэсламі (селішчы каля вёсак Хатомель Столінскага раёна, Дворніцкая Слабада Мінскага раёна). Мяркуючы па драўлянай аснове, брэсцкае рала мела такія ж жалезныя дэталі. Знаходка драўлянага рала ў Брэсце мае важнае значэнне для вывучэння земляапрацоўчых прылад не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы. Дагэтуль аб існаванні такога тыпу прылад даследчыкі маглі меркаваць толькі па знаходках металічных дэталяў, па якіх вельмі складана зрабіць дакладную рэканструкцыю яго драўлянага корпуса. Гэта знаходка дае канкрэтнае ўяўленне не толькі аб яго канструкцыі.

Металічныя дэталі земляапрацоўчых прылад знаходзяць часцей. Самымі старажытнымі наральнікамі такіх прылад з'яўляюцца знойдзеныя каля в. Хатомель (VIII—IX стст.) (Кухаренко, 1961. С. 8—24. Табл. 9). Яны невялікія па памерах, асіметрычныя па форме, маюць плечыкі, рабочая частка ў канцы становіцца вужэйшай (мал. 29:2—3). Даўжыня першага наральніка 11,5 см, другога — 10,8 см. Яны належаць да аднаго

і таго ж тыпу землеапрацоўчых прылад — ралу, паколькі ў іх аднолькавая галоўная асаблівасць — форма папярочнага сячэння трубіцы. Разам з наральнікамі знойдзена металічнае чарэсла даўжынёй 40 см (мал. 29:4). Яно замацоўвалася ўперадзе наральніка і разразала пласт зямлі перад узрыхленнем яго наральнікам, наральнік разрыхляў пласт і нават дазваляў у нязначнай ступені пераварочваць яго, што паляпшала культуру земляробства. Каля в. Дворніцкая Слабада Мінскага раёна знойдзены такога ж тыпу наральнік разам з чарэслам у пласце X — пачатку XI ст. (Белорусская археология: Достижения археологов за годы советской власти. 1987. С. 184). Даўжыня чарэсла 41,5 см, шырыня — 6,5 см, наральніка — адпаведна 22 і 14 см. Гэтыя дэталі таксама належалі ралу з чарэслам. Апісаныя знаходкі сведчаць аб тым, што ў эпоху X—XI стст. на тэрыторыі Беларусі прымянялі рала з чарэслам не толькі на поўдні Беларусі, але і ў цэнтральнай яе частцы. Яны з'яўляюцца пацвярджэннем таго, што брэсцкае рала таксама мела чарэсла. Дэталі ворных прылад з Хатомеля і Дворніцкай Слабады сведчаць аб тым, што яны маглі належаць падэшвеннаму ралу, якое з'яўлялася папярэднікам плуга (Краснов, Лисицина, Чернецов, 1969. С. 296). Найбольш верагодна, што гэта былі прамаградзільныя ралы з полазам, паколькі крываградзільныя ралы зрэдку бывалі з чарэсламі (Краснов, 1987. С. 105).

Прамаградзільныя ралы яшчэ не мелі прыстасавання для атвалу зямлі. Аднак шляхам нахілу прылады можна было дасягнуць пераварочвання пласта. Таму іх можна разглядаць як папярэднікаў плуга. Думка аб тым, што спачатку з'явіліся бясполазныя ралы, не адпавядае рэчаіснасці. Іх знаходзяць на даволі шырокай тэрыторыі Усходняй Еўропы і датуюць як ранні́м, так і больш позні́м часам (Шрамко, 1961. С. 75; Ён жа, 1964. С. 96—99).

У 1976 г. М. А. Ткачовым у Гомелі ў пластах XII—XIII стст. знойдзены наральнік даўжынёй 24 см і шырынёй 11 см. Вузкая разамкнутая ўтулка, шырокая лопасць даюць падставу звязаць гэты наральнік з полазным ралам. Такімі прыладамі апрацоўвалі стараворныя землі. Нарогі прыведзенай формы вядомы даволі шырока (Никольская, 1967. С. 183; Довженок, 1961. С. 39). Да знаходак X—XI стст. адносяцца два нарогі, выяўленыя Э. М. Загарульскім на гарадзішчы каля в. Гарадзішча Мінскага раёна. Абодва яны адносяцца да рал з полазам. Адзін з іх цэлы, яго даўжыня 15,2 см, шырыня — 11 см. Трубіца ў папярочным сячэнні мае падоўжана-акруглую форму і была замацоўвана на ворнай прыладзе ў гарызантальным стане. Ад другога наральніка з в. Гарадзішча захавалася толькі яго рабочая частка, якая дазваляе аднесці яго да гэтага тыпу рал. Наральнік больш вузкі, але ад гэтага ж тыпу рал знойдзены ў 1953 г. В. Г. Супруном на беразе Шчары каля в. Лабазоўка. Яго даўжыня — 15,4 см, шырыня — 10 см. У 1974 г. М. А. Ткачовым знойдзены ў Чачэрску наральнік даўжынёй 17,2 см, шырынёй 9 см. Усе яго параметры сведчаць аб тым, што гэта нарог ад рала. Але асаблівую цікавасць ён прадстаўляе ў тым сэнсе, што яшчэ ў старажытнасці зрабілі яго рамонт і прыварылі рабочае палатно да часткі трубіцы, што захавалася пасля палому (Коробушкина, 1979. С. 21). А. А. Трусаў у 1981 г. знайшоў у Мазыры наральнік даўжынёй 20 см, шырынёй 10 см.




*Мал. 29. Сельскагаспадарчыя прылады: 1 — дубовае рала XIII ст. з Бярэсця; 2 — расоха XIII ст. з Віцебска; 3 — нажная ступа XIII ст. з Бярэсця*

Асобую групу складаюць два асіметрычныя па форме кароткія наканечнікі, знойдзеныя ў Гродне, Брэсце, Навагрудку і на феадальным замку Збораў Рагачоўскага раёна. Наральнік з Гродна датаваны XII—XIII стст., мае даўжыню 11,5 см, дыяметр утулкі — 7,5 см. У Навагрудку наральнік выяўлены ў пласце X—XI стст. з адпаведнымі памерамі 15 і 7,5 см. Даўжыня наральніка з Брэста складае ўсяго 10 см пры шырыні 8,5 см. Гэтым наральнікам працавалі настолькі доўга, што ён з'яўляецца самым спрацаваным нарогам з усіх, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Да гэтай жа групы наральнікаў належыць нарог даўжынёй 14 см, шырынёй 11 см з феадальнага замка Збораў Рагачоўскага раёна, знойдзены Г. Ф. Салаўёвай у 1967 г. Дэталёвае вывучэнне гэтай групы нарогаў сведчыць аб іх архаічнай форме. Але іх падабенства з больш раннімі наральнікамі нельга растлумачыць толькі часам іх вытворчасці. Напрыклад, наральнікі з Гродна і Брэста зроблены на цэлыя два стагоддзі пазней, але захоўваюць тыя ж формы і параметры, што і больш ранейшыя. Прыведзены факт сведчыць аб устойлівасці традыцый у вытворчасці сельскагаспадарчых прылад. Гэтыя нарогі належаць да аднаго тыпу бясполазных рал.

Разгледжаныя матэрыялы дазваляюць зрабіць вывад аб тым, што ў сярэдневяковы перыяд на Беларусі выкарыстоўвалі два тыпы ралаў, якія адрозніваліся адзін ад другога як па канструкцыі, так і па іх функцыянальным прызначэнні. Гэта былі ралы з полазам і бясполазныя. Параўнальнае вывучэнне нарогаў розных форм дае магчымасць упэўніцца, што ўсе металічныя наральнікі як з плечыкамі, так і без іх паступова становяцца больш дасканалымі і больш даўжэйшымі.

**Саха.** З цягам часу ралы паступова ўдасканальваліся і дажываюць да XX ст. Аднак яны не змаглі задаволіць патрэбы земляроба. У сувязі з гэтым на тэрыторыі Усходняй Еўропы ў пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. з'яўляецца зусім новая ворная прылада — саха, якая больш адпавядала агратэхнічным патрабаванням (Коробушкина, 1980. С. 69). Але ж рала не змагло быць поўнасцю заменена сахой. Кожная прылада выкарыстоўвалася ў залежнасці ад патрэбы. Па пытанню паходжання сахі няма адзінага погляду. Адны лічаць, што саха паходзіць ад рала (Дундулене, 1968. С. 19; Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. 1975. С. 24), другія сцвярджаюць, што яна з'яўляецца вынікам самастойнага вынаходніцтва (Краснов, 1987. С. 188). Хутчэй за ўсё саха з'яўляецца прамым прататыпам рала, паколькі яна не магла быць зроблена без уліку асаблівасцей папярэдняга ёй рала і была вынікам яго ўдасканалення. Час паяўлення сахі можна вырашыць дзякуючы надзейнай датыроўцы знойдзенай ад яе дэталі (расохі) у Старой Ладазе (Равдоникас, 1949. С. 48; Орлов, 1954. С. 344). У 1982 г. у Віцебску Л. У. Калядзінскім у пласце XIII ст. была знойдзена драўляная расоха ад двухзубай сахі (мал. 28). У сувязі з незахаванасцю расохі са Старой Ладагі віцебская расоха з'яўляецца адзінай драўлянай дэталлю ад сахі на тэрыторыі не толькі Беларусі, але і ўсёй Усходняй Еўропы. Яна датавана канцом XIII ст. (Калядзінскі, Ткачоў, 1985. С. 175, мал. 2). Яе даўжыня 91 см, найбольшая шырыня — 20,5 см. Зроблена расоха з выгнутай дошкі таўшчынёй ад 25 да 45 мм. На канцы дошка раздвоена і ствараe два зубы даўжынёй 35,5 см, шырынёй 9 см. Прамежак паміж зубамі

складае ад 11,5 да 13 см. З процілеглага боку расоха паступова звужаецца да 10 см. На прамежку ў 10 см ад канца ёсць выемка для змацавання яе з рагалём, які павінен размяшчацца перпендыкулярна руху сахі. У рагаль устаўлялася дзве аглоблі, у якія запрагалі цяглавую жывёліну. Расоха з Віцебска з'яўляецца асноўнай дэталлю сахі з перакладкай, якая мела форму лапатачкі і ўстанаўлівалася так, каб магла рассоўваць зямлю па баках. Апрача таго, яна яшчэ разрыхляла падрэзаны сашнікам пласт зямлі. Форма расохі дазваляе меркаваць, што сашнікі ў такой сахі ўстанаўліваліся пад такім вуглом, што ў час работы знаходзіліся амаль гарызантальна. Такія сохі набліжаюцца да плугоў. Яны былі распаўсюджаны на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беларусі (Молчанова, 1968. С. 19) да XX ст. Нават у наш час (60-я гады) саха такога тыпу была зафіксавана К. П. Шутом на хутары каля возера Багінскае паблізу в. Сітавічы Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці.

Апрача адзінкавай знаходкі драўлянай дэталі ад сахі пры раскопках трапляюцца металічныя яе нарогі — сашнікі. Але па іх не заўсёды можна беспамылкова вызначыць тып сахі. Памеры і форма ў іх розныя. Невялікія па памерах і асіметрычныя па форме нарогі ёсць падставы адносіць да двухзубых сох. Гэтага пункту гледжання прытрымліваюцца даследчыкі, якія спецыяльна займаюцца землеапрацоўчымі старажытнымі прыладамі (Краснов, 1987. С. 188; Чернецов, 1969. С. 143). На карысць гэтага сведчаць факты, зафіксаваныя Е. Р. Раманавым, існавання на Беларусі двухзубых сох з кароткімі сашнікамі (Романов, 1912, С. 57), а таксама знаходкі пры раскопках невялікіх сашнікоў, складзеных парамі (Гродна — дзве пары, Лукомль — адна). Гэтыя факты можна растлумачыць толькі тым, што каваль зрабіў два сашнікі для адной прылады і склаў іх адзін у другі, каб потым не прыйшлося іх падбіраць. Аднак пары так і не былі выкарыстаны па прызначэнню і дайшлі да нас у выглядзе археалагічных знаходак, неабходных пры рэканструкцыі ворных старажытных прылад. Абсалютная большасць выяўленых на Беларусі сашнікоў па класіфікацыі В. І. Левашовай, з якой згодны іншыя спецыялісты, адносіцца да першага тыпу (Левашова, 1956. С. 28; Чернецов, 1969; Ён жа, 1976. С. 34). Гэты тып сашнікоў у сваю чаргу падзяляецца на дзве групы. Да першай групы належаць сіметрычныя сашнікі. У Мінску знойдзены два такія сашнікі ў кавалках. Адзін з іх датаваны канцом XI ст., другі — пачаткам XII ст. Кавалак сашніка гэтай групы знойдзены ў Слуцку ў пласце XII ст. і ў Лагойску (XII — пачатку XIII ст.). Тры такія сашнікі выяўлены ў Оршы (XI—XII стст.). Адзін з іх амаль цалкам захаваўся. У двух іншых захаваліся толькі сіметрычныя рабочыя часткі, што дазваляе аднесці іх да першай групы. Амаль цэлы сашнік першай групы знойдзены ў Чачэрску. Сашнік XI—пачатку XII ст. з Друцка мае больш выцягнутую форму даўжынёй 18 см, шырынёй — 6,8 см, але яго трэба аднесці да першай групы. Два сашнікі гэтай групы даўжынёй 15,7 і 15,5 см знойдзены ў Лукомлі ў запоўненай зернем яме. Разам з імі ляжалі касар і матыга. Два другія сашнікі з Лукомля ўяўляюць сабой фрагменты. Ранейшы адносіцца да X — пачатку XI ст., другі — да XIII ст.

Да другой групы належаць сашнікі асіметрычнай формы. Да яе трэба аднесці цэлы сашнік XII—XIII стст. з Лагойска даўжынёй 14,8 см,




*Мал. 30. Сельскагаспадарчыя прылады: 1—5 — сярпы, 2—4 — косы-гарбушы, 6 — акоўка рыдлеўкі; 7—10 — сашнікі (1—6 — Бярэсце, 7—10 — Гродна)*

шырынёй 6,5 см і сашнік XIII ст. з Пінска (даўжыня 4,8 см, шырыня 4,6 см), які мае завостраны рабочы канец. Такой жа формы сашнік знойдзены ў Брэсце ў пласце XIV ст. Яго рабочая частка ў два разы даўжэйшая за трубіцу, што характэрна для больш позніх сашнікоў. Чатыры сашнікі, складзеныя па парах, знойдзены Я. Г. Звяругам у Гродне, разам з імі было тры сярпы. Гэты клад сельскагаспадарчых прылад быў схаваны ў час небяспекі. Абедзве пары сашнікоў падабраны па памерах. Даўжыня першай пары 19,3 і 19,7 см, шырыня — 7—6,9 см і адпаведна другая пара — 16,7, і 17,9 см пры шырыні 7,1—7,2 см. Аналагічную пару сашнікоў, знойдзеных пад Масквой, таксама складзеных разам, звязваюць з двухзубай сахой з перакладкай (Левашова, 1956. С. 35—36). Гэтую думку падзяляюць і іншыя даследчыкі (Podwińska, 1962. S. 279). Ёсць падставы лічыць, што абедзве пары гродзенскіх сашнікоў былі зроблены для двухзубай сахі з перакладкай, якой даволі зручна карысталіся на камяністых землях і пры апрацоўцы новых плошчаў пры лядным земляробстве. Гэты тып сахі быў распаўсюджаны на Панямонні і ў больш позні час (Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. 1975. С. 23—24). Знаходкі сашнікоў гэтай сахі дазваляюць зрабіць вывад, што на Панямонні ў XI—XII стст. апрацоўвалі зямлю двухзубымі сохамі і, магчыма, з перакладкай. У Полацку знойдзены асіметрычны сашнік XIII ст. даўжынёй 17,5 см. У яго развітая трубіца, выгнутая і завостраная рабочая частка. Яго можна аднесці да двухзубай сахі, якой апрацоўвалі цяжкія гліністыя глебы. Па словах А. Р. Мітрафанава, такі сашнік быў знойдзены на гарадзішчы каля в. Гарадзішча Мінскага раёна, але, на жаль, ён быў страчаны. Аднак факт яго існавання сведчыць аб тым, што двухзубая ўдасканаленая саха была вядома на тэрыторыі Цэнтральнай Беларусі ў сярэдневяковы перыяд. У 1954 г. у Ваўкавыску выяўлены сашнік XII ст. даўжынёй 19,2 см, шырынёй 7 см ад двухзубай сахі.

Разгледжаныя матэрыялы сведчаць, што на тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст. прымянялі розныя землеапрацоўчыя прылады. Па-першае, гэта двух тыпаў ралы — бясполазныя і з полазам з металічнымі наральнікамі. Некаторыя ралы мелі металічныя чарэслы (вёскі Хатомель, Дворніцкая Слабада). Такімі раламі можна было якасна апрацоўваць зямлю. Яны з'яўляліся папярэднікамі плуга. Разам з тым шырока прымяняліся двух тыпаў сохі — з перакладкай і без яе. Перакладак на тэрыторыі Беларусі не знойдзена, паколькі іх выраблялі з дрэва і яны не захаваліся. Аднак на іх існаванне ўказваюць іншыя дэталі сох (расоха з Віцебска, сашнікі з Гродна, Лукомля, Полацка, Ваўкавыска). Адны даследчыкі лічаць, што перакладка ў сахі з'явілася вельмі рана (Дундулене, 1968. С. 20), другія, наадварот — у XIV ст. (Чернецов, 1972. С. 145). Археалагічныя знаходкі даюць падставу меркаваць, што перакладка ў сахі паявілася на тэрыторыі Беларусі ў XI ст. і прымянялася ў наступныя стагоддзі. З'яўленне такіх сох было неабходным элементам пры вядзенні папаравай сістэмы земляробства. Яны добра рыхлілі зямлю і знішчалі карэнне пустазелля. Саха з перакладкай была распаўсюджана на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беларусі, а на паўднёвым захадзе карысталіся палескай сахой (Молчанова, 1968. С. 16—19).

З вынаходніцтвам сахі, больш прыстасаванай да існаваўшых умоў, роля рала стала паступова змяншацца. Аднак саха не змагла цалкам замяніць рала, якое выкарыстоўвалі ў залежнасці ад умоў апрацоўкі. Выцясненне рала сахой паскорылася з часу вынаходніцтва плуга. Але і плуг не змог цалкам замяніць рала, якое захавалася на Беларусі да XX ст. Асабліва неабходным яно стала ў больш позні час пры правядзенні акучвання бульбы.

Апрача вупражных ворных прылад працы ў сярэдневяковы час для рыхлення зямлі прымянялі розныя прылады ручной апрацоўкі. Да іх перш за ўсё трэба аднесці металічныя матыкі, знойдзеныя ў Мінску, Лагойску, Лукомлі, а таксама драўляныя рыдлёўкі з жалезнымі акоўкамі. Рыдлёўкі знаходзяць толькі на тых помніках, дзе добра захоўваецца дрэва (Полацк, Мінск, Брэст, Давыд-Гарадок, Слонім). Металічныя акоўкі ад рыдлёвак знойдзены амаль ва ўсіх старажытных гарадах і на іншых сярэдневяковых помніках тэрыторыі Беларусі.

**Прылады ўборкі ўраджаю.** Асноўнымі прыладамі ўборкі ўраджаю з'яўляліся металічныя сярпы. Іх выяўляюць на паселішчах, радзей — у пахаваннях. У дарэвалюцыйны час, калі праводзіліся толькі раскопкі могільнікаў, зрэдку ў курганах знаходзілі сярпы. Толькі ў адным з сарака чатырох вывучаных А. М. Ляўданскім у 20-я гады курганоў каля Заслаўя знойдзены адзін серп. Магчыма, гэта было звязана са значнай яго каштоўнасцю. Увогуле у курганах выяўлены адзінкавыя сярпы. Так, Г. В. Штыхаў знайшоў два сярпы (в. Глінішча, Полацкі раён; Старабарысаў, Барысаўскі раён). Па аднаму сярпу знайшлі Э. М. Загарульскі (в. Піаніна, Дзяржынскі раён), Г. Ф. Салаўёва (в. Дзям'янкі, Добружскі раён). Апошні датаваны X ст. (Соловьева, 1967. С. 189).

Непасрэдна на сельскіх паселішчах знойдзены ўсяго два сярпы (в. Хатомель, Столінскі раён; в. Дружба (Скорбічы), Брэсцкі раён). Асноўная ж колькасць сярпоў паходзіць з раскопак гарадоў. Іх выраблялі гарадскія рамеснікі на продаж і для ўжытку ва ўласнай гаспадарцы. Вялікія маштабы вывучэння гарадоў у пасляваенныя гады далі магчымасць атрымаць для вывучэння значную калекцыю сярпоў. Зараз іх колькасць перавышае шэсць дзесяткаў. Пры іх вывучэнні спецыялісты ўпэўніліся, што сярпы па форме неаднолькавыя. Па працоўных якасцях сярпы эпохі сярэднявечча падзелены на некалькі асноўных умоўных тыпаў, што дазволіла вызначыць не толькі працоўныя якасці кожнага сярпа, але і параўнаць іх тыпы паміж сабой, вызначыць сярод іх як найбольш дасканалыя формы, так і самыя недасканалыя (Левашова, 1956. С. 60—75). У аснову вывучэння пакладзена вызначэнне вуглоў рэзання кожнага з іх, якія залежаць ад яго выгнутасці. У сярпоў з добрымі працоўнымі якасцямі вуглы рззання дасягаюць 50° і больш. Чым бліжэй вуглы рэзання да 50°, тым найбольш дасканалы серп. Але вызначыць тып можна толькі ў цэлых або амаль цэлых сярпоў, у якіх можна скласці графікі вуглоў рэзання.

Сярод усіх сярпоў удалося вызначыць шэсць наступных умоўна названых тыпаў: наўгародскі, руска-літоўскі, паўднёва-заходні, кіеўскі, маскоўскі і без назвы. Самая вялікая колькасць сярпоў знойдзена ў Мінску — 17. У іншых гарадах яна размяркоўваецца наступным чынам: Брэст — дзесяць, Гродна — шэсць, Ваўкавыск — тры, Тураў, Чачэрск — па два, Пінск, Друцк, Мазыр — па аднаму.

Найбольш дасканалым тыпам з'яўляецца наўгародскі тып. Да гэтага тыпу адносіцца самы ранні серп X ст. з селішча каля в. Хатомель. Вельмі важна падкрэсліць, што самы дасканалы тып сярпа на тэрыторыі Беларусі быў зроблены ўжо ў X ст. У XI ст. яго ўжо выкарыстоўвалі на тэрыторыі цэнтральнай яе часткі (в. Эсьмоны, Бялыніцкі раён), а ў XII ст.— у Мінску, Заслаўі, Чачэрску і ў XIII ст.— на захадзе — у Гродне, Брэсце. Усяго да наўгародскага тыпу належаць 17 сярпоў. Гэта група па колькасці з'яўляецца самай значнай сярод іншых вызначаных груп. У XI ст. у Навагрудку карысталіся асобнымі варыянтамі наўгародскага тыпу сярпа.

Сярпы паўднёва-заходняга тыпу не намнога горшыя за наўгародскія. Яны знойдзены ў Гродне XI—XIII стст., Брэсце XIII ст., Ваўкавыску XIII ст. Гэты тып сярпа выкарыстоўвалі як у гарадах, так і ў сельскай мясцовасці (в. Піяніна, Дзяржынскі раён). Руска-літоўскі тып сярпа, таксама як і два папярэднія, характарызуецца высокімі працоўнымі якасцямі. Сярпамі гэтага тыпу ўбіралі ўраджай у X—XIII стст. у Ваўкавыску. Менавіта ўсе знойдзеныя там сярпы адносяцца да гэтага тыпу.

Сярпы кіеўскага тыпу знойдзены ў Брэсце XI—XIII стст., Давыд-Гарадку XII ст. Сярпы кіеўскага тыпу шмат у чым саступаюць сярпам папярэдніх тыпаў. Маскоўскі тып сярпа разам з сярпамі кіеўскага тыпу таксама не мае высокіх працоўных якасцей. Звычайна сярпы гэтага тыпу маюць невялікія памеры. Да гэтага тыпу адносіцца адзін, знойдзены на тэрыторыі Беларусі, складны серп з Полацка, а таксама сярпы XI ст. з Мінска і серп з кургана XI—XII стст. каля в. Старабарысаў.

У асобную групу трэба аднесці тры сярпы з Гродна, знойдзеныя разам з дзвюма парамі сашнікоў, якія па сваіх параметрах не могуць быць аднесены ні да адной з вызначаных груп. Яны былі зроблены майстрам невысокай кваліфікацыі.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі не толькі ў горадзе, але і ў сельскай мясцовасці прымянялі сярпы даволі высокай якасці. Але разам з тым выкарыстоўвалі сярпы і менш дасканалых форм. Важным з'яўляецца факт прымянення на рубяжы канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя на тэрыторыі Беларусі такіх сярпоў, якія з'яўляліся апошнім словам тагачаснай тэхнікі і адпавядалі агульнаму ўзроўню тэхнікі ўборкі ўраджаю на суседніх тэрыторыях.

Апрача сярпоў у той час існавалі металічныя касары, якімі зразалі кусты пры асваенні новых участкаў пры лядным земляробстве. Па сваіму прызначэнню яны набліжаюцца да сярпоў, але знешне адрозніваюцца ад іх. Канец касара выгнуты ў выглядзе дзюбы, рукаятка прамая. Касары былі вядомы ў XIII ст. у Лукомлі.

Для нарыхтоўкі сена і ўборкі ўстойлівых да асыпання культур (гарох, грэчка, віка) прымянялі косы-гарбушы. Яны маюць злёгку выгнутае на канцы лязо і кароткую рукаятку. Усяго знойдзена 39 кос-гарбуш (Мінск, Полацк, Гродна, Ваўкавыск, Навагрудак, Брэст, Пінск, Слуцк і інш.).

Косы-гарбушы сярэднявечча можна падзяліць на два тыпы: паўднёвы і паўночны (Колчин, 1953. С. 171). Косы з тэрыторыі Беларусі адносяцца да паўднёвага тыпу. У адрозненне ад паўночнага тыпу яны маюць больш шырокае (45 мм) і кароткае лязо (40—54 см). Каса-гарбуша шырока прымянялася на тэрыторыі Беларусі ў XI—XIII стст., а ў XIV ст.,



*Мал. 31. Жорны XIII ст. з гарадзішча Рацюнкі*

мяркуючы па этнаграфічных звестках, яна была заменена касой-літоўкай з доўгім касавішчам (Челищев, 1896. С. 185). Гэтай касой карыстацца было намнога лягчэй, таму што доўгае касавішча дазваляе працаваць стоячы, а не сагнуўшыся, як косяць касой-гарбушай. Такім чынам, каса на тэрыторыі Беларусі прайшла тысячагадовы шлях, пакуль з гарбушы, якая з'явілася ў другой палове 1-га тысячагоддзя, не ператварылася (к XV ст.) у касу-літоўку.

**Прылады перапрацоўкі ўраджаю.** Зерневыя культуры абмалочвалі драўлянымі цапамі. Дэталь такога цэпа знойдзена ў Полацку ў пласце XI ст. Лён і канаплю абмалочвалі драўлянымі калатушкамі, якія выяўлены ў тых гарадах, дзе добра захоўваецца дрэва (Полацк, Мінск, Брэст, Гродна) (Коробушкина, 1979. С. 58). Пасля абмалочвання, сухой і вільготнай апрацоўкі лён мялі на льнамялках. Дэталь такой льнамялкі XIII ст. знойдзена ў Брэсце. Пасля гэтага лён трапалі драўлянымі трапаламі, потым вычэсвалі кастру спецыяльнымі часаламі, якія былі падобны на трапалцы, але мелі зазубрыны на адным або двух баках. Такія прылады ў вялікай колькасці былі знойдзены ў Брэсце.

Абмалочанае зерне драўлянымі рыдлёўкамі ачышчалі на ветры ад смецця. Малолі зерне на ручных каменных жорнах, якія складаліся з двух каменных дыскаў — верхняга выгнутага і ніжняга нерухомага выпуклага з адтулінай у цэнтры, надзетага на металічны стрыжань (мал. 31). У верхнім дыску ў спецыяльную адтуліну ўстаўлялі драўляную або металічную порхліцу, пры дапамозе якой можна было рэгуляваць дробнасць памолу. Збоку верхняга дыска ўмацоўвалі драўляны падшыпнік, у які ўстаўлялі ручку. Яна і дазваляла прыводзіць у рух верхні дыск. Жорны і іх дэталі знаходзяць на ўсіх сярэдневяковых помніках. Выраблялі іх хутчэй за ўсё на месцы. У сабраным выглядзе яны трапляюцца рэдка (Навагрудак XI ст., Мінск XII ст., Брэст XIII ст.). Жорны прымянялі на тэрыторыі ўсёй Усходняй Еўропы.

Для атрымання круп карысталіся ступамі двух тыпаў. Першы — звычайныя ручныя ступы, у якіх таўклі па аднаму, а ў некаторых выпадках і па два чалавекі адначасова. У Полацку знойдзены два такія таўкачы XII ст., што дазвалялі працаваць адразу ўдваіх. Ручная ступа з таўкачом выяўлена ў Мінску (XII ст.).

Другі тып драўляных ступ — нажныя (мал. 28). У Брэсце знойдзены рэшткі пяці нажных ступ. У Мінску — дзвюх. Такая ступа складалася з масіўнай плахі даўжынёй 130—150 см з круглым паглыбленнем на канцы для засыпання зерня глыбінёй 25 см. На другім баку быў умацаваны на кароткай восі рычаг, у якім на ўзроўні адтуліны для зерня быў замацаваны таўкач. Ён прыводзіўся ў рух нагамі чалавека, які шляхам перамяшчэння вагі цела з адной нагі на другую прыводзіў у рух таўкач. На паўднёвым захадзе Беларусі нажныя ступы існавалі да пачатку другой паловы XX ст. Адна з іх была зафіксавана этнографамі ў 1953 г. у в. Наваселле Маларыцкага раёна. Нажной ступай карысталіся даволі шырока. Апрача асноўнага прызначэння (абдзірка зерня на крупы) у ёй таўклі семя лёну, канопляў, а таксама ў ступах таўклі дубовую кару для дублення скуры.

Такім чынам, у X—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі для збору і перапрацоўкі ўраджаю сельскагаспадарчых прадуктаў ужывалі самыя розныя прылады, прычым удасканаленыя іх формы з'явіліся тут вельмі рана і дажываюць уключна да першай паловы XX ст. Яны задавальнялі патрэбы земляроба і сведчаць аб высокім узроўні развіцця тэхнікі ў мясцовага насельніцтва. Важна адзначыць, што ўзровень гэтай тэхнікі адпавядаў узроўню яе развіцця на тэрыторыі лясной паласы Усходняй Еўропы. Некаторыя ўдасканаленыя тыпы прылад працы як землеапрацоўчай тэхнікі (рала з чарэслам), так і збору ўраджаю (удасканаленыя тыпы сярпоў) з'явіліся тут даволі рана (IX—X стст.).

**Склад культур. Сістэмы земляробства.** Важнейшым пытаннем даследавання сярэдневяковага земляробства з'яўляецца вывучэнне складу вырошчваемых культур, культурных раслін і цесна звязанага з ім пытання аб сістэмах земляробства. У летапісах зрэдку сустракаюцца назвы некаторых культурных раслін, але гэтага яўна недастаткова, каб скласці канкрэтнае ўяўленне аб вядзенні ў той час земляробства. Асабліва важна ўстанавіць, калі і ў які час тая ці іншая расліна была ўведзена ў культуру, калі і якія культуры былі яравымі, якія азімымі і якія з іх былі галоўнымі ў той ці іншы час, якія сістэмы земляробства існавалі. Адказаць на ўсе гэтыя і іншыя звязаныя з імі пытанні дапамагаюць археалагічныя знаходкі на помніках культурных раслін і суправаджаючага іх пустазелля. Яны даюць магчымасць вызначыць палі, дзе вырошчвалі тыя ці іншыя культуры (новыя або стараворныя), а таксама вызначыць сістэмы земляробства.

У даваенны час археолагамі быў знойдзены зерневы матэрыял толькі на двух помніках (в. Загорцы, Віцебская вобласць; в. Банцараўшчына, Мінская вобласць). Асноўны зерневы матэрыял далі раскопкі гарадоў у пасляваенныя гады. Ён дазваляе ахарактарызаваць земляробства цалкам, таму што гараджане, як і сельскія жыхары, вырошчвалі тыя ж самыя культуры і прымянялі тую ж самую агратэхніку. Часткова зерне, знойдзенае ў горадзе, трапляла туды з сельскай мясцовасці. Батанічнаму аналізу ў розны час было падвергнута зерне з 18 археалагічных помнікаў. З іх — 4 гарадзішчы і 14 гарадоў. Вынікі батанічнага вызначэння дапамаглі вырашыць многія важныя пытанні.

Асноўнай хлебнай культурай у 2-м тысячагоддзі н. э. з'яўлялася жыта азімае. Да нядаўняга часу нельга было адказаць, калі яно з'явілася на

тэрыторыі Беларусі. У 1974 г. А. Р. Мітрафанавым на гарадзішчы каля в. Свіла-1 (Віцебская вобласць) у пласце IX ст. было знойдзена ў гаспадарчай яме ў гаршку зерне жыта. Сярод яго было выяўлена зерне пустазелля, якое характэрна для азімых культур. Засмечанасць гэтага жыта пустазеллем даволі значная. Склад пустазелля дае магчымасць аднесці знойдзенае тут жыта да азімай формы, а значная колькасць пустазелля пераканаўча сведчыць аб тым, што вырошчвалі яго на стараворным полі. Знаходка азімага жыта на гарадзішчы Свіла-1 — адно з самых ранніх сведчанняў з'яўлення гэтай культуры на тэрыторыі ўсёй Усходняй Еўропы. Важна адзначыць, што знойдзена яна ў гаршку без дамешак іншых культур як самастойная культура. Да адзначанай знаходкі самыя раннія звесткі аб гэтай культуры на тэрыторыі Беларусі адносіліся да XI ст., а на тэрыторыі лесастэпавай зоны Усходняй Еўропы было выяўлена азімае жыта таксама ў пластах IX ст. толькі на Наватроіцкім гарадзішчы (Сумская вобласць). Такім чынам, гэта знаходка жыта азімага з'яўляецца самай ранняй па часе вырошчвання на землях Беларусі і на іншых тэрыторыях Усходняй Еўропы. Пачынаючы з X ст. жыта азімае на тэрыторыі Беларусі паступова стала распаўсюджвацца, і ў XI ст. ужо вядомай культурай паўсюдна выйшла на першае месца сярод іншых культур. Так, яно пераважае ў Мінску ў XI ст. (53 %), на Строчыцкім гарадзішчы пад Мінскам (59 %), а таксама ў іншых гарадах Полацкай зямлі. Не на ўсіх помніках знаходзяць зерне ў ранніх пластах, бывае, што яго выяўляюць толькі ў больш позніх пластах. Але, несумненна, жыта азімае і ў больш ранні час перавышала колькасць зерня ўсіх іншых культур. Напрыклад, у Лукомлі зерне знойдзена толькі ў пластах XII—XIII стст. Але і тут жыта з'яўляецца вядучай культурай сярод іншых зерневых культур. Матэрыялы Друцка сведчаць, што з XI па XIII ст. працэнт жыта сярод іншых культур з стагоддзя ў стагоддзе павялічваўся. Нягледзячы на тое што знойдзенае ў Друцку зерне спецыяльна было ў старажытнасці ачышчана ад пустазелля, ім усё ж было выяўлена зерне кастра жытняга, які засмечвае жыта азімае. З усяго зерня, якое вывучалі на тэрыторыі Беларусі, толькі ў Мінску вызначана жыта яравое (XI ст.). У астатніх выпадках жыта з'яўлялася азімым. Гэты факт яскрава даказвае, што пачынаючы з XI ст. яравая форма жыта выцяснялася яго азімай формай.

У гарадах Паўднёвай Беларусі зерне захоўваецца намнога горш, але і там жыта азімае пераважае. У дамангольскіх пластах Пінска яно па колькасці перавышае зерне іншых культурных раслін. Такое ж становішча было ў Клецку. У старажытных гарадах Панямоння назіраецца тое ж самае. У Гродне жыта азімае з'яўлялася вядучай культурай як у пластах XI—XII стст., так і ў перыяд яго росквіту ў XII — сярэдзіне XIII ст. У больш ранніх пластах (XI—XII стст.) зерня азімага жыта ўдвая больш за іншыя культуры, а ў пластах XII — сярэдзіны XIII ст. азімае жыта наогул складае 98 % (Кирьянов, 1954. С. 205—210). У Ваўкавыску жыта азімае складае 57,5 % у пластах XI ст. па адных даных (Демидович, Зверуго, 1969. С. 67) і 89 % — па другіх (Кирьянова, 1969. С. 396). Пры гэтым жыта азімае пераважала не толькі па колькасці зерня, але і па колькасці выпадкаў знаходак зерня, працэнт па колькаснаму складу зерня з стагоддзя ў стагоддзе ўзрастае. Калі ў XI ст. ён складаў 89 %, то

ў XI—XII стст.— 96 %, у XIII ст.— 98 %. У Крычаве з зерня XIII ст. азімае жыта складала больш паловы ў параўнанні з іншымі культурамі. Разам з ім сярод зерня вызначана пустазелле, якое характзрна для азімых культур (касцёр жытні, віка азімая).

Вывучаны матэрыял дае магчымасць упэўніцца, што азімае жыта пачалі вырошчваць у IX ст., а ў XI—XIII стст. яно займае вядучае месца сярод іншых культур. Як адзначалася, спачатку жыта было яравой культурай, але паступова земляробы аддаюць перавагу яго азімай форме, якая паціху заваёўвае вядучае становішча. Так было, мяркуючы па выніках вывучэння, на Строчыцкім гарадзішчы пад Мінскам, у Мінску, Браславе, Ваўкавыску, Гродне, Тураве, Клецку, Давыд-Гарадку, у XIII ст.— у Лукомлі, Пінску, Крычаве.

Такім чынам, пачынаючы з XI ст. азімае жыта стабільна займае вядучае месца ў Полацкім, Тураўскім княствах і на тэрыторыі зямель Чорнай Русі. Яго працэнт у параўнанні з іншымі культурамі складае ад 50 да 98 %. Знаходкі гэтай культуры ў IX—XIII стст. вядомы з 15 археалагічных помнікаў, і ўсюды пераважала жыта азімае. На асобных помніках яно наогул не выяўлена. Аднак гэта тлумачыцца не тым, што яно ў той час там не было вядома, а простай выпадковасцю і характарам культурнага пласта. Напрыклад, у Брэсце ў ранніх пластах жыта азімае не выяўлена. Лепш за ўсё зерне захоўваецца ў пластах пажару, а тут пажараў не зафіксавана. Да таго ж арганічныя рэчывы тут лепш за ўсё захоўваюцца ў пластах XIII ст., а ў больш старажытных, асабліва з самага пачатку існавання горада (пачатак XI ст.), дрэнна захоўваецца нават дрэва, а не толькі зерне. Улічваючы гэта, трэба зазначыць, што жыта азімае вырошчвалі ў XI—XIII стст. не толькі ў Брэсце, але і ў Друцку, што ў гэты перыяд часу яно з'яўлялася асноўнай культурай і на больш паўночных тэрыторыях (Старая Ладага, Ноўгарад).

Апрача жыта ў XII—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі вырошчвалі адну з самых старажытных культур Усходняй Еўропы — пшаніцу. Яна вядома тут з IX—III стст. да н. э. (Митрофанов, 1967. С. 259—261). На нашу тэрыторыю пшаніца ў далёкай старажытнасці была завезена з Прыднястроўя (Якубцинер, 1956. С. 22). Такім чынам, з'явіўшуюся тут з часоў глыбокай старажытнасці пшаніцу паспяхова працягвалі вырошчваць і ў больш познія часы. Яна трывала займае другое месца пасля жыта азімага ў першыя стагоддзі 2-га тысячагоддзя н. э. Такое становішча было ў Мінску, на Строчыцкім гарадзішчы, Полацку. У Друцку ў XIII ст., згодна з археалагічнымі матэрыяламі, ёй нават належала першае месца. У XII ст. на першае месца выходзіць ячмень, а пшаніца ідзе за ім, а ў XIII ст. жыта азімае зноў пераважае і складае 34 % ад агульнай колькасці зерня. Разам з зернем пшаніцы знаходзяць зерне пустазелля, характэрнае для яравых культур. Апрача таго, у Мінску разам з пшаніцай выяўлена пустазелле, якое ўласціва стараворным землям. Гэты факт дазваляе сцвярджаць, што пшаніцу вырошчвалі на стараворных палях. Зерне пшаніцы з Мінска і Строчыцкага гарадзішча, якое знаходзіцца ў 16 км ад Мінска, нават па знешнім выглядзе адрозніваецца ад зерня пшаніцы, знойдзенага на іншых сярэдневяковых археалагічных помніках. І асабліва яно адрозніваецца ад зерня гэтай культуры з больш паўночных тэрыторый. У Мінску і яго акрузе вырошчвалі гатунак мяккай

буйной пшаніцы, якая давала ўраджай намнога большы за дробную. Пустазелле, выяўленае разам з пшаніцай, дае падставу ўпэўніцца, што гэту культуру вырошчвалі як яравую.

Амаль усюды пшаніца займала стабільнае другое месца пасля азімага жыта (Мінск, Строчыцкае гарадзішча, Полацк, Клецк, Гродна, Тураў). Па выніках вывучэння зерня з Ваўкавыска другое месца там належала гароху (Демидович, Зверуго, 1969. С. 67), але па выніках А. В. Кір'янава там, як і на ўсёй тэрыторыі Беларусі, менавіта пшаніца займала другое месца. Хутчэй за ўсё больш верагодныя вынікі А. В. Кір'янава, таму што не гарох, а пшаніца разам з азімым жытам з'яўлялася асноўнай харчовай культурай на Беларусі ў той час. На тэрыторыі Усходняй Еўропы пшаніца з'явілася вельмі рана і амаль усё 1-е тысячагоддзе н. э. была асноўнай спажывецкай культурай. Толькі са з'яўленнем жыта, якое хутка сталі вырошчваць у азімай форме, яна саступае галоўнае месца і адступае на другі план. Такім чынам, з 2-га тысячагоддзя н. э. перавага аддадзена азімаму жыту, хаця пасевы пшаніцы ў гэты час заставаліся даволі значнымі.

Ячмень таксама з'яўляўся шырокавядомай злакавай культурай на значнай тэрыторыі Усходняй Еўропы. Зерне ячменю знойдзена ў Старой Ладазе ў пластах VII ст. (Равдоникас, 1950. С. 38). Самае старажытнае зерне ячменю на Беларусі паходзіць з помнікаў жалезнага веку. На Строчыцкім гарадзішчы яно выяўлена ў пластах X—XI стст. Ячмень складае 16 % ад усяго выяўленага там зерня і займае трэцяе месца пасля азімага жыта і пшаніцы. У Мінску ў XI—XII стст. ён таксама саступаў толькі гэтым культурам. Ячмень вельмі хуткаспелая і ўрадлівая культура, дае добрыя і высокія ўраджаі, асабліва пры лядным земляробстве або на іншых урадлівых палях. У першыя стагоддзі 2-га тысячагоддзя н. э. ячмень трывала ўтрымлівае трэцяе месца амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Такое становішча было ў XII—XIII стст. у Лукомлі. У Друцку ён разам з пшаніцай пераважае папераменна. Па выніках вывучэння зерня з Полацку толькі ў XIII ст. ячмень выходзіць на трэцяе месца. Выяўлена зерне ячменю таксама ў пластах XI—XIII стст. у Гродне, Браславе, Клецку, Крычаве, Ваўкавыску.

Проса таксама адносіцца да старажытных культур. Самае ранняе зерне гэтай культуры знойдзена на Банцараўскім гарадзішчы ў пластах II—III стст. н. э. Зерне проса або плёнкі ад яго знойдзены ў Мінску, Полацку, Брэсце, Лукомлі, Тураве, Клецку, Пінску, Ваўкавыску, Гродне, Давыд-Гарадку, Крычаве. Нягледзячы на тое што проса з'яўляецца цеплалюбівай культурай, у XI—XIII стст. яго сеялі на ўсёй тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і ў паўночных раёнах. Сеялі проса на новых палях, а з цягам часу, калі новых плошчаў паменшала, зонай высеву гэтай культуры сталі стэпы і лесастэпы.

Вельмі рэдкай знаходкай на сярэдневяковых помніках з'яўляецца зерне аўса. Калі дзе і знаходзяць зерне гэтай культуры, то літаральна па некалькі штук. Самая ранняя знаходка зерня аўса была зроблена ў пластах X—XI стст. Строчыцкага гарадзішча. У пласце пажару XI—XII стст. Мінска вызначана нязначная колькасць зерня аўса. Самая значная па колькасці зерня аўса знаходка была зроблена ў пластах XI—XIII стст. Гродна (375 штук). На іншых помніках самая вялікая колькасць

зерня аўса складае да чатырох дзесяткаў. У Друцку колькасць зерня аўса сярод знаходак з пласта XI ст. паступова змяншалася, пакуль ў XIV ст. не дайшла да мінімума. Зерне аўса знойдзена ўсяго на дзевяці помніках. Ёсць падставы меркаваць, што ў XI—XIII стст. авёс толькі пачаў уваходзіць у культуру. Яго якасці ў той час яшчэ не паспелі ацаніць. Для фуражных мэт авёс сталі вырошчваць значна пазней. Такое ж становішча з гэтай культурай было і на суседніх тэрыторыях (Рассиньш, 1959. С. 322; Кирьянов, 1959. С. 323—324).

Пэўнае месца сярод пасеваў у той час займалі бабовыя культуры. Самыя раннія знаходкі бабовых (драбнаплодныя конскія бабы, віка, гарох) выяўлены на Банцараўскім гарадзішчы. У Полацку знойдзена зерне драбнаплодных конскіх бабоў, гароху, чыны (XI—XII стст.), у Лукомлі — гароху і вікі, у Друцку — конскіх бабоў, гароху, сачавіцы. Зерне апошняй траплялася ў Тураве, Клецку, Ваўкавыску. Унікальнай для XI—XII стст. усёй Усходняй Еўропы з'яўляецца знаходка ў Мінску зерня агародных бабоў. Усяго знойдзена 13 зярнят гэтай культуры: у пластах XI ст.— 3 зерні, XII ст.— 10 зярнят. Пакуль што рана меркаваць аб часе паходжання агародных бабоў. Можна толькі з упэўненасцю сцвярджаць, што ў адзначаныя стагоддзі жыхары Мінска былі знаёмы з гэтай культурай. У Мінску ў гэты час з бабовых культур вырошчвалі гарох, віку яравую. У XI—XIII стст. былі распаўсюджаны лён (Полацк, Мінск, Тураў, Пінск) і каноплі (Мінск, Гродна, Ваўкавыск, Брэст, Давыд-Гарадок).

Асаблівую каштоўнасць уяўляюць зерні грэчкі ў Браславе, дзе яна вядома з XI ст. У XII—XIII стст. яе сеялі не толькі на Браслаўшчыне, але і ў Гродне, Крычаве. Да апошняга часу лічылі, што грэчка была завезена ў Еўропу арабамі ў XV ст., а на Беларусі яна вядома з XIX ст. На самай жа справе яе пачалі вырошчваць ў самым пачатку 2-га тысячагоддзя н. э.

З агародных культур у гэты час былі вядомы капуста, цыбуля, рэпа, буракі, агуркі. Аб садаводстве сведчаць знаходкі ў Полацку, Мінску, Гродне костачак слівы і вішні, а таксама пладоў ігрушы ў Мінску. Вывучэнне археалагічнага матэрыялу дае магчымасць пераканацца, што ў сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі вырошчвалі даволі шырокі склад культур (Коробушкина, 1979. С. 69—96)

**Сістэмы земляробства.** Багаты склад выяўленых земляробчых культур паказвае, што пры іх вырошчванні прымяняліся пэўныя сістэмы земляробства. Сістэма земляробства — гэта спосабы выкарыстання, падтрымкі і ўзнаўлення ўрадлівасці глебы. Узнавіць рэканструкцыю сістэм земляробства ў сярэднявеччы дапамагаюць знаходкі зерневага матэрыялу і прылад апрацоўкі зямлі. Перавага жыта азімага сярод іншых культур пачынаючы з XI ст. устаноўлена. Апрача таго, разам з зернем культурных раслін знойдзена зерне пустазелля, характэрнае для стараворных палёў. Пры наяўнасці стараворных палёў жыта, як правіла, сеюць на палях, якія адпачывалі пасля пара (Кирьянов, 1959. С. 330). Наяўнасць папаравай сістэмы дазваляе лічыць, што прымянялі яе ў форме двухполля або трохполля, таму што толькі так можна весці папаравую сістэму пры развітым земляробстве. Пры двухполлі ўся ворная зямля падзяляецца на дзве часткі. Адна частка засяваецца, другая — адпачывае пад парам. Пры трохполлі $^2/_3$ часткі поля зася-

ваецца яравымі і азімымі культурамі, а $^1/_3$ узнаўляе ўрадлівасць пад парам.

Наяўнасць прымянення папаравай сістэмы ў гэты час пацвярджаецца і развіццём ворных прылад. На змену ралу прыйшла двухзубая саха, якая больш за рала была прыстасавана для вядзення папаравай сістэмы земляробства. Узнікненне папаравай сістэмы земляробства было выклікана грамадска-эканамічнымі ўмовамі таго часу. Развіццё гарадоў, рост колькасці насельніцтва, развіццё рамёстваў і гандлю з'явіліся першапрычынамі яе паяўлення. Толькі гэта прагрэсіўная сістэма магла задаволіць усё ўзрастаючыя патрэбы гарадскога і сельскага насельніцтва ў прадуктах харчавання. З'явілася папаравая сістэма не адразу, развівалася паступова. Разам з ёй прымяняліся і такія пераходныя формы, як кароткачасовы і доўгачасовы пералог, стракатаполле, аднагадовы пар. Пры асваенні новых палёў прымянялі лядную сістэму. Пераложная і лядная сістэмы земляробства ў асобных месцах Беларусі дажываюць да XIX — пачатку XX ст.

Спалучэнне папаравай сістэмы земляробства з ляднай не супярэчыць вядзенню папаравай сістэмы земляробства ў той час. Але з паяўленнем папаравай сістэмы земляробства ў спалучэнні з ляднай сістэмай праходзяць некаторыя змяненні. Калі раней пры лядным земляробстве поле, якое перастала радзіць, пакідалі і перабіраліся на новае месца, то пры прымяненні ворнага земляробства з лядным месца пасялення земляроба становіцца стабільным (Петров, 1968. С. 15). Пералог і ляда паступова ператвараліся ў стараворныя палі. Прымяненне ляднага земляробства разам з развітым ворным — з'ява звычайная не толькі ў той, але і ў больш позні час пры развітым трохполлі (Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. 1975. С. 12) і сведчыць аб рацыянальным вядзенні земляробства.

Для паспяховага вядзення папаравай сістэмы земляробства неабходна ўнясенне арганічных угнаенняў у выглядзе гною. У сувязі з развіццём жывёлагадоўлі недахопу ва ўгнаенні зямлі не было.

Аб ураджлівасці палёў можна толькі меркаваць на падставе пазнейшых даных. У больш спрыяльныя гады ўраджай складаў сам-2,5—3. Ураджай сам-3,5 лічыўся высокім. Пры лядным земляробстве першыя два-тры гады ўраджай быў вельмі высокім (сам-8, сам-12). Сустракаюцца нават ураджаі сам-60, сам-80 у залежнасці ад узросту леса і якасці глебы. Але нягледзячы на гэта, лядная сістэма земляробства саступае перавагу больш прагрэсіўнай папаравай сістэме — у форме двухполля, а потым і трохполля. З пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. яна становіцца пануючай на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

## 3. ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ, ПРОМЫСЛЫ І РАМЁСТВЫ

Асновай эканамічнага жыцця грамадства ў пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. было земляробства, якое атрымала далейшае развіццё дзякуючы развіццю металургіі, што дало магчымасць вырабляць больш дасканалую земляробчую тэхніку. На падставе развіцця земляробства з'явілася магчымасць развіваць другую па значэнню галіну гаспадарчай дзейнасці насельніцтва старажытнай Русі — жывёлагадоўлю. Аб узроўні развіцця

жывёлагадоўлі ў XI—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі можна атрымаць уяўленне па рэштках астэалагічнага матэрыялу, атрыманага ў час археалагічных даследаванняў рознага роду помнікаў. Апрача таго, доказам развіцця жывёлагадоўлі ў той час з'яўляюцца знаходкі рэшткаў сельскагаспадарчых пабудоў, прызначаных для ўтрымання свойскай жывёлы. У большай ступені на Беларусі вывучаны гарадскія паселішчы, у меншай — сельскія.

Археалагічныя матэрыялы даюць магчымасць меркаваць аб складзе статка таго ці іншага населенага пункта і вызначыць, якой жывёле ў той ці іншы перыяд часу насельніцтва аддавала перавагу, удакладніць суадносіны паміж відамі рознай жывёлы. Косці дзікай жывёлы сведчаць, на якіх звяроў у тое ці іншае стагоддзе палявалі часцей, на якіх зрэдку, і даюць магчымасць вызначыць удзельную вагу прамысловай жывёлы ў параўнанні са свойскай. Больш таго, вывучэнне касцей свойскай і дзікай жывёлы дапамагае іншы раз, несумненна, з улікам іншых прыкмет, беспамылкова вызначыць тып таго ці іншага паселішча. Напрыклад, на паселішчах ваеннага тыпу, феадальных замкаў, як правіла, перабольшваюць косці дзікай жывёлы, паколькі на гэтых паселішчах развядзенне свойскай жывёлы ў параўнанні з паляваннем адыходзіла на другі план.

Такім чынам, вывучэнне касцей, атрыманых у час археалагічных доследаў, мае важнае значэнне для вызначэння характару жывёлагадоўлі і палявання ў насельніцтва тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст. У характарыстыцы жывёлагадоўлі IX—X стст. значную ролю адыгрываюць астэалагічныя матэрыялы, атрыманыя Ю. У. Кухарэнкам пры раскопках гарадзішча і селішча каля в. Хатомель Столінскага раёна (Брэсцкая вобласць). Гэтыя помнікі па часе свайго існавання адносяцца да разлажэння першабытнаабшчыннага ладу і пачатковага перыяду зараджэння і фарміравання феадалізму. Менавіта ў гэты перыяд пераходу ад ваеннай дэмакратыі да раннекласавага феадальнага грамадства былі створаны перадумовы для стварэння старажытнарускай дзяржавы. А гэты пераход стаў магчымым дзякуючы далейшаму развіццю вытворчых сіл і вытворчых адносін. На гэтым этапе першасную ролю адыгралі значныя поспехі ў развіцці сельскай гаспадарцы. Мяркуючы па знаходках, насельніцтва, якое жыло ў той час на селішчы каля в. Хатомель, разам з земляробствам актыўна займалася жывёлагадоўляй. Знойдзеныя на гэтым помніку косткі былі вывучаны вядомым археазаолагам В. І. Цалкіным. Па выніках яго вызначэнняў, прыведзеных у кнізе Ю. У. Кухарэнкі, не толькі на селішчы, але і на гарадзішчы пераважалі косці свойскай жывёлы (Кухаренко, 1961. С. 24, 27). На гарадзішчы выяўлены косці буйной рагатай жывёлы, каня, свінні. Дзікая жывёла прадстаўлена ўсяго дзвюма косткамі лася, якія належалі адной нясвойскай жывёліне. Свойскі статак складаўся з коней, буйной рагатай жывёлы, свіней. Жыхары селішча палявалі на лася, касулю, дзіка, зубра, мядзведзя. Косці дзікай жывёлы належаць 12 жывёлінам і складаюць усяго 10 % ад агульнай колькасці знойдзеных на помніку касцей.

На гарадзішчы першае месца па колькасці займаюць косці буйной рагатай жывёлы, другое — каня, трэцяе — свінні. Такое становішча, калі конь займае другое месца пасля буйной рагатай жывёлы, тлумачыцца

характарам помніка. Верагодней за ўсё, на гарадзішчы размяшчаўся пасёлак дружыннікаў, для якіх конь займаў адно з першых месц сярод жывёльнага статка.

На селішчы пераважаюць косці буйной рагатай жывёлы, за якой па колькасці ідзе свіння, а за ёй — конь. І зусім нязначная колькасць касцей, знойдзеных на селішчы, належыць дробнай рагатай жывёле. Гэта тлумачыцца тым, што жыхары селішча павінны былі забяспечыць харчаваннем не толькі сябе, але і жыхароў гарадзішча, ад якога залежалі. Таму вымушаны былі гадаваць высокапрадукцыйную жывёлу. Разам з тым пэўная ўвага ўдзялялася развядзенню коней, якія таксама выкарыстоўваліся не толькі для асабістых патрэб, але і часткова для патрэб жыхароў гарадзішча.

З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі ў жыхароў гарадзішча з'явілася магчымасць весці расшыраную вытворчасць і атрымліваць дадатковы прадукт, накопліваць у сваіх руках багацце, што ў рэшце рэшт прывяло да паяўлення раннекласавага грамадства. Важнасць вывучэння астэалагічнага матэрыялу, выяўленага на гарадзішчы і селішчы каля в. Хатомель, яшчэ і ў тым, што дае магчымасць выявіць склад свойскага статка напярэдадні складання раннефеадальнай дзяржавы. Высвятляецца, што ў гэты перыяд ўжо разводзілі ўсе віды свойскай жывёлы, якія вядомы нам у больш позні час па раскопках археалагічных помнікаў. На жаль, помнікі сельскага тыпу вывучаны на тэрыторыі Беларусі недастаткова, і таму асноўны астэалагічны матэрыял, які дазваляе меркаваць аб жывёлагадоўлі, паходзіць э раскопак старажытных гарадоў XI—XIII стст.

Вывучэннем астэалагічнага матэрыялу з гэтых помнікаў з канца 50-х гадоў займалася В. В. Шчаглова. Дзякуючы яе доследам матэрыялаў з 24 помнікаў удалося аднавіць карціну жывёлагадоўлі на тэрыторыі Беларусі ў сярэднявеччы (Щеглова, 1969. С. 406—426). З'явілася магчымасць меркаваць аб узроўні жывёлагадоўлі і палявання, аб суадносінах паміж імі, аб асаблівасцях гэтай дзейнасці, узнавіць відавы склад свойскай і дзікай жывёлы, зразумець суадносіны паміж відамі на кожным асобным помніку.

Звычайна жыццё насельніцтва ў старажытнасці на любым паселішчы працягвалася шэраг стагоддзяў. Вывучэнне астэалагічнага матэрыялу за гэты перыяд дае магчымасць аднавіць малюнак, як з цягам часу змяняўся склад статка свойскай жывёлы, а таксама даведацца, на якіх звяроў палявалі ў той ці іншы перыяд часу.

З 24 помнікаў, матэрыялы якіх даследавала В. В. Шчаглова,— 20 гарадоў (Полацк, Мінск, Віцебск, Лукомль, Копысь, Крычаў, Слаўгарад, Стрэшын, Чачэрск, Турыйск, Ваўкавыск, Слонім, Брэст, Камянец, Клецк, Пінск, Давыд-Гарадок, Тураў, Гомель), тры гарадзішчы ў Віцебскай вобласці і адно сельскае паселішча каля в. Строчыцы Мінскага раёна. В. І. Цалкіным даследаваны матэрыялы з Гродна, Навагрудка, Браслава, Друцка. Па матэрыялах з гарадскіх паселішчаў можна меркаваць аб развіцці жывёлагадоўлі і стане палявання цалкам на тэрыторыі Беларусі ў першыя стагоддзі 2-га тысячагоддзя н. э. У старажытным горадзе насельніцтва разам з рамяством і гандлем займалася сельскай гаспадаркай і дапаможнымі промысламі. У асноўным, за невялікім выклю-

чэннем (Гродна, Ваўкавыск, Турэйск), у старажытных гарадах пераважаюць косці свойскай жывёлы. Паляванне для гараджан адыгрывала другарадную ролю як крыніца атрымання мяса і футры пушнога звера.

Даследаванне касцей з Мінскага замчышча XI—XIII стст. сведчыць аб тым, што відавы склад свойскай жывёлы быў вельмі разнастайным (свінні, буйная і дробная рагатая жывёла, коні). Былі вызначаны косці ад 303 галоў свойскай і дзікай жывёлы (Щеглова, 1967. С. 404). Сярод іх косці свінні складалі 31,7 % ад агульнага складу пагалоўя, бык свойскі — 30,7 %, дробная рагатая жывёла — 15,2 %, конь — 5,9 %. Апрача таго — 2,4 % касцей належаць сабаку, 1,3 % — кату. Неабходна падкрэсліць, што сабакі і каты з'яўляліся пастаяннымі спадарожнікамі чалавека з часоў неаліту. Роля гэтай жывёлы ў старажытным Мінску была даволі значнай. Неабходна адзначыць, што без ката не мог абысціся ні адзін сярэднявяковы гарадскі дом, асабліва калі ўлічыць надзвычай нізкую санітарную культуру гарадоў.

Самы значны працэнт у статку складалі свойскія свінні. Справа ў тым, што гэты від вельмі прадукцыйны. Гадуючы свіней, можна за кароткі час атрымаць значна больш мясных прадуктаў, чым за той жа час ад другога віду, напрыклад дробнай ці буйной рагатай жывёлы. Невыпадкова косткі свінні пераважаюць сярод астэалагічных рэшткаў не толькі на тэрыторыі Беларусі (Клецк, Давыд-Гарадок, Ваўкавыск), але і на ўмацаваных паселішчах, якія ўзніклі ў якасці ваенных пунктаў Полацкага княства (Маскавічы, Дрысвяты). Наогул косці свойскай жывёлы складаюць у Мінску ў пластах XI—XIII стст. 87,1 % ад агульнай колькасці вызначанага пагалоўя. На долю касцей дзікай жывёлы прыходзіцца 12,9 % ад агульнай колькасці пагалоўя. Палявалі тут на самых розных дзікіх жывёлін, але больш за ўсё на зубра, на долю якога прыпадае аж 23 % ад агульнай колькасці пагалоўя. Другое месца пасля зубра займае лось. За ім па колькасці ідуць дзік, барсук, касуля, мядзведзь, алень высакародны, воўк, куніца, бабёр. Відавы склад дзікай жывёлы, на якую палявалі ў Мінску, вельмі разнастайны. З усіх дзесяці відаў палявалі ў асноўным на буйных жывёлін, забіўшы якую можна было атрымаць значную колькасць мясных прадуктаў. Апрача таго, выкарыстоўваліся і шкуры такой буйной дзікай жывёлы, як зубр, алень, дзік.

Ва ўсіх гарадах на тэрыторыі Беларусі ўмелі вырабляць скуру свойскай і дзікай жывёлы. Выробленыя скуры ішлі на выраб скуранога абутку, які быў вельмі пашыраны ў гарадах. Апрача шавецкага рамяства выробленыя скуры выкарыстоўваліся на выраб рыштунку каня (сёдлаў, хамутоў, аброцяў і інш.), а таксама кашалькоў, кісетаў, дзіцячых мячоў, рамянёў. Абутак выраблялі з добраапрацаванай скуры самага рознага гатунку. Скураны абутак, іншыя разнастайныя скураныя вырабы трапляюцца пры раскопках тых гарадоў, культурны пласт якіх добра захоўвае прадметы арганічнага паходжання. А невялікія па памерах скураныя мячы знойдзены пры раскопках Брэста. Са скуры рабілі толькі вонкавую частку мяча, якую шчыльна набівалі поўсцю.

Вывучэнне ўдзельнай вагі прамысловай жывёлы адносна свойскай дае падставу лічыць, што паляванне не з'яўлялася галоўным заняткам у гаспадарчым жыцці жыхароў Мінска, а насіла другасны характар. Асабліва значны паказчык свойскай жывёлы адносна дзікай зафіксаваны апрача Мінска (87,1 %) у Віцебску — 82,8 %, Полацку — 78,6 %.

Вывучэнне астэалагічнага матэрыялу з даследаваных помнікаў дае магчымасць пераканацца, што ва ўсіх старажытных гарадах жыхары былі знаёмы з усімі вядомымі відамі свойскай жывёлы. Своеасаблівасць заключаецца толькі ў працэнтных суадносінах таго ці іншага віду жывёлы ў складзе статка. У асноўным пераважалі ў статку буйная рагатая жывёла і свінні. Такое становішча было ў Навагрудку, дзе 26 % ад агульнай колькасці касцей належалі касцям буйной рагатай жывёлы і 22 % — свінні (Гуревич, 1965. С. 80). Пры значнай удзельнай вазе буйной рагатай жывёлы свінні складалі большасць статка ў Давыд-Гарадку (41,7 %), Клецку (40 %), на Шведскай Гары ў Ваўкавыску (36,6 %), у Мінску (36,3 %), Віцебску (36 %), на Замчышчы ў Ваўкавыску (30,2 %), Лукомлі (28,1 %) (Щеглова, 1969. С. 425). Гэтыя лічбы сведчаць аб тым, што ў эпоху сярэднявечча гарадское насельніцтва ў большай ступені займалася свінагадоўляй у параўнанні з развядзеннем іншых відаў жывёлы як на поўдні Беларусі (Давыд-Гарадок), так і на поўначы (Віцебск, Лукомаль), захадзе (Ваўкавыск) і ў сярэдняй яе частцы (Мінск, Клецк). У сваю чаргу буйная рагатая жывёла складала ў Полацку 39,5 %, Тураве — 37,8, Мінску — 35,2, Віцебску — 37,2, Лукомлі — 37,8, Пінску — 28, Давыд-Гарадку — 23,8, Клецку — 24 % (Щеглова, 1969. С. 410—411. Табл. 5). У некаторых гарадах значнае месца ў статку займала дробная рагатая жывёла. Самы значны працэнт гэтага віду жывёлы ў статку адзначаны ў Пінску (26,3 %), некалькі меншы — у Лукомлі (21,9 %), яшчэ меншы — у Мінску (17,5 %) і Давыд-Гарадку (16,7 %) (Щеглова, 1969. С. 424—425). Разам з дробнай рагатай жывёлай у Пінску ў больш значнай колькасці разводзілі буйную рагатую жывёлу, якая складала 28 % ад агульнай колькасці пагалоўя. Мяркуючы па працэнтных суадносінах касцей свойскай жывёлы, аснову жывёлагадоўлі ў старажытным Пінску складала развядзенне буйной і дробнай рагатай жывёлы (Шчаглова, Лысенка, 1977. С. 81). На трэцім месцы пасля рагатай жывёлы ў Пінску стаіць конь. Нягледзячы на тое, што ў іншых населеных пунктах конь звычайна займае больш сціплае месца. Так, напрыклад, у Тураве косці каня складаюць 5,5 %, Мінску — 6,3 %, Лукомлі — 7,4 %. Больш 10 % косці каня займаюць у Давыд-Гарадку (10,7 %), на Замчышчы ў Ваўкавыску (10,6 %) (Щеглова, 1969. С. 425), у Навагрудку — усяго 5 % ад агульнай колькасці свойскай і дзікай жывёлы. Косці каня ў Пінску складаюць 21,1 %. І гэта не з'яўляецца выпадковым. В. В. Шчагловай удалося па касцях ног выдзяліць у Пінску дзве пароды коней — танканогіх і паўтанканогіх (Шчаглова, Лысенка, 1977. С. 52). Вялікі працэнт колькасці касцей каня сярод агульнай колькасці касцей свойскай жывёлы, а таксама выяўленне тут пародзістых коней, больш значныя памеры іх касцей адносна памераў касцей коней таго часу іншых парод даюць магчымасць выказаць думку аб тым, што ў старажытнасці ў Пінску спецыяльна разводзілі пародзістых коней для атрадаў вершнікаў. Не выключана магчымасць, што адсюль пародзістыя коні паступалі ў іншыя населеныя пункты Тураўскай зямлі, а магчыма, і на больш значную тэрыторыю. Вельмі важным з'яўляецца ў Пінску адсутнасць раздробленых касцей каня, што красамоўна сведчыць аб тым, што мяса коней не выкарыстоўвалася ў якасці харчовага прадукту. Яшчэ большы працэнт складаюць косці коней сярод касцей свойскай жывёлы

ў Полацку (29 %, або адну трэцюю частку ад агульнай колькасці). У асноўным у той час коней разводзілі для выкарыстання ў якасці цяглавай сілы і не ў меншай ступені для вядзення ваенных дзеянняў, паколькі цяжка сабе ўявіць тагачаснага вайскоўца без каня. Ёсць верагоднасць, што ў час экстрэмальных сітуацый (аблога горада, вядзенне ваенных дзеянняў, неўраджай) мяса коней выкарыстоўвала ў якасці ежы як грамадзянскае, так і ваеннае насельніцтва. Аб гэтым сведчаць знаходкі раздробленых касцей каня на некаторых археалагічных помніках (Полацк, Дрысвяты, Гродна, Турыйск, Маскавічы, Тураў, Брэст). Пералік населеных пунктаў, дзе былі знойдзены раздробленыя косці каня, даў даследчыкам падставу з упэўненасцю сцвярджаць, што ў экстрэмальных умовах мяса каня на тэрыторыі Беларусі ўжывалі ў ежу.

Такім чынам, вывучэнне касцей, атрыманых у час археалагічных раскопак помнікаў сярэднявечча, дазваляе ўпэўніцца не толькі ў складзе статка, у які ўваходзіла ўся вядомая ў наш час жывёла, але і ў тым, што менавіта свойская жывёла складала асноўны мясны рацыён харчавання насельніцтва. Амаль на ўсіх населеных пунктах косці свойскай жывёлы значна пераўзыходзілі колькасць касцей дзікай жывёлы. Выключэнне складаюць Гродна, Турыйск і Ваўкавыск, дзе паляванне нават мела перавагу над жывёлагадоўляй. У Гродне косці дзікай жывёлы складаюць 57 % ад агульнай колькасці касцей, у Турыйску — 69,6 %. У Ваўкавыску на долю свойскай жывёлы прыходзіцца толькі 47,9 % (Дучыц, Шчаглова, 1987. С. 77—78; Цалкин, 1954. С. 221), адпаведна на долю дзікай жывёлы — 52,1 %. Тлумачэнне гэтаму трэба шукаць у характары помнікаў. Прычына ў тым, што ўзніклі яны на заходняй мяжы старажытнай Русі як ваенныя крэпасці, прызначаныя стрымліваць націскі ворага. Аб гэтым сведчыць мноства знаходак зброі, а таксама рыштунку вершніка і каня. Асабліва гэта датычыць Ваўкавыска, дзе знойдзена самая вялікая колькасць наканечнікаў стрэл (226 штук) (Зверуго, 1975. С. 103). Аб гэтым жа гавораць знаходкі касцей каня, якія на Шведскай Гары і Муравельніку складаюць 18,3 %, а на Замчышчы Ваўкавыска — 21,4 % (Щеглова, Зверуго, 1968. С. 385).

У працэнтных суадносінах у Ваўкавыску знойдзена касцей каня ў тры-чатыры разы больш, чым на іншых адначасовых помніках. Так, у Тураве яны складаюць усяго 5,5 %, Мінску — 6,8 %. Неабходна падкрэсліць, што ў Ваўкавыску косці дзікай жывёлы ў параўнанні з касцямі свойскай пераважаюць толькі ў цэлым. Але з самага пачатку пасялення (X ст.) на ўсіх трох помніках колькасць касцей свойскай і дзікай жывёлы была аднолькавай, а ў наступны перыяд у XI — пачатку XII ст. пачаў павялічвацца працэнт касцей свойскай жывёлы, і толькі ў пластах XII—XIII стст. рэзка стала пераважаць колькасць касцей дзікай жывёлы. Паказчыкам з'яўляецца і відавы склад касцей свойскай і дзікай жывёлы Ваўкавыска. Калі свойскай жывёлы тут выяўлена чатыры віды, то дзікай — 12 відаў (Щеглова, Зверуго, 1969. С. 344). Прасачыўшы суадносіны свойскай і дзікай жывёлы на асобных помніках Ваўкавыска, адзначаецца, што дзікая жывёла мае перавагу толькі на Шведскай гары (57 %), а на Замчышчы і Муравельніку пераважала свойская жывёла, працэнт якой складае 71,8 і 61,5 адпаведна (Щеглова, Зверуго, 1968. С. 380).

Яшчэ больш чым у Ваўкавыску пераважаюць косці дзікай жывёлы як

па колькасці, так і па відах жывёлы ў Гродне. З 19 вызначаных тут усяго відаў жывёлы 13 належаць дзікім відам і толькі шэсць — свойскім (Цалкин, 1954. С. 241). Першаснае месца ў складзе свойскай жывёлы ў Гродне займала буйная рагатая жывёла, якая складала 35 % ад агульнага складу статка (Цалкин, 1954. С. 212—213). На другім месцы па значэнню была свіння, якая па колькасці галоў нават перавышае буйную рагатую жывёлу і саступае ёй толькі па агульнай колькасці касцей. Значную ўдзельную вагу ў свойскім статку Гродна займала дробная рагатая жывёла, сярод якой менш коз і больш авечак. Па колькасці вызначанага пагалоўя свойскай жывёлы ў Ваўкавыску першае месца займае свіння, другое — буйная рагатая жывёла (24,2 %). Косці дробнай рагатай жывёлы займаюць трэцяе месца ва ўдзельнай вазе свойскага статка Ваўкавыска (20,1 %), але косці коз наогул адсутнічаюць.

У цэлым трэба адзначыць, што аснову жывёлагадоўлі ў Ваўкавыску і ў Гродне, таксама як і ў іншых гарадах Беларусі, складала развядзенне буйной і дробнай рагатай жывёлы, а таксама свінні. Менавіта гэтая жывёла з'яўлялася асноўным пастаўшчыком мясных харчовых прадуктаў для насельніцтва. Хаця ў цэлым, асабліва э улікам памераў дзікіх звяроў, значна большы працэнт мяса ў гэтых гарадах давала паляванне.

У Давыд-Гарадку і Лукомлі суадносіны паміж знойдзенымі касцямі свойскай і дзікай жывёлы амаль аднолькавыя. Але, верагодней за ўсё, і ў гэтых гарадах у колькасных адносінах іх жыхары атрымлівалі больш мяса ад дзікай жывёлы, якая перавышала свойскую ў тры — пяць разоў (Дучыц, Шчаглова, 1987. С. 78—79), паколькі палявалі ў асноўным на буйную жывёлу. Нават на гарадзішчы Маскавічы, дзе косці свойскай жывёлы яўна пераважалі над касцямі дзікай, па падліках высветлілася, што ад дзікай жывёлы ў параўнанні са свойскай насельніцтва гарадзішча атрымлівала мяса больш у тры — пяць разоў (Дучыц, Шчаглова, 1987. С. 78—79), якая па памерах была значна меншая за сучасную. Аб гэтым можна з упэўненасцю меркаваць, калі параўнаць косці старажытнай свойскай жывёлы з касцямі тых жа відаў сучаснай. Такім чынам, пры колькасных суадносінах касцей дзікай і свойскай жывёлы неабходна ўлічваць не толькі працэнтныя суадносіны паміж імі, але і віды прамысловай дзікай жывёлы, на якую вялі паляванне ў тым ці іншым рэгіёне. Жыхары Ваўкавыска і Гродна палявалі на буйных дзікіх звяроў, сярод якіх неабходна выдзеліць зубра, лася, аленя, дзіка. Сярод касцей гэтай дзікай жывёлы няма рэшткаў касцей ад маладых звяроў, што дае падставу сцвярджаць, што палявалі толькі на дарослых звяроў.

Косці мядзведзя сустракаюцца рэдка. У Ваўкавыску знойдзены косці, якія належалі 15 мядзведзям. Яны складаюць 4,8 % ад агульнай колькасці касцей дзікай жывёлы (Щеглова, Зверуго, 1968. С. 375). У Гродне выяўлены косці 17 мядзведзяў (Цалкин, 1954. С. 233). У Брэсце вызначаны косці 7 мядзведзяў (Лысенко, 1985. С. 365). Выходзячы з гэтых вынікаў, ёсць падстава меркаваць, што на мядзведзя палявалі зрэдку нават у такіх гарадах, дзе паляванне мела яўную перавагу перад жывёлагадоўляй (Гродна, Ваўкавыск). У сувязі з тым, што косці мядзведзя знаходзілі ў фрагментах, ёсць верагоднасць, што мяса гэтай жывёліны ўжывалі ў ежу. Нягледзячы на тое, што апрача значнай колькасці мяса мядзведзь даваў каштоўную футру. Мядзведзь сярод асноўнай

прамысловай дзікай жывёлы не значыўся. Ён займаў сярод іншых звяроў даволі сціплае месца.

За доўгія гады раскопак атрымана вялікая калекцыя астэалагічнага матэрыялу ў Брэсце. У адрозненне ад Гродна і Ваўкавыска тут жывёлагадоўля ў тры разы мела большае значэнне ў параўнанні з паляваннем (73,7 % — свойская, 26,3 % — дзікая) (Лысенко, 1985. С. 365). Тут галоўную ролю ў свойскім статку адыгрывала, як і ў іншых гарадах Беларусі, буйная і дробная рагатая жывёла, а таксама свінні. Значны працэнт касцей належаў каню, які складаў тут 16 % ад агульнай колькасці касцей. Іх разводзілі у асноўным для ваенных мэт, што заканамерна для парубежнага горада. Паляванне ў гаспадарчым жыцці Брэста займала даволі сціплае месца не толькі ў параўнанні з Ваўкавыскам і Гродна, але і такімі гарадамі, як Клецк (45,7 %), Лукомль (42,3 %), Давыд-Гарадок (42,3 %). Аднак яно значна перавышала ролю ў гаспадарчым жыцці насельніцтва такіх гарадоў, як Полацк (17 %), Віцебск (18 %), Мінск (12,8 %), і нязначна ў гарадах паўднёвай Беларусі. Так, у Пінску паляванне складала 25,6 %, у Тураве — 21,8 % супраць 26,3 % у Брэсце. У асноўным паляванне ў жыцці насельніцтва паўднёвай Беларусі мела большую ўдзельную вагу ў параўнанні з паўночнай. Матэрыялы сведчаць, што самымі распаўсюджанымі прамысловымі жывёлінамі ў Брэсце былі: алень высакародны (выяўлены косці ад 112 жывёлін гэтага віду) і дзік (косці ад якога вызначаны роўна ў такой жа колькасці звяроў) (Лысенко, 1985. С. 362). Косці эубра складаюць у Брэсце 18 % ад агульнай колькасці касцей. Знойдзены косці ад 82 жывёлін. Для параўнання трэба адзначыць, што ў Тураве і Клецку выяўлена толькі па тры зубры, у Давыд-Гарадку — чатыры, Віцебску — пяць, Пінску і Мінску — шэсць. Такім чынам, па колькасці галоў выяўленыя ў Брэсце косці зубра ў дзесяткі разоў перавышаюць колькасць касцей зубраў, знойдзеных у вышэйназваных гарадах, і ў некалькі разоў — у іншых гарадах Беларусі (Лукомль, Полацк). Вызначаны ў Брэсце таксама і косці ад 87 ласёў, якія складаюць 17,6 % ад агульнай колькасці знойдзеных тут касцей. Для параўнання неабходна падкрэсліць, што ў Тураве выяўлены косці ад трох, Клецку — чатырох, Пінску — дзесяці ласёў.

У асноўным у Брэсце палявалі на такую буйную дзікую жывёлу, як алень высакародны, зубр, лось, дзік. У адрозненне ад іншых гарадоў тут значнае месца належыць касулі (вызначаны косці ад 55 гэтых жывёлін). З футравых эвяроў перавагу ў Брэсце аддавалі бабру. Ён, несумненна, заставаўся самым каштоўным футравым зверам на тэрыторыі Беларусі на працягу ўсяго сярэдневяковага перыяду.

У сувязі з тым, што ў Брэсце палявалі ў асноўным на буйных звяроў, то і мяса атрымлівалі значна больш, чым аб гэтым можна меркаваць па колькасці касцей дзікіх звяроў. Кожны з іх па вазе перавышаў любую свойскую жывёліну ў некалькі разоў.

На тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі (Гомель, Крычаў, Слаўгарад, Чачэрск) насельніцтва таксама займалася жывёлагадоўляй і паляваннем. Вядучае месца сярод свойскай жывёлы тут займае буйная рагатая жывёла, косці якой у Крычаве складалі 59,3 %, у Слаўгарадзе — 43 %, Гомелі — 25,9 %, Чачэрску — 24 %. Значна менш касцей буйной рагатай жывёлы зафіксавана ў Стрэшыне (13,5 %), але тут вызначана

40,6 % свіней, якія разам з буйной рагатай жывёлай з'яўляліся адным з самых распаўсюджаных відаў не толькі на тэрыторыі паўднёва-ўсходняй, але і ўсёй Беларусі. Паляванне ў жыцці насельніцтва гэтай тэрыторыі займала ад 20 да 29 %. Склад жывёлы, на якую вялі паляванне, даволі шырокі (лось, алень высакародны, зубр, мядзведзь, воўк, касуля, лісіца, бабёр, куніца, заяц). Галоўная ўвага паляўнічых была аддадзена буйной дзікай жывёле (зубр, лось, дзік), але разам з тым не абмінала яна і футравага звера. Напрыклад, у Чачэрску косці бабра складаюць 66,6 % ад касцей футравых звяроў. Нягледзячы на даволі высокі ўзровень палявання ў гэтых гарадах, жывёлагадоўля тут несумненна пераважала над паляваннем.

Аб развіцці палявання на тэрыторыі Беларусі ў эпоху XI—XIII стст. сведчаць не толькі косці дзікай жывёлы. Існаванне гэтага промысла даказваюць такія знаходкі, як наканечнікі стрэл, асабліва касцяныя, прызначаныя для палявання на футравага звера, дроцікі, паляўнічыя нажы, гарпуны. Яны знойдзены на ўсіх гарадскіх помніках (Мінск, Полацк, Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Віцебск, Гродна, Ваўкавыск, Навагрудак). Такім чынам, археалагічныя знаходкі даюць магчымасць упэўніцца, што паляванне з'яўлялася ў той час значнай крыніцай атрымання мяса не толькі для тых гарадоў, дзе яно было больш развіта ў параўнанні з жывёлагадоўляй (Навагрудак, Ваўкавыск, Турыйск), але і для тых, дзе колькасць касцей свойскай і дзікай жывёлы была амаль роўная (Камянец, Лукомль, Клецк, Давыд-Гарадок). Паляванне было таксама важным і для тых населеных пунктаў, дзе працэнт касцей дзікай жывёлы быў значна меншы за косці свойскай жывёлы (Тураў, Пінск, Брэст). Але тым не менш насельніцтва гэтага часу перавагу аддавала не паляванню, а жывёлагадоўлі. Ва ўсіх населеных пунктах, мяркуючы па знойдзеных касцях, разводзілі буйную і дробную рагатую жывёлу, свінней, коней. У гарадах паўночнай Беларусі (Полацк, Віцебск) працэнт касцей свойскай жывёлы ў параўнанні з касцямі дзікай быў асабліва высокім, адпаведна 81 і 78 (Щеглова, 1969. С. 418). У Мінску працэнт свойскай жывёлы перавышаў нават і гэтыя паказчыкі і складаў 87,2. Сярод гарадоў паўднёвай Беларусі самы значны працэнт касцей свойскай жывёлы выяўлены у Тураве (78,2 %). Некалькі ўступаюць ў гэтых адносінах Тураву Пінск (74,3 %) і Брэст (73,7 %).

Апрача жывёлагадоўлі насельніцтва Беларусі ў XI—XIII стст. займалася птушкагадоўляй. Неабходна адзначыць, што далёка не з усіх помнікаў вывучаны косці птушак. Іх вызначэнне зроблена толькі з навакольнага Навагрудка, Брэста, Ваўкавыска, Лукомля. У Ваўкавыску знойдзены косці свойскай птушкі (курыцы, качкі, гуся). З дзічыны — косці жорава (Гуревич, 1965. С. 82). У Ваўкавыску вызначана 15 відаў птушак, сярод якіх свойская курыца і нават паўлін, а качкі і гусі, як лічаць даследчыкі, маглі быць як свойскімі, так і дзікімі відамі (Бурчак-Абрамович, Зверуго, 1969. С. 216). З вызначэнняў вядома, што да свойскай птушкі належаць толькі 4, а да дзікай — 11 відаў, дзе большасць паляўнічых відаў: глухары, курапаткі, цецярукі, па два віды гусей і качак, жоравы, чорныя буслы (Бурчак-Абрамович, Зверуго, 1969. С. 224). Ёсць косці арлоў-беркутаў і ястрабаў (Шведская гара), якія, верагодней за ўсё, выкарыстоўваліся ў якасці лоўчых птушак. На карысць гэтага сведчыць і той

факт, што менавіта на гэтым помніку дзікія птушкі пераважаюць над свойскімі (70 %). На іншых помніках дзікіх птушак значна менш. Напрыклад, у гэтым жа горадзе на Муравельніку іх косці складаюць 11 % ад агульнай колькасці знойдзеных касцей птушак. На Замчышчы Ваўкавыска косці дзікай птушкі складаюць трохі больш паловы ад агульнай колькасці касцей птушак (52 %). Са свойскай птушкі ў Ваўкавыску пераважна разводзілі курэй. Асаблівай увагі заслугоўвае знойдзеная на Шведскай гары косць дзікага паўліна. Дарэчы, яна з'яўляецца адзінай самай ранняй (XI—XII стст.) не толькі ў Ваўкавыску і Беларусі ўвогуле, але і на ўсёй тэрыторыі былога СССР, паколькі косці паўліна пры археалагічных раскопках болей не знаходзілі. Несумненна, паўлін быў сюды прывезены здалёк і належаў вельмі славутаму жыхару Шведскай гары. У Лукомлі ў пластах XI—XIII стст. знойдзены косці курыцы і шэрага гуся. З дзікіх птушак — глухара, жорава (Штыхов, 1978. С. 121). Безумоўна, свойскую птушку (курэй, качак, гусей) у той перыяд часу разводзілі паўсюдна. Паляванне на птушак у той перыяд часу таксама ў той ці іншай ступені было характэрна для ўсіх населеных пунктаў. Самае вялікае значэнне паляванне мела для жыхароў ваенных паселішчаў і феадальных замкаў. Але ў цэлым аснову сельскагаспадарчага жыцця насельніцтва складала земляробства і жывёлагадоўля.

**Рыбалоўства і збіральніцтва.** Разам з паляваннем насельніцтва Беларусі займалася лоўляй рыбы. Як правіла, паселішчы, у тым ліку і гарады, размяшчаліся па берагах рэк, у якіх вадзілася розная рыба. Пры раскопках на ўсіх помніках знаходзяць косці і луску рыбы. Апрача таго, сустракаюцца прылады рыбаловаў. Сярод іх рыбалоўныя кручкі і блёсны розных памераў і форм, гліняныя і каменныя грузілы, паплаўкі з кары сасны і бярозы, рэшткі невада (Полацк), восьці, пешні. Апошнія знойдзены ў Ваўкавыску і Брэсце і сведчаць аб зімовай лоўлі рыбы. Іхтыяфауна з Брэста вывучана П.І. Жукавым і дае магчымасць даведацца, што ў XI—XIII стст. гараджане ў Бугу і Мухаўцы лавілі самоў, ляшчоў, ласося, акуня, шчупакоў, платву, уклею, яршоў. У Ваўкавыску Я. А. Цэпкіным вызначана 12 відаў рыбы (балтыйскі асяцёр, ласось, шчупак, платва, галаўль, краснапёрка, жэрах, лінь, лешч, сом, судак, акунь) (Цепкин, 1969. С. 403). Сярод іхтыяфауны з гарадзішча каля в. Маскавічы Браслаўскага раёна вызначана таксама 12 відаў рыбы: шчупак, лешч, сазан, карась, платва, судак, акунь, ёрш, вугор (Александрович, 1982. С. 95—96). Наяўнасць такіх відаў рыбы дае падставу выказаць думку аб тым, што рыбалоўства дазваляла сярэдневяковаму насельніцтву не толькі павялічыць колькасць высокакаларыйных мясных прадуктаў, але і за кошт рыбы павялічыць колькасць страў.

Апрача палявання і рыбалоўства насельніцтва займалася зборам ягад, грыбоў, дзікарослых лясных пладоў. На археалагічных помніках сустракаюцца скарлупкі лясных арэхаў. У Мінску ў пласце XII ст. знойдзены плады дзікай ігрушы (Загорульский, 1982. С. 283).

**Хатнія промыслы.** Разгляд хатніх промыслаў трэба пачынаць з прадзення і ткацтва, без чаго нельга ўявіць сабе жыццё сярэдневяковага грамадства. Паўсюдна пралі лён і поўсць, радзей каноплі і з атрыманых нітак ткалі ільняныя і шарсцяныя тканіны. Доказам прядзення з'яўляюцца знаходкі драўляных верацён, якія знаходзяць на помніках, дзе добра

захоўваюцца рэчы арганічнага паходжання (Мінск, Полацк, Віцебск, Брэст, Пінск, Слуцк, Давыд-Гарадок, Слонім), і шыферных прасліц, што сустракаюцца на ўсіх помніках гэтага часу. Аб ткацтве можна меркаваць па знаходках дэталяў ткацкіх станкоў (Полацк, Віцебск, Мінск, Гродна, Брэст), кавалкаў тканін (Мінск, Брэст, Полацк, Лукомль). У Віцебску знойдзены грузікі ад вертыкальнага ткацкага станка (X—XI стст.) (Штыхов, 1978. С. 122), у Мінску — планшэткі (рама) ад набілак, у якія ўстаўляецца бярдо, і юркі ад гарызантальнага станка (Загорульский, 1982. С. 276—277). У Гродне выяўлены збоі для прымацавання кроснаў і навоі для наматвання нітак, а таксама касцяныя галоўкі ад іх (Воронин, 1954. С. 65—66, мал. 29:1, 2, 4, 5; С. 174, мал. 94). У Полацку трапіўся драўляны чаўнок ад гарызантальнага ткацкага станка (XIII ст.) з меткай у выглядзе зоркі (Штыхов, 1975. С. 88, мал. 46:18; С. 101). У Брэсце ткацкі станок XIII ст. прадстаўлены некалькімі дэталямі (падножкі, цягі, ніты, бярдо, чаўнок) (Лысенко, 1985. С. 372—374, мал. 251:1—4, 11; 252:1, 3, 10, 11). Такім чынам, дэталі вертыкальнага ткацкага станка паходзяць з ранняга часу (X—XI стст.), а гарызантальнага — з больш позняга, што сведчыць аб больш познім паяўленні на тэрыторыі Беларусі гарызантальнага станка. У XIII ст. ён быў вядомы не толькі на тэрыторыі Усходняй, але і Заходняй Еўропы (Колчин, 1968. С.71).

Важнае значэнне сярод хатніх промыслаў мела бортніцтва. Яго ролю цяжка перабольшыць, калі ўлічыць адсутнасць у тую пару цукару. Але яно давала апрача мёду яшчэ і воск. Абодва гэтыя прадукты разам з футрай з'яўляліся для ўсходніх славян X—XIII стст. асноўнымі прадметамі гандлю з Візантыяй і гарадамі Прычарнамор'я. Апрача таго, гэтыя ж прадукты служылі прадметамі платы даніны. Аб гэтым і аб «бортных урожаях» ёсць пісьмовыя звесткі ў дакументах таго часу. Неабходна зазначыць, што воск на знешнім рынку карыстаўся большым попытам у параўнанні з мёдам і каштаваў даражэй за яго. Бортніцтвам насельніцтва Беларусі пачало займацца намнога раней. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. пісьмовыя звесткі аб воску і мёдзе сустракаюцца ва ўпамінаннях арабскіх падарожнікаў аб займальніцтве ўсходніх славян бортніцтвам. На жаль, аб занятках насельніцтва бортніцтвам зямля амаль не захоўвае звестак, таму што ўсе прылады для гэтага выраблялі з недаўгавечнага матэрыялу і яны вельмі рэдкія. Захоўваюцца толькі тыя дэталі прылад бортніка, што былі зроблены з жалеза, як выключэнне знаходзяць у курганах нажы-мёдарэзы. Па выгляду яны падобны на сучасныя прылады гэтага тыпу. Але не ўсе бортнікі мелі такія нажы. У асноўным для гэтай мэты выкарыстоўвалі звычайныя гаспадарчыя нажы, якія з'яўляюцца звычайнай знаходкай на ўсіх паселішчах. Нож у той час быў прыладай універсальнай і вызначыць сярод усіх нажоў менавіта тыя, якімі здымалі бортныя ўраджаі, немагчыма. Пэўным сведчаннем займальніцтва насельніцтва пчалярствам з'яўляюцца знаходкі кавалкаў воску пры раскопках гарадоў (Полацк, Віцебск, Мінск, Брэст).

Да хатніх промыслаў неабходна аднесці смалакурэнне і здабычу дзёгцю. Гэтымі промысламі займаліся паўсюдна, паколькі без іх немагчыма было абысціся пры дзеянні транспартных сродкаў як на сушы, так і на вадзе. Смалу ўжывалі пры вырабе воднага транспарту, без дзёгцю была немагчыма работа сухапутнага калёснага транспарту. Колы

і іншыя дэталі калёс знойдзены ў Мінску, Брэсце. Апрача таго, у Брэсце знойдзены вёслы вялікіх і малых лодак і іншыя дэталі ад іх. Розныя рамёствы былі развіты не толькі ў гарадах, але і ў сельскай мясцовасці. Такая важная галіна рамяства, як металургія, як правільна адзначае А. В. Успенская, у сілу тых ці іншых абставін была звязана больш з вёскай, чым з горадам (Успенская, 1959. С. 106). Самая галоўная прычына гэтага заключаецца ў тым, што жалезная руда здабывалася ў сельскай мясцовасці і менавіта сельскае насельніцтва было звязана з яе расправоўкай, здабычай і дастаўкай у горад у выглядзе таварных крыц. Частка руды выкарыстоўвалася сельскімі кавалямі для вырабу розных бытавых прадметаў, у тым ліку і прылад працы, паколькі яны былі знаёмы не толькі з усімі працэсамі выплаўкі жалеза, але ў некаторых выпадках маглі прасцейшым спосабам атрымліваць сталь (Успенская, 1959. С. 108). Гэты вывад будзе больш абгрунтаваным, калі ўлічыць, што вясковыя кавалі да другой паловы XX ст. выраблялі прылады працы з наваркай сталі (Гурын, 1987. С. 99). Рэшткі кузні трапляюцца археолагам надзвычай рэдка. У 1905 г. Е. Р. Раманавым была ўскрыта кузня каля в. Праскурні (Жлобінскі раён, Гомельская вобласць) з поўным наборам кавальскіх інструментаў, сярод якіх былі два молаты, дзве накавальні, а кавальскія абцугі былі знойдзены ім на гарадзішчы каля самага вала (Романов, 1905). У такой кузні, несумненна, маглі вырабляць прадметы рознага прызначэння. Гэты прыклад дае магчымасць упэўніцца ў тым, што далёка не ўсе кавальскія вырабы, знойдзеныя на сельскіх паселішчах, зроблены гарадскімі кавалямі.

Самым распаўсюджаным рамяством у сельскай мясцовасці было ганчарства. Ганчары з гліны, радовішча якой было размешчана паблізу, выраблялі разнастайны посуд (гаршкі звычайныя, а таксама гаршкі з адной ці дзвюма ручкамі і накрыўкамі, міскі, патэльні, глечыкі, карчагі). Гліняны посуд падраздзяляўся на кухонны, сталовы і посуд для захоўвання запасаў ежы. Неабходна зазначыць, што ўвесь гліняны посуд у гэты перыяд часу вырабляўся на ганчарным крузе. Раней лічылася, што ганчарны круг на тэрыторыі Беларусі з'явіўся ў X ст., але Ю. У. Кухарэнка ў Хатомелі знайшоў гліняны посуд, зроблены на ганчарным крузе ў VIII—IX стст. Кругавая кераміка IX—X стст. выяўлена на гарадзішчы і селішчы каля в. Франопаль і на селішчы каля в. Скорбічы (Дружба) Брэсцкага раёна, на селішчы і гарадзішчы каля в. Гарадзішча Пінскага раёна, а таксама ў курганах VIII—X стст. каля в. Радасць Камянецкага раёна (Русанова, 1973. С. 45—46). Гэтыя факты дапамагаюць упэўніцца ў тым, што на поўдні і на паўднёвым захадзе тэрыторыі Беларусі ручны ганчарны круг не толькі існаваў, але і шырока ўжываўся ганчарамі ўжо ў IX ст. Верагодна, з'явіўся ён тут на рубяжы VIII—IX стст.

Ганчары ўпрыгожвалі свае вырабы лінейным, хвалістым або лінейна-хвалістым арнаментам у розных спалучэннях. Важна падкрэсліць, што ў той час сельскія ганчары выраблялі посуд тых жа форм, што і гарадскія, і ўпрыгожвалі тым жа самым арнаментам. Але па якасці і разнастайнасці форм посуд сельскіх ганчароў некалькі саступаў посуду гарадскіх. Тлумачэнне гэтаму трэба шукаць ва ўзроўні развіцця ганчарства. Перш за ўсё сельская кераміка мае менш дасканалы абпал. І гэта зразумела, калі ўлічыць, што гарадскі посуд абпальвалі ў спе-

цыяльных горнах, а сельскі — у звычайных печах. Пры адсутнасці датуючых прадметаў асноўным матэрыялам для датыроўкі з'яўляецца кераміка, але для гэтай мэты трэба браць не сельскую, а гарадскую кераміку. Гарадскія майстры рабілі свой тавар для больш шырокай тэрыторыі, а сельскія імкнуліся задаволіць патрэбы толькі тых тэрыторый, якія размяшчаліся побач.

У сельскай мясцовасці было таксама развіта ювелірнае рамяство. У асноўным майстры-ювеліры выраблялі шырокараспаўсюджаныя ў той час упрыгожанні з каляровых металаў. Да іх ліку неабходна аднесці дротавыя кольцы ў паўтара звароту і іншых форм скроневыя ўпрыгожанні, пласцінкавыя бранзалеты, розныя пярсцёнкі і інш.

Пералічаныя вырабы сельскіх ювеліраў часта сустракаюцца на сельскіх паселішчах і ў курганах. Попыт на тавар сельскіх ювеліраў быў вялікі. У гэтым можна ўпэўніцца па тым, што ў сельскіх могільніках простыя ювелірныя вырабы сустракаюцца часта. Асаблівай разнастайнасцю металічных упрыгожанняў адрозніваюцца радзіміцкія, а таксама дрыгавіцкія курганы сярэдняй Беларусі.

З выкладзенага выцякае, што к канцу 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. у насельніцтва тэрыторыі Беларусі склалася развітая сельская гаспадарка, у якой галоўная роля належала земляробству. На яго падставе развівалася жывёлагадоўля з развядзеннем усіх вядомых у наш час відаў свойскай жывёлы. Значнае месца ў гаспадарцы насельніцтва займала паляванне на буйную дзікую жывёлу, а таксама развіццё разнастайных рамёстваў і промыслаў. У IX—XIII стст. тут былі развіты розныя сельскія рамёствы, сярод якіх трэба выдзеліць такія высокакваліфікаваныя, як металургічнае і металаапрацоўчае.

Раздзел 3

# СТАРАЖЫТНЫЯ ГАРАДЫ

У раннім сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі скланіся княствы. У Паўночнай і Цэнтральнай Беларусі размяшчалася Полацкая зямля, ці «вобласць»,— адно з буйнейшых княстваў IX—XIII стст. ва Усходняй Еўропе. На поўдні Беларусі знаходзілася Тураўскае княства, а побач з гэтымі княствамі — іншыя старажытныя вобласці Панямоння і Верхняга Падняпроўя. У адзначанай паслядоўнасці будуць ніжэй разгледжаны вынікі археалагічнага вывучэнняірадоў на гэтых тэрыторыях.

У X—XIII стст. на тэрыторыі Беларусі вядома прыкладна 35 гарадоў. Амаль усе яны ў той ці іншай ступені вывучаліся метадам археалагічных раскопак. Буйныя раскопкі былі праведзены ў Мінску, Віцебску, Полацку, Гродне, Навагрудку, Ваўкавыску, Друцку, Мсціслаўі, Тураве, Пінску, Брэсце, Оршы, Рагачове, Гомелі, Клецку, Заслаўі. Меншы маштаб мелі археалагічныя даследаванні ў Лукомлі, Браславе, Лагойску, Давыд-Гарадку, Слоніме, Капылі, Слуцку, Барысаве, Чачэрску, Слаўгарадзе, Крычаве, Турыйску, Мазыры, Брагіне, Рэчыцы, Магілёве і інш.

Задачай даследавання з'яўлялася выяўленне на мясцовасці рэшткаў гарадоў, іх верагоднай лакалізацыі, тапаграфіі, тыпалогіі ўмацаванняў і планіроўкі, храналогіі старажытнасцей, атрыманне даных пра гаспадарчае жыццё гарадоў, іх ахоўныя збудаванні, забудову, культуру.

У апошнія дзесяцігоддзі прымяняўся метад раскопак шырокімі плошчамі, што не выключала выкарыстання траншэй і шурфоў у пошуках культурных напластаванняў. На помніках, дзе захоўваецца дрэва (Полацк, Мінск, Віцебск, Брэст, Пінск, Слонім, Слуцк, Давыд-Гарадок), адкладанні расчляняліся на будаўнічыя гарызонты ці ярусы — комплексы сінхронных драўляных збудаванняў. Аналіз выяўленых рэчавых крыніц базіраваўся на апрацоўцы масавых археалагічных матэрыялаў. Для характарыстыкі сацыяльна-гістарычных працэсаў выкарыстоўваліся летапісы, картаграфічныя і іншыя дакументы. Прымяняўся параўнальна-гістарычны метад правядзення аналогій з гарадамі за межамі тэрыторыі Беларусі — Кіевам, Ноўгарадам, Псковам, Чарнігавам і інш. Шырока выкарыстоўваўся фармальна-тыпалагічны спосаб вывучэння груп прадметаў, падобных па форме, матэрыялу і прызначэнню.

Выяўленыя пры раскопках рэчавыя крыніцы вывучаліся спецыялістамі ў лабараторыях метадамі прыродазнаўчых і тэхнічных навук — дэндрахраналагічным, металаграфічным, спектральным, хімічным. Прымяняліся метады палеабатанікі, палеазаалогіі і інш.

Усходнеславянскія гарады маюць у параўнанні з гарадамі Заходняй Еўропы як агульныя, так і адрозныя рысы. Ва ўсіх выпадках аддзяленне горада ад вёскі было складаным і працяглым працэсам. У Германіі ён праходзіў у IX—XI стст. У гэты час адбывалася масавае зараджэнне гарадоў у Заходняй Еўропе (Риер, 1997. С. 82). Прыкладна тады ўзнікалі і развіваліся гарады на тэрыторыі Беларусі і ў іншых землях Усходняй Еўропы (Древняя Русь... 1985. С. 59—60). Ва ўсходніх славян існавалі гістарычныя перадумовы для ўзнікнення гарадскіх паселішчаў: мела месца павелічэнне сельскагаспадарчай прадукцыі і паляпшэнне тэхнікі апрацоўкі зямлі, аддзяленне рамёстваў ад сельскай гаспадаркі.

Гандаль і рамёствы ўсё больш канцэнтраваліся ў населеных пунктах са зручным геаграфічным размяшчэннем. Ранняму перыяду гісторыі зямель Усходняй Еўропы было характэрна ўстанаўленне гандлёвых сувязяў з іншымі краінамі. Гэта быў час росквіту «шляху з вараг у грэкі», які, безумоўна, уплываў на гаспадарчае жыццё зямель, праз якія пралягаў. Значэнне заходнядзвінскага адгалінавання гэтага важнага воднага шляху для станаўлення Полацка, Віцебска і іншых гарадоў Полацкай зямлі неаднаразова адзначалі даследчыкі (Алексеев, 1966. С. 83—88).

Выгаднае размяшчэнне займаў Тураў у сярэднім цячэнні Прыпяці, якая звязвала Палессе з шляхам «з вараг у грэкі». Добрыя шляхі меў Пінск. Па Піне і Мухаўцу праходзіў водны шлях у Заходні Буг і землі «ляхаў» (Лысенко, 1974. С. 71).

Размяшчэнне гарадоў знаходзілася ў адпаведнасці з заселенасцю зямель. Так, большасць гарадоў Тураўскага княства, асабліва сам Тураў, размешчаны ў раёнах распаўсюджання найбольш ураджайных, прыдатных для земляробства глеб. Асвойваліся ў першую чаргу больш прыдатныя ў сельскагаспадарчых адносінах раёны (Лысенка, 1974. С. 198). Важнае значэнне мела наяўнасць рэк і азёр, якія выкарыстоўваліся як транспартныя магістралі. Перакрыжаванне гандлёвых шляхоў, прысутнасць волакаў маглі вызначыць размяшчэнне горада ў гэтым месцы. Полацк знаходзіўся на тым адрэзку Дзвіны, дзе з поўначы ў яе ўпадае Палата, а з поўдня — Ула і Ушач. Выгаднае геаграфічнае становішча займаў Віцебск. Тут у Заходнюю Дзвіну ўпадае Лучоса, блізка падыходзіць вярхоўе Ловаці, а далей ляжыць вусце Касплі. Горад Полацкай зямлі Усвяты ўзнік там, дзе пачынаўся волак паміж Ловаццю і ракой Усвячай, якая ўпадае у Заходнюю Дзвіну (Штыхов, 1993. С. 85).

Зародкамі найстаражытных гарадоў былі ўмацаваныя пункты славян, узнікшыя пры іх рассяленні ў VIII—IX стст. Сярод іх вылучаецца Полацк як галоўны цэнтр полацкіх крывічоў. На прыкладзе Полацка можна прасачыць, што зародак горада ў IX — пачатку X ст. меў гарадзішча, паселішча (перадгорад) і выконваў адміністрацыйныя функцыі ў воласці. Амаль аднachасова з Полацкам ствараліся іншыя ўмацаваныя пункты (Віцебск, Лукомль), якія залежалі ад Полацка ў адміністрацыйных і ваенных адносінах. Шэраг гарадоў заснаваны на граніцах з суседнімі княствамі і мелі ваенна-стратэгічнае значэнне: Менск (Мінск), Орша, Гродна, Клецк, Ваўкавыск, Берасце (Бярэсце).

Для высвятлення адрознення города ад сельскага паселішча можна прапанаваць наступныя асноўныя крытэрыі: выкананне населеным пунк-

там, вядомым па летапісах, ролі цэнтра ўлады над мясцовай акругай; наяўнасць у гэтым пункце дзядзінца і пасада; прысутнасць значнай часткі насельніцтва, якое займалася гандлёва-рамеснай дзейнасцю і ў нейкай ступені было адарвана ад земляробства; існаванне ў населеным пункце сфарміраванай гарадской ці пасадскай абшчыны (Штыхов, 1984. С. 155). Упамінанне ў летапісе — найважнейшыя зыходныя звесткі для вызначэння колькасці гарадоў усходніх славян, хоць і не заўсёды верагодныя. Сам факт такога ўпамінання — пацвярджэнне выканання населеным пунктам адміністрацыйнага, як правіла, умацаванага цэнтра акругі або воласці.

Акрамя сацыяльна-гістарычных крытэрыяў варта працягваць спробы вылучыць дадатковыя археалагічныя прыкметы, якія ў нейкай ступені пацвярджаюць гарадскі характар паселішча. У адрозненне ад вёскі горад уяўляе значную канцэнтрацыю жылых, вытворчых і іншых збудаванняў і іх комплексаў, выяўленых пры раскопках. Архітэктурна-археалагічнымі данымі, якія пацвярджаюць характар паселішча, з'яўляюцца манументальныя культавыя збудаванні, другая лінія ўмацаванняў (Штыхов, 1982. С. 57). Спецыфічны культурны пласт, што змяшчае вялікую колькасць шкляных бранзалетаў, прывазных паўднёвых амфар, шыферных праслiц, прысутнасць у ім пісал, энкалпіёнаў, бранзалетаў-наручаў, пячатак, манет, скарбаў і іншых прадметаў можа служыць дадатковай прыкметай горада (Древняя Русь... 1985. С. 46).

У гарадах на тэрыторыі Беларусі ганчарны круг стаў распаўсюджвацца ў першай палове X ст., што сведчыць аб адасабленні рамёстваў. Наяўнасць у культурным пласце разам з ляпным посудам раннекругавой керамікі з'яўляецца прыкметай станаўлення паселішча гарадскога тыпу (Полацк, Віцебск, Лукомль, паселішча на Менцы, Гомель, Чачэрск).

Пры раскопках дзядзінцаў вялікіх і сярэдніх гарадоў выяўлены сядзібы, размежаваныя частаколам. На Мінскім замчышчы даследаваны тры сядзібы плошчай 220—250 кв. м. На сядзібе размяшчаліся дзве жылыя пабудовы і 4—5 гаспадарчых (Загорульский, 1982. С. 100—129). Частаколы, якімі абнесены двары гараджан, рабіліся з вертыкальна ўкапаных у зямлю бярвёнаў. Выяўленыя дваравыя вымасткі ўяўлялі сабой дашчаты памост. У Полацку і Мінску адкапаны дрэнажы для сцёку вады (Русов, 1992. С. 37).

Вуліцы сярэдневяковых гарадоў умоўна падзяляюць на знешнія і ўнутраныя. Знешнія вуліцы былі галоўнымі і адначасова служылі дарогамі, якія вялі за горад у напрамку да іншых населеных пунктаў. Шырыня знешняй вуліцы ў Мінску XII—XIII стст. складала 4 м. У Полацку выяўлена вуліца шырынёй 2 м. Унутраныя вуліцы прызначаліся для абслугоўвання патрэб жыхароў горада: пад'езду да сядзібы, выхаду да вала, вады. Такія вуліцы, відаць, часта не мелі назваў. Вуліцы выкладваліся бярвеннем, якое ляжала на падоўжаных лагах, што выяўлена ў Полацку, Мінску, Віцебску.

Да прыняцця хрысціянства ва ўсходніх славян паблізу гарадоў узнікалі курганныя могільнікі. У вярхоўі Пцічы паблізу гарадзішча на Менцы некропаль X—XI стст. уяўляў сабой вялікае сканцэнтраванне курганоў з асобных груп. Добра вывучаны могільнік каля Заслаўя, дзе зафіксаваны курганныя могільнікі, размешчаныя ў радыусе 2—3 км ад дзядзінца. Даследаваны 142 курганы (Ляўданскі, 1928; Заяц, 1995. С. 109).

Можна паспрабаваць вызначыць колькасць жыхароў гарадоў у XI—XIII стст. шляхам выяўлення каэфіцыента іх шчыльнасці на 1 га гарадской тэрыторыі (дзядзінца і пасада асобна). У дзядзінцы Мінска памер сядзібы складаў да 220—250 кв. м. Плошча дзядзінца — 3 га. Пры ўліку 60 % казфіцыента шчыльнасці гарадской забудовы яна ў Мінску на замчышчы займала 1,8 га. Тут магло быць прыкладна 80—82 сядзібы, а жыхароў 400—500 чалавек. Значыць, на дзядзінцах гарадоў на 1 га прыходзілася прыкладна 200 чалавек, для пасадаў (на падставе звестак аб Вялікім пасадзе Полацка) магчымы каэфіцыент 80—100 (Штыхов, 1975. С. 33).

Насельніцтва Полацка ў XII—XIII стст. складала каля 7 тысяч. Колькасць жыхароў Віцебска раўнялася, верагодна, тром-чатыром тысячам. У малых гарадах — Барысаве, Копысі, Давыд-Гарадку, Оршы, Рагачове, Капылі пражывала па некалькі сот чалавек (Штыхов, 1978. С. 124).

Агульная колькасць жыхароў дзядзінца і вакольнага горада ў Тураве магла складаць каля 1,5 тыс. чалавек. Значная колькасць насельніцтва знаходзілася ў неўмацаваным пасадзе. Пінск у XII ст. па эканамічным развіцці пераўзыходзіў Тураў, і яго насельніцтва складала некалькі тысяч чалавек (Лысенко, 1974. С. 187). У сярэднявеччы горад, які налічваў некалькі тысяч чалавек, быў сярэднім па памерах. Такім чынам, сярэдневяковыя гарады можна ўмоўна падзяляць на вялікія (Полацк), сярэднія і малыя.

## 1. ГАРАДЫ ПАЎНОЧНАЙ І ЦЭНТРАЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ

У X—XI стст. склалася тэрыторыя Полацкай зямлі-княства. Полацкая зямля ўключала тэрыторыю Віцебскай і паўночную частку Мінскай абласцей. На паўночным захадзе ўладанні полацкіх князёў прасціраліся па ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны (Даўгавы) амаль да Рыжскага заліва (Нарысы... 1994. С. 92—96).

Даследаваннямі археолагаў пацверджана ці занава ўстаноўлена месцазнаходжанне гарадоў Полацкай зямлі: Барысава, Віцебска, Герцыке, Друцка, Заслаўя, Копысі, Кукенойса, Лагойска, Лукомля, Мінска, Оршы, Полацка, Усвят (мал. 32).

Застаецца невядомым месцазнаходжанне Галацічаска (1071), Стрэжава (1127), Гарадца (1162). Загадкавыя паведамленні летапісаў аб Некалачы і Одраску.

Герцыке і Кукенойс размешчаны на тэрыторыі Латвійскай Рэспублікі і шырока даследаваліся латышскімі археолагамі. Горад Усвяты знаходзіцца на Пскоўшчыне ў Расійскай Федэрацыі і даследаваўся расійскімі вучонымі (Штыхов, 1978. С. 53—54).

### Полацк

У «Аповесці мінулых гадоў» Полацк (Полотеск, Полтеск) названы «градам» пад 862 г. Ён атрымаў сваё імя ад ракі Палата («Полота») (Жучкевич, 1974. С. 301). Згодна з летапісам, заснавалі Полацк крывічы.

**Полацкае гарадзішча.** Яно знаходзіцца на правым беразе Палаты на адлегласці 0,8 км ад яе ўпадзення ў Заходнюю Дзвіну. Канфігурацыя







*Мап. 32. Тэрыторыя Полацкай зямлі ў XI ст. (а); план Полацка IX—XIII стст. (б): 1 — тэрыторыя IX—X стст.; 2 — XI—XIII стст.; 3 — пуг; 4 — курганы; 5 — мураваныя цэрквы; 6 — Полацкая Сафія*

гарадзішча змянілася на працягу стагоддзяў (мал. 33). Агульныя памеры гарадзішча 73×75 м, вышыня гары каля 13 м, верхняя пляцоўка 75××40 м. Невялікія раскопкі зрабіў у 1928 г. А. М. Ляўданскі (Ляўданскі, 1930. С. 171—172). Ён выказаў думку аб заснаванні тут Полацка, што потым было пацверджана ў выніку больш шырокіх даследаванняў.

У 1960—1967 гг. Г. В. Штыхоў неаднаразова даследаваў Полацкае гарадзішча. Выяўлена, што першапачатковы вал насыпаўся са светлашэрага пяску і з боку абрыву пакрываўся глінай. З унутранага боку вала знойдзена амаль цалкам захаваная ляпная пасудзіна, тыповая для культуры доўгіх курганоў. У магутным пласце пажарышча былі кавалкі ляпных пасудзін, блізкіх да керамікі, выробленай на ганчарным крузе (мал. 34:4), якія адносяцца да рубяжа IX—X стст. (Штыхов, 1975. С. 21—30).

Першапачатковы вал безумоўна існаваў у IX ст., калі Полацк названы ў летапісе. Пазней вал некалькі разоў перабудоўваўся. Найбольш значнае яго ўмацаванне было зроблена пазней за X ст., відаць, у XI ст. Вельмі верагодна, што пры Рагвалодзе менавіта тут знаходзіўся ўмацаваны цэнтр Полацка, які быў спалены пры штурме войскам наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча.

З-за цеснай забудовы пляцоўкі Полацкага гарадзішча правесці значныя раскопкі было немагчыма. У 1962, 1967 гг. зроблены раскопкі на паселішчы (перадграддзі), размешчаным на мысе побач з гарадзішчам на правым беразе Палаты (мал. 32, 6:1). Культурныя напластаванні з ляпной керамікай выяўлены на плошчы 0,3 га (55×60м).

На падставе атрыманых матэрыялаў Г. В. Штыхаў выказаў меркаванне, што Полацк з'яўляўся галоўным цэнтрам полацкіх крывічоў, якія пасяліліся ў верхнім і сярэднім цячэнні Заходняй Дзвіны, уключаючы вусце Палаты. З гэтым згадзіўся даследчык славянскіх старажытнасцей VIII—X стст. І. І. Ляпушкін (Ляпушкин, 1968. С. 165). Э. М. Загарульскі адмаўляе магчымасць зараджэння Полацка на гарадзішчы, не прапануючы іншага канструктыўнага рашэння (Загорульский, 1965. С. 168). Услед за ім Д. А. Аўдусін выклаў яшчэ больш заблытаны погляд пра тое, што Полацк заснавалі на гарадзішчы балты, а пазней, у канцы X ст., славяне стварылі горад на Верхнім замку (Авдусин, 1980). Расійскія археолагі засумняваліся ў наяўнасці на Полацкім гарадзішчы і наогул у Полацку матэрыялаў VIII—IX стст. На іх думку, на гарадзішчы і прылягаючым да яго паселішчы фіксуецца толькі «бясспрэчны пласт X — пачатку XI ст.» (Белецкий, Лесман, 1979. С. 310).

**Полацкае селішча.** Высвятленню пытання аб часе і шляхах паходжання Полацка дапамаглі даныя новых археалагічных даследаванняў. У 1979—1980 гг. Г. В. Штыхавым былі праведзены новыя раскопкі селішча побач з гарадзішчам, на беразе Палаты. Раскапана 416 кв. м культурнага пласта пры яго магутнасці да 1,3 м. У некаторых месцах захаваліся старажытныя культурныя напластаванні і ямы ў мацерыку. Так, авальная яма № 3 памерам 3,4×1,5 м ад вытворчай пабудовы са слядамі рэшткаў печы праразала культурны пласт больш ранняга часу, паглыбляючыся ў мацерыковы жоўты пясок на 0,6 м. У ёй знойдзены маталургічныя шлакі, а наверсе яе запаўнення — абрэзак арабскага дырхема (Саманіды. Наср ібн Ахмад, 933—941 гг. н. э.), ніжэй — кавалак







*Мал. 33. План Полацкага гарадзішча з абазначэннем раскопаў і шурфоў (а); план Верхняга замка ў Полацку з абазначэннем раскопаў (б)*

невялікага бронзавага злітка, тыглі для плаўкі каляровых металаў, раннекругавая кераміка. Усяго на селішчы знойдзена 314 фрагментаў ляпной керамікі, з іх некалькі дзесяткаў ад верхніх частак пасудзін, прыдатных для тыпалагічнага аналізу (мал. 34:7—15). Слабапрафіляваны гаршчок з прамым венчыкам з невялікай ямы мае пашырэнне ў верхняй чвэрці (мал. 34:15) і адносіцца да славянскай керамікі VIII ст. (Штыхаў, 1984. С. 154—156). Ён блізкі да керамікі з раскопак гарадзішча ў Ізборску, якая датуецца трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э. і лічыцца безумоўна славянскім посудам (Седов, 1978. С. 65).

У Полацку сярод ляпной керамікі, знойдзенай у непарушаным культурным пласце, пераважаюць гаршкі з выпуклымі плечыкамі і крыху адагнутым вонкі венчыкам. Упамінання заслугоўваюць фрагменты пасудзін з рабром у верхняй частцы з паглыбленнямі, зробленымі пальцамі па плечыках (мал. 34:9), з арнаментам у выглядзе касых насечак, якія напамінаюць «раменскі» арнамент (мал. 34:8). Выяўлены абломак глінянай пацэльні вышынёй 2,3 см, дыяметрам 8 см.

Кругавой керамікі на паселішчы ў Полацку знойдзена звыш 2503 фрагментаў. Паводле падлікаў венчыкаў, гаршкі X—XI стст. складаюць 6 %, XII—XIII стст.— 16 %, XIV—XVI стст.— 78 %. Акрамя кухоннага посуду знойдзены тыглі, плінфа, ланцэтападобны наканечнік стралы. Раней такі наканечнік быў выяўлены на гарадзішчы.

На працягу многіх гадоў Г. В. Штыхаў вёў раскопкі і назіранні за культурным пластом у іншых месцах на берагах Палаты, Заходняй Дзвіны, дзе выяўлены матэрыялы канца X ст., а галоўным чынам XI—XIII стст. Дзякуючы гэтаму праведзена рэканструкцыя тэрыторыі старажытнага Полацка (мал. 32, б). Яна адрозніваецца ад раней прапанаванай рэканструкцыі Л. В. Аляксеева, які памылкова акрэсліў плошчу старажытнага паселішча вакол Полацкага гарадзішча і няправільна вызначыў месцаразмяшчэнне Спаса-Ефрасіннеўскай царквы побач з ім (Алексеев, 1966. С. 135, рис. 24 б).

Істотныя ўдакладненні па гістарычнай тапаграфіі Полацка былі зроблены ў выніку даследаванняў у другой палове 80-х гадоў С. В. Тарасавым. Надзвычай цікавы матэрыял прынеслі раскопкі ў 1986 г. На Ніжнім замку ў раскопе (6х10 м), у шэрагу шурфоў і пры назіранні за землянымі работамі былі знойдзены матэрыялы IX—X стст. Плошча паселішча гэтага часу была вызначана прыкладна ў 6 гектараў.

С. В. Тарасаў прыйшоў да новай высновы, што тэрыторыя Полацка IX—X стст. не абмяжоўвалася гарадзішчам і невялікім, раней адкрытым, селішчам каля Чырвонага моста, а ўключала паселішча на Ніжнім замку. Узнікла пытанне, чаму гарадзішча размешчана на правым беразе Палаты, а галоўнае паселішча ў некалькі гектараў знаходзіцца на левым беразе якраз насупраць яго і аддзелена ад гарадзішча ракой і высокім стромым берагам Палаты. Улічыўшы мясцовае паданне, С. В. Тарасаў выказаў меркаванне, што гарадзішча і пляцоўка сучаснага Ніжняга замка да другой паловы XVI ст. складалі адзінае цэлае, але ў час Лівонскай вайны пры збудаванні Стралецкага замка было пракапана новае рэчышча Палаты, якое аддзяліла мыс Ніжняга замка ад цяперашняга гарадзішча (Тарасаў, 1987. С. 31). Аднак ляпная кераміка з выяўленага селішча больш позняя за знойдзеную на першым, відаць, пачатковым паселішчы.




*Мал 34 Керамічныя знаходкі· 1—6 — пяпная кераміка з Полацкага гарадзішча 7-11, 15 — пяпная кераміка з селішча на правым беразе р Палата 12—14 — раннекругавая кераміка з селішча*

У IX — пачатку X ст. Полацк размяшчаўся на гарадзішчы і суседнім паселішчы. Ён быў заснаваны крывічамі, мусіць, у VIII ст. Гарадок на Палаце на працягу X ст. усё больш абрастаў паселішчамі, паступова ператвараючыся ў горад у сацыяльным разуменні. Важнае значэнне мела засяленне ўчастка вядомага па больш позніх крыніцах пад назвай Верхняга замка, куды потым перамясціўся дзядзінец горада. У 50-х гадах XI ст. тут быў пабудаваны Сафійскі сабор — галоўны храм горада і ўсёй Полацкай зямлі.

**Верхні замак.** Найважнейшы археалагічны помнік Полацка размешчаны пры ўпадзенні Палаты ў Заходнюю Дзвіну. Плошча Верхняга замка дасягала 10 га. Археолагамі раскапана звыш 2000 кв. м.

Магутнасць культурнага слоя ў розных месцах Верхняга замка неаднолькавая. На паўночна-заходнім мысе — «Машне» яна складае да 1 м, у паўднёвай частцы — «Сафійцы» — 2,5 м. Ва ўсходняй частцы культурны слой багата насычаны дрэвам, магутнасць яго найбольшая і дасягае 5,5 м. Рознахарактарнасць культурных напластаванняў — сведчанне разнастайнасці забудовы і заняткаў насельніцтва. Паўднёвая частка Верхняга замка — епіскапская старана, дзе жыў епіскап «дома... у святое Софье» (Полоцкие грамоты, 1977. С. 37). Цэнтральныя і паўночныя часткі, звернутыя да Палаты,— княжацкая з княжацкімі церамам і царквой.

Ва ўсходняй частцы дзядзінца жылі рамеснікі. Асноўныя археалагічныя матэрыялы атрыманы пры раскопках гэтай часткі Верхняга замка, дзе зафіксавана 14 будаўнічых гарызонтаў, рэшткі жытлаў, гаспадарчых пабудоў, хлявоў, дрэнажнай канавы, насцілаў маставой. Тыповым з'яўляецца VIII будаўнічы гарызонт з жытламі і гаспадарчымі пабудовамі. Раскопы II і III з магутнасцю напластаванняў 4,2—5,5 м мелі выразную стратыграфію. Каля асновы культурнага пласта знойдзены медная візантыйская манета Рамана I (919—944 гг.), куфічны дырхем, пацеркі-лімонкі, аднабаковыя грабяні, адзінкавыя фрагменты ляпной керамікі, раннекругавы посуд. Такі ж самы комплекс знаходак адкрыты ў Ноўгарадзе і датуецца дэндрахраналагічна сярэдзінай і другой паловай X ст. Можна гаварыць пра засяленне ўсходняй часткі Верхняга замка ў канцы X ст., што адпавядае летапісным звесткам пра Полацк апошняй чвэрці X — першай чвэрці XI ст. як пра значны горад (Штыхов, 1975. С. 54).

Першапачатковы тонкі культурны слой змяшчаўся з напластаваннямі XI ст. у выніку неглыбокіх перакопаў. Магутнасць культурнага слоя XI—XII стст. складае 0,5—0,7 м. Незвычайна магутнымі, таўшчынёй 2,6 м, былі напластаванні XIII ст., насычаныя трэскамі, гноем і адходамі ґарбарна-шавецкага рамяства, уключаючы вапну з поўнасцю адпрацаванай скурай жывёлы. У аснову храналогіі гарызонтаў, у якіх было дрэва, пакладзена абсалютнае датаванне, атрыманае ў выніку дэндрахраналагічнага вывучэння (Колчин, 1965. С. 262—266).

Дэндрахраналагічнае датаванне адкладанняў на Верхнім замку ў Полацку добра ўзгадняецца з археалагічным матэрыялам. Надзейнай прыкметай «дамангольскага часу» з'яўляецца наяўнасць у ім абломкаў імпартных паўднёвых амфар. У Полацку прывезеныя амфары з'яўляюцца ў канцы X ст. і поўнасцю знікаюць у канцы 30-х гадоў XIII ст., што




*Мал 35 Палігоны размеркавання шкляных бранзалетаў, оўручскіх праслiцаў і паўднёвых амфар у культурных напластаваннях Верхняга замка ў Полацку (раскоп II, 1959—1960 гг.)*

звязана з нашэсцем ордаў Батыя на Русь. У Нярэўскім раскопе ў Ноўгарадзе кавалкі амфар з'яўляюцца ў канцы X ст. Пасля нашэсця Батыя на Русь у больш позніх пластах практычна няма кавалкаў амфар (Рыбина, 1978. С. 29). Агульныя тэндэнцыі назіраюцца ў Полацку і Ноўгарадзе і ў размеркаванні па гарызонтах шкляных бранзалетаў і шклянога посуду (мал. 35). Шкляныя бранзалеты ў Полацку распаўсюджваюцца ў велізарнай колькасці ў 30-я гады XIII ст., як гэта было ў Ноўгарадзе (Щапова, 1969. С. 102—107). У Полацку таксама існавала мясцовая вытворчасць вырабаў гэтага віду. Ужыванню шыферных праслiц мы знаходзім аналогію і ў Ноўгарадзе, дзе яны былі ў шырокім ўжытку ў дамангольскі час, сустракаюцца ў пластах другой паловы XIII ст. і пазней (Колчин, 1982. С. 156—177).

Гісторыя забудовы ўсходняй часткі Верхняга замка ўяўляецца наступным чынам. Першыя насельнікі пабудавалі наземныя зрубныя жытлы з печамі-каменкамі, займаліся рамествамі, гандлем, сельскай гаспадаркай. Мяркуючы па аднароднасці напластаванняў і рэчавых знаходках, у занятках насельніцтва і забудове XI—XII стст. істотных змяненняў не было. У пачатку XIII ст. адбываецца ўшчыльненне забудовы, што прывяло да больш інтэнсіўнага росту культурных напластаванняў. З 40-х гадоў

XIII ст. шчыльнасць забудовы робіцца вельмі вялікай, а ўтварэнне культурных адкладанняў выключна хуткім. Працягласць існавання аднаго будаўнічага гарызонту складае ў сярэднім 10 гадоў. Пажары нярэдка знішчалі пабудовы. Небяспека частых нападаў у перыяд феадальнай раздробленасці садзейнічала канцэнтрацыі насельніцтва ва ўмацаваным цэнтры горада.

**Даследаванні Запалоцця.** Пэўныя вынікі атрыманы пры раскопках у Запалоцці. Уздоўж абрыву Заходняй Дзвіны прасочваецца культурны слой магутнасцю каля 2 м. У 1980 г. раскопкі праводзіліся на адлегласці 200 м ад абрыву ракі і 0,5 км на захад ад Полацкай Сафіі. Раскапана 80 $м^2$ пры таўшчыні напластавання 0,8 м. Кераміка толькі кругавая. Верхніх частак гаршкоў X ст.— 3 %, XI — 9, XII — 30, XIV—XVI стст.— 58 %. Знойдзена паясная пазалочаная бляшка, упрыгожаная выемачнай чырвонай эмаллю. У цяперашні час няма сумнення ў тым, што значная частка Запалоцця была заселена з X ст. (Штыхаў, 1980. С. 4). Запалоцце — нізінная частка старажытнага Полацка. Плошча яго складала прыкладна 10 га. У XII—XIV стст. у Запалоцці існавалі абарончыя збудаванні, якія ўяўлялі падвоеную сцяну са шчыльна пастаўленых завостраных бярвёнаў і рова перад імі (Тарасаў, 1998. С. 60).

**Раскопкі Вялікага пасада.** Асноўнае пасадскае паселішча знаходзілася на плато паміж левым берагам Палаты і правым берагам Дзвіны (плошча каля 50 га), на тэрыторыі, якая ў крыніцах XVI ст. называецца Вялікім пасадам. На Вялікім пасадзе С. В. Тарасаў правёў значныя даследаванні ў 1986—1991 гг., калі было вывучана больш за 2000 кв. м. Магутнасць адкладанняў ў сярэдняй частцы Вялікага пасада складае ў сярэднім 3 м. Найбольш старажытныя пласты датуюцца X—XI стст. Пры раскопках у 1987—1988 гг. былі знойдзены рэшткі гарадской ахоўнай сцяны. Даследаваны яе фрагмент 22 м у даўжыню. Сцяна ўяўляла сабой змешаную каменна-драўляную канструкцыю. Яе асновай быў выкладзены з камянёў падмурак шырынёй 0,7 і вышынёй каля 0,4 м. Забудова і планіроўка Вялікага пасада мела ў XI ст. нерэгулярны характар. У XII—XIII стст. яна стала больш планамернай. Пры раскопках прасочана, што сядзібы гэтага часу былі выцягнуты ў адну лінію з захаду на ўсход уздоўж вуліцы. Двары абносіліся агароджай. Была даследавана амаль поўнасцю адна сядзіба ювеліраў плошчай каля 1000 кв. м. Агульная планіроўка Вялікага пасада амаль не змянілася на працягу стагоддзяў. Па дакладнаму дэндрахраналагічнаму датаванню, сядзібы ўзніклі ў другой палове XII ст. і праіснавалі да канца XIII ст. (Тарасаў, 1998. С. 66).

На Дзвіне каля вусця Палаты, верагодна, размяшчалася прыстань для адгрузкі ці перагрузкі тавараў, а пратока каля вострава насупраць Верхняга замка выкарыстоўвалася ў якасці гавані. Трэба мець на ўвазе, што Полацк быў буйным сярэдневяковым портам у Падзвінні. Не выпадкова выява карабля змешчана на старым гербе Полацка.

**Рамесныя вырабы.** Пры археалагічных раскопках выяўлены шматлікія доказы, што Полацк быў буйным цэнтрам рамяства, гандлю, культуры старажытных зямель Беларусі. Пра ступень развіцця металаапрацоўчага рамяства можна меркаваць па вырабах з чорнага металу, знойдзеных у пластах канца X—XIII ст. Гэта рамесніцкі дрэваапрацоўчы інструмент:




*Мал. 36. Ювелірныя вырабы, нарыхтоўкі і прыстасаванні X—XIV стст. з Вялікага пасада ў Попацку (раскопкі С. В. Тарасава, 1987—1988 гг.)*

сякеры, цёслы, свярдзёлкі, долаты, скоблі, разцы. Выяўлены таксама тупікі для выдалення поўсці са скуры, шылы, іголкі, нажніцы, нажы. Зброя і рыштунак конніка: наканечнікі коп'яў і стрэл, навершша булавы, шпоры, цуглі, стрэмя, фрагмент кальчугі. Прадметы хатняга ўжытку і посуду: замкі вісячыя і ўнутраныя, ключы, лічыны, накладкі, ручкі для дзвярэй, дужкі ад драўляных вёдзер, заклёпкі, цвікі, клямкі, крэсівы, пісалы. Прылады сельскагаспадарчай вытворчасці: сашнікі, сярпы, косы, восці, рыбалоўныя кручкі (Штыхов, 1975. С. 56—62).

У Полацку выраблялiся як высокамастацкія вырабы з золата і серабра па заказах феадалаў і вышэйшага духавенства, так і танныя ўпрыгожанні, у вялікай колькасці знойдзеныя на Верхнім замку і на Вялікім пасадзе (мал. 36).

Вельмі разнастайны матэрыял па тэхніцы апрацоўкі скуры і шыццю скураных вырабаў. Знойдзены дэталі ад некалькіх соцень экземпляраў абутку. Выяўлены прылады працы з дрэва для рамёстваў і промыслаў — даўбенькі, кліны, дэталі ткацкага станка і іншых механізмаў, прылады апрацоўкі льну, рэшткі сродкаў руху (дэталі каляса для падводы ці фурманкі, палазы для саней, чоўнавыя шпангоўты, вясло); прадметы хатняга ўжытку: таўкачы для ступы, кручкі, рыдлёўкі, клёпкі і днішчы ад цэбраў і вёдзер, талеркі, міскі, лыжкі. Шырока распаўсюджанымі відамі прадукцыі рамеснікаў у Полацку былі вырабы з косці (грабяні, накладкі), з каменя (тачыльныя брускі, мукамольныя жорны). Шкляныя вырабы прадстаўлены ўпрыгожаннямі (бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі), танкасценным посудам, асколкамі плоскага аконнага шкла і каляровай смальты (Штыхов, 1975).

Яркая з'ява ў гісторыі манументальнага дойлідства — каменныя збудаванні Полацка XI—XII стст.

**Вынік даследавання Полацка.** Археалагічнае даследаванне Полацка пацвярджае, што горад сапраўды існаваў у IX ст., калі названы ў летапісе (862 г.), і з'яўляўся цэнтрам заходняй галіны крывічоў. Ён размяшчаўся на гарадзішчы на Палаце. Полацк хутка развіваўся ў X—XI стст. Узнікалі новыя паселішчы ў Запалоцці, на Верхнім замку, на Вялікім пасадзе і ў іншых месцах (мал. 37).

У XI ст. дзядзінец перамясціўся з гарадзішча на Верхні замак. Полацк быў найбольш буйным па плошчы (80 га) горадам Полацкай зямлі ў XII—XIII стст., што адпавядае летапісным звесткам, якія сведчаць пра яго як пра галоўны (старэйшы) горад. Пасады Полацка размяшчаліся ў трох месцах: Вялікі пасад, Запалоцкі і найстаражытны паблізу гарадзішча на беразе Палаты (плошча 6 га). Напэўна, Полацк меў так званую «канчанскую арганізацыю», толькі асобныя часткі яго мелі назву не «канцы», а «пасады».

## Прагорад на Менцы

У сувязі з гісторыяй станаўлення старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі асаблівую цікавасць набывае археалагічны комплекс на рэчцы Менцы ў вярхоўях Пцічы ў 16 км на паўднёвы захад ад гістарычнага цэнтра сучаснага Мінска. Гэта унікальны помнік, па якім можна меркаваць, што ўяўляў сабою прадвеснік горада, як ён рос і развіваўся.




*Мал. 37. Полацк, Вялікі пасад. Ювелірныя вырабы X—XIII стст. (раскопкі С. В. Тарасава)*

Потым у амаль сфарміраваным горадзе жыццё перарвалася і больш ужо не адрадзілася, ва ўсялякім разе ў форме прагарадскога паселішча. Населены пункт усходніх славян існаваў не менш двух стагоддзяў (X—XI стст). Функцыі, якія ён выконваў, перайшлі да іншага паселішча. Ім стаў, лічачы па ўсім, новы горад Менск, пабудаваны на Свіслачы пры ўпадзенні ў яе рэчкі Нямігі.

**Сумежныя гарадзішчы.** На Менцы, у 2 км ад упадзення яе ў Пціч (у 16,7 км ад Замчышча на Свіслачы), знаходзіцца комплекс археалагічных помнікаў. Аб іх можна меркаваць па даных дакумента 1582 г., дзе ёсць звесткі і названы тапонімы, якія маюць адносіны да дадзенай мясцовасці: «подле посаде тыми месцы и врочышы от речки Менки, просто на рогъ кургана Великого...», «поле Городишское», «писанъ в Городищу» (Акты... 1912. С. 160).

У цяперашні час гарадзішча ляжыць на правым беразе Менкі пры ўпадзенні ў яе ручая Дунай на паўднёвы захад ад Мінска на ўскрайку в. Гарадзішча (Шчомысліцкі с/с). Яно адносіцца да тыпу мысавых,

з напольнага боку акантавана заплыўшым ровам. Па сутнасці тут два сумежных гарадзішчы — малое (80х16 м) і вялікае (110х80 м). Пляцоўка малога гарадзішча 1068 кв. м, вялікага — 12 072 кв. м, агульная плошча 13 140 кв. м. Гарадзішча абнесена валамі вышынёй (звонку) 8—10 м, а месцамі — 12 м. Яны акружаюць тры пляцоўкі, дзве з якіх — на вялікім гарадзішчы. Гарадзішча мае тры ўезды, з якіх адзін, размешчаны на вуглу паміж малым і вялікім гарадзішчамі, быў старажытным.

У 1930 г. гарадзішча даследаваў археолаг А. Рынейскі. У 1935 г. невялікія раскопкі правялі А. М. Ляўданскі і А. Д. Каваленя. Кароткі вынік даследаванняў быў выкладзены ў заметцы, у якой яны пісалі, што першапачаткова Мінск знаходзіўся на месцы вёскі Гарадзішча, на правым прытоку Пцічы, а потым у XI ст. «быў перанесены як феадальны цэнтр у больш зручнае месца, туды, дзе знаходзіцца сучасны Мінск» (Ляўданскі, Каваленя, 1935). З тых часоў не сціхае спрэчка аб першапачатковым месцы размяшчэння Мінска.

У 1954 г. помнік вывучаў А. Р. Мітрафанаў. Экспедыцыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта праводзіла даследаванні ў шасцідзесятыя гады. Агульная плошча усіх раскопаў 700 кв. м. У 1968 г. Э. М. Загарульскі таксама вывучаў вал з дапамогай траншэй шырынёй 1 м на малым гарадзішчы (траншэі 3 і 2). Ён выключае магчымасць зараджэння Мінска на Менцы і сцвярджае, што ў X — першай палове XI ст. тут не існавала ўмацаванняў, а валы як малога, так і вялікага гарадзішчаў насыпаны не раней XIV—XV стст. (Загарульскі, 1982. С. 294). Аднак факты сведчаць пра другое.

У 1966 г. Г. В. Штыхаў пры абследаванні селішча вакол гарадзішча сабраў на развораных участках шмат керамікі X—XI стст., што сведчыла аб існаванні тут надзвычай важнага археалагічнага комплексу (Штыхов, 1966. С. 250). М. А. Ткачоў у 1969 г. даследаваў умацаванні з дапамогай траншэі шырынёй 4 м каля паўднёвага ўвахода і прыйшоў да выніку, што асноўнае ўмацаванне землянога вала тут адносіцца да XI ст. (Ткачев, 1969. С. 192—199). Настойлівай неабходнасцю былі далейшыя раскопкі помнікаў на Менцы.

У пачатку новых даследаванняў на гарадзішчы быў выкарыстаны метад разбіўкі раскопаў з адзіным модулем і іх прывязкі да мясцовасці, распрацаваны А. А. Трусавым. Паводле гэтага метада, увесь замкнуты археалагічны комплекс разглядаецца ў якасці аднаго гіганцкага раскопу з адзінай прывязкай на мясцовасці і адзіным археалагічным модулем разбіўкі, якім з'яўляецца квадрат 10×10 м (Трусов, 1988. С. 65—67).

У 1978 г. на гарадзішчы на Менцы ў яго цэнтры быў устаноўлены галоўны рэпер, які служыў кропкай для чатырох дадатковых рэпераў. Прамыя лініі, якія злучалі ўсе рэперы, былі каардынацыйнымі восямі для разбіўкі археалагічнай сеткі. Археалагічная сетка была дакладна арыентавана па старанах свету (мал. 38).

У 1976—1979 гг. на гарадзішчы Г. В. Штыхавым раскапана 1072 кв. м культурнага слоя пры магутнасці ад 0,6 да 2 м. Раскопкі зроблены ў пяці месцах малога і вялікага гарадзішчаў. Слой культуры штрыхаванай керамікі першых стагоддзяў нашай эры зафіксаваны толькі на малым гарадзішчы (раскоп 10). Датыроўку пацвярджае выраблены з егіпецкага

*Мал. 38. План гарадзішча і паселішчаў (пасада) на р. Менка: 1—4 — траншэі прарэзкі валоў; VIII—XV — раскопы на гарадзішчы і селішчы*

фаянсу амулет-бусіна, якія былі распаўсюджаны ў Паўночным Прычарнамор'і (Алексева, 1975. С. 28, 40; АіНБ, 1993. С. 157).

На месцы сутыкнення пляцовак вялікага і малога гарадзішчаў яшчэ ў 50-я гады былі добра бачны рэшткі ўнутранага вала, затым зрытыя. Пры раскопках (раскоп 11) у ніжняй частцы вялікага знешняга вала праслежваецца невысокі першапачатковы насып, перакрыты магутным слоем больш позняга абарончага збудавання. Гэта рэшткі старажытнейшага вала, які праходзіў з напольнага боку малога гарадзішча.

Напластаванні з праслойкамі вугалю і попелу і рэчавы матэрыял X—XI стст. знойдзены на малым і вялікім гарадзішчах. Паўсюдна сустракаецца кругавая кераміка з патоўшчаным венчыкам X—XI стст., трапляюцца вырабы з жалеза, бронзы, шыферныя праселкі, кавалкі розавага шыферу. Пераканаўчым пацвярджэннем, што ніжняя пляцоўка вялікага гарадзішча была заселена ў гэты час, служыць знаходжанне ў культурным пласце (раскоп 12) развалу печы-каменкі, у якой быў тыгель для плаўкі каляровых металаў і цэлы кругавы сасуд.

Асаблівай увагі заслугоўваюць знойдзеныя 14 донцаў ад гаршкоў з клеймамі ў выглядзе трызубцаў. На донцах адлюстраваны знак, падобны да знака Уладзіміра Святаславіча. Такі трызубец быў у яго сына— полацкага князя Ізяслава. Выяўленне вялікай колькасці посуду са знакамі Рурыкавічаў можа сведчыць аб знаходжанні на гарадзішчы на Менцы княжацкай знаці. Пра прысутнасць ваенных сведчыць знаходка на малым гарадзішчы бронзавага наканечніка ножнаў двухлязовага мяча. Аналагічныя наканечнікі знойдзены ў Паланзе ў пахаванні XI ст. і ў іншых месцах на тэрыторыі Літвы.

**Вывучэнне абарончых збудаванняў.** У 1979—1983 гг. на вялікім гарадзішчы Г. В. Штыхавым праводзіліся працы па даследаванню вала ў той яго частцы, якая размешчана найбольш нізка ў пойме Менкі, з мэтай вызначэння часу ўзнікнення абарончых збудаванняў. Побач з паўночна-ўсходнім уваходам, напэўна, познім, зробленым у XIX ст., быў закладзены раскоп 14 упоперак насыпу вала, дзе яго шырыня каля асновы складала 22 м. Памеры раскопу 26×6 м. Другі яго бок поўнасцю праразаў вал, з прычыны чаго можна было прасачыць стратыграфію. У выніку быў атрыманы суцэльны профіль ад грэбеня вала і да падножжа.

У ніжняй частцы насыпу знойдзены зрубы-«гародні» даўжынёй 3,5—4 м, пабудаваныя з дубовых бярвёнаў. Аналагічныя ўмацаванні добра вядомы на гарадзішчах Кіеўскай Русі. Такім чынам умацоўваліся крэпасці ў канцы X ст. пры кіеўскім князю Уладзіміру Святаславічу. Зрубныя канструкцыі ў аснове валоў у XI—XII стст. атрымалі ва Усходняй Еўропе паўсюднае распаўсюджанне. Зрубы, запоўненыя зямлёй ці іншым грунтам, надавалі валу трываласць і захоўвалі яго ад апаўзання (Древняя Русь... 1985. С. 168, 169). Менавіта такі спосаб збудавання вала зафіксаваны на беразе Менкі, дзе часткова раскапаны два зрубы, злучаныя паміж сабой (мал. 39). Прасочаны рэшткі, напэўна, трэцяга зруба. Зрубы ставіліся ў тры рады — адзін каля аднаго ўздоўж трасы вала.

Лепш захаваўся крайні зруб, звернуты да Менкі. Ад яго паўночнай сцяны ацалела 10 бярвёнаў таўшчынёй 20—30 см, ад паўднёвай — 7 бярвёнаў (таўшчыня самаг ніжняга бервяна 50 см), ад заходняй —




*Мал. 39. Прарэзка вала гарадзішча на р. Менка. Профіль (а). 1 — культурны пласт, 2 — дзярновы пласт, 3, 4, 6, 9, 10 — пясок, супесь, суглінак, 5 — вугаль, 7 — дрэва (дуб), 12 — запаўненне шэрагу колеру. I — першае пажарышча; II — другое пажарышча, III — трэцяе пажарышча. План раскопу XIV з рэшткамі зрубаў-гародзень (б)*

9 бярвёнаў. Зрубы былі шчыльна забіты суглінкам і супескам. Узвышаючыся прыкладна на 4 м, яны складалі трывалую аснову абарончага збудавання. Шырыня першапачатковага вала складала 10 м. У запаўненні зрубаў знойдзены абломкі кругавога посуду гэтага часу і адзін ляпны чарапок (мал. 40). Каля зруба ў супясчанай праслойцы выяўлены тыгель і верхняя частка гаршка канца X — пачатку XI ст.

На зрубнай сценцы знаходзіўся верхні ярус наземных драўляных збудаванняў. Ад яго да нас дайшоў слой пажарышча магутнасцю ў 1 м, які складаўся са шматлікіх тонкіх праслоек вугалю і попелу. Знешнія ўмацаванні загінулі ў моцным пажары неўзабаве пасля іх узвядзення, бо няма істотнай розніцы паміж ганчарнай керамікай з запаўнення зрубаў і даволі шматлікім посудам з пажарышча.

Што ўяўлялі сабой самі збудаванні — цяжка сказаць. Блізка да знешняга абрыву вала зверху яго рэшткаў прасочваюцца сляды бярвёнаў, закапаных амаль вертыкальна. Магчыма, гэта прыкмета дадатковага агароджвання ў выглядзе частаколу.

У рэштках пажарышча знойдзены абломкі ганчарнага посуду X ст. і кавалак ляпной пасудзіны з арнаментам раменскага тыпу. Першапачатковы вал, які агароджваў паніжаную пляцоўку вялікага гарадзішча з паўночнага боку, збудаваны ў канцы X — пачатку XI ст. Вал быў значна ўмацаваны пасля пажару, які знішчыў першапачатковае збудаванне. Затым адбылося павелічэнне яго насыпу, для чаго ўжываўся ў вялікай колькасці лёгкі пылявы суглінак (мал. 39, а). Для абліцоўкі вала са знешняга боку часткова прымяняўся камень. Пры падсыпцы вала з унутранага боку выкарыстоўваўся гравійны пясок, які ў сваю чаргу перакрыты слоем суглінку.



*Мал. 40. Кераміка з напластаванняў (падсыпак) вала гарадзішча на р. Менка: 1 — кераміка з квадрата 274 (глыбіня 2,3 м.); 2—7 — кераміка з трэцяга пажарышча; 8—13 — кераміка з першапачатковага ядра вала (глыбіня 4,5—5 м ад вышэйшай кропкі вала)*

Заслугоўвае асаблівай увагі тое, што каля падэшвы вала з унутранага боку зафіксаваны культурны пласт інтэнсіўна цёмнай афарбоўкі, які ў адным месцы ўкліньваўся паміж слоем цёмна-шэрага суглінку. Гэты культурны пласт не мае адносін да падсыпак вала і з'яўляецца крайняй часткай напластаванняў пляцоўкі гарадзішча. Блізка да мацерыка знойдзена кераміка канца X—XI ст. (мал. 40) і бронзавая падкованадобная фібула з макападобнымі галоўкамі. Такія фібулы датуюцца X—XI стст. Тым самым устанаўліваюцца суадносіны паміж падсыпкамі вала і культурнымі адкладаннямі гарадзішча. У XI ст. у перыяд найбольш інтэнсіўнага ўтварэння напластаванняў быў адноўлены вал, для чаго ў вялікай колькасці выкарыстоўваўся суглінак і яго апоўзень перакрыў частку гэтых напластаванняў.

Магутны пласт суглінку перакрыты праслойкай вугалю, якая ўтварылася пасля гібелі ў моцным агні наземных абарончых збудаванняў. Таўшчыня дугападобнай праслойкі 10—20 см. Самая вялікая яе таўшчыня — на грэбені вала. Яна пастулова змяншаецца па склону знешняга боку насыпу. Дугападобная праслойка знаходзіцца ў некранутым стане з часу яе ўзнікнення. У праслойцы знойдзена кругавая кераміка з крышку патоўшчаным венчыкам і лінейным арнаментам XI ст., аб датыроўцы якога будзе сказана ніжэй.

Пасля гібелі ў пажары драўляных збудаванняў была зроблена са светла-жоўтага пяску невялікая падсыпка і на вяршыні вала пабудавана драўлянае збудаванне ў выглядзе частаколу, ніжняя частка якога ўмацавана пры дапамозе гарызантальна пакладзеных бярвёнаў. Абвугленыя бярвёны дыяметрам 15 см, якія ляжалі ўздоўж вала, знойдзены ў самым пачатку раскопак на глыбіні 60—80 см ніжэй апошняй падсыпкі

з культурнага слоя, у якім знойдзена кераміка XI ст. і шыфернае прасенка.

Вал вялікага гарадзішча на Менцы перабудоўваўся і павышаўся не менш двух разоў у першай палове XI ст. з-за пажараў, якія знішчылі знешнія драўляныя збудаванні (абарончыя) на яго грэбені, таму на дадзеным участку адзнак абарончых збудаванняў больш позняга часу не выяўлена, калі не лічыць нязначнай апошняй падсыпкі з культурнага пласта XI ст., датыроўка якой незразумела. Агульная вышыня вала складае каля 8,2 м.

Э. М. Загарульскі апублікаваў профілі прарэзак валоў малога (траншэя 3) і вялікага (траншэя 2) гарадзішчаў. Прарэзкі гэтыя не былі поўнымі, скразнымі. У абодвух выпадках вал не быў прарэзаны ў сярэдняй частцы. Э. М. Загарульскі лічыць, што загінуўшыя ў пажары збудаванні, знойдзеныя ніжэй падсыпкі вала, не маюць адносін да абарончых канструкцый і з'яўляюцца пабудовамі па краях пляцовак гарадзішчаў, ад якіх застаўся гэты культурны слой (Загорульский, 1982. С. 52—54).

Аднак можна па-іншаму інтэрпрэтаваць вынікі дадзеных раскопак. Ужо тады былі адкрыты рэшткі першапачатковых драўляных наземных абарончых збудаванняў, якія размяшчаліся ў тых месцах, дзе стромкія вонкавыя адхоны ўзгорка служылі дадатковым фактарам умацаванняў і не патрабавалі высокага насыпу. Пасля гібелі ў пажары збудаванняў адбылося больш значнае ўмацаванне насыпу вала, для чаго ў шэрагу выпадкаў выкарыстоўваўся таксама культурны слой з пляцоўкі гарадзішча.

Такое тлумачэнне становіцца відавочным пры параўнанні з вынікам прарэзкі вала ў 1979—1983 гг. на ніжняй пляцоўцы гарадзішча, пазбаўленай натуральнай абароны (маленькая Менка ў разлік можа не прымацца). Тут патрэбен быў вал больш магутны, чым у іншых месцах.

Э. М. Загарульскі лічыць, што насып вала перакрываў напластаванні старажытнарускага часу, і ў гэтым бачыць істотны аргумент для больш позняй датыроўкі ўмацаванняў чамусьці канцом XIV — першай паловай XV ст. (Загорульский, 1982. С. 53). Матэрыялаў гэтага часу на дадзеным помніку няшмат, што вынікае з апублікаванай Э. М. Загарульскім тыпалагічнай табліцы керамікі. Паміж часам падсыпкі валоў маглі прайсці дзесяткі год, чым можна патлумачыць укліньванне ў аснову вала паміж яго падсыпкамі культурнага пласта XI ст., што мы таксама канстатавалі ў 1979 г.

Даследаванне абодвух гарадзішчаў паказвае, што жыццё на правым беразе Менкі рознай ступені інтэнсіўнасці ад мяжы нашай эры працягвалася на працягу многіх стагоддзяў. Часам яно амаль поўнасцю замірала, а потым адраджалася. Сярод знойдзеных пры раскопках матэрыялаў ёсць посуд культуры штрыхаванай керамікі першай чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., у комплексе з якой знойдзена міска зарубінецкай культуры I ст. н. э. Кераміка IV—V стст. прадстаўлена кавалкамі ляпных пасудзін з разчосамі (раскоп 9), VI—VIII стст.— посудам тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны, IX — пачатку X ст.— пасудзінамі з арнаментам раменскага тыпу. На малым і вялікім гарадзішчах у 1978 г. (раскопы 9—13) знойдзена шмат кругавой керамікі (Штыхов, 1978. С. 69, рис. 27).

**Неўмацаваныя паселішчы на Менцы.** Для інтэрпрэтацыі помнікаў на

Менцы важнае значэнне мае даследаванне неўмацаваных адкрытых паселішчаў на яе берагах. Паселішча на Менцы, рэшткі якога добра прасочваюцца паўсюдна вакол гарадзішча, трэба лічыць не зусім звычайнай з'явай. Іншага такога вялікага селішча X—XI стст. плошчай 30 га ў Беларусі не захавалася. Натуральнымі ўмовамі мясцовасці яно раздзяляецца на тры часткі.

У 1975 г. Полацка-Мінскі атрад экспедыцыі Інстытута гісторыі правёў раскопкі на селішчы на поўдзень ад гарадзішча. Раскоп 30×30 м размяшчаўся на раллі на беразе ручая Дунай. Магутнасць культурнага слоя — ад 0,4 да 1,2 м, улічваючы яму ў мацерыку, якіх расчышчана звыш 90. Ямы гаспадарчага прызначэння, большасць з іх датуецца канцом X — першай паловай XI ст., іншыя больш ранніх. Сем ям вылучаюцца сваёй формай і памерамі. Іх глыбіня 0,6—0,8 м. Некаторыя прамавугольныя ямы (плошча 8—9 кв. м, сценкі вертыкальныя) падобны на паглыбленыя ў цвёрды мацярык жытлы (паўзямлянкі). Аднак у іх няма відавочных прыкмет печаў. У культурным слоі рэшткаў драўляных збудаванняў не прасочваецца, але зафіксавана 8 вогнішчаў дыяметрам 0,5 м. Амаль паўсюдна ў адкладаннях XI ст. на глыбіні 0,2—0,4 м выяўлены касцякі людзей. Яны пашкоджаны ўзворваннем, таму цяжка меркаваць аб іх першапачатковай арыенціроўцы.

Асноўным матэрыялам, выяўленым пры раскопках, служыць кераміка. Ляпной керамікі няшмат — 30 кавалкаў другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э., адзін развалены гаршчок сярэдніх памераў.

Кругавы посуд знойдзены ў вялікай колькасці (звыш 10 тыс.). Верхніх яго частак улічана звыш 2400 шт. Да першага тыпу (151 экз.) адносяцца гаршкі архаічнай формы са слаба адагнутым простым венчыкам і пакатымі плечыкамі X ст. Яны складаюць 6,2 % ад усёй колькасці керамікі. Адметная рыса гаршкоў другога тыпу — складана прафіляваныя адагнутыя вонкі патоўшчаныя венчыкі, якія маюць форму карнізіка (1987 кавалкаў і 6 пасудзін, якія захаваліся цалкам). Гэты тып керамікі колькасна пераважае (81,4 %). Як правіла, гаршкі арнаментаваны лініямі, прачэрчанымі вакол тулава, пачынаючы ад плечыкаў і да прыдоннай часткі пасудзіны (Штыхов, 1978. С. 67—69).

Датыроўка гэтага тыпу керамікі мае важнае значэнне для храналогіі ўсяго комплексу паселішчаў і ўмацаванняў на Менцы. Па назіраннях украінскага археолага П. П. Талочкі, профіль «манжэтападобных» венчыкаў развіваўся па шляху ад простага да складанага і зноў да простага (Новое в археологіі... 1981. С. 301). На аснове даных раскопак Падола ў Кіеве кераміка датуецца X — пачаткам XI ст. У Шаставіцкам могільніку яна прысутнічае таксама ў курганах X ст. Для шэрагу помнікаў паўднёвай Русі датыроўка знаходзіцца ў межах X — пачатку XI ст. У Плiснеску для асобных тыпаў усталявана дата XI ст. Па назіраннях Б. А. Цімашчука, такі посуд пераважае ў керамічных комплексах X—XI стст. (Тимощук, 1982. С. 19—22). Уляснoй зоне асноўныя тыпы керамікі з'яўляюцца пазней, чым у лесастэпавых раёнах Русі. М. У. Малеўская ўстанавіла час бытавання розных груп керамікі ў Навагрудку, размешчаным у басейне Нёмана. Гаршкі з венчыкам-карнізікам складаюць найбольш характэрную частку керамічнага комплексу ніжняга гарызонту ў гэтым горадзе (Малевская, 1965. С. 92). Такія гаршкі служылі ў яка-

сці пахавальных пасудзін ў навагрудскім курганным могільніку і ў іншых пахаваннях XI ст. (Павлова, 1973. С. 59—61, рис. 16:10, 11). Ф. Д. Гурэвіч піша, што кераміка з карнізікам у Навагрудку прысутнічае ў ніжнім гарызонце з посудам са слаба адагнутым прама або коса зрэзаным краем элементарнага венчыка больш старажытнага тыпу канца X ст. (Гурэвич, 1981. С. 16). На тэрыторыі Полацкай зямлі ў курганах паблізу Заслаўя кераміка з карнізікам сустрэта ў пахаваннях з трупапалажэннем, датуемых XI ст. (Ляўданскі, 1928. С. 20, табл. III:1,2). Такая кераміка знойдзена ў 1977 г. у 15 км ад паселішча на Менцы паблізу вёскі Дворышча ў курганах з трупапалажэннем са шклянымі і сердалікавымі пацеркамі першай паловы XI ст. (Штыхов, 1992. С. 69, рис. 3:2; Штыхаў, 1992. С. 172, мал. 90:20—27; АіНБ, 1993. С. 214).

Трэці тып пасудзін з вертыкальным горлам на Менскім селішчы нешматлікі (1,7 %) і звычайна датуецца XII ст., але тут ён суіснуе з керамікай другога тыпу. Чацвёрты тып керамікі, распаўсюджаны ў гарадах Полацкай зямлі ў XII — першай палове XIII ст., на паселішчы на Менцы рэдкі — 14 %. Пяты тып пасудзін характэрны для XIV—XVI стст. (9,3 %).

Сценак ад гаршкоў — 7824. На іх лінейны арнамент (вузкі часты, вузкі рэдкі, шырокі часты, шырокі рэдкі). Хвалевы арнамент амаль адсутнічае. Донцаў ад гаршкоў звыш 600, з іх з клеймамі — 35. Прыкладна 70 кавалкаў патэльняў або крышак, выробленых на ганчарным крузе. У многіх знутры лінейны арнамент. Адзінкавымі экземплярамі прадстаўлены гліняныя міскі.

У 1983 г. у 80 м на ўсход ад гарадзішча на ўзвышшы правага берага Менкі зноў праводзіліся значныя раскопкі селішча. Вывучана плошча 480 кв. м (12×40 м). Магутнасць культурнага слоя ад 0,6 да 1,4 м. Выяўлены сляды наземнага жытла і гаспадарчыя ямы. Знаходкі ляпных гаршкоў, якія маюць плечыкі, пацвярджаюць, што славянскі пасёлак існаваў тут у IX ст. Яго росквіт прыходзіцца на мяжу X—XI стст. Выяўлены жалезныя наканечнікі стрэл (2 экз.), нажы (12 экз.), акоўка ад рыдлёўкі, бронзавыя арнаментаваныя бранзалеты з пашыранымі канцамі (2 экз.), трапецападобныя падвескі з арнаментам (2 экз.), падковападобныя фібулы (3 экз.), шыферная і сердалікавая пацеркі, глінянае і шыфернае праселкі, тачыльныя брускі (4 экз.). Кавалкаў кругавой керамікі канца X—XVII ст. прыкладна 2300 экз. Цікавая кафля з зялёнай палівай. Незвычайная для тэрыторыі Беларусі мураваная кафля з квадратнай пласцінай, на якой адлюстраваны воіны на кані і пешшу. Па краях пласціны надпіс, дзе чытаюцца словы «Ко Великому Новугороду».

Пры раскопках гарадзішча і селішча на Менцы знойдзена значная колькасць розных вырабаў з жалеза. У 1975 г. (раскоп 8) знойдзены ключы, падковападобныя фібулы са спіральнымі канцамі, калачападобныя красалы, дэталі вёдраў, наканечнікі стрэл і іншыя рэчы.

Разглядаючы матэрыял паселішчаў на Менцы, Э. М. Загарульскі сцвярждае: «Абсалютная большасць знойдзеных добра датаваных прадметаў укладваецца ў храналагічныя рамкі X — пачатку XI ст. Гэта дата падаецца цалкам прымальнай для паселішча ў цэлым... Паселішча праіснавала тут усё X ст. і спыніла сваё жыццё на мяжы X — XI стст.» І далей: «На паселішчы няма старажытнасцей другой паловы XI і XII ст.» (Загорульский, 1982. С. 58, 59).

Аднак на селішчы выяўлена кераміка, якая раней пачатку XII ст. датавана быць не можа. На вялікім гарадзішчы знойдзены дзве бронзавыя лірападобныя спражкі. Адна — «арачная» ўяўляе сабой тып, які бытаваў у X — XI стст. Такія лірападобныя спражкі прысутнічаюць у старажытнарускіх пахаваннях XI ст., сустракаюцца яны таксама ў пахаваннях XII ст. У Ноўгарадзе падобная «арачная» спражка была знойдзена ў пласце канца XI — пачатку XII ст. (Седова, 1981. С. 145, рис. 56:5).

У табліцы рэчаў з раскопу 3 на гарадзішчы Э М. Загарульскі прыводзіць ключ тыпу Б XII—XIII стст., заяўляючы, што ключ апынуўся «некалькі не на месцы» і час яго бытавання не супадае з датаваннем рэчаў, знойдзеных у гэтым слоі (Загорульский, 1982. С. 41). Пры другіх раскопках выяўлены два такія ключы на гарадзішчы і два на селішчы Такім чынам, на гарадзішчы і селішчы існавалі невялікія астаткавыя паселішчы ў XII ст.

На селішчы з рэчаў, якія маюць адносіны да сельскагаспадарчых адносін насельніцтва, знойдзены толькі абломкі касы і сярпа, на гарадзішчы — сашнікі. Больш даных маецца аб занятках рамяством. Аднастайнасць па форме і арнаменту вялікай колькасці гаршкоў канца X—XI ст. гаворыць на карысць іх мясцовай вытворчасці, што пацвярджаюць таксама ўскладненыя ганчарныя клеймы. У ювелірнай спрве выкарыстоўваліся гліняныя льячкі. Рамеснікі карысталіся долатамі, шыламі, брускамі. На Менцы сустрэты адходы ад вырабаў праселкаў з розавага шыферу і брак вытворчасці. Гэта ўскосным чынам можа сведчыць на карысць датыроўкі верхняга пласта XI або нават пачаткам XII ст.

**Вынікі даследавання.** Аб вялікім скапленні курганоў у вярхоўях Пцічы гаворыць спіс помнікаў былога Мінскага павета, які быў апублікаваны ў 1879 г (Игнатьев, 1879). Вялікая колькасць курганоў была зафіксавана ўздоўж старой гэтак званай Койданаўскай дарогі, якая праходзіла недалека ад гарадзішча на Менцы ў напрамку да Нямігі (Сербаў, 1927. С. 195—231). Шэраг курганных могільнікаў адзначаны ў рэчышчы Лошыцы. Верагодна, паміж гарадзішчам на рэчцы Менка і рэчышчам Свіслачы існаваў старажытны шлях, частка якога была зафіксавана на плане, знятым І. А. Сербавым у 1925 г. (Русаў, 1998. С. 103). На рацэ Лошыца ў 1987—1890 гг. выяўлена 5 паселішчаў X—XIII стст. Шырока даследавалася паселішча X—XIII стст. каля в. Дружба (былая Рылаўшчына). Выяўлены рэшткі 8 жытлаў, сярод знаходак фрагменты гліняных пасудзін з клеймамі ў выглядзе княжацкіх знакаў — трызубцаў. У вярхоўях Лошыцы даследавалася другое паселішча, агульная плошча якога дасягала 8 га. У X—XI стст. забудова была вельмі шчыльнай. Выяўлены шматлікія вырабы з жалеза (рэшткі сашнікоў, сярпоў, кос, сякер, крэсіваў і інш.), рэчы з каляровых металаў (пярсцёнкі, спражкі, накладка ад пояса дружынніка), мноства гліняннага посуду (гаршкі, міскі, патэльні, фрагменты амфар), сярэбраная манета, чаканеная ў X ст. у Германіі. Атрыманыя пры археалагічных раскопках шматлікія матэрыялы даюць падставу меркаваць, што ў X—XI стст. паселішча абслугоўвала волак са Свіслачы да паселішча на Менцы, якое тады было цэнтрам значнай воласці (Заяц, 1994. С. 124).

У наваколлі в. Новы Двор на беразе ракі Пціч зафіксаваны куст селішчаў (усяго чатыры) з керамікай X—XIII стст. Плошча селішча на

левым беразе Пцічы складае 4 га. Мусіць, тут быў знойдзены ў 1871 г. скарб манет, які трапіў у зямлю каля 1000 г. (Памяць. Мінскі раён. 1998. С. 39). Л. В. Аляксееў лічыць, што старажытныя паселішчы дрыгавічоў складалі племянное «сто» — племя, якое перасялілася сюды ў X—XI стст., ратуючыся ад даніны, узнікшага ў гэты час Турава (Алексеев, 1998. С. 378).

Такім чынам, археалагічныя матэрыялы яскрава даказваюць, што ў X ст. на Менцы ў густазаселенай мясцовасці існаваў цэнтр воласці, які дасягнуў росквіту ў першай палове XI ст. (мал. 38). Незвычайна вялікія яго памеры ў параўнанні з паселішчамі X—XI стст. Полацкага, Тураўскага княстваў, склад знаходак, выяўленне паблізу яго скарбаў куфіцкіх манет дазваляюць бачыць у ім населены пункт на водападзеле басейнаў Нёмана і Прыпяці. Вельмі магчыма, што гэта быў вядомы па летапісу Меньск. У другой палове XI ст. паселішчы на Менцы (і не толькі тут) прыходзяць у заняпад. У гэты час узнікае новы буйны населены пункт у іншым месцы, на р. Свіслач (Штыхов, 1978. С. 71—72). Гэты вывад можна лічыць прызнаным у сучаснай навуцы (Алексеев, 1998. С. 383—390).

## Мінск на Свіслачы

Горад на Свіслачы каля вусця Нямігі прыйшоў на змену свайму папярэдніку на Менцы, захаваўшы сваю назву Меньск (Менеск). Галоўнай прычынай «пераноса» горада былі працэсы, звязаныя з фарміраваннем удзельнага Менскага княства.

**Мінскае замчышча.** Найбольш важным археалагічным помнікам Мінска на Свіслачы з'яўляецца замчышча. Яно мела форму няправільнага авала, даўжыню ад р. Свіслач да процілеглага заходняга краю 300 м, шырыню 120—150 м, плошчу каля 3 га (мал. 41). Археалагічных раскопак да вайны тут фактычна не праводзілася. Толькі перыядычна археолагі вялі назіранні за землянымі работамі (Собаль, 1997. С. 2—3). У перыяд з 1945 да 1951 г. даследаванні ва ўсходняй частцы замчышча вяліся пад агульным кіраўніцтвам В. Р. Тарасенкі (Тарасенко, 1957. С. 198—257), у 1957—1961 гг. раскопкамі кіраваў Э. М. Загарульскі. За 12 гадоў былі даследаваны напластаванні плошчай 1760 кв. м. Усе матэрыялы надрукаваны ў яго манаграфіі, якая з'яўляецца значнай вяхой у археалагічным даследаванні Мінска на Свіслачы.

У культурных напластаваннях Мінскага замчышча сярэдняй магутнасцю 5—6 м Э. М. Загарульскі вылучае 20 гарызонтаў, нумерацыю якіх вядзе ад больш старажытных. Ён датуе адкладанні наступным чынам: гарызонты 1—3 — XI ст., 4—10 — XII ст., 11—15 — XIII ст., іншыя гарызонты — XIV ст. Да першага гарызонту ён адносіць рэшткі недабудаванага храма, выяўленыя Тарасенкам (Загорульский, 1982. С. 141—142).

Э. М. Загарульскі прапаноўвае распрацаваную ім рэчавую храналогію Мінскага замчышча, дзе даволі падрабязна выяўлена стратыграфія адкладанняў. Л. В. Аляксееў справядліва адзначыў адсутнасць узгодненасці ў датаванні перыядаў выкарыстання оўручскіх праселкаў і шкляных бранзалетаў у Мінску, паводле публікацыі Э. М. Загарульскага, з агульнапрызнанымі данымі ў іншых гарадах усходняга славянства

(Алексеев, 1987. С. 268). У надрукаваных табліцах выразныя тыпы керамікі XI ст. зусім адсутнічаюць (Загарульскі, 1982. С. 239, табл. 10, рис. 143). Але, як мы пабачым ніжэй, кераміка XI ст. на Мінскім замчышчы маецца, праўда, у нязначнай колькасці.

Пытанні датыроўкі старажытнасцей Мінскага замчышча цяжка вырашаць без сапастаўлення графікаў дэндрахраналагічнага аналізу шматлікіх спілаў бярвёнаў з графікамі драўніны Ноўгарада, Попацка, Пскова і іншых старажытных гарадоў лясной паласы, чаго дагэтуль прафесійна не зроблена. Вынікі вывучэння драўніны, якія атрымаў Э. М. Загарульскі, трэба лічыць умоўнымі. «Устанаўленне абсалютнай дэндрахраналагічнай шкалы драўляных збудаванняў старажытнага Мінска — справа будучага»,— піша даследчык (Загорульский, 1982. С. 148). Гэта ж самае можна сказаць аб спробе дэндрахраналагічнага вывучэння драўніны, што праводзіў П. А. Русаў, удзельнік раскопак 1982—1989 гг. у Мінску. Ім была папярэдне атрымана дата высечкі бервяна з субструкцыі вала — 1074 г.

У 1981 г. былі праведзены ахоўныя раскопкі амаль у сярэдняй частцы Мінскага замчышча на асфальтавым тратуары праспекта Машэрава (кіраўнік Штыхаў). На дне катлавана на глыбіні 2 м быў закладзены раскоп памерам 16×4 м. Агульная магутнасць напластаванняў 4—4,3 м. Зафіксаваны рэшткі жылля і гаспадарчых пабудоў, насцілы з дошак з пабудовамі. У вялікай колькасці знойдзены шыферныя праселкі, шкляныя бранзалеты. На невялікім участку раскопу выяўлена 242 кавалкі амфар. Яны размяшчаліся асобнымі групамі каля пабудоў і на насціле. У культурным пласце на 20 см вышэй мацерыка знойдзены фрагмент, верагодна, драўлянага сасуда з надпісам, дзе добра чытаецца слова «помози». Блізка да мацерыка знойдзена шыйная грыўня вагой 155 г. вырабленая, напэўна, з білона. Грыўня звіта з трох дратоў, мае пласцінкавыя вузкія канцы, арнаментаваныя трохвугольнікамі «воўчыя зубы» і скань апошняй чвэрці XI ст. (мал. 122). На мацерыку выяўлены адзінкавыя фрагменты пасудзін з патоўшчаным венчыкам і карнізікам (манжэтай) XI ст., зусім аналагічнымі кераміцы з паселішчаў на Менцы (мал. 123). На замчышчы на мацерыку сустракаецца таксама кераміка XII ст.

На Мінскім замчышчы прасочваюцца сляды паселішча XI ст. асабліва ў сярэдняй яго частцы. Неабходна падкрэсліць блізкасць форм керамікі ранніх тыпаў з замчышча на Свіслачы і паселішчаў на Менцы ў вярхоўі Пцічы, што яшчэ раз пацвярджае, насуперак выказанаму меркаванню Э. М. Загарульскага, адсутнасць храналагічнага разрыву паміж паселішчамі на Менцы і на Свіслачы. Аднак артэфактаў XI ст. на Мінскім замчышчы зусім мала.

У 1981—1982 гг. на праспекце Машэрава побач з будынкам магазіна «Алеся» на газоне быў распрацаваны раскоп 120 кв. м, які даў магчымасць упершыню прасачыць стратыграфію культурных адкладанняў у дзядзінцы ад рубяжа XI—XII стст. да XIX ст. (кіраўнік В. Е. Собаль). Магутнасць культурных напластаванняў склала 6,7 м. Выразных матэрыялаў XI ст. у гэтым раскопе не выяўлена (Собаль, 1997. С. 4). Драўляныя пабудовы датуюцца XII—XIII стст. і больш познімі часамі (Русов, 1992. С. 7—10).




*Мал. 41. Сумяшчэнне плана Мінскага замка XVIII ст. з тэрыторыяй размяшчэння раскопаў і траншэй 1946—1990 гг. найбольш значных даследаванняў: 1 — раскоп 1946—1961 гг.; 3 — раскоп 1959—1960 гг.; 15 — раскоп 1981—1982 гг.; 20 — раскоп 1986 г.; 17 — раскоп у катлаване станцыі метро «Няміга» 1984—1986 гг.; 21 — раскоп 1987 г.; 22 — раскоп 1988 г.*

Такім чынам, у стратыграфіі Мінскага замчышча назіраецца прыкладна тое, што адзначана ў стратыграфіі ўсходняй часткі Верхняга замка ў Полацку: значная нераўнамернасць магутнасці культурных напластаванняў XIII ст. і больш ранняга часу. Верагодна, напластаванні XIII ст. на Мінскім замчышчы складаюць не менш двух метраў, адкладанні XII ст.— толькі 60—80 см, а пласта XI ст. тут практычна няма. Граніца гэтак званага дамангольскага часу праходзіла на ўзроўні XIII—XIV гарызонтаў, па вызначэнні Э. М. Загаруьскага. Адкладанні XII ст. у старажытнасці былі ў многіх месцах пашкоджаны неглыбокімі перакопамі, чым тлумачыцца прысутнасць некаторых рэчаў XIII ст. амаль на мацерыку.

У сувязі з будаўніцтвам другой чаргі Мінскага метрапалітэна ўзнікла неабходнасць размяшчэння станцыі «Няміга» паблізу дзядзінца (замчышча). Ахоўныя раскопкі праводзіла экспедыцыя Інстытута гісторыі Акадэміі навук у 1983—1991 гг. (кіраўнік Г. В. Штыхаў).

Найбольш значныя і плённыя раскопкі былі праведзены ў 1984—1986 гг. на плошчы 2000 кв. м пры магутнасці напластаванняў 5,2—8,4 м. Шырыня раскопу 20,8 м дакладна адпавядала шырыні запраектаванай станцыі метро «Няміга». Даўжыня раскопу складала каля 100 м. (мал. 41:17).

Устаноўлена, што дзяцінец Мінска быў пабудаваны на невялікім узвышшы, што ўтварылася пры таянні дняпроўскага ледавіка. Пад двухмятровым пясчана-жвіравым адкладаннем, утвараючым узвышша, залягае валунны пласт, што садзейнічаў устойлівасці верхніх пластоў. Старажытнейшы вал дзядзінца збудаваны на канцы гэтага ўзвышша на гумусаванай паверхні, якая амаль не ўтрымлівае слядоў засялення, што папярэднічала часу заснавання горада.

Вывучаны паўднёвы ўчастак абарончага вала дзядзінца, уязная вежа-брама, частка вуліцы, якая вяла ад брамы (яе напрамак часткова супадае з сучаснай вуліцай Замкавай), рэшткі гарадской забудовы, якая прылягала да вала, і вялікі ўчастак, размешчаны перад валам непасрэдна каля ўезда ў дзядзінец з боку поймы Нямігі, дзе знойдзены адзнакі сярэдневяковай грэблі і моста XVII ст.

Абарончы вал будаваўся ў два этапы, што было раней устаноўлена Э. М. Загарульскім. Першапачатковы вал дасягаў 15 метраў у шырыню ля падэшвы. Яго ўмацоўвала ў ніжняй частцы драўляная канструкцыя і засцерагала ад падкопаў ворага ў выпадку асады. Захавалася 9 накатаў бярвёнаў, пакладзеных на падоўжныя лагі. Многія бярвёны счэсаны на 6—9 граняў. Праз непрацяглы час пасля ўзвядзення вал быў значна павялічаны, да 25—26 м у шырыню.

Другі этап будаўніцтва вала адрозніваецца іншымі прыёмамі яго ўзвядзення. Прымянялася канструкцыя з крукамі, вырабленымі з добра апрацаваных дубовых суччаў. Выступаючы на 18—20 см, яны падтрымлівалі ад спаўзання ўніз доўгія масіўныя бярвёны таўшчынёй 30 см, якія клалі ў выглядзе сцяны ўздоўж будучага ўнутранага боку вала. Даўжыня кароткіх папярочных бярвёнаў з крукамі не больш 2 м. З процілеглага боку рабіліся дзве прамавугольныя адтуліны для забівання калкоў. Такія кароткія пераклaдзіны размяшчалі ўпоперак падоўжнага бервяна праз 1,8—2 м. Атрымлівалася сцяна вышынёй у чалавечы рост, з якой ярусамі выступалі кароткія крукі. Прастору паміж збудаванай канструкцыяй і першапачатковым валам засыпалі пяском. Мінск меў па тым часе магутныя ўмацаванні (Заяц, 1996. С. 17—27).

Унутрывальную канструкцыю з крукамі ў Польшчы называюць «гакавай» (ад слова «гак», г. зн. крук). Яна была шырока распаўсюджана ў гарадах заходніх славян у X—XII стст. (Hensel, 1965. S. 422—427). Падобная канструкцыя вала XII ст. знойдзена археолагамі ў Маскве на тэрыторыі Крамля (Рабинович, 1964. С. 26—27), а таксама ў Ноўгарадзе, дзе яна датуецца XI ст.

На Мінскім замчышчы пад другой падсыпкай вала зафіксаваны культурны пласт таўшчынёй 10—12 см з гною і трэсак. У старажытнейшым адкладанні выяўлена значная колькасць знаходак: сердалікавая біпірамідальная пацерка, лязо сякеры, дэталі скуранога абутку, оўруцкія праселкі для верацяна. Тут жа знаходзілася добра выробленае ўтулкавае цясло для лёгкай ручной працы. Аналагічныя цёслы ў Ноўга-

радзе знойдзены ў пластах X—XI стст. (Колчин, 1959. С. 34, рис. 17.2). Фрагменты глінянага кухоннага посуду адносяцца ў асноўым да XI ст.

Ніжняя частка вала другога этапу будаўніцтва, уключаючы апісаную канструкцыю з прымяненнем крукоў, была перакрыта адкладаннямі XII—XV стст. У іх выяўлены шкляныя бранзалеты, оўручскія праселкі, самшытавыя грабяні, ключы, цыліндрычныя навясныя замкі, шкляныя караліі, кераміка, драўляныя вырабы, косці жывёлін. Знойдзены жалезны каленчаты ключ ад унутранага драўлянага замка. У Ноўгарадзе такія замкі і ключы бытавалі на працягу X і XI стст. (Колчин, 1959. С. 94).

Пры раскопках вала на замчышчы бачна, што драўляная ўнутрывальная канструкцыя паніжалася амаль да мацерыка ў тым месцы, дзе быў старажытны ўезд у дзядзінец. Гэты ўезд уяўляў сабой закрытыя зверху аб'ёмныя вароты, якія называліся ў Беларусі брамай.

Даследаваная тэрыторыя каля Мінскага замчышча займае частку русла і поймы рэчкі Нямігі паблізу ад яе вусця. У гэтых месцах Няміга працякала 900 год таму назад на 7—8,4 м ніжэй узроўня сучаснай дзённай паверхні. Правы рукаў Нямігі ў XI—XIII стст. абгінаў падножжа вала замчышча з поўдня, замяняючы сабой роў, які быў абавязковай прыналежнасцю абарончых збудаванняў сярэдневяковага горада. Ёсць верагоднасць, што ў вусці Нямігі, якая ўпадала ў Свіслач, існавала прыстань. Рэчка Няміга выконвала важную ролю ў тапаграфічнай структуры старажытнага Мінска канца XI—XIII ст. Разам з тым Няміга прыносіла шмат клопату жыхарам Мінска. Перыядычна яна затаплівала нізкі правы бераг, на якім паблізу дзядзінца жадалі пасяліцца гараджане. Таму такія спробы аказваліся няўдалымі.

Даныя археалагічных раскопак больш поўна дазваляюць асвяціць гісторыю засялення вывучанага ўчастка. У 1986 г. упершыню выяўлены сляды знаходжання чалавека на беразе Нямігі ў VI—VII ст. нашай эры. Выяўлена вогнішча, дзе была ляпная кераміка (буйны фрагмент верхняй часткі гаршка), падобная да посуду Банцараўскага гарадзішча, размешчанага на 8 км вышэй па Свіслачы. Напэўна, на беразе Нямігі спыняліся паляўнічыя або рыбаловы.

Тут жа знойдзены рэчы XII—XIII стст.: кавалкі прывезеных паўднёвых амфар, жалезныя наканечнікі стрэл, шпоры, ледаходны шып, які забіваўся ў капыт каня, рыбалоўны кручок, шкляныя бранзалеты. Унікальны рогавы кубік-штамп вырабу бляшак для пояса XVII ст. (памер аднаго боку 3 см) з біблейскімі сюжэтамі выяўлены на глыбіні 6,2 м у прадмацерыковым пласце — апрацаваны рог лася або аленя (Штыхаў, 1989. С. 172—174).

Ад больш позняга часу ў гэтым месцы захаваліся толькі гравійна-пясчаныя адкладанні, намытыя вадой, агульнай магутнасцю да аднаго метра. Да XVII ст. замчышча згубіла сваё ваеннае значэнне як крэпасць. Паменшылася таксама роля Нямігі. Нізкае забалочанае месца каля ракі сталі засыпаць зямлёй. У атрыманы насыпны слой забіваліся палі (сваі) са ствалоў сасны таўшчынёй 20—22 см. Яны служылі апорай для насцілаў, якія вялі да галоўных варот горада. Выяўлена некалькі соцень паляў, размешчаных радамі, забітых у грунт пад невялікім нахілам.

У другой палове XVII ст. месца каля вусця Нямігі было шчыльна забудавана. Тут размяшчаўся квартал горада побач з Ніжнім рынкам,

якi знаходзiўся трохi далей (на праезднай частцы сучаснай вулiцы М. Багдановiча). Раскапаны рэшткi жылых i гаспадарчых драўляных пабудоў, насцiлы вулiц i двароў, дрэнажныя водаадводныя збудаваннi (Русов, 1992. С. 37—44). Некаторыя хаты пасля пажару захавалiся на 6 венцаў, г. зн. амаль на палову сваёй першапачатковай вышынi.

**Пошукi пасада.** Пасад старадаўняга Мiнска даследчыкi спрабавалi знайсцi ў непасрэднай блiзкасцi ад замчышча, што зусiм зразумела. Адначасова ўзнiкала пытанне аб тэрыторыi, якая прымыкала да замчышча з поўначы каля сучаснага Дварца спорта (былыя Татарскiя агароды). Лiчылася, што яна нiколi не засялялася, бо тут заўсёды было непралазнае балота, абазначанае на ўсiх планах Мiнска, якiя надрукаваны. Аднак, паводле паданняў, у гэтых месцах знаходзiлася старажытная Мiкольская царква. Сярод Татарскiх агародаў размяшчаўся ўзвышаны ўчастак. У 1946 г. В. Р. Тарасенка пры ўдзеле Г. I. Пеха зрабiў раскопкi на 200—250 м на поўнач ад замчышча ва ўрочышчы Мiколка. Тут быў курган з пахаваннямi па абраду трупапалажэння i валападобны насып, дзе iх выяўлена 14. Пад насыпамi знаходзiлiся культурныя напластаваннi XII—XIII стст. i выяўлены рэшткi печы для абпальвання посуду (Тарасенко, 1957. С. 206, 247, 256). Рэчавы матэрыял часткова захаваўся ў Iнстытуце гiсторыi НАН Беларусi. Сярод керамiкi прысутнiчае значная колькасць фрагментаў пасудзiн XII—XIII стст. (Штыхов, 1978. С. 79, рис. 32:1—6). У канцы 80-х гадоў, калi праводзiлася пашырэнне русла Свiслачы i будавалася вадасховiшча, прыблiзна ў гэтым месцы была знойдзена тыповая керамiка XI ст.— гаршкi з патоўшчаным венчыкам i карнiзiкам (Штыхов, 1987. С. 23). На поўнач ад замчышча ў канцы XI—XIII ст. знаходзiлася паселiшча, затым узнiк могiльнiк. Месца паступова забалочвалася i стала вядома пад назвай «Татарскiя агароды». Забалочванне ўчасткаў, дзе раней былi культурныя напластаваннi,— з'ява даволi распаўсюджаная.

Перспектыўнай для пошукаў пасада лiчыцца мясцовасць на паўднёвы ўсход ад замчышча ўздоўж правага берага Свiслачы. На думку Л. В. Аляксеева, тут знаходзiўся вакольны горад (Нiжнi замак) старадаўняга Мiнска (Алексеев, 1966. С. 145, рис. 27). У вынiку даследаванняў 1974 г. быў выяўлены нязначны культурны пласт з керамiкай XII—XIII стст., што сведчыць аб iснаваннi слаба заселенага паселiшча. Бурнае развiццё гэтай часткi горада адносiцца да XVI—XVIII стст.

Побач са стацыянарнымi раскопкамi ў 1974—1988 гг. вялiся назiраннi за культурнымi напластаваннямi ў час земляных работ. Пры пракладцы дажджавога калектара «Цэнтр» даўжынёй 203 м у 1981—1982 гг. выяўлены адкладаннi ў заходняй частцы дзядзiнца i прылягаючым да яго з поўдня ўчастку (да вулiцы Нямiга). Быў зафiксаваны культурны пласт з матэрыяламi XII—XIII стст. як на тэрыторыi дзядзiнца, так i на суседнiм участку пасада. Плошча паселiшча параўнальна невялiкая.

Пасад старадаўняга Мiнска развiваўся ў паўднёва-ўсходнiм напрамку (мал. 42). Даследаваннямi на плошчы Свабоды, Музычным завулку, вул. Кiрыла i Мяфодзiя, Герцэна ўстаноўлена, што паселiшча ў канцы XI—XIII ст. iснавала на значнай тэрыторыi Верхняга горада. Культурны пласт гэтага часу меў таўшчыню не больш за 0,2—0,3 м, што сведчыць аб рэдкай забудове i слабай iнтэнсiўнасцi жыцця (Собаль, 1982. С. 44).

*Мал. 42. План размяшчэння ў гістарычнай зоне Мінска археалагічных раскопаў, шурфоў, будаўнічых катлаванаў і траншэй да 1984 г. (склаў В. Е. Собаль) з указаннем гадоў, калі гэтыя даследаванні праводзіліся*

Назіранні за будаўнічымі работамі і ахоўныя раскопкі, праведзеныя на вуліцы Герцэна ў 1997 г., пераканаўча гэта пацвердзілі (Штыхов, 1998).

Даныя археалагічных даследаванняў сведчаць, што пасадскія паселішчы ў XII—XIII стст. былі таксама на левым беразе Свіслачы, насупраць дзядзінца. Кераміка гэтага часу знойдзена ў дварах па сучасных вуліцах Старавіленскай, Камунальна-Набярэжнай, Максіма Багдановіча і на тэрыторыі 2-й гарадской бальніцы (мал. 42). Старажытнае паселішча было рэдказаселеным, таму культурны пласт адкладаўся нязначнай магутнасці з малой колькасцю знаходак (Собаль, 1997. С. 5).

Пасад Мінска ў XII—XIII стст. размяшчаўся ў некалькіх месцах: на правым беразе Свіслачы на поўнач і паўднёвы ўсход ад замчышча і на левым беразе гэтай ракі, каля Траецкай гары. Агульная плошча паселішчаў магла налічваць да 16—18 га, але яна была рэдка забудаванай і культурны пласт мае невялікую магутнасць (Собаль, 1982. С. 43—44).

# Віцебск

Горад першапачаткова развіваўся на левым беразе ракі Віцьба пры ўпадзенні яе ў Заходнюю Дзвіну. Ад Віцьбы паходзіць старажытная назва горада «Відбеск».

**Верхні замак.** Вынік геалагічнага свідравання, супастаўленне іх з матэрыяламі археалагічных раскопак дазволілі зрабіць выснову, што старажытныя паселішчы Віцебска размяшчаліся на асобных узвышшах у забалочанай лагчыне Віцьбы (Штыхов, 1978. С. 32; Левко, 1984. С. 23, рис. 10).

Найважнейшымі аб'ектамі археалагічных даследаванняў у Віцебску з'яўляецца тэрыторыя былых Верхняга і Ніжняга замкаў. Агульная даўжыня Верхняга замка складала 300 м, шырыня — 150 м. У яго ўсходняй частцы знаходзілася Замкавая гара вышынёй 15 м у выглядзе ўсечанай піраміды з роўнай пляцоўкай плошчай 0,7 га наверсе. Гара амаль уся была знесена ў канцы XIX ст. У 1928 г. А. М. Ляўданскі абследаваў яе невялікую частку, якая захавалася, з рэшткамі перамешанага цёмна-шэрага культурнага слоя таўшчынёй 1 м. Ён знайшоў ляпную кераміку, якая сведчыла аб існаванні паселішча плямёнаў днепрадзвінскай археалагічнай культуры і культуры тыпу верхняга гарызонту Банцараўшчыны VI—VIII стст., а таксама кругавы посуд X—XIII стст. Даследчык зрабіў выснову, што Замкавая гара з'яўлялася першапачатковым умацаваным цэнтрам Віцебска (Ляўданскі, 1930. С. 94). На мысе пры ўпадзенні Віцьбы ў Заходнюю Дзвіну знаходзілася другое паселішча. У XII—XIII стст. абодва паселішчы ўвайшлі ў пашыраны дзядзінец Віцебска. З XIV ст. ён стаў называцца Верхнім замкам (мал. 43, *а*).

Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Верхняга замка праводзілі Г. В. Штыхаў (1975 г.), В. М. Ляўко (1976 г.), М. А. Ткачоў (1977—1978 гг.), Л. У. Калядзінскі (1979—1983 гг.). Вывучана плошча каля 1116 кв. м, 500 з якіх раскапана да мацерыка. Магутнасць культурных напластаванняў 5—11 м. Па колеру, структуры і глыбіні залягання ён падзяляецца на чатыры асноўныя зоны, зверху залягае баласт XIX—XX стст., затым гумусаваныя адкладанні чорнага колеру XVII—XVIII стст., ніжэй — вільготныя адклады, якія змяшчаюць вялікую колькасць трэсак і гною XII—XVI стст., нарэшце шчыльныя карычневыя адклады канца XI ст. таўшчынёй 40—60 см (Ткачев, Колединский, 1983. С. 69).

Зафіксавана 11 будаўнічых ярусаў, раскапана каля 100 пабудоў жылога і гаспадарчага прызначэння. Зрубы захаваліся на вышыню 3—4, зрэдку на 5—6 вянцоў. Аснову планіроўкі складалі вуліцы з драўлянай вымасткай шырынёй ад 2 да 5 м. Уздоўж вымасткі прасочваліся рэшткі тына, што адгароджваў сядзібы (Ткачев, Колединский, 1984. С. 123—124).

Пры раскопках выяўлена некалькі тысяч знаходак з металу, гліны, дрэва, каменя, шкла, скуры. Гэта прылады працы, зброя, прадметы хатняга ўжытку, дэталі транспартных сродкаў. Прыгожы выгляд меў скураны абутак, упрыгожаны арнаментам. Знойдзеныя матэрыялы сведчаць пра рамесную вытворчасць, гандаль, заняткі насельніцтва промысламі і сельскай гаспадаркай.




*Мал. 43. Планы ўмацаваных цэнтраў гарадоў: А — Верхні і Ніжні замкі ў Віцебску; Б — Гарадзішча старога Лагойска з абазначэннем раскопаў і шурфоў (1—4), В — Замкавая гара ў Браславе; Г — гарадзішча і селішча ў Старым Барысаве (1—6 раскопы і шурфы)*

У паўночнай частцы Верхняга замка вывучаны абарончы вал XII—XIII стст. з унутранымі канструкцыямі з бярвення. Шырыня насыпу вала каля асновы склала 32—36 м. Раскапаны рэшткі каменнай сцяны пачатку XIV ст. Даследчыкі вылучаюць чатыры асноўныя этапы ў станаўленні Верхняга замка з IX да канца XVII ст.

**Ніжні замак.** Да Верхняга замка з паўднёвага і ўсходняга боку прылягае тэрыторыя Ніжняга замка. На Ніжнім замку праводзілі раскопкі Г. В. Штыхаў у 1963—1966, 1972 гг., В. М. Ляўко — у 1976 г., Т. С. Бубенька — з 1981 па 1989 г. Даследавана больш за 2 тыс. кв. м, магутнасць культурных напластаванняў месцамі дасягала 4,2—8 м.

Выразная стратыграфія прасочана каля паўднёвай сцяны Благавешчанскай царквы, якая знаходзілася на ўзвышэнні каля прыроднай лагчыны глыбінёй ад 2 да 4 м. Гэта абумовіла правяденне раскопак на адлегласці 4—6 м ад Благавешчанскай царквы. Выяўлена рэзкае паніжэнне мацерыка ў напрамку з усходу на захад з найбольшай магутнасцю культурнага слоя 4,2 м. На мацерыку і ў перадмацерыковым пласце таўшчынёй 20 см знойдзены ў значнай колькасці выключна грубая ляпная з прымешкай жарствы кераміка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., блізкая да пасудзін Банцараўшчыны і Тушамлі, абломкі тыгляў для выплаўкі каляровых металаў, каменная ліцейная форма для адліўкі лунніц, невялікі жалезны серп.

У заходняй частцы Ніжняга замка, дзе праводзіліся раскопкі, выяўлена кераміка VI—VIII стст. банцараўскай культуры, рэшткі матэрыяльнай культуры IX — пачатку X ст., якую можна з упэўненасцю звязаць з летапіснымі крывічамі. Старажытныя напластаванні прарэзаны гаспадарчымі ямамі X ст. У комплексе з раннекругавой керамікай знойдзены пацеркі: хрустальныя, сердалікавыя, шкляныя-лімонкі, пазалочаныя, пасярэбраныя. Большасць з іх датуецца X—XI стст. (Штыхов, 1969. С. 129). Да гэтага часу адносяцца і трапецападобныя падвескі, наканечнікі стрэл і іншыя прадметы. Ёсць пасудзіны, аналагічныя кераміцы доўгіх курганоў IX — пачатку X ст., і кераміка пераходнага тыпу, крыху падпраўленая на ганчарным крузе.

Выразнага размежавання праслоек з названымі тыпамі ляпной керамікі не прасочваецца У раскопе на беразе Дзвіны (1966 г.) на глыбіні 1,6—1,8 м, дзе пераважалі кругавыя гаршкі, знаходзіліся фрагменты ляпной слабапрафіляванай керамікі з расчосамі, пасудзіна «з плечыкамі», край якой упрыгожаны насечкай, і гаршчок, арнаментаваны па плечыках уцісканнямі, зробленымі пальцамі (Штыхов, 1978. С. 38, рис. 14).

Напластаванні XII—XIII стст. параўнальна тонкія і бедныя на знаходкі. Пасля збудавання Благавешчанскай царквы ў сярэдзіне XII ст. на ўзвышэнні вакол яе забудова не вялася і падтрымлівалася чысціня, а гэта замаруджвала ўтварэнне культурнага пласта. На глыбіні 0,9 м ад дзённай паверхні былі ўскрыты рэшткі чатырох драўляных насцілаў вуліцы, абазначаныя на плане Віцебска 1664 г., які неаднаразова друкаваўся і дэталёва разгледжаны (Красьнянскі, 1928. С. 39—93; Егоров, 1954. С. 49—57).

М. А. Ткачоў раскапаў каля найбольш вузкага месца Ніжняга замка (паблізу будынка універмага) участак ахоўнага вала з драўлянай рашэцістай канструкцыяй унутры насыпу, які належаў умацаванням Верхняга замка.

У 1983—1984 гг. Т. С. Бубенька знайшла рэшткі забудовы на схіле на поўдзень ад Благавешчанскай царквы, дзе зафіксавана 14 будаўнічых гарызонтаў і даследавана 65 драўляных збудаванняў. У XII—XIII стст.




*Мал. 44. Ювелірныя ўпрыгожанні з Віцебска, Ніжні замак: 1, 3, 7, 8, 10 — X — пачатак XI ст.; 2, 4, 5, 6, 9, 11, 12 — XII—XIII стст. (па Т. С. Бубенька)*

забудова навакольнага горада мела сядзібны характар (Бубенько, 1986. С. 338—339).

На ўсходнім канцы Ніжняга замка ў месцы размяшчэння ахоўнай вежы «Духаўскі круглік» ніжэй яе рэшткаў быў зафіксаваны культурны пласт XI — пачатку XII ст. (Бубенько, Ткачев, 1986. С. 339).

Даследаванне тэрыторыі былых Верхняга і Ніжняга замкаў Віцебска выклікала палеміку паміж археолагамі Л. У. Калядзінскім і Т. С. Бубень-

ка аб месцазнаходжанні вакольнага горада і памерах дзядзінца ў XII—XIII стст., сутнасць якой разгледзела В. М. Ляўко (Левко, 1994. С. 42). Меркаванне Т. С. Бубенька, што ў XII ст. вакольны горад размяшчаўся ў паўночнай частцы Дзвінскага ўзвышша, выклікае цікавасць, але яго нельга лічыць поўнасцю даказаным.

У выніку планамернага археалагічнага вывучэння, якое праводзіла Т. С. Бубенька на пасадзе, з'явілася магчымасць асвятліць пытанні фарміравання сацыяльна-тапаграфічнай структуры Віцебска (мал. 44). Было пацверджана, што ў IX ст. у вусці Віцьбы размяшчалася гняздо паселішчаў. Крывіцкае паселішча ў паўднёвай частцы Дзвінскага ўзвышша склалася ў выніку асіміляцыі балцкага насельніцтва, якое жыло тут у VI—VIII стст. Размяшчэнне ўсходнеславянскіх паселішчаў на скрыжаванні вельмі важных гандлёвых шляхоў спрыяла таму, што на рубяжы X—XI стст. на іх аснове сфарміраваўся раннесярэдневяковы горад. Дальні гандаль быў важным відам заняткаў жыхароў тагачаснага Віцебска (Бубенько, 1991. С. 7, 8).

**Узгорскі замак.** Археалагічныя назіранні і раскопкі паказалі, што правы бераг Віцьбы, дзе пазней узнік Узгорскі замак, ці астрог, «месца», пачаў засяляцца ў канцы X ст. Вясной 1972 г. праводзілася работа па рэканструкцыі вуліцы Леніна. Культурныя напластаванні на вуліцы зрываліся. Яны мелі таўшчыню ад 1 да 2 м, а зрэдку — 3 м. Г. В. Штыхаў правёў раскопкі на адлегласці 22 м на поўдзень ад вугла будынка музея на плошчы 104 кв. м. Найбольш старажытны гарызонт датуецца канцом X — пачаткам XI ст. Знойдзены пацеркі-лімонкі, кераміка, падпраўленая на ганчарным крузе.

Тэрыторыя Узгорскага замка знаходзіцца на плато паміж Заходняй Дзвіной і правым берагам Віцьбы. Памеры Узгорскага замка ў адпаведнасці з планам 1664 г. былі па лініі поўнач—поўдзень ад 250 да 340 м, усход—захад прыкладна 350 м.

Пры наглядзе за землянымі работамі ў 1972 г. уздоўж вуліцы Леніна знойдзена кераміка XII—XIII стст. у розных месцах. У час феадальнай раздробленасці паселішча займала значную частку тэрыторыі, дзе пазней узнік Узгорскі замак плошчай 10 га.

На тэрыторыі Узгорскага замка В. М. Ляўко раскапала ў 1979—1982 гг. звыш 600 кв. м культурнага слоя і правяла назіранні за будаўнічымі работамі на значна большай плошчы па вуліцах Талстога, Крылова, Суворава, Купалы, Леніна, Савецкай. Культурны слой быў нераўнамерны па магутнасці: ад 0,5 да 3,4 м. Паводле заключэння В. М. Ляўко, у некаторых месцах ён датуецца X—XIII стст., а на асноўнай тэрыторыі — XIV—XVII стст. (Левко, 1984. С. 11, 38, 82, 110).

У 1998 г. В. М. Ляўко правяла даследаванні на Лысай (Успенскай) гары, якая складае частку Узгорскага замка. У мацерыку былі выяўлены драўляныя канструкцыі зрубнага тыпу ў выглядзе «рашотак» XI — пачатку XII ст. Даследчыца мяркуе, што гэта рэшткі агароджы свяцілішча-трэбішча (Левко, 1999. С. 75—77).

У раёне вуліцы Крылова магутнасць культурных адкладанняў складае 2,8—3,4 м. На мацерыку выяўлены знаходкі XII ст. На тэрыторыі сквера Маякоўскага знойдзены матэрыялы X—XI стст., што пацвярджае ранняе засяленне берага Віцьбы ўздоўж выгіну ракі.

**Раскопкі ў Заручаўі і Задунаўі.** За Замкавым Ручаём, які агінаў Ніжні замак, знаходзілася Заручаўе (раён вуліц Калініна і Праўды). У XI—XII стст. яго заходняя частка ўздоўж берага Заходняй Дзвіны была заселена. На абрыве ракі краязнаўцы і калекцыянеры сістэматычна знаходзяць старыя рэчы (знойдзеныя два бронзавыя «канькі» XI—XII стст.). Другая частка Заручаўя доўга не забудоўвалася. Л. В. Аляксееў, прымаючы да ўвагі назву ўрочышча Заручаўскія валатоўкі, выказаў здагадку пра размяшчэнне тут курганнага могільніка, але гэта меркаванне патрабуе далейшага пацвярджэння (Алексеев, 1966. С. 168). На ўсходнім участку Заручаўя (на ўсход ад сучаснага будынка Аблвыканкама) у XIV ст. была пабудавана царква св. Духу.

У Заручаўі ў 1976—1981 гг. і ў 1986 г. праводзіла раскопкі і назіранні за культурным слоем В. М. Ляўко. Ёю вывучана звыш 1000 кв. м адкладанняў. На ўзвышаным участку знойдзены падмуркі жаночага кляштара XVII—XIX стст., пабудаванага, відаць, на месцы царквы св. Духу XIV ст. На беразе Заходняй Дзвіны выяўлены культурны слой XII ст., магутнасць якога 0,5—2 м.

На ўсход ад Ніжняга замка паблізу ручая Дуная размяшчалася Задунаўе. Тут, верагодна, існавала невялікае паселішча XII—XIII стст. Як паказалі раскопкі, у Задунаўі ўзнік адзін з пасадаў Віцебска (Левко, 1984. С. 38, 85). На правабярэжжы Заходняй Дзвіны культурных адкладанняў перыяду ранняга і высокага сярэднявечча археолагамі не выяўлена.

Па агульнай плошчы раскопак (звыш 5 тыс. кв. м), паўнаце даследаванняў розных частак Віцебск — адзін з добра вывучаных у археалагічных адносінах гарадоў Беларусі.

**Вынікі даследавання.** Такім чынам, археалагічныя даследаванні дапамагаюць асвяціць далёкае мінулае Віцебска і зрабіць абгрунтаваныя высновы. На рубяжы нашай эры на Замкавай гары знаходзілася гарадзішча днепра-дзвінскай культуры, якое належала балцкім плямёнам. У трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. узніклі паселішчы: адно, відаць, каля падножжа Замкавай гары пры вусці Віцьбы, другое — далей, на беразе Заходняй Дзвіны каля ручая. Агульная іх плошча складала каля 2 га. Замкавая гара працягвала выкарыстоўвацца як гарадзішча-сховішча ў час ваеннай небяспекі.

На гэтых жа мясцінах існавалі паселішчы ў IX — пачатку X ст. На гары размяшчаўся цэнтр Віцебска. Гарадзішча мела авальную пляцоўку памерам 130×60 м. Віцебск як горад сфарміраваўся з асобных паселішчаў крывічоў IX — пачатку X ст., якія папярэднічалі яму, на ўзвышшах у даліне ракі Віцьба. З канца X ст. пачынае засяляцца Узгор'е, дзе пазней узнік значны пасад Віцебска на правым беразе Віцьбы. Умацаванні на Замкавай гары неаднаразова перабудоўваліся.

На працягу XII—XIII стст. адбываўся працэс паступовага зліцця асобных пасадскіх паселішчаў у адзіную гандлёва-рамесную частку горада. У сталым сярэднявеччы Віцебск з'яўляўся значным беларускім горадам у Верхнім Падзвінні.

## Лукомль

Горад названы ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з падзеямі, якія адбываліся ў Полацкай зямлі ў 1078 г. «Тем же путем по Всеславе пожегь землю и повоевавъ до Лукамля и до Логожьска, та на Дрьютьскъ воюя...» (ПСРЛ. 1962. Т. I.)

**Даследаванне гарадзішча.** Гарадзішча ў сучаснай вёсцы Лукомль у 1930 г. даследаваў А. Д. Каваленя. У 1956 г. Л. В. Аляксееў зрабіў шурф 1×1 м. Археалагічныя помнікі Лукомля і яго наваколля сістэматычна даследаваў Г. В. Штыхаў у 1966—1974 гг.

Гарадзішча «Замак» знаходзіцца на беразе Лукамкі. Цяжка выказаць меркаванне аб першапачатковай форме і памерах помніка. Зараз шырыня пляцоўкі 36 м (з паўднёвага боку — 20 м), даўжыня — 63 м. Першапачатковая плошча гарадзішча была не менш 0,25 га. Вышыня гары ад узроўню вады ў Лукамцы 15 м.

Археалагічныя даследаванні на гарадзішчы праводзіў Г. В. Штыхаў у 1966—1969, 1971, 1973, 1974 гг. Вывучана плошча 704 кв. м у сямі раскопах. Дрэва ў ім не захавалася. Культурны слой у цэнтры пляцоўкі — да 2 м, але па краях павялічваецца, уключаючы рэшткі ўмацаванняў. У цэнтральнай частцы гарадзішча культурныя адклады падзяляюцца на тры асноўныя гарызонты: зверху залягае аднародны шэры пласт (першы гарызонт), сярэдні пласт складаецца з драўлянай трухі (другі гарызонт), ніжэй ідзе магутны чорны пласт (трэці гарызонт). Найбольш старажытныя насельнікі гарадзішча на мяжы нашай эры былі носьбітамі дзвюх роднасных балцкіх культур: днепра-дзвінскай і культуры штрыхаванай керамікі. У асобных месцах культурнага пласта і ў мацерыковых ямах была знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка.

Блізка да мацерыка ў ніжнім напластаванні кераміка прадстаўлена ляпнымі слабапрафіляванымі пасудзінамі, вельмі падобнымі на пасудзіны ніжняга гарызонту старажытнага Віцебска. Гліняныя прасліцы з вялікімі адтулінамі характэрны для помнікаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з. У Лукомлі іх знойдзена 10. Бронзавы бранзалет з патоўшчанымі канцамі мае шмат аналогій у старажытнасцях VI—VIII стст.

Ва ўсходняй частцы ніжні пласт мяжуецца з рэшткамі дрэва земляных умацаванняў. Каля гэтых рэшткаў выяўлены дзве ляпныя пасудзіны (Штыхов, 1969. С. 321). Падобныя гаршкі з акруглымі плечыкамі добра вядомы па раскопках курганоў VIII — пачатку X ст. на Полаччыне і Смаленшчыне. Да гэтага комплексу рэчавых знаходак адносяцца ланцэтападобныя наканечнікі стрэл (на гарадзішчы ў Лукомлі іх знойдзена 5), ляпныя гліняныя патэльні. Першапачатковы вал насыпаны з жоўтага мацерыковага пяску на культурным пласце, дзе сустрэта слабапрафіляваная кераміка трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. з.

Абарончыя збудаванні тут былі, калі жыхарамі гарадзішча сталі полацкія крывічы. Яны ў IX ст. узвялі драўляна-земляныя ўмацаванні, якія зніклі ў час пажару ў X ст.

Адкладанні IX—X стст. вызначаюцца па знаходках у верхнім гарызонце ніжняга чорнага пласта, дзе сустракаецца лепны і кругавы посуд. Знойдзена некалькі прадметаў з бронзы: пласцiністы пярсцёнак з захо-

дзячымі канцамі, бранзалет з тоўстага дроту, перакручанага пасярэдзіне, фрагмент вырабу, арнаментаванага выпуклым паяском. Гэтая дэталь характэрна для плоскіх скроневых кольцаў культуры доўгіх курганоў. Сярэбраная арабская манета (перайманне): Саманіды Наср І ібн Ахмед 914—943 гг. была побач са створкай каменнай формы для адліўкі ўпрыгожанняў-падвесак.

Сярэдні пласт (другі гарызонт), магутнасць якога 0,6—1 м, уключае труху, спарахнелыя трэскі, вугаль. На ўсей вывучанай плошчы зафіксаваны праслой апаленага зерня, дзе знойдзены земляробчыя прылады працы. У пласце трухі выяўлена цэлых ці ў абломках 17 жорнаў. Вакол іх шмат апаленага зерня. З пластом трухі звязана асноўная колькасць рэчаў пераважна XIII ст., але ў ім есць і рэчы XI—XII стст.

Важна ўлічваць стратыграфічнае месцазнаходжанне шкляных бранзалетаў і шыферных праселкаў. Найбольшая іх колькасць выяўлена на глыбіні 1,2—1,4 м. Амфар — 15 фрагментаў. На глыбіні 1—1,4 м знойдзены тыповыя авальныя крэсівы XIII ст. Напластаванні на глыбіні 1,2—1,4 м (умоўны семы пласт) трэба аднесці да першай паловы XIII ст.

Іншыя вырабы XII—XIII стст. належалі знаці: залатая ажурная пацерка, арнаментаваныя ручкі нажоў, касцяная накладка са стылізаванымі выявамі звяроў, абломак паліванага блюда, керамічная пісанка. Прадметы ўзбраення прадстаўлены 34 наканечнікамі стрэл, наканечнікам пікі, бронзавай булавой, жалезнымі пласцінкамі панцыра, касцяной пятлей ад капчана. Недаапрацаваныя ручкі нажоў, ювелірны пінцэт, жалезныя шлакі, гліняпае сапло, шматлікія тачыльныя камяні — сведчанне знаходжання ў дзядзінцы рамеснікаў, якія абслугоўвалі знаць

Кераміка гарадзішча прадстаўлена галоўным чынам абломкамі гаршкоў. Аб ёй можна меркаваць па даных статыстычнага падліку і класіфікацыі знаходак з раскопу І, дзе ўлічана 4007 фрагментаў ад пасудзін — 650 кавалкаў ляпных, 3357 кругавых. Сярод ляпной керамікі — тры асноўныя групы: посуд днепра-дзвінскай культуры ранняга жалезнага веку, культуры тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны і культуры доўгіх курганоў VIII — пачатку X ст. Апошні тып ляпной керамікі, як і ў Віцебску, знаходзіцца ў верхніх напластаваннях ніжняга гарызонту, суіснуючы з керамікай банцараўскай культуры і з ранпекругавым посудам.

Верхнія часткі кругавога посуду, пакладзеныя ў аснову класіфікацыі, прадстаўлены 1136 фрагментамі. З іх 688 размеркаваны па 5 асноўных групах. 448 вянцоў гаршкоў займаюць прамежкавае становішча паміж асноўнымі тыпамі. Першую групу складаюць гаршкі з простым адагнутым наверх вянцом і пакатымі плечыкамі. Гэта ранні тып кругавой керамікі. Другая і трэцяя групы керамікі са складаным вянцом і выгнутай шыйкай XII—XIII стст. Да пятай групы адносяцца абломкі гаршкоў XIV—XVI стст. з нізкім вянцом і шыйкай (Штыхов, 1969. С. 347, рис. 26).

**Раскопкі паселішчаў.** Каля гарадзішча выяўлены паселішчы. Селішча-1 плошчай да 3 га адкрыта на правым беразе Лукамкі. Тут у 150 м на поўнач ад гарадзішча праведзены раскопкі ў 1969 і 1970 гг Магутнасць культурнага пласта 0,6—1,5 м. У яго аснове знойдзены буйныя фрагменты ляпных пасудзін. Гэта кераміка другой паловы 1-га тысячагоддзя н. э. банцараўскай культуры і пасудзіны з плечыкамі тыпу доўгіх курганоў Смаленшчыны (VIII — пачатак X ст.). У мацерыку раска-




*Мал 46 Знаходкі з раскопак 1969 г селішча Лукомль· 1, 8, 9, 13, 16, 18, 19, 14, 22, 20, 23 — жалеза, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 17 — гліна, 10 — бронза, 11, 15 — косць, 21 — камень, 24—29 — шкло*

паны ямы розных эпох. Комплексы матэрыялаў дазваляюць аднесці ямы да часу ад VI да XVIII ст.

Пры даследаванні культурнага пласта на розных глыбінях знойдзена значная колькасць рэчаў. У ніжніх напластаваннях на глыбіні 1 м пераважалі больш старажытныя рэчы. Асаблівую цікавасць уяўляе цэльнаметалічны жалезны нож. Яго ручка завяршаецца невялікімі спіралямі. Лічыцца, што гэтыя нажы рытуальныя, належалі славянам і датуюцца VIII—IX стст. Аналогіі вядомы ў Польшчы, Украіне, Беларусі (Митрофанов, 1978. С. 108, 127, рис. 35:1).

На мацерыку былі два цэлыя тыглі для плаўкі каляровых металаў. Бронзавых трапецападобных падвесак — 4 экземпляры. Малая падвеска па памерах і арнаментацыі блізкая да ўпрыгожанняў з курганоў VIII—IX стст. каля в. Баркі. Тры іншыя вялікія падвескі дадаткова арнаментаваны выпуклымі лініямі па краях.

На тэрыторыі пасада знойдзены прадметы, якія пацвярджаюць занятак насельніцтва рамёствамі: жалезаробчым і кавальскім (жалезныя шлакі), ювелірным (тыглі для плаўкі каляровых металаў, абломкі каменных ліцейных форм, зліткі свінцу), кастарэзным (загатоўкі і незакончаныя апрацоўкай вырабы з рогу і косці).

Уяўленне аб кругавой кераміцы селішча-1 дае матэрыял з раскопу 1969 г. Яна падзяляецца на чатыры асноўныя групы. Першую групу складаюць раннекругавыя гаршкі з элементарным вянцом X — пачатку XI ст. і лінейным арнаментам па тулаву пасудзін. Другая група керамікі прадстаўлена посудам XII—XIII стст. Асобныя пасудзіны з вонкавага боку вянца маюць глыбокую канаўку, што з'яўляецца іх адметнай рысай. Гаршкі трэцяй групы з выгнутай лініяй профіля невыразныя. Чацвёрты тып позняй керамікі з нізкімі вянцом і шыйкай.

Селішча-2 знаходзіцца на левым беразе Лукамкі. Даследавана 244 кв. м культурнага пласта, магутнасць якога ад 0,5 да 1 м. Знойдзены шлакі і вырабы з жалеза, ключ ад накладнога драўлянага замка X—XI стст., падковападобная фібула, утулкавы наканечнік стралы, нажы, прадметы з косці (двухбаковы арнаментаваны грэбень, наканечнік стралы), шыферныя праселкі, створка каменнай ліцейнай формы для адліўкі падвесак і крыжыкаў. Кераміка зроблена на крузе. Ёсць кавалкі посуду XI ст., але ж пераважаюць гаршкі XII—XIII стст. (Штыхов, 1978. С. 51, 52).

У 1989 г. В. Л. Насевіч правёў новае археалагічнае абследаванне ў форме суцэльнага збору пад'ёмнага матэрыялу на агародах вёскі Лукомль. Гэты матэрыял дазволіў даследчыку ўдакладніць звесткі аб гістарычнай тапаграфіі Лукомля. Яшчэ больш цікава, што на левабярэжным пасадзе была знойдзена ляпная кераміка IX ст., гэта значыць таго часу, калі ўзнікла першапачатковае ўмацаванне крывічоў. Кавалкі ляпной керамікі даволі раўнамерна зафіксаваны на адрэзку ў 800—900 м уздоўж левага берага Лукамкі. Трэба пагадзіцца з вывадам Насевіча аб засяленні ў IX ст. практычна ўсяго левабярэжнага селішча. Акрамя вызначаных раней селішчаў-пасадаў Насевіч выявіў яшчэ два ўчасткі з матэрыяламі XI—XIII стст., што дазволіла яму ацаніць агульную плошчу тагачаснага паселішча прыкладна ў 15—16 га (Насевіч, 1994. С. 163).

Каля паселішчаў размяшчаліся курганныя могільнікі, рэшткі якіх захоўваліся да нядаўняга часу (Штыхаў, 1992. С. 75, 155—156).

Для развіцця сярэдневяковага Лукомля мела значэнне яго размяшчэнне на Лукамцы, якая, зліваючыся з Усвейкай, упадала ў Улу — прыток Дзвіны. Усвейка бярэ пачатак бліз вытокаў р. Бобр, дзе мог быць старажытны волак. Парэчча Усвейкі здаўна было ў сферы інтарэсаў Лукомля.

Такім чынам, Лукомль — старажытнейшае паселішча ўсходніх славян, заснаванае пры іх рассяленні ў Паўночнай Беларусі. У IX — пачатку X ст. ён з'яўляўся ўмацаваным пунктам крывічоў, які нагадваў горад-дзяржаву. Гэта быў гістарычны цэнтр воласці, дзе знаходзіўся родавы старэйшына са сваімі родзічамі ці княжацкі муж з чэляддзю, які збіраў даніну з мясцовага насельніцтва. Затым гэта воласць як асобая адміністрацыйная адзінка была ўключана ў склад Полацкай зямлі і Лукомль стаў так званым «прыгарадам» старшага горада Полацка.

У XIV—XVI стст. у Лукомлі быў замак, які належаў мясцовым князям.

## Заслаўе (Ізяслаўль)

У Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1128 г. змешчана паведамленне аб паходзе князя Уладзіміра Святаславіча на Полацк, яго шлюбе з палоннай полацкай князёўнай Рагнедай, наступным замаху яе на Уладзіміра (тады кіеўскага князя) і ссылцы Рагнеды з яе сынам у новы, пабудаваны для іх, Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе) «Воладимер же устрои город и да има нарече имя городу тому Изяславль и оттоле мечь взимають Роговоложи внуци противу Ярославлим внуком» (ПСРЛ. Т. I. С. 301).

М. М. Карамзін лічыў, што горад узнік у 985 г. Многія гісторыкі адносяць летапіснае паданне аб заснаванні горада Ізяслаўля да канца X ст. У 1127 г. у час пахода на Полацкую зямлю кіеўскага князя Мсціслава, сына Манамаха, на Ізяслаўль рухалася войска «четырьми путьми».

**Гарадзішча Замэчак.** На ўскраіне сучаснага Заслаўя за 2 км ад Свіслачы каля забалочанай поймы яе прытока Чарніцы знаходзіцца гарадзішча Замэчак, пабудаванае на ўзвышэнні з пакатымі схіламі. Пляцоўка амаль круглая (70×74 м), абнесена кальцавым валам і ровам, які ніколі не запаўняўся вадой. Вал разарваны ўездамі з ўсходняга і заходняга бакоў. У старажытнасці быў адзін уезд, верагодна, з усходу.

Раскопкі праводзілі ў 1926 г. А. М. Ляўданскі, у 1962 г.— Э. М. Загарульскі, у 1967 і 1971 гг.— Г. В. Штыхаў. Шырокія даследаванні правёў Ю. А. Заяц у 1978, 1979, 1981 і 1988 гг. Было даследавана 1240 кв. м. Магутнасць культурных напластаванняў складае ад 0,3 да 0,75 м. Вывучана планіроўка гарадзішча ў канцы X—XI ст. Выяўлены развалы глінабітных і каменных печаў, прыпечныя і падпольныя ямы. Дамы былі зрубныя, наземныя, некаторыя двухкамерныя. У паўднёвай частцы гарадзішча жылыя пабудовы размяшчаліся ў два рады ўздоўж вала. Знойдзена шмат керамічнага посуду X—XI стст., сляды апрацоўкі жалеза, вырабы з чорных і каляровых металаў, каменю, шкла (Штыхов, 1978. С. 85; Заяц, 1996).

**Заслаўскі замак.** За два кіламетры на паўночны ўсход ад Замэчка на

правым беразе Свіслачы на паўночнай ускраіне сучаснага Заслаўя на высокім пагорку размешчаны замак — комплекс абарончых збудаванняў XI—XVII стст., вядомы ў мясцовага насельніцтва пад назвай Вал. У сярэднявеччы замак аддзяляўся ад горада шырокім і глыбокім ровам, запоўненым вадой. Сістэма ставоў на рацэ Княгінька павышала ўзровень вады, ператвараючы замак у астраўное ўмацаванне (Ткачоў, 1978. С. 80). Помнік мае форму чатырохвугольніка, агульную замкавую плошчу каля 1,5 га. Археалагічныя даследаванні праводзілі: у 1921 г. В. П. Сушчынскі, у 1927 г.— А. М. Ляўданскі, у 1965 г.— Э. М. Загарульскі, у 1967—1968, 1970—1971 гг.— Г. В. Штыхаў, у 1972 г.— С. А. Адамовіч і У. А. Гілеп, у 1980—1983, 1994 гг.— Ю. А. Заяц. Усяго была вывучана плошча ў 1680 кв. м.

Выпучана некалькі перыядаў будаўніцтва і перабудовы абарончых збудаванняў Заслаўскага замка. У выніку даследаванняў Г. В. Штыхава і Ю. А. Зайца ўстаноўлена, што агульная тэрыторыя замка ўключала ў сябе тры пляцоўкі рознай вышыні. Перапад вышынь паміж пляцоўкамі ў пачатковы перыяд складаў ад 4 да 8 м. На працягу неаднаразовых перабудоў з мэтай выраўноўвання рэльефу рабіліся падсыпкі. Перыядычна культурныя адкладанні з верхніх пляцовак здымаліся і выкарыстоўваліся для ўмацавання валоў. Таму розніца ва ўзроўні пляцовак паступова змяншалася, а ў цэнтральнай, больш паніжанай, частцы замка магутнасць культурных адкладанняў дасягае месцамі 6 м і яны ўтрымліваюць матэрыялы канца X—XVIII ст. Дзядзінец летапіснага Ізяслаўля знаходзіўся на адной з дзвюх верхніх пляцовак (заходняй — па Штыхаву, усходняй — па Зайцу).

На мяркуемай верхняй пляцоўцы дзядзінца ў 1967—1968 гг. каля вежы сучаснай Спаса-Прэабражэнскай царквы Г. В. Штыхавым быў распрацаваны раскоп IV памерам 10×10 м. Магутнасць напластаванняў складае 1,8—2 м. У самым нізе выяўлены гарызонт эпохі Полацкага княства. Амаль на мацерыку знойдзены раздушаны на кавалкі пячны гаршчок з карнізікам па венчыку канца X—XI ст. (Штыхов, 1969. С. 139, мал. 6:12). Такая кераміка ў значнай колькасці выяўлена на гарадзішчы Замэчак. Гэта вядучы тып керамікі на гарадзішчы і паселішчы на Менцы ў вярхоўі Пцічы.

У 1994 г. Ю. А. Заяц даследаваў у заходняй частцы Заслаўскага замка плошчу ў 80 кв. м пры магутнасці напластаванняў ад 1 да 1,4 м. Большасць рэчавых знаходак з ніжняга пласта адносіцца да X—XIII стст. Сярод іх прадметы ўзбраення (Заяц, 1997. С. 52).

На тэрыторыі замка была вывучана плошча памерам у 1936 кв. м. Зроблена прарэзка вала, атрыманы папярочны і падоўжны стратыграфічныя прарэзкі палігона, знойдзены рэшткі зрубных драўляных пабудоў XII—XIII стст. і больш позняга часу, абарончых збудаванняў рубяжа XI—XII стст. (Заяц, 1997а. С. 48).

**Даследаванне пасада і курганоў.** Пасад старажытнага горада быў выяўлены Г. В. Штыхавым на поўдзень ад замка пры назіранні за землянымі працамі ў 1967 г. Каля рова, які абкружаў умацаванне, у 1967—1968 гг. даследавана 200 кв. м пры магутнасці адкладанняў 0,6—0,7 м, не ўлічваючы ям у мацерыку. У культурным пласце знойдзена вялікая колькасць кругавой керамікі X—XIII стст. і асобныя фрагменты пасудзін




*Мал 47 Ляпная керамiка з пасада ў Заслаўi (2) Прадметы з раскопак замка (1, 3—8)*

VIII—IX стст. (Штыхов, 1969. С. 139, рис. 6:2). Наяўнасць ляпной керамікі сведчыць, што гандлева-рамеснаму пасаду старажытнага горада папярэднічала больш старажытнае паселішча.

Даследаваннямі Ю. А. Зайца вывучаная плошча пасада павялічылася з 200 да 2562 кв. м. Устаноўлена, што культурны пласт пасада мае, паводле тэрыторыі распаўсюджання, пяць зон. Агульная плошча пасада ў XII — першай палове XIII ст. складала каля 11 га. Гэты час быў пікам развіцця старажытнага Ізяслаўля (Заяц, 1995. С. 37—39).

У бліжэйшай яго акрузе ў радыусе 2—3 км ад замка выяўлена 10 курганных могільнікаў і два адзінкавыя курганы, усяго 367 насыпаў X — першай чвэрці XII ст. Курганы вывучаліся рознымі даследчыкамі на працягу звыш 100 гадоў. Даследаваны 142 насыпы (большасць другой паловы X — першай паловы XI ст.). Курганы належаць пераважна крывічам, таксама дрыгавічам, у невялікай ступені фіна-уграм і лета-літоўцам. Храналагічна і тапаграфічна курганныя могільнікі звязаны з асобнымі паселішчамі і пэўнымі часткамі старажытнага горада Ізяслаўля (Штыхаў, 1992. С. 77—79; Заяц, 1995. С. 43—52).

Археалагічныя матэрыялы дазваляюць заключыць, што Ізяслаўль сапраўды ўзнік у канцы X ст. і размяшчаўся на месцы сучаснага Заслаўя. Верагодна, горад названы па імю Ізяслава, сына Рагнеды, унука полацкага князя Рагвалода.

## ДРУЦК

Летапісны «Дрютьск» названы па рацэ Друць, на якой ён быў заснаваны. Рэшткі старажытнага горада знаходзяцца каля в. Друцк Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Укладны запіс у Друцкім евангеллі XIV ст. пачынаецца словамі: «В Лето 6509 (1001) створена бысть церкви сия святая Богородица вь граде во Дрютьсце...» (Дакументы і матэрыялы... 1998. С. 111—113). У «Аповесці мінулых гадоў» Друцк названы пад 1092 г. як горад Полацкай зямлі. Але Уладзімір Манамах у сваім «Павучанні» прыгадвае, як ён ішоў на «Дрьютьск воюя» (1078 г.) (Дакументы і матэрыялы... 1998. С. 28). З першай паловы XII ст. Друцк — цэнтр удзельнага княства.

**Даследаванне дзядзінца.** Археалагічныя раскопкі Друцка праводзіў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, у 1956—1962, 1965 і 1967 гг.— Л. В. Аляксееў, які атрымаў новы вялікі матэрыял. На дзядзінцы (агульная плошча звыш аднаго гектара) даследавана 1800 кв. м культурных напластаванняў. Аб стратыграфіі, характэрнай для ўсяго дзядзінца, можна меркаваць па выніках даследаванняў 1967 г. (раскоп XI). Верхні пласт познасярэдневяковага перыяду мае прыкметы пажараў. Другі — без рэшткаў драўляных збудаванняў — параўнаўча тонкі. Трэці — таўшчынёй 0,8 м у верхнім гарызонце — мае труху, а ў ніжнім — трэскі, гной. Блізка да мацерыка — пажарышча, якое з усіх бакоў добра прасочваецца.

Ад першапачатковага родавага пасёлка культурныя напластаванні не захаваліся, але знойдзена фібула IV—V стст. На пагорку жыццё працягвалася і пазней, пра што сведчыць ляпная кераміка, у тым ліку канца 1-га тысячагоддзя н. э. Раннесярэдневяковы культурны пласт, блізкі да мацерыка, захаваў няшмат рэшткаў пабудоў. Іх перакрывае вогнішча. Блізка да мацерыка знойдзены пацеркі-лімонкі, ключы ад замкоў тыпу А. Гэты гарызонт Л. В. Аляксееў датуе канцом X—XI ст., а вогнішча, якое яго перакрывае,— 1116 г., калі горад быў разбураны войскам пераяслаўскага князя Яраполка Уладзіміравіча ў час барацьбы паўднёварускіх князёў з мінскім князем Глебам (Алексеев, 1966. С. 152). Пасля пажару ў цэнтры дзядзінца ўзнікла гарадская плошча. На поўдзень ад яе былі пракладзены дзве вузкія крывыя вуліцы: галоўная вяла да ўезду ў горад. Другая вуліца, перпендыкулярная да яе, ішла ўздоўж паўднёвага вала, непадалёку знаходзілася студня.

У паўднёвай частцы ўздоўж вуліц сярод шматлікіх частаколаў (платоў), што аддзялялі сядзібы адна ад адной, былі выяўлены ніжнія бярвёны жытлаў, свірнаў, хлявоў і іншых будынкаў. Гэта частка дзядзінца была заселена простымі людзьмі і вельмі густа забудавана. Рэшткі збудаванняў, шматлікія рамесныя вырабы сведчаць, што ў сярэдзіне XII — пачатку XIII ст. жыццё ў Друцку было вельмі інтэнсіўнае. Тут жылі рамеснікі, якія займаліся сваімі рамёствамі: слясарна-кавальскім (знойдзены розныя жалезныя прылады працы), ювелірным (выяўлены тыглі,




*Мал 48 План дзядзінца і вакольнага горада Друцка з абазначэннем раскопаў 1956—1962, 1965 гг (па Л В Аляксееву)*

каменныя ліцейныя формы), шавецкім (шмат абрэзкаў скуры), цяслярскім, ткацкім, ганчарным. Шпоры і страмёны, знойдзеныя на цэнтральнай плошчы, паказваюць, што на ей, напэўна, збіралася ў паход княжацкая дружына (Аляксееў, 1988. С. 38).

Заходняя частка дзядзінца была добра ўмацавана валамі. На гэтым участку знойдзены рэшткі двух вяпікіх будынкаў з печамі-каменкамі. Тут няма вуліц і ніякіх іншых пабудоў. Відаць, гэта тэрыторыя размяшчалася каля княжацкіх харомін або была часткай княжацкага двара, які займаў амаль палову дзядзінца і быў добра ўмацаваны. Сярод рэчаў — больш упрыгожанняў: шырокі пласцінкавы сярэбраны бранзалет са сканню, дзве залатыя пацеркі, сярэбраны віты і некалькі бронзавых пярсценкаў і інш. Выяўлены унікальныя рэчы: два шыферныя прасепкі — адно з княжацкім знакам, а другое з надпісам «кънямжинъ» (Алексеев, 1966. С. 156—157). Знойдзена шмат тыповых для старажытных цэркваў паліваных плітак, якімі масцілі падлогі. Яны моцна абгарэлі і не маюць слядоў вапны, іх клалі насуха. Шматлікія рэчы адносяцца да хрысціянскага культу: дэталь ад бронзавага хораса (царкоўнай люстры), крыжы-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі. У дзядзінцы існавала царква, але рэшткі самой пабудовы яшчэ не знойдзены.

Жыццё дзядзінца было звязана з ваенным побытам, пра што сведчаць рэчы ваеннага ўжытку. Засцерагальнае ўзбраенне прадстаўлена арыгінальнымі пласцінамі ад панцыра, фрагментамі кальчугі. Сярод наканечнікаў стрэл трапляюцца экземппяры ад ранніх утулкавых двухшыпавых да параўнальна позніх бранябойных. Зброя бпізкага бою прадстаўпена навершшам мяча, дзідай і кісцянямі.

**Вакольны горад і пасад.** З поўначы да дзядзінца прымыкаў вакольны

горад плошчай звыш 1,3 га. Уезды ў дзядзінец былі з паўночнага боку (з вакольнага горада) і з усходняга, звернутага да ракі Друці. Дугападобны вал вакольнага горада вышынёй да 7 м разарваны ўездамі ў двух месцах. Вакольны горад узнік у канцы XI — пачатку XII ст. Ён двойчы спальваўся. Яго вал двойчы насыпаўся і меў шматпластавы вонкавы схіл. Раскопкі вакольнага горада праводзіў Л. В. Аляксееў у 1965 г. Каля ўезда ў дзядзінец адкапаны рэшткі маставой, зробленай з бярвёнаў. Пры выездзе з дзядзінца шмат гадоў існавала кузня. Тут знойдзены некалькі соплаў вялікіх памераў, яма для шлакаў, кузнечныя вырабы. Відаць, кузня служыла патрэбам княжацкай дружыны. На мацерыку выяўлены тыповая кераміка X — пачатку XI ст. і некалькі кавалкаў ляпных пасудзін VIII—IX стст. Цікава, што ў вакольным горадзе знойдзены маёлікавыя пліткі для мазаічнай падлогі. Іх памеры 9×9 см, колер — жоўты і зялёны. Гэтыя пліткі такія ж, што і знойдзеныя ў дзядзінцы,— без слядоў вапны, у большасці выпадкаў яны пашкоджаны пажарам (Алексеев, 1965. С. 169).

Непасрэдна за ровам, які абкружаў гарадзішча, у старажытнасці існаваў пасад. Яго межы вызначаюцца распаўсюджаннем культурных напластаванняў і выпадковымі знаходкамі старажытных рэчаў (шыферныя праселкі, кераміка і інш.) на тэрыторыі сучаснай вёскі Друцк. Пасад абкружаў падкovападобную ўмацаваную частку горада з поўначы, захаду і з ўсходу. На левым беразе Друці прыкмет паселішча не выяўлена (Алексеев, 1966. С. 151). З 1961 да 1969 гг. у наваколлі Друцка Л. В. Аляксееў і З. М. Сяргеева вывучалі курганы. Атрыманы факты аб крывічах, якія былі тут у X—XI стст. (Сергеева, 1969. С. 107—111). У 1999—2000 гг. новыя раскопкі ў Друцку правяла В. М. Ляўко на гарадзішчы, вакольным горадзе і пасадзе. На вакольным горадзе выяўлены рэшткі паселішча VI—VIII стст.

Археалагічныя матэрыялы ў адпаведнасці з данымі пісьмовых крыніц паказваюць, што Друцк быў значным горадам Полацкай зямлі, які ўзнік у мясцовасці, шчыльна заселенай крывічамі. У перыяд раздробленасці XII—XIII стст. гэта быў квітнеючы горад. Прыкладна ў сярэдзіне XVI ст. умацаванні Друцкага замка канчаткова заняпалі і больш не ўзнаўляліся (Штыхов, 1978. С. 83). За межамі гарадзішча ўзнікла вёска, якая існуе дагэтуль і завецца, як і старажытны горад,— Друцк.

## Лагойск

Сярэдневяковы «Логожеск» упамянуты ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха разам з Лукомлем і Друцкам пры апісанні паходу на Полацкую зямлю ў 1078 г. Адносна паходжання назвы ёсць два меркаванні: паводле першага, яна паходзіць ад слова «лог» (беларускае — «лагчына»), бо горад размяшчаўся паміж узвышшамі ў больш нізкім месцы. Але на думку мовазнаўцаў, назва горада ўтварылася ад назвы ракі «Логоза». Лагойск абазначаны ў Лаўрэнцьеўскім летапісным зводзе пад 1127 г. У другой палове XII ст. Лагойск быў сталіцай удзельнага княства (Штыхов, 1978. С. 92).

**Замчышча на беразе Гайны.** Гістарычны цэнтр сярэдневяковага Лагойска — замчышча знаходзіцца на правым беразе р. Гайна ў Лагойскім

парку (выкарыстоўваецца як гарадскі парк культуры і адпачынку). Пляцоўка плошчай у 1,5 га ўмацавана валам вышынёй 8 м і ровам глыбінёй да 5 м. Яны з трох бакоў абкружаюць гарадзішча. З чацвёртага, усходяга, боку — стромы бераг Гайны з забалочаным поплавам ракі. У сярздневяковыя часы равы запаўняліся вадой. З паўднёвага боку, дзе цяпер уезд на пляцоўку, размяшчалася брама (мал. 43, б).

Пачаткова дзядзінец быў, мусіць, удвая меншы за плошчу сучаснага замчышча ў Лагойскім парку. Паводле звестак пісьмовых крыніц, у канцы XIV ст. замак у Лагожску пашыраўся князем Вітаўтам, а пазней перабудоўваўся некалькі разоў.

Археолагі Інстытута гісторыі (кіраўнік Г. В. Штыхаў) у 1966, 1968, 1971 і 1980 гг. даследавалі на дзядзінцы 440 квадратных метраў. Асноўныя даследаванні праводзіліся недалёка ад абрыву берага Гайны. Культурны пласт магутнасцю 0,8—1,2 м (у паўночна-ўсходяй частцы раскопу дасягаў 1,7 м) мае два гарызонты — верхні і ніжні, паміж імі прасочваецца праслоек пяску.

У ніжнім гарызонце пераважаюць матэрыялы часоў Полацкага княства. Рэшткі драўляных пабудоў не захаваліся. Знойдзены невялікі гаршчок з лінейным арнаментам другой паловы X ст. і некалькі фрагментаў ляпных пасудзін (Штыхов, 1969. С. 123). Сярод шматлікіх кавалкаў керамікі вылучаюцца тыпы, характэрныя для X—XIII стст.

**Рэчавыя крыніцы.** У Лагойску выяўлена шмат вырабаў з жалеза. Па колькасці пераважаюць наканечнікі стрэл — 21 экземпляр. Некаторыя шылападобныя і ўжываліся для паражэння воінаў у кальчугах, што спляталіся з драцяных кольцаў. Тонкі наканечнік свабодна праходзіў праз такое кальцо. Знойдзены прадметы ўзбраення воіна і амуніцыі конніка — цуглі, шпоры, страмёны. Гэтыя рэчы, звязаныя з ваенным побытам, сведчаць аб значнай ролі воінаў у пачатковы перыяд гісторыі горада на Гайне.

Жалезныя ключы для адмыкання найбольш старажытных вісячых замкоў уяўляюць сабой маленькія лапатачкі з прамавугольнымі ці круглымі лопасцямі і добра вядомы па археалагічных раскопках многіх гарадоў Усходняй Еўропы X—XI стст. (Штыхоў, 1969. С. 124, рис. 3:17). Рэчавыя крыніцы пераканаўча пацвярджаюць засяленне дзядзінца Лагойска ў раннім сярэднявеччы на мяжы X—XI стст. Рэдкая знаходка — жалезная гіра ад бязмена важыць 2250 грам. Зверху гіры добра захавалася пятля для яе падвешвання да бязмена. На такім бязмене можна было ўзважыць груз у 5—7 пудоў.

Вырабаў з каляровых металаў выяўлена нямнога. Сярод іх тыповая плоская падвеска-конік XI ст. Гэта ўпрыгожанне адначасова з'яўлялася амулетам. Памеры вырабу 3,5 см. Форма яго стандартная: на галаве стылізаваныя вушы, хвост стварае кальцо для падвешвання. Цела коніка ўпрыгожана цыркульным арнаментам. Такія амулеты насілі звычайна на грудзях на ланцужках, зрэдку ў складзе маністаў. Лічыцца, што нашэнне конікаў-амулетаў звязана з язычніцкімі вераваннямі і старажытным культам каня. Распаўсюджанне такіх конікаў ахоплівае паўночныя землі ўсходнеславянскага свету, але найбольшая іх канцэнтрацыя назіраецца ў вобласці рассялення смаленска-полацкай групы крывічоў. Выказана меркаванне аб вырабе гэтых упрыгожанняў у Смаленску ці недалёка ад




*Мал. 49. Рэчы з раскопак Лагойскага замчышча (XI—XIII стст.): 1—6, 8, 11, 13 — жалеза; 7, 9, 10 — бронза; 12 — косць (1971 г.)*

яго. Акрамя Лагойска ў Беларусі такія конікі знойдзены ў Віцебску, Мінску, Лукомлі, што сведчыць аб агульных рысах культуры крывічоў XI—XII стст.

Бронзавая падкovападобная фібула з патоўшчанымі канцамі і раслінным арнаментам сведчыць аб сувязях усходніх славян з лета-літоўскімі насельнікамі Прыбалтыкі ў XII — пачатку XIII ст. Такія фібулы-спражкі знойдзены таксама пры раскопках у Мінску, Браславе, Барысаве, Навагрудку.

У параўнанні з іншымі гарадамі старажытных зямель Беларусі ў Лагойску вельмі мала шкляных бранзалетаў, усяго тры экземпляры (карычневы, зялёны, сіні). Валынскіх праселкаў 16 экземпляраў і некалькі фрагментаў паўднёвых амфар. Побач з рэчамі XII ст. знойдзена керамічная плітка, пакрытая жоўтай палівай (квадратная, памерам 8 см, таўшчынёй 2 см). Такімі пліткамі масцілі падлогу ў цэрквах. Але на ёй няма слядоў вапны, відаць, такія пліткі клалі на паверхню падлогі насуха. Другая плітка разбітая. Вельмі магчыма, што ў Лагойскім дзядзінцы была пабудавана царква. Яна магла быць драўлянай.

Аб занятках насельніцтва земляробствам сведчаць тры сашнікі XII—XIII стст. і масіўны нож-«касáр» даўжынёй 26 см. Такія прылады выкарыстоўваліся для высякання хмызнякоў у месцах, якія прызначаліся для сяўбы ярыны.

У верхнім гарызонце Лагойскага замчышча адкапаны фундамент пабудовы XVI ст., дзе было шмат кафляў з зялёнай палівай, якія ўпрыгожвалі яе інтэр'ер. Наогул, лагойская кафля XVI—XVII стст. багата дэкарыравана рэльефнымі выявамі (арнаментальнымі, расліннымі, сюжэтнымі, антрапаморфнымі), якія сведчаць пра ўплыў гуманістычных, асветніцкіх ідэй.

Пасад сярэдневяковага горада размяшчаўся з паўднёвага боку дзядзінца. Відаць, у раннім сярэднявеччы ён быў рэдка заселены, бо культурны пласт гэтага часу нязначны і бедны на знаходкі рэчаў. У 1980 г. за 150 м на захад ад уезда на замшчышча вяліся назіранні за землянымі работамі. Напластаванні маюць магутнасць 1,4 м. Зверху прасочваўся позні гарызонт жоўтага пяску, ніжэй быў чорны культурны пласт, у якім знойдзены кавалак гаршка XVI ст. і дно ад шклянкі (Штыхаў, 1980. С. 7).

У Лагойску на адлегласці 0,5 і 1,5 км ад дзядзінца знаходзяцца два гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі. Больш блізкае называецца Паненскай гарой. Гэтыя гарадзішчы ранняга жалезнага веку не маюць адносін да ўзнікнення Лагойска як усходнеславянскага горада.

Археалагічныя раскопкі пацвердзілі, што Лагойск узнік на сто гадоў раней таго часу, калі звесткі аб ім трапілі ў пісьмовыя крыніцы.

## Браслаў

Старажытнарускім летапісам, якія дайшлі да нас, невядомы горад Полацкай зямлі Браслаў (сучасны раённы цэнтр Віцебскай вобласці). Ён узгадваецца ў «Хроніцы Быхаўца», дзе гаворыцца, што ўладанні літоўскага князя «прасціраліся па мяжу латвійскую і па Завілейскі Браслаў і да самай ракі Дзвіны». Гэта быў горад Полацкай зямлі, бо, як сведчыць тая ж пісьмовая крыніца, вялікія князі літоўскія, «жадаючы пашырыць

сваю краіну, сабралі сілы літоўскія і жамойцкія і пайшлі на Русь да Браслава і Полацка» (Хроника Быховца, 1966. С. 35). Тут не ўказваецца дата падзей. Паводле паведамлення М. Стрыйкоўскага, яны адбываліся ў 1065 г. (Stryjkowski, 1846. S. 14, 58). Некаторыя лічаць, што падзею трэба датаваць 1068 г., калі Усяслаў Полацкі знаходзіўся ў Кіеве, верагоднасць чаго не выключаецца (Семянчук, 1997. С. 60).

Мусіць, Браслаў (у крыніцах XV—XVI стст.— Браславль) заснаваны полацкім князем Брачыславам Усяславічам (1003—1044) як парубежная крэпасць Полацкага княства і названы яго імем, аб чым пішуць даследчыкі (Алексеев, 1960. С. 96, 105). Але, паводле думкі В. А. Жучкевіча, першапачатковая назва паселішча магла ўтварыцца ад балцкага (брод), якое было ўспрынята славянамі і пераасэнсавана (Жучкевич, 1974. С. 35). Браслаў ніколі не з'яўляўся значным гандлёвым і рамесным цэнтрам і яго насельніцтва да XX ст. не перавышала дзве тысячы чалавек (Шыдлоўскі, 1991. С. 76).

**Замкавая гара.** Найбольш важным археалагічным помнікам Браслава з'яўляецца гарадзішча Замкавая гара. У канцы XIX ст. яно было коратка апісана супрацоўнікам Віленскага музея старажытнасцей Ф. В. Пакроўскім. У 1955—1956 гг. раскопкі на Замкавай гары распачаў маскоўскі археолаг Л. В. Аляксееў. У 1989 г. тут працавала сумесная экспедыцыя Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, Інстытута гісторыі АН Беларусі і Браслаўскага музея (супрацоўнік К. С. Шыдлоўскі) пад кіраўніцтвам М. А. Ткачова і Г. М. Семенчука. У 1990 г. раскопкі праводзіла экспедыцыя Інстытута гісторыі і Браслаўскага музея (Семянчук, Шыдлоўскі, 1994).

Гарадзішча знаходзіцца ў цэнтры Браслава на перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята на гары, якая ўзвышаецца на 14 м. Пляцоўка Замкавай гары памерам 200×100 м, абнесена валам вышынёй 3—4 м на паўднёвым усходзе, 9 м — на паўночным захадзе. Л. В. Аляксееў правodзіў раскопкі на плошчы 400 кв. м ва ўсходняй частцы гарадзішча (мал. 43, в). Было ўстаноўлена, што культурны пласт каля валоў таўшчынёй 1,6 м складаецца з трох гарызонтаў. У напрамку да цэнтра пляцоўкі пласт памяншаецца да 0,25 м. На мацерыку выяўлена вялікая колькасць круглых ям гаспадарчага прызначэння. Выклікае цікавасць наяўнасць побач з кругавым посудам ляпной керамікі, тыповай для крывіцкіх гарадзішчаў Паўночнай Беларусі. Сярод знаходак — аднабаковыя і трапецападобныя касцяныя грабяні XI—XII стст., крэсіва, жалезная шпілька з загнутым канцом, бурштынавая пацерка, бразготка з прарэзкай (Алексеев, 1960. С. 101). Аналіз астэалагічных матэрыялаў, зроблены У. І. Цалкіным, паказвае перавагу ў жывёлагадоўлі свіней, што лічыцца характэрным для латгальскіх плямёнаў. Ніжні гарызонт аддзяляецца ад сярэдняга рэшткамі пажарышча (таўшчыня да 20 см), дзе выяўлены наканечнік суліцы з лістападобным пяром, калачападобнае крэсіва з язычком, скроневае кальцо дрыгавіцкага тыпу і інш.

У сярэднім гарызонце культурных напластаванняў таўшчынёй да 0,7 м зафіксаваны рэшткі дзвюх драўляных пабудоў. Першая памерам 4×4 м у паўночным вугле мае рэшткі печы. Адкапаны ніжнія бярвёны другой гаспадарчай пабудовы, якая мела даўжыню сцяны 2,2 м. У гэтым гарызонце знойдзены два жалезныя пісалы другой паловы XII—XIII ст.,

шкляныя і сердалікавыя пацеркі, падковападобныя спражкі, бронзавыя бранзалеты і пярсцёнкі, шкляны бранзалет (адзіны ў Браславе). Кераміка сярэдняга гарызонту прадстаўлена пасудзінамі плаўна прафіляваных форм з высокай шыйкай, характэрных для гарадоў Полацкай зямлі. Выяўлена шмат касцей свойскай і дзікай жывёлы, зерне жыта, ячменю, аўса.

У верхнім гарызонце знойдзены манета-«кейстатаўка» XIV ст., ромбападобны наканечнік стралы, ключы ад замкоў, кафля і інш.

У 1989—1990 гг. раскопкі на Замкавай гары прадоўжылі М. А. Ткачоў і Г. М. Семянчук. Агульная даследаваная плошча складае 900 кв. м. Новыя матэрыялы дазволілі ўдакладніць датыроўку культурных напластаванняў. Ніжні гарызонт датуецца трэцяй чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.— пачаткам — сярэдзінай XI ст.; сярэдні — другой паловай XI—XIII ст.; верхні — XIV—XVIII стст. (Семянчук, 1997. С. 62).

У ніжнім культурным пласце чорнага колеру знойдзена шмат ляпной керамікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Яна дрэнна апалена, сценкі тоўстыя, невялікія венчыкі слаба адагнутыя вонкі. Слой пажарышча аддзяляе ніжні гарызонт ад сярэдняга. Паселішча было спалена прыкладна ў першай палове XI ст. Найбольш інтэнсіўнае жыццё на Замкавай гары фіксуецца ў канцы XI—XIII ст., аб чым сведчыць значны культурны пласт, які ўтрымлівае разнастайны багаты археалагічны матэрыял (прадметы бытавога прызначэння, узбраенне воіна і рыштунак вершніка, керамічныя вырабы і інш.). Выяўлены фрагменты прычарнаморскіх амфар, шыферныя праселкі (некалькі дзесяткаў). Знойдзены тыповыя жаночыя ўпрыгожанні: крывіцкія бранзалетападобныя скроневыя кольцы, дротавыя пярсцёнкі, кручаныя бранзалеты. Значны працэнт належыць упрыгожанням балцкага характару: падковападобныя фібулы, спіралепадобныя пранізкі, складаныя трапецападобныя падвескі, бранзалеты з зааморфнымі канцамі. Знойдзена чарапахападобная фібула XI—XII стст., характэрная для старажытнасцей ліваў, а таксама тры нацельныя крыжыкі, што сведчыць аб распаўсюджанні хрысціянства. Верхні гарызонт па колькасці знаходак уступае папярэднім, але тут выяўлена шмат кафлі XVI—XVII стст. (Семянчук, 1997. С. 64, 65).

**Этнічная прыналежнасць насельніцтва.** Паспяхова даследаваліся абарончыя збудаванні Замкавай гары. Устаноўлена, што першапачаткова на невялікай адлегласці ад краю пляцоўкі гарадзішча быў выкапаны роў. Зямлю выкарыстоўвалі для ўзвядзення ўнутранага вала, на якім размяшчалася драўляная канструкцыя, магчыма, частакол. Яго ніжнія канцы ўмацоўваліся камянямі. Абарончая сцяна загінула ў IX ст. пры пажары. Праз некаторы час пляцоўка гарадзішча была пашырана. У аснове новага вала выяўлены драўляныя канструкцыі. На трэцім этапе будаўніцтва вал быў значна павышаны (Семянчук, 1997. С. 62).

Першыя пасяленцы з'явіліся на Замкавай гары ў Браславе каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. У IX — пачатку X ст. сюды праніклі крывічы і адбыўся працэс асіміляцыі абарыгенаў. У XI ст. быў заснаваны ўмацаваны пункт, які развіваўся як парубежны горад Полацкай зямлі. У матэрыяльнай культуры Браслава XI—XIII стст. асабліва адчуваецца ўплыў культуры балтаў.

Даныя аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва дапаўняюць курганы




*Мал. 50. Сярэднявяковыя балцкія ўпрыгожанні з Браслава (па Г. Семенчуку)*

ў наваколлі Браслава. Ва ўрочышчы Заборныя Гумны курганны могільнік даследаваў Ф. В. Пакроўскі ў 1893 г. Пахавальны абрад — крэмацыя і інгумацыя. Могільнік належаў балта-славянскаму насельніцтву і датуецца XI—XII стст. У наваколлі Браслава даследаваны таксама курганы каля вёсак Ахрэмаўцы (Бяльмонты), Опса, Укля, на беразе Богінскага возера каля в. Вусце, якія адлюстроўваюць працэс асіміляцыі славянамі мясцовага насельніцтва на заходняй ускраіне Полацкага княства (Дучыц, 1991. С. 105—110; Археалогія і нумізматыка... 1993).

Браслаў — адзін з пунктаў, які ўзнік у выніку славянскай каланізацыі края. З гэтых месц крывічы пранікалі далей — у ніжняе Падзвінне. На ўсходнім узбярэжжы Балтыйскага мора знаходзіліся латышскія плямёны, якія суседнічалі з полацкімі крывічамі. Уся тэрыторыя ўздоўж Заходняй Дзвіны была падпарадкавана Полацку. У пачатку XIII ст. германскія феадалы пачалі завяванне Усходняй Прыбалтыкі. У ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны (Даўгавы) знаходзіліся фарпосты Полацкай зямлі, гарады Герцыке і Кукенойс (цяпер Ерсіке і Кокнесе на тэрыторыі Латвіі). На прыкладзе гэтых гарадоў можна бачыць спробу княжацкай усходнеславянскай каланізацыі ў ніжнім цячэнні Даўгавы да з'яўлення тут нямецкіх рыцараў (Штыхоў, 1978. С. 59—62).

## Барысаў

Па сцвярджэнню В. Н. Тацішчава, горад пабудаваў у 1102 г. Барыс, сын полацкага князя Усяслава Брачыславіча (Татищев, 1963. С. 123).

У 1127 г. супраць Барысава накіроўвалася моцная чарнігаўскае войска. У дакументах XV—XVII стст. неаднаразова ўпамінаецца замак у Барысаве. Ён знаходзіўся на востраве р. Бярэзіны і меў добрыя драўляныя ўмацаванні, фундамент з раўнасценных зрубаў, запоўненых зямлёй і камянямі, зверху былі астрог (тын) з дубу і вежы (Даўгяла, 1930. С. 266—267).

**Гарадзішча ў Старым Барысаве.** А. М. Ляўданскі ў 1928 г. агледзеў замчышча на востраве памерам 300×200 м, абкружаным старыцай Бярэзіны (зараз раён вул. Гогаля) і выказаў думку аб заснаванні тут Барысава ў XI ст. (Ляўданскі, 1930. С. 259). У 1965—1968 гг. Г. В. Штыхаў даследаваў гэты ўчастак. Прыкмет паселішча ранняга перыяду Полацкага княства выявіць не ўдалося. Затым было высветлена, што старажытнае гарадзішча знаходзіцца ў пасёлку Стары Барысаў (цяпер Старабарысаў) на левым беразе Бярэзіны за 4 км ад замчышча. Яно ўзвышаецца на 8—10 м над забалочаным поплавам. Участак у 1 га адасоблены штучным ровам. Уезд на гарадзішча з паўночна-ўсходняга боку (Штыхов, 1978. С. 100).

Гарадзішча займае канец вялікага мыса, агароджанага з усходу возерам і ручаём, а з захаду — доўгім ярам. Раскопкі зроблены ў чатырох месцах. Магутнасць культурных напластаванняў да 0,9 м (не лічачы ям у мацерыку). Месцамі ацалелі адкладанні XII—XIII стст., але дрэва не захавалася (мал. 43, г).

Выяўлена невялікае паўзямлянкае жытло, паглыбленае ў мацярык на 0,8 м і знішчанае ў выніку пажару. У запаўненні былі закопчаныя камяні ад печы-каменкі, знойдзены рэчы: 5 шкляных бранзалетаў і пярсцёнак,




*Мал. 51. Рэчы з раскопак Старога Барысава: 1—4, 6—8, 15, 16, 18, 19 — жалеза; 5, 9, 12 — бронза, 13 — косць; 14, 17 — камень (1971 г.)*

2 шыферныя праселкі, сякера XII—XIII стст., 2 нажы, тачыльны камень, замок, касцяны трапецападобны грэбень і яшчэ 8 дрэнна захаваўшыхся жалезных вырабаў, а таксама залатое трохпацеркавае скроневае кальцо, упрыгожанае сканню. Такія скроневыя кольцы ў Беларусі рэдкія, але часта сустракаюцца ў скарбах на Кіеўшчыне, у самім Кіеве, у Старой Разані (Корзухина, 1954. С. 30, табл. 48; Монгайт, 1955. С. 149, рис. 7).

Рэчавы інвентар з раскопак у Барысаве тыповы для горада Полацкай зямлі XII—XIII стст. Шкляныя бранзалеты па колеру і форме таксама звычайныя для іншых гарадоў усходніх славян. Толькі адзін бранзалет незвычайны — цёмна-чырвонага колеру, гладкі, тонкі, у папярочным сячэнні роўны 0,3 см. У невялікай колькасці чырвоныя бранзалеты знойдзены ў Смаленску і Оршы. Кераміка ў Барысаве амаль ўся кругавая, багата прадстаўлены посуд XII—XIII стст. Знойдзеныя дзве бронзавыя падкавападобныя фібулы з патоўшчанымі арнаментаванымі канцамі (мал. 51).

**Селішчы каля гарадзішча.** На селішчы, якое непасрэдна прылягае да гарадзішча, праведзены раскопкі ў двух месцах. Магутнасць культурнага напластавання да аднаго метра. Дрэва ў ім не захоўваецца. Кераміка з селішча аналагічная глінянаму посуду гарадзішча. Гэта ж самае можна сказаць аб іншых вырабах (шкляных бранзалетах, верацённых праселках). Не зусім звычайнымі знаходкамі з'яўляюцца буйная бронзавая пустацелая зярнёная пацерка, характэрная для дрыгавічоў, і смальтавы кубік сіняга колеру, якія ўжываліся для мазаікі ў Кіеве ў XI ст. (Штыхов, 1971. С. 164).

Такім чынам, у старажытным Барысаве асноўнае селішча знаходзілася на поўнач ад гарадзішча і мела плошчу 2—3 га. Паселішчы існавалі ў іншых размешчаных паблізу месцах. На суседнім мысе ў 150 м на паўночны захад ад гарадзішча ў 1979 г. у шурфе 2×4 м знойдзена кераміка XIII ст. і больш позняга часу. На левым беразе Бярэзіны на адлегласці ў 1 км ад гарадзішча знаходзіцца курганны могільнік. У складзе жаночых упрыгожанняў ёсць філігранныя (дрыгавіцкія) пацеркі (Штыхаў, 1992. С. 99, 167). Насельніцтва Барысава, відаць, было змяшаным і складалася з дрыгавічоў і крывічоў.

Без спасылкі на крыніцу В. Н. Тацішчаў пісаў: «У 1002 г. Барыс Усяславіч полацкі хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўшыся, заснаваў горад Барысаў, назваў у гонар свайго імя і людзей тут пасяліў» (Татищев, 1963. С. 123). В. Я. Даніловіч выказаў меркаванне, быццам горад быў заснаваны для палонных яцвягаў (Данилевич, 1896. С. 72). Але пры раскопках на гарадзішчы і пасадзе старажытнага Барысава прыкмет прысутнасці яцвяжскага насельніцтва не выяўлена. Гэта ж самае трэба сказаць пра даследаваныя курганы ў наваколлі Старога Барысава. Можна сцвярджаць, што горад быў заснаваны на месцы ўсходнеславянскага паселішча XI ст., аб чым сведчыць кераміка гэтага часу, знойдзеная ў невялікай колькасці.

## Копысь

Горад названы ў Сафійскім першым летапісе, а таксама ў іншых крыніцах пад 1060 г. (у Ніканаўскім летапісе пад 1059 г.). Копысь належала да Полацкай зямлі, але ў 1116 г. адышла да Смаленска.

Раскопкі на гарадзішчы ў Копысі былі распачаты Л. А. Міхайлоўскім у 1950, 1962 гг., іх матэрыялы засталіся амаль не апублікаванымі. Г. В. Штыхаў у 1968—1969 гг. зняў план гарадзішча, правёў новыя раскопкі. Гарадзішча мае перыметр вала 370 м, памеры пляцоўкі 80×60 м. Вышыня вала з унутранага боку месцамі дасягае 5 м.

Першапачатковае гарадзішча было акруглым мысавым з крыху выступаючым паўночным краем, з усіх бакоў абкружаным вадой. Уезд знаходзіўся з усходняга боку (Штыхов, 1978. С. 93). У XVI—XVII стст. вал неаднаразова падпраўляўся, а ў час Паўночнай вайны па загаду Пятра I дадаткова ўмацоўваўся, чым тлумачыцца назва замчышча Пятроўскі вал.

На гарадзішчы ў Копысі Г. В. Штыхавым даследавана 240 кв. м. Найменшая магутнасць культурных напластаванняў зафіксавана з паўднёвага боку — 0,8 м. Мацярык паніжаецца к поўначы, дзе магутнасць напластаванняў складае 2 м. Асабліва павялічваецца ў паўночным напрамку таўшчыня ніжняга гарызонту, які мае чорны колер. Гэта ў асноўным культурны пласт XII—XIII стст., але ў ім сустракаюцца больш познія рэчы, якія трапілі сюды ў выніку перакопаў (Штыхов, 1971. С. 64). Дрэва на дадзеным участку не захавалася. У мацерыку выяўлена гаспадарчая яма, у ёй — ніжні камень ад жорнаў.

Знойдзена вялікая колькасць адходаў кастарэзнага рамяства ў выглядзе абрэзкаў рагоў ласёў і аленяў (200 кавалкаў), што сведчыць аб існаванні кастарззнай майстэрні XII ст. Тут жа былі касцяныя вырабы: накладка, упрыгожаная цыркульным арнаментам, двухбаковыя грабяні, шахматная фігура-паддзя (Штыхов, 1970. С. 310). Шмат вырабаў з жалеза. Знойдзена жалезнае пісала з фігурнымі выразамі па лапатачцы. У Ноўгарадзе, Полацку такія пісалы датуюцца сярэдзінай XIII ст. Ляпная кераміка адсутнічае. Абломкі керамікі XI ст.— адзінкавыя. Кругавая кераміка прадстаўлена шматлікімі гаршкамі XII—XIII і XIV—XVII стст. Шмат шкляных бранзалетаў.

У 1972 г. зкспедыцыяй Беларускага дзяржаўнага універсітэта (кіраўнік Э. М. Загарульскі) былі працягнуты раскопкі на гарадзішчы. Напластаванні раскопваліся ў трох месцах агульнай плошчай 316 кв. м. Выяўлены рэчы, звязаныя з вайсковай справай: фрагмент перакрыжавання шаблі, 13 наканечнікаў стрэл, шпоры, цуглі з кольцамі, бронзавае навершша булавы XII—XIII стст. з пірамідальнымі шыпамі, упрыгожанае лініямі буйназярністага ўзору. Унікальнай знаходкай з'яўляецца бронзавы абразок з выявай святых Барыса і Глеба ў поўны рост, які, відаць, узыходзіць да кіеўскай іканаграфіі (Загорульский, 1973. С. 190—191).

Каля паўднёва-заходняга вугла гарадзішча вал з боку пляцоўкі даследаваўся траншэяй даўжынёй 5 м. У профілі прасочаны два будаўнічыя перыяды. Першапачатковы вал насыпаўся з дробнага пяску, але сюды трапілі рэшткі культурнага пласта, дзе выяўлена крутарогая лунніца XI ст. Згодна з заключэннем Э. М. Загарульскага, пабудова ядра вала адбывалася ў другой палове XI — пачатку XII ст., а гарадзішчу папярэднічала неўмацаванае паселішча. Старажытны вал быў вышынёй да 5 м адносна пляцоўкі гарадзішча. У другі перыяд гісторыі ўмацавання (XVI — першая палова XVII ст.) вал быў некалькі пашыраны і падняты яшчэ на 2 м.




*Мал. 52. Знаходкі XI—XIII стст. з Копысі: 1, 5, 8 — косць; 2, 3 — шкло; 4, 6 — жалеза; 7, 9 — бронза*

У 1980 г. невялікія раскопкі ў Копысі на гарадзішчы правяла В. М. Ляўко. Пры гэтым была выяўлена значная колькасць кругавой керамікі (Левко, 1983. С. 80, рис. 18).

Пасад старажытнага горада знаходзіўся на паўночны ўсход ад гарадзішча на тэрыторыі сучаснага гарадскога пасёлка. Сляды старажытнага паселішча выяўлены ў час земляных работ у 1969 г. у цэнтры гарадскога пасёлка (у двары камбіната бытавых паслуг). Пры даследаванні катлавана для будынка зафіксаваны напластаванні чорнага колеру таўшчынёй 1,4 м. У ніжняй іх частцы былі кавалкі гаршкоў XII—XIII стст., аналагічныя матэрыялам гарадзішча, аднак пераважала кераміка XIV—XVII стст. (Штыхов, 1969. С. 13).

За ўсе гады даследаванняў на гарадзішчы Пятроўскі вал вывучана плошча ў 664 кв. м. Выяўлена селішча, якое прылягае да яго. Разнастайныя знаходкі гавораць аб інтэнсіўным жыцці ва ўмацаваным цэнтры ў XII—XIII стст. Даныя археалагічных даследаванняў пацвярджаюць, што Копысь сапраўды ўзнікла ў другой палове XI ст. У XII—XII стст. яна была невялікім горадам на Дняпры.

## Орша

Летапісная «Ръша» ў «Аповесці мінулых гадоў» упамінаецца двойчы: пад 1067 і 1116 гг. Гарадзішча знаходзіцца на мысе пры сутоцы Аршыцы і Дняпра з пляцоўкай трохвугольнай формы плошчай 0,57 га і заплыўшым ровам з усходняга боку (мал. 53). У 1926 г. на гарадзішчы правёў невялікія раскопкі А. М. Ляўданскі (Ляўданскі, 1930. С. 36—43), у 1963 г.— Г. В. Штыхаў.

Значныя даследаванні ў Оршы зроблены пад кіраўніцтвам Ю. І. Драгуна ў 1965—1968 гг. (археалагічная экспедыцыя Беларускага дзяржаўнага універсітэта), калі ў дзядзінцы было раскапана 503 кв. м. Магутнасць напластаванняў складала 1,6—3,6 м.




*Мал. 53. План гістарычнага цэнтра Оршы*

На ўсёй плошчы дзядзінца культурныя адкладанні стратыграфічна раздзяляюцца на тры напластаванні. У кожным з іх вылучаюцца больш дробныя праслойкі. У ніжнім пласце чорнага колеру месцамі прасочвалася струхлелая драўніна. Зафіксавана ад 7 да 11 будаўнічых гарызонтаў з рэшткамі жытлаў і гаспадарчых зрубных пабудоў. Пры кожнай далейшай забудове дзядзінца дамы знаходзіліся ў некалькіх метрах ад размяшчэння ранейшага жытла.

Рэчавы матэрыял ніжняга пласта даволі значны. Вялікая колькасць вырабаў з жалеза, якія датуюцца XII—XIII стст. Частыя знаходкі прадметаў узбраення воіна і рыштунку конніка. Захаванасць вырабаў з медзі і бронзы ў культурным пласце Оршы нездавальняючая. Выяўлены 370 абломкаў шкляных бранзалетаў, вялікая колькасць абломкаў ад кухонных гаршкоў, тыповых для курадоў Полацкай зямлі (Драгун, 1967. С. 213).

Ю. І. Драгун правёў абследаванне за межамі Аршанскага гарадзішча. Пры дапамозе бурэння атрыманы графічны профіль сумежнай тэрыторыі і пацверджана, што гарадзішча было абаронена ровам, пракапаным ад Дняпра да Аршыцы. Ён прыкметны на плане Оршы 1781 г. За ровам знаходзіўся пасад, з усходняга боку абаронены другім ровам, які злучаў Днепр і Аршыцу і быў выкапаны ў XIV ст. пры расшырэнні галоўнай умацаванай часткі горада. Гэты роў захаваўся да цяперашняга часу. Участак, аб якім ідзе размова, даўжынёй 150 м, плошчай 3,5 га, намнога перавышае маленькае старажытнае гарадзішча. Гэта тэрыторыя была ўмацавана і вядома пад назвай «замак».

У 1979 г. пракладалася траншэя для каналізацыі на правым беразе р. Аршыца насупраць гарадзішча. На глыбіні 1,2—1,6 м знаходзіліся

старыя пахаванні, а ніжэй выяўлены абломак шклянога дробнакручанага бранзалета блакітнага колеру і свінцовы прадмет з невялікай адтулінай, які нагадвае прасліца (Штыхов, 1979. С. 15). Гэтыя знаходкі дазваляюць меркаваць, што на правым беразе Аршыцы непадалёку ад гарадзішча ў XII—XIII стст. размяшчаўся пасад. Пасад быў, верагодна, таксама на левым беразе Аршыцы.

Археалагічныя раскопкі ў 1988 г. на гарадзішчы ў Оршы на плошчы 72 кв. м, праводзіла В. М. Ляўко. Выяўлены рэшткі вала XII ст. Знойдзена невялікая колькасць матэрыялаў XI ст. і шмат рэчаў XII—XVII стст., у тым ліку пацеркі (рабрыстыя лімонкі), наканечнікі стрэл, шматлікія шкляныя бранзалеты мясцовай вытворчасці XII—XIV стст., вырабы з жалеза, каляровага металу, косці і інш.

У 1989—1991 гг. В. М. Ляўко правяла раскопкі за межамі першапачатковага гарадзішча і ўнесла некаторыя карэктывы ў пытанне аб пабудове замка (мал. 53). На яе думку, земляны вал, які абкружаў пляцоўку гарадзішча XII ст., у XIV ст. не разбураўся, а роў, які знаходзіўся ля яго падножжа, запаўняўся адкладаннямі больш позняга часу (Левко, 1993. С. 6). Даследаванне Оршы дазволіла ўстанавіць, што абарончы вал гарадзішча пабудаваны ў XII ст. Засяленне тэрыторыі за ровам у падножжа гарадзішча (будучы замак) і фарміраванне пасада ў Заворшшы таксама адбывалася ў XII ст. Тады ж пачалося засяленне тэрыторыі будучага Надняпроўскага пасада (Левко, 1995. С. 14, 15). У XII ст. існавала значная па памерах Аршанская валасць.

## Паходжанне гарадоў Полацкай зямлі

**Зародкі гарадоў.** У крывічоў-палачан існавалі гістарычныя перадумовы для ўзнікнення гарадскіх паселішчаў. Зародкі найбольш старажытных гарадоў Полацкай зямлі размяшчаліся на месцы гарадзішчаў-сховішчаў трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., але ў адрозненне ад гэтых сховішчаў узнікаючыя гарады былі заўсёды населенымі, пры іх існавалі неўмацаваныя пасёлкі, якія ў далейшым, прыкладна ў X ст.,ператварыліся ў гандлёва-рамесніцкія пасады гарадоў, якія фарміраваліся. Археалагічнай прыкметай з'яўлення паселішчаў гарадскога тыпу можа служыць раннекругавая кераміка ў культурным слоі (Полацк, паселішча на Менцы, Віцебск, Лукомль), бо ўжыванне ганчарнага круга — сведчанне адасаблення рамяства, а гэта ў археалагічнай навуцы агульнапрызнана.

Некаторыя даследчыкі схільныя лічыць узнікненне гарадоў усходніх славян з прычыны дзейнасці нарманаў (Белецкий, Лесман, 1979. С. 312). З пісьмовых крыніц вядома, што нарманы бывалі ў Полацку ў IX—XI стст. Цяпер мы маем даныя раскопак Полацка і вынікі даследаванняў шматлікіх курганоў у яго наваколлі, пра што гаварылася вышэй. З аналізу археалагічных даных вынікае, што ўплыў скандынаваў на характар матэрыяльнай культуры гарадоў Полацкай зямлі ў цэлым невялікі (Штыхов, 1982. С. 52—53).

Для Полацкай зямлі можна адзначыць некалькі тыпаў паселішчаў, якія з развіццём гандлю, рамёстваў, абрастаючы пасадамі, ператвараліся ў гарады: умацаваныя пасёлкі крывічоў, што існавалі ў VIII—IX стст.

(Полацк, Віцебск, Луколь); абарончыя ўмацаваныя пункты, пабудаваныя для аховы межаў Полацкай зямлі (Орша, Браслаў, Мінск на Свіслачы). Асноўная маса іншых населеных пунктаў, якіх у Полацкай зямлі ў XI—XII стст., мяркуючы па колькасці курганных могільнікаў, налічвалася многія сотні, уяўляла сабой сельскія паселішчы (вёскі).

**Развіццё сярэдневяковых гарадоў.** Паходжанне гарадоў Полацкай зямлі можна ўявіць і наступным чынам. Зародкамі найстаражытных з іх з'яўляліся ўмацаваныя пункты крывічоў-палачан, узнікшыя пры рассяленні славян на тэрыторыі Падзвіння ў VIII—IX стст. Сярод іх вылучаецца Полацк як галоўны цэнтр полацкіх крывічоў і старшы горад Полацкай зямлі.

У сувязі з каланізацыяй і ўстанаўленнем даніны ў Падзвінні амаль адначасова з Полацкам ствараліся іншыя ўмацаваныя пункты (Віцебск, Лукомль), якія залежалі ад Полацка ў адміністрацыйных і ваенных адносінах, з'яўляючыся правобразам будучых малодшых гарадоў, («на что же старейшии здумают, на том же и пригороди стануть») (ПСРЛ. Т. 38. 1989. С. 142). Гарады, якія ўзнікалі, былі пунктамі, куды сцякалася даніна. Адсюль яна ў значнай ступені збывалася ў Візантыю, краіны Усходу і Еўропы, адкуль прывозіліся прадметы раскошы. Скарбы арабскіх манет — сведчанне далёкіх гандлёвых сувязей.

Рамесніцтва ў раннім сярэднявеччы існавала ў сялянскім асяроддзі. У сельскай абшчыне былі свае кавалі, ганчары, цесляры і прадстаўнікі іншых рамесніцкіх спецыяльнасцей.

Ва ўсходнеславянскім грамадстве ў гэты перыяд у сувязі з працэсам станаўлення розных формаў залежнасці ад буйной знаці сяляне маглі апынуцца ў якасці закупаў, уключаліся ў панскую чэлядзь, закладваліся ў халопы. Узнікала шматукладнае грамадства, у якім паступова пераважаў феадальны ўклад (Нарысы гісторыі Беларусі. 1994. С. 78—86). Насельніцтва гарадоў папаўнялася выхадцамі з вёсак.

Рамеснікі сяліліся каля старых умацаваных пунктаў ці зноў пабудаваных феадальных двароў, паўзмежных ахоўных крэпасцей, каля вялікіх водных шляхоў, валок і пераправаў, пасярод густанаселеных мясцовасцей, жыхары якіх мелі патрэбу ў вырабах рамеснікаў. Гарады, такім чынам, рабіліся носьбітамі таварнай вытворчасці, хоць ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі яна была вельмі абмежаванай. Сяляне, селячыся на пасадах у гарадах, прытрымліваліся старых звычаяў абшчыннага кіравання і папаўнялі падобныя гарадскія абшчыны.

У адрозненне ад вёскі горад уяўляе значную канцэнтрацыю жылых, вытворчых і іншых збудаванняў і іх комплексаў, аб чым сведчаць даныя раскопак гарадоў Полацкай зямлі.

## 2. ГАРАДЫ ПАЎДНЁВАЙ БЕЛАРУСІ

### Тураў

**Летапісныя звесткі.** Тураў — адзін з самых старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі. У «Аповесці мінулых гадоў» ён упершыню згадваецца пад 980 г. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 63—64). Па старажытнасці ён саступае толькі Полацку (862 г.) (ПСРЛ. Т. II. Стб. 14).



*Мал. 54. Старажытны Тураў (рэканструкцыя)*

Тураў — старажытнейшы горад на тэрыторыі летапіснага племені дрыгавічоў, аднаго з найбольш развітых усходнеславянскіх плямёнаў, якія мелі сваё «княжэнне» яшчэ да ўваходу яго ў склад старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве (Лысенко, 1982. С. 83). Відавочна, ён быў найбольш буйным населеным пунктам на тэрыторыі дрыгавічоў і з'яўляўся эканамічным і палітычным цэнтрам гэтага племяннога саюза, своеасаблівай сталіцай «княжэння», якое ўтварылася на тэрыторыі рассялення гэтага племяннога саюза.

У гісторыі старажытнай Русі роля Турава была даволі значнай. Горад адным з першых вылучыўся ў самастойнае княства пры першым жа раздзеле Кіеўскага княства ў 988 г. Уладзімірам Святаславічам паміж сваімі сынамі (ПСРЛ. Т. II. Стб. 105). Тураў быў вылучан трэцяму па старшынству сыну Уладзіміра — Святаполку, чым адзначалася значнасць горада, уступаўшага ў гэтым сэнсе толькі Наўгародскаму і Полацкаму княствам, вылучаным старэйшым сынам Уладзіміра — Вышаславу і Ізяславу. У Тураве было заснавана адно з першых епіскапстваў на Русі (Голубинский, 1901, С. 334). Тураўскае княства адным з першых пачало рабіць спробы да атрымання палітычнай самастойнасці і незалежнасці ад Кіеўскага вялікакняжацкага прастола яшчэ пры жыцці Уладзіміра Святаслававіча ў пачатку XI ст. (Королюк, 1964. С7 217—229), і ў далейшым Тураў пры наступных падзелах Кіеўскага княства вылучаўся трэцім па старшынству сынам кіеўскіх князёў, якія праводзілі раздзел Кіеўскай Русі. Так, пры раздзеле Кіеўскай Русі Яраславам Мудрым паміж сынамі Тураў быў аддадзены Ізяславу Яраславічу, трэцяму па старшынству сыну Яраслава Мудрага (ПСРЛ. Т. II. Стб. 150), а ў 1125 г. пасля смерці Уладзіміра Усеваладавіча (Манамаха) Тураўскае княства было аддадзена яго

трэцяму сыну Вячаславу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 292). Важнае значэнне Турава падкрэслівалася таксама яго амаль пастаянным знаходжаннем у XI ст. у падначаленні старшай спадчыннай лініі вялікіх князёў кіеўскіх. Як правіла, Тураў перадаваўся прамым нашчадкам Кіеўскага вялікакняжацкага прастола, і вельмі часта з Тураўскага прастола яны пераходзілі на Кіеўскі вялікакняжацкі. Так, пасля смерці Уладзіміра Святаслававіча ў 1015 г. яго пераемнікам на Кіеўскім вялікім прастоле стаў яго сын, тураўскі князь Святаполк Уладзіміравіч (ПСРЛ. Т. II. Стб. 115), пасля смерці Яраслава Уладзіміравіча Мудрага ў 1054 г.— яго сын, тураўскі князь Ізяслаў (ПСРЛ. Т. II. Стб. 150), а пасля смерці вялікага князя кіеўскага Усевалада Яраслававіча (апошні сын Яраслава Мудрага) у 1093 г. Кіеўскі прастол займае тураўскі князь Святаполк Ізяслававіч, сын старшага сына Яраслава Мудрага (ПСРЛ. Т. II. Стб. 208).

Значэнне Турава ў палітычным жыцці Кіеўскай Русі і ў жыцці дрыгавічоў было настолькі вялікае, што яго імем стала называцца новае грамадска-палітычнае фарміраванне — Тураўскае княства (воласць, зямля), якое ўтварылася на базе папярэдняга «княжэння» дрыгавічоў дафеадальнай эпохі. Аднак з XII ст. значэнне Турава ў агульнапалітычным жыцці старажытнай Русі пачынае зніжацца. Гэта тлумачыцца актывізацыяй гістарычных падзей на парубежжы з палавецкім стэпам, утварэннем буйных эканамічных і палітычных цэнтраў у Падняпроўі (Чарнігаўскае княства), паўночна-ўсходняй Русі (Уладзіміра-Суздальскае княства), Галіцка-Валынскага княства на паўднёвым захадзе рускіх зямель.

Тураў рэдка згадваецца ў летапісах, дзе значна часцей сустракаюцца запісы аб Тураўскім княстве (воласці) і тураўскіх князях. Непасрэдныя адносіны да горада Турава маюць толькі два запісы. Пад 980 г. летапісы паведамляюць аб тым, што «...бе бо Рогволад пришел из-за моря и имяше волость свою в Полотьске, а Тур Турове, от него же и Туровци прозвашася» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 63—64).

Верагоднасць звестак аб Рагвалодзе ў гэтым запісу ўдакладняецца іншымі звесткамі летапісца і не выклікае сумненняў у даследчыкаў, як і паведамленне аб князю Туру. Аднак супадзенне назвы горада Турава з імем князя Тура дало падставу для некаторых даследчыкаў выказаць меркаванні, што гаворка ідзе аб этымалагічнай легендзе, закліканай растлумачыць паходжанне назвы горада, паказаўшы невыпадковасць супадзення імені князя і горада. Між тым такіх супадзенняў не ведае руская этымалогія, таму выклікае сумненне магчымасць назвы старажытнарускага горада іменем варажскага князя. Варта ўлічваць пры гэтым, што на тэрыторыі старажытнай Русі было вельмі многа назваў рэк, азёр і населеных пунктаў з корнем «тур». Хутчэй за ўсё паходжанне звязана не з іменамі скандынаўскіх князёў, а з назвамі мясцовага ўсходнеславянскага паходжання. Патранімічная форма назвы горада ўказвае на прыналежнасць яго асобе з іменем Тур. Аднак у старажытнарускай мове адсутнічала такое імя. Магчыма, такім было не імя, а мянушка асобы, якая заснавала гэты горад і валодала ім. Падобныя мянушкі мелі месца ў старажытнарускіх побытавых дачыненнях.

Заслугоўваюць увагі тапанімічныя назіранні М. Гаусмана: «Тураў над р. Прыпяццю пры вусці рэчкі, у старажытнасці называемой Тур, а цяпер

Струмень...» (Гаусман, 1877. С. 36). Згадваецца таксама р. Тур у працы епіскапа Мінскага і Тураўскага Яўгена, прысвечанай даследаванню дзейнасці Кірілы Тураўскага, якая выйшла ў свет неўзабаве пасля працы М. Гаусмана (Евгений, 1880). На жаль, у гэтых працах няма спасылкі на першакрыніцу звестак, што пазбаўляе нас магчымасці правесці дадатковую праверку менавіта такой назвы пратока р. Струмень, які працякаў паблізу ад гарадзішча Турава. Сучаснае мясцовае насельніцтва не ведае рэк і прытокаў пад такой назвай паблізу гарадзішча. Таму як ні спакуслівая магчымасць выкарыстаць такую назву р. Тур для тлумачэння паходжання назвы горада, ад яе даводзіцца адмовіцца як ад недастаткова пераканаўча аргументаванай.

Другое летапіснае паведамленне пра Тураў звязана з падзеямі 1158 г. Унук тураўскага і вялікага кіеўскага князя Святаполка Ізяславіча Юрый Яраславіч зрабіў дзёрзкую спробу ўзнавіць самастойнасць Тураўскага княства і дынастыю Ізяславічаў на Тураўскім прастоле пасля таго, як пасля смерці Святаполка Ізяславіча ў 1113 г. яна спачатку стала залежнай ад вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Усеваладавіча Манамаха, а з 1125 г., пасля яго смерці,— ад яго сына Вячаслава Уладзіміравіча. У 1142 г. Чарнігаўскі князь Усевалад Ольгавіч, заняўшы кіеўскі прастол, аддае Тураў свайму сыну Святаславу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 310).

У бурных падзеях 40—50-х гадоў, калі на кіеўскім вялікакняжацкім прастоле адбываюцца шматразовыя змены кіраўнікоў з дынастыі Манамашычаў і чарнігаўскіх Святаславічаў, Тураў, Тураўская зямля і асобныя яе гарады (з навакольнымі землямі) з'яўляюцца сродкам задавальнення запатрабаванняў саюзнікаў і праціўнікаў вялікага князя і шматразова пераходзяць з рук у рукі. Ва ўмовах кароткатэрміновых кіраванняў чарговых уладароў пакутавала мясцовае насельніцтва. Таму рашучая спроба Юрыя Яраславіча ў 1158 г. аднавіць самастойную дынастыю на тураўскім прастоле сустрэла гарачую падтрымку тураўцаў, якія добра памяталі і разумелі перавагу самастойнасці і незалежнасці ў параўнанні з агульнай нестабільнасцю жыцця ў выніку няспыннай змены ўлады, адасобленасці часовых кіраўнікоў і іх акружэння ад інтарэсаў і патрэб карэнных мясцовых жыхароў. Відавочна, у Тураве яшчэ былі моцныя пэўныя пласты і кругі насельніцтва, блізкія ў мінулым да Ізяславічаў, аб якіх захавалася добрая памяць і з рэстаўрацыяй якіх на тураўскім прастоле звязвалі свае надзеі.

Выкарыстоўваючы чарговае абвастрэнне барацьбы за кіеўскі вялікакняжацкі прастол пасля смерці Юрыя Уладзіміравіча Даўгарукага (1157 г.) Юрый Яраславіч (унук Святаполка Ізяславіча) раптоўна захапіў Тураў насуперак волі чарговага кіеўскага князя. Ізяслаў Давыдавіч, які заняў кіеўскі прастол, да паходу на Юрыя Яраславіча прыцягнуў сілы Кіеўскага, Чарнігаўскага, Уладзімірскага, Галіцкага, Смаленскага княстваў і атрады вандроўнікаў — бярэндзічаў. Такая канцэнтрацыя сіл буйнейшых княстваў сведчыць аб тым, што Юрыя Яраславіча падтрымлівалі шырокія слаі мясцовага насельніцтва, што Тураўскае княства ўяўляла сабой значную сілу, а горад Тураў быў добра ўмацаваны і падрыхтаваны да працяглай абароны.

Паходу Ізяслава Давыдавіча на Тураў летапісец прысвяціў шырокае апісанне: «Том же лете иде Изяслав на Ярославича к Турову и с ним иде

Ярослав из Лучьска и Андреевич Ярополк и Галичская помочь и Ростиславич Рюрик с смолняны и Володимир Мъстиславич тому бо искаху Турова и полчане пришедше к Турову пожгоша села около его и воеваша Берендичи около Пиньска и за Припетью и бьяхуть крепко выходячи из города и много бываше язвеных и много молбу створиваша Гюрги Ярославич высылая из города к Изяславу река брате прими мя в любовь к собе. Изяслав же того не всхоте но всяко хотяше под ним взяти Туров и Пинеск и стояше около города недель 10 и бысть моръ в коних и тако не успевше ему ничтоже взвратишася в свояси не створше с ним мира и мнози пеши придоша с тое воины» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 492).

У прыведзеным урыўку Тураў тройчы названы горадам: Ізяслаў Давыдавіч стаяў «около города», «бьяхутся крепко выходячи из **города»**, Юрый Яраслававіч звяртаўся да Ізяслава Давыдавіча «высыпая из **города»**. У перыяд старажытнай Русі горадам называўся населены пункт, умацаваны абарончымі збудаваннямі. Відавочна, абарончыя збудаванні старажытнага Турава былі вельмі моцнымі, неадольнымі для аб'яднанага войска буйнейшых княстваў старажытнай Русі. Магчыма, яны былі ўзведзены яшчэ ў XI ст., таму што ў бурлівых падзеях XII ст. пры кароткачасовых валоданнях Туравам практычна няма каму было займацца ўзвядзеннем магутных абарончых збудаванняў і ўмацаванняў. Недахоп пісьмовай інфармацыі аб старажытным Тураве дапаўняюць археалагічныя даследаванні яго старажытнага гарадзішча.

**Месцазнаходжанне Турава.** Старажытны Тураў быў размешчаны ў цэнтры тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, на асноўнай воднай магістралі паўднёвай Беларусі — р. Прыпяць, якая забяспечвала сувязь з Кіевам і дняпроўскім шляхам «з варяг у грэкі», недалёка ад зліцця з ёю Гарыні і Сцвігі з поўдня, якія звязвалі горад з суседняй Валынню, і паўночных прытокаў яе — Пцічы, Случы, Лані, што вялі да паўночных рубяжоў дрыгавіцкай тэрыторыі. Заходнія прытокі Прыпяці Ясельда і Піна звязвалі Тураў з Пабужжам, праз якое ажыццяўляліся зносіны з Польшчай, Балцкім басейнам і Заходняй Еўропай. Выгаднае знаходжанне ў цэнтры водных шляхоў забяспечвала сувязі з усімі рэгіёнамі дрыгавіцкай тэрыторыі і садзейнічала ўзвышэнню Турава як цэнтра гэтай тэрыторыі.

**Гарадзішча старажытнага Турава.** Гарадзішча старажытнага Турава знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне сучаснага г. п. Тураў (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці) (мал. 55). Яно размешчана на мысе, утвораным поймай Прыпяці і яе прытокам — невялікай рэчкай Яздай. Яна ўзвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 4—6 м. Планіроўка гарадзішча падпарадкавана рэльефу мясцовасці і мае трохвугольную форму. Гарадзішчы такой формы і ўмоў размяшчэння вядомы ў Падняпроўі і заходніх землях Русі з X ст. (Раппапорт, 1972).

**Абарончая сістэма** старажытнага Турава вельмі мэтазгодна і паспяхова спалучала прыродныя, натуральныя і штучныя ўмацаванні, якія былі ўзведзены адпаведна асаблівасцям мясцовага рэльефу і адпавядалі абароннай тактыцы свайго часу. Прыродныя перашкоды надзейна забяспечвалі бяспеку горада з заходняга (балотная даліна Язды) і паўночнага (Прыпяць) бакоў. З паўднёва-ўсходняга боку горад быў прыкрыты магутнымі штучнымі збудаваннямі — валам і глыбокім паўкруглым ро-




*Мал. 55. Гарадзішча старажытнага Турава*

вам. Такім жа паўкруглым ровам гарадзішча было падзелена на дзве часткі — дзядзінец і навакольны горад. Да адводу вод Язды ў 1925 г. роў акольнага горада, паводле слоў мясцовых жыхароў, быў пастаянна запоўнены вадой. Роў дзядзінца таксама быў заўсёды напоўнены вадой, пакуль у 1903 г. (1906) настаўнікі мясцовай школы, раўняючы пляцоўку акольнага горада, не засыпалі яго часткова скінутай зямлёй. У ходзе гэтых работ былі ўскрыты рэшткі цаглянай сцяны закругленай формы, відавочна, апсіды храма, які стаяў на ўскраіне навакольнага горада паблізу рова дзядзінца. Цяпер пляцоўка навакольнага горада ўзвышаецца над ровам вакольнага горада на 6—7 м, а пляцоўка дзядзінца і навакольнага горада над ровам дзядзінца — на 3—4 м. Валы гарадзішча ў цяпершані час знівеліраваны. Толькі па краі дзядзінца з заходняга боку прыкметна невялікае валападобнае ўзвышэнне, а ў яго паўднёва-заходнім вугле ёсць закругленае ў плане ўзвышша дыяметрам каля 12 м, магчыма, рэшткі вуглавой абарончай вежы. У дакуменце больш позняга часу (1725 г.) ёсць прыпіска, што ён пісаны ў «замку Тураўскім». Магчыма, абарончыя збудаванні гэтага часу ўзводзіліся зверху больш ранніх.

Гарадзішча вельмі пацярпела пры пракладцы дарогі з Турава ў в. Запясочча. Раней яна праходзіла з паўночнага боку дзядзінца, ля яго падножжа, і ў час паводкі залівалася вадой. Уздымаючы палатно дарогі, з паўночнага схілу дзядзінца і навакольнага горада зрэзалі паласу шырынёй 2—3 м і ў наступныя часы гэта рабілася неаднойчы. Відаць, такім чынам былі знішчаны схілы і рэшткі валоў з гэтага боку гарадзішча, а ў абрывах паўночнага схілу гарадзішча выяўляецца культурны пласт. Астатнія схілы пакрыты дзірваном. У 70-х гадах ад рыначнай плошчы да пляцоўкі вакольнага горада адсыпана пясчаная дамба-пандус, умацаваная па баках бетоннымі плітамі. На гарызантальнай пляцоўцы вакольнага горада пракладзены асфальтавыя дарожкі для дзіцячага сада. У пачатку XX ст. на тэрыторыі навакольнага горада размяшчаліся драўляная Ільінская царква, пабудаваная ў 1849 г., народнае вучылішча і царкоўна-прыходская школа, а на тэрыторыі дзядзінца — сельская бальніца са службовымі і гаспадарчымі пабудовамі (склеп, калодзеж, смеццевыя і сточныя ямы) і маёнтак памешчыцы Татур. У пасляваенны час на дзядзінцы праводзілася буртоўка бульбы, а на навакольным горадзе быў узведзены драўляны двухпавярховы будынак сярэдняй школы. У 70-я гады на гарадзішчы не засталося ўжо ніякіх збудаванняў.

Моцна пашкоджаны абарончыя збудаванні гарадзішча. Пры пракладцы дарогі з паўночнага боку гарадзішча знішчаны валы дзядзінца і вакольнага горада. З напольнага боку гарадзішча валы знічтожаны пры будаўніцтве школы. Рэшткі ўнутранага схілу вала выяўлены пры раскопках пад падмурак помніка Кірылу Тураўскаму ў 1994 г. Абарончы роў з напольнага боку навакольнага горада да нядаўняга часу запаўняўся вадой. Праз яго быў перакінуты мост для ўзыходу на гарадзішча. У пасляваенны час яго рэшткі былі знесены, дно засыпана, а стромкі схіл гарадзішча пракопаны уваходам. Схілы рову паміж дзядзінцам і вакольным горадам нівеліраваліся з боку вакольнага горада ў пачатку стагоддзя і ў 60—70-я гады пры распашцы дзядзінца пад агароды.

***Даследаванні гарадзішча.*** Гарадзішча старажытнага Турава даўно адзначана ў гістарычнай літаратуры. Яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. падарожнік і этнограф П. М. Шпілеўскі паведамляў аб рэштках тураўскага сямівежавага замка (Шпилевский, 1866). У канцы XIX ст. М. Гаусман піша аб насыпанай князем Турам гары (Гаусман, 1877).

Першае археалагічнае абследаванне гарадзішча было праведзена В. З. Завітневічам у 1889 г. Даследчык даў апісанне месцазнаходжання, знешняга выгляду, захаванасці гарадзішча (Завитневич, 1887). У 1909 г. у Тураве працавала камісія Мінскага царкоўна-археалагічнага таварыства, якое праводзіла раскопкі шыфернага саркафага на могілках ля былой царквы Глеба — Барыса, а таксама зрабіла апісанне знешняга выгляду гарадзішча і апытала насельніцтва пра мясцовыя паданні і легенды. У 1927 г. гарадзішча апісана ў краязнаўчым артыкуле А. Крукоўскага (Крукоўскі, 1927).

У 1927 г. беларускія археолагі А. Д. Каваленя і С. С. Шутаў на абедзвюх частках гарадзішча заклалі разведачныя шурфы памерам 2×2 і 1,5×1,5 м. Шурфы былі даведзены да глыбіні 2,5 м і не дасягнулі мацерыка. У культурным пласце былі знойдзены прадметы тыпова гарадскога ўжытку раннефеадальнага перыяду — шыферныя праслііцы, фрагменты шкляных бранзалетаў, ганчарная кераміка. Атрыманым матэрыялам даследчыкі пацвердзілі старажытнасць гарадзішча і дакументальна аргументавалі размяшчэнне на ім летапіснага Турава (Каваленя, Шутаў, 1928).

У 1961 г. Верхнедняпроўскім атрадам Інстытута археалогіі АН СССР былі праведзены раскопкі Тураўскага гарадзішча. У працэсе даследаванняў была ўскрыта плошча 240 кв. м пры магутнасці культурнага пласта 1,8—2,5 м. Раскопкі далі цікавы матэрыял старажытнарускага перыяду (Полубояринова, 1964).

Пачынаючы з 1962 г. даследаванні гарадзішча старажытнага Турава праводзіліся Тураўскім атрадам Інстытута гісторыі АН БССР. Раскоп 1962 г. ускрыў плошчу 240 кв. м. Ён прылягаў да раскопу 1961 г. з заходняга і паўночнага бакоў і ўтварыў з ім адзіную плошчу. У 1963 г. з паўночнага боку раскопу 1962 г. быў прырэзаны раскоп плошчай 96 кв. м. У 1968 г. з паўночнага боку раскопу 1963 г. даследаваны раскоп плошчай 192 кв. м. Агульная ўскрытая на дзядзінцы плошча ўтварае прамавугольнік памерам 32×24 м (768 кв. м) (Лысенко, 1974). На гэтай плошчы ўскрыта звычайная гарадская забудова з драўляных наземных дамоў зрубнай канструкцыі з глінабітнымі і цаглянымі печамі і даследаваны пласт, які ўтрымліваў тыповыя для старажытнарускага часу прадметы штодзённага побыту.

Значную цікавасць уяўляюць даследаванні ў Тураве рэшткаў манументальнага будаўніцтва. Зафіксаваныя ў час даследавання гарадзішча ў канцы XIX — пачатку XX ст. мясцовыя паданні і паведамленні мясцовых жыхароў давалі падставу спадзявацца на выяву рэшткаў збудаванняў каменнага дойлідства. У 1961 г. на тэрыторыі вакольнага горада П. А. Рапапорт шурфам ускрыў участак з плінфы, выяўлены ў папярэднія гады ў ходзе гаспадарчага будаўніцтва. На месцы шурфа ў 1962 г. М. К. Каргер ускрыў частку пілястры і фундамента буйнога збудавання. У 1963 г. ім жа былі даследаваны рэшткі шасціслуповага

трохнефнага храма арыгінальнай будаўнічай тэхнікі і планіроўкі (Каргер, 1965. С. 130—138).

На пляцоўцы навакольнага горада планамерныя даследаванні праводзіліся ў 1992 і 1993 гг. Паводле слоў мясцовых жыхароў, тут у час земляных работ нязменна знаходзілі прасліцы і фрагменты шкляных бранзалетаў. Фрагменты ганчарнага посуду дамангольскага часу часта сустракаюцца прама на паверхні пляцоўкі навакольнага горада. Мяркуючы па аднастайнасці знаходак, дзядзінец і навакольны горад узніклі адначасова.

Да археалагічных даследаванняў старажытнага Турава варта аднесці раскопкі шыфернага саркафага і царквы Глеба — Барыса ў 1909 г. экспедыцыяй Мінскага царкоўна-археалагічнага аб'яднання ў складзе А. К. Снітко, А. М. Панова і Д. В. Скрынчанкі. Саркафаг быў выяўлены выпадкова пры капанні магілы. Пры раскопках верхняя плітка саркафага была выяўлена на глыбіні 127 см, яна мела памеры 229—96 см. Пліта пакрывала скрыню з чатырох шыферных пліт, пастаўленых на рабро на ніжнюю, якая была для іх дном скрыні. Унутры саркафага знаходзіліся касцяк, рэшткі тканіны з узорамі вышыўкі, залатыя ніці. Мяркуючы па багаццю (саркафаг) і ўбранню, гэта або пахаванне князя, або епіскапа.

**Культурны пласт** у раскопах на гарадзішчы старажытнага Турава меў таўшчыню ад 1,8 да 2,7 м. Ён падзяляецца на пяць стратыграфічных пластоў, залягаючых ў асноўным гарызантальна. Зрэдку гарызантальнасць залягання пластоў змяняецца купалападобнымі ўзвышэннямі на месцах, пад якімі знаходзяцца рэшткі печаў, якія не даюць асадкі і ўшчыльнення. Пласты лёгка падзяляюцца па структуры і колеру. Першы пласт — дзірвановы або пахатны, датуецца цяперашнім часам. Другі пласт таўшчынёй 0,7—1 м цёмна-шэрага колеру, датуецца XVII—XX стст. Трэці пласт магутнасцю 0,5—0,6 м рыхлай структуры светла-карычневага колеру, датуецца XV—XVI стст. Чацвёрты пласт таўшчынёй 0,3—0,5 м шчыльнай структуры цёмна-карычневага колеру, датуецца XII—XIII стст. Пяты пласт магутнасцю 0,3—0,4 м цёмна-шэрага колеру, датуецца канцом X—XI ст. Культурны пласт тураўскага гарадзішча дрэнна захоўвае прадметы арганічнага паходжання. Дрэва пабудоў зусім струхлела і засталося ў выглядзе расслоеных на валокны бярвёнаў. Вельмі рэдка сустракаюцца знаходкі драўляных і скураных вырабаў. Прадметы з чорных металаў часта захоўваюцца ў выглядзе бясформенных саржавелых кавалкаў. Адносна добра захоўваюцца шкляныя і касцяныя вырабы.

Тапаграфічныя асаблівасці мясцовасці, планіроўка гарадзішча і выяўленыя рэшткі збудаванняў дазваляюць канкрэтызаваць забудову гарадзішча. Тураўскае гарадзішча тыпова мысавае, складанае (двухчасткавае — дзядзінец і навакольны горад), з дугападобнымі равамі з напольнага боку і валамі па ўсім перыметры гарадзішча, што характэрна для гарадзішчаў XI—XIII стст. Уезд на гарадзішча быў, відаць, з паўднёвага боку, таму што з заходняга гарадзішча абмежавана балоцістай поймай р. Язда, а з паўночнага — Прыпяццю. На навакольным горадзе размяшчаўся вялікі, верагодна, кафедральны храм. На плошчы раскопаў не выяўлена маставых вуліц, што абцяжарвае вызначэнне планавання забудовы. Але паказальна, што ўсе выяўленыя пабудовы арыентаваны вугламі па старанах свету, а сцены — пад вуглом у 45°.




*Мал. 56. Забудова старажытнага Турава (план)*

Магчыма, такая арыенціроўка звязана з напрамкам вуліц і праездаў. У такім выпадку можна было б меркаваць, што, прынамсі, адна з вуліц ішла ў напрамку з паўднёвага ўсходу на паўночны захад да дальнага мысу дзядзінца ля зліцця рэк.

Аб забудове Турава можна меркаваць паводле выяўленых рэшткаў пабудоў. У раскопах 1962 і 1963 гг. пабудовы падзяляюцца на два будаўнічыя ярусы, у раскопе 1968 г.— на шэсць будаўнічых ярусаў. Усяго ўскрыта 35 пабудоў, з іх 24 жылыя. Усе яны адносяцца да тыпу наземных збудаванняў зрубнай канструкцыі. Рублены «в обло с остатком», з вырубам спалучальных чашак з верхняга боку бервяна. Будаўнічы матэрыял — сасна і дуб. Некаторыя пабудовы маюць падкладкі пад

вуглами і ніжнімі бярвёнамі. Памеры пабудоў найчасцей 16—18 кв. м, а найбольш буйная — каля 25 кв. м. Падлогі ў асноўным дашчатыя, зрэдку — глінабітныя. З дзесяці расчышчаных печаў сем глінабітных, а тры пабудаваны з выкарыстаннем цэглы. Пячны под глінабітных печаў часта рамантаваўся падмазкай новага пласта гліны. Цагляныя печы будаваліся з цэглы памерам 24—27×16—18, 5×4—5 см. Глінабітныя печы сутракаюцца ва ўсіх будаўнічых ярусах, цагляныя — толькі ў трэцім будаўнічым ярусе (XIII ст.). У раскопе 1962 г. пры расчыстцы мацерыковых ям выяўлены тры скляпы. Адзін з іх быў заглыблены ў мацярык на 0,6—0,7 м, меў бярвенчаты зруб у пяць вянцоў і шчыльную дашчатую падлогу. Памеры яго 2×2,6 м. Кераміка, выяўленая ў склепе, датуецца X—XI стст. Сцены другога склепа абкладзены дошкамі, падлога таксама насцелена дошкамі, паверх якіх насцелена некалькі пластоў бярösты. У яго напаўненні шмат фрагментаў амфар, знойдзены раздаўлены колбападобны шкляны сасуд. Магчыма, гэта быў вінны склеп. Час яго пабудовы — XII—XIII стст.

Аб знешнім выглядзе Турава, яго планіроўцы і забудове даюць уяўленне і рэшткі выяўленага храма. Тураўскі сабор уяўляе сабой трохнефны трохапсідны шасціслупавы храм, узведзены метадам парадавай кладкі з тоўстымі звязваючымі швамі ружовай цэмянкі, перавышаючымі таўшчыню плінфы. Будынак меў вельмі слабы падмурак, быў, відаць, пазбаўлены фрэскавага роспісу. Лапаткі храма мелі закругленыя вуглы і размяшчаліся насупраць унутраных слупоў. Падлогі храма хутчэй за ўсё былі выкладзены керамічнымі пліткамі, якія неаднойчы знаходзілі ў раскопах. У заходняй частцы храма ўзведзена дадатковая сцяна, а паўночна-заходні вугал храма адгароджаны паўкруглай сцяной і ўтварае як бы вуглавую вежу. Паводле памераў цэглы і тэхнікі кладкі можна меркаваць, што храм узводзіўся ў другой палове XII ст. і вельмі хутка пачаў разбурацца з-за слабых падмуркаў і што, магчыма, яго будаўніцтва наогул не было завершана. Па архітэктуры і будаўнічай тэхніцы Тураўскі храм блізкі Уладзімірскім храмам, але яму ўласцівы і своеасаблівыя рысы.

**Матэрыяльная культура.** Культурны пласт тураўскага гарадзішча ўтрымлівае вялікую колькасць разнастайных прадметаў хатняга ўжытку і штодзённага побыту. З прылад працы знойдзены зубіла, шыла, сякеры, долаты, ювелірныя пінцэты, ліцейныя тыгелькі, льячкі, каменныя ліцейныя формачкі. Даволі часта сустракаюцца шыферныя прасліцы. З прадметаў узбраення знойдзены наканечнікі кап'я, стрэл, свінцовыя і жалезныя булавы, касцяныя дэталі складнога лука. З прадметаў рыштунку конніка выяўлены фрагменты дзвюх шпор.

У раскопах знойдзена звыш 50 нажоў, два калачападобныя красалы, цыліндрычныя вісячыя замкі, ключы, спружынныя нажніцы, жалезная адзежная булаўка з круглай рухомай галоўкай. З прылад рыбалоўства выяўлены буйная (14 см) жалезная палужаная блясна, рыбалоўныя кручкі, фрагменты астрог. Сярод знойдзеных вырабаў з каляровых металаў бранзалеты (8), пярсцёнкі (4), скроневыя кольцы (9), прывескі, пражка, фрагменты бронзавых сасудаў, разеткі, кніжныя засцежкі, прадметы культу (крыжыкі, падвеска-панікадзіла, свінцовыя адлітыя плоска-выпуклыя іконкі-ўстаўкі напрастольнага крыжа з выявай Божай




*Мал 57. Знаходкі са старажытнага Турава· 1—4 — свінцовыя абразкі, 5 — наканечнік кап'я, 6 — наканечнік стралы, 7, 9 — нажы, 8 — крэсіва, 10 — шахматная фігура, 11 — вухавертка, 12—13 — ювепірныя пінцэты, 14 — сякера, 15 — замок, 16 — бранзалет, 17—19 — пярсценкі, 20 — льячка, 21 — ліцейная форма, 22 — арнаментаваная касцяная рукаяць*

маці, шматпакутніцы (Варвары), прападобнай Ефрасінні (?), свяціцеля (Кірылы Тураўскага?) (?)).

Даволі часта сустракаюцца розныя касцяныя вырабы — праколкі, рукаяці, навершшы, грузікі, касцяныя іголкі, грабяні (8), розныя па форме арнаментаваныя накладкі, нарыхтоўка касцяной сякеркі, касцяны падшыпнік (падпятнік). Некаторыя накладкі па матывах арнаментацыі нагадваюць вырабы вандроўніцкага ўзору. З рэдкіх касцяных вырабаў варта згадаць лыжачкі (для прычашчэння), шахматныя фігуркі слана і каня, вухавёртку з навершшам у выглядзе сабакі (ваўка?), косці для гульні і амулеты.

У раскопе даволі многа фрагментаў шкляных бранзалетаў, шклянога посуду старажытнарускага і імпартнага паходжання. Зрэдку сустракаюцца шкляныя пярсцёнкі і шкляныя ўстаўкі да металічных пярсцёнкаў.

Вельмі мала (і да таго ж дрэннай захаванасці) скураных вырабаў — фрагменты абутку, кашалькі, ножны, фрагмент рукавіцы.

Найбольш частымі знаходкамі з'яўляюцца фрагменты керамічнага посуду. Уся кераміка дзядзінца ганчарная. Амаль усе сасуды ніжняга пласта маюць раннюю форму — з высокай шыйкай, прамым слабаадагнутым венчыкам, з слабай прафіліроўкай па краі або зусім без яе. Ёсць рэшткі ляпных гаршкоў, падпраўленых на ганчарным крузе.

**Заняткі насельніцтва** старажытнага Турава, мяркуючы па знаходках, былі вельмі разнастайнымі. Аб мясцовай апрацоўцы чорных металаў сведчаць знаходкі інструментаў (зубіла) і вырабаў простай кавальскай коўкі, крыц, кавальскіх шлакаў, соплаў, хутчэй за ўсё кавальскіх мяхоў. Несумненна мясцовай была і апрацоўка каляровых металаў. Аб гэтым гавораць знаходкі сыравіны (свінец), прылад працы (льячкі, тыгелькі, ліцейныя формачкі, ювелірныя пінцэты). Вялікага майстэрства, высокага прафесійнага ўзроўню дасягнулі мясцовыя разбяры па косці. Тут не было недахопу ў сыравіне. Часта сустракаюцца косці са слядамі апрацоўкі, нарыхтоўкі, паўфабрыкаты. У раскопе знойдзена нямала кавалкаў валынскага шыферу, а таксама шмат кавалкаў неапрацаванага шыферу, што дае падставу меркаваць аб мясцовай апрацоўцы. Несумненна, былі развіты скуранае, шавецкае і дрэваапрацоўчае рамёствы, прадзенне і ткацтва. Жыхары Турава былі цесна звязаны з вясковай акругай і самі займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй. У пласце знойдзены лушпінкі проса, у мацерыковай яме — абвугленыя зерні жыта, пшаніцы, сачавіцы, лёну, проса. Больш за ўсё зерняў жыта. Жывёлагадоўля яўна пераважала над паляваннем.

Рэчавы склад знаходак сведчыць аб інтэнсіўным эканамічным жыцці горада. Дзякуючы высокаму ўзроўню мясцовага рамяства стварыліся ўмовы для развіцця актыўных гандлёвых сувязей Турава як з блізкімі рэгіёнамі, так і з аддаленым зарубежжам — з Кіевам, Валынню, Прычарнамор'ем, Сірыей, Візантыяй.

Знаходкі пацвярджаюць таксама высокі ўзровень культурнага жыцця Турава. Самы старажытны горад на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, Тураў узнік у адным з яе самых урадлівых, спрыяльных для плённага гаспадарання і росквіту раёнаў. Спачатку, відавочна, цэнтр племяннога княжэння дрыгавічоў, Тураў неўзабаве заканамерна ператвараецца ў палітычны, эканамічны і культурна-рэлігійны цэнтр феадальнага Тураўскага княства.

## Пінск

Адным з найбольш значных цэнтраў эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця Тураўскай зямлі быў старажытны Пінск. Гэта падкрэсліваецца вялікімі памерамі гарадзішча, магутнасцю яго абарончай сістэмы. Пінск згадваецца летапісам нароўні з Туравам, хутка ён вылучаецца ў самастойнае княства. Роля горада ў жыцці Тураўскага княства настолькі значная, што шэраг даследчыкаў называюць княства Турава-Пінскім.

**Пісьмовыя паведамленні.** Пінск упершыню адзначаецца ў летапісах у 1097 г. Пасля Любецкага з'езду ўладзімірскі князь Давыд Ігаравіч папярэджвае вялікага князя кіеўскага Святаполка Ізяславіча аб тым, што церабоўльскі князь Васілька Расціславіч мае намер захапіць яго тураўскія валоданні: «Увидишь, займет города твои Туров и Пинск, и другие, тогда помянешь меня...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 232). У далейшым Пінск згадваецца ў сувязях з тымі ці іншымі падзеямі палітычнага характару ў 1099, 1132, 1149, 1154 гг. і г. д. Аднак гэтыя згадкі вельмі кароткія і ўрыўкавыя і сапраўды «...не могуць даць уяўленне аб гэтым горадзе» (Тихомиров, 1956. С. 305). У 1183 г. у летапісах згадваецца Яраслаў «князь Пиньский» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 631). Як можна меркаваць, маецца на ўвазе сын Юрыя Яраславіча з дынастыі Ізяславічаў, які аднавіў у 1158 г. самастойнасць Тураўскага княства і дынастыю Ізяславічаў на Тураўскім прастоле. А некалькі раней, у 1174 г., упершыню асобна згадваюцца князі тураўскія і пінскія (ПСРЛ. Т. II. Стб. 574). Відаць, падзел адзінага Тураўскага княства адбыўся ўжо адразу пасля Юрыя Яраславіча паміж яго сынамі. Аднак і пасля тураўскія і пінскія князі праводзяць узгодненую палітыку. У далейшым летапіс згадвае пад 1204 г. князя Уладзіміра Пінскага (ПСРЛ. Т. II. Стб. 720). У 1228 г. пінскім князем названы Расціслаў (ПСРЛ. Т. II. Стб. 753), а ў 1229 г. зноў згадваецца пінскі князь Уладзімір (ПСРЛ. Т. II. Стб. 754). Пад 1262 г. летапісец згадвае пінскіх князёў Фёдара, Дзяміда і Юрыя (ПСРЛ. Т. II. Стб. 856). У 1292 г. «преставися пиньский князь Юрьи сын Володимеров... и плакася по нем княгиня его и сынове его и брат его Демид князь...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 938).

Згадванне летапісам пінскіх князёў, звязаных сваяцкімі дачыненнямі, сведчыць аб устойлівасці Пінскага княства і дынастыі нашчадкаў Юрыя Яраславіча на пінскім прастоле. Тым не менш адзначаныя згадкі аб пінскіх князях ніяк не прасвятляюць пытання аб самім горадзе. Дапаўняюць недахоп гэтых звестак археалагічныя даследаванні яго гарадзішча.

**Гарадзішча старажытнага Пінска.** Гарадзішча знаходзіцца ў цэнтры сучаснага горада Пінска Брэсцкай вобласці. Яно размешчана на левым узвышаным беразе р. Піна насупраць упадзення яе ў старажытнасці ў Прыпяць. Пінск займаў вельмі зручнае месца ў разгалінаванні водных шляхоў. Уніз па Прыпяці ажыццяўлялася сувязь з Туравам, Кіевам, вялікім водным шляхам з «вараг у грэкі»; на захад па Піне, волакам і Мухаўцу ішоў гандлёвы шлях у Заходні Буг і па ім у Віслу і Балтыйскае мора; на поўдзень сувязі ажыццяўляліся па верхнім цячэнні Прыпяці, а на поўнач — па Ясельдзе. Да таго ж у міжрэччы Піны і Ясельды, так званым Пінскім Загараддзі, размешчаны ўчасткі самай урадлівай у наваколлі глебы.



*Мал 58 Цэнтральная частка старажытнага Пінска (план 1794 г )*

**Археалагічныя даследаванні** ў Пінску пачаліся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Дырэктар народнага вучылішча С Ф Куклінскі ў 1871 г. раскапаў адзін з двух даволі буйных так званых Ляшчынскіх курганоў у прадмесці Пінска. Матэрыялы гэтых раскопаў не апублікаваны. Вядома, што ў кургане знойдзеры саманідскі дырхем Нуха сына Насра, чаканены ў Самаркандзе ў 952—953 гг. Аб земляных работах на Замкавай гары ў Пінску ў канцы XIX ст. паведамляе А. І Мілавідаў (Миловидов, 1898).

У 1955 г. Ю. В. Кухаренка абследаваў рэшткі апошняга ў пэўнай меры разбуранага Ляшчынскага кургана, вядомага пад назвай «магіла Войшэлка». Курган меў форму ўсечанага конуса вышынёй 5,5—7,5 м і дыяметр асновы 31 (35) м. Па рэштках рэканструюецца пахаванне трупаспаленнем на гарызонце з трохразовай падсыпкай насыпу і магутным рытуальным вогнішчам пасля першай з іх і меней буйным пасля другой. Паводле заключэння даследчыка гэты курган аднатыповы «Чорнай магіле», датуецца X—XI стст. «Магчыма, што ў Пінскім кургане быў пахаваны невядомы нам славянскі князь, які ўзначальваў княжацкую дружыну» (Кухаренко, 1976).

У 1955 г. пачаліся раскопкі непасрэдна на пінскім гарадзішчы. Т. В. Раўдзіна і Б. В. Міралюбаў заклалі раскоп плошчай 65 кв. м у заходняй частцы навакольнага горада, памылкова вызначанай як дзядзінец (Равдина, 1966). У 1957 г. да раскопу 1955 г. быў прырэзаны раскоп плошчай 76 кв. м. У абодвух раскопах мацярык ускрыты на плошчы 38 кв. м.

У 1960 г. Я. І. Бібікавым і Б. В. Міралюбавым зроблены выратавальныя раскопкі ў катлаване пад жылы дом на тэрыторыі навакольнага горада. У 1961 г. гэтыя работы былі працягнуты. У раскопах быў выяўлены магутны культурны пласт дамангольскага часу. У 1962 г. Б. В. Міралюбавым прарэзана траншэяй мяркуемае месцазнаходжанне вала дзядзінца. У 1963 г. Пінскі атрад Інстытута гісторыі АН БССР заклаў раскоп плошчай 128 кв. м у паўночнай частцы навакольнага горада. У наступным годзе ў катлаване новабудоўлі (дома) былі закладзены раскопы плошчай 200, 168 і 108 кв. м — з дзённай паверхні гарадзішча (Лысенко, 1974. С. 71—74).

**Тапаграфія Пінска.** Месцазнаходжанне, плошча і канфігурацыя гарадзішча ў сувязі са знішчэннем старажытных абарончых збудаванняў і вялікай зменай рэльефу мясцовасці ў перыяд забудоў XIX—XX стст. доўгі час заставаліся нявысветленымі. Толькі шляхам комплекснага даследавання — вывучэння старажытных планаў (1794, 1798 гг.) і легенды на іх, супастаўлення старажытнага рэльефу мясцовасці з сучасным з улікам праведзеных земляных работ, адлюстраваных у пісьмовых крыніцах, а таксама супастаўлення гэтых даных з назіраннямі ў ходзе археалагічных даследаванняў і земляных работ на раскопах — стала магчымым вызначыць тэрыторыю дзядзінца і навакольнага горада. Дзядзінец размяшчаўся на паўночным беразе р. Піна ў межах сучаснай вуліцы Чайкоўскага і былой рыначнай плошчы. Навакольны горад дугой ахопліваў дзядзінец і абодвума канцамі прымыкаў да Піны. Дзядзінец мае авальную форму (150×110 м) з закругленымі вугпамі. Яго плошча каля 1,76 га. Плошчу навакольнага горада вызначыць цяжэй, прыблізна яна была каля 2,1 га. Агульная плошча дзядзінца і навакольнага горада складала каля 4 га.

**Абарончыя збудаванні.** У цяперашні час на тэрыторыі старажытнага Пінска не захавалася ніякіх слядоў абарончых збудаванняў. Няма аб іх звестак і ў гістарычнай літаратуры. Абарончыя збудаванні (абрысы, памеры, месцазнаходжанне) рэканструююцца па старажытных чарцяжах і матэрыялах, назіраннях у час раскопачных і земляных работ. План 1774 г. паказвае вал па ўсім перыметры дзядзінца, а са знешняга боку,

ля падножжа яго, растушоўкай паказаны, відаць, роў. Межы навакольнага горада абведзены такой жа растушоўкай, якая выяўляе хутчэй за ўсё роў навакольнага горада.

Пляцоўка навакольнага горада ў заходняй яго частцы да нядаўняга часу ўзвышалася над прылягаючай мясцовасцю на 3 м. У схіле пляцоўкі можна было бачыць знешні схіл навакольнага горада. Раскопкі 1955 г. і стратыграфічныя назіранні ў катлаванах у 1958, 1961 і 1963 гг. пацвердзілі гэта меркаванне. У раскопе 1955 г. вал навакольнага горада быў ускрыты на ўсю шырыню падножжа, якая ў выніку неаднаразовых падсыпак у апошні перыяд існавання вала дасягнула 18—20 м шырыні. Ядро вала захавалася на вышыню 3 м, яго верхняя частка была знівеліравана. Праецыруючы знешні і ўнутраны схілы вала, можна рэканструяваць вышыню яго насыпу, якая дасягала 6—8 м. У глебавым пласце, зверху якога насыпана першапачатковае ядро вала (шырынёй 7,5 і вышынёй каля 3 м), былі знойдзены прадметы XI ст.

Найбольш поўна збудаванне вала навакольнага горада прасочана з паўночнага боку гарадзішча і катлавана 1963 г. Спачатку ззаду нешырокага (7,5 м), але глыбокага рова (4 м) на выкідзе зямлі з яго былі пастаўлены драўляныя клеці зрубнай канструкцыі, ад якой захаваліся бярвёны вянцоў пярэдняй (10) і задняй (5) сценак. Перад драўлянай сцяной тройчы праводзіліся падсыпкі глінянага пласта і апошняя з іх запоўніла невялікі роў спераду вала. Пасля гэтага быў узведзены магутны земляны вал шырынёй да 30 м, вышынёй да 7—8 м (існуючая частка). Пярэдні схіл гэтага вала таксама абліцаваны сырой глінай. Зверху вала, відаць, узводзіліся драўляныя абарончыя збудаванні з баявымі пляцоўкамі, хадамі, амбразурамі. Адначасова з узвядзеннем магутнага вала перад ім быў выкапаны роў шырынёй да 35 м і глыбінёй (рэканструкцыя профіля) да 7 м. Цяжка сказаць, ці быў гэты роў напоўнены вадой, таму што ўзровень вады ў Піне значна ніжэйшы за дно




*Мал. 59. Абарончыя збудаванні старажытнага Пінска*

рова. Тым не менш перапад вышыні ад дна рова да вяршыні вала дасягаў 13—15 м і сам па сабе з'яўляўся сур'ёзнай перашкодай. Такія магутныя збудаванні на паўночным напрамку сведчаць аб тым, што напольная паўночная ўскраіна навакольнага горада была найбольш сур'ёзным участкам абароны і што горад Пінск валодаў дастатковымі будаўнічымі (людскімі і матэрыяльнымі) рэсурсамі для ўзвядзення такіх магутных абарончых збудаванняў. Напэўна, такое будаўніцтва варта аднесці да часу вылучэння Пінска ў самастойнае княства ў другой палове XII ст. (да 1173 г.).

Абарончы вал дзядзінца прарэзаны траншэяй у 1962 г. Яго шырыня ля падножжа перавышала 20 м, а вышыня часткі, якая захавалася, роўная 2,5 м (верхняя частка знівеліравана). Роў дзядзінца са знешняга боку моцна пашкоджаны будаўнічымі работамі і не можа даць рэальнага ўяўлення аб яго шырыні ў старажытнасці. Усё ж пры будаўніцтве жылога дома на ўчастку рова дзядзінца ў 1962 г. яго фундамент давялося заглыбіць да мацерыка на глыбіню каля 9 м. Уздоўж унутранага схілу вала на пляцоўцы дзядзінца прасочана заглыбленне ў мацярык шырынёй да 10 м і глыбінёй да 1 м. У пласце пяску на мацерыку сабраны фрагменты керамікі XI ст. Магчыма, што менавіта гэта час узвядзення вала. У 1954 г. на паўднёвым схіле дзядзінца пры нівеліровачных работах на глыбіні 1—1,5 м ускрыты рэшткі драўляных канструкцый, якія ўяўляюць сабой паралельныя ў 2—3 вянцы сцены з доўгіх бярвёнаў, злучаных у абло так, што яны ўтваралі квадратныя клеткі памерам 1,5×1,5 м або 2×2 м. Магчыма, што гэта былі канструкцыі для ўмацавання знешняга схілу вала ад апаўзання. Час іх узвядзення невядомы.

Такім чынам, на падставе выяўленых матэрыялаў можна выказаць меркаванне, што земляны вал дзядзінца ўзводзіўся ў XI ст., а магутныя абарончыя збудаванні навакольнага горада ў XII ст. (другой палове).

**Культурны пласт.** Археалагічныя даследаванні ў розных частках гарадзішча старажытнага Пінска выявілі вялікую магутнасць культурнага пласта і розную стратыграфію ўскрытых участкаў. Аднак агульным і характэрным для культурнага пласта гарадзішча з'яўляецца вялікая вільготнасць, наяўнасць гною, што вызначыла яго добрыя кансервіруючыя ўласцівасці і забяспечыла выдатную захаванасць драўляных будаўнічых канструкцый і прадметаў побыту з розных матэрыялаў (дрэва, скура, косці, зерне і валокны раслін).

Найбольш поўнае ўяўленне аб магутнасці, характары, структуры і храналогіі пінскага культурнага пласта дае раскоп 1963 г., пачаты з дзённай паверхні і даведзены да мацерыка на плошчы 128 кв. м. Культурны пласт у раскопе дасягае 4,5 м і падзяляецца на чатыры стратыграфічныя пласты. Першы пласт, магутнасцю да 1,5 м, складаецца з шэрай супесі, утрымлівае больш познія ўключэнні (датуецца XIX—XX стст.). Другі пласт таўшчынёй у 2,2—2,4 м складаецца з гною, шчэпак, будаўнічых матэрыялаў, рэшткаў забудовы — у ім добра захаваліся прадметы арганічнага паходжання (датуецца XIV—XVIIIстст.). Трэці, памерамі 0,4—0,6 м,— цёмна-карычневы, складаецца ў асноўным з драўнянага гумусу (датуецца XII—XIII стст.). Чацвёрты пласт — 0,4 м, цёмна-шэры, вельмі гумусаваны, размешчаны зверху мацерыка (датуецца канцом XI ст.). Падобную структуру мае ў прынцыпе культурны пласт і на іншых

участках навакольнага горада. У асобных раскопах, закладзеных у будаўнічых катлаванах, адсутнічаюць верхнія пласты і захоўваюцца ніжнія. У іншых у іх уключаюцца мясцовыя дробныя тонкія праслойкі.

**Планіроўка і забудова горада.** Добрыя кансервіруючыя ўласцівасці культурнага пласта Пінскага гарадзішча забяспечваюць захаванасць рэшткаў старажытных драўляных збудаванняў і даюць магчымасць значна пашырыць нашы веды аб планіроўцы і забудове старажытнага Пінска.

У раскопе 1963 г. ускрыты вулічная маставая (7 ярусаў), 10 дваровых насцілаў, 16 жылых і 7 гаспадарчых пабудоў, якія адносяцца да дзевяці розных будаўнічых ярусаў, што паслядоўна змяняюць адзін другога. Раскопам выяўлена сядзібная забудова, пры якой па абодвух баках вуліцы, якая ішла перпендыкулярна ад дзядзінца ў напрамку вала навакольнага горада, ускрыты часткі дзвюх сядзіб з рэшткамі жылых і гаспадарчых пабудоў, дваровымі насціламі і частаколамі, якія агароджвалі двары і аддзялялі іх ад вуліцы.

На ўсход ад вуліцы знаходзіцца даволі шырокі двор (сядзіба), агароджаны частаколам, у склад якога ўваходзяць жылая пабудова, гаспадарчыя пабудовы, дваровыя насцілы. На захад ад вуліцы ўскрыта частка другой сядзібы (двара), таксама агароджанай частаколам, якая мела ўезд у вароты (тоўстыя слупы-шулы па краях насцілу) з боку вуліцы, дашчатую і бярвенчатую вымастку двара. Асноўныя пабудовы гэтай сядзібы засталіся, відаць, за межамі раскопу.

Вуліца паміж дварамі ідзе ў радыяльным напрамку ад дзядзінца (і, магчыма, размешчанай побач з ім гандлёвай плошчы) да вала навакольнага горада. Аднак наўрад гэта галоўная вуліца, таму што шырыня яе ўсяго 2,5—3 м. У галоўнай частцы раскопу налева (на захад) ад вуліцы адыходзіць завулак. Бярвёны і дошкі пабудоў, вулічнай маставой і дваровых насцілаў добрай захаванасці. Усе будаўнічыя ярусы раскопу (за выключэннем 2-га) маюць дэндрахраналагічную датыроўку. Існаванне збудаванняў усіх будаўнічых ярусаў знаходзіцца ў межах ад 1280 (1250?) (9-ы будаўнічы ярус) да 1556 г. (1-ы будаўнічы ярус). Дэндрахраналагічныя датыроўкі добра супадаюць з распаўсюджаннем датуючых прадметаў у пластах, аднячасовых адпаведным будаўнічым ярусам.

У раскопах 1964 г. (№ 9, 10), закладзеных у катлаванах пад новы дом, і з дзённай паверхні (№ 11) структура і характар культурнага пласта аналагічныя культурнаму пласту ў раскопе 1963 г. (№ 8), а забудова з 5 будаўнічых ярусаў характарызуецца такой жа добрай захаванасцю рэшткаў драўляных збудаванняў і тымі ж тэхнічнымі прыёмамі іх узвядзення.

Ва ўсіх раскопах выяўлена высокая стабільнасць планіроўкі і забудовы, пры якой асноўныя элементы забудовы на працягу некалькіх будаўнічых ярусаў займаюць адно і тое ж месца, маюць адны і тыя ж памеры і арыенціроўку. У паўночнай частцы навакольнага горада пры капанні катлавана пад новы дом разбурана пяць ярусаў вулічнай маставой, што ішла паралельна валу навакольнага горада на адлегласці 8 м ад яго падножжа. У паўночнай сценцы катлавана пад жылы дом на плошчы імя У. І. Леніна прасочана шэсць ярусаў вулічнай маставой, якая праля-



*Мал. 60. Забудова старажытнага Пінска*

гала ад дзядзінца да вала навакольнага горада. У раскопе 1963 г. прасочана сем ярусаў вулічнай маставой, што ішла, як і папярэдняя, ад дзядзінца да вала навакольнага горада. У паўночнай частцы раскопу ад гэтай вуліцы адыходзіць другая вуліца у заходнім напрамку, паралельна валу і прывальнай вуліцы (на адлегласці каля 20 м ад яе). Такім чынам, на паўночным участку навакольнага горада прасочаны дзве вуліцы ў радыяльным напрамку і дзве — паралельныя валу.

Ускрытыя жылыя пабудовы дазваляюць зрабіць вывад, што характэрным тыпам жылля ў старажытным Пінску былі наземныя аднакамерныя зрубныя пабудовы плошчай каля 16 кв. м. Злучальныя чашкі вуглоў і ўшчыльняльныя пазы вырубаліся ў круглых (рэдка часаных) бярвёнах зверху. Іншы раз пазы паміж бярвёнамі канапацілі мохам. Дашчатую падлогу клалі на дзве-тры лагі, урубленыя скразной урубкай паміж 2-м і 3-м вянцамі. У якасці падмуркаў часта выкарыстоўвалі рэшткі папярэдніх пабудоў. У некаторых пабудовах выяўлены развалы глінабітных печаў. Пабудовы размешчаны даволі рэдка, двары (сядзібы) маюць значныя памеры. Часта свабодную ад забудовы прастору двара



*Мал. 61. Рэканструкцыя старажытнага Пінска*

(або значную яе частку) перакрывалі дашчатым насцілам. Гаспадарчыя пабудовы ўзводзілі ў той жа тэхніцы, што і жылыя.

**Матэрыяльная культура.** У раскопах на гарадзішчы старажытнага Пінска сабраны вялікі рэчавы матэрыял, які паведамляе аб розных баках жыцця гэтага горада. Большасць знойдзеных прадметаў мае добрую захаванасць. Знаходкі сведчаць аб занятках мясцовага насельніцтва рознымі рамёствамі і промысламі, аб шырокіх гандлёвых сувязях і высокім узроўні культурнага жыцця.

Найбольшую цікавасць уяўляюць прылады працы. З інструментаў жалезаапрацоўчага рамяства знойдзены зубіла, два прабойнікі, спружынны пласцінкавы пінцэт з плоскімі губкамі. З інструментарыя ювеліра знойдзены ювелірныя пінцэты і тыгілёк для расплаўкі металу. З інструментаў плотніка і сталяра — долата, свярло і маленькі цыркульны свердзел для нанясення вочкавага арнаменту. Знойдзены таксама шыла, верацёны, прасліцы і чаўнок ткацкага станка. З жалезных прылад сельскагаспадарчай вытворчасці выяўлены сашнік, акоўка драўлянай рыдлёўкі, абломкі касы, сярпа.

Зброя і прадметы рыштунку конніка і баявога каня прадстаўлены знаходкамі пяці жалезных наканечнікаў стрэл і фрагментамі дзвюх шпор (з канічным шыпам і «рэпейкай»). З прадметаў штодзённага ўжытку знойдзены цыліндрычныя падвясныя замкі і спружынныя дужкі да іх, ключы розных тыпаў, нажы, дзвярныя кольцы, кручкі, скобы, вядзёрныя дужкі, падкоўкі, пражкі, цвікі і г. д. Адна з самых шматлікіх знаходак — нажы. Часам нажы арнаментаваны зачаканенымі ўпоперак спінкі кавалачкамі меднага дроту.

Ювелірныя вырабы ў матэрыялах старажытнага Пінска нешматлікія. Знойдзена створка прамавугольнай бронзавай іконкі — складня з вы-



*Мал. 62. Знаходкі са старажытнага Пінска: 1 — каменны абразок, 2 — нацельны крыж; 3 — фібула, 4 — фрагмент бранзалета; 5 — інкруставанае кальцо, 6 — пярсцёнак; 7, 8, 13 — касцяныя накладкі, 9 — спражка-фібула; 10, 16 — спражкі, 11, 12 — бранзалеты; 14, 15 — свердзелкі, 17, 33 — ювелірныя пінцэты, 18, 24, 25 — касцяныя накладкі, 19 — касцяны грабеньчык, 20—23 — наканечнікі стрэл, 26 — прасліца з надпісам; 27, 28 — шпоры; 29 — драўляны грабеньчык; 30, 32 — ключы, 31 — замок; 34 — фрагмент амфары з надпісам*

вай у поўны рост Божай маці. У пласце XIII ст. знойдзен фрагмент адлітага біпонавага створчатага бранзалета, арнаментаванага штучнай зерню і ўстаўкамі цёмна-чырвонага шкла (каменя?). З упрыгожанняў знойдзены пласцінкавыя і кругладротавыя бранзапеты, прывескі, пярсцёнкі, фібулы, нацельныя крыжыкі, пражкі.

З касцяных вырабаў выяўлены аднабаковы і двухбаковы грабяні, рукаяці, утулкі, гузікі, вастрыё, розныя нарыхтоўкі і паўфабрыкаты. З найбольш цікавых — па-майстэрску выразаная вухавёртка, іральная шашка, касцяны падшыпнік з спрацаваным гняздом.

Мала прадметаў мастацкай апрацоўкі каменя. Але ў іх ліку вельмі рэдкая — каменны невялікі падвясны абразок Ісуса Хрыста Эмануіла (рубеж XI—XII стст.). У пласце XII ст. знойдзена шыфернае прасліца з надпісам «NACTACHNO ПРАСЛЕNЪ». Рэдка сустракаюцца знаходкі бурштыну. Даволі часта — фрагменты шкляных бранзалетаў кіеўскай вытворчасці, як можна меркаваць паводле формы, каляровай гамы і хімічнага складу.

Часта сустракаюцца абрэзкі скуры, фрагменты і цэлыя экземпляры скуранога абутку — туфляў і поршняў. Знойдзены скураныя чахлы, футляры для грабянцоў. Камякі і пласты абзоленай поўсці сведчаць аб мясцовай апрацоўцы скур.

У раскопе знойдзена шмат розных вырабаў з дрэва. Гэта ткацкія чаўнакі, верацёны, рыдлёўкі, вёслы, фрагмент ільнамялкі, трапала для апрацоўкі льну. Неаднойчы знаходзілі фрагменты точанага посуду (чашкі), разныя лыжкі, двухбаковыя грабянцы. Шмат частак бондарнага посуду (клёпкі, донцы) — цэбраў, вядзёр, бочак.

Многа фрагментаў ганчарнага посуду. Адна з найбольш цікавых знаходак — паліўныя керамічныя пліты, якія выкарыстоўваліся для ўпрыгожвання будынкаў манументальнай архітэктуры. Пліткі рабілі з белай гліны, пакрывалі палівай карычневага, зялёнага, жоўтага і крэмавага колераў. Па шматстайнасці форм (звыш 30) калекцыя пінскіх плітак пераўзыходзіць аналагічныя калекцыі з іншых помнікаў.

У Пінску не выяўлена збудаванняў манументальнай архітэктуры. Магчыма, пліткі былі нарыхтаваны для будучага будаўніцтва.

**Заняткі насельніцтва.** Выяўленыя раскопкамі матэрыялы дазваляюць меркаваць аб занятках насельніцтва старажытнага Пінска. Сярод шматлікіх рамёстваў найбольш значным, несумненна, было жалезаапрацоўчае, якое забяспечвала выраб разнастайных прылад працы. Раскопкі 1955, 1957 гг. на тэрыторыі навакольнага горада ў пластах XVI ст. ускрылі рэшткі домніцы. У больш ранніх пластах слядоў мясцовай металургічнай вытворчасці не выяўлена. Відавочна, у гэты перыяд мясцовыя кавалі, як і ў іншых гарадах, атрымлівалі крычнае жалеза ад вясковых металургаў. Аб мясцовым жалезаапрацоўчым рамястве сведчаць знаходкі крычнага жалеза, шлакаў, кавальскага інвентару. Прадукцыю кавалёў можна падзяліць на дзве катэгорыі — самыя простыя вырабы, зробленыя метадам звычайнай кавальскай коўкі (цвікі, скобы, хатні побытавы інвентар), і высакаякасныя прылады працы і прадметы побыту з выкарыстаннем складаных тэхнічных вытворчых прыёмаў (выраб сталі, наварка стальнога вастрыя, загартоўка, слясарная падгонка, пакрыццё палудай, пайка, мядненне, чаканка і г. д.). Прымяненне такіх складаных

аперацый патрабуе высокага ўзроўню майстэрства, сведчыць аб спецыялізацыі асобных відаў жалезаапрацоўчай вытворчасці, аб існаванні пэўнай катэгорыі мясцовага насельніцтва, для якой менавіта гэта вытворчасць вызначала прафесійную арыентацыю, працоўную дзейнасць.

Культурны пласт старажытнага Пінска ўтрымлівае мала ювелірных вырабаў. Аднак усё ж знойдзены прадметы, якія сведчаць аб наяўнасці мясцовай ювелірнай вытворчасці — тыгелькі і льячкі для расплаўкі металу, ювелірныя пінцэты. Пінскім ювелірам былі вядомы такія тэхнічныя прыёмы апрацоўкі каляровых металаў, як ліццё па падрыхтаванай форме, пайка, чаканка, пакрыццё асновы іншым металам (палуда).

Знаходкі касцяных нарыхтовак, паўфабрыкатаў, зыходнай сыравіны і разнастайных гатовых вырабаў не пакідаюць сумнення ў існаванні мясцовага кастарэзнага рамяства. Паводле знойдзеных інструментаў, вызначаліся розныя тэхнічныя прыёмы апрацоўкі косці — рубка, піленне, свідраванне, разьба на такарным варштаце, нанясенне арнаментаў рознымі металамі.

Не выклікаюць сумнення і мясцовыя гарбарныя і шавецкія вытворчасці, якія базіраваліся на мясцовай сыравіне. У раскопах неаднойчы сустракаліся камякі і пласты абвапненай поўсці, у пласце XIII ст. знойдзена казіная шкура, пакрытая пластом выпны — сведчанне мясцовай апрацоўкі. Аб мясцовым шавецкім рамястве сведчаць шматлікія абрэзкі, якія засталіся пры раскроі скур, вялікая колькасць разнастайнага абутку, знаходкі шыла і слядоў заточкі шыла на брусах.

Апрацоўка дрэва была нязменным заняткам мясцовага насельніцтва пры будаўніцтве жылых і гаспадарчых пабудоў, пракладцы і доглядзе вуліц і дваровых насцілаў, узвядзенні абарончых збудаванняў і інш. Многія са знойдзеных драўляных прадметаў штодзённага побыту (рыдлёўкі, вёслы, верацёны, пробкі, рукаяці) не ўяўлялі асаблівых цяжкасцей у іх вырабе для большасці гараджан. Але для вырабу іншых прадметаў патрабаваліся і веданне спецыяльнай тэхналогіі апрацоўкі драўніны і адпаведна спецыяльны інструментарый (тачыльны варштат, разец, бондарная ўторная пілка і г. д.). У такім выпадку ёсць падстава гаварыць аб існаванні ў старажытным Пінску і рамесніцкай дрэваапрацоўчай вытворчасці.

Выраб глінянага посуду з выкарыстаннем ганчарнага круга і спецыяльных ганчарных горнаў таксама патрабуе спецыялізацыі і рамесніцкай арганізацыі вытворчасці. Магчыма, у Пінску была наладжана і вытворчасць паліўных керамічных плітак.

Апрача рамёстваў насельніцтва Пінска займалася таксама сельскай гаспадаркай. Аб гэтым сведчаць знаходкі прылад земляробства (сашнік, акоўка рыдлёўкі), уборкі ўраджаю (сярпы), перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі (ільнамялка, ільнотрапала, жорны). Зафіксаваны знаходкі зерня і сямян культурных раслін (проса, жыта, лён, каноплі). Астэалагічны матэрыял выяўляў перавагу (74,3 %) жывёлагадоўлі (буйная і дробная рагатая жывёла, свінні, коні) над паляваннем (зубр, тур, лось, алень, дзік, казуля, мядзведзь, бобр, заяц). У паляўнічай здабычы пераважалі буйныя парнакапытныя, на якіх палявалі ў асноўным з-за мяса. Займалася насельніцтва і рыбалоўствам, прымяняючы сеці, гарпуны, кручкі. Косці і луска рыб былі пастаяннай знаходкай у пінскім культурным пласце.

Геаграфічнае размяшчэнне горада ў вузле водных шляхоў садзейнічала развіццю гандлёвых сувязяў. З Кіева паступалі ў Пінск шкляныя бранзалеты, пацеркі, посуд, аконнае шкло, з Валыні — шыферныя праслiцы, з Прычарнамор'я — амфары. Несумненна, шырока былі развіты сувязі з бліжэйшай сельскагаспадарчай акругай, адкуль паступалі прадукты ў абмен на якасныя вырабы гарадскіх рамеснікаў, прадметы транзітнага імпартнага гандлю.

**Узнікненне горада.** Матэрыялы археалагічнага вывучэння даюць падставу для меркавання аб шляхах узнікнення і развіцця старажытнага Пінска. Размяшчэнне ў цэнтры дрыгавіцкіх зямель выключае версію яго ўзнікнення ў якасці парубежнай крэпасці. Буйныя памеры гарадзішча і ранняе ўзнікненне навакольнага горада выключаюць таксама версію яго развіцця з феадальнай сядзібы. Хутчэй за ўсё асноўнымі фактарамі, стымуламі заснавання і хуткага развіцця горада былі яго зручнае і выгаднае месцазнаходжанне ў вузле ажыўленых водных шляхоў, наяўнасць ўрадлівых зямель у ваколлі і вясковага насельніцтва — нязменнага спажыўца гарадской рамесніцкай прадукцыі. Таму ёсць усе падставы гаварыць аб узнікненні Пінска ў першую чаргу як гандлёвага і рамеснага (зканамічнага) цэнтра вясковай тэрыторыі, які выконваў да таго ж адказную адміністрацыйную і абарончую функцыю, характэрную для старажытных гарадоў.

## Бярэсце

**Летапісныя звесткі.** На крайнім захадзе паўднёвай Беларусі, ля ўпадзення ў Заходні Буг яе правага прытока Мухаўца размешчаны адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі — Бярзсце (сучасны Брэст). Горад узнік на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў як абарончы пункт на парубежжы ўсходнеславянскіх і заходнеславянскіх зямель. Летапісы ўпершыню згадваюць Бярэсце ў 1019 г. У гэтым годзе завяршылася працяглая барацьба за кіеўскі вялікакняжацкі прастол пасля смерці вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча (15 ліпеня 1015 г.) паміж яго сынамі Святаполкам, князем тураўскім, і Яраславам, князем наўгародскім. Барацьба праходзіла з пераменным поспехам, супернікі неаднойчы цярпелі паражэнне, але ў канчатковым змаганні на р. Альта (ля сучаснага Пераяслаўля) перамог Яраслаў, і Святаполк праз Бярэсце ўцякае ў Польшу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 132). Так упершыню на старонках летапісу згадваецца назва гэтага горада. У далейшым на працягу XI—XIII стст. летапісы неаднойчы (каля трох дзесяткаў разоў) згадваюць Бярэсце. Але запісы гэтыя, як правіла, кароткія, урыўкавыя, выпадковыя. У іх больш гаворыцца аб ваенных ці палітычных падзеях, да якіх меў дачыненне горад, але на іх падставе нельга атрымаць уяўленне аб яго месцазнаходжанні, планіроўцы, забудове, абарончых збудаваннях, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці. Немагчыма таксама паслядоўна і поўна аднавіць падзеі і факты яго палітычнага жыцця.

Паводле згадвання пра Бярэсце ў 1019 г., можна меркаваць, што ў пачатку XI ст. горад належаў Тураўскаму княству, дзе Святаполк меў сваіх прыхільнікаў, на дапамогу якіх разлічваў у час уцёку. Размяшчэнне на парубежжы заходніх і ўсходніх славян абумоўлівала розныя падзеі

ў палітычнай гісторыі горада. У XI ст. Бярэсце, відавочна, неаднойчы было аб'ектам нападу з боку заходніх суседзяў. Успамін аб паходах Яраслава Уладзіміравіча на Бярэсце ў 1022 г. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 134), на Чэрвеньскія гарады ў 1031 г. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 137) і на мазаўшан у 1041 г. дазваляе меркаваць, што хутка пасля ўцёку Святаполка горад быў захоплены палякамі і вызвалены толькі напярэдадні паходаў на мазаўшан у 1041 і 1047 гг. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 141, 143).

У «Навучанні дзецям» Уладзіміра Манамаха згадваецца аб тым, што ён быў пасланы «братьями» абараняць спаленае палякамі Бярэсце (ПСРЛ. Т. II. Стб. 360). Відаць, гаворка ідзе аб падзеях 1073 г., калі пасля выгнання кіеўскага князя Ізяслава Яраславіча кіравалі ў Кіеве яго браты Святаслаў і Усевалад (бацька Уладзіміра Манамаха). Тут упершыню ў летапісе Бярэсце названа горадам. Вельмі важна, што назва Бярэсця горадам дадзена Манамахам, вопытным палітычным і вайсковым дзеячам, які пабачыў мноства гарадоў на Русі і за яе межамі. У 1097 г. Бярэсце зноў названа горадам. Сюды для перагавораў з польскім каралём Баляславам прыбыў вялікі кіеўскі князь Святаполк Ізяславіч. «...И стояше Святополк во граде, а ляхове на Бузе, и сносися Святопопк речью с ляхи» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 243). У 1101 г. сюды бяжыць Яраслаў Яраполчыч, сын загінуўшага ў 1086 г. Яраполка, брат Святаполка. Рашэннем Любецкага з'езда князёў у 1097 г. было замацавана за Святаполкам Тураўскае і Уладзімірскае княствы, тым самым пакідаючы без надзелу Яраслава Яраполчыча. Яго ўцёк у Бярэсце, верагодна, звязаны з надзеяй захапіць тут надзел, што, магчыма, было загадзя ўзгоднена з мясцовым насельніцтвам. Відавочна, у горадзе наспелі сацыяльна-эканамічныя ўмовы для вылучэння яго ў асобае княства і ўзнікла зацікаўленасць пэўных, найперш заможных, колаў насельніцтва, якія звязвалі атрыманне Бярэсцем самастойнасці з павышэннем яго бяспекі, абаронай сваіх класавых інтарэсаў. Аднак для Святаполка Бярэсце ўяўляла значную каштоўнасць, і ён «ял и окова» бунтоўнага пляменніка. Вызвалены па просьбе святароў Яраслаў Яраполчыч, аднак, зноў у 1102 г. бяжыць у Пабужжа і зноў быў захоплены на Нуры стрыечным братам Яраславам Святаполчычам.

У сярэдзіне XII ст. разам з усім Тураўскім княствам Бярэсце перажывае складаны і нялёгкі час. Пасля смерці Святаполка Ізяславіча ў 1113 г. Тураўская зямля пераходзіць у валоданне кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха і яго нашчадкаў. У 1140 і 1142 гг. Бярэсце, як і іншыя гарады, служыць для задавальнення патрэб сапернікаў і саюзнікаў кіеўскага князя Усевалада Ольгавіча і перадаецца яго брату, шурынам Давыдавічам (ПСРЛ. Т. II. Стб. 308, 312). Ад валодання чарнігаўскімі князямі Бярэсце вызвалена Вячаславам Уладзіміравічам, князем тураўскім, у 1146 г. пасля смерці Усевалада Ольгавіча і пераходу Вялікага княства Кіеўскага да Ізяслава Мсціславіча Манамашыча (ПСРЛ. Т. II. Стб. 330).

У сярэдзіне XII ст. пры адсутнасці стабільнай дынастыі на тураўскім прастоле і аслабленні яго палітычнай значнасці паслабляюцца сувязі з ім Бярэсця. У 1149 г. Бярэсце перадаецца Ізяславам Мсціславічам стрыечнаму брату Уладзіміру Андрэевічу пры яго вяртанкі з кіеўскага прастола на ўладзімірскі (Татищев, 1964. С. 9). У 1153 г. у Бярэсці пра-

цягвае княжыць Уладзімір Андрэевіч, але ў далейшым ён, відаць, страціў Бярэсце, таму што ў 1169 г. узнімае пытанне аб яго звароце (ПСРЛ. Т. II. Стб. 533). У 1171 г., верагодна, пасля смерці Уладзіміра Андрэевіча, горад перадаецца Васільку Яраполчычу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 546; Татищев, 1964. Т. III. С. 95), пляменніку кіеўскага князя Мсціслава Ізяславіча. У 1182 г., па звестках М. Стрыйкоўскага, Бярэсце было вызвалена ад палякаў, але зноў узята штурмам, пасля чаго польскі кароль Казімір адбудаваў замак і размясціў у ім гарнізон (Stryikowski, 1846. T. I. S. 211). В. Н. Тацішчаў некалькі інакш асвятляе падзеі гэтага часу. Васілька Яраполчыч Драгічынскі з дапамогай палякаў займае Бярэсце, перамогшы Уладзіміра Валадаравіча Мінскага (?). Аднак апошнія выбіў палякаў з Бярэсця і адцясніў іх да р. Нура (за Бярэсцем). Тым не менш Васілька з дапамогай цесця Лешкі прымусіў Уладзіміра пакінуць Падляшша і «выидти к Берестю за реку Буг» (Татищев, 1964. С. 127—128).

Падзеі сярэдзіны і другой паловы XII ст. сведчаць аб зменах у палітычным жыцці Бярэсця. Яўна фіксуюцца яго сувязь з Уладзімірскім княствам і спробы вылучэнняў у самастойнае княжэнне. Гэтыя спробы працягваюцца і ў пачатку XIII ст. Калі ў 1204 г. у Польшчы загінуў магутны галіцка-валынскі князь Раман Мсціславіч, «берестяне» прасілі ў кракаўскага князя Лешкі адпусціць да іх на княжанне малалетняга сына Рамана Васілька з яго маці (ПСРЛ. Т. II. Стб. 720—721). Аднак княжанне Васілька ў Бярэсці было, відаць, непрацяглым, і ўжо ў 1213 г. старэйшы яго брат Даніла Раманавіч, умацаваўшыся на ўладзімірскім прастопе (1212 г.), з дапамогай свайго цесця Мсціслава Мсціслававіча Галіцкага (Удалога) займае «Берестье, Угровеск, Верещин, Столп Комов и всю Украину» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 732). Толькі пасля разгрому апошніх атрадаў Лешкі Данііл Раманавіч зноў займае Бярэсце (ПСРЛ. Т. II. Стб. 733), а некалькі пазней перадае яго брату Васільку.

У пачатку XIII ст. Бярэсце аказваецца ў зоне нярэдкіх канфліктаў з Польшчай, яцвяжскіх і літоўскіх набегаў, якія далёка заглыбляліся ў рускія землі. У час мангола-татарскага нашэсця Бярэсце таксама апынулася ў зоне дзеяння атрадаў хана Орду, аднак лёс горада невядомы. Вяртаючыся пасля адыходу мангола-татарскага войска, Данііл і Васілька, як адзначае летапісец, «...не возмогоста ити в поле смрада ради и множества избъных...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 788). Відаць, бітва адбылася ў ваколіцах Бярэсця. Аб узяцці і разбурэнні горада ў летапісе не гаворыцца. Не выяўлены сляды пагібелі і спальвання горада ў пластах XIII ст. і ў археалагічных даследаваннях.

У другой палове XIII ст. Бярэсце працягвае заставацца ў складзе Уладзімірскага княства. Яно часта ўпамінаецца ў сувязі з арганізацыяй барацьбы з польскімі, яцвяжскімі і літоўскімі набегамі — у якасці зборнага пункта атрадаў Уладзімірскага і Галіцкага княстваў (1260, 1277, 1281, 1282, 1287 гг.). У 1279, галодным, годзе з Бярэсця адпраўляецца гандлёвы хлебны караван у землі яцвягаў. Пад 1282 г. летапіс згадвае брэсцкага ваяводу Ціта, які ўмела арганізаваў пагоню брэсцкага атрада ў 70 чалавек за польскім атрадам у 200 чалавек, які зрабіў набег на ваколіцы Бярэсця. Пагоня была паспяховай, польскі атрад панёс вялікую страту (80 чалавек загінулі ў бітве, астатнія ўзяты ў палон, былі вызвалены свае палонныя) (ПСРЛ. Т. II. Стб. 890).

У канцы XIII ст. брасцяне зноў зрабілі чарговую спробу выдзялення ў самастойнае княства. Уладзімір Васількавіч у час цяжкай хваробы завяшчаў Уладзімірскае княства свайму брату Мсціславу, луцкаму князю. Але берасцяне «сотворили крамолу» і дамовіліся аб княжанні ў Бярэсці Юрыя Львовіча, сына галіцкага князя Льва Данілавіча, стрыечнага брата Уладзіміра Васількавіча. Пасля смерці Уладзіміра Васількавіча Юрый Львовіч прыехаў у Бярэсце і пачаў княжыць, адмовіўшыся пакінуць горад па патрабаванню Мсціслава. Толькі пагрозы апошняга прымяніць ваенную сілу і прыцягнуць татарскія атрады прымусілі Юрыя Львовіча адступіць. Ён пакінуў горад «с великим соромом, пограбив все дома стрыя (дзядзькі.— *П. Л.*) своего и не остася камень на камни в Берестии, и в Каменци, и в Бельскии...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 931). Мсціслаў пакараў берасцян за здраду дадатковымі налогамі: «...со ста по две лукне меду, а по две овцы, а по пятнадцать десятков лну, а по сту хлеба, а по пяти цебров овса, а по пяти цебров ржи, а по 20 кур, а по телку со всякого ста, а на горожанах 4 гривны куни...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 932).

У канцы XIII ст. Бярэсце па-ранейшаму застаецца ў складзе Уладзімірскага княства, займаючы ў ім віднае месца. Гэта пацвярджаюць летапісныя звесткі аб тым, што Уладзімір Васількавіч клапаціўся аб умацаванні Бярэсця («зруби Берестии... сзда столп камен высотою яко и каменецкый») і аб манументальным будаўніцтве ў ім («...постави ж церковь святого Петра...») (ПСРЛ. Т. II. Стб. 925, 927). Аднак змена палітычнай сітуацыі значна паўплывала на лёс Бярэсця. Аслабленне княстваў паўднёва-заходняй Русі ў выніку мангола-татарскага нашэсця і, наадварот, узмацненне княства Літоўскага абумовілі ўключэнне ў яго склад Бярэсця ў 20-х гадах XIV ст. У Вялікім княстве Літоўскім Бярэсце знаходзілася на статусе «господарского» (дзяржаўнага) горада.

**Гісторыя даследавання.** Старажытнае Бярэсце ў гістарычных работах упамінаецца ў сувязях з агульнымі падзеямі ў рэгіёне. Прычына гэтага — яўны недахоп звестак аб Бярэсці ў пісьмовых крыніцах, урыўкавы і выпадковы характар большасці з іх. Гэта выклікала неабходнасць археалагічнага вывучэння яго рэшткаў. Аднак на шляху археолагаў паўсталі сур'ёзныя перашкоды і цяжкасці. У выніку вялікіх земляных работ пры ўзвядзенні Брэсцкай крэпасці ў сярэдзіне XIX ст. зусім змяніўся рэльеф мясцовасці ў раёне размяшчэння старажытнага горада. Былі раскапаны старажытныя абарончыя валы, засыпаны равы, узведзены новыя бастыёны. Спробы вызначыць месцазнаходжанне старажытнага горада Ю. А. Ягоравым у 1954 г. і Ю. В. Кухарэнкам у 1961 г. не далі станоўчых вынікаў. Ю. А. Ягораў выказаў меркаванне, што Бярэсце размяшчалася на адным з астравоў ля ўпадзення Мухаўца ў Заходні Буг (Егоров, 1954. С. 82). Улічваючы вялікую колькасць астравоў ля ўпадзення Мухаўца, зафіксаваных на гравюры XVII ст., такое вызначэнне нельга прызнаць дакладным, а лакалізацыю гарадзішча ўстаноўленай. Ю. В. Кухарэнка таксама меркаваў, што гарадзішча Бярэсця «размяшчалася на востраве і канчаткова было разбурана ў час будаўніцтва Брэсцкай крэпасці» (Кухаренко, 1961. С. 19). Не былі паспяховымі спробы вызначыць месцазнаходжанне Бярэсця і ў 1961 г. (Сядоў, Лысенка).

У 1964 г. на аснове комплекснага вывучэння пісьмовых, графічных работ і супастаўлення іх з сучасным рэльефам мясцовасці была праведзена рэтраспектыўная рэканструкцыя старажытнага рэльефу мясцовасці і абгрунтавана меркаванне аб размяшчэнні дзядзінца старажытнага Бярэсця на мысе, створаным правым берагам р. Заходні Буг і левым берагам рукава р. Мухавец, упадаючага ў Заходні Буг, а навакольнага горада — на востраве паміж двума рукавамі р. Мухавец (Лысенко, 1965. С. 82—87). Гэта меркаванне-гіпотэза пацвердзілася ў 1968 г., калі шурфамі ля падножжа бастыёна на гэтым мысе быў выяўлены непашкоджаны культурны пласт з характэрнымі знаходкамі старажытнарускага перыяду. У 1969 г. з заходняга боку бастыёна быў закладзены раскоп у 128 кв. м, у якім быў выяўлены культурны пласт магутнасцю 3,3—4,9 м, выключна добра захаваўшы рэшткі старажытнай забудовы (9 будаўнічых ярусаў і прадметы старажытнарускага побыту з матэрыялаў арганічнага і неарганічнага паходжання). У раскопе 1970 г., закладзеным з паверхні бастыёна, выяўлены пабудовы XIII ст., якія захаваліся на 9—12 вянцоў. У 1970—1973 гг. вывучаны культурны пласт на плошчы 20×40 м і на глыбіню 3,5—4 м да гарызонту XIII ст., драўляныя збудаванні якога захоўваліся працяглы час у якасці экспанатаў будучага археалагічнага музея. У 1974—1977 гг. даследаванні праводзіліся на плошчы 10×40 м на поўную таўшчыню культурнага пласта (7 м). У 1981 г. экспазіцыйная плошча ў пабудаваным павільёне музея «Бярэсце» была расшырана і ўпарадкавана. Усяго на дзядзінцы Бярэсця даследавана 1838 кв. м, у тым ліку 528 кв. м да мацерыка. У 1972 г. праводзіліся пошукі і даследаванні абарончых збудаванняў старажытнага Бярэсця.

**Тапаграфія.** Даследаванні культурнага пласта і абарончых збудаванняў дазволілі ўдакладніць тапаграфію старажытнага Бярэсця. Дзядзінец Бярэсця размяшчаўся на мысе, меў трохвугольную форму і з напольнага боку быў агароджаны валам і ровам. Планіроўка яго была падпарадкавана рэльефу мясцовасці. З заходняга боку яго абмяжоўваў Заходні Буг, з паўночнага — Мухавец, з усходняга і паўднёвага — дугападобны вал і роў. Плошча дзядзінца нязначна перавышала адзін гектар. Насельніцтва жыло і на прылягаючай да дзядзінца тэрыторыі, утвараючы навакольны горад. Культурны пласт з матэрыяламі дамангольскага часу выяўлены ў час зямельных работ і на тэрыторыі суседняга вострава. У ім, аднак, не захаваліся прадметы арганічнага паходжання. Пласт бедны знаходкамі, вельмі пашкоджаны катлаванамі пад фундаменты і падвалы шматпавярховых будынкаў. Можна ўявіць, што плошча навакольнага горада, мяркуючы па памерах вострава, была 2,5—3 га. На гэтым востраве ў далейшым развівалася манументальная гарадское цывільнае і царкоўна-манастырскае будаўніцтва асноўнага ядра горада XVI—XVII стст.

**Культурны пласт.** Культурны пласт на дзядзінцы Бярэсця мае магутнасць 7 м, даволі выразна падзяляецца на шэсць буйных прапластовак, маючых аднародны склад, але розную таўшчыню (ад 20—30 см да 3 м), кансервіруючыя ўласцівасці і даволі высокую насычанасць рэшткамі збудаванняў і знаходкамі. Пласты залягаюць у асноўным гарызантальна, але ў асобных месцах маюць паніжэнні і павышэнні, што добра




*Мал. 63. Тапаграфія Бярэсця*

прасочваецца на выяўленых будаўнічых ярусах. Вялікую таўшчыню маюць гідраізалюючыя пласты гною з шчапою, якія забяспечваюць добрую захаванасць рэштkaў збудаванняў і розных вырабаў з матэрыялаў арганічнага і неарганічнага паходжання.

**Датыроўка.** Добрая захаванасць розных прадметаў і да таго ж насычанасць культурнага пласта тымі з іх, якія маюць даволі дакладную датыроўку, дазволілі надзейна датаваць і праплaстоўкі культурнага пласта, і будаўнічыя ярусы. Добрая захаванасць рэштkaў драўляных збудаванняў дала магчымасць правесці дэндрахраналагічнае датаванне пабудоў, будаўнічых ярусаў і пластоў культурнага слоя, у якіх яны знаходзіліся. Выключнае супадзенне датыровак па рэчавым матэрыяле і дэндрахраналагічным вызначэнні ўзросту збудавання дазволіла павільна датаваць шматлікія і разнастайныя знаходкі з рэчавай калекцыі. Гэта дае падставу выкарыстоўваць калекцыю прадметаў з раскопак Бярэсця ў якасці эталоннай для датыроўкі адначасовых помнікаў шырокага рэгіёна.

**Абарончыя збудаванні.** Бярэсце як пагранічны горад неаднойчы вытрымліваў асады і нашэсці. Таму ён павінен быў мець надзейную абарончую сістэму. У паведамленнях аб падзеях XI ст. летапісец двойчы згадвае пра яго пад назвай «град», што сведчыць аб наяўнасці абарончых збудаванняў. На старажытных планах XVIII—XIX стст. яшчэ прыкметны з напольнага боку дзядзінца паўкруглы абарончы роў. Раскопкамі 1972 г. ускрыты ўнутраны схіл рова і рэшткі дубовага частаколу па яго краі. Перад ровам узвышаецца вал. У яго насыпе і ніжнім гарызонце пласта, які прымыкаў да вала, знойдзена кераміка пачатку XI ст. Відаць, гэта рэшткі драўляных абарончых збудаванняў. На пляцоў-

цы гарадзішча з унутранага боку вала ў 1972 г. выяўлены невялікі ўчасток падмурка з булыжнікаў, змацаваных цэмянкай. Магчыма, гэта рэшткі Берасцейскага «слупа», узведзенага ў 70-х гадах XIII ст.

**Забудова.** У час археалагічных даследаванняў Бярэсця ўскрыты рэшткі 224 пабудоў. Як правіла, пабудовы Бярэсця маюць добрую захаванасць (6—9 вянцоў), а ў чатырох выпадках захаваліся 10—12 вянцоў. У пабудовах Бярэсця выяўлены элементы, якія адсутнічаюць у пабудовах большасці іншых помнікаў старажытнай Русі (дзвярныя праёмы, вокны, дэталі даху і інш.). Для Бярэсця характэрны высокая шчыльнасць забудовы без падзелу на сядзібы і арыгінальная планіроўка з размяшчэннем пабудоў у 3—4 рады паміж паралельнымі вуліцамі.

Найбольш раннія і незвычайныя для старажытнай Русі будаўнічыя канструкцыі выяўлены ў перадмацерыковым пласце Бярэсця. Паралельныя сценкі ў 2—3 вянцы вышынёй з дубовых бярвёнаў таўшчынёй 20—24 см і даўжынёй да 6 м звязаны рубкай у просты вугал, але не ўтвараюць замкнутых канструкцый. Яны ўзведзены на нізкім участку мацерыка і занесены пяском, верагодна, у час паводак. Відаць, гэтыя канструкцыі ўзводзілі спецыяльна для павышэння ўзроўню ўчастка і прыстасавання для бяспекі ад паводак.

Найбольш старажытныя пабудовы Бярэсця датуюцца другой паловай XII ст. Тут выяўлена найменш шчыльная забудова — 4 пабудовы на 400 кв. м. У другім будаўнічым перыядзе шчыльнасць забудовы ўзрастае ўдвая (8 пабудоў). З канца XII ст. пачынаюць узводзіцца будынкі з часаных бярвёнаў, але шырокага распаўсюджвання гэты прыем не атрымаў. У першай чвэрці XIII ст. на дзядзінцы адбылася буйная змена ў планіроўцы — пракладзены вулічныя маставыя на ўчастках, раней занятых жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. У далейшым гэтыя маставыя неаднойчы абнаўляліся, нязменна займаючы, аднак, адно і тое ж месцазнаходжанне і забяспечваючы тым самым стабільнасць забудовы дзядзінца. У гэтым жа перыядзе выяўлена адзіная сядзіба з жылой пабудовы, навеса для жывёлы, гаспадарчага і жывёльнага двароў, агароджаных плятнём. У гэты час распаўсюджаны дваровыя насцілы, а шчыльнасць забудовы дасягае 35 % ускрытай плошчы. У пабудовах выяўлены дзвярныя праёмы, глінабітныя печы з выкарыстаннем цэглы.

Планіроўка Бярэсця вызначаецца высокай стабільнасцю. На адным і тым жа месцы з першай чвэрці XIII ст. па другую палову XIV ст. на працягу шасці будаўнічых ярусаў у асноўным захоўваюць сваё месцазнаходжанне вулічныя праезды і большасць жылых і гаспадарчых пабудоў.

Забудова Бярэсця вызначаецца выключна высокай шчыльнасцю. На плошчы 1444 кв. м у асобных будаўнічых ярусах ускрываліся поўнасцю або часткова, акрамя трох вулічных маставых, да 38—41 адначасова існуючых пабудоў. Шчыльнасць забудовы (пабудовы і вуліцы) дасягала 47—59 %. Яна ўзрастала і дасягнула максімуму к сярэдзіне XIV ст. Іншы раз пабудовы стаялі літаральна ўшчыльную, адзяляліся адна ад другой толькі прамежкам, утвораным рэшткамі бярвёнаў, рубленых у абло. Падобная шчыльнасць забудовы — з'ява вымушаная, таму што эканамічна слабы горад не мог вылучыць значных сродкаў для ўзвядзення абарончых збудаванняў большай працягласці. Па гэтай прычыне ў Бярэ-



*Мал 64 Цэнтральная вуліца Бярэсця XIII ст*



*Мал 65 Забудова Бярэсця (рэканструкцыя П Лысенкі, мастак Я Каробушкін)*

сці мала пабудоў для ўтрымання жывёлы (7). Большасць пабудоў былі жылымі (71) і значна менш гаспадарчых (29).

Рэгуліроўка забудовы ажыццяўлялася сістэмай вуліц. На адлегласці 54 м з поўначы на поўдзень у раскопках ускрыты тры амаль паралельныя вуліцы ў напрамку з усходу на захад. Цэнтральная і паўночная вуліцы размешчаны так, што можна меркаваць аб іх перасячэнні на адлегласці 10—15 м на ўсход ад раскопу. Магчыма, гэта не толькі перакрыжаванне, але і плошча або зліццё вуліц у магістральную, што вяла да ўезду ў горад. Паўднёвая вуліца ўсходнім канцом таксама адхіляецца ў гэтым напрамку (да поўначы) і, магчыма, таксама спалучаецца з гэтай магістральнай вуліцай. Забудова міжвулічнай прасторы ажыццяўлялася ў 3—4 рады. Пабудовы арыентуюцца па вуліцах, прымыкаюць да іх глухімі сценамі ўшчыльную, дзвярныя праёмы ў іх прарублены ў супрацьлеглых ад вуліцы сценах.

Усе пабудовы Бярэсця адносяцца да тыпу наземных, аднакамерных, зрубнай канструкцыі (толькі адна слупавая). Асноўным будаўнічым матэрыялам была сасна, ніжнія вянцы зрубаў іншы раз рубілі з дубовых бярвёнаў, з бярвёнаў лісцевых парод іншы раз будавалі гаспадарчыя пабудовы. Зрубы рубілі «в обло с остатком» 5—30 см, злучальную чашку і ўшчыльняльны паз вырубалі з верхняга боку бервяна. Часта вянцы зрубаў пазначаны насечкамі. Магчыма, іх спачатку рубілі на больш зручным месцы, а затым перавозілі на пастаяннае. Пабудовы ўзводзіліся на 12—14 вянцоў і мелі вышыню сцен каля 2 м. Яны былі аднапавярховымі і толькі ў адным выпадку можна меркаваць аб высокай падклеці двухпавярховага жылля. Гаспадарчыя пабудовы мелі памеры ад 8—10 да 12 кв. м, жылыя — ад 10—13 да 14—16 кв. м.

Дзвярныя праёмы выяўлены ў 35 пабудовах. Іх вырубалі з 3-га або з 4-га вянцоў на вышыню ў 7 вянцоў, шырынёй ад 0,53 да 1 м. Дзверы ва ўсіх пабудовах адчыняліся ўнутр, вось вярчэння сустракалася з абодвух бакоў праёма. Па канструкцыі дзвярныя праёмы былі чатырох тыпаў, раней з'явіўся праём першага тыпу, найбольшая разнастайнасць тыпаў выяўлена ў XIII ст. Вышыня праёмаў вызначалася вышынёй дзвярных палотнаў (знойдзена 28). Большасць дзвярных палотнаў мелі вышыню 73—98 см, вышыня дзвярэй — 108—112 см (28 %) і толькі двое дзвярэй былі вышынёй 127 і 141 см. Дзвярныя палотны збівалі з 2—4 дошак, але былі і з адной тоўстай і шырокай дошкі.

Аконныя праёмы ў драўляным масавым старажытнарускім дойлідстве выяўлены толькі ў Бярэсці. У 9-м і 10-м вянцах усходняй сценкі пабудовы 6 на вышыню ў 1,5 вянца прарублена акно шырынёй 40 см. У 11-м і 12-м вянцах паўночнай сценкі пабудовы 109А на вышыню ў 2 вянцы прарублена акно шырынёй 40 см. У пабудове 59А, якая захавалася на 12 вянцоў і мела печ з выкарыстаннем цэглы, няма ніводнага аконнага праёма. У пабудове 39Д (падклець?) у 8-м вянцы ва ўсходняй сценцы на адно бервяно неакуратна прарублены скразны праём.

Падмуркам для зрубаў служылі, як правіла, рэшткі папярэдніх пабудоў. Часам пад вуглы і сцены падкладалі падкладкі з бярвёнаў, зрэдку стваралі платформу з бярвёнаў або дошак.

Падлогі ў Бярэсці ўсе з дошак, на лагах, высціліся як «па ходу», так і паралельна сцяне з дзвярным праёмам.

Печы ў Бярэсці выяўлены ў 57 пабудовах, у тым ліку 39 — глінабітныя. Печы з выкарыстаннем цэглы пачалі ўзводзіць з сярэдзіны XIII ст. Знойдзеныя самцы і какошыны сведчаць, што дах быў двухскатным (самцы), дашчаным, на слегах.

**Матэрыяльная культура.** У працэсе раскопак у Бярэсці сабрана вялікая і разнастайная калекцыя прылад працы, прадметаў узбраення, вырабаў побытавага прызначэння. Бярэсце, узнікшы як апорны пункт на заходніх рубяжах усходнеславянскага рассялення, неўзабаве становіцца эканамічным цэнтрам навакольнай тэрыторыі. Асновай рамеснай вытворчасці ў Бярэсці было жалезаапрацоўчае рамяство, вытворчасць прылад працы і штодзённага ўжытку. З жалезаапрацоўчых інструментаў знойдзены кавальскі молат, клешчы, зубіла, барадок, з ювелірных прылад — льячкі, ліцейныя формачкі, ювелірны пінцэт. З дрэваапрацоўчых інструментаў выяўлены сякеры, долаты, струг, свердзелы, чарцец. Прадметы абароны, узбраення воіна, конніка, фрагменты конскай збруі сустракаюцца даволі часта. Знойдзены наканечнікі коп'яў і стрэл, перакрыжаванне мяча, свінцовыя булавы, касцяныя кісцені, рэшткі пласцінкавага даспеха, кавалкі кальчужнага палатна, шпоры, страмёны, падковы, скрабніцы і г. д.

Вялікую колькасць складаюць прадметы побытавага прызначэння. Знойдзены цыліндрычныя навясныя замкі, спружынныя дужкі і ключы да іх, шмат нажоў, нажніц, крэсівы, вядзёрныя абручы і ручкі, дзвярныя кольцы, прабоі, скобы, цвікі, рыбалоўныя прылады. Вырабы з каляровых металаў нешматлікія. Часцей за ўсё сустракаюцца жаночыя ўпрыгожанні (колт, скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі), дэталі аддзення (фібулы, булаўкі і інш.). З каляровых металаў выраблены прадметы культавай прыналежнасці (энкалпіёны, змеявік, квадрыфолій, аднабаковы абразок Божай маці Аранты, кадзільніца, лыжачка для прычашчэння, чашачкі падсвечнікаў, звон). Са свінцу адліты рыбалоўныя грузілы. Частка з названых прадметаў мясцовага паходжання, іншыя прывазныя. Нешматлікасць прадметаў з каляровых металаў і невялікая колькасць прылад для працы ювеліра сведчаць аб слабым развіцці ювелірнага рамяства і абмежаванасці попыту на ювелірныя вырабы.

У вельмі нязначнай колькасці знойдзены ў Бярэсці шкляныя вырабы — фрагменты шкляных бранзалетаў, пацерак, пярсцёнкі, устаўкі для пярсцёнкаў, часткі шклянога посуду.

З касцяных вырабаў часцей за ўсё сустракаюцца праколкі, рукаяці нажоў і накладкі да іх, муфтачкі, грабяні, іголкі, падшыпнікі, дэталі і прадметы ўзбраення, косці для гульні, мастыхін мастака. Зрэдку сустракаюцца прадметы высокамастацкага вырабу — навершша рукаяці, разная пласціна з выявай аленя, фігурка шахматнага караля. Мясцовая вытворчасць большасці прадметаў пацвярджаецца знаходкамі нарыхтовак, паўфабрыкатаў і рабочых адходаў кастарэзнага рамяства.

У Бярэсці знойдзена вялікая колькасць скураных вырабаў — абутку, ножнаў, кашалькоў. Большасць гэтых знаходак складаюць рэшткі абутку — поршняў простых і фігурных, мяккіх туфляў, ботаў. Туфлі нярэдка вышываліся ўзорамі з каляровых нітак. Падэшвы розных відаў абутку — сіметрычныя, асіметрычныя і фігурныя. З рэдкіх скураных знаходак варта назваць невялікія скураныя мячы (накшталт сучасных тэністых)




*Мал. 66. Знаходкі са старажытнага Бярэсця: 1а, 1б — свінцовы амулет-змеявік, 2 — абразок свінцовы з выявай Божай Маці, 3а, 3б — свінцовая пячатка; 4 — шахматная фігура; 5, 6 — крыжы-энкалпіёны, 7 — жаночае ўпрыгожанне-колт, 8 — дрыгавіцкая пацерка, 9 — грабеньчык з алфавітам*

і скураную ўзорчатую праразную аплікацыю. Усе скураныя знаходкі несумненна мясцовага вырабу.

Драўляныя вырабы Бярэсця шматлікія і разнастайныя. Вялікую групу складаюць дэталі і часткі наземных транспартных сродкаў — кола, восі, спіцы колаў, капылы саней, клешчы хамутоў, фрагмент дугі. З водных транспартных сродкаў знойдзены рулявыя карабельныя вёслы, грабныя лодачныя вёслы і шпангоўты. Знойдзена вялікая колькасць частак бандарнага посуду. У яго складзе кубкі, збаны, вёдры, вадавозныя бочкі, біклажкі. З разнога посуду выяўлены каўшы, чарпакі, лыжкі, з точанага — фрагменты місак, талерак. З даўблёнага знойдзена карыта. З дрэва выраблены шавецкія капылы, грабянцы, карамыслы, рытуальныя булавы, дзіцячыя цацкі, падшыпнікі-порхліцы і вялікі набор розных прылад сельскагаспадарчай вытворчасці — рала, сохі, рыдлёўкі, вілы, граблі, рукаяці кос і сярпоў, ільнамялка, трапалы, часалы, нажныя ступы, масляныя прэсы-жомы і інш. Усе драўляныя вырабы, несумненна, таксама мясцовай вытворчасці.

У Бярэсці мала каменных вырабаў. Гэта ў асноўным прасліцы, жорны, нацельныя крыжыкі, пацеркі і крыжыкі з бурштыну. Слядоў мясцовага камнярэзнага і каменячоснага рамяства не выяўлена.

У раскопе знойдзена вялікая колькасць фрагментаў ганчарнага глінянага посуду. Найбольш шматлікія рэшткі кухоннага посуду — гаршкі, міскі, патэльні, каўшы, макітры, збаны. Асноўная маса посуду мае аналогіі ў матэрыялах старажытнай Русі. Зрэдку сустракаецца посуд, аналагічны мазавецкаму. З XVI ст. з'яўляецца чорналашчоны посуд. З XIII ст.— цэгла вялікіх памераў (24—27,5×8—8,3).

Абсалютная большасць выяўленых прадметаў посуду мясцовай рамеснай вытворчасці. У Бярэсці існавалі мясцовыя жалезаапрацоўчае, гарбарнае, шавецкае, дрэваапрацоўчае, ганчарнае рамёствы, якія забяспечвалі штодзённыя патрэбы насельніцтва. Рамеснікі Бярэсця добра ведалі і ўмелі выкарыстоўваць якасць і ўласцівасці мясцовых матэрыялаў і валодалі прагрэсіўнымі тэхналагічнымі прыёмамі вырабу розных прадметаў, стымулюючы тым самым паспяховае развіццё рамеснай вытворчасці.

Значнае месца ў эканамічным жыцці горада займала сельскагаспадарчая вытворчасць. Аб гэтым сведчаць шматлікія знаходкі прылад земляробчай працы. Прадметы апрацоўкі глебы (рала, сашнікі, наральнікі, жалезная матыка), уборкі ўраджаю і перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны (сярпы, косы-гарбушы, вілы, калатушкі, жорны і інш.). Асаблівую цікавасць выклікаюць знаходкі дубовага рала (адзінае ў Еўропе), масленага жома-прэса (першая археалагічная знаходка на тэрыторыі старажытнай Русі), а таксама нажных ступ. Многія прылады маюць сляды вялікай спрацаванасці ў выніку іх працяглага выкарыстання. Земляробства ўключала вытворчасць зерневых і прадзільна-масленічных культур, паляводства і агародніцтва. Неаднойчы ў культурным пласце выяўляліся плёнкі проса, канапель, ільну, знойдзены таксама семя агурка і костачкі вішні.

Жывёлагадоўля ў Бярэсці была галоўнай крыніцай мясных прадуктаў і па колькасці свойскай жывёлы яўна пераважала (73,7 %) над паляваннем (26,3 %). Сярод свойскай жывёлы перавага аддавалася буйной

рагатай (39,4 %), вырошчванню свіней (20,6 %), дробнай рагатай (20,5 %) Высокі працэнт пагалоўя коней (16 %). У раскопе сустракаюцца косці сабакі (3,3 %), кошкі (2 %). У паляўнічай здабычы вядучае месца належыць аленю (22,6 %), кабану (22,6 %), зубру (18 %), ласю (17,6 %). Выяўлены косці казулі (11,5 %), мядзведзя (1,4 %), бабра (6,4 %). Буйныя парнакапытныя складалі каля 80 % усей паляўнічай здабычы. Галоўнай мэтай палявання было папаўненне запасаў прадуктаў, атрыманых ад жывелагадоўлі

Аб занятках рыбалоўствам гавораць знаходкі прылад лову (паплаўкі, грузілы, дэталі сецяў, кручкі, гарпуны, астрогі), рыбных касцей і лускі (ласось, сом, шчупак, акунь, платва, уклея, ерш).

Прадзенне і ткацтва было пастаянным заняткам насельніцтва Бярэсця. У раскопе знойдзена звыш 40 вераценаў, звыш 200 праслíц, матавіла для нітак, дэталі ткацкага варштата, фрагменты шарсцяных тканін і саржавага перапляцення. Знойдзены шарсцяныя рукавічкі ігольнага пляцення і лямцавая конусападобная шапка з загнутымі палямі (тыпу «магеркі»). Усе гэтыя прадметы сведчаць аб значнай ролі ў эканамічным жыцці Бярэсця сельскагаспадарчай вытворчасці, палявання, рыбалоўства, хатніх промыслаў.

Аналіз рэчавых знаходак старажытнага Бярэсця дае падставу для вываду аб арганізацыі яго эканамічнага жыцця. Першаступенная роля тут належала рамествам, асабліва такім развітым, як жалезаапрацоўчае і дрэвааапрацоўчае. Не атрымала, аднак, самастойнага развіцця рамяство па вырабу і апрацоўцы шкла, слаба было развіта і ювелірнае рамяство. Нешматлікія, але якасныя па свайму высокаму мастацкаму ўзроўню вырабы кастарэзнай вытворчасці.

Накіраванасць берасцейскага рамяства на задавальненне першапачатковых штодзенных патрэб гараджан з'яўляецца характэрнай адметнасцю і вынікам сацыяльнай структуры насельніцтва горада. У ім яшчэ не было магутнай феадальнай эліты — асноўнага спажыўца прадметаў раскошы, арыгінальных высокамастацкіх вырабаў Аб тым жа сведчыць яўная перавага прадметаў мясцовай раменай вытворчасці над імпартным.

Знаходзячыся на ажыўленых гандлевых шляхах, Бярэсце падтрымлівала актыўныя гандлевыя сувязі з Валынню (праслíцы), Кіевам (шкляныя бранзалеты, сасуды, устаўкі для пярсценкаў, паліхромная пісанка-бразготка), Прыбалтыкай (бурштын, падкавападобная фібула), Прычарнамор'ем (амфары), суседняй Мазовіяй (скроневыя кольцы, гліняны посуд), Заходняй Еўропай (шахматная фігурка раманскага стылю). Несумненна імпартнага паходжання кавалкі свінца і многія прадметы царкоўнага ўжытку (звон, крыжы-энкалпіены, каменныя крыжы і інш ). Аб развіцці гандлевых зарубежных сувязей Бярэсця сведчаць свінцовыя таварныя пломбачкі драгічанскага тыпу. Несумненна, існавалі гандлевыя сувязі горада са сваім наваколлем.

Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што стан культурнага развіцця Бярэсця адпавядаў патрабаванням свайго часу У горадзе адбывалася няспыннае мэтанакіраванае будаўніцтва, рэгулярна праводзілася абнаўленне вулічных маставых, дваровых насцілаў З другой паловы XIII ст.

тут пачалося ўзвядзенне манументальнага царкоўнага (царква Святога Пятра) і вайскова-абарончага дойлідства («стопп»).

У Бярэсці значная ўвага аддавалася пытанню пашырэння пісьменнасці, пра што гавораць знойдзены грабеньчык з літарамі кірылічнай азбукі, пісалы, дошчачка для пісьма (цэра), кніжныя засцежкі і інш. Тагачаснае жыццё горада таксама характарызуюць знаходкі мастыхіна мастака, шахматных фігурак, іґральных касцей, дзіцячых цацак — лодачак з сасновай кары, бразготкі, кожанага мяча і інш.

Культурнае жыццё Бярэсця ўяўляецца ажыўленым і шматстайным. Добраўпарадкаванне горада адбывалася ў адпаведнасці з традыцыямі і патрабаваннямі старажытнарускага драўлянага дойлідства. Горад падтрымліваў эканамічныя і культурныя сувязі з навакольнымі, суседнімі і аддаленымі тэрыторыямі. Уступаючы ў інтэнсіўнасці развіцця асобных відаў рамёстваў больш буйным старажытнарускім гарадам, Бярэсце тым не менш знаходзілася на характэрным для старажытнай Русі параўнальна высокім эканамічным і культурным узроўні. Аналогіі матэрыяльнай культуры Бярэсця і астатняй тэрыторыі Усходняй Еўропы, населенай усходнімі славянамі, дазваляюць з ўпэўненасцю сцвярджаць заснаванне горада выхадцамі з усходнеславянскіх плямёнаў — дрыгавічамі.

## Клецк

Клецк — адзін з найбольш значных гарадоў Тураўскай зямлі, размешчаны ў вярхоўі левага прытока Прыпяці — Лані ў паўночнай зоне дрыгавіцкай тэрыторыі. Упершыню згадваецца ў летапісах у 1128 г. у сувязі з калектыўным паходам рускіх князёў на Полацкую зямлю, арганізаваным Мсціславам Уладзіміравічам, вялікім князем кіеўскім. Летапіс пералічвае князёў — удзельнікаў паходу і сярод іх — «Вячеслав Ярославич ис Клечьска» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 292). Вячаслаў Яраславіч — сын Яраслава Святаполчыча і ўнук Святаполка Ізяславіча, князя тураўскага і вялікага князя кіеўскага. Успамін аб ім сярод удзельнікаў паходу, несумненна самастойных князёў («Вячьслава ис Турова, Андрея ис Володимера, Всеволодка ис Городка»), дазваляе меркаваць, што Вячаслаў Яраславіч у час пахода быў таксама самастойным князем, з дынастыі тураўскіх Ізяславічаў, а Клецк — сталіцай самастойнага княства, вылучанага са складу Тураўскага. У 1142 г. пры раздачы тураўскіх гарадоў саюзнікам вялікага кіеўскага князя Усевалада Ольгавіча Клецк атрымлівае яго брат Святаслаў Ольгавіч, князь чарнігаўскі. У 1146 г. Клецк быў звернуты ў склад Тураўскага княства Вячаславам Уладзіміравічам, тураўскім князем, але ў 1149 г. зноў аддадзены Святаславу Ольгавічу новым вялікім кіеўскім князем Юрыем Уладзіміравічам Даўгарукім.

У канцы XIII — пачатку XIV ст. Клецк увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага. П. Шпілеўскі, наведаўшы Клецк у сярэдзіне XIX ст., пісаў: «Клецк калісьці быў горадам, меў сваю крэпасць і замак, сляды каменнага падмурка якога, як і валы, абведзены шырокім валам, захаваліся да цяперашняга часу з Нясвіжскага ўезду».

**Гарадзішча** старажытнага Клецка размешчана на паўночнай ускраіне сучаснага г. Клецка Мінскай вобласці, на высокім (8—10 м) левым карэнным беразе ракі Лань. У яго ўваходзяць дзядзінец і навакольны




*Мал. 67. Клецк. Гравюра XVII ст.*

горад. Дзядзінец закругленай формы (80×80) займае частку карэннага берага, адзеленую шырокім (да 30 м) паўкруглым ровам глыбінёй 6—7,5 м. З напольнага боку дзядзінца рэшткі вала ўзвышаюцца на 0,6—1,2 м. Навакольны горад прымыкае з усходу да дзядзінца. Ён мае сачавіцападобную авальную форму памерам 110×400 м. Рэшткі яго вала (1 м) і рова (да 3,3 м) прыкметны на паўночна-ўсходнім участку.

**Даследаванні гарадзішча.** У 1961 г. на пляцоўцы дзядзінца былі закладзены два шурфы 2×2 м, даведзеныя да глыбіні 1,9 і 1,8 м. Мацярык у шурфах не дасягнуты, пласт перамяшаны. У 1966 г. на дзядзінцы быў закладзены раскоп (24 кв. м), а ў 1967 г. да яго прырэзаны яшчэ адзін (60 кв. м) з паўднёвага боку і з паўночнага боку (32 кв. м) (Лысенко, 1974. С. 160—166). У 1986 г. на тэрыторыі навакольнага горада на вялікай плошчы (2500 кв. м) праведзены выратавальныя раскопкі (Позняков, 1989. С. 90—91). У 1987 г. на паўднёвым участку навакольнага горада закладзены раскоп плошчай 100 кв. м, а ў 1988 г.— раскоп на дзядзінцы.

**Культурны пласт** дзядзінца Клецка не захоўвае прадметаў арганічнага паходжання, ён бедны на знаходкі. У ім знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў і шыферныя праслiцы, нажы, ключ, долата, сякера, цуглі, наканечнікі суліцы і стралы. Кераміка перадмацерыковага пласта датуецца XI—XII стст. У мацерыковых ямах знойдзены абгарэлыя зерні пшаніцы, жыта, ячменю, аўса, гароху, сачавіцы, конскіх бабоў. У астэалагічным матэрыяле вельмі высокі працэнт (46 %) дзікай жывёлы.




*Мал 68 Планы гарадзішчаў старажытных гарадоў а — Давыд-Гарадка, б — Клецка, в — Слуцка, г — Рагачова*

На тэрыторыі навакольнага горада культурны пласт (0,7—1,2 м) аднародны, без захавання прадметаў арганічнага паходжання. Кераміка ніжніх пластоў аналагічная кераміцы ніжніх пластоў дзядзінца. Відавочна, дзядзінец і навакольны горад узніклі адначасова.

## Рагачоў

Рагачоў упершыню згадваецца ў летапісах у 1142 г. пры раздачы вялікім князем кіеўскім Усеваладам Ольгавічам гарадоў Тураўскай і Уладзімірскай зямель сваім саюзнікам. Рагачоў, такім чынам, да гэтага часу належаў Тураўскай зямлі. У 1146 г. ён быў вернуты тураўскім князем Вячаславам Уладзіміравічам.

Гарадзішча Рагачова размешчана ў паўднёвай частцы сучаснага г. Рагачова Гомельскай вобласці. Яно займае мысавую частку высокага ўзбярэжнага плато ў міжрэччы рэк Днепр і Друць, узвышаючыся над поймай на 11—12 м. Планіроўка яго падпарадкавана рэльефу мясцовасці, яго бяспеку забяспечвалі высокія схілы мыса да Дняпра і Друці, а з напольнага боку — дугападобны вал і роў.

У 1966 г. на гарадзішчы закладзены шурфы, а ў 1967 г. — раскоп плошчай 112 кв. м (Лысенко, 1974. С. 166—170). З 1969 г. даследаванні на дзядзінцы працягваў Э. М. Загарульскі.

Культурны пласт на дзядзінцы Рагачова мае таўшчыню 1,2—1,3 м, не захоўвае прадметаў арганічнага паходжання. У раскопе знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў, шыферныя прасліцы, сякера, ключы, шарнірныя нажніцы, рыбалоўныя кручкі, цвікі, брускі. Кераміка перадмацерыковага пласта датуецца XI ст. Відаць, горад узнік раней першага летапіснага ўспаміну аб ім.

## Мазыр

Мазыр упершыню згадваецца ў летапісах у 1155 г., калі Юрый Уладзіміравіч аддае яго Святаславу Ольгавічу. У 1159 г. такое ж дарэнне робіць Ізяслаў Давыдавіч, які заняў кіеўскі прастол у 1157 г.

Далучэнне Мазыра да Вялікага княства Літоўскага адбылося, відаць, пры Гедыміне.

Першае археалагічнае даследаванне Мазыра праведзена ў 1951 г. Ю. В. Кухарэнкам. У 1961 г. даследаванне праведзена В. В. Сядовым і П. Ф. Лысенкам (Лысенко, 1974. С. 171—173). У 1978 г. была праведзена шурфоўка гарадзішча. З 1980 г. даследаванні праводзіліся археалагічнымі атрадамі рэстаўрацыйных майстэрняў (Трусаў, Здановіч, 1993. С. 20—32).

Гарадзішча старажытнага Мазыра размешчана ў сучасным г. Мазыр Гомельскай вобласці на Гары Камунараў. Яно займае мыс высокага карэннага правага берага Прыпяці, утворанага двума ярамі. Мае форму ромба 120—140×100 м, паўднёвая частка якога злучаецца з карэнным берагам. Умацаванняў на гарадзішчы не захавалася.

Культурны пласт гарадзішча (таўшчынёй 1,2—1,4 м) вельмі пашкоджаны перакопамі, не захоўвае прадметаў арганічнага паходжання, бедны на знаходкі. Знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў, шы-

ферныя прасліцы, брускі, жорны, 2 наканечнікі сахі, абцугі, наканечнікі стрэл. Кераміка падобна на тураўскую. Самая старажытная кераміка датуецца XI—XII стст. Хутчэй за ўсё горад узнік у XII ст.

## Слуцк

Слуцк — адзін са старажытнейшых гарадоў на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў і адзін з самых значных гарадоў Тураўскага княства. Першая летапісная згадка аб ім адносіцца да 1116 г., калі «Глеб (Мінскі князь.— *П. Л.*) бо бяше воевал Дреговиче и Случеск пожег и не каяшеться о сем, ни покоряшеться».

Аднак В. Н. Тацішчаў паведамляе, што па вядомых яму матэрялах Слуцк згадваецца ў пісьмовых дакументах у сувязі з рашэннямі Любецкага з'езда рускіх князёў (1097 г.). Адпаведна абодвум згадкам Слуцк уваходзіў у склад Тураўскага княства. Чарговае згадванне Слуцка ў летапісе адносіцца да 1149 г., калі Юрый Уладзіміравіч Даўгарукі, які заняў кіеўскі прастол, жадаючы зменшыць наседавальненне чарнігаўскіх князёў, аддае яго Святаславу Ольгавічу. У 1170 г. Слуцк, які ў гэты час мог ужо быць сталіцай самастойнага княства, быў заняты Уладзімірам Мсціславічам. Аднак сіламі вялікай кааліцыі князёў ён быў выгнаны з горада. У час мангола-татарскага нашэсця Слуцк аказаўся за межамі паласы руху асноўнай часткі войска. У склад Вялікага княства Літоўскага Слуцк быў уключаны ў канцы XIII ст. і з пачатку XIV ст. знаходзіўся на становішчы прыватнаўласніцкага горада.

**Гарадзішча** (дзядзінец і навакольны горад) старажытнага Слуцка размешчаны ў сучасным г. Слуцк Мінскай вобласці. Яно займае мыс ля ўпадзення ў р. Случ правага прытока ручая Бычок. Планіроўка горада падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Дзядзінец размяшчаецца на халме памерам 100×80 м і ўзвышаецца над акаляючай мясцовасцю на 5—6 м. З паўночнага ўсходу да дзядзінца з напольнага боку прымыкаў навакольны горад. Абарона Слуцка забяспечвалася, відаць, з напольнага боку навакольнага горада.

У 1958 г. на дзядзінцы Э. М. Загарульскім закладзены шурф 3×1 м, які быў даведзены да ўзроўню забудовы, што захавалася (1,8 м). У пласце былі знойдзены шыферныя прасліцы, фрагменты шкляных бранзалетаў.

У 1966 г. атрадам Інстытута гісторыі АН БССР быў закладзены раскоп (36 кв. м) і даведзены да мацерыка на плошчы 18 кв. м (Лысенка, 1974. С.142—152).

З 1984 г. Слуцкім гарвыканкамам пры ўдзеле Слуцкага РК КПБ, прамым саўдзеле Міністэрства культуры БССР і Дзяржбуда БССР пры недастатковай увазе да аховы гістарычнага помніка з боку АН БССР на дзядзінцы было пачата будаўніцтва гарадскога Дома культуры. Праца па папярэднім даследаванні культурнага пласта на месцы будаўніцтва праводзілася з недастатковай настойлівасцю. У выніку быў цалкам забудаваны і знішчаны як археалагічны помнік дзядзінец старажытнага Слуцка (Колединский, 1993. С. 93—94).

Культурны пласт дзядзінца ў раскопе 1966 г. магутнасцю да 4 м добра ўтрымлівае прадметы арганічнага паходжання, падзяляецца на сем

стратыграфічных пластоў, што залягаюць гарызантальна. Рэшткі драўляных канструкцый (пабудоў, насцілаў, частаколаў) маюць нядрэнную захаванасць, выяўлены ў 8 раскопачных пластах. У сувязі з невялікімі памерамі раскопу вылучыць будаўнічыя ярусы было цяжка. Захаванасць драўляных канструкцый нераўнамерная, але іншы раз гэты матэрыял задавальняе патрабаванні дэндрахраналагічнага аналізу. Забудоўваўся слуцкі дзядзінец наземнымі пабудовамі зрубнай канструкцыі, рубленымі ў абло з чашкай у верхнім баку бервяна. Пабудовы арыентаваны вуглямі па старанах свету. Дашчаныя насцілы гаспадарчых двароў былі, відаць, звычайнай з'явай. Сустракаліся рэшткі вытворчых збудаванняў тыпу навесу слупавой канструкцыі.

Культурны пласт дзядзінца насычаны рознымі прадметамі штодзённага побыту. У раскопе знойдзены жалезныя крыцы, прадметы простай кавальскай коўкі (скобы, кручкі, кольцы, пласціны, вядзёрныя дужкі, абручы, цвікі і інш.), а таксама прадметы, якія патрабуюць даволі высокага майстэрства вырабу (нажы, замкі, ключы, каса, лопата). Знойдзеныя касцяныя вырабы (пражкі, праколкі, накладкі, грабяні) сведчаць аб паспяховым развіцці мясцовага кастарэзнага рамяства. Несумненна мясцовым было і ганчарнае рамяство. Рэшткі бандарнага посуду сведчаць таксама аб наяўнасці дрэваапрацоўчага рамяства, а знаходкі прасліц і верацёнаў аб такім тыпу заняткаў гараджан, як прадзенне і ткацтва.

Аб працы на зямлі і жывёлагадоўлі старажытных случан гавораць знаходкі сашніка, касы, жорнаў, касцей свойскай жывёлы. Косці ж дзікай жывёлы, луска рыбы — гэта ўжо пацвярджэнне заняткаў паляваннем, рыбнай лоўляй.

У калекцыі знаходак значнае месца належыць прадметам імпарту — шкляныя бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, посуд (з Кіева), шыферныя прасліцы — з Валыні, амфары — з Прычарнамор'я, бурштын — з Прыбалтыкі. Варта адзначыць малую колькасць прадметаў узбраення.

Старажытны Слуцк узнік на ўрадлівай густанаселенай зямлі, што садзейнічала развіццю яго як эканамічнага цэнтра, які забяспечваў рамеснай прадукцыяй сельскагаспадарчае наваколле.

## Давыд-Гарадок

**Пісьмовыя звесткі.** Давыд-Гарадок у старажытнарускіх летапісах не згадваецца. Мясцовыя легенды звязваюць яго заснаванне з іменем тураўскага (Шпилевский, 1859. С. 46—47), яцвяжскага (Семенов, 1865. С. 2) або ўладзіміра-валынскага князя Давыда Ігаравіча (Семенов, 1905. С. 559). М. К. Любаўскі лічыць заснавальнікам горада Давыда Дзмітрыевіча Гарадзецкага, вядомага па пісьмовых дакументах канца XIV ст. (Любавский, 1892. С. 23). Пытаннем паходжання і палітычнай гісторыі Давыд-Гарадка займаўся Я. Пастэрнак (Пастернак, 1936; 1938; 1961). Р. Якімовіч выказаў меркаванне аб заснаванні Давыд-Гарадка Давыдам Ігаравічам (Jakimowicz, 1939. С. 27).

**Тапаграфія.** Гарадзішча старажытнага Давыд-Гарадка знаходзіцца ў аднайменным гарадскім пасёлку Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Яно займае ўзгорак вышынёй 3—5 м на правым беразе р. Гарынь на

адлегласці ў 10 км ад яе ўпадзення ў р. Прыпяць. Пляцоўка дзядзінца мае закругленую форму дыяметрам 100×110 м і ў старажытнасці па ўсім перыметры была прыкрыта валам, які захаваўся сёння толькі на асобных участках. З паўднёвага боку ў старажытнасці працякала невялікая рэчка Няпраўда, з усходняга — гарадзішча ахоўвала балоцістая нізіна, а заходняга — р. Гарынь. Паводле паведамлення Р. Якімовіча, гарадзішча ля падножжа атуляў роў, засыпаны незадоўга да раскопак 1937 г. (Jakimowicz, 1939).

У 1937—1938 гг. раскопкі на гарадзішчы праводзіліся пад кіраўніцтвам Р. Якімовіча, у час якіх была ўскрыта значная частка дзядзінца, праведзена прарэзка траншэяй усяго гарадзішча, вывучана пабудова абарончых валоў (Jakimowicz, 1939).

Ядро вала насыпана з рачнога пяску, ахоўвалася ад апаўзання агароджай з сасновых бярвёнаў. Яно пачыналася ля падножжа вала і мела са знешняга боку ступеньчатую канструкцыю: спачатку ўзводзілася сцяна на вышыню звыш аднаго метра, затым, адступіўшы ад пярэдняга краю, узводзілася другая сцяна і так некалькі разоў (Лысенко, 1974. С. 118—142). Аднак колькасць такіх ступеней, як і агульная вышыня драўляных канструкцый і адлегласці паміж сценкамі ля асновы і ў верхняй частцы вала, у папулярнай брашуры не ўказана. Не апісаны таксама метады ўмацавання бервяна у сценцы. Магчыма, гэта быў найбольш распаўсюджаны ў старажытнай Русі зрубны спосаб узвядзення ўнутрывальных збудаванняў. Зверху такога ўмацаванага канструкцыямі вала звычайна ўзводзіліся драўляныя навальныя збудаванні таксама зрубнай канструкцыі.

У 1967 г. раскопкі гарадзішча Давыд-Гарадка праводзіў П. Ф. Лысенка (Лысенко, 1974. С. 118—142). Раскоп памерам 8×12 м быў закладзены ва ўсходняй частцы дзядзінца. Культурны пласт у раскопе меў таўшчыню да 3,5 м і падзяляўся на 5 гарызантальных стратыграфічных пластоў. З глыбіні 8—9-га раскопачнага пласта ўскрываюцца рэшткі будаўнічых канструкцый. У пласце захоўваюцца прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання.

**Забудова.** У раскопе 1937—1939 гг. выяўлены рэшткі 12 пабудоў ля некалькіх вуліц (Jakimowicz, 1939).

На жаль, засталося невядомай колькасць будаўнічых ярусаў. Можна толькі меркаваць, што іх было не менш пяці, таму што адна з пабудоў, што захавалася на 12 вянцоў, складалася па меншай меры з чатырох змяніўшых адна другую пабудоў, а глыбей размяшчаўся яшчэ адзін будаўнічы гарызонт. Улічваючы, аднак, што за адну лабудову прыняты толькі апошнія, без папярэдніх чатырох пад ёй, можна меркаваць, што і агульная названая лічба (12) таксама адносіцца да збудаванняў аднаго будаўнічага яруса (?).

У раскопе 1967 г. ускрыты 15 пабудоў, якія адносяцца да шасці будаўнічых ярусаў. Пабудовы чатырох ніжніх ярусаў датуюцца дамангольскім часам, а самыя старажытныя з іх — пачаткам 60-х гадоў XII ст. (дэндрахраналагічная датыроўка). Забудова характарызуецца высокай шчыльнасцю, якая ўзрастала з цягам часу. У ніжніх двух пластах ускрыты ла адной пабудове, а ў верхніх ярусах колькасць іх павялічылася да дзвюх, трох і нават чатырох пабудоў (2-і ярус). Забудова вызнача-




*Мал. 69. Давыд-Гарадок. Забудова 4-га будаўнічага яруса. 1974 г.*

ласся стабільнасцю. Вышэй адзначаны зруб на 12 вянцоў, які складаецца з чатырох выяўленых раскопкамі 1937—1939 гг. пабудоў, што паслядоўна змянілі адна другую. У раскопе 1967 г. на адным і тым жа месцы ад 1-га да 5-га яруса паслядоўна змянялі адна другую пабудовы № 2, 9, 12, 14. На месцы пабудовы № 15 з шостага будаўнічага яруса ў больш позні час паслядоўна ўзводзіліся пабудовы № 10, 1, 3. Не мяняючы месца, узводзіліся таксама новыя ярусы вулічных маставых.

У раскопах ускрыты рэшткі збудаванняў рознага характару і прызначэння — жылыя і гаспадарчыя пабудовы, дваровыя насцілы, вулічныя маставыя, частаколы. Жылыя і гаспадарчыя пабудовы былі наземнымі, аднакамернымі, зрубнай канструкцыі, прамавугольнай планіроўкі. Большасць жылых пабудоў мела памеры 3,2×3,6 м, а гаспадарчыя — 2,4×2,4 і 2,5×2,9 м. Сярод 15 пабудоў раскопу 1967 г. няма ніводнай для ўтрымання жывёлы. Відаць, жывёла ўтрымлівалася ў дварах пад навесам або ў лёгкіх пабудовах тыпу кашар. Адна такая пабудова выяўлена ў ніжнім гарызонце раскопу 1937—1939 гг.

Асноўным будаўнічым матэрыялам былі сасновыя бярвёны таўшчынёй 15—20 см, іншы раз з дубовых бярвёнаў узводзілі ніжнія вянцы пабудоў. Бервяно звязвалі ў вугал рубкай у абло з рэшткай (просты вугал), злучальную чашку і ўшчыльняючы паз вырубалі з верхняга боку бервяна. Часам пад куты падкладвалі падкладкі з бярвёнаў або тоўстых плах. Падлогі з тоўстых колатых сасновых дошак укладвалі на лагі, урубленыя скразной або глухой (радзей) урубкай. У пабудовах, ускрытых у 1937—1938 гг., былі дзвярныя праёмы шырынёй да 1 м. У 1967 г. знойдзены дзверы вышынёй каля 1 м. У пабудове № 15 (1967 г.) ускрыта разбураная глінабітная печ памерам 2×2 м. У раскопе 1937 — 1938 гг. ускрыты некалькі вулічных маставых. Папярочны насціл галоўнай вуліцы выкладзены з колатых плах, пакладзеных на прадольныя




*Мал. 70. Знаходкі са старажытнага Давыд-Гарадка: 1 — наканечнік кап'я; 2—5 — наканечнік стрэл; 6 — навершша булавы; 7 — крэсіва; 8 — прывеска; 9 — пярсцёнак; 10 — бранзалет; 11 — разец; 12, 13, 18 — нажы; 14 — лязо сякеры; 15 — уторная пілка; 16, 17 — кавальскія клешчы; 19 — рыбалоўны кручок; 20 — фрагмент нажніц; 21, 22 — сярпы*

лагі, якія ў сваю чаргу абапіраліся на папярочныя падкладкі з тоўстых дубовых калод. Вулічныя маставыя неаднойчы рамантаваліся.

Пабудовы ў раскопе 1937—1938 гг. арыентаваны па напрамку вуліц, у раскопе 1967 г.— вугламі па старанах свету. Відавочна, вуліцы ішлі ў напрамку на паўночны захад і паўночны ўсход. Забудова горада частаколамі падзелена на сядзібы. У дварах сядзіб ускрываюцца ўчасткі, перакрытыя насцiламі з колатых дошак. Цікавай асаблівасцю Давыд-Гарадка з'яўляюцца пахаванні ў дубовых саркафагах (23), выяўленыя недалёка ад царквы і ў яе межах. Пахавальны інвентар не выяўлены. Захаваліся толькі рэшткі адзення і абутку.

**Матэрыяльная культура.** У культурным пласце добра захаваліся прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання. З прадметаў узбраення знойдзены наканечнік кап'я — суліцы (X—XIII стст.), тры наканечнікі стрэл-зрэзняў (XIII ст.), лістападобны наканечнік стралы (X ст.), свінцовая булава (XIII ст.). З прылад працы выяўлены кавальскія абцугі (кавальскія і слясарныя), вялікі кавальскі прабойнік, долата, разец-лыжкар, бандарная ўторная пілка, сякера, нажніцы, нажы, шавецкія капылы, шылы, верацёны, касцяныя іглы для вязання сецяў, сярпы, жорны. Знаходкі ювелірных вырабаў нязначныя. Да іх належаць віты (2×2) бронзавы востраканцовы бранзалет, скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы са злучанымі канцамі, медны пярсцёнак з плоскай пляцоўкай, свінцовая манетападобная прывеска. Вырабы з косці таксама нешматлікія. Найчасцей сустракаюцца праколкі, утулкі, рукаяці. Аб мясцовым характары кастарэзнага рамяства гавораць знаходкі нарыхтовак і паўфабрыкатаў. Са скураных вырабаў — нярэдкія сярод знаходак фрагменты і дэталі абутку. У раскопе 1967 г. шмат вырабаў з дрэва, найбольш — клёпкі, донцы бандарнага посуду, верацёны, лыжкі. Знойдзены нарыхтоўкі і фрагменты точанага драўлянага посуду. Шмат паплаўкоў з кары для сяцей, часта арнаментаваных. З каменных вырабаў знойдзены шыферныя праслiцы, брускі з пясчаніку, жорны. Са шкляных вырабаў — амаль выключна фрагменты шкляных бранзалетаў, вельмі блізкіх па каляровай гаме і форме да кіеўскіх. Найбольш шматлікай знаходкай з'яўляюцца фрагменты глінянага посуду, самыя старажытныя ўзоры якіх датуюцца пачаткам XII ст. Кераміка вельмі блізкая да керамікі Турава і Пінска.

Насельніцтва старажытнага Давыд-Гарадка, мяркуючы па знаходках, займалася жалезаапрацоўчым, кастарэзным, гарбарна-шавецкім, ганчарным рамёствамі. Несумненна, добра былі развіты мясцовая апрацоўка дрэва, прадзенне, ткацтва. Значнае месца ў гаспадарчай дзейнасці належала земляробству. Жывёлагадоўля яўна пераважала над паляваннем (65,7 %). Сярод паляўнічай здабычы пераважала пушніна (бабры — 40 %). Аб занятках рыбалоўствам сведчаць знаходкі кручкоў, грузілаў, паплаўкоў, пластоў рыбнай лускі і касцей.

Рэчавы матэрыял з раскопу Давыд-Гарадка дазваляе меркаваць аб узнікненні горада ў пачатку XII ст. У сувязі з гэтым атрымлівае аргументаванае падмацоўванне і версія аб заснаванні гэтага горада Давыдам Ігаравічам пасля выгнання яго з уладзімірскага княства ў 1100 г.

## Капыль

На поўначы Тураўскай зямлі знаходзіўся г. Капыль. Першы летапісны ўспамін аб ім датуецца 1274 г. (ПСРД. Т. II. Стб. 873). У гэтым годзе луцкі князь Мсціслаў Даніпавіч у час паходу на Навагрудак «пошёл бяшеть от Копыля, воюя по Полесью...»

Гарадзішча старажытнага Капыля знаходзіцца ў сучасным аднайменным горадзе, раённым цэнтры Мінскай вобласці. Дзядзінец займае ледавіковы астанец пасярэдзіне нешырокай даліны р. Мажа, які ўзвышаецца над прылеглай далінай р. Мажа на 11—12 м. Даволі правільная эліпсоідная форма дзяцінца дапускае меркаванне аб штучнай падпраўцы ледавіковага астанца. З паўночнага боку дзядзінца працякае рэчка. З усходняга і паўднёвага боку шырокі (18—20 м) і глыбокі роў (2,5—4 м) аддзяляе яго ад карэннага берагавога плато, на якім размяшчаўся навакольны горад. Пляцоўка дзядзінца мае памеры 60×100 м, задзірванелая, захоўвае валападобныя павышэнні да аднаго метру па ўсяму перыметры (магчыма, гэта рэшткі абарончых збудаванняў). На паўночна-ўсходнім канцы пляцоўкі, з напольнага боку дзядзінца, што знаходзіцца з боку прылягаючага вакольнага горада, узвышаюцца на 2,5 м рэшткі абарончага вала, які абараняў з гэтага боку ўезд на дзядзінец.

Абследаванні гарадзішча ў 1961 г. праводзілі В. В. Сядоў, П. Ф. Лысенка, у 70-я гады — М. Ф. Гурын. (Лысенка, 1974. С. 173—174). З 1996 г. раскопкі гарадзішча праводзіць Л. У. Калядзінскі (Калядзінскі, 1999. С. 48—50). На дзядзінцы і навакольным горадзе ўскрыта звыш 400 кв. м. Культурны пласт дзядзінца магутнасцю да аднаго метра не захоўвае прадметаў арганічнага паходжання. На навакольным горадзе культурны пласт мае таўшчыню 0,4—0,6 м. У пласце X—XIII стст. выяўлены рамесны, прамысловы і сельскагаспадарчы інструментарый, цыліндрычныя замкі і ключы да іх, шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы, фрагменты амфар, шкляныя і сердалікавыя пацеркі. З узбраення знойдзены навершша шлема, наканечнікі дроцікаў і кап'я, скрыжаванні шабляў, наканечнік похваў мяча. Кераміка датуецца X—XIII стст., што дазваляе гаварыць аб больш раннім узнікненні горада, чым яго першы летапісны ўспамін (Калядзінскі, 1999).

У наваколлі гарадзішча размешчаны 3 курганныя могільнікі, якія ўяўляюць сабой пахаванні насельніцтва старажытнага Капыля і навакольных пасяленняў. Паводле пахаванняў трупаспаленнем і інгумацыяй яны датуюцца X і XI—XIII стст. (Лысенка, 1974. С. 174; Калядзінскі, 1999. С. 49—50).

## Камянец

Да ліку старажытных гарадоў паўднёвай Беларусі адносіцца Камянец, вядомы па пісьмовых крыніцах з 1276 г. Згодна з летапісным паведамленнем, у гэтым годзе Уладзімір Васількавіч, князь уладзімірскі, да якога належала Пабужжа, «... посла ... мужа хитра по имени Олексу ... в челнах возверх рекі Лесны, абы кде изнаити такого место город поставити, се же изнашед место таково и приеха ко князю, и нача

поведати, князь же сам еха с бояры и слугам, и улюби место то над берегом реки Лясны, и отереби е, и потом сруби на нем город, и нарче ему Каменец, зане бысь земля Каменна...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 876). Гэта рэдкі выпадак вядзення запісаў у летапісе, калі даецца дакладная дата заснавання горада і тлумачыцца паходжанне яго назвы.

Крыху пазней у летапісе пад 1289 г. у пахавальным запісе памершаму Уладзіміру Васількавічу летапісец пацвярджае і ўдакладняе звесткі аб заснаванні горада: «Князь же Владимир в княжении своём ... за Берестием зруби город на пустом месте нарицаемом Лесне, и нарече имя Каменец, зане бысь каменнаа земля, сзда ж в нём столп камен высотою 17 сажней (31 м.— *П. Л.*) сажен, подобен удивлению всем зрящим на нь...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 925). З гэтага запісу відаць, што разам з заснаваннем горада ўзводзіліся яго драўляныя збудаванні («зрубі город») і неўзабаве была ўзведзена і рэдкая для таго часу каменная вежа-данжон, што выклікала «удивленье всем». Хуткае будаўніцтва значных абарончых збудаванняў Камянца ў апошняй чвэрці XIII ст. сведчыць аб важнасці стратэгічнага месцазаснавання новага горада і аб значнай пагрозе Уладзімірскаму княству, узнікшай к гэтаму часу на яго паўночна-заходніх рубяжах. Летапіс у больш познія часы неаднаразова ўспамінае Камянец у сувязі з прыездам сюды Уладзіміра Васількавіча і іншых князёў.

Гарадзішча старажытнага Камянца размешчана ў сучасным аднайменным горадзе Брэсцкай вобласці. Яно размяшчалася ў непасрэднай блізкасці ад Камянецкай вежы, якая з'яўлялася яго асноўным абарончым умацаваннем. Разрастанне сучаснага горада на тэрыторыі старажытнага гарадзішча і вялікія земляныя работы ў сувязі з рэстаўрацыяй Камянецкай вежы ў пачатку нашага стагоддзя моцна пашкодзілі старажытнае гарадзішча і сталі перашкодай у выяўленні яго тапаграфіі. У 1960 г. абследаванне Камянецкай вежы і пошукі межаў гарадзішча праводзіў П. А. Рапапорт. Аднак выявіць яго культурны пласт не ўдалося.

У 1970 г. шурфоўку мяркуемай плошчы гарадзішча праводзіў П. Ф. Лысенка. У закладзеных шурфах выяўлены цёмны рыхлы культурны пласт таўшчынёй да 2,5 м, у якім не захоўваюцца прадметы з матэрыялаў арганічнага паходжання (за выключэннем костак). У шурфах, у двары школы, знойдзены шыфернае прасліца, фрагменты шкляных бранзалетаў, кераміка другой паловы XIII ст., косткі свойскіх і дзікіх жывёлін. Гэтыя знаходкі сведчаць аб існаванні пасялення гарадскога тыпу. Аднак памеры і межы гарадзішча ў той час акрэслены не былі.

## Кобрын

Горад вядомы па летапісных звестках з 1287 г. Пад гэтай датай летапісец зрабіў запіс аб тым, што ўладзімірскі князь Уладзімір Васількавіч, цяжка хворы, складае завяшчанне на карысць свайго брата Мсціслава Васількавіча, але асобнай граматай перадае ў пажыццёвае уладанне сваёй жонцы г. Кобрын: «...дал есмь Княгине своеи по своем животе город свои Кобринь и с людьми и з данью» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 903). Як відаць з гэтага запісу, Уладзімір Васількавіч прама называе

Кобрын горадам. Гэта дазваляе гаварыць, што ў канцы XIII ст. Кобрын меў умацаванні, быў адміністратыўным, эканамічным і культурным цэнтрам прылеглай акругі.

Гарадзішча старажытнага Кобрына ў сучасным аднайменным горадзе Брэсцкай вобласці не выяўлена і не вывучалася археалагічнымі метадамі. Яго знешніх выразных прыкмет на тэрыторыі горада не захавалася, а ў земляных работах культурны пласт са старажытнымі прадметамі не выяўлены.

## 3. ГАРАДЫ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ

### Гродна

**Пісьмовыя звесткі.** У Іпацьеўскім летапісе пад 1116 г. чытаем: «Том же лете Володимер отда дщерь свою Огафью за Всеволодка» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 284). Уладзімір — гэта кіеўскі князь Уладзімір Манамах, Усеваладка — праўнук Яраслава Мудрага, сын Давыда Ігаравіча, які праз 12 гадоў ужо княжыць у Гродне. Пад 1128 г. у летапісе паведамляецца пра вялікі паход на Полацк, арганізаваны князем Мсціславам Уладзіміравічам кіеўскім: «Посла князь Мстислав с братьею своею многы кривичи четырьмя путьми: Вячеслава из Турава, Андрея из Володимера, Всеволодка из Городна» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 292). Такім чынам, Гродзенскае ўдзельнае княства ў гэты час ужо існавала і яго сілы, як падкрэсліваў М. М. Варонін, названы ў летапісе на трэцім месцы пасля Тураўскага і Валынскага княстваў. Існуе і Гродна — стольны горад Усеваладкі Давыдавіча.

У 1132 г. войскі Усеваладка ўдзельнічалі ў арганізаваным князем Мсціславам паходзе на Літву: «Ходи Мьстислав на Литву с сынъми своими и с Олговичи, и с Всеволодом Городеньским» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 294). На думку М. М. Вороніна, удзел у паходзе гродзенскіх войскаў дае падставу меркаваць, што гэта была спроба адсунуць межы Русі на поўнач ад Гродна, г. зн. паход быў накіраваны ў бок р. Вілія (Воронин, 1954. С. 13).

Пры нашчадках Усеваладкі Давыдавіча (памёр у 1141 г.) сынах Барысе, Глебе і Мсціславе Гродзенскае княства працягвала знаходзіцца ў сферы палітычнай актыўнасці кіеўскіх князёў. У 1144 г. Барыс і Глеб удзельнічалі ў паходзе кіеўскага князя Усевалада Ольгавіча на Галіч (ПСРЛ. Т. II. Стб. 315). Для ўмацавання сувязей Гродна з іншымі рускімі княствамі Усевалад Ольгавіч аддаў адну з дачок Усеваладка за чарнігаўскага князя Уладзіміра Давыдавіча, другую — за тураўскага князя Юрыя Яраславіча (ПСРЛ. Т. II. Стб. 317). У 1150—1141 гг. Барыс Усеваладкавіч прымаў удзел у барацьбе Ізяслава Мсціславіча за вялікакняжацкі прастол. Гродзенскія войскі ўдзельнічалі ў асадзе Кіева, а пасля ўзяцця горада гналі да Белгарада палкі аднаго з галоўных прэтэндэнтаў на кіеўскі прастол растова-суздальскага князя Юрыя Даўгарукага (ПСРЛ. Т. II. Стб. 410, 413, 424, 426, 433).

У 1167 г. па загаду вялікага князя Расціслава Мсціславіча палкі многіх княстваў сабраліся каля Канева, каб абараніць ад палавецкіх набегаў купецкія караваны на Грэчаскім і Залозным шляхах. Сярод з'явіўшыхся



*Мал. 71. Гродзенскі замак, паводле гравюры 1568—1572 гг.*

князёў названы і «Глеб Городеньский» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 528). У паходзе на полаўцаў, арганізаваным у 1170 г. новым вялікім кіеўскім князем Мсціславам Ізяславічам (раней княжыў на Валыні), удзельнічаў малодшы з гродзенскіх Усеваладкавічаў Мсціслаў (ПСРЛ. Т. II. Стб. 528).

У 1169 г. Кіеў быў узяты і разрабаваны Андрэем Багалюбскім. Мсціслаў Ізяславіч пакінуў кіеўскі прастол і вярнуўся на Валынь, хоць барацьбу за Кіеў не спыніў. У 1174 г. гродзенскія палкі ўдзельнічалі ў новым паходзе Андрэя Багалюбскага на Кіеў. Хто дакладна з гродзенскіх князёў на гэты раз хадзіў у Падняпроўе, летапісы не паведамляюць. Гродзенскія князі таксама, як і полацкія, тураўскія, пінскія, названы ў множным ліку (ПСРЛ. Т. II. Стб. 574). Хутчэй за ўсё гэта быў Мсціслаў Усеваладкавіч. Старэйшыя браты к гэтаму часу, ўжо, відаць, не жылі. У 1184 г. Мсціслаў Усеваладкавіч удзельнічаў у паходзе на полаўцаў, арганізаваным вялікім князем кіеўскім Святаславам Усеваладавічам (ПСРЛ. Т. II. Стб. 631).

Да 1183 г. адносіцца адзіная летапісная звестка непасрэдна аб жыцці горада: «Того ж лета Городен погоре всь і церквы каменная от блистания молние и шибения грома» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 634). Відаць, у Гродне к гэтаму часу было некалькі каменных цэркваў, якія згарэлі ад маланкі ў час навальніцы. Пасля 1183 г. Гродна амаль да сярэдзіны XIII ст. знікае са старонак летапісаў. У другой палове XIII ст. горад упамінаецца толькі ў сувязі з барацьбой галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў за валоданне Панямоннем.

**Гісторыя даследавання.** Да пачатку сістэматычных археалагічных раскопак пытанне аб месцазнаходжанні летапіснага Гродна заставалася адкрытым. Адны гісторыкі (Кукальнік П. В., Антановіч У. Б., Семянтоўскі А. С., Гразноў В. В., Нарбут Т.) лічылі, что летапіснае Гродна (Городен) — гэта сучаснае Гродна на Нёмане. Другія (Карамзін М. М., Сала-

ўёў С. М., Барсаў Н. П., Мілюцін Д. М.) размяшчалі летапіснае Гродна ў аднайменным мястэчку на правабярэжжы Прыпяці на адлегласці 50 км на паўднёвы ўсход ад Пінска. Былі і такія гісторыкі (Бацюшкаў П. М., Пятроў І. І.), якія адносілі летапісныя звесткі XII ст. да Гродна піснкага, а паведамленні XIII ст. звязвалі з Гродна нёманскім.

Я. Ф. Арлоўскі ў дакладзе на IX археалагічным з'ездзе ў 1893 г. атаясамліваў Гродна летапіснае з горадам на Нёмане. Адным з найбольш істотных аргументаў такога атаясамлівання Я. Ф. Арлоўскі лічыў захаваную ў Гродне Каложскую Барысаглебскую царкву, пабудаваную не пазней XII ст. (Орловский, 1897. С. 197—200).

Пасля выступлення Я. Ф. Арлоўскага і асабліва пасля выхаду ў свет яго працы «Гродзенская даўніна» (1910 г.) тоеснасць летапіснага і нёманскага Гродна лічылася ўстаноўленай. Аднак у польскай гістарычнай літаратуры 20—30-х гадоў з'явілася тэндэнцыя зноў перагледзець гэты пункт погляду. Ю. Ядкоўскі звязваў заснаванне нёманскага Гродна з літоўцамі, а Гродна рускіх летапісаў бачыў у Гродне пінскім. Каложскую царкву ён адносіў да абарончых храмаў літоўскай пары (Jodkowski, 1923. S. 2, 64—69). Г. Лаўмянскі таксама лічыў Гродна літоўскай крэпасцю, а пабудову Каложскай царквы адносіў да пачатку XV ст.— часу ўзнікнення ў Гродне пасёлка ўзятых у палон абаронцаў пскоўскага прыгарада Каложа (Łowmiański, 1931. S. 54, 273).

У канцы 1931 г. у найбольш старажытнай частцы Гродна, на так званай Замкавай гары, былі пачаты земляныя работы, якія мелі на мэце ўмацаванне размытых Нёманам схілаў. Было вырашана зняць грунт з пляцоўкі гары і ім падсыпаць схілы з боку ракі. Работа праводзілася пад наглядам выконваючага абавязкі дырэктара Гродзенскага музея Ю. Ядкоўскага. У 1932 г. работа працягвалася. Культурныя напластаванні Замкавай гары былі зрэзаны на глыбіню ад 2,5 да 8,0 м. Найбольшай глыбіні катлаван дасягаў у паўднёвай яе частцы, каля сцен замка, пабудаванага князем Вітаўтам. Тут былі знойдзены рэшткі сцен будынка, складзенага з плінфы XII ст. і ўпрыгожанага плоскімі камянямі-ўстаўкамі. Гэты будынак Ю. Ядкоўскі лічыў княжацкім палацам. На поўнач ад «палаца» на глыбіні каля 4 м знойдзены руіны вялікага шасціслупавага храма, сцены якога таксама былі ўпрыгожаны ўстаўкамі з валунных камянёў. На руінах гэтай царквы, якая потым атрымала назву Ніжняй, былі ўскрыты рэшткі невялікага аднаапсіднага храма больш позняга часу, названага Верхняй царквой (Jodkowski, 1934. S. 9—11).

Нягледзячы на тое што старажытная прыналежнасць адкрытых раскопкамі пабудоў не выклікала сумнення, Ю. Ядкоўскі выставіў гіпотэзу пра заснаванне Гродна варагамі ў IX ст. Ніжнюю царкву ён ахарактарызаваў як візантыйскую пабудову XI ст. (Jodkowski, 1934. S. 11—12).

Зыходзячы з апублікаваных Ю. Ядкоўскім прац і зробленай у той час пашпартызацыі знаходак, добра відаць, што даследаванні праводзіліся без захавання асноўных патрабаванняў стратыграфіі: стратыграфічныя слаі не вылучаліся, глыбіня залягання прадметаў не вызначалася, знойдзеныя рэчы датаваліся тыпалагічна. Усё гэта значна абясцэніла выдатныя знаходкі тых часоў.

У 1934 г. спецыяльная камісія разглядзела вынікі работ Ю. Ядкоўскага і адхіліла яго ад кіраўніцтва раскопкамі. Новым кіраўніком археалагічных даследаванняў на Замкавай гары быў прызначаны З. Дурчэўскі.

З. Дурчэўскі правёў у 1937—1939 гг. раскопкі на ўчастку на захад ад Ніжняй царквы, верхнія слаі якога былі знятыя яшчэ Ю. Ядкоўскім. За тры гады ўвесь участак плошчай каля 300 кв. м быў ускрыты да мацерыка. У час раскопак знойдзены рэшткі 23 драўляных пабудоў і некалькіх маставых. Методыка даследаванняў З. Дурчэўкага была даволі дакладнай. Плошча раскопу разбівалася на квадраты памерам 2×2 м. Увесь культурны пласт падзелены на слаі (у зоне з рэшткамі драўляных пабудоў і маставых было вылучана 12 слаёў), кожны слой наносіўся на план з дакладнай нівеліроўкай. У адрозненне ад свайго папярэдніка З. Дурчэўскі адкрыта сказаў пра магутныя адкладанні старажытнарускага горада на Замкавай гары (Durczewşki, 1939. S. 6—9).

Здабытыя даследаваннямі 1932—1939 гг. матэрыялы былі разрознены і разграблены ў час нямецка-фашысцкай акупацыі горада. Амаль уся дакументацыя раскопак загінула. Загінуў і асноўны выканаўца работ З. Дурчэўскі (5 жніўня 1944 г.). Крыху пазней памёр Ю. Ядкоўскі.

Вялікую працу па прывядзенні ў парадак і пашпартызацыі прадметаў з даваенных калекцый правялі па даручэнню Інстытута гісторыі АН БССР У. Галубовіч і Г. Цэгак-Галубовіч. Ім удалося аднавіць пашпарты каля 70 % рэчаў з агульнай колькасцю больш за 11 тысяч. На падставе гэтай працы імі падрыхтаваны гісторыка-археалагічны нарыс «Новыя матэрыялы па гісторыі Гродна ў раннефеадальную эпоху», рукапіс якога захоўваецца ў архіве Інстытута гісторыі НАН Рэспублікі Беларусь.

У 1947—1948 гг. М. М. Варонін разам з супрацоўнікамі Ленінградскага аддзялення ІГМК П. А. Рапапортам і Ф. Д. Гурэвіч правёў папярэдняе азнаямленне з матэрыяламі, што захоўваліся ў фондах Гродзенскага музея. У выніку М. М. Варонінам быў напісаны артыкул, дзе абагульняліся вынікі раскопак 1932—1939 гг. і выказвалася меркаванне, што Гродна ўзнікла не ў Х—ХІ стст. пры паходах Уладзіміра ці Яраслава на яцвягаў, як лічылі некаторыя даследчыкі, а ў пачатку ХІІ ст. у сувязі з энергічнымі дзеяннямі валынскага князя Яраслава Святаславіча (Воронин, 1949. С. 138—148). Іншага пункту погляду прытрымліваецца Ф. Д. Гурэвіч. Яна схіляецца да думкі, што паселішча на Замкавай гары было заснавана на рубяжы Х—ХІ стст. Пазней, відаць, у ХІІ ст., Гродна зрабіўся цэнтрам асобнага княства (Гуревич, 1951. С. 95). Як М. М. Варонін, так і Ф. Д. Гурэвіч у сваіх публікацыях пераканаўча паказалі, што культура Гродна падобная да культуры іншых старажытных гарадоў і няма ніякіх падстаў, як гэта рабілі некаторыя польскія даследчыкі, далучаць яе да «варага-рускай».

У 1949 г. даследаванні на Замкавай гары былі працягнуты экспедыцыяй ІГМК пад кіраўніцтвам М. М. Вароніна. У выніку работ высветлена стратыграфія Замкавай гары. Найбольш дакладна яна прасочана на поўнач ад Ніжняй царквы. На мацерыку тут ляжыць зніведіраваны пясчана-гумусаваны слой, у якім знойдзены чарапкі з прымешкай буйной жарствы ў цесце. Вышэй на ўсёй раскапанай у 1949 г. плошчы выразна прасочваюцца сляды вялікага пажару, што ахапіў увесь мыс гары. Такім чынам, незадоўга да ператварэння Гродна ў княжацкую

рэзідэнцыю валынскіх Давыдавічаў (пачатак XII ст.) на Замкавай гары існаваў пасёлак, які загінуў ад пажару. Узнікненне паселішча (крэпасці), на думку М. М. Вароніна, не павінна быць адсунута далёка ад пачатку XII ст. Яно ўзнікла ў другой палове ці нават у канцы XI ст. (Воронин, 1949. С. 26; Ён жа, 1954. С. 45).

Вышэй пажарышча знаходзіцца слой будаўніцтва Ніжняй царквы — даволі чыстая вапна з бітай цэглай і дробным каменнем. Яшчэ вышэй залягае слой з характэрнымі знаходкамі XII ст. Ён утрымлівае рэшткі зрубавых пабудоў і перакрываецца слоем разбурэння Ніжняй царквы, якое адбылося пасля пажару 1183 г. У траншэі, што праходзіла ўздоўж паўночнай сцяны храма, выяўлены слаі двух разбурэнняў. Паміж слаямі першага і другога разбурэння знаходзіцца слой чорнага перагною, насычаны друзам ад паступовага асыпання сцен храма. Другое і канчатковае разбурэнне храма адбылося каля сярэдзіны XIII ст. Вышэй слоя другога разбурэння ідуць напластаванні, звязаныя з перабудовай Гродзенскага замка Вітаўтам пасля пажару 1398 г. (Воронин, 1949. С. 28—30). У паўднёвым раскопе ўдалося прасачыць мяжу паміж адкладаннямі старажытнарускага горада і горада літоўскага часу. Гэта праслойка прывазнога белага рачнога пяску, якая рэзка вылучаецца сярод аморфнага цемнага слоя (Воронин, 1954. С. 27).

Раскопкамі 1949 г. было высветлена, што матэрыялы для будаўніцтва Ніжняй царквы размяшчаліся на поўнач ад храма, што пляцоўка на поўдзень ад яго не была забудавана да таго часу, пакуль ён быў цэлы. Толькі ў XIII—XIV стст. да руінаў храма падыходзяць маставыя з насцілаў на лагах і зрубавыя пабудовы (пераважна свірны і клеці) (Воронин, 1949. С. 20).

Пасля работ М. М. Вароніна на працягу больш чым дваццаці год раскопкі ў Гродне не праводзіліся. У 1971 г. М. А. Ткачоў абследаваў каменныя ўмацаванні замка. У 1971—1973 гг. Я. Г. Зверуга правёў раскопкі на Каложскім плато. Унутры агароджы Барысаглебскай царквы ўскрыта каля 20 пахаванняў па абраду трупапалажэння без інвентару, а на паўночны ўсход ад храма выяўлены рэшткі двух жытлаў зямлянкавага тыпу (Зверуго, Ткачев, 1972. С. 407—408; Зверуго, 1973. С. 360).

У 1977, 1981 і 1985—1988 гг. даследаванні на Замкавай гары праводзіла экспедыцыя аб'яднання «Белрэстаўрацыя» пад непасрэдным кіраўніцтвам А. А. Трусава. У розныя гады ў склад экспедыцыі ўваходзілі П. А. Рапапорт (1981), М. А. Ткачоў (1985—1988), Г. М. Сагановіч (1985, 1987), А. К. Краўцэвіч (1986—1988), А. В. Квяткоўская (1985—1986), А. М. Кушнярэвіч (1986), В. Е. Собаль (1988), І. М. Чарняўскі (1987). За ўсе гады даследаванняў у розных месцах замка распрацавана 6 раскопаў, 3 траншэі і больш за 60 шурфоў. Усяго ўскрыта плошча каля 1100 кв. м. На падставе выяўленага матэрыялу выдадзена абагульняючая праца (Трусаў, Собаль, Здановіч, 1993).

**Тапаграфія.** Цэнтр старажытнага Гродна знаходзіўся на высокім правым беразе р. Нёман у месцы зліцця яго з р. Гараднічанка. (Сама назва апошняй, безумоўна, паходзіць ад назвы ўзнікшага тут горада.) Даліна Нёмана і Гараднічанкі ўтвараюць мыс, які павернуты вастрыём на захад, і над узроўнем рэк ён узвышаецца на 30—32 м. Ад працягу ўзвышанасці з усходу і паўночнага ўсходу мыс аддзяляецца глыбокім

ярам шырынёй каля 30 м. Адлегласць ад заканчэння вастрыя мыса на захадзе да пачатку яра на ўсходзе каля 130 м. Гэта і ёсць так званая Замкавая гара, ці Стары замак. Тут знаходзіўся ўмацаваны цэнтр сталіцы ўдзельнага Гродзенскага княства. Тут на месцы згарэўшага ў 1398 г. драўлянага замка Вітаўтам быў пабудаваны ў пачатку XV ст. каменны замак, які ў 80-я гады XVI ст. быў поўнасцю перабудаваны Стэфанам Баторыям.

На ўсход і паўночны ўсход ад Старога замка за ярам прасціраецца тэрыторыя Новага замка. З усходняга і паўночна-ўсходняга бакоў яна таксама ў старажытнасці аддзялялася ярам, што выходзіў у даліну Нёмана (у цяперашні час поўнасцю засыпаны). Тут у першай палове XVIII ст. быў пабудаваны парадны палац.

На захад ад Старога замка за глыбокай далінай р. Гараднічанка знаходзіцца ўзвышанасць, якая атрымала назву Каложы. Тут у 1405 г. Вітаўт пасяліў жыхароў разбуранага ім пскоўскага прыгарада Каложы. У XII ст. на гэтай узвышанасці быў пабудаваны выдатны помнік старажытнарускага дойлідства Барысаглебская (Каложская) царква.

Тапаграфія старажытнага Гродна з'яўляецца тыповай для многіх старажытнарускіх гарадоў. У Гродне быў добра ўмацаваны дзядзінец (Замкавая гара, ці Стары замак) і ўмацаваны вакольны горад (Новы замак). На дзядзінцы знаходзілася рэзідэнцыя князя, жылі воіны княжацкай дружыны, частка рамеснага насельніцтва. Асноўная маса рамеснікаў жыла ў вакольным горадзе і на неўмацаваным пасадзе, што прылягаў да крэпасці з усходу і паўночнага ўсходу. У XII ст. пасадам была занята і Каложская ўзвышанасць.

У апісанні Гродна 1560—1561 гг. упамінаецца вуліца Курган, ці Курганная, якая знаходзілася на адлегласці прыкладна 650 м на паўднёвы ўсход ад крэпасці. Магчыма, тут існавалі гарадскія могілкі (Воронин, 1954. С. 17). Частка горада, размешчаная на беразе Нёмана вышэй крэпасці, называлася Падолам, і да яго вяла Вялікая вуліца. А на процілеглым беразе Нёмана насупраць Каложы знойдзена шыфернае праслíца, што сведчыць пра існаванне тут паселішча ці могілак XII—XIII стст. (Воронин, 1954. С. 17).

**Планіроўка і забудова.** Рэшткі пабудоў першапачатковага загінуўшага ў пажары паселішча вельмі фрагментарныя і ў значнай ступені зрушаны пры нівеліровачных работах. Аднак, несумненна, што ўсе пабудовы былі зрублены ў абло. Адна з іх была жылым памяшканнем з глыбокай ямай, сценкі якой былі ўмацаваны вертыкальнымі слупамі. В. Дурчэўскім ускрыта вымашчаная каменем вупачка, якая існавапа разам з драўлянымі маставымі (Воронин, 1954. С. 37).

З пераўтварэннем Гродзенскай крэпасці ў рэзідэнцыю князя (20-я гады XII ст.), відаць, ва ўсходняй, не раскапанай, яе частцы былі пабудаваны жытлы князя і яго дружыннікаў. У другой палове XII ст. у цэнтры дзядзінца была пабудавана вялікая багата ўпрыгожаная царква (Ніжняя), на паўднёвым яго краі збудаваны цагляны княжацкі палац, а вакол крэпасці ўзведзены мураваныя сцены і вежы з плінфы.

Першапачаткова забудова крэпасці драўлянымі будынкамі была вельмі рэдкай. Вакол царквы заставалася значная свабодная прастора. Пасля пажару 1183 г. забудова хутка згушчаецца, будынкі ўшчыльную




*Мал. 72. План заходняга ўчастка (слой IV) на Замкавай гары ў Гродне*

падыходзяць да сцен храма. У канцы XII ст. вызначаецца напрамак дзвюх брукаваных вуліц: адна з іх ішла з поўначы на поўдзень уздоўж заходняй сцяны храма, другая — з захаду на ўсход каля паўднёвай яго сцяны. Ва ўсходняй сцяне крэпасці былі адзіныя вароты. Жылыя дамы памерам ад 3,4×3,4 м да 4×4 м ацяпляліся глінабітнымі з уключэннем каменя печамі на драўляных платформах.

Зрубы з сасновых бярвёнаў, звязаных у абло, ставілі на падстаўкі з вертыкальных свай ці каменя. У адным выпадку пад ніжнія вянцы пабудовы былі падкладзены плінфы. Падлогу клалі на лагах. Зрэдку насціл падлогі заціскаўся паміж ніжнімі вянцамі зруба. У адным доме было невялікае падполле. Дах насцілалі па крокваx і ён меў «курыцы». Пры дамах былі высланыя дрэвам невялікія двары. Магчыма, гэтыя дворыкі прыкрывалі паветкамі на слупах (Воронин, 1954. С. 52). У некалькіх выпадках прасочаны рэшткі невялікага плоту з калоў і дошак.

Маставыя рабілі з колатых дошак, укладзеных на падоўжныя лагі. Радзей сустракаюцца насцілы на папярочных лагах і яшчэ радзей падоўжаныя дошкі пакладзеныя непасрэдна на зямлю.

**Абарончыя збудаванні.** Размяшчэнне старажытнага Гродна на высокім мысе крутога берага Нёмана сведчыць пра яго ваеннае прызна-

чэнне. Першапачатковы пасёлак на Замкавай гары быў акружаны абарончымі збудаваннямі — земляным валам з драўлянымі сценамі ці тынам. Ад гэтых драўляных умацаванняў мала што засталося, бо схілы Замкавай гары з боку ракі неаднаразова спаўзалі ў Нёман, а па лініі ўмацаванняў з боку плато ўзведзены каменныя сцены пазнейшых замкаў (літоўскага і польскага).

У ходзе даследавання каменных умацаванняў Гродзенскага замка ў 1971 г. пад фундаментам яго паўднёвай сцяны знойдзены рэшткі больш старажытных драўляных умацаванняў у выглядзе завалу абгарэлых дубовых бярвёнаў таўшчынёй 18—25 см. Відаць, гэта рэшткі гародняў. Там жа знойдзена канструкцыя з абгарэлых дубовых брусоў і сасновых дошак, змацаваных паміж сабой кованымі цвікамі. Відаць, гэта частка гонтавага даху над баявым ходам, што абваліўся ў час пажару. Драўляныя ўмацаванні вянчалі грэбень пясчанага вала, знешні схіл якога быў абліцаваны камянямі (Зверуго, Ткачев, 1972. С. 407).

У канцы XII ст. на грэбені вала былі ўзведзены крапасныя мураваныя сцены. Рэшткі такой сцяны ўскрыты на мысе Замкавай гары над вусцем Гараднічанкі. Захавалася частка сцяны даўжынёй каля 12 м, таўшчынёй 1,4—1,5 м.

Што датычыцца цаглянага будынка, што стаяў на паўднёвым краі плато над Нёманам, інтэрптэтаванага Ю. Ядкоўскім як княжацкі палац, а М. М. Вароніным як крапасная вежа, то ў святле апошніх даследаванняў больш пераканаўчым уяўляецца першае меркаванне (Трусов, 1982. С. 362).

У канцы XIII ст. комплекс умацаванняў Гродзенскага замка быў дапоўнены каменнай вежай так званага валынскага тыпу, якая знаходзілася перад крэпасной брамай. У часы Вітаўта яна яшчэ захоўвалася, арганічна ўваходзячы ў склад новага пабудаванага ім каменнага замка. З яе байніц добра прастрэліваўся пад'язны мост і прастора ўздоўж усходняй і паўночна-ўсходняй сцен замка. Вежа добра відаць на гравюры Мацея Цюнта 1568—1572 гг., на якой адлюстравана Замкавая гара да пачатку будаўніцтва Стэфана Баторыя.

Несумненна, сваю лінію абарончых збудаванняў меў у XIII ст. (магчыма, XII ст.) і ўмацаваны гандлёва-рамесніцкі пасад (вакольны горад), вядомы ў пісьмовых крыніцах XIV ст. пад назвай Новага замка. Аднак умацаванняў гэтай часткі горада пакуль што не выяўлена.

**Знаходкі.** Сярод прадметаў матэрыяльнай культуры першапачатковага паселішча на Замкавай гары найбольш багата прадстаўлены дзве катэгорыі рэчаў: замкі з ключамі і прадметы ўзбраення. Форма і велічыня ключоў самыя разнастайныя. Замкі з вялікімі ключамі прымяняліся, відаць, для запірання дзвярэй у жылых і гаспадарчых пабудовах. Дробнымі ключамі адпіралі замкі куфраў, шкатулак і інш. З прадметаў узбраення і рыштунку воіна знойдзены абломак клінка кінжала ці кап'я, наканечнікі дроцікаў, шпоры, касцяныя і жалезныя наканечнікі стрэл. Відаць, у складзе насельніцтва старажытнага пасёлка быў багаты ўзброены люд, конныя воіны — дружыннікі (Воронин, 1954. С. 38).

Узросшы матэрыяльны дабрабыт і культурны росквіт Гродна ў XII—XIII стст. добра ілюструецца колькасцю і якасцю знаходак у слаях гэтага часу. Прадметы ўзбраення і воінскага рыштунку пададзены серыяй

шпор, наканечнікамі коп'яў і дроцікаў, наканечнікамі стрэл, бронзавай булавой. Знойдзены абломак шпоры, багата інкруставанай тонкім медным дротам.

У слаях XII—XIII стст. значна больш, у параўнанні са слоем першапачатковага пасёлка, знаходак, якія характарызуюць розныя бакі гаспадаркі горада і побыту яго гараджан.

У складзе сельскагаспадарчых культур гэтага перыяду значнае месца належыць бобу, якога знойдзена больш, чым зерня хлебных злакаў (акрамя жыта). Магчыма, гарох і конскі боб з'яўляюцца абарыгеннымі на Гродзенскай зямлі (Кирьянов, 1954. С. 206—207). На Каложскім плато ў зямлянцы XII — пачатку XIII ст. знойдзены чатыры складзеныя парамі асіметрычныя сашнікі, якія прызначаліся для двухзубых сох. Разам з сашнікамі ляжалі тры сярпы (Зваруга, 1975. С. 72, 75). Гэтыя і ўсе іншыя сярпы з Гродна адрозніваюцца надзвычайна крутым выгібам вузкага ляза.

Аналіз астэалагічнага матэрыялу дае выключна высокі працэнт костак дзікай жывёлы. Рашучая перавага дзікай жывёлы (57 %) над свойскай (43 %) адрознівае яго ад матэрыялаў з іншых гарадоў старажытнай Русі і збліжае з матэрыяламі са Шведскай гары ў Ваўкавыску (на гэтым помніку дзікая жывёла складае 55 %, свойская — 45 % ад агульнай колькасці асобін) (Цалкин, 1954. С. 211; Щеглова, Зверуго, 1969. С. 213). Асабліва вялікая ўдзельная вага паляўнічай здабычы ў гаспадарцы княжацкай крэпасці XII—XIII стст. (дзікая жывёла — 67,7 %, свойская — 32,4 %) (Воронин, 1954. С. 56). Арнітафауна Гродна пададзена толькі птушкамі, што здабываліся дзеля мяса (Цалкин, 1954. С. 232). Сярод іхтыялагічных рэшткаў прыкметна пераважае сом (67,5 %) (Воронин, 1954. С. 58).

Ужо ў слаях першапачатковага паселішча выяўлены абломкі тыгелькоў і ліцейных формачак, якія сведчаць пра наяўнасць мясцовай ювелірнай вытворчасці. У пластах XII — XIII стст. ювелірная справа пададзена вялікай серыяй ліцейных формачак, некалькімі льячкамі і шматлікімі іх фрагментамі. Усё гэта гаворыць пра тое, што ювеліры-ліцейшчыкі жылі і працавалі на тэрыторыі крэпасці.

Адным з найбольш развітых рамёстваў старажытнага пасёлка было кастарэзнае рамяство. У XII—XIII стст. яно перажывала прыкметны ўздым. Разам з адходамі вытворчасці, паўфабрыкатамі і незавершанымі апрацоўкай прадметамі знойдзена мноства гатовых вырабаў. Асартымент іх вельмі разнастайны: ад прымітыўных праколак да высокамастацкіх твораў. Для вырабу дробных рэчаў гродзенскія кастарэзы карысталіся такарнымі станкамі.

Пра жалезаапрацоўчае рамяство старажытнага Гродна вядома мала. У пластах першапачатковага пасёлка знойдзены (акрамя ключоў і прадметаў узбраення) цвікі, нажы, скаба, шыла, дрэвалазны шып. З ліку прылад працы знойдзены долаты. Добра захаваўся напільнік з выгнутым палатном і простай аднароднай косай насечкай на шырокіх баках. Гэта адзіны металаапрацоўчы інструмент з раскопак у Гродне. Брускоў для заточвання нажоў і іншых рэжучых інструментаў знойзена некалькі дзесяткаў экземпляраў. Большасць з іх выраблена з мясцовага вапняку. Сланцавыя брускі сустракаюцца радзей.




*Мал. 73. Ліцейныя формы з Гродна*

Драўляныя вырабы ў слаях канца XI — пачатку XII ст. пададзены толькі некалькімі прадметамі: невялікі малаточак, старанна апрацаваны кручок, клёпка ад невялічкай пасудзіны. У слаях XII — XIII стст. яны прадстаўлены разнастайнымі прадметамі побыту, прыладамі сельскай гаспадаркі і рамяства. Знойдзены сталовы посуд (міскі, кубкі, каўшы) як вытачаны, г. зн. выраблены на такарным станку, так і разны. Неаднаразова *сустрэліся двухбаковыя грабяні прамавугольнай формы з рэдкімі* і частымі зубамі, упрыгожаныя звычайна цыркульным арнемантам. Шмат драўляных вырабаў зроблена не спецыялістамі-рамеснікамі, а радавымі гараджанамі хатнім спосабам. Гэта рыдлёўкі, вёслы, чакмары, пранікі, дзіцячыя цацкі і інш.

Рэшткі скуранога абутку, абрэзкі ад нарыхтовак выяўлены на Замкавай гары ва ўсіх пластах. Знойдзены калодкі і шылы. Усе калодкі простыя, выраблены з аднаго кавалка дрэва. Шылы прамыя, без упору. Гродзенскі абутак надзвычай прымітыўны. Відаць, увесь ён належаў простаму люду. У залежнасці ад фасону падзяляецца на тры асноўныя тыпы: поршні, туфлі і чаравікі. Сярод іншых скураных вырабаў асаблівую цікавасць уяўляе фрагмент мацавання лыж: захаваліся пятля, што надзявалася на насок абутку, і пяткавы раменьчык, што мацаваў яго ў пятлі (Воронин, 1954. С. 63).

Прадзенне і ткацтва пададзены шматлікімі праслiцамі, верацёнамі, прыстасаваннямі для часання лёну і прадзення кудзелі, дэталямі ткацкага станка і фрагментамі тканіны. Знойдзены вялікі касцяны грэбень з кароткімі і тоўстымі зубамі для часання лёну, бронзавы напарстак з грыбападобнай ячэйкавай галоўкай, швейныя іголкі даўжынёй 45—56 мм, якія па форме і канструкцыі не адрозніваюцца ад сучасных іголак для сшывання тканіны.

Уся гродзенская кераміка зроблена на ганчарным крузе. Кухонныя гаршкі складаюць каля 80 % усёй керамікі. Пераважная большасць пасудзін арнаментавана лінейным арнаментам (хвалісты сустракаецца значна радзей). Прамыя гарызантальныя лініі часта пакрываюць усю пасудзіну ад шыйкі да донца. Лінейны арнамент у многіх выпадках спалучаецца з палоскамі штампаванага арнаменту і насечак, нанесеных нажом. На донцах пасудзін клеймы ў выглядзе круга, крыжыка, круга з упісаным у яго крыжыкам і іншых менш выразных знакаў. Усе клеймы выпуклыя.

Акрамя кухонных гаршкоў знойдзены высокія пасудзіны з прамым вертыкальным горлам тыпу збаноў, невялікія (дыяметрам 9—10 см) гаршкі слоікавай формы з вушкамі, нізкія міскі з крыху скошанымі краямі, кубкі з палога адагнутым краем і вузкім донцам. Разам з мясцовай керамікай сустрэліся абломкі прывазных таўстасценных амфар-карчаг кіеўскага тыпу.

У XII ст. у сувязі з пачаткам буйнога княжацкага будаўніцтва гродзенскім ганчарам выпала складаная работа па вырабу вялікай колькасці цэглы, галаснікоў і маёлікавых плітак. Акрамя звычайнай сценавай цэглы яны выраблялі цэглу некалькіх тыпаў: трапецападобнай формы, у выглядзе палавіны васьміграннікa, з закругленым адным вуглом, клінападобную, вузкую з паўкруглым тарцовым бокам. Цэглу Ніжняй царквы мецілі вельмі рэдка. Мала знакаў выяўлена на цэгле Каложскай



*Мал. 74. Бронзавы вадалей з Гродна*

царквы, затое на цэгле княжацкага палаца іх выяўлена шмат (Jodkowski, 1933. T. XV). Усе знакі выпуклыя, выразаны на доўгім баку формы. Сярод некалькіх дзесяткаў розных знакаў пяць літаравых (Т, Н, И, М, А). Ёсць знакі ў выглядзе крыжа з пашыранымі канцамі, у выглядзе стралы, двухбаковага відэльца, малатка з раздвоенай на канцы ручкай. Некаторыя знакі маюць складаную канфігурацыю: розныя геаметрычныя фігуры, пляцёнка, складаныя арнаментальныя матывы.

Асаблівую цікавасць прадстаўляюць знакі ў выглядзе княжацкіх двухзубца і трохзубца. Яны маюць аналогіі на драгічынскіх пломбах. Магчыма, частка пломб належала Гродна. Адзін з варыянтаў княжацкага знака — трохзубец з крыжам унізе быў уведзены, на думку М. М. Вароніна, Усеваладкам Давыдавічам, ад якога перайшоў да яго пераемнікаў (Воронин, 1954. С. 130).

У XII ст. у Гродне склалася мясцовая архітэктурная школа, якая характарызуецца значнай своеасаблівасцю як па сваіх тэхнічных прыёмах, так і па асноўных кампазіцыйных прынцыпах. Адной з асаблівасцей гэтай школы з'яўляецца ўпрыгожанне фасадаў будынкаў рознакаляровымі камянямі-ўстаўкамі і маёлікавымі пліткамі. Спалучэнне чырвонай цэглы, каляровага каменя і маёлікі надавала фасадам яркую маляўнічасць. Па сваіх архітэктурна-дэкаратыўных прыёмах (парадковая кладка сцен, мноства галаснікоў, маёлікавая падлога) пабудовы Гродна маюць асабліва блізкія аналогіі ў помніках Галіцка-Валынскай зямлі. Маёлікавая падлога Ніжняй царквы складаецца з набору жоўтых, зялёных і карычневых плітак 17 фасонаў. Маёлікавы дыван перадкупальнай часткі гродзенскага храма, паводле слоў М. М. Вароніна, па прыгажосці і складанасці пакуль не ведае роўных у помніках іншых абласцей XII ст. (Воронин, 1954. С. 113—114, 123—141—144, 148).

У археалагічным матэрыяле Гродна выразна прасочваюцца сувязі горада з іншымі старажытнарускімі гарадамі і землямі, і перш за ўсё з Кіевам і Падняпроўем. Найбольш шматлікімі катэгорыямі прывазных

вырабаў з'яўляліся шкляныя бранзалеты і пацеркі. Асаблівай увагі заслугоўвае знаходка бронзавай пацеркі з тонкага драцянога каркаса, на якім прыпаяны зерні металу. Гэта пацерка так званага дрыгавіцкага тыпу. Б. А. Рыбакоў мяркуе, што гэтыя пацеркі выраблялiся ў якім-небудзь горадзе накшталт Турава, Уладзіміра-Валынскага ці Луцка і адтуль разыходзіліся ў іншыя гарады і землі (Рыбаков, 1951. С. 99).

Да імпарту з Падняпроўя належаць амфары, а таксама паліваны белагліняны посуд. Кіеўскімі па сваім паходжанні з'яўляюцца знойдзеныя на Замкавай гары пісанкі. З Кіева паступілі ў Гродна імітацыйныя формачкі для адлівання псеўдазерневых упрыгожанняў (пацерак, зоркавых падвесак і трохпацеркавых завушніц), бронзавыя панікадзілы-хорасы, бронзавыя лампады. Праз Кіеўскую зямлю маглі трапіць у Гродна выраблены ў гарадах Візантыі шаўковыя тканіны, шкляны і фаянсавы посуд з арабскага Усходу і, магчыма, бронзавы вадалей з Заходняй Еўропы.

## Навагрудак

**Пісьмовыя звесткі.** Заснаванне Навагрудка гісторыкі звязваюць з летапіснымі падзеямі 1212 г. (Ціхаміраў М. М.), 1116 г. (Карамзін М. М.) і нават 1044 г. (Тацішчаў В. М.). Падставай для апошняга меркавання з'яўляецца запіс у Сафійскім летапісе, дзе пад 1044 г. гаворыцца: «Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложил Новогород» (Софийская летопись. 1925. С. 129). Паводле В. М. Тацішчава, памянёны тут Ноўгарад і ёсць Навагрудак (Новагародак) (Татищев, 1962. С. 243, 284). Пра тоеснасць летапіснага Ноўгарада 1044 г. і сучаснага Навагрудка гаворыць М. І. Ермаловіч (Ермолович. 1972. С. 343—354; Ён жа, 1990. С. 103, 307).

У Іпацьеўскім летапісе пад 1235 г. упамінаецца князь Ізяслаў «Новогородьский» — саюзнік ці васал літоўскага князя Міндоўга. Ён разам з Літвой Міндоўга ўдзельнічае ў паходзе супраць Кандрата Мазавецкага (ПСРЛ. Т. II. Стб. 776). Пачынаючы з 1252 г. галіцка-валынскія князі робяць шэраг ваенных паходаў на Навагрудак і іншыя гарады Панямоння. «Данило же и Василко поидоста к Новгороду...» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 816). У наступным 1253 г. князь Даніла Галіцкі «плениша всю землю Новгродьскую» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 819). Гэта быў пачатак працяглай у некалькі дзесяцігоддзяў барацьбы галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў за валоданне Панямонскім краем. Па мірным дагаворы (каля 1254 г.) значная частка Панямоння была перададзена сыну Данілы князю Раману Даніпавічу. Узяўшы шлюб з дачкою Глеба Ваўкавыскага Аленай, ён стаў княжыць у Навагрудку. У 1256 г. войскі Рамана Навагрудскага, Глеба Ваўкавыскага і Ізяслава Свіслацкага ўдзельнічалі ў паходзе Данілы і Васілька Раманавічаў на яцвягаў (ПСРЛ. Т. II. Стб. 831). Але ўжо праз два гады ў Навагрудку княжыў сын Міндоўга Войшалк (ПСРЛ. Т. II. Стб. 847—848). Пасля смерці бацькі (1263 г.) ён на некаторы час зацвердзіўся на вялікакняжацкім троне. Спачатку кіраваў разам са сваім зяцем галіцкім князем Шварнам Данілавічам. Пазней перадаў вялікае княжанне Шварну, а сам адышоў у манастыр.

Пасля смерці Шварна Даніпавіча вялікім літоўскім князем стаў Трайдэн. Панямонскія землі зноў пераходзяць пад уладу літоўскіх

князёў. Спробы галіцкага князя Льва Данілавіча выкарыстаць татараў, каб вярнуць гэтыя землі, поспеху не мелі. У час аднаго (1274 г.) з двух паходаў аб'яднаныя руска-татарскія войскі дайшлі да Навагрудка, «взя околний град, а детинец остался» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 873). (Гэта паведамленне заслугоўвае ўвагі, паколькі тут названы дзве састаўныя часткі горада — вакольны горад і дзядзінец.) Другі паход (1277 г.) таксама не прынёс перамогі галіцка-валынскім князям. Князь Мсціслаў Луцкі і сын Льва Юрый пацярпелі паражэнне пад Гродна. Татары самастойна «повоевали» наваколлі Навагрудка (ПСРЛ. Т. II. Стб. 874).

В. Ц. Пашута выказаў меркаванне, што ў Навагрудку (ці ў адным з праваслаўных манастыроў самога горада, ці ў тым манастыры, які заснаваў Войшалк на Нёмане «межи Литвою и Новым городком» вялося сваё летапісанне (Пашуто, 1959. С. 37—42). Гэты пункт погляду падзяляе М. М. Улашчык (Упащик, 1966. С. 25—26).

**Гісторыя даследавання.** Першыя археалагічныя і рэстаўрацыйна-кансервацыйныя работы на Замкавай гары ў Навагрудку правялі ў 1924—1925 гг. польскія даследчыкі Р. Гюртлер, С. Лёрэнц, Ю. Рэмер. У выніку была ўстаноўлена лінія замкавых сцен, адкрыты руіны трох веж і фундаменты некаторых будынкаў, выяўлена каменная абкладка вала. У 1930-я гады ў сувязі з узвядзеннем на тэрыторыі Малога замка мемарыяльнага кургана ў гонар А. Міцкевіча з паверхні Замкавай гары быў зняты пласт зямлі таўшчынёй да 2 м, знойдзены разнастайныя рэчы (пераважна позняга сярэднявечча).

Сістэматычнае вывучэнне археалагічных помнікаў Навагрудка і яго наваколля пачалося ў пасляваенныя гады. У 1956 г. работамі Славяна-літоўскага атрада Прыбалтыйскай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Ф. Д. Гурэвіч было ўстаноўлена, што горад акружаны значнай колькасцю старажытнарускіх помнікаў, а на Замкавай гары, Малым замку і прылягаючым да яго ўзгорку (на ім знаходзіцца царква Барыса і Глеба) маюцца напластаванні XI—XIII стст. (Гуревич, 1959. С. 90).

У 1957 г. на тэрыторыі Малога замка былі пачаты археалагічныя раскопкі (кіраўнік Ф. Д. Гурэвіч), якія працягваліся да 1967 г. (начальнікам раскопу ў 1962 г. была М. У. Малеўская). За дзесяць палявых сезонаў культурны пласт магутнасцю ад 1 да 4 м ускрыты на плошчы каля 2000 кв. м. У выніку работ высветлілася, што ў другой палове X—XI ст. на Малым замку існавала неўмацаванае паселішча. Выяўлены рэшткі наземных і заглыбленых ў зямлю жытлаў з радавымі знаходкамі (кераміка мясцовага вырабу, сельскагаспадарчыя прылады, нажы, шыферныя праслiцы і інш.). З гэтым этапам існавання паселішча звязаны курганны могільнік, размешчаны за 1,5 км ад Навагрудка (каля в. Брацянка), інвентар якога падобны да матэрыялу ніжняга гарызонту Малога замка (Малевская, 1965. С. 92; Павлова, 1965. С. 99—105).

У XII ст. паселішча на Малым замку рэзка змяняе сваё аблічча. Тут жыве пераважна багатае насельніцтва. Пры разборцы рэшткаў багатых дамоў знойдзены абломкі амфар, фрагменты шкляных пасудзін (у тым ліку выробленыя з двухслойнага рознакаляровага шкла), абломкі шкляных бранзалетаў, наканечнікі стрэл і іншыя рэчы, характэрныя для прывілеяванага насельніцтва. У слоі другой паловы XII ст. ускрыты рэшткі зрубавага дома памерам 8,8×6,6 м, падзеленага на дзве няроў-

ныя часткі. У меншай з іх была печ. У доме знойдзена шмат разнастайных рэчаў: ад звычайных нажоў, замкоў, ключоў і іншых прадметаў побыту да ўпрыгожанняў з золата, цудоўных шкляных пасудзін, абломкаў фаянсавага посуду з люстраным роспісам. Тут жа знойдзены набор інструментаў рамесніка-ювеліра: абцугі, два напільнікі, два малаточкі, кавадлачка і некалькі тыгляў (Гуревич, 1963. С. 51—62). Відаць, у гэтым багатым доме знаходзілася ювелірная майстэрня.

Разам з вялікімі і багатымі дамамі на Малым замку меліся наземныя зрубавыя жылыя пабудовы, плошча якіх не перавышала 30 кв. м, а інвентар складалі радавыя знаходкі (вырабаў, уласцівых багатым дамам, не знойдзена). У сярэдзіне XI ст. у той частцы паселішча, дзе былі сканцэнтраваны радавыя дамы, узнік могільнік, які працягваў існаваць у XII ст. і нават у першай палове XIII ст. У 1965—1967 гг. тут былі ўскрыты пахаванні. Пры гэтым пахаванні, якія з'явіліся на тым месцы, дзе ў X ст. стаялі жытлы, зноў замяняюцца пабудовамі XII—XIII стст., а тыя ў сваю чаргу праразаюцца больш познімі пахаваннямі (Павлова, 1967. С. 36—39; Гуревич, 1969. С. 117—119). У сярэдзіне XIII ст. жыццё на Малым замку замірае і, відаць, пераносіцца на Замкавую гару.

У 1962 г. на Замкавай гары былі праведзены невялікія разведачныя работы (24 кв. м). Яны дазволілі высветліць час заснавання тут паселішча. На думку І. Д. Зільмановіч (начальнік раскопу), гэта адбылося ў канцы X — пачатку XI ст. (Зильманович, 1965. С. 98). У XII—XIII стст. жыццё на Замкавай гары было вельмі інтэнсіўным і працягвалася да сярэдзіны XVI ст.

У 1967 г. Навагрудская экспедыцыя (кіраўнік Ф. Д. Гурэвіч) пачала шырокія раскопкі на Замкавай гары. Яны працягваліся ў 1968—1969, 1973—1974, 1977 і 1984—1985 гг. Культурны пласт магутнасцю да 5,5 м даследаваны на плошчы каля 1000 кв. м.

У паўночнай частцы Замкавай гары ўскрыты рэшткі некалькіх рознačасовых мураваных пабудоў, у тым ліку царквы XIV ст. і двухпавярховага палаца XIV—XVII стст. У XII—XIII стст. тут размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы. Усе яны былі наземнымі, зрубнымі, зрэдку двух'яруснымі з дашчатымі падлогамі, часам пакрытымі бяростай. Знойдзены запасы згарэлага зерня, рэшткі бочак і кашоў. Ускрыта пяць драўляных насцілаў XII—XIII стст., што складаліся з аполкаў (першы верхні), пакладзеных счасаным бокам уверх, плашак (другі і трэці насцілы), дубовых і сасновых бярвёнаў (чацвёрты і пяты). Сярод знаходак — нарыхтоўкі з бронзы і незавершаныя апрацоўкай вырабы. Відаць, бронзаліцейшчыкі Навагрудка працавалі і на дзядзінцы. Знойдзены жалезныя пласціны ад двух панцыраў (ад аднаго з іх — каля 200 пласцін). Вал, ад якога захаваліся згарэлыя клеці і вымастка з камянёў, у XII ст. быў перанесены далей на поўнач.

У паўднёвай частцы дзядзінца ўскрыты рэшткі жылых наземных зрубавых пабудоў з глінабітнымі печамі і падлогамі з дошак, а таксама невялікія хлявы. Інвентар жылых пабудоў паказвае, што яны належалі простым людзям, магчыма, княжацкай чэлядзі. У адным з такіх дамоў займаліся шавецтвам. Адкрыта майстэрня ювеліра XII ст. Непадалёку ад даследаванай тэрыторыі размяшчаліся, відаць, багатыя пабудовы. Знойдзены рэчы, характэрныя для заможных гараджан, у тым ліку фрагмен-




*Мал. 75. План гарадзішчаў у Навагрудку*

ты чатырох шкляных пасудзін, тры з якіх распісаны чырвонай і сіняй эмаллю і золатам. Гэта прадукцыя блізкаўсходніх майстэрняў (Гуревич, 1987. С. 447).

У 1965 г. М. К. Каргер даследаваў рэшткі старажытнарускага храма XII ст., выяўленага пад сучаснай царквой Барыса і Глеба і каля яе сцен (Каргер, 1977. С. 79—85).

У 1969—1970 гг. замкавыя ўмацаванні Навагрудка (канца X—XIII ст.) вывучаў М. А. Ткачоў (Ткачев, 1970. С. 312; Ён жа, 1971. С. 307—308). У 1991—1992 гг. раскопкі на Замкавай гары праводзіла Т. С. Бубенька.

**Тапаграфія.** Гарадзішча старажытнага Навагрудка складаецца з дзядзінца і вакольнага горада. Дзядзінец займае мыс узвышанасці, размешчанай на паўночнай ускраіне сучаснага горада. Гэта так званая Замкавая гара з руінамі вежаў XIV—XVI стст. Над навакольнай мясцовасцю пляцоўка дзядзінца ўзнімаецца прыкладна на 25 м. У плане яна мае форму, блізкую да трохвугольніка, з памерамі з захаду на ўсход 110 м, з поўначы на поўдзень — 80 м. Па ўсім перыметры пляцоўка акружана валам. З заходняга напольнага боку вал вышэйшы, чым з астатніх бакоў. Тут перад валам ёсць глыбокі дугападобны ў плане роў.

К захаду ад Замкавай гары знаходзіцца ўзвышанасць, вядомая пад назвай Малы замак. Тут знаходзіўся вакольны горад. Яго пляцоўка мае няправільную форму (нешта накшталт сэрца, змешчанага верхняй часткай на ўсход, у бок Замкавай гары). Памеры пляцоўкі з поўначы на поўдзень 225 м, з захаду на ўсход — 130 м. Па краі пляцоўкі відаць сляды вала. З паўднёва-заходняга боку, дзе пляцоўка вакольнага горада прылягае да працягу ўзвышанасці, знаходзяцца вал і роў.

Асаблівасцю абарончай сістэмы Навагрудка з'яўляецца наяўнасць доўгага адрззку вала каля асновы гарадзішча, з паўночна-ўсходняга яго боку. На старых планах горада гэты вал значна даўжэйшы і прыкрывае не толькі паўночна-ўсходні, але і паўночны бок умацаванняў (Раппопорт, 1967. С. 90).

На суседнім з вакольным горадам узгорку знаходзіцца царква Барыса і Глеба, а на ўзвышанасці на ўсход ад дзядзінца стаіць касцёл. З тапаграфіяй старажытнага Навагрудка звязана, відаць, узвышанасць на ўсходняй ускраіне горада, так званая гара Міндоўга (тут, па паданні, пахаваны першы вялікі літоўскі князь).

Найбольш раннія археалагічныя матэрыялы, знойдзеныя на гарадзішчы ў Навагрудку, адносяцца да канца эпохі неаліту і пачатку эпохі бронзы. У культурным слоі старажытнага горада зрэдку сустракаюцца абломкі каменных свідраваных сякер, крамянёвыя прылады (скрабкі, наканечнікі стрэл і інш.). Зрэдку трапляюцца абломкі керамікі эпохі ранняга жалеза (Гуревич, 1981. С. 7).

Мяркуючы па даных археалагічных раскопак, славянскае паселішча на Малым замку ўзнікла ў канцы X ст., а на Замкавай гары — у пачатку XI ст. (Гуревич, 1962. С. 25; Малевская, 1965. С. 92). Першапачаткова абодва паселішчы былі неўмацаванымі. К сярэдзіне XI ст. пляцоўка Замквай гары абносіцца валам і ператвараецца ў дзядзінец, пад прыкрыццем якога па-ранейшаму знаходзіцца неўмацаваны пасад Малога замка. Побач знаходзіцца курганны могільнік, большая частка пахавальнага інвентару якога аказалася ідэнтычнай знаходкам з паселішча, а пераважным абрадам пахавання — трупапалажэнне (65 % пахаванняў) (Гуревич, 1976. С. 25—26).

У пачатку XII ст. абносіцца валам пасад і ён ператвараецца ў вакольны горад. Павялічваецца плошча дзядзінца: першапчатковы вал быў скапаны, а новы насыпаны на самым краі пляцоўкі. Пазней, у XIII ст., каля асновы паўночна-ўсходняга боку дзядзінца і паўночнага боку вакольнага горада насыпаецца дадатковы вал. У XII ст. на пасадзе будуецца храм (папярэднік царквы Барыса і Глеба), які па тэхнічных прыёмах і кампазіцыйных прынцыпах блізкі помнікам полацкай архітэктурнай школы (Каргер, 1977. С. 79—85). Курганны могільнік замяняецца хрысціянскімі могілкамі. На тэрыторыі вакольнага горада ўскрыта больш за сто пахаванняў XII—XIII стст., праведзеных па хрысціянскім абрадзе. У XIV—XVI стст. на дзядзінцы пабудаваны каменны замак.

**Абарончыя збудаванні.** Даследаваннямі ўстаноўлена, што да сярэдзіны XII ст. вал акружаў не ўсю пляцоўку ўзвышанасці, на якой знаходзіўся дзядзінец, а толькі яе частку (праўда, большую). У 1970 г. вывучаны рэшткі старажытнага вала на плошчы каля 40 кв. м. Як ужо адзначалася, былі адкрыты згарэлыя клеці і забрукоўкі з камянёў. У другой палове XII ст. вал быў перанесены на край пляцоўкі, а на яго месцы пабудаваны гаспадарчыя памяшканні.

Шырыня вала, што акружае дзядзінец, дасягае каля асновы 25—27 м. На грэбені яна роўная 4—5 м. Найбольш высокі ўчастак вала знаходзіцца з заходняга напольнага боку. Непрыступнасць дзядзінца з магутнымі абарончымі валамі і крутымі схіламі ўзвышанасці, на якой ён знаходзіўся, узмацнялася ровам глыбінёй да 10 м, шырынёй 10—12 м.

Абарончыя збудаванні летапіснага «околнии града» (вакольнага горада) захаваліся горш, чым умацаванні дзядзінца. Найбольш выразна рэшткі землянога вала прасочваюцца з паўночнага боку. З поўдня акрамя вала быў, відаць, роў, засыпаны пры пазнейшай забудове. У XIV—XV стст. адначасова з пабудовай каменнага замка на дзядзінцы былі ўзведзены дзве каменныя сцяны, што абаранялі вакольны горад з поўдня: адна на краі пляцоўкі, другая на схіле. Па кладцы яны падобныя на сцены дзядзінца.

Лепш за іншыя часткі абарончай сістэмы старажытнага Навагрудка захаваўся адрэзак вала, што знаходзіцца каля падножжа дзядзінца і вакольнага горада. Яго працягласць роўная 260 м, вышыня — да 7,5 м.

**Планіроўка і забудова.** Захаванасць пабудоў у Навагрудку вельмі дрэнная. З 39 пабудоў, ускрытых раскопкамі на тэрыторыі вакольнага горада, толькі нямногія маюць выразныя межы. Часцей за ўсё наяўнасць жытлаў вызначалася рэшткамі печаў і прылягаючым да іх будаўнічым развалам. Прыблізныя межы пабудоў у асобных выпадках вызначаліся па канцэнтрацыі знаходак.

Нешматлікія сляды жытлаў пачатковага этапу існавання горада (канец X — першая палова XI ст.) дазваляюць лічыць іх наземнымі зрубавымі пабудовамі з глінабітнымі печамі і драўлянай падлогай. Знаходзіліся жытлы пераважна па краях пляцовак (у цэнтры іх было мала).

Разам з наземнымі існавалі жытлы, паглыбленыя ў зямлю. Адно такое жытло памерам 6×3 м, паглыбленае ў мацярык на 0,7 м, існавала ў цэнтры пасада. Сценкі паглыблення ўмацаваны камянямі. У адным з вуглоў была яма ад слупа-апоры, а каля падоўжнай сценкі — рэшткі каменнага акруглага ў плане вогнішча дыяметрам 0,6 м. Другое, паглыбленае на 1 м жытло было зрубавай канструкцыі. Яно было двухкамерным, памерам 7×11 м. У большай камеры (7×7 м) знойдзены рэшткі глінабітнай, відаць, з уключэннем камянёў, прамавугольнай у плане печы (2,4×1,9 м). Насціл дашчанай падлогі ляжаў на лагах.

Наяўнасць у Навагрудку і іншых панямонскіх гарадах паўзямлянкавага тыпу жытлаў, што панаваў у другой палове X—XI стст. у лесестэпавай зоне і паўднёвай частцы лясной зоны, сведчыць пра ўплыў паўднёварускіх домабудаўнічых традыцый (Раппопорт, 1975. С. 121). Гэта дазваляе меркаваць, што сярод першых насельнікаў гарадоў Панямоння былі выхадцы з паўднёвых зямель Русі.

У другой палове XI ст. з ператварэннем паселішча на Замкавай гары ў дзядзінец, а паселішча на Малым замку — у пасад (з пачатку XII ст.— у вакольны горад) забудова карэнным чынам змяняецца. Як ужо адзначалася, у паўднёвай частцы дзядзінца знаходзіліся толькі наземныя зрубавыя дамы. Да жылых памяшканняў прымыкалі невялікія хлявы. Характар пабудоў і іх інвентар даюць падставу лічыць, што яны належалі гараджанам, якія залежалі ад феадалаў. Паўночная частка дзядзінца была занята свірнам і кладоўкамі феадальнай знаці. Запасы зерня і іншых прадуктаў у гэтых пабудовах захоўваліся ў скляпах, над якімі былі дашчаныя насцілы на лагах. Дошкі насцілаў зрэдку былі пакрыты бяростай (Гуревич, 1983. С. 15).

На тэрыторыі Малога замка з'яўляюцца вялікія багатыя дамы, уладальнікі якіх займаліся апрацоўкай каляровых і высакародных металаў.

Гэта былі ў асноўным, відаць, двухкамерныя дамы, плошча якіх дасягала 70—76 кв. м (зрэдку да 100 кв. м). Адзін з такіх дамоў быў паглыблены ў зямлю, астатнія наземныя. Глінабытныя або каменныя печы гэтых пабудоў мелі гліняныя ці каменныя чарэні, а ў асобных выпадках каменны купал і чарэнь, выкладзены з цэглы (Гуревич, 1983. С. 14—15).

Вокны багатых дамоў былі зашклёныя. Аконныя дыскі розных памераў (дыяметрам да 20 см і больш). У развале аднаго з дамоў знойдзены два паўцыркульныя аконныя праёмы, зробленыя з гліны з уключэннем цэглы (у адным з іх захаваліся кавалкі аконнага шкла). Ф. Д. Гурэвіч мяркуе, што ў вокнах багатых навагрудскіх дамоў было тры-чатыры шыбы розных дыяметраў, а размяшчаліся вокны нярэдка ў вуглах дамоў насупраць печаў, якія там, як правіла, знаходзіліся (Гуревич, 1981. С. 123).

Асабліва цікавым з'яўляецца так званы «дом баярына». Ён быў плошчай 76 кв. м і складаўся, відаць, з двух памяшканняў. У паўночна-ўсходнім куце знаходзілася глінабітная печ. У цэнтры пабудовы меўся драўляны слуп, які падтрымліваў перакрыццё столі, але мог мець і дэкаратыўнае прызначэнне. Падлога была наслана з дошак. Вокны зашклёныя. Унутраныя сцены дома былі атынкаваны і пакрыты паліхромным роспісам. На адным з кавалкаў тынкоўкі захавалася выява мужчынскай галавы ў княжацкай шапцы (магчыма, маладога князя Глеба) (Гуревич, 1964. С. 97—102; Яна ж, 1981. С. 36—38).

Разам з багатымі дамамі ў вакольным горадзе Навагрудка ўскрыты рэшткі зрубавых наземных жытлаў радавых гараджан. Плошча іх не перавышала 30 кв. м. Печы глінабітныя без выкарыстання цэглы.

Сярод гаспадарчых збудаванняў Навагрудка вылучаецца наземная зрубавая пабудова з печчу-каменкай. Ва ўтрамбаваным пяску падлогі была вялікая колькасць ямак. У некаторых з іх захаваліся рэшткі згарэлых слупікаў. Гэта пабудова, на думку Ф. Д. Гурэвіч, з'яўлялася гумном. У этнаграфічным матэрыяле Беларусі вядома гумно («восець») — тып зрубавой пабудовы з печчу для высушвання снапоў. Бэлькі, на якіх сушыліся снапы, зрэдку ўмацоўваліся на слупах, укапаных у зямлю. У зімовы час пабудова выкарыстоўвалася для прадзення, пра што сведчыць вялікая колькасць знойдзеных тут прасліц (Гуревич, 1983. С. 14—15).

**Матэрыяльная культура.** Сабраны ў даследаваннях вялікі археалагічны матэрыял дазваляе ахарактарызаваць розныя бакі жыцця і побыту насельніцтва Навагрудка.

Неабходна адзначыць невялікую колькасць знаходак, што маюць непасрэдныя адносіны да земляробства (сашнік, серп, жорны). Ф. Д. Гурэвіч тлумачыць гэта тым, што раскопкі праводзіліся ў асноўным на тэрыторыі вакольнага горада, заселенага ў XII—XIII стст. гарадской знаццю. Земляробчае насельніцтва жыло, відаць, дзесьці за межамі вакольнага горада (Гуревич, 1965а. С. 79).

Значна больш даных аб жывёлагадоўлі і паляванні. Аналіз рэшткаў касцей сведчыць, што асноўнымі відамі свойскай жывёлы ў жыхароў вакольнага горада з'яўляліся буйная рагатая жывёла і свінні (адпаведна 26 і 22 % ад агульнай колькасці свойскай і дзікай жывёлы). Авечкі і козы ў мясным рацыёне гараджан складалі адносна невялікую долю, але



*Мал. 76. Прылады працы ювеліраў Навагрудка: 1, 2 — напільнікі; 3, 11 — пінцэты; 4—7, 12 — матрыцы, 8, 9, 15 — тыглі; 10, 17 — малаточкі; 13, 14, 16 — ліцейныя формы; 18 — кавадла; 19 — тачыльны брусок, 20 — нажніцы*

шырока выкарыстоўвалася поўсюдь гэтых жывёлін. Знойдзены вялікія спружынныя нажніцы, якімі стрыглі авечак і коз, вялікая колькасць гліняных і шыферных прасліц, кавалкі лямца, клубні нітак. Коні выкарыстоўваліся пераважна для транспартных і баявых мэтаў.

У складзе паляўнічай здабычы найбольш шматлікія па колькасці асобін жывёліны, якія здабываліся для мяса: высакародны алень, лось, зубр, дзік. Косці ўласна пушных звяроў нешматлікія (іх тушы ў горад не траплялі). Пушніна, на думку Ф. Д. Гурэвіч, з'яўлялася найбольш прыдатным таварам, якім жыхары Навагрудка аплочвалі вялікую колькасць імпартных, нярэдка унікальных, рэчаў, якімі багаты гэты горад (Гуревич, 1965а. С. 81). Паляўнічая зброя пададзена касцянымі і жалезнымі наканечнікамі стрэл, жалезнымі гарпунамі, наканечнікамі кап'я, суліцы і дроціка.

Важным дапаможным промыслам з'яўлялася рыбная лоўля. У жылых пабудовах і каля іх знойдзена вялікая колькасць лускі і касцей рыб. Сустрэты косці буйных рыб сям'і асятровых, а таксама шчупака, акуня, язя, карпа. Рыбалоўныя снасці пададзены кручкамі, гарпунамі, дэталямі сетак, іголкамі для пляцення сетак і кручкамі для іх выцягвання.

Сярод рамёстваў старажытнага Навагрудка найбольш поўна можна ахарактарызаваць ювелірную справу. Бронзаліцейшчыкі былі сярод першых жыхароў пасада, а з ператварэннем яго ў вакольны горад апрацоўка каляровых і высакародных металаў робіцца вядучай галіной рамесніцтва. Інструментарый ювеліраў складаюць ліцейныя формачкі, тыгелькі, льячкі, напільнікі, спецыяльныя малаточкі, кавадлачкі, нажніцы для рэзання металу, абцугі, штампікі, пінцэты, тачыльныя камяні з жа-

лабкамі. Знойдзены абрэзкі і кавалкі бронзы, нарыхтоўкі бронзавага дроту, брусочкі і кавалачкі свінцу. У двух памяшканнях выяўлены сляды апрацоўкі золата (тыгельчык з кропелькамі золата і кроппя золата вагой больш за 5 г).

Асартымент вырабаў навагрудскіх ювеліраў уключаў скроневыя кольцы, бразготкі, спіралькі, ланцужкі, падвескі, спражкі, фібулы, пярсцёнкі, бранзалеты. Разам з літымі рэчамі сустракаліся каваныя ўпрыгожанні. Знойдзены жалезныя прадметы, інкруставаныя бронзай ці пакрытыя серабром (ключы, шпоры, нажы, шпількі і інш.). Большасць вырабаў мае агульнарускі характар. Аднак ёсць упрыгожанні, якія паўтараюць аналагічныя вырабы Прыбалтыкі. Гэта падкавападобныя фібулы са спіральна загнутымі канцамі, спіралькі, трапецападобныя падвескі, некаторыя віды бранзалетаў і пласціністых пярсцёнкаў. Характэрным навагрудскім упрыгожаннем з'яўляюцца спецыфічныя скроневыя кольцы са спіральным завітком.

Ювелірнымі вырабамі навагрудскіх майстроў карысталіся не толькі гараджане, але і жыхары навакольных паселішчаў. У могільніку каля в. Корастава, на паселішчы і ў курганах каля в. Гарадзілаўка знойдзены ўпрыгожанні, ідэнтычныя вырабам навагрудскіх ювеліраў: бронзавая кольцападобная спражка з раслінным арнаментам, скроневае кальцо са спіральным завітком, падкавападобная фібула са спіральна загнутымі канцамі (Гуревич, 1962. Мал. 90:9, 91:2).

Спецыфіка арганізацыі ювелірнай справы ў Навагрудку заключалася ў тым, што тут гэтым рамяством займаліся амаль ва ўсіх жылых пабудовах. З 16 ускрытых раскопкамі дамоў вакольнага горада інструментарый ювеліра ці нарыхтоўкі вырабаў знойдзены ў 11. Абломкі і абрэзкі бронзы сустрэліся ва ўсіх жылых пабудовах (Гуревич, 1967. С. 17). Выплаўка металаў у Навагрудку праводзілася ў звычайных печах. Вядомыя па археалагічнай літаратуры майстэрні старажытнай Русі, Прыбалтыкі, Польшчы зрэдку з'яўляліся адначасова і жыллём рамесніка, аднак выплаўка металаў там заўсёды праводзілася ў спецыяльных горнах (Гуревич, 1967. С. 19).

Пытанне пра тое, адкуль у Навагрудак паступалі каляровыя і высакародныя металы, застаецца адкрытым. Ф. Д. Гурэвіч лічыць, што першапачаткова панямонскія гарады, як і землі Прыбалтыкі, карысталіся сыравінай з адной і той жа тэрыторыі: медзь у канцы X—XI ст. здабывалася ў гарах Гарца, а з другой паловы XI ст. вывозілася са Скандынавіі. У XII—XIII стст. каляровыя і высакародныя металы прывозіліся з розных зямель: медзь — з Прыкарпацця і Альпаў, свінец — з кракаўскіх і сілезскіх месцараджэнняў, серабро — з Чэхіі (Гуревич, 1981. С. 148—150).

Жалезаробчая вытворчасць у старажытным Навагрудку і яго ваколлі базіравалася, безумоўна, на мясцовай сыравіне. Жалеза атрымлівалі з балотнай руды. Металургічныя работы праводзіліся, відаць, на неўмацаваных пасадах. У межах вакольнага горада знойдзены толькі крыцы. Апрацоўка жалеза праводзілася ў вакольным горадзе. У канцы X—XI ст. тут было не менш дзвюх кузняў: адна — у паўночнай частцы, другая — у паўднёвай. Асартымент жалезных вырабаў навагрудскіх кавалёў уключае амаль усе катэгорыі рэчаў, што былі ва ўжытку ў старажытнай Русі. Падаўляючая большасць іх тыповая для старажытнару-




*Мал. 77. Касцяныя вырабы з Навагрудка: 1 — шахматная фігура; 2 — пласціна-накладка; 3 — гузік; 4 — муфта; 5 — прадмет нявызначанага прызначэння; 6 — вухавертка*

скіх паселішчаў. Толькі падковападобныя спражкі, магчыма, былі выраблены мясцовымі майстрамі па прыбалтыйскіх узорах.

Частка прадукцыі навагрудскіх рамеснікаў паступала ў парадку абмену да насельніцтва сельскіх паселішчаў. Пераканаўчым сведчаннем існавання такога абмену з'яўляюцца ключы, нажы, лыжкарэз і некаторыя іншыя жалезныя рэчы, знойдзеныя на паселішчы паблізу в. Гарадзілаўка (Гуревич, 1962. Рис. 76:1, 6, 7).

Кастарэзная справа ў канцы X—XI ст. была ў Навагрудку хатнім промыслам. У асобную галіну рамяства яна вылучаецца толькі на рубяжы XI—XII стст. Прадукцыя навагрудскіх кастарэзаў была прызначана ў асноўным для задавальнення гаспадарчых патрэб. Зыходнай сыравінай з'яўляліся рогі і косці пераважна дзікай жывёлы. У канцы X—XI ст. рог прымяняўся радзей за косць. У XII—XIII стст. больш інтэнсіўна выкарыстоўваўся рог. У склад інструментарыя кастарэзаў уваходзілі сякеры, свердзелы, нажы, напільнікі, малаткі і інш. Гатовыя вырабы тыповыя як для сінхронных усходнеславянскіх помнікаў, так і помнікаў суседніх народаў. Спецыфіка кастарэзнай справы ў Навагрудку заключалася ў тым, што яна з'яўлялася пабочным рамяством ювеліраў XII—XIII стст. Асноўную прычыну, якая садзейнічала такому спалучэнню рамёстваў, Ф. Д. Гурэвіч бачыць у багацці сыравіны, што здабывалася паляваннем жыхароў багатага квартала горада. У астэалагічных матэрыялах косці дзікай жывёлы складаюць 36 %. Рогі лася і аленя у многіх выпадках

знаходзіліся на чарапах, што сведчыць пра тое, што яны з'яўляліся паляўнічымі трафеямі (Гуревич, 1981. С. 143—144).

Апрацоўка дрэва — асноўнага будаўнічага і вырабнага матэрыялу старажытнай Русі — у матэрыяльнай культуры Навагрудка пададзена толькі інструментамі і ўскоснымі сведчаннямі (жалезныя вушкі ад кадушак, дужкі і абручы ад вёдраў і інш.). Гэта абумоўлена спецыфічнымі асаблівасцямі культурнага пласта, які амаль не захоўвае арганічных рэчываў.

Апрацоўка бурштыну пачалася ў Навагрудку ў XII ст. Што датычыцца адзінкавых знаходак у слоі XI ст., то іх наўрад ці трэба лічыць сыравінай. Хутчэй за ўсё гэта былі амулеты (бурштын у старажытнасці лічыўся мінералам з лекавымі ўласцівасцямі). Гатовыя вырабы — гэта ў асноўным пацеркі і пярсцёнкі.

Значна багацейшыя знаходкі, што адлюстроўваюць развіццё камнярэзнай справы: тачыльныя камяні, жорны, прасліцы, грузілы, ліцейныя формачкі, крыжыкі-цельнікі. Сыравінай для вырабу каменных рэчаў служылі мясцовыя матэрыялы: гліністы сланец, вапняк і пясчанік. Калі вытворчасць тачыльных камянёў і прасліц магла і ў XII—XIII стст. заставацца галіной хатняга промыслу, то выраб ліцейных формачак, крыжыкаў-цельнікаў (асабліва гранёных) быў магчымы толькі адмысловым майстрам, рамеснікам высокай кваліфікацыі.

Адзінай крыніцай, што характарызуе развіццё ганчарнай вытворчасці ў Навагрудку, з'яўляецца сама кераміка. Пераважная большасць посуду з першапачатковага паселішча выраблена на ганчарным крузе. Фрагменты ляпной керамікі адзінкавыя. Акрамя звычайных гаршкоў у слаях X—XI стст. сустрэліся пасудзіны з вертыкальным горлам. Некаторыя з іх упрыгожаны гарызантальнымі валікамі. Кераміка XII—XIII стст. разам са звычайнымі гаршкамі даволі багата пададзена міскамі, гладышамі, чарпакамі і іншымі формамі посуду. Адметнай рысай керамікі з'яўляецца разнастайнасць арнаменту. Разам з суцэльным рыфленнем і паралельнымі гарызантальнымі лініямі, аднараднай і шматраднай хваляй сустракаюцца ўзоры ў выглядзе трохвугольнікаў, квадратаў, кружкоў і інш.

Даволі частай знаходкай у Навагрудку з'яўляюцца абломкі палiванай керамікі, выраблена з гліны двух гатункаў: каляровай і белай. Пры гэтым, як паказаў петраграфічны аналіз, такая ж каляровая гліна прымянялася для вырабу ўсёй побытавай непаліванай керамікі. Супадзенне гатункаў гліны паліванай і непаліванай керамікі дазваляе зрабіць выснову аб мясцовай вытворчасці паліваных вырабаў (Малевская, 1969. С. 194—195).

У паліванай вытворчасці Навагрудка прасочваецца, з аднаго боку, традыцыі паліванай справы гарадоў Падняпроўя, і ў першую чаргу Кіева, а з другога — назіраюцца сувязі з керамічнымі вырабамі Гродна і Ваўкавыска. З Кіевам навагрудскую кераміку аб'ядноўваюць прымяненне двух гатункаў гліны, часткова аднолькавы асартымент посуду, падабенства некаторых прыёмаў арнаментавання. Падабенства керамікі Навагрудка да вырабаў іншых панямонскіх гарадоў прасочваецца ў адной вельмі істотнай прыкмеце — гэта прымяненне палівы карычневага і вішнёвага колераў, якія не сустракаюцца ў посудзе гарадоў іншых рэгіёнаў (Малевская, 1969. С. 202).

У матэрыяльнай культуры старажытнага Навагрудка адлюстраваны шырокія сувязі са знешнім светам — Прыбалтыкай, Польшчай, краінамі Бліжняга і Сярэдняга Усходу, Заходняй Еўропы. Гэтыя сувязі прасочваюцца як па прывазных вырабах, так і па рэчах, выраблeных на месцы па іншаземных узорах. Пра інтэнсіўныя сувязі з Візантыяй пераканаўча сведчыць вялікая колькасць амфар. Па колькасці амфарнай керамікі Навагрудак займае адно з першых месцаў сярод старажытнарускіх гарадоў. Пачатак увозу амфар супадае па часе з ператварэннем пасаду з адкрытага паселішча ва ўмацаваны валам вакольны горад (рубеж XI—XII стст.) і з'яўленнем на яго тэрыторыі вялікіх дамоў, што належалі гарадскім вярхам (Малевская, 1969. С. 185, 190). Сувязі з Візантыяй і іншымі краінамі Міжземнамор'я прасочваюцца таксама на серыі унікальных танкасценных шкляных пасудзін, невядомых раней у гарадах старажытнай Русі. Гэтыя пасудзіны выраблены з высакаякаснага шкла, упрыгожаны мастацкім роспісам золатам і рознакаляровымі эмалямі. Акрамя візантыйскіх у Навагрудку знойдзены шкляныя вырабы, выраблeныя ў сірыйскіх і іншых блізкаўсходніх шкляных майстэрнях.

Сярод прадметаў, што былі завезены ў Навагрудак з Захаду, вылучаецца бронзавая чаша. Аналагічныя чашы з гравіроўкай на ўнутраным баку добра вядомы ў старажытнасцях Польшчы, Германіі і іншых краін (Гуревич, 1962. С. 245—246).

Праведзеныя ў 1965 г. даследаванні храма Барыса і Глеба ў Навагрудку дазволілі з неабходнай верагоднасцю рэканструяваць яго архітэктурны выгляд. Хутка пасля пабудовы ў XII ст. асноўнага аб'ёму храма з трох бакоў яго былі прыбудаваны цагляныя галерэі. Па тэхніцы кладкі ён паўтарае шматлікія помнікі полацкага дойлідства XII ст. Незвычайная тэхніка кладкі асноўнага будынка з добра счасаных каменных квадраў з праслойкамі плінфы падобная да кладкі царквы Благавешчання ў Віцебску, хоць па планавым вырашэнні навагрудскі храм істотна адрозніваецца ад яе (Каргер, 1977. С. 167—168).

## Ваўкавыск

**Пісьмовыя звесткі.** Упершыню ў летапісе горад упамінаецца пад 1252 г. у сувязі з паходам войск галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў у землі Верхняга Панямоння, якія незадоўга да гэтага трапілі пад уладу літоўскага князя Міндоўга (сам Міндоўг княжыў у Навагрудку, а сыну свайму Войшалку перадаў Слонім і Ваўкавыск). «Данило же и Василко поидоста к Новугороду. Данилъ же и Василко, братъ его, разгадавъ со сыномъ брата си посла на Волковыеск, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову: и поимаша грады многы и взвратишася в домы» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 816).

Згодна з мірным дагаворам, заключаным каля 1254 г., Войшалк перадаў сыну Данілы Раману Данілавічу «Новгород от Миндовга», а Слонім, Ваўкавыск і іншыя гарады — «от себе» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 831). У Ваўкавыску ў гэты час сядзеў удзельны князь Глеб, на дачцы якога быў жанаты Раман Данілавіч. У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца пра ўдзел Глеба Ваўкавыскага ў сумесным паходзе галіцка-валынскіх і польскіх войск на яцвягаў: «Поиде Данило на Ятвязе с братом и сыномъ

Лвомъ и с Шеварном младоу соущоу и емоу и посла по Романа в Новгородокъ и приде к немоу Романъ со всими Новгородци и с тцемъ своимъ Глебомъ и со Изяславомъ со Вислочьскимъ и со сее стороны приде Самовитъ со Мазовшаны и помочь от Болеслава со Соудимирци и Краковляны» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 831).

У канцы 50-х гадоў літоўскія князі Войшалк і Таўцівіл захапілі і, відаць, забілі Рамана, Даніла Раманавіч ізноў зрабіў паход у Верхняе Панямонне. «Потом же Данило король ехавъ взя Волковыескъ, и Глеба князя пославъ я и державшеть и во чести: яко болма бо еха ко Волковыеску, ловя яти ворага своего Вышелка и Тевтила» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 847). Захапіўшы Ваўкавыск, Даніла Раманавіч узяў у палон Глеба. Чым закончыўся паход, летапіс не паведамляе. Вядома, што Войшалк ізноў стаў княжыць у Навагрудку ў якасці васала Міндоўга. Ваўкавыск таксама заставаўся ў васальнай залежнасці ад літоўскага князя.

У 1277 г. войскі галіцка-валынскіх князёў Мсціслава Данілавіча, Уладзіміра Васількавіча і Юрыя Львовіча «поидоша к Городну и бысть минувшим имъ Волковыыескъ далеча, сташа на ночъ» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 877). Апошні раз Ваўкавыск упамінаецца ў летапісе пад 1289 г. У гэтым годзе літоўскія князі браты Будзівід і Будзікід перадалі Мсціславу Данілавічу Ваўкавыск, «абы с ними мир держалъ» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 933). Мір з Галіцка-Валынскай Руссю быў ім патрэбны для барацьбы супраць агрэсіі Ордэна.

У канцы XIII — пачатку XIV ст. землі Верхняга Панямоння надоўга трапілі пад уладу Літвы. Магчыма, што ў складзе Літоўскай дзяржавы Ваўкавыск некаторы час па-ранейшаму заставаўся стольным горадам невялікага асобнага княства.

**Гісторыя даследавання.** Археалагічнае вывучэнне Ваўкавыска пачалося ў 1925 г. дырэктарам Гродзенскага музея Ю. Ядкоўскім. Культурны слой Замчышча і Шведскай гары быў прарэзаны мятровай траншэяй. На Замчышчы акрамя абломкаў керамікі, касцей жывёлы і плінфы было знойдзена толькі некалькі фрагментаў металічных вырабаў. Ва ўсходняй частцы Замчышча на глыбіні 0,7—0,8 м выяўлена пяць шкілетаў. Пахаваныя ляжалі на баку галавой на паўднёвы захад. Ніякіх рэчаў у пахаваннях не знойдзена (Jodkowski, 1925. S. 24—27).

У траншэі на Шведскай гары з усходняга яе боку выяўлены пясчаны насып вала з абгарэлымі бярвёнамі, а з заходняга боку — частка сцяны, «складзенай з цэглы на гліне». У цэнтральнай частцы пляцоўкі адзначана рэзкае падзенне культурнага слоя (тут, на думку аўтара раскопак, знаходзіўся калодзеж). У выніку работ знойдзена значная колькасць рэчаў, характэрных для матэрыяльнай культуры старажытнарускага горада (шыферныя прасліцы, фрагменты шкляных бранзалетаў і амфар, вісячыя замкі, ключы і інш.).

Значныя работы па абследаванню ваўкавыскіх помнікаў правёў на працягу 20—30-х гадоў краязнаўца-энтузіяст Г. І. Пех. Сабраны ім матэрыял з'явіўся асновай для стварэння ў Ваўкавыску краязнаўчага музея. З часу заснавання (1935 г.) і амаль да канца свайго жыцця (памёр у 1969 г.) Г. І. Пех быў яго нязменным дырэктарам. У 1948 г. Г. І. Пех правёў невялікія раскопкі на Замчышчы. Раскоп плошчай 32 кв. м быў закладзены каля паўночнага краю пляцоўкі. У 1954—1956 гг. раскопкі

ў Ваўкавыску праводзілі супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР сумесна з супрацоўнікамі Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна (кіраўнік работ В. Р. Тарасенка).

Раскоп 1954 г. на Шведскай гары плошчай 288 кв. м размяшчаўся ў заходняй частцы ўзвышанасці. Даследаванні пацвердзілі старажытнарускі характар матэрыяльнай культуры горада і далі падставу для высновы аб існаванні двух тыпаў жытлаў: паўзямлянак слупавой канструкцыі і наземных зрубавых дамоў (Тарасенка, 1957. С. 267—278). Раскопкі наступных гадоў пацвердзілі правільнасць гэтай высновы, але з адным удакладненнем — паўзямлянкі былі не слупавой, а зрубавай канструкцыі.

У 1955—1956 гг. раскопкі праводзіліся на Замчышчы. Даследавана плошча 1348 кв. м у паўднёва-заходняй і цэнтральнай частках узвышанасці. Асноўным вынікам работ з'явілася адкрыццё падмуркаў храма, паблізу якіх знойдзена шмат плінфы (у тым ліку ўкладзенай радамі ў пэўным парадку, часцей за ўсё на рабро) і камянёў з плоскімі адшліфаванымі паверхнямі. За 20—25 м на паўночны захад ад падмуркаў выяўлены вялікія запасы гашанай вапны (слой магутнасцю да аднаго метра залягаў на плошчы больш за 30 кв. м). Даследаваннямі ўскрыта больш дзесятка печаў-каменак і некалькі печаў вытворчага прызначэння. Прарэзка вала паказала, што ён насыпаўся ў два прыёмы. Пад валам выяўлены культурны слой таўшчынёй каля 0,5 м.

У 1958 г. раскопкі на Замчышчы прадоўжыў Г. І. Пех (два раскопы па 48 кв. м). Па матэрыялах даследаванняў ён зрабіў правільную выснову, што будаўніцтва храма спынілася на стадыі закладкі падмуркаў, а знойдзеныя падчас раскопак рэчы не выходзяць за рамкі XI—XIII стст. і, магчыма, частку XIV ст. (Пех, 1963. С. 231—236).

У 1959 г. экспедыцыя Ленінградскага аддзялення Інстытута археалогіі АН СССР (кіраўнік П. А. Рапапорт) зрабіла зачыстку прарэзанага на Замчышчы вала і абследавала гарадзішча Муравельнік. Даследаванні ўскрытых раскопкамі папярэдніх гадоў падмуркаў храма дазволілі П. А. Рапапорту даць схематычную рэканструкцыю плана будынка (Раппопорт, 1963. С. 237—239). Дадатковае архітэктурна-археалагічнае даследаванне храма праведзена ў 1966 г. экспедыцыяй Ленінградскага аддзялення пад кіраўніцтвам М. К. Каргера (Каргер, 1968. С. 420—428).

На працягу сямі год (1965—1971) раскопачныя работы ў Ваўкавыску праводзілі супрацоўнікі Інстытута гісторыі АН БССР (кіраўнік Я. Г. Зверуга). Даследаванні вяліся на ўсіх трох узвышанасцях комплексу: Шведскай гары, Замчышчы і Муравельніку. На Шведскай гары культурны слой ускрыты на плошчы 252 кв. м, на Замчышчы — 720, на Муравельніку — 1024 кв. м.

Пры прарэзцы вала на Шведскай гары было ўстаноўлена, што першапачаткова існаваўшае тут паселішча не было ўмацавана абарончым валам. Яно ўзнікла ў сярэдзіне або другой палове X ст. і ў хуткім часе загінула ад пажару (Зверуго, 1966. С. 320). Узнікненне паселішчаў на Замшчышчы і Муравельніку адносіцца прыкладна да аднаго і таго ж часу — рубеж X—XI стст.

Важнейшым вынікам даследаванняў на Замшчычы з'явілася адкрыццё рэшткаў паўзямлянкавых жытлаў (Зверуго, 1969. С. 157—163). Выяў-




*Мал 78 План гарадзішча ў Ваўкавыску*

лены вялікія валуны, нарыхтаваныя для будаўніцтва храма, і склад нявыкарыстанай плінфы, якая ляжала ў некалькі радоў. Плінфа добра абпаленая, на тарцовых яе баках меліся розныя рэльефныя знакі.

Рэшткі паўзямлянкавых жытлаў, заглыбленых у мацярык да 1,2 — 1,4 м, з разваламі абпаленых камянеў (рэшткі агнішчаў ці печаў-каменак) выяўлены на Муравельніку (Зверуго, 1967. С7 404). Уздоўж вала тут ішло канавападобнае паглыбленне шырыней 2—3,2 м, запоўненае цемна-шэрым гумусаваным супескам. У многіх месцах і на розных узроўнях у паглыбленні меліся развалы дробных і сярздняй велічыні камянеў. Большасць з іх была абпалена.

За ўсе гады раскопак усімі даследчыкамі ў Ваўкавыску ўскрыта больш за 3800 кв. м культурнага слоя.

**Тапаграфія.** У 80-я гады XIX ст. М. Балінські і Т. Ліпінські паведамлялі, што на ўзвышанасці за горадам Ваўкавыскам захаваліся сляды замка, пабудаванага не пазней XIII ст., калі літоўскія князі пасля разарэння гэтых зямель манголамі дзейна займаліся ўмацаваннем краю, будуючы новыя і аднаўляючы старыя замкі (Baliński, Lipiński, 1886. S. 563). Пра рэшткі замка — высокі ўзгорак з валамі, размешчаны на адлегласці ў паўвярсты па дарозе на Слонім, паведамляе П. Баброўскі (Гродзенская губерния. Ч. II. 1893. С. 1072). Ф. В. Пакроўскі звязвае звесткі пра рэшткі замка ў Ваўкавыску са Шведскай гарой (Покровский, 1896. С. 40—41).

Шведская гара знаходзіцца на паўднева-ўсходняй ускраіне горада. Паводле легенды яе ў час вайны насыпалі шведскія салдаты над магілай свайго ваеначальніка. Гэта найбольш высокая ўзвышанасць сярод акружаючых горад узгоркаў марэннай грады. Вышыня гары ад асновы да грэбеня вала ад 28 да 32,5 м.

У разрэзе Шведская гара мае форму ўсечанага конуса. Пляцоўка амаль круглая. Яе памеры з захаду на ўсход 55 м, з поўначы на поўдзень каля 50 м. Па перыметры пляцоўка акружана магутным абарончым валам. Найбольшай вышыні (да 7 м) вал дасягае з заходняга напольнага боку. З паўднёвага боку вал перарываецца. Тут быў уезд.

На захад ад Шведскай гары знаходзіцца другая ўзвышанасць — Замчышча. Яна крыху саступае Шведскай гары па вышыні, але значна пераўзыходзіць яе па памерах. Пляцоўка Замчышча ў плане мае форму, блізкую да трапецыі, кароткі бок якой даўжынёй 80 м павернуты на ўсход. Даўжыня процілеглага боку 125 м. Адлегласць ад Шведскай гары на ўсходзе да рова, які аддзяляе Замчышча ад размешчаных далей на захад дзвюх бязыменных узвышанасцей, 105 м. Глыбіня рова ад 4 да 7 м. Пляцоўка абаронена валам толькі з заходняга напольнага боку. У сярэдняй частцы вала ёсць уезд.

Прыкладна на адлегласці 0,5 км на ўсход ад Шведскай гары ў забалочанай мясцовасці размешчана гарадзішча Муравельнік. Побач з ім некалі працякала рака Нятупа, левы прыток Ваўкавыі. Пляцоўка Муравельніка мае ў плане авальную форму. Па ўсім перыметры яна акружана валам вышынёй 1,5—3,5 м. З паўднёва-заходняга боку ў вале прыкметны разрыў — сляды старажытнага ўезда. Памеры пляцоўкі з захаду на ўсход больш за 60 м, з поўначы на поўдзень — каля 120 м. У паўднёвай частцы гарадзішча ёсць значная па памерах (20×35 м) і глыбіні (5—6 м) упадзіна. Тут, на думку П. А. Рапапорта, мог знаходзіцца калодзеж. Паніжаны ўчастак меншых памераў маецца ў паўночна-заходняй частцы.

Шведская гара з канца X — пачатку XI ст. з'яўлялася крамлём — дзядзінцам старажытнага Ваўкавыска. На Замчышчы першапачткова размяшчаўся гандлёва-рамесны пасад. Магутныя абарончыя збудаванні крэпасці на Шведскай гары служылі для жыхароў пасада надзейнай аховай у выпадку варожага нападу. У пачатку XII ст. на Замчышчы ўзводзіцца вал і ён ператвараецца ў вакольны горад. Э. М. Загарульскім выказана меркаванне, што на рубяжы XI—XII стст. Замчышча было ўключана ў тэрыторыю дзядзінца. На Шведскай гары заставаўся княжацкі двор (Загорульский, 1958. С. 5).

Муравельнік П. А. Рапапорт адносіў да ліку гарадзішчаў-сховішчаў, якое было закінута ў сувязі з заснаваннем паселішча на Шведскай гары (Раппопорт, 1963. С. 258). В. Р. Тарасенка лічыў яго дадатковым умацаваннем горада з непастаянным складам насельніцтва (Тарасенко, 1957. С. 279).

З тапаграфіяй старажытнага Ваўкавыска звязаны тры месцы ў межах сучаснага горада. Па-першае, гэта участак завулка імя М. І. Кутузава, дзе ў 1949 г. было выяўлена паўзямлянкавае жытло з архаічнай кругавой керамікай X—XI стст. і гліняныммі прасліцамі ў запаўненні. Па-другое, раён паміж вуліцай імя М. І. Кутузава і берагам р. Ваўкавыя, дзе пры земляных работах неаднаразова траплялiся косці і цэлыя касцякі людзей без пахавальнага інвентару. І, нарэшце, нізінны бераг р. Ваўкавыя каля моста на вуліцы К. Маркса (тут знойдзены кругавая кераміка старажытнарускага выгляду, шыфернае прасліца і некалькі жалезных прадметаў (нож, скаба, цвікі).

**Планіроўка і забудова.** У выніку раскопак 1954 г. устаноўлена існаванне на Шведскай гары жылых пабудоў двух тыпаў: паўзямлянак і наземных дамоў. Работы наступных гадоў дазволілі ўдакладніць іх канструкцыю — адны і другія былі зрубавай канструкцыі. У 1965 г. на Шведскай гары ўскрыты рэшткі некалькіх наземных зрубаў. Прыблізныя памеры аднаго з іх устаноўлены па ніжнім вянцы, што захаваўся ў выглядзе гарэлага дрэва. Даўжыня каля 4 м, шырыня — прыкладна 3,5 м. Печ знаходзілася ў кутку. Ад яе застаўся развал абпаленых камянёў і праслойка чорнай зямлі, перамешанай з вуголлем і попелам. У гэтым жа годзе на Шведскай гары знойдзены абпалены вугал зруба (па два вянцы), што знаходзіўся ў яме, абрысы якой былі зменены яшчэ ў старажытнасці. Наяўнасць у яме рэштак печы-каменкі дазволіла заключыць, што гэта была жылая пабудова.

У 1965—1966 гг. сляды жытлаў паўзямлянкавага тыпу, відаць, зрубавай канструкцыі (ямы ад слупоў адсутнічалі) выяўлены на Муравельніку.

Пры даследаваннях 1967 г. на Замчышчы ўскрыты рэшткі сямі паўзямлянкавых жытлаў. Дакладныя памеры ўстаноўлены трох паўзямлянак. Адна з іх даўжынёй 4,3 м і шырынёй 2,9 м была заглыблена ў мацярык на 0,5—0,8 м. Памеры дзвюх астатніх 5,6×3,2 і 3,7×3,7 м. У мацярык яны былі заглыблены на 0,8—1,0 м. Дзве паўзямлянкі (падоўжных прапорцый) арыентаваны па старанах свету вугламі, трэцяя (квадратная) — сценамі. У адной з паўзямлянак захаваўся ўваход з дзвюх прыступак 0,2 і 0,4 м. Больш высокая прыступка знаходзілася бліжэй да выхаду.

Сцены паўзямлянкавых жытлаў былі складзены з бярвёнаў дыяметрам у асноўным не больш 12—15 см. Дахі ляжалі непасрэдна на сценах. Спецыяльных слупоў-апор для дахаў не было. Печы складзены з невялікіх і сярэдняй велічыні камянёў. Магчыма, што ў некаторых выпадках іх сцены абмазваліся глінай. Ад печаў захаваліся развалы абпаленых камянёў, што ляжалі ў праслойках інтэнсіўна чорнай зямлі, перамешанай з вуголлем, попелам і жарствой. Знаходзіліся печы ў кутках жытлаў. У паўзямлянцы з захаваным уваходам печ знаходзілася ў кутку справа ад уваходу.

Разам з паўзямлянкамі на Замчышчы ўскрыты рэшткі наземных зрубавых дамоў. У некаторых з іх месцамі захаваліся сляды глінабітнай падлогі. Як і ў паўзямлянках, печы-каменкі знаходзіліся ў адным з куткоў. Сцены пабудоў зрэдку абмазваліся глінай (гліна запаўняла паглыбленні паміж бярвёнамі). У асобных дамах былі шкляныя вокны. Гэта, несумненна, былі дамы багатых людзей, духоўнай і свецкай знаці.

Такім чынам, калі на Муравельніку будаваліся толькі паўзямлянкі, то на Шведскай гары і Замчышчы — жытлы абодвух тыпаў. Пры гэтым паўзямлянкавыя жытлы будавалі толькі на пачатковым этапе жыцця горада (канец X—XI ст.). У XII—XIII стст. тут будавалі выключна наземныя дамы.

**Абарончыя збудаванні.** Раскопкамі 1965 г. устаноўлена, што вал на Шведскай гары насыпаны паверсе культурнага слоя. Узнікшае тут паселішча першапачаткова не мела штучных земляных умацаванняў. Надзейнай аховай для яго з'яўляліся перш за ўсё крутыя схілы гары. Не выключана, што пасёлак быў абнесены сценамі з гарызантальных бярвё-

наў, характэрных для абарончых збудаванняў старажытнай Русі ранняй пары (Раппопорт, 1965. С. 27, 34). Неўмацаванае валам паселішча існавала непрацяглы час (2—3 дзесяцігоддзі) і загінула ад пажару. У канцы X ст. па ўсім перыметры пляцоўкі быў узведзены магутны абарончы вал.

Праведзенымі ў 1965 г. дзвюма прарэзкамі (у паўднёвай і паўночнай частках раскопу) высветлена, што вал на Шведскай гары не меў спецыяльных унутраных канструкцый. У насыпе вала ў паўночнай частцы раскопу, пачынаючы з глыбіні крыху больш за адзін метр ад сучаснай паверхні і амаль да мацерыка, меліся ў вялікай колькасці кавалкі абгарэлага дрэва, паўабгарэлыя бярвёны, пакладзеныя галоўным чынам папярок насыпу. Яны, несумненна, павінны былі засцерагаць насып ад апаўзання, паколькі амаль увесь ён размяшчаўся на схіле.

У паўночнай частцы раскопу ўвесь насып вала вышынёй да 4,5 м складаўся са светла-жоўтага пяску, перакрытага зверху слоем шэрага гумусаванага супеску таўшчынёй да 0,7 м. У паўднёвай частцы раскопу вал складаўся з пласта гліны магутнасцю да 2 м, зверху якога быў насыпаны пласт чыстага светла-жоўтага пяску таўшчынёй да 1,6 м. З боку схілу пясок перакрываў пласт гліны таўшчынёй да 0,3 м, які захоўваў вал ад апаўзання. Верхняя частка вала складалася з шэрага гумусаванага супеску. Відаць, яна была насыпана пазней. Агульная вышыня вала больш за 5 м.

Вал на Замчышчы таксама прарэзаны ў двух месцах: у паўднёвым тарцы і ў цэнтральнай частцы.

Прарэзка вала ў тарцы (1959 г.) паказала, што ён насыпаны зверху культурнага слоя магутнасцю каля 0,5 м, у якім знойдзена кераміка XI ст. Насып складаўся са слаёў чыстага пяску з праслойкамі гумусаванага супеску. У гумусных праслойках знойдзены косці жывёлы і фрагменты керамікі XI — пачатку XII ст. У ніжніх праслойках трапляліся абломкі амфар і шыферныя праслiцы. Мяркуючы па знаходках, вал быў узведзены ў першай палове ці ў самым пачатку XII ст. Першапачатковая шырыня асновы вала была роўная 12 м. Пра першапачатковую яго вышыню гаварыць цяжка, бо хутка пасля ўзвядзення вал пачаў асыпацца (культурны слой XII—XIII стст. з унутранага боку заходзіць на пясчаную праслойку — апоўзень насыпу). У другой палове XIII — пачатку XIV ст. вал быў рэканструяваны. Яго пясчаны насып выраўнаваны гарызантальна на вышыні каля 2,5 м ад асновы, а зверху насыпана новая вяршыня з шэрага гумусаванага супеску. Вышыня вала пасля рэканструкцыі была не менш 5 м. Адначасова з падсыпкай вяршыні вала з тыльнага яго боку была насыпана акруглая пляцоўка. Магчыма, гэта вежавы выступ (Раппопорт, 1963. С. 237—238).

Пры прарэзцы вала ў цэнтральнай частцы (1971 г.) пад ядром насыпу, прыкладна за 2 м ад сучаснага краю ўзвышанасці, выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла. Ніжняя частка насыпу вала складалася з шэрага гумусаванага супеску таўшчынёй да 1,3 м, у якім трапляліся косці жывёлы, фрагменты керамікі, абпаленыя камяні. Асноўнае ядро вала, вышынёй ад 1,3 да 2,3 м, складалі слаі амаль чыстага жоўтага пяску і праслойкі пяску, перамешанага з гумусам. У гумусавых праслойках таксама сустракаліся косці жывёлы і фрагменты керамікі. Зверху ўвесь

насып быў перакрыты слоем цёмна-шэрага гумусавага супеску таўшчынёй 0,2—0,35 м.

Прарэзка вала ва ўсходняй частцы Муравельніка (1965 г.) паказала, што вал вышынёй 1,6 м быў насыпаны ў адзін прыём з таго ж буйназярністага пяску, з якога складаецца мацярык гарадзішча. Культурных рэшткаў ні ў насыпе, ні на ўзроўні старажытнай глебы не выяўлена.

Пры прарэзцы вала ў заходняй частцы гарадзішча высветлілася, што яго насып узводзіўся ў два ці нават у тры прыёмы. Першапачатковы вал быў насыпаны з жоўтага з карычневым адценнем мацерыковага пяску, перамешанага з гумусам і дрэвавым вуголлем. Затым была зроблена падсыпка з гумусаванага супеску шэрага, месцамі цёмна-шэрага колеру і, нарэшце, узведзена вяршыня вала, якая складаецца з чыстага жоўтага пяску. Паміж першапачатковым валам і падсыпкай, таксама як і паміж падсыпкай і вяршыняй, былі праслойкі вугалля (сляды пажараў). Магчыма, першапачатковы вал складаўся з асноўнага ядра і падсыпкі, а пазней была насыпана толькі яго вяршыня. Шырыня вала ў старажытнасці была не менш 9 м, вышыня — 4,5 — 5 м.

**Матэрыяльная культура.** Багаты і разнастайны рэчавы матэрыял з раскопак сведчыць, што па ўзроўню матэрыяльнай культуры размешчаны на славяна-балцкім паўзмежжы Ваўкавыск не адставаў ад іншых старажытнарускіх гарадоў. Як і іншыя гарады, ён быў перш за ўсё горадам рамеснікаў. Матэрыялы па рамеснай вытворчасці разнастайныя: інструменты рамеснікаў і абсталяванне майстэрняў, адходы вытворчасці і незакончаныя вырабы, запасы сыравіны і гатовая прадукцыя, рэшткі вытворчых збудаванняў і сляды жытлаў рамеснікаў. Ваўкавыскія майстры паспяхова выкарыстоўвалі розныя тэхналагічныя прыёмы, забяспечвалі насельніцтва горада і прылягаючай акругі ўсімі неабходнымі рамеснымі вырабамі.

Жалезаапрацоўчае рамяство старажытнага Ваўкавыска выкарыстоўвала, відаць, пераважна прывазное жалеза. Нейкая яго частка, безумоўна, здабывалася на месцы. Рэшткі разбураных домніц у 1953 г. былі знойдзены Г. І. Пехам каля паўночна-ўсходняй падэшвы Шведскай гары (Тарасенко, 1957. С. 271). На Замчышчы знойдзена значная колькасць жалезных шлакаў, абломкаў крыц і гліняных соплаў ад мяхоў. Шлакі трапляліся на Шведскай гары і Муравельніку.

Ваўкавыская калекцыя вырабаў з жалеза і сталі ўключае амаль усе катэгорыі рэчаў, што былі ва ўжытку ў старажытнай Русі. Мясцовы выраб большасці прадметаў не выклікае сумнення.

Вынікі металаграфічнага аналізу паказваюць, што ваўкавыскія кавалі прымянялі разнастайныя тэхналагічныя аперацыі, уключаючы каванне, зварку, цэментаванне, загартоўку і інш. У Ваўкавыску ўпершыню выяўлена прымяненне праслойкі з чыстага жалеза пры наварцы сталі на абушкі нажоў і косаў. Гэта сведчыць не толькі аб высокай тэхніцы кавальскага рамяства, але і аб значным вопыце майстроў, бо, па сучасных даных, кавальская зварка, выкананая з прымяненнем пластычных праслоек, забяспечвае больш надзейнае спалучэнне (Кадников, Купченко, Зверуго, 1969. С. 182).

Вывучэнне прылад працы, прадметаў узбраення, гаспадарчага і пабытавага інвентару дазваляе сцвярджаць, што па сваім знешнім выгля-




*Мал. 79. Наканечнікі стрэл з Ваўкавыска*

дзе і канструкцыйных асаблівасцях пераважная большасць ваўкавыскіх жалезных вырабаў не адрозніваецца ад аналагічных прадметаў з іншых гарадоў.

Пры дапамозе розных відаў ліцця ваўкавыскія ювеліры выраблялі разнастайныя ўпрыгожанні (прывескі, фібулы, спражкі, пярсцёнкі і інш.), прадметы царкоўнага культу (крыжыкі, іконкі, амулеты і г. д.). З літых рэчаў гаспадарчага прымянення знойдзена толькі бляшня для лоўлі рыбы. Разам са звычайнымі недарагімі ювелірнымі вырабамі, шырока распаўсюджанымі ў старажытнарускіх землях і суседніх краінах, у Ваўкавыску знойдзены унікальныя высокамастацкія прадметы (панікадзілы-хорасы, відаць, кіеўскай вытворчасці).

Хімічны аналіз ваўкавыскіх вырабаў паказаў, што гэта ў асноўным складаныя сплавы медзі з волавам, цынкам, свінцом і толькі адзінкавыя прадметы маюць адносна чысты метал. Падобныя сплавы медзі з такімі ж легіруючымі хімічнымі элементамі (свінец, волава, цынк), з утрыманнем тых жа мікрапрымешак (вісмут, сурма, серабро, нікель, жалеза) знойдзены ў ювелірных майстэрнях Полацка і Навагрудка (Наумов, 1969. С. 171—173).

Сярод іншых рамёстваў найбольш значнае развіццё ў старажытным Ваўкавыску атрымала кастарэзная справа, асабліва ў другой палове XII—XIII ст. Відаць, ніякі іншы горад Беларусі не можа параўнацца з Ваўкавыскам як па разнастайнасці прадметаў з косці, так і па колькасці вырабаў, што вылучаюцца высокай мастацкай дасканаласцю.

Разам са звычайнымі інструментамі, што прымяняліся для апрацоўкі косці (лёгкімі сякерамі, долатамі, нажамі, піламі, свердзеламі і інш.), ваўкавыскія майстры карысталіся такарным станком, лучковым свердзелам, цыркульным разцом. Найбольш працаёмкай справай з'яўляўся выраб грабянёў (знойдзена 59 экз., у тым ліку 5 аднабаковых). Некаторыя двухбаковыя грабяні, накладкі і пласціны футляраў аднабаковых грабянёў багата арнаментаваны. Асноўнымі элементамі арнаменту з'яўляюцца разнастайныя спалучэнні прамых і косых ліній, а таксама розныя «вочкі».

Найбольш часта сустракаюцца чаранкі для нажоў, засцежкі для адзення, амулеты, абоймы, пласцінкі-накладкі. Апошнія нярэдка арнаментаваны. Асабліва прыгожай арнаментыкай аздоблены пласцінкі калчаноў. На косанаразным фоне глыбока прарэзаны разцом контуры вываў жывёлін і часткі раслін. Некаторыя элементы арнаменту прарэзаны двайнымі лініямі.

Асобныя знаходкі з Ваўкавыска па мастацкай дасканаласці, майстэрству аздаблення належаць да лепшых узораў старажытнарускага кастарэзнага мастацтва. Гэта шахматныя фігуры (ладдзя і пешка), пласцінка ад трыпціха, круглая ў сячэнні ручка. Шахматная ладдзя з Ваўкавыска па памерах, форме і характары вельмі падобная на ладдзю з Гродна: той жа тып рачнога судна з двума аднолькава вострымі насамі, аналагічныя фігуркі воінаў на палубе (на носе і пасярэдзіне каля бартоў), тыя ж міндалепадобныя шчыты на бартах. Ваўкавыская пешка — воін-барабаншчык, падобны на музыку навагрудскай вухавёрткі. У абодвух твары без вусоў і без барады. Прамыя валасы пакрытыя плоскімі насунутымі на лоб шапкамі. Адзетыя ў доўгія да каленяў



*Мал. 80. Касцяная пласцінка ад трыпціха з Ваўкавыска*

кашулі, падпярэзаныя паясамі (Гуревич, 1965б. С. 276). На вонкавым баку пласцінкі ад трыпціха тры пагрудныя, размешчаныя па вертыкалі выявы святых. На адваротным баку чатырохканцовы крыж на сферы з круглым міжскрыжаваннем і «слёзкамі» на канцах. Круглая ў сячэнні ручка ўпрыгожана ўзорам з пераплеценых стужак, выпуклых кропак (у тым ліку з каляровага шкла) і завіткоў вінаграднай лазы.

Апрацоўка каменя прадстаўлена двума накірункамі: выраб вялікіх прадметаў (жорнаў, тачыльных брускоў, камянёў-уставак у сцены будынкаў) і дробная ювелірная апрацоўка (ліцейныя формачкі, прасліцы, крыжыкі, пацеркі). Каменячосная справа асабліва развіццё атрымала ў XII ст. у сувязі з пачаткам будаўніцтва храма на Замчышчы. Апрацоўка камянёў для ўставак у сцены будынка рабілася на гарадзішчы.

Пры раскопках Ваўкавыска знойдзены бурштынавыя вырабы: крыжыкі, пацеркі, пярсцёнкі. Неаднаразова сустракаліся кавалкі неапрацаванага бурштыну. У адным выпадку (Шведская гара, 1854 г., кв. 24) знойдзены разам 20 кавалкаў неапрацаванага бурштыну. Гэта сыравіна для мясцовай перапрацоўкі.

Найбольш масавым матэрыялам з'яўляецца кераміка, знойдзена больш за 67 тысяч фрагментаў глінянага посуду. Амаль уся ваўкавыская кераміка выраблена на ганчарным крузе. Чарапкі ляпных пасудзін адзінкавыя.

Асабліва цікавымі з'яўляюцца гаршкі так званага валынскага тыпу і пасудзіны з вертыкальным горлам. Гаршкі валынскага тыпу зроблены з белай гліны. Абпальванне роўнае, значна лепшае, чым у гаршкоў іншых тыпаў. У іх рэзка адагнуты вонкі венчык і даволі высокая шыйка, што пераходзіць у акруглыя плечыкі. Гэты тып гаршкоў сустракаецца толькі на Шведскай гары ў слаях другой паловы X — пачатку XI ст. Ён мае прамыя аналогіі ў паўднёва-заходняй Валыні, дзе ў IX — сярэдзіне X ст. з'яўляўся асноўным тыпам. Такія гаршкі ў невялікай колькасці знойдзены ў Навагрудку і Гродне (Малевская, 1972. С. 15—18). Пасудзіны з вертыкальным горлам у Ваўкавыску сустракаюцца ва ўсіх слаях



*Мал. 81. Касцяное навершша з Ваўкавыска*

пачынаючы з X ст. і да XIV ст. уключна. Яны характэрны для Мазовіі і некаторых іншых раёнаў Польшчы, а таксама Галічыны і Валыні (Малеўская, 1972. С. 19).

У матэрыялах раскопак добра прасочваюцца гандлёвыя сувязі Ваўкавыска з іншымі старажытнарускімі гарадамі і землямі, і перш за ўсё з Падняпроўем (шыферныя праслíцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, шкляны посуд, паліваная кераміка, амфары). Прадметам імпарту з'яўляўся бурштын. Заходнім імпартам з'яўляецца касцяное навершша ў выглядзе скульптурнай галавы льва, якое належыць да ліку лепшых твораў заходнееўрапейскай разной косці XII — пачатку XIII ст. (Даркевич, 1963. С. 195).

Раскопкі Ваўкавыска сведчаць пра цесныя сувязі гараджан з сельскай гаспадаркай. Асноўнай харчовай культурай з'яўлялася азімае жыта. Роля пшаніцы была сціплай. Таксама, як і ў Гродне, значнае месца ў складзе вырошчваемых культур займалі гарох і драбнаплодны конскі боб, магчыма, абарыгенны ў Гродзенскай зямлі (Кирьянов, 1954. С. 206—207).

Асноўнай свойскай жывёлай на Шведскай гары былі свінні (17 % ад агульнай колькасці асобін свойскай і дзікай жывёлы), на Замчышчы — свінні (21 %), буйная і дробная рагатая жывёла (па 20 % кожнага віду), на Муравельніку — буйная рагатая жывёла (26 %).

Сярод свойскай птушкі першае месца належала курыцы. Качак і гусей мала. Асабліва цікавай з'яўляецца знаходка на Шведскай гары костак паўліна. Гэта першая і даволі старажытная (XII ст.) знаходка костак гэтай птушкі на тэрыторыі былога СССР. У Ваўкавыску паўліна ўтрымлівалі, безумоўна, як дэкаратыўную птушку і належаў ён багатай сям'і (князю, знаці). Прывезці яго маглі з суседняй Польшчы (Бурчак-Абрамович, Зверуго, 1969. С. 217).

Асаблівасцю фауны старажытнага Ваўкавыска з'яўляецца высокі




*Мал. 82. Шахматныя фігуры з раскопак панямонскіх гарадоў: 1, 2, 5 — паддзі, 3 — пешка; 4 — конь (1 — Гродна; 2, 3, 5 — Ваўкавыск; 4 — Навагрудак)*

працэнт паляўнічага звера. На Шведскай гары косці дзікіх жывёлін складаюць 55,4 % ад агульнай колькасці асобін свойскай і дзікай жывёлы, на Замшчышчы — 29,1 % і на Муравельніку — 39,5 %.

Сярод паляўнічых звяроў пераважаюць жывёліны, на якіх палявалі дзеля мяса,— зубр, лось, высакародны алень, дзік, казуля. Рэшткі пушных звяроў нешматлікія, бо іх тушы пасля зняцця скуры на гарадзішча не траплялі (Горюнова, 1950. С. 62—63). З ліку іншых звяроў найбольш шматлікія рэшткі бабра.

На Шведскай гары знойдзены косці арлоў-беркутаў і ястрабаў-цецеравятнікаў, якія, відаць, выкарыстоўваліся дружыннікамі крапаснога гарнізона ў якасці лоўчых птушак.

Аб'ектамі рыбалоўнага промыслу з'яўляліся 12 відаў рыб. За выключэннем балтыйскага асятра і ласося, астатнія віды насяляюць Нёман і яго прытокі і цяпер (Цепкин, 1969. С. 401—404).

Раскопкі Ваўкавыска далі найбагацейшую калекцыю ў Беларусі прадметаў узбраення воіна і рыштунку верхавога каня. Знойдзена перакрыжаванне і два наканечнікі ножнаў мяча, сем наканечнікаў коп'яў, сякера-чакан, касцяны і жалезны кісцяні, 250 наканечнікаў стрэл (у тым ліку 16 касцяных), сем арбалетных наканечнікаў. Асаблівасцю ваўкавыскай калекцыі наканечнікаў стрэл з'яўляецца высокі працэнт (63,7) утулкавых наканечнікаў. Такія наканечнікі ў сярэднія вякі прымяняліся вельмі шырока ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы (Медведев, 1950. С. 54—55). Для Русі яны не характэрны. Яны былі запазычаны жыхарамі Ваўкавыска ў заходніх суседзяў. Шмат якія з іх належалі літоўскім, яцвяжскім і іншым воінам і трапілі ў культурны слой у час наступленняў на горад.

Пра распаўсюджанасць пісьменнасці сярод гараджан сведчаць інструменты пісьма — пісалы, ці стылі, іх знойдзена 12 экз. (9 жалезных,

3 бронзавыя). Гэта адна з найбольш шматлікіх па колькасці знаходак калекцый, якая саступае толькі наўгародскай (Звеpуго, 1969. С. 147—152). Неаднаразова сустрэліся прадметы, на якіх былі надпісы, асобныя літары і літарападобныя знакі. На бакавой паверхні шыфернага прасліца ёсць надпіс: «ГОПОМОЗИРАБУС». Г. І. Пех расшыфраваў яе, прачытаўшы: «ГО(споди) ПОМОЗИ РАБУ С(воему)». Па змесце ваўкавыскі надпіс блізкі да надпісу на шыферным прасліцы з Гродна (Алексеев, 1955. С. 131).

## Слонім

Горад упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. у сувязі з барацьбой галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў за валоданне панямонскім краем (ПСРЛ Т. II. Стб. 816).

Археалагічнае вывучэнне Слоніма пачалося ў пасляваенныя гады. У 1946 г. Г. І. Пех правёў зачыстку агаленняў культурнага пласта, а ў 1953 — шурфоўку. Раскопачныя работы пачаліся ў 1959 г. Г. І. Пехам (64 кв. м) (Пех, 1966. С. 275—279) і працягваліся ў 1968 г. Я. Г. Звяругам (168 кв. м) (Звеpуго, 1972. С. 248—289).

Даследавалася невялікая ўзвышанасць у цэнтры сучаснага горада, вядомая ў мясцовых жыхароў пад назвай Замчышча. На старых планах Замчышча мае форму чатырохвугольніка, абмежаванага з поўдня і ўсходу крутымі схіламі, а з поўначы і захаду — равамі. Мост перакінуты праз роў з заходняга боку. На малюнку старога Слоніма відаць, што р. Шчара раней працякала каля падэшвы ўзвышанасці (там, дзе цяпер праходзіць вуліца Энгельса). Сама назва ўзвышанасці звычайна звязваецца з больш познім часам, калі тут быў пабудаваны замак князёў Агінскіх.

Культурны пласт Замчышча добра захоўвае дрэва, скуру і іншыя арганічныя рэчывы. У пласце XI—XIV стст. выдатна захаваліся насцілы маставых з тонкіх бярвёнаў і плашак. Адна вуліца шырынёй 5—6 м праходзіла з поўначы на поўдзень, другая, больш вузкая (шырынёй 3—4 м), ішла ў напрамку з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход і прымыкала да першай з захаду. Аснову першай маставой складалі падоўжныя лагі, што ляжалі на масіўных папярочных плашках. Падоўжныя лагі другой вуліцы ляжалі на папярочных бярвёнах, канцы якіх абапіраліся на папярочныя плашкі.

Па абодва бакі маставых захаваліся рэшткі зрубавых жылых і гаспадарчых пабудоў. Гаспадарчыя пабудовы невялікіх памераў — 1,8×2,2 м, 2,25×2,25 м і інш. Плошча жылых дамоў дасягала 20 кв. м. Большасць пабудоў — зрубавыя з хвойных (радзей лісцевых) парод. Усе яны рублены ў абло. Адкрыта гаспадарчая пабудова, што складалася з двух зрубаў (адзін унутры другога). Печы ў дамах знаходзіліся ў адным з куткоў, часцей за ўсё адразу каля ўваходу. Захаваліся асновы печаў, абмежаваныя пакладзенымі на рабро дошкамі, адны канцы якіх уваходзяць пад прамым вуглом у пазы масіўнага слупа, другія прымыкаюць да сцяны. Ускрыты пабудовы слупавой канструкцыі, якія, відаць, мелі гаспадарчае прызначэнне. Расчышчаны рэшткі лёгкіх збудаванняў тыпу паветак.




*Мал. 83 Знаходкі са Слоніма· 1, 17 — наканечнікі стрэл; 2, 3, 5 — фібулы; 4 — прывеска; 6, 12 — крэсівы, 7 — праслiца, 8, 9 — рыбапоўныя кручкі, 10 — тыгель, 11 — праколка, 13 — створка бранзалета, 14 — верацяно, 15 — наканечнік дроціка, 16 — бірка, 18 — кручок, 19 — ключ, 20 — цыркульны разец, 21, 24 — нажніцы, 22 — падшыпнік, 23 — нож, 25 — бронзавая пасудзіна, 26 — шпора, 27, 28 — паплаўкі, 29 — шлем, 30 — затычка, 31 — каса, 32 — серп, 33 — гарпун*

Знойдзена вялікая колькасць драўляных вырабаў: верацёны (у тым ліку з надзетымі на іх шыфернымі прасліцамі), вілкі для кудзелі, дэталі ткацкага станка, рыдлёўкі, клёпкі і днішчы ад вёдзер, дзіцячыя цацкі (мячы і лукі), засцежкі ад адзення, посуд, выраблены на такарным станку (міскі, кубкі) і інш. Знойдзена шмат разнастайных вырабаў са скуры: розны абутак (у тым ліку арнаментаваны вышыўкай), ножны, футляры, мячы, дэталі конскай збруі і г. д. Шмат абрэзкаў скуры, якія з'яўляліся адходамі шавецкага рамяства. Сустрэліся абрыўкі шарсцяных і льняных тканін.

Шматлікія знаходкі сведчаць пра развіццё кастарэзнага рамяства. На адходах і незавершаных апрацоўкай вырабах добра захаваліся сляды прымянення розных інструментаў (сякеры, пілы, рашпілі і інш.). Знойдзены цыркульны разец для нанясення вочкавага арнаменту. Сярод гатовых вырабаў — шахматная фігура ў выглядзе жалуда, плоскі кружок з выявай нейкіх жывёлін, гульнёвая косць з «вочкамі», інструмент для пляцення і рамонту сетак.

Знойдзеныя ў розных пластах жалезныя шлакі і крыцы сведчаць пра існаванне жалезаробчай вытворчасці. У калекцыі жалезных вырабаў — спружынныя і шарнірныя нажніцы, вісячыя (здымныя) цыліндрычныя замкі, авальныя крэсівы, рыбалоўныя кручкі, гарпун, пісала. Зброя і рыштунак воіна прадстаўлены наканечнікамі стрэл, наканечнікам дроціка, шпорамі. Асаблівую цікавасць уяўляе знойдзены паблізу мацерыка шлем з наноснікам. Верхняя яго частка зроблена з адной пласціны. Ніжняя частка, змацаваная з верхняй з дапамогай заклёпак, складаецца з чатырох пласцін. Ніжэй ідуць два пласціністыя абручы, якія паміж сабой і ніжняй часткай змацаваны таксама заклёпкамі. У ніжнім абручы прыкметныя адтуліны для падвешвання барміцы. Падобны шлем з акруглым верхам выпадкова знойдзены ў Літве і па сваёй форме рэзка адрозніваецца ад іншых літоўскіх шлемаў (Волкайте-Куликаускене, 1965. С. 70—71). Рэдкай для тэрыторыі Беларусі знаходкай з'яўляецца скрабніца для чысткі коней. У яе двайны паўтрубчасты грэбень. Зверху да грэбеня прымацавана рагулька, канец якой забіваўся, відаць, у драўляную ручку. Аналагічныя скрабніцы знойдзены ў Ноўгарадзе і Бярэсці (Медведев, 1950. С. 190; Лысенко, 1985. С. 231).

Мясцовыя майстры займаліся апрацоўкай каляровых металаў. Знойдзена выробленая са шчыльнага вапняку формачка, што ўжывалася для адліўкі трох звёнаў ланцужка ў выглядзе васьмёрак. Сустрэты абломак створкавага бранзалета-наруча з псеўдаразным узорам. З каляровых металаў выраблены бранзалеты (плоскія і паўкруглыя ў сячэнні), падкападобная фібула з патоўшчанымі канцамі, манетападобная арнаментаваная прывеска, шчыток ад завушніцы ў форме паўмесяца. Адной з найбольш цікавых знаходак з'яўляецца добра захаваны збаночак прыгожай вытанчанай формы. Яго шыйка, тулава і прыдонцавая частка ўпрыгожаны чатырма паяскамі з дзвюх пар паралельных ліній. Гэта несумненна прывазная рэч.

Разам з сельскагаспадарчымі прыладамі (каса, серп, трапала, часала і інш.) знойдзены зярняты жыта, гароху, драбнаплоднага конскага бобу, проса, ільну). Сустрэліся костачкі вішні і слівы. Шмат жалудоў і лясных арэхаў. Многа касцей свойскай і дзікай жывёлы, касцей і лускі рыб.

Свойская жывёла складала 56,4 % ад агульнай колькасці асобін, дзікая — 43,6 %. Асноўнымі відамі свойскай жывёлы былі свінні і буйная рагатая жывёла (адпаведна — 35,8 і 33,8 % ад колькасці асобін свойскай жывёлы). Сярод паляўнічых звяроў найбольш шматлікія зубр, лось, дзік (адпаведна 21,4; 21,4; 24,1 % ад колькасці асобін дзікай жывёлы). Свойскія жывёліны былі невялікіх памераў (Щеглова, 1969. С. 202—206).

Пра гандлёвыя сувязі Слоніма з іншымі старажытнарускімі гарадамі і землямі, а таксама замежнымі краінамі сведчаць шыферныя праслiцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, чырвонагліняныя рыфлёныя амфары кіеўскага тыпу, белагліняны посуд з зялёнай і карычневай палівай, бурштын. Знойдзены абломак танкасценнай шкляной пасудзіны з залатым роспісам і надпісам на арабскай мове. Чытаюцца два словы: «Салім... вучоны» (Пех, 1966. С. 279). Фрагменты шкла з арабскімі надпісамі знойдзены ў Навагрудку, Кіеве і Мсціслаўі (Гуревич, Джанпoладян, Малевская, 1968. С. 13).

Раскопкі пераканаўча сведчаць, што ўжо ў другой палове XII ст. Слонім з'яўляўся багатым і добраўпарадкаваным горадам з шырокімі маставымі, добрымі дамамі з бярвення, высокай матэрыяльнай культурай, значнымі знешнімі сувязямі. Аднак пра час узнікнення горада да правядзення больш шырокіх даследаванняў нельга сказаць упэўнена. Пакуль можна лічыць высветленым, што ў канцы XI — пачатку XII ст. паселішча на слонімскім Замчышчы ўжо існавала.

## Турыйск

Сярод шырока распаўсюджаных у Беларусі і на сумежных тэрыторыях тапонімаў, утвораных ад слова «тур», ёсць два паселішчы, што ўпамінаюцца ў летапісах: Турыйск на р. Тур'я — правым прытоку Прыпяці і Турыйск на Нёмане. Турыйск на Тур'і ўпершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 1097 г. (ПСРЛ. Т. I. Стб. 268), Турыйск на Нёмане — больш чым на паўтара стагоддзя пазней, пад 1253 г. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 819). У другой палове XIII ст. у сувязі з барацьбой галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў з літоўскім князем Міндоўгам за панямонскія землі абодва Турыйскі ўпамінаюцца неаднаразова. Пры гэтым не заўсёды ясна, з якім з іх звязана тая ці іншая падзея. Упершыню месцазнаходжанне вывучаемага горада пададзена ў Іпацьеўскім летапісе пад 1276 г. У гэтым годзе галіцка-валынскія войскі занялі Слонім і «Тоурииськъ на реце Немне» і «села около него» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 874).

Гарадзішча старажытнага Турыйска захавалася на ўсходняй ускраіне в. Турэйск Шчучынскага раёна. Яно займае сярэдзіну ўзвышанай грады, выцягнутай уздоўж правага берага Нёмана. З поўдня і поўначы яго пляцоўка абмежавана крутымі схіламі, з захаду і ўсходу адрэзана ад працягу грады дугападобнымі равамі шырынёй 15—25 м, глыбінёй да 3,5 м. Памеры пляцоўкі прыкладна 60×80 м. Уезд знаходзіцца з паўночна-заходняга боку. Валы на паверхні не прасочваюцца.

Раскопкі Турыйска праводзіла К. Т. Кавальская ў 1961 г. (каля 100 кв. м) і 1962 г. (290 кв. м). У 1969—1970 гг. даследаванні працягваў Я. Г. Звяруга (два раскопы па 100 кв. м). Матэрыялы дазволілі пацвердзіць тоеснасць Турыйска на Нёмане з археалагічным помнікам




*Мал 84 Знаходкі з Турыйска 1, 10—14, 8 — накладка, 16, 17 — наканечнікі стрэл, 2 — кальцо, 3 — пятля, 4, 5 — пярсценкі, 6, 30 — ігральныя косці, 7, 9 — фібулы, 15 — наканечнік дроціка, 18, 27 — праслiцы, 19 — іголка, 20, 31 — шыпы, 21 — шпора, 22—26, 37 — ключы, 28 — дужка ад замка, 29 — замок, 32—34 — нажы, 35 — спражка, 36 — серп*

у Турэйску. З моманту свайго ўзнікнення гэта было не радавое сельскае паселішча, а невялікая крэпасць на паўночна-заходняй мяжы Русі. З цягам часу крэпасць ператварылася ў невялікі горад, які ўваходзіў, відаць, у склад Гродзенскага княства.

У выніку раскопак атрыманы даныя для характарыстыкі гаспадаркі горада, у тым ліку рамеснай вытворчасці. Асабліва развіццё атрымала жалезаробчае рамяство. Ва ўсіх пластах на ўсіх раскопаных участках гарадзішча ў вялікай колькасці знойдзены жалезныя шлакі, крыцы, абломкі гліняных соплаў, праз якія нагняталася паветра ў сырадутныя печы. Знойдзена шмат прадметаў з жалеза і сталі. Асаблівасцю турыйскай калекцыі жалезных вырабаў з'яўляецца наяўнасць у ёй значнай колькасці рэчаў з перакручанымі стрыжнямі (рыбалоўныя кручкі, гарпуны, шылы, скобы і інш.). Знойдзена каля 50 наканечнікаў стрэл, пераважна ўтулкавых.

Шэраг знаходак сведчыць пра развіццё ювелірнай вытворчасці, і перш за ўсё ліцейнай справы (выяўлены абломкі тыгляў, льячак). Знойдзена значная колькасць інструментаў для апрацоўкі дрэва (сякеры, долаты, стамескі, фігурныя разцы). Шмат нажоў, прабояў і іншага гаспадарчага інвентару.

Вісячыя замкі прадстаўлены двума тыпамі: з папярочнымі шчылінамі на корпусе (тып Б па ноўгарадскай класіфікацыі) і з лабірынтападобнай адтулінай на донцы цыліндра (тып Д). У Ноўгарадзе замкі першага тыпу былі ва ўжытку ў XII і XIII стст., другога — у другой палове XIV і большай частцы XV ст. (Колчин, 1959. С. 80—84). Усе крэсівы аднатыповыя — двухлязовыя авальныя з масіўным амаль квадратнага сячэння лязом. У Ноўгарадзе такія крэсівы ўвайшлі ва ўжытак у першай палове XIII ст. і на працягу наступных вякоў з'яўляліся адзінай масавай формай (Колчин, 1959. С. 101).

Знойдзены зярняты хлебных злакаў (пераважае азімае жыта), прылады для ўборкі ўраджаю, косці свойскай і дзікай жывёлы. Сярод рэшткаў свойскай жывёлы пераважаюць косці свінні (амаль палавіна касцей усёй свойскай жывёлы). Сярод рэшткаў дзікіх жывёлін — косці высакароднага аленя, казулі, дзіка, зубра, лася. Шмат касцей бабра. У цэлым для фауны старажытнага Турыйска характэрна перавага дзікай жывёлы над свойскай (адпаведна 65 і 35 %).

Аб'ектамі рыбалоўнага промыслу з'яўляліся звыш 10 відаў рыб (у тым ліку балтыйскі асетр і ласось, якія цяпер у Нёмане не сустракаюцца). Знойдзены рыбалоўныя снасці: гарпуны, восці, кручкі, грузілы для сетак.

Сярод прывазных вырабаў — шыферныя праслiцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, амфары, шкляны посуд, бурштын. Прывазнымі, відаць, былі і некаторыя ювелірныя вырабы (напрыклад, падковападобныя спражкі з патоўшчанымі канцамі).

Дрэнная захаванасць дрэва не дазволіла дакладна высветліць характар і канструкцыю жылых і гаспадарчых пабудоў. К. Т. Кавальская і Г. І. Пех дапускалі існаванне паўзямлянкавых жытлаў з печамі-каменкамі, часткова змацаванымі глінай (Ковальская, Пех, 1962). Я. Г. Зверугам ускрыты рэшткі наземных зрубавых дамоў, сцены якіх ляжалі на драўляных падстаўках («стулах»).

Час узнікнення паселішча ў Турэйску пакуль што можа быць вызначаны ў шырокіх храналагічных рамках — другая палова XI—XII ст. Яго матэрыяльная культура вельмі блізкая да культуры іншых гарадоў Панямоння і перш за ўсе Гродна.

* * *

Па звестках летапісу, сярод князёў, што загінулі на р. Калка ў 1223 г., быў Фёдар (Юрый) Нясвіжскі (НПЛ, 1950. Стб. 267). Пра месцазнаходжанне Нясвіжа ў літаратуры выказваюцца розныя меркаванні. Адны даследчыкі атаясампіваюць яго з горадам Нясвіжскім, размешчаным у басейне верхняй Волгі і Акі сярод «гарадоў залескіх» ці паміж Суздалем і Багалюбавым. Іншыя бачаць летапісны Нясвіж у валынскай вёсцы Нясвіч (за 20 км на паўднёвы захад ад Луцка). Ёсць і такія, хто стольным горадам князя Фёдара лічыць Нясвіж Мінскай вобласці на тэрыторыі Беларусі.

Паколькі шырокія работы ў Нясвіжы не праводзіліся, месцазнаходжанне першапачатковага ўмацаванага паселішча не высветлена. Магчыма, яно знаходзілася на высокім правым беразе р. Уша, дзе пазней быў пабудаваны спачатку драўляны, а потым каменны замак. Аднак нельга не ўлічваць і іншыя меркаванні.

Пад 1256 г. у Іпацьеўскім летапісе паведамляецца пра ўдзел Ізяслава Свіслацкага разам з іншымі чарнігаўскімі князямі ў паходзе на яцвягаў, арганізаваным Данілам і Васількам Раманавічамі (ПСРЛ. Т. II. Стб. 831). Рэшткі гэтага летапіснага горада таксама яшчэ трэба знайсці.

У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», змешчаным у Наўгародскім першым летапісе, сярод «літоўскіх» гарадоў ёсць два гарады, назвы якіх блізкія да тапонімаў і гідронімаў на правабярэжжы Нёмана. Гэта Астрэя і Вявераск. М. М. Ціхаміраў, які даследаваў «Спіс», змяшчаў Астрэю ў міжрэччы Ловаці і Вялікай. Вявераск адносіў да ліку гарадоў, месцазнаходжанне якіх высветліць не ўдалося (Тихомиров, 1952. С. 214—259).

З прапанаванай М. М. Ціхаміравым пакалізацыяй Астрэі не згодны В. В. Сядоў. Гэты горад ён атаясамлівае з Астрынскім гарадзішчам, размешчаным на адлегласці 1,5 км на паўднёвы ўсход ад пас. Астрына паблізу в. Кульбачына (Шчучынскі раён) на левым беразе р. Астрынка. Рэшткамі горада Вявераск В. В. Сядоў лічыць гарадзішча на ўскраіне в. Касцянёва (Шчучынскі раён). Паблізу працякае р. Ваверка (прыток Лебяды). У пачатку бягучага стагоддзя ў радыусе некалькіх кіламетраў ад гарадзішча было пяць тапонімаў, утвораных ад гэтага гідроніма. *Цяпер засталася толькі в. Вавёрка*, вядомая па пісьмовых дакументах з XVI ст. (Седов, 1974. С. 27—31).

## 4. ГАРАДЫ УСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**Пісьмовыя звесткі.** Згодна з археалагічнымі звесткамі, тэрыторыя Пасожжа з глыбокай старажытнасці была густа заселена. У канцы XI — пачатку XII ст. тут з'яўляюцца першыя гарады, хаця пісьмовыя крыніцы аб іх існаванні на гэтай тэрыторыі паведамляюць толькі з другой паловы XII ст. Некаторыя з гэтых гарадоў уваходзілі ў склад Смаленскага княства. Таму звесткі аб іх утрымліваюць граматы смаленскай епархіі, якія

захаваліся да нашага часу і складаюцца з чатырох самастойных дакументаў. З самага старажытнага па часе дакумента даведваемся, што ў другой палове XII ст. існавалі наступныя населеныя пункты: Копысь, Прапойск (Слаўгарад), Лучын (Шапов, 1970. С. 143), якія ўваходзілі ў той час у склад Смаленскага княства і тут пералічаны ў сувязі з прызначэннем колькасці падаткаў, што павінен быў выплочваць кожны з пералічаных населеных пунктаў.

Апошні дакумент комплексу — грамата «О погородье и почестье» — мае асабліва важнае значэнне ў сувязі з тым, што колькасць населеных пунктаў, якія плацілі падаткі смаленскаму епіскапству, у параўнанні з першым дакументам вырасла ўдвая. Л. В. Аляксееў аргументавана адносіць яго да 1211—1218 гг. (Алексеев, 1980. С. 24—25). Гэта датыроўка мае важнае значэнне, паколькі даказвае існаванне таго ці іншага населенага пункта ў гэты час і па памерах указанага ў ім падатку можам меркаваць аб значнасці кожнага з указаных у ім населеных пунктаў. Так, напрыклад, Мсціслаў, які ўпамянуты ў грамаце «О погородье и почестье», па памерах падаткаў прыроўнены да Драгабужа і Рослаўля, якія можна разглядаць як самыя буйныя цэнтры Смаленскай зямлі ў канцы другога дзесяцігоддзя XIII ст. У больш позніх пісьмовых крыніцах таксама ёсць звесткі аб Мсціславе. Так, у дакуменце XVI ст. Міхайлаўскага манастыра ў Кіеве ён упамінаецца пад 1135 г.

Працяглыя шматгадовыя археалагічныя раскопкі даюць магчымасць аднавіць разнабаковае і шматграннае жыццё старажытнага горада. Іншы раз археалагічнае вывучэнне дазваляе ўстанавіць, што той ці іншы горад быў заснаваны намнога раней таго часу, калі ён упамянуты ў пісьмовай крыніцы. Археалагічныя даследаванні дазволілі ўстанавіць, што ў XI—XII стст. апрача Мсціслава на тэрыторыі Падняпроўя і Пасожжа з'яўляюцца такія першыя гарадскія цэнтры, як Гомель, Крычаў, Чачэрск, Прапойск (Слаўгарад).

## Мсціслаў

Мсціслаў найбольш поўна і ўсебакова вывучаны Л. В. Аляксеевым, які займаўся яго вывучэннем з 1953 г. Гарадзішча старажытнага Мсціслава знаходзіцца на высокім правым беразе р. Віхра, правым прытоку Сажа. Пабудаваны ён быў паблізу важнага гандлёвага шляху па рацэ Сож, які ў XII ст. пасля заняпаду шляху «з варагаў у грэкі» набывае асноўнае гандлёвае значэнне. Мсціслаў, знаходзячыся на паўднёва-заходніх подступах да Смаленска, займае выгаднае геаграфічнае палажэнне. З цягам часу ён ператвараецца ў цэнтр Мсціслаўскага княства, якое ў 1180 г. атрымаў ва ўладанне князь Мсціслаў Раманавіч. У гэтым годзе ён становіцца смаленскім князем і далучае Мсціслаў да свайго Смаленскага княства. Нягледзячы на беднасць пісьмовых крыніц аб Мсціславе, вядома, што ў другой палове XII ст. Мсціслаў быў добра ўмацаваны. З другой паловы XIII ст. ён, як і іншыя гарады заходніх зямель Русі, быў уключаны ў склад Вялікага княства Літоўскага. За горад ішла працяглая барацьба паміж Руссю і Літвой і ён некалькі разоў пераходзіў з адных рук у другія. Прычынай гэтага з'ўлялася яго паме-




*Мал. 85. Мсціслаў. Насціл маставой XIII ст.; склеп канца XIII ст.*

жавае месцазнаходжанне. У 1564 г. замак Мсціслава канчаткова быў разбураны і спыніў сваё існаванне.

У сувязі з недахопам пісьмовых крыніц першараднае значэнне, асабліва па раннім этапе гісторыі Мсціслава, набываюць археалагічныя матэрыялы. Аднак спачатку трэба было выявіць гарадзішча старажытнага Мсціслава. Пры разбурэнні Мсціслаўскага замка былі знішчаны абарончыя гарадскія збудаванні. Пазней іх рэшткі былі выяўлены Л. В. Аляксеевым у ходзе археалагічных раскопак 1955—1985 гг. Ён устанавіў, што пляцоўка гарадзішча па перыметры была ўмацавана магутным земляным валам, вакол якога праходзілі глыбокія равы, запоўненыя вадой. Даследчык не беспадстаўна мяркуе, што абарончую сістэму дапаўняў пад'ёмны мост, што адыгрываў немалаважную ролю пры асадзе горада. Рэшткі вала ўдалося прасачыць у зямлі з паўднёва-ўсходняга боку горада. Істотным дапаўненнем да ўжо вядомых абарончых збудаванняў з'яўлялася ўскрытая брама, размешчаная з паўднёвага боку гарадзішча. З гэтага ж боку размяшчаўся гарадскі пасад, які вырас тут у больш позні час. Ён таксама, як і дзядзінец, быў умацаваны земляным валам, па верху якога праходзіла драўляная абарончая сцяна. Даследаваннямі ўстаноўлена, што горад разрастаўся ў паўднёвым накірунку.

У культурным пласце гарадзішча старажытнага Мсціслава добра захоўваецца дрэва і вырабы з яго. Гэта дазволіла больш поўна вывучыць яго планіроўку і забудову (мал. 85). Вулічная планіроўка Мсціслава, як і планіроўка іншых сярэдневяковых гарадоў, была надзвычай стабільнай. Аб гэтым яскрава сведчаць рэшткі ускрытай на гарадзішчы вулічнай маставой. Ад яе расчышчана сем ярусаў, што паслядоўна змянялі адзін другога на адным і тым жа месцы. Першы яе насціл, згодна з дэндрахраналагічнымі данымі, датаваны пачаткам 60-х гадоў XIII ст. Самы верхні і позні насціл адносіцца да сярэдзіны XIV ст. Дэндрахраналагічна датаваны бярвёны кожнага з насцілаў. Удалося вызначыць даты рубкі дрэў для кожнага яруса паасобку. Устаноўлена, што з часу рубкі дрэў для першага і другога насціла прайшло дзесяць гадоў (Аляксееў, 1971. С. 28). Час паміж нарыхтоўкай драўніны для збудавання другога і трэцяга насцілаў складае дванаццаць гадоў. Усе

сем насцілаў былі зроблены за сто гадоў. Неабходна, праўда, улічваць той факт, што іншы раз спіленае дрэва не адразу ішло на збудаванне насціла. Здаралася, як зафіксавана ў Мсціславе, на насціл маставой ішло ўжо выкарыстанае раней дрэва. Такія выпадкі зрэдку сустракаліся і ў іншых гарадах, але ў асноўным на пабудову вулічных маставых ішла новая і якасная драўніна. Старажытныя гарады Беларусі, размешчаныя ў лясной паласе Усходняй Еўропы, не адчувалі недахопу ў такім будаўнічым матэрыяле, якім з'яўляецца дрэва. Дрэва добрай захаванасці нярэдка выкарыстоўвалі ў другі раз для правядзення рамонту драўлянага насціла. Менавіта такі выпадак быў зафіксаваны ў Мсціславе, калі была выкарыстана для рамонту драўлянага насціла пара лаг ад старой маставой (Алексеев, 1976. С. 46). Датыроўкі вулічных насцілаў Мсціслава маюць вельмі важнае значэнне. Апрача будаўнічых комплексаў, якія можна датаваць адпаведна гэтых дат, можна ўстанавіць дакладныя даты існавання кожнага з насцілаў. Гэта немалаважна, паколькі вынікі даюць магчымасць па-новаму зірнуць і на санітарную культуру сярэдневяковага горада. У сувязі з тым, што паміж першым і другім, а таксама наступнымі насціламі праходзіў не год-два, а дзесяць і больш, ёсць падстава меркаваць, што праводзілася прыбіранне вулічных маставых. Калі б гэтага не было, новы насціл неабходна было б класці значна раней. Да гэтых вынікаў у археалогіі трывала існавала думка аб тым, што вулічныя маставыя ў сярэдневяковым горадзе ніколі не прыбіралі.

Вулічная планіроўка ў Мсціславе дае магчымасць меркаваць аб наяўнасці тут шчыльных двухбаковых частаколаў з бярвёнаў. Па той бок частаколаў стаялі драўляныя жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Дзякуючы добрай захаванасці дрэва ўдалося аднавіць планіроўку горада, у якім напрамку вуліцы былі падпарадкаваны накірунку абарончага вала. Адносна вала вуліцы ішлі пад прамым вуглом. Напрамак вуліц, што праходзілі перпендыкулярна апісаным вышэй, быў не строга паралельны валу, паколькі вуліцы знаходзяцца на адлегласці ад яго, дзе дапускаецца адступленне ад асноўнага правіла. З боку вуліцы знаходзіліся жылыя пабудовы, а гаспадарчыя збудаванні размяшчаліся з боку вала.

Па дэндрахраналагічнай датыроўцы ўдалося вызначыць, што самая старажытная мсціслаўская пабудова адносіцца да пачатку XIII ст. (1204 г.) (Алексеев, 1980. С. 170). Больш раннія пабудовы маюць дрэнную захаванасць і не прыгодны для дэндрахраналагічнага вывучэння. Разам з тым добра вядома, што першыя драўляныя пабудовы з'явіліся ў Мсціславе ў сярэдзіне XII ст.

Асаблівасцю Мсціслава з'яўляецца тое, што тут жыллёвыя пабудовы будавалі на вапнавай падушцы вышынёй 30—40 см. Апрача жытлаў гараджане мелі пабудовы гаспдарчага прызначэння: хлявы, сараі, клеці. Ускрыты склеп 2,9×2,9 м канца XIII ст. (1291 г.), які захаваўся на дзесяць вянцоў (мал. 85:2) (Аляксееў, 1971, С. 28). У XIII ст. у горадзе існавала сядзібная забудова (мал. 86). Выяўлена даволі сціплых памераў хата з прылягаючымі да яе гаспадарчымі пабудовамі. Гэта гарадская сядзіба мела свой двор і была адгароджана ад суседніх пабудоў частаколам. З усходняга боку сядзібы знаходзіўся ўезд з брамай (Алексеев, 1980. С. 173). Слядоў брамы не выяўлена, але аб гэтым можна меркаваць па аналогіі з іншымі гарадамі, у якіх сустрэта сядзібная забудова.




*Мал. 86. Рэчавы матэрыял з Мсціслава: 1 — крыж-энкалпіен; 2—4 — касцяныя накладкі калчана; 5 — мяшэчак з шоўку; 6 — качачка, 7 — яйка-пісанка; 8, 11 — тыглі; 9 — формачка для ліцця; 10 — фібула; 12 — крышка карчагі; 13 — дэталь з косці; 14 — збан чорналашчоны; 15 — пісала*

Брама размяшчалася з боку ўезда на сядзібу. Такое становішча зафіксавана ў Мінску і Пінску.

На самым высокім узгорку гарадзішча, дзе раней праходзіла вуліца, была ўскрыта драўляная вежа-данжон дыяметрам 14—15 м, якая мела восем вуглоў і абапіралася на моцную вапнавую падсыпку. Вапна знаходзілася ўнутры вежы, што захавалася на вышыню 1—1,5 м. Гэта унікальнае і пакуль што адзінае для ўсёй Усходняй Еўропы драўлянае абарончае збудаванне вежавага тыпу датавана XIV—XV стст. (Алексеев, Смирнова, Трусов, Зданович, 1985. С. 380). Пад вежай-данжонам, пабудаванай з яловых бярвёнаў, ускрыта дубовая пабудова сярэдзіны XIII ст., якая складалася з трохсценных зрубаў. Абодва збудаванні загінулі ў час пажару. Несумненна, яны мелі, кожная для свайго часу, важнае абарончае значэнне.

Пры даследаваннях Мсціслава атрыманы вялікі, значны і разнастайны матэрыял, які характарызуе матэрыяльную культуру яго насельніцтва. У культурным пласце Мсціслава добра захоўваюцца вырабы з матэрыялаў арганічнага паходжання. Знойдзены рэчы, якія маюць дакладна вызначаны перыяд існавання. Сярод такіх рэчаў неабходна назваць замкі, ключы, наканечнікі стрэл, крэсівы, прывескі, самшытавыя і касцяныя грабяні, керамічныя вырабы, пакрытыя палівай с металічным бляскам, і інш. Усе гэтыя знаходкі добра ўкладваюцца ў храналагічныя рамкі, распрацаваныя для наўгародскіх старажытнасцей. Апрача таго, удакладнены дэндрахраналічнай датыроўкай ярусаў і пластоў, у якіх яны знойдзены. Дзякуючы гэтаму вызначана пэўная датыроўка вулічных маставых, жыллёвых і гаспадарчых пабудоў, цэлых будаўнічых комплексаў і ўдакладнены датыроўкі асобных датуючых рэчаў.

Сярод керамічных рэчаў ёсць гаршкі, збаны, сярод якіх сустракаюцца і чорналашчоныя (мал. 86:14), плошкі. Да рэдкіх керамічных вырабаў можна аднесці крышкі карчаг, керамічную качку, пакрытую чорнай палівай з металічным бляскам і нанесеным па верху суцільным петлепадобным узорам (мал. 86:6), яйка-пісанку з такім жа чорным фонам і жоўтым роспісам (мал. 86:7). Яно распісана зеленавата-жоўтымі тоўстымі і хвалепадобнымі гарызантальнымі лініямі. Т. І. Макарава спецыяльна вывучае паліўную кераміку старажытнай Русі, па аналогіі з падобнымі рэчамі з іншых помнікаў датуе гэтыя рэчы канцом XI ст. (Макарова, 1972. С. 9—10). Пісанкі з Мсціслава Т. І. Макарава аднесла да другой групы ў сувязі з тым, што яны маюць металічны бляск і выразны і дасканалы роспіс. На сярэдневяковых помніках тэрыторыі Беларусі пісанкі сустракаюцца даволі рэдка. Апрача Мсціслава такая пісанка-бразготка знойдзена ў пласце XII ст. старажытнага Брэста (Лысенко, 1985. С. 384, мал. 254). У сувязі з тым, што ў старажытных гарадах тэрыторыі Беларусі гэтыя пісанкі знойдзены ў пластах XII ст., можна меркаваць, што трапілі яны сюды з тэрыторыі тых княстваў, якія, па меркаваннях Т. І. Макаравай, у XII ст. імкнуліся да самастойнасці і менавіта ў гэты час пачалі асвойваць складаную вытворчасць керамікі з палівай (Макарова, 1972. С. 10). Рэдка сярод керамічнага матэрыялу сярэдневяковых помнікаў сустракаюцца накрыўкі ад карчаг, але ў Мсціславе яны зафіксаваны (мал. 86:12). Сярод прадметаў з каменя звяртае на сябе ўвагу формачка, у якой адлівалі пустацелыя пацеркі з каляровага

металу (мал. 86:9). Бліжэйшыя аналогіі гэтым формачкам знойдзены ў старажытным Кіеве. Як у любым старажытным горадзе, дзе захоўваюцца прадметы арганічнага паходжання, у Мсціславе знойдзена шмат рэчаў з косці і рога лася. Усе яны мясцовай вытворчасці. Аб гэтым сведчаць знаходкі рога лася са слядамі апрацоўкі, сіметрычная дэталь з авальнымі выступамі і круглай адтулінай у цэнтры (мал. 87:13), грабяні з накладкамі і без іх, рукаяткі нажоў, іншы раз прыгожа арнаментаваныя. Сярод касцяных знаходак вылучаюцца шэсць пласцін-накладак для ўпрыгожання скуранога калчана, што знойдзены ў пласце XIII ст. Яны ўпрыгожаны высокамастацкай разьбой. Л. В. Аляксееў лічыць, што выкананы яны мясцовым майстрам. І гэты вывад не беспадстаўны. Акрамя мясцовых матываў майстар ведаў арнаментыку качэўнікаў і майстроў Заходняй Еўропы (Аляксееў, 1971. С. 19). Пласціны цалкам пакрыты арнаментам з пляцёнкі і ромбаў з крыжыкам у цэнтры ў выглядзе квадрацікаў з чатырох кропак, прачэрчаных прамымі лініямі па цэнтры (мал. 86:4). З іх вылучаецца накладка з выявай чалавека і двухгаловага звера (мал. 86:2). Каля кожнай яго галавы майстар намаляваў па чалавеку ў фрыгійскай шапачцы, верхняя частка якой ужо знаходзіцца ў пашчы звера. Пласціна-накладка з Мсціслава зроблена пад уплывам раманскага мастацтва мясцовым майстрам, які своеасабліва перадаў уплывовую раманскую тэматыку (Даркевич, 1966. С. 105). Гэта сведчыць аб высокім майстэрстве майстроў-кастарэзаў, якія валодалі не толькі мясцовым прыёмам, але і творча выкарыстоўвалі напрамкі і стылі, што панавалі ў той час у Еўропе.

Рэдкай з'яўляецца знаходка кавалкаў танкасценнага арабскага бакала з надпісам. Яна сведчыць аб шырокіх гандлёвых сувязях старажытнага горада. Знойдзены таксама ў Мсціславе вырабы з каляровых і каштоўных металаў — навершша посаха, магчыма, са срэбра (Алексеев, 1976. С. 47), нацельныя крыжыкі, свінцовая пломба, бронзавы званочак, скроневае кальцо ў паўтара звароту, прывескі з крыжам у цэнтры, луніца з крыжыкам, крыжы-энкалпіёны, пярсцёнкі, фібулы балцкага паходжання (мал. 86:10). Сярод знаходак пераважаюць крыжы-энкалпіёны. На адным з іх надпіс з просьбай да багародзіцы аб дапамозе. Надпіс зроблены ў люстраным адлюстраванні, дзякуючы чаму ўдалося ўстанавіць кіеўскае паходжанне, рэчы дзе была знойдзена формачка для адліўкі гэтага крыжа. Усе крыжы-энкалпіёны датаваны XII—XIII стст. Адзін такі крыж быў знойдзены ў мяшэчку з кітайскага шоўку ў пласце XIII ст. (мал. 86:1, 5). Гэтая знаходка сведчыць не толькі аб далёкіх гандлёвых сувязях Мсціслава, але і аб выдатных кансервуючых здольнасцях культурнага пласта старажытнага горада, які змог захаваць такую тонкую і далікатную тканіну, якой з'яўляецца кітайскі шоўк. У сувязі з гэтым знаходка набывае унікальны характар. Шоўк у эпоху сярэднявечча складанымі гандлёвымі шляхамі трапляў у еўрапейскія дзяржавы. Але пры археалагічных раскопках ён сустрэты ўпершыню. З тканін пры раскопках гарадоў знаходзяць шэрсць, лён і толькі адзін раз у Мінску быў знойдзены невялікі кавалак парчовай тканіны, якая значна таўсцейшая за кітайскі шоўк. Захаванасць шоўкавага мяшэчка ў Мсціславе тлумачыцца незвычайна спрыяльнымі ўмовамі, у якіх ён праляжаў амаль сем стагоддзяў.




*Мал. 87. Мсціспаў: 1 — берасцяная грамата; 2 — сланцавы круг з надпісам; 3 — сядзіба XIII ст.*

Аб культурным узроўні гараджан сведчаць знойдзеныя ў час раскопак касцяныя і драўляныя шахматныя фігуркі, бронзавае пісала (мал. 86:15), сланцавы круг з надпісам і грамата на бяросце. Берасцяная грамата, выяўленая пры археалагічных раскопках у Мсціславе, з'яўляецца першай для тэрыторыі Беларусі. Пры будаўнічых работах у Віцебску была знойдзена берасцяная грамата, у якой ішла гаворка аб набыцці зерня. Каштоўнасць віцебскай граматы ў навуковым сэнсе значна ніжэй, паколькі яна была знойдзена выпадкова. Мсціслаўская ж грамата набывае асаблівую каштоўнасць для ўсёй сярэдневяковай археалогіі Беларусі. Яе знайшлі на тэрыторыі сядзібы першай паловы XIII ст. Грамата знойдзена ў 1980 г., а ў 1979 г. на гэтай жа сядзібе быў выяўлены з ружовага сланцу круг дыяметрам 6,75 см (мал. 87:2). У цэнтры ён меў круглую адтуліну дыяметрам 2,5 см. На крузе надпіс з чатырох літар, якія не складваюцца ў слова,— НТАЖ.

Л. В. Аляксееў лічыць, што гэта была сядзіба князя або якога-небудзь даволі знакамітага феадала. Гэты вывад даследчык зрабіў на той падставе, што ў грамаце ідзе гаворка аб закупцы вельмі вялікай партыі пшаніцы, на цэлых чатыры з паловай грыўні (мал. 87:1). Памеры закупак становяцца зразумелымі пасля таго, як ён параўноўвае адзначаную ў грамаце суму з тымі, што належала заплаціць таму ці іншаму гораду,

прыведзенаму ў дакуменце, які адносіцца да гэтага часу («О погородье и почестье»). З дакумента вынікае, што смаленскі епіскап атрымліваў у год падатку з такіх гарадоў княства, як Мсціслаў, Копысь, па шэсць грыўняў (Аляксееў, 1982. С. 38). Пасля гэтага параўнання сума, указаная ў грамаце, становіцца зразумелай. У грамаце прыведзены памер закупкі зерня ў маштабах цэлага горада. Дадатным момантам з'яўляецца і тое, што грамата знойдзена ў некранутым пласце, што дазваляе Л. В. Аляксееву даць гэтаму важнейшаму дакументу першай паловы XIII ст. больш дакладную датыроўку. Улічваючы неўрадлівыя гады ў Мсціслаўе, якія былі ўстаноўлены па дэндрахраналагіных спілах, а таксама той факт, што знойдзена грамата была ніжэй маставой, датаванай 1249 г., даследчык прыйшоў да аргументаванага вываду, што грамата была напісана ў 1219—1220 гг. Менавіта гэтыя гады былі неўрадлівымі для Мсціслава, таму і спатрэбілася такая буйная закупка зерня (Аляксееў, 1982. С. 30). Значэнне гэтай граматы для сярэдневяковай гісторыі Беларусі цяжка пераацаніць.

У Мсціславе не выяўлена падмурка манументальнай пабудовы. Аднак шматлікія знаходкі плінфы, паліваных плітак, падлогі, кавалкаў ад звона і свінцовага даху сведчаць аб тым, што такія будынкі ў горадзе былі (Алексееў, 1982. С. 31). На фрэсцы XVIII ст., прысвечанай Успенскаму карміліцкаму касцёлу, выразна вылучаецца царква XII—XIII стст. (Ткачоў, Трусаў, 1992. С. 11).

Даследаванні Мсціслава выявілі таксама багаты рознабаковы матэрыял па больш позняму перыяду (XV—XVII стст.). Асаблівае значэнне набываюць матэрыялы, звязаныя з разбурэннем горада 22 чэрвеня 1654 г. У стратыграфіі культурнага пласта выразна вылучаецца гэтае напластаванне, што дазволіла дакладна датаваць знойдзеныя ў ім рэчы. У гэтым пласце XVII ст. расчышчаны хаты з багатымі кафельнымі печамі, каменныя і чугунныя ядры і інш. (Аляксееў, 1971. С. 27).

Вакольны горад старажытнага Мсціслава ў 1981—1985 гг. вывучаў А. А. Трусаў. Яго плошча ў XII—XIII стст. складала 4,5 га (Ткачоў, Трусаў, 1992. С. 14). Устаноўлена, што ён узнік і развіваўся разам з дзядзінцам. Тут, як і ў любым сярэдневяковым горадзе, былі развіты розныя рамёствы. Прадукцыя рамеснікаў паступала ў першую чаргу на тэрыторыю дзядзінца, дзе жыла гарадская знаць, і ўжо потым — у акаляючыя раёны сельскай акругі. У пластах XIV—XV стст. апрача звычайнай керамікі з лінейным і хвалістым арнаментам знойдзены гаршкападобная кафля, вырабы з жалеза (нажы, стрэлы). У пазнейшых пластах XVI—XVII стст. керамічныя вырабы былі больш разнастайнымі (гаршкі, міскі, талеркі, збаны, стопкі і іншы кухонны і сталовы посуд). Сустракаўся таксама і шкляны посуд. Вырабы з металу прадстаўлены замкамі, ключамі, нажамі, нажніцамі. Сустракаліся таксама манеты, якія дакладна датуюць пласт і яго знаходкі. Траплялiся падмуркі дамоў з цэглы.

Паблізу Мсціслава А. А. Трусавым вывучаўся Тупічэўскі манастыр XVII ст. Тут было знойдзена шмат тэракотавай кафлі XVI ст. з выявай Георгія Пераможца, якой на тэрыторыі Беларусі раней не знаходзілі.

Пасля шматгадовага вывучэння Мсціслава Л. В. Аляксееў прыйшоў да вываду, што горад быў пабудаваны князем Расціславам Мсціславічам, які назваў яго ў гонар свайго бацькі князя Мсціслава Уладзіміравіча Вялікага (Алексеев, 1980. С. 177).

## Гомель

Гомель (летапісны Гомье, Гомій) вядомы па пісьмовых крыніцах з 1142 г. у сувязі з барацьбой кіеўскіх і чарнігаўскіх князёў за ўладанне ім. Гэтую барацьбу выкарыстаў смаленскі князь Расціслаў Мсціславіч і, як паведамляе летапіс, «поиде на волость их и взя около Гомия волость их всю» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 311). Але чарнігаўскаму князю Ізяславу Давыдавічу ўдалося адабраць Гомель у Расціслава Мсціславіча і далучыць яго да свайго княства. Пасля гэтага горад на старонках летапіса з'яўляецца толькі праз семнаццаць гадоў — у 1158 г. Летапісец паведамляе, што ў выніку міжусобнай барацьбы чарнігаўскі князь Ізяслаў Давыдавіч, які ў гэты час займаў і кіеўскі прастол, вымушаны быў бегчы з Кіева і шукаць сабе больш спрыяльнае сховішча. Такім надзейным месцам, згодна з летапісам, стаў для яго Гомель. У летапісе на гэты конт напісана наступнае: «и побегоша на Вышеград, в Гомью и ту дождав княгини» (ПСРЛ. Т. II. Стб. 502). З другога летапіснага ўпамінання Гомеля становіцца вядома, што горад у гэты час не толькі існаваў, але і быў добра ўмацаваны, менавіта таму князь знайшоў у ім надзейнае сховішча. Такім чынам, у канцы 50-х гадоў XII ст. Гомель меў моцныя абарончыя збудаванні. Аб гэтым сведчаць і пісьмовыя крыніцы. Не супярэчаць гэтаму і вынікі археалагічных даследаванняў.

Першыя археалагічныя раскопкі былі праведзены ў Гомелі І. Х. Юшчанкам у 1926 г. Ім былі выяўлены пласты X—XII стст. Больш маштабныя раскопкі Гомеля ў 1975 г. былі праведзены М. А. Ткачовым. На правым беразе р. Сож, пры ўпадзенні ў яе ручая Гамяюка, ім былі выяўлены сляды неўмацаванага паселішча XI ст. Было ўстаноўлена, што заселены быў не толькі дзядзінец, але і значная частка вакольнага горада. Вывучаўшы абарончыя збудаванні, М. А. Ткачоў прыйшоў да высновы, што і равы былі тут узведзены толькі ў XII ст. Гэта добра адпавядала летапісным звесткам. Але з 1986 г. Гомельскі краязнаўчы музей пад кіраўніцтвам А. А. Макушнікава распачаў археалагічныя раскопкі Гомеля. Абследаваннем было ўстаноўлена, што агульная плошча старажытнага Гомеля складала 45—50 га (Макушников, 1994. С. 36). У XII—XIII стст. плошча горада мела значныя памеры і займала не толькі тэрыторыю сучаснага парка імя А. В. Луначарскага, але і распаўсюджвалася на тэрыторыю суседніх вуліц. Раскопкі праводзіліся ў цэнтры пасада, на левым беразе р. Гамяюк. Культурны пласт складаў тут ад 0,6 да 1 м і толькі ў асобных месцах даходзіў да 2 м. Плошча дзядзінца была даволі значнай (1,4 га), але шчыльнасць яго заселенасці была невялікай. Пасад быў умацаваны і развіваўся разам з дзядзінцам. Спачатку ён узнік на левым беразе р. Гамеюка, а потым з цягам часу і ростам перамясціўся на яго правы бераг. Дзядзінец ад пасада быў адзелены ровам шырынёй 20—25 м, глыбінёй 8 м.

Дрэва і іншыя прадметы арганічнага паходжання захоўваюцца ў культурным пласце вельмі дрэнна, таму аб гарадской забудове можна меркаваць толькі па спаленых пабудовах, а таксама па захаваўшыхся ямках і развалах печаў. Былі вывучаны тры заглыбленыя ў зямлю жытлы. Першае з іх датавана X—XI стст., другое — XI—XII стст. Трэцяе жытло ўяўляе асаблівы інтарэс. Яно было заглыблена ў зямлю на 1,1—

1,2 м і мела прамавугольную форму з даўжынёй сцяны 3,7 м. Жытло загінула ў пажары. Сцены жытла мелі даўжыню 3,7 м і зроблены былі з брусоў, замацаваных у пазах вертыкальна пастаўленых па вуглах чатырох слупоў. Жытло мела дзверы, падлогу з дошак, драўлянае, запоўненае зверху зямлёй перакрыццё, якое рухнула ў час пажару. Злева ад увахода размяшчалася глінабітная печ акруглай формы. У пабудове знойдзены чатыры цыліндрычныя замкі, тры ганчарныя гаршкі, шмат шкляных бранзалетаў. У размешчанай паблізу яме авальнай формы апрача керамікі XII—XIII стст. выяўлена многа кавалкаў такіх жа шкляных бранзалетаў, паўфабрыкатаў і бракованых вырабаў са шкла, кавалачкі шкла і аплаўленай шкляной масы. Выяўленыя знаходкі сведчаць аб тым, што гэта не звычайная жыллёвая пабудова, а майстэрня па вырабу шкляных упрыгожанняў. Мяркуючы па знаходках, пабудова датуецца XII — пачаткам XIII ст. Гэтая майстэрня па вытворчасці шкляных вырабаў з'яўляецца першай на тэрыторыі Беларусі. Праўда, спецыялістамі па вывучэнні шкляных бранзалетаў устаноўлена, што буйныя гарадскія цэнтры ў XII—XIII стст. мелі свае майстэрні па вытворчасці такіх упрыгожанняў. Свае майстэрні былі ў Полацку, Віцебску, Мінску, Навагрудку, Гродне, Оршы, Вішчыне (Яніцкая, 1980. С. 122; Скрипченко, 1985. С. 144). Аб мясцовым вырабе шкляных бранзалетаў у гэтых населеных пунктах паявілася магчымасць гаварыць толькі пасля дэтапёвага вывучэння калекцый шкляных бранзалетаў, выяўленых на гэтых помніках. Аднак першая майстэрня па вырабу шкляных бранзалетаў выяўлена ў Гомелі. У гэтай пабудове знойдзены і звычайныя побытавыя рэчы (гаршкі, замкі, зерне), якія сведчаць аб тым, што майстар тут не толькі працаваў, але і жыў. Гэта з'яўляецца характэрным для падобных майстэрань, якія працавалі ў XI—XIII стст. у гарадах.

На мацерыку былі расчышчаны рэшткі драўляных вымастак дрэннай захаванасці. Зверху знойдзены кавалкі кругавой керамікі X — XI стст. У гэтым пласце выяўлены рэшткі паўзямлянкавай пабудовы X—XI стст. Яна мела чатырохвугольную форму і печ-каменку ў куце. Апрача таго, ускрыта таксама частка паўзямлянкі і прамавугольнай формы XI—XII стст. Важным з'яўляецца адкрыццё ў Гомелі сядзібы XI ст., якая складалася з некалькіх жыллёвых і гаспадарчых пабудоў (Макушников, 1994. С. 34). Такім чынам, мяркуючы па атрыманых матэрыялах, характар пабудоў у Гомелі пачынаючы з X ст. і ў перыяд XI—XII стст. не меняўся. Усе ўскрытыя пабудовы, як больш раннія (X ст.), так і познія (XI—XII стст.), з'яўляліся паўзямлянкамі, якія былі заглыблены ў зямлю на 1,1—1,2 м. Паўзямлянкі сустракаюцца ў гэты час і ў іншых гарадах (Гродна, Ваўкавыск). Але тут разам з паўзямлянкавымі жытламі ёсць і зрубныя наземныя жытлы, якія складаюць у названых гарадах большасць. У Гомелі наземных зрубных пабудоў не знойдзена. Паўзямлянкавы тып пабудоў быў характэрны не толькі для ранняга славянскага пасёлка, стаяўшага калісьці на месцы будучага горада, але і для самога горада XI—XIII стст. Несумненна, паўзямлянкавы тып жытлаў насельніцтва на Сажы пераняло ў сваіх бліжэйшых паўднёвых суседзяў, дзе яны з'явіліся намнога раней і бытавалі доўгі час.

Яшчэ ў 1975 г. М. А. Ткачовым было ўстаноўлена, што пасад вырас і развіваўся разам з дзядзінцам. Раскопкі 1986 г. А. А. Макушнікава

пацвердзілі правільнасць гэтага вываду. На мацерыку пасада ім былі знойдзены пахаванне з трупаспаленнем і кавалкі керамікі трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Апрача керамікі X—XI стст. тут знойдзена пацерка-лімонка X—XI стст. Гэтыя знаходкі сведчаць аб тым, што жыццё на пасадзе зарадзілася у той час, калі разрастаўся славянскі пасёлак, які ў канчатковым выпадку ператварыўся ў горад.

З прадметаў, характэрных для матэрыяльнай культуры горада, у Гомелі знойдзена вялікая колькасць ганчарных гаршкоў, ключы, замкі, якія па наўгародскай храналогіі датуюцца XII—XIV стст., нажы, шылы, ранняе авальнай формы крэсіва, шпоры, наканечнікі стрэл, наканечнік коп'я, шкляныя бранзалеты, бронзавыя пярсцёнкі і бранзалеты, шкляныя і каменныя пацеркі, ювелірныя пінцэты, крыж-энкалпіён (XII ст.), сланцавыя праслiцы.

Асабліва трэба адзначыць адкрыццё ў 1987 г. у Гомелі майстэрні па вырабу зброі (Макушников, 1994. С. 44—46). Яна загінула ў пажары ў час мангола-татарскага нашэсця. На падлозе майстэрні было знойдзена больш за 1500 адзінак прадметаў, сярод якіх дванаццаць перакрыжаванняў, чатыры навершшы мячоў і шабляў, вельмі рэдкая знаходка — жалезны наруч — рыштунак цяжкаўзброенага ратніка, шмат кавалкаў палотнаў ад кальчугі, пласціны ад баявых пласцінкавых панцыраў.

Адкрыццё такой адзінай майстэрні па вырабу зброі ў дамангольскі час у Гомелі дазволіць спецыялістам дэталёва разабрацца ў спосабах і метадах вырабу зброі ў той далёкі час. Гэты незвычайны скарб не толькі розных відаў зброі, але і інструментаў, якімі карыстаўся майстар, істотна дапоўніць нашы веды па пытаннях вырабу зброі наступальнага і абарончага характару.

Жылі ў старажытным Гомелі таксама і майстры па апрацоўцы скуры і вырабу з яе абутку і адзення.

Знойдзеныя ў Гомелі ў час раскопак розныя прадметы сведчаць аб развіцці ў горадзе разнастайных рамёстваў. Большасць выяўленых рэчаў была зроблена мясцовымі майстрамі.

У позніх пластах, якія адносяцца да XVII—XVIII стст., знойдзены рэшткі спаленай наземнай пабудовы і склепа. У пластах XIV—XV стст. вельмі мала знаходак. Але і тут выяўлены развал печы ад наземнай пабудовы. У яе запаўненні знойдзены рэчы (кераміка, шпора, наканечнік стралы), якія даюць магчымасць надзейна датаваць гэтую пабудову.

Знаходак XVII—XVIII стст. намнога больш. Сярод іх гліняны і шкляны посуд, гліняныя цацкі, аконнае шкло, рэшткі скуранога абутку, цэгла-пальчатка і іншыя звычайныя для горада XVII—XVIII стст. знаходкі, якія датаваны А. А. Макушнікавым пры дапамозе манет Расіі, Рэчы Паспалітай, Швецыі (Макушников, 1986).

Археалагічныя даследаванні выявілі, што на тэрыторыі будучага старажытнага Гомеля спачатку знаходзілася умацаванае парканам паселішча мілаградскай культуры. У VIII—X стст. тут быў умацаваны славянскі пасёлак, які паступова развіваўся і ў X—XI стст. Гомель не толькі існаваў, але і складаўся з умацаваных дзядзінца і вакольнага горада агульнай плошчай каля 4 га. Археалагічныя матэрыялы даюць падставу лічыць, што Гомель узнік як племянны цэнтр радзімічаў і з цягам часу

ператварыўся ў рамесніцка-гандлёвы цэнтр Ніжняга Пасожжа. Па агульнай умацаванай плошчы Гомель э самага пачатку намнога перабольшваў плошчы не толькі іншых гарадоў Пасожжа, але і другіх старажытных гарадоў Беларусі. Разам з гарадзішчам развіваўся ўмацаваны пасад, жыццё на якім пачалося ў X—XI стст. У XI ст. разам з ім пачаў расці вакольны горад. У XII ст. абарончыя збудаванні былі перабудаваны і ў сувязі з неабходнасцю ўзмоцнены. Матэрыялы сведчаць, што перад тым, як Гомель трапіў на старонкі летапісу, ён існаваў як горад на працягу больш двух стагоддзяў.

Гомель размешчаны на ажыўленай гандлёвай воднай магістралі, якая праходзіла па р. Сож. Значэнне гэтага гандлёвага шляху ўзрасло ў XII ст. у сувязі з заняпадам у гэты час шляху «з вараг у грэкі». Гандлёвы шлях па Сажы кантраляваўся смаленскім князем. Таму першае летапіснае ўпамінанне горада ў летапісе пад 1142 г. звязана з умяшаннем смаленскага князя Расціслава Мсціславіча, які не мог спакойна назіраць за барацьбой чарнігаўскага і кіеўскага князёў за ўладанне Гомелем.

Такім чынам, Гомель, які вырас на тэрыторыі радзімічаў, з самага пачатку свайго ўзнікнення адыграваў важную ролю ў гандлі паміж шырокімі тэрыторыямі старажытнай Русі. Назва горада Гомеля хутчэй за ўсё паходзіць ад р. Гамяюк, на берагах якога і вырас старажытны Гомель.

Матэрыялы даследаванняў дазваляюць вызначыць ролю горада ў гандлёвых сувязях з суседнімі і больш аддаленнымі тэрыторыямі. Знаходкі скарбаў на гэтай тэрыторыі пераконваюць у тым, што яшчэ да з'яўлення тут гарадоў праз гэту тэрыторыю праходзілі гандлёвыя шляхі. З цягам часу іх роля ўзрастала і найвышэйшага росквіту яны дасягнулі ў XII ст. Аб значэнні гандлю ў жыцці мясцовага насельніцтва сведчаць знаходкі тут манетных скарбаў IX—X стст. Самы багаты скарб на тэрыторыі Пасожжа знойдзены ў наш час каля в. Глыбоцкае Гомельскага раёна, які налічваў некалькі тысяч саманідскіх дырхемаў X ст., бронзавую фібулу, каралі. Скарбы дырхемаў X ст. знаходзілі на Пасожжы ў 20-я і 50-я гады. Гэтыя факты сведчаць аб тым, што гандлёвыя сувязі з арабскім усходам насельніцтва Пасожжа ўстанавіла яшчэ ў IX—X стст., а магчыма, і раней. У XII ст. кола гэтых сувязяў пашыраецца. Аб гандлёвых сувязях Гомеля з больш блізкімі тэрыторыямі гавораць сланцавыя праслііцы, прывезеныя з Валыні, крыж-энкалпіён і іншыя прадметы культу з Кіева. Але самым пераканаўчым фактам аб сувязях з Кіевам з'яўляецца знаходка скарбу сямі жаночых упрыгожанняў — шыйных сярэбраных грыўняў (Литвинов, Макушников, Дробушевский, 1987. С. 263—266), выяўленых на левабярэжжы Дняпра ў Буда-Кашалёўскім раёне (пасёлак Козі Рог). Па аналогіях знаходку можна датаваць канцом XI — пачаткам XII ст. Скарб знойдзены выпадкова пры апрацоўцы поля ў 1980 г. Гэтыя каштоўныя рэчы выяўлены далёка ад гарадскіх цэнтраў, але хутчэй за ўсё спачатку яны паступалі ў гарадскія цэнтры, і перш за ўсё ў Гомель.

Матэрыялы даследаванняў старажытнага Гомеля пераканаўча сведчаць, што ў старажытнарускі перыяд ён быў значным і галоўным рамесніцкім, гандлёвым і племянным цэнтрам на Пасожжы.

## Магілёў

Магілёў мападзейшы за старажытныя гарады Бепарусі. Упамінанне аб ім у позніх мясцовых крыніцах адносіцца да 1267 г. Там напісана, што замак быў пабудаваны на гарадзішчы Вап, які з цягам часу і стаў цэнтрам горада (Чарняўская, 1970. С. 21—22). У 1984 г. М. А. Ткачовым бып праведзены археалагічныя раскопкі на тэрыторыі замка. Даследчык прыйшоў да высновы, што Магілёў на гэтым месцы быў пабудаваны не раней XVI ст. Драўляны замак быў узведзены на гпінянай падушцы вышынёй да аднаго метра. Даспедаванні выявілі, што замак быў умацаваны магутным земляным вапам вышынёй да пяці метраў, шырынёй 15—16 м. З нутранога боку вал быў пакрыты абпапенай гпінай. Бопьш ранніх ппастоў на тэрыторыі замка не зафіксавана.

У 1979 г. А. А. Трусаў у цэнтры Магілёва (Трусаў, Чарняўскі, Кукуня, 1983. С. 67—76) пад гарадской ратушай выявіў пласты XV ст. Згодна са знаходкамі, атрымпіваецца, што замак быў пабудаваны ў той час, калі на тэрыторыі будучага гістарычнага цэнтра жыццё працягвалася ўжо цэлае стагоддзе. Пад ратушай, у ппасце XV ст., была расчышчана вупічная драўляная маставая, знойдзены прадметы матэрыяпьнай культуры XV ст. У 1980—1981 гг. І. М. Чарняўскі праводзіў вывучэнне Мікопьскага манастыра XVII ст., дзе знойдзены гпіняны посуд (гаршкі, міскі, збаны), кафля паліўная з распінным арнаментам. Апрача таго, ім праводзілася вывучэнне грамадзянскай архітэктуры Магіпёва XVIII ст. Ускрыты будынкі з цэгпы-папьчаткі (Чернявский, 1981; Ён жа, 1982).

Топькі ў 1988 г. удапося выявіць культурны пласт старажытнага Магіпёва. Ён быў зафіксаваны на замчышчы пры ўпадзенні р. Дубровенка ў Днепр І. А. Марзалюком і на падставе археалагічнага матэрыяпу датаваны XII—XIII стст. У ім быпі знойдзены рэчы самага рознага прызначэння (Марзалюк, 1998. С. 13). Сабрана значная калекцыя керамікі XII—XIII стст., сярод якой сустракаюцца фрагменты гаршкоў, на донцах якіх стаіць кпяймо ганчара (Марзалюк, 1998. С. 209, мал. 25,1). Сярод зброі трэба назваць наканечнікі стрэп, кісцень. Знойдзены разнастайныя ювелірныя ўпрыгожанні, а таксама шкляныя бранзалеты і пацеркі. Даспедчык выказаў думку, што на замчышчы ў Магіпёве ў гэты час жыло 200 чалавек (Марзалюк, 1998. С. 96). Гэтыя матэрыяпы маюць важнае значэнне дпя пачатковай гісторыі Магіпёва.

## Чачэрск

Чачэрск, упершыню ўпамянуты ў петапісе пад 1159 г., размешчаны на правым беразе р. Сож. У летапісе ідзе гаворка аб тым, што горад у той час напежаў кіеўскаму князю, які вяртае яго чарнігаўскаму князю Святаспаву Давыдавічу (ПСРЛ. Т. II. Стб. 498). Калі праз дзевяць гадоў (1168 г.) Чачэрск зноў трапляе на старонкі петапіса, ён яшчэ знаходзіцца ў складзе чарнігаўскага княства (ПСРЛ. Т. II. Стб. 528). Нязначныя петапісныя звесткі аб Чачэрску дапоўнілі матэрыяпы археалагічных раскопак. Археолагі пачалі вывучаць горад яшчэ ў 20-х гадах. У 1928 г. першыя археалагічныя даспедаванні Чачэрска правялі А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі. У 1975—1976 гг. раскопкі тут праводзіў М. А. Ткачоў, у 1981 г.— У. У. Багамопьнікаў, у 1982 г.— І. М. Чарняўскі.

У выніку даследаванняў устаноўлена, што старажытны Чачэрск размяшчаўся на правым беразе р. Чачэра і складаўся з дэядэінца авальнай формы плошчай 1 га і вакольнага горада, плошча якога складала 2 га. Пляцоўка дзядзінца была ўмацавана земляным валам вышынёй 5 м і шырынёй 20 м, глыбокім і даволі шырокім ровам. Вывучаючы абарончыя збудаванні, М. А. Ткачоў прыйшоў да высновы, што вал з напольнага паўднёва-заходняга боку быў пабудаваны яшчэ ў X ст. (Ткачев, 1975. С. 427). Вакольны горад, які прымыкаў да дзядзінца, таксама быў умацаваны валам і ровам. Таўшчыня культурнага пласта на дзядзінцы дасягае 4 м. Горадам Чачэрск становіцца з XI ст., калі вакол дзядзінца з'яўляецца пасад.

Сярод знаходак у Чачэрску трэба выдзеліць бронзавы круглы абразок-змеявік. З аднаго боку — выява Багародзіцы-Знаменне, на зваротнай — клубок змей. Абразок датаваны XIII ст. (Чернявский, 1981; Ён жа, 1982. С. 363). Падобныя абразкі ў якасці пад'ёмнага матэрыялу былі знойдзены ў Заслаўі і Ваўкавыску. Пры археалагічных раскопках падобны абразок быў выяўлены толькі ў Брэсце ў пласце XIII ст. (Лысенко, 1985. С. 267—270, рис. 184).

Спецыяліст па дробнай пластыцы Т. В. Нікалаева лічыць, што Брэсцкі абразок быў зроблены ў Ноўгарадзе. Па аналогіі можна лічыць, што абразок з Чачэрска таксама быў выраблены наўгародскімі майстрамі. Частай знаходкай у Чачэрску з'яўляюцца шкляныя бранзалеты. Іх калекцыя налічвае больш за 300 кавалкаў. Трапляліся ў Чачэрску і шкляныя пацеркі. Іншыя знаходкі даюць падставу лічыць, што ў Чачэрску былі развіты разнастайныя рамёствы, і ў першую чаргу такія, як кавальскае, ганчарнае, ювелірнае. З прылад сельскай гаспадаркі тут знойдзены два сашнікі, серп, косы-гарбушы, якія яскрава сведчаць аб занятках гараджан горада адначасова з рамяством сельскай гаспадаркай. Гэта звычайная з'ява любога сярэдневяковага горада.

## Слаўгарад

Слаўгарад (Пропошеск, Прупой) вядомы з пісьмовых крыніц з першай паловы XII ст. У грамаце смаленскага князя Расціслава ўказана, што гэты горад павінен быў плаціць «полюдье» ў памеры 10 грыўняў. Зыходзячы з таго, што ў гэтым жа дакуменце ўпамінаецца Копысь (плаціў 4 грыўні «полюдья»), Прупой быў больш значным горадам. Ён займаў тэрыторыю 95×40 м на правым абрывістым беразе р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Проня. Гандлёвы шлях на Сажу кантраляваў смаленскі князь, а Слаўгарад быў апошнім горадам Смаленскай зямлі на Сажы перад Чарнігаўскім княствам, таму на яго долю прыходзілася вялікая гандлёвая нагрузка. Разам з тым выгаднае геаграфічнае знаходжанне спрыяла яго хуткаму развіццю і росту. Ён, як Гомель і Чачэрск, вырас на зямлі радзімічаў і з'яўляўся адным са старажытных гарадоў Пасожжа. На гарадзішчы старажытнага Прупоя праводзілі раскопкі Г. В. Штыхаў у 1967 г., М. А. Ткачоў — у 1975 г. (Ткачев, 1975; Ён жа, 1976. С. 427—428). Нягледзячы на тое што на дзядзінцы ўскрыта не намнога больш за 100 кв. м, вынікі атрыманы даволі значныя. На гэтым месцы існавала ў X—XI стст. паселішча, абнесенае драўляным частаколам. З цягам часу

паселішча ўмацоўваецца больш значнымі і трывалымі абарончымі збудаваннямі і ператвараецца ў XII ст. у горад, а частакол быў заменены значных памераў земляным валам з рубленымі драўлянымі сценамі па перыметры. Перад валам быў выкапаны глыбокі і шырокі роў. Культурны пласт на гарадзішчы складае 0,4—0,2 м. Пацвярджэннем таго, што менавіта з XII ст. Прупой становіцца горадам, з'яўляецца ўзнікненне з гэтага часу пасада з яго паўночнага боку. У XIV ст. вакольны горад настолькі разрастаецца, што з заходняга боку пераходзіць за абарончы роў.

Сярод звычайных гарадскіх знаходак сустракаюцца такія, якія даюць канкрэтную датыроўку. У ніжніх пластах знойдзена пацерка-лімонка, якую можна датаваць канцом XI — пачаткам XII ст. Сярод звычайных шкляных бранзалетаў асаблівую каштоўнасць выклікае шкляны бранзалет чырвонага колеру, які мог быць прывезены ў Прупой, верагодней за ўсё, з Візантыі. Бранзалеты чырвонага колеру з'яўляюцца на тэрыторыі Беларусі вялікай рэдкасцю. Акрамя ўпрыгожанняў са шкла ў Прупоі знойдзены жаночыя ўпрыгожанні з каляровых металаў (бранзалеты, лунніца).

Такім чынам, Прупой у XII ст. быў хаця і невялікім, але важным горадам на тэрыторыі радзімічаў і адыгрываў важную ролю ў ажыццяўленні рознага роду сувязяў смаленскага княства з паўднёвымі тэрыторыямі.

## Крычаў

Крычаў (Кречют), як і іншыя гарады Пасожжа, стаў вядомы з устаўной граматы смаленскага князя Расціслава Мсціславіча (1136 г.). Горад павінен быў, як і Прупой, плаціць 10 грыўняў падатку. Ён размешчаны на правым беразе р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Крычаўка. У горадзе два старажытныя гарадзішчы (Гарадзец, або Спасская гара, і Замкавая гара), якія знаходзяцца адзін ад другога на адлегласці ў 3 км. У 1967 г. Г. В. Штыхаў заклаў два шурфы на Замкавай гары. У 1976 г. М. А. Ткачоў праводзіў раскопкі на абодвух помніках. На Замкавай гары ім было ўскрыта 360 кв. м плошчы пры таўшчыні культурнага пласта 1,2—3,5 м. На гарадзішчы Гарадзец было вывучана 44 кв. м плошчы і зроблена прарэзка вала. У выніку раскопак М. А. Ткачоў устанавіў, што да XI ст. цэнтр горада быў на гарадзішчы Гарадзец, а з указанага часу ён быў перанесены на тэрыторыю Замкавай гары. Абодва гарадзішчы ўмацаваны валамі і равамі. Плошча гарадзішча на Замкавай гары складала трохі больш за 0,5 га. Мяркуючы па памерах, можна гаварыць, што і пасля перанясення цэнтра горада на новае месца Крычаў працягваў заставацца параўнальна невялікім горадам на Сажы. З паўднёва-ўсходняга боку да гарадзішча прымыкаў рамесніцкі пасад. На тэрыторыі гарадзішча Замкавая гара М. А. Ткачовым выяўлены рэшткі драўляных пабудоў, керамічны посуд, замкі, ключы, шпоры, наканечнікі коп'яў і іншыя характэрныя для старажытнага горада рэчы.

Атрыманыя пры раскопках матэрыялы сведчаць аб тым, што Крычаў з'явіўся значна раней таго часу, калі ён трапіў на старонкі пісьмовых крыніц. Нягледзячы на тое што дакладныя памеры гарадзішча Гарадзец цяжка ўстанавіць з-за яго моцнай пашкоджанасці, нават праведзенае яго вывучэнне ўпэўнівае нас у тым, што пачатак Крычава можна аднесці да XI ст.

## Брагін

Брагін (Брягін) упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1147 г. (ПСРЛ. Т. II. Стб. 311). Згодна з летапісным паведамленнем, у гэтым годзе чарнігаўскія князі «воеваша Брягін». Гэты паход на Брагін яны зрабілі ў адказ на разбурэнні чарнігаўскіх гарадоў кіўескім князем, якому ў XII ст. належаў Брагін. Праз 40 гадоў, у 1187 г., Брагін быў атрыманы ў падарунак нявесткай ад кіеўскага князя Рурыка Расціспавіча.

Кароткія летапісныя звесткі дапаўняюць археалагічныя матэрыялы. У 1977 г. М. А. Ткачоў ускрыў у Брагіне 40 кв. м. Было ўстаноўлена дакладнае месцазнаходжанне гарадзішча старажытнага Брагіна, якое размяшчалася на правым беразе Брагінкі, ад якой і атрымаў горад сваю назву. Гарадзішча мела прамавугольную форму агульнай плошчай трохі больш за 0,6 га і было ўмацавана земляным валам шырынёй у падножжа каля 10 м, вышынёй — 5—6 м. Згодна з атрыманым матэрыялам, устаноўлена, што гарадзішча было ўмацавана валам у XI ст., але ў XII—XIII стст. яго вышыню павялічвалі не менш трох разоў. Тлумачыцца гэта несумненна тым, што ў гэты перыяд рэзка ўзрасла неабходнасць у абароне горада. Зафіксаваныя сляды спаленых драўляных пабудоў, якія знаходзіліся па перыметры вала, і яшчэ сляды двух пажараў з'яўляюцца прамым доказам гэтага. Перад валам выяўлены сляды драўлянага частаколу, які з'яўляўся дапаўняльнай абарончай сістэмай. Апрача штучных абарончых умацаванняў гарадзішча мела і прыродныя перашкоды ў выглядзе балот, якія акружалі гарадзішча з розных бакоў. Так, з паўднёвага і ўсходняга бакоў яно было акружана балоцістай поймай Брагінкі і руслам яе левага рукава. З паўднёвага боку — таксама балота. Гэтыя балоты стваралі непрыступную перашкоду для любога наступаючага на горад войска. З усходняга боку да гарадзішча прымыкаў рамесніцкі пасад — Загараддзе. Знойдзеная адначасовая насыпанню абарончага вала кераміка XI ст. сведчыць аб тым, што жыццё на гарадзішчы і абарончыя збудаванні з'явіліся адначасова і намнога раней першага ўпамінання Брагіна ў летапісе. Гэта дае падставы аднесці ўзнікненне Брагіна да XI ст. У XII—XIII стст. жыццё на гарадзішчы працягвалася. Знойдзена кераміка белага і чырвонага колераў гэтага часу, якая хутчэй за ўсё была прывезена з Кіева. Апрача керамікі выяўлены рознакаляровыя шкляныя бранзалеты, прасліцы, касцяны грэбень, наканечнік стралы і іншыя гарадскія рэчы.

## Рэчыца

Рэчыца па пісьмовых крыніцах вядома з 1213 г. (Густынскі летапіс). У 1214 г. гэты населены пункт належаў чарнігаўскім князям і прыведзены ў наўгародскім летапісе ў сувязі з заваяваннем горада наўгародскім князем Мсціславам. Гарадзішча старажытнай Рэчыцы мае авальную форму і знаходзіцца на правым карэнным беразе Дняпра пры ўпадзенні ў яго р. Рэчыца. Гарадзішча мела авальную форму і нязначную плошчу — за 0,5 га, а плошча пасада складала некалькі гектараў. Трэба меркаваць, што плошча гарадзішча раней была большай, але з цягам

часу зменшылася, паколькі значная яго частка была размыта ў час паводкі. З заходняга і паўночнага бакоў яно было ўмацавана ровам шырынёй 35—37 м і глыбінёй да 9 м. Земляны вал захаваўся толькі з заходняга боку. Несумненна, ён быў і з астатніх бакоў і разам з ровам складаў адзіную абарончую сістэму. Прарэзка вала дала магчымасць устанавіць, што ён меў вышыню 10—12 м і шырыню 5 м. З заходняга боку ад гарадзішча быў размешчаны гандлёва-рамесніцкі пасад і гандлёвы цэнтр. Спачатку пасад не меў абарончых збудаванняў, але пазней, у XIII ст., ён мог быць умацаваны. Рэчыца як горад з'явілася, згодна з археалагічнымі даследаваннямі, не пазней другой паловы XII ст. (Макушников, 1991. С. 47) і была пабудавана на месцы паселішчаў жалезнага веку. На пасадзе Рэчыцы было вывучана 1100 кв. м плошчы. На думку А. А. Макушнікава, горад, які належаў чарнігаўскаму княству, здзяйсняў ваенна-адміністрацыйны кантроль над водным шляхам па Дняпру ад вытокаў Бярэзіны да вытокаў Сажа (Макушников, 1991. С. 47). Археалагічнае вывучэнне пасада Рэчыцы дало магчымасць паставіць пытанне аб тым, што пасад меў плошчу, якая складала некалькі гектараў. Гэты факт дае падставу лічыць Рэчыцу горадам ужо з другой паловы XII ст. Пры раскопках былі ўскрыты заглыбленыя падклецці жыллёвых пабудоў, гаспадарчыя ямкі. На пасадзе выяўлена сядзібная планіроўка. Сведчаннем гэтага з'яўляюцца ямкі ад агароджы некалькіх сядзіб.

Насельніцтва займалася гандлем, рознымі рамёствамі і сельскай гаспадаркай. У горадзе былі вядомы жалезаапрацоўчае і кавальскае рамёствы. Знойдзены кавалкі жалезнай балотнай руды і жалезныя шлакі. Такія прадметы, як наканечнікі стрэл, нажы, косы, сведчаць аб развіцці мясцовага кавальскага рамяства. У наступныя стагоддзі гэтыя рамёствы былі традыцыйнымі ў гэтым горадзе. У горадзе жылі ганчары, якія выраблялі керамічныя вырабы (Макушников, 1990. С. 47). Ёсць падставы лічыць, што ў XII—XIII стст. Рэчыца мела сваіх ювеліраў. Знойдзены бронзавыя ўпрыгожанні, жалезная шыйная грыўня, хаця апошняя не мясцовага паходжання. Яна выяўлена ў ямцы на мацерыку, датавана X—XI стст. і адносіцца да таго часу, калі Рэчыца яшчэ не мела гарадскога статуса. Выяўленыя тут шкляныя бранзалеты, пацеркі і шыферныя праслíцы хутчэй за ўсё трапілі ў Рэчыцу гандлёвымі шляхамі. Аб занятках сельскай гаспадаркай гараджан сведчаць знаходкі кос, жорнаў. Археалагічнае вывучэнне Рэчыцы дазволіла ўстанавіць, што горад узнік на некалькі дзесяткаў гадоў раней, чым трапіў на старонкі летапісаў.

Гаворачы аб гарадах тэрыторыі Пасожжа, неабходна адзначыць, што агульны ўзровень іх вывучэння пакуль яўна не дастатковы. Тым не менш праведзеныя раскопкі гэтых гарадоў ужо зараз праліваюць святло на многія бакі іх разнастайнага жыцця.

Ужо зараз можна меркаваць, менавіта па археалагічных матэрыялах, што і радзімічы, як і дрыгавічы з цэнтрам у Тураве або крывічы — у Полацку, таксама мелі свой родаплемянны цэнтр — Гомель.

Раздзел 4

# ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ ГАРАДОЎ IX—XIII стст.

У час раскопак гарадзішчаў старажытных гарадоў у культурным пласце выяўляецца вялікая колькасць розных прадметаў, што з'яўляецца вынікам і сведчаннем гаспадарчай дзейнасці чалавека. Гэта рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў, абарончых збудаванняў і добраўпарадкавання гарадоў і сядзіб, прадметаў штодзённага ўжытку мясцовага вырабу і імпартнага паходжання.

Культурны пласт гарадзішчаў розных гарадоў мае неаднолькавую насычанасць прадметамі матэрыяльнай культуры. Галоўнай прычынай гэтага з'яўляецца розная інтэнсіўнасць жыцця ў старажытным горадзе. У буйным старажытным горадзе яна была значна вышэй, чым у аддаленым невялікім перыферыйным гарадку. Адпаведна гэтаму ў культурны пласт больш буйнога горада трапляла большая колькасць прадметаў, што былі звычайнай згубай іх гаспадарамі або наўмысна выкінуты з-за паломкі, зносу ці недабраякаснага выканання ў час вытворчасці — браку.

Другая важнейшая прычына рознай насычанасці культурнага пласта знаходкамі — розныя ўласцівасці да захавання трапіўшых у яго прадметаў. У сухі культурны пласт лёгка пранікае атмасфернае паветра і адбываецца хуткі працэс акіслення (тлення) прадметаў, што ў ім знаходзяцца. Да такіх гарадзішчаў адносяцца рэшткі старажытных Навагрудка, Ваўкавыска, Мазыра, Гомеля, Крычава, Прапойска.

У вільготным культурным пласце, у якім да таго ж маюцца добрыя гідраізаляючыя праслокі (гліна, гной) пранікненне атмасфернага кіслароду адбываецца цяжэй, і таму прадметы і знаходкі маюць значна лепшыя ўмовы для захавання. Да такіх гарадзішчаў адносяцца рэшткі старажытных Бярэсця, Пінска, Гродна, Слоніма, Мінска, Мсціслава, Слуцка, Давыд-Гарадка, Друцка, Полацка, Віцебска. Яны, як правіла, добра захоўваюць рэшткі пабудоў і прадметы з розных матэрыялаў — металаў, косці, шкла, скуры, дрэва і нават тканіны.

Прадметы матэрыяльнай культуры, што захоўваюцца ў культурным пласце і выяўляюцца ў час археалагічных даследаванняў, маюць выключна важнае значэнне для аднаўлення ведаў аб знешнім выглядзе старажытных гарадоў, іх тапаграфіі, пларіроўцы, забудове, гаспадарцы, эканамічным і культурным узроўні развіцця. Гэта менавіта тыя бакі жыцця старажытнага насельніцтва Беларусі, што не адлюстраваны ў пісьмовых крыніцах, і таму выяўлены археалагічны матэрыял набывае

значэнне адзінай крыніцы ведаў па многіх пытаннях гісторыі насельніцтва Беларусі ў IX—XIII стст. Выяўленыя матэрыялы сведчаць аб высокім узроўні развіцця вытворчых сіл і тэхналогіі вытворчасці розных вырабаў, аб уваходзе беларускіх зямель у адзінае кола ўсходнеславянскай матэрыяльнай культуры, вытворчых і культурных сувязях з суседзямі і аддаленымі краінамі.

У раздзеле разглядаюцца пытанні грамадзянскага дойлідства на тэрыторыях сучаснай Беларусі, розныя катэгорыі прадметаў пастаяннага ўжытку і тэхналогія іх вытворчасці, гандлёвыя і культурныя сувязі з іншымі землямі і праявы культурнага развіцця.

Характэрнай рысай матэрыяльнай культуры з'яўляецца масавае грамадзянскае будаўніцтва. Матэрыялы для яго вывучэння выяўлены ў тых гарадзішчах старажытных пабудоў, што добра захоўваюць рэшткі жылых і гаспадарчых гарадоў (Бярэсце, Пінск, Давыд-Гарадок, Гродна, Слонім, Мінск, Друцк, Мсціслаў, Полацк, Віцебск). Звычайна ў культурным пласце захоўваюцца ніжнія 2—3 вянцы пабудоў, але вядомы і унікальныя выпадкі, калі пабудова захоўваецца на 10—12 вянцоў (Бярэсце).

На падставе вывучэння рэшткаў выяўленых пабудоў можна сцвярджаць, што тыповым для Беларусі ў XI—XIII стст. было наземнае аднапавярховае аднакамернае жыллё зрубнай канструкцыі з дашчанай падлогай і дашчаным двухсхільным дахам на свалоках і «курыцах», бярвеньчатым франтонам, з глінабітнай (пазней — цэглавай) печкай справа ад уваходу. Такое жыллё характэрна для лясной зоны Усходняй Еўропы. Паўзямлянкі, тыповыя для стэпавай і лесастэпавай зоны Усходняй Еўропы, на тэрыторыі Беларусі сустракаюцца ў выключных выпадках. Звычайна жылыя пабудовы мелі квадратную форму і невялікія памеры (3,6×3,6 м; 4×4 м). Жыллё памерам у 5×5 м лічылася ўжо вялікім і сустракалася рэдка.

Гаспадарчыя пабудовы мелі такую ж зрубную канструкцыю, але меншых памераў.

Жылыя і гаспадарчыя пабудовы звычайна ўтваралі сядзібу (гаспадарчы двор), што абносілася агароджай. Памеры сядзібы былі адносна невялікія — 220—240 кв. м (Мінск). Але вядомы выпадкі забудовы, калі не было сядзібнай планіроўкі (Бярэсце, Давыд-Гарадок, Гродна).

Парадак забудовы вызначала вулічная планіроўка. Вуліцы, міжвулічныя праезды і гаспадарчыя двары звычайна высцілалі дашчаным насцілам.

Будаўнічыя прыёмы і традыцыі знаходзяць шматлікія аналогіі ў грамадскім будаўніцтве гарадоў Усходняй Еўропы.

Умовы паўсядзённага жыцця старажытных гарадоў Беларусі, узровень вытворчага эканамічнага і культурнага развіцця гаспадаркі і заняткаў насельніцтва яскрава характарызуе разнастайны рэчавы матэрыял, сабраны ў час археалагічных даследаванняў. Найбольш важную частку ў ім займаюць прылады працы і інструменты, з дапамогай якіх выраблююцца астатнія прадметы паўсядзённага ўжытку.

У першую чаргу трэба адзначыць інструменты жалезаапрацоўчага рамяства (кавальскі молат, клешчы, зубілы, прабойнікі), з дапамогай

якога выраблялі астатнія прылады працы і прадметы штодзённага ўжытку. У раскопах сабрана разнастайная калекцыя інструментаў для апрацоўкі дрэва (сякеры, пілы, долаты, свердзелы, скоблі, стругі, разцы).

Вялікую групу знаходак складаюць сельскагаспадарчыя і прамысловыя прылады. У Бярзсці знойдзена прамаградзільнае рала, у Віцебску — дэталі сахі, зрэдку знаходзяць сашнікі і наральнікі, драўляныя рыдлёўкі і акоўкі для іх, матыкі. Вялікую групу знаходак складаюць прылады ўборкі ўраджаю — сярпы, косы, вілы, граблі і прылады апрацоўкі ўраджаю — жорны, ступы, масляны жом (прэс), льнамялкі, льнотрапалы.

З прадметаў штодзённага ўжытку часта сустракаюцца нажы, нажніцы, крэсівы, цыліндрычныя вісячыя замкі, запіраючыя дужкі ад іх і ключы.

Часта сустракаюцца розныя прадметы ўзбраення — наканечнікі стрэл і коп'яў, булаваў, кісцянёў, перакрыжаванні мячоў і шабляў, прадметы засцерагальнага ўзбраення (кальчуг, панцыраў), у Слоніме знойдзены жалезны шлем з наноснікам, часта знаходзяць шпоры, страмёны, цуглі.

Вялікую групу складаюць жаночыя ўпрыгожанні (колты, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, прывескі), прыналежнасці аддзення (спражкі, фібулы, шпількі, гузікі).

Сярод знаходак сустракаюцца прадметы рэлігійнага культу — крыжы-складні (энкалпіёны), нацельныя крыжыкі, каменныя і металічныя іконкі, амулеты-засцерагальнікі (змеевікі), дэталі хораса, кадзільніцы, лыжачка для прычашчэння.

Адна з самых распаўсюджаных знаходак — абломкі шкляных бранзалетаў, што былі шырока распаўсюджаны ў XII—XIII стст., шкляныя пацеркі, фрагменты шклянога посуду і аконнага шкла. Часта сустракаюцца розныя касцяныя вырабы — грабяні, накладкі, рукаяці, праколкі, муфтачкі, гузікі, лыжкі, падшыпнікі, іголкі, вухавёрткі, косці для гульні, шахматныя фігуры.

З каменя выраблялі жорны, брускі, крыжыкі нацельныя, пацеркі. Часта сустракаюцца рэшткі вырабаў са скуры — абутак (туфлі, поршні, боты), ножны, кашалькі, мячы.

Вялікую групу складаюць розныя драўляныя вырабы — прадметы штодзённага ўжытку (лыжкі, верацёны), бандарныя вырабы, прылады землеапрацоўкі (рала, рыдлёўкі) і апрацоўкі ўраджаю, шавецкія калодкі, часткі розных транспартных сродкаў, дэталі ткацкіх станкоў, сталовы посуд (каўшы, чарпакі, лыжкі).

Самай частай знаходкай з'яўляюцца абломкі глінянага посуду — кухоннага і сталовага, мясцовай вытворчасці і прывазнога.

Кароткі пералік знаходак з культурнага пласта характарызуе паўсядзённае жыццё старажытных гарадоў як вельмі развітае. Мясцовыя жыхары з магчымай паўнатой выкарыстоўвалі ў жыцці і вытворчасці ўсе даступныя для іх матэрыялы навакольнага асяроддзя, дасягнуўшы ў іх апрацоўцы высокага ўзроўню. Знешні выгляд знойдзеных прадметаў адпавядае такім жа прадметам з іншых усходнеславянскіх гарадоў.

Гэта сведчыць аб іх прыналежнасці да аднаго кола ўсходнеславянскай матэрыяльнай культуры.

Аб высокім узроўні развіцця рамеснай вытворчасці ў старадўніх гарадах Беларусі сведчыць высокі ўзровень тэхналогіі вырабу рэчаў з розных матэрыялаў. У першую чаргу гэта тычыцца вырабаў з чорных металаў, з якіх выраблялі інструменты і прылады працы, а таксама высакаякасныя вырабы штодзённага ўжытку. На тэрыторыі Беларусі існавала самастойная вытворчасць жалеза так званым домнічным спосабам з мясцовых балотных, азёрных ці дзярновых руд. Атрыманыя крыцы паступалі да гарадскіх кавалёў, якія выраблялі розныя рэчы — простай альбо складанай кавальскай і слясарнай апрацоўкай. Гарадскія кавалі навуглероджваннем жалеза атрымлівалі сталь, умелі наварваць на жалезную аснову стальное лязо (нажы, нажніцы, сярпы, сякеры, косы, спружынныя замкі, прадметы ўзбраення і інш.), валодалі прыёмамі кузнечнай зваркі, пайкі, палуды і г. д. Гэта забяспечвала вырабам неабходныя высокія якасці.

Мясцовыя ювеліры валодалі прыёмамі ліцця, чаканкі, інкрустацыі. Гэта надавала высокамастацкі выгляд ювелірным вырабам. Многія касцяныя вырабы ўпрыгожаны арнаментам і разьбой. Скураныя вырабы (туфлі) вышывалі ўзорамі з каляровых нітак. З каменя рабілі жорны, выразалі абразкі хрысціянскіх святых, крыжыкі і ліцейныя формачкі. Знаходкі высакаякасных высокамастацкіх вырабаў сведчаць аб высокім узроўні развіцця рамёстваў, у якім мясцовыя рамеснікі не адставалі ад сваіх калег з суседніх краін. Сваімі вырабамі мясцовыя рамеснікі поўнасцю забяспечвалі патрэбы мясцовага насельніцтва ў прыладах працы і прадметах штодзённага ўжытку.

Развіццё феадалізму і рост феадальнай праслойкі павялічвалі ўжыванне прадметаў павышанага мастацкага ўзроўню. Задавальненне гэтай патрэбы ў значнай ступені адбывалася за лік гандлю з краінамі, у якіх існавала іх больш развітая вытворчасць. Амаль поўнасцю патрэба ў шкляных вырабах (бранзалеты, пацеркі, посуд, аконнае шкло) задавальнялася гандлем з Кіевам, дзе існавала развітая шкларобчая вытворчасць. Амаль усе вырабы хрысціянскага культу з'яўляюцца імпартнымі (панікадзілы, лампады, званы, крыжыкі-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, абразкі). З Валыні паступалі шыферныя праслíцы, з Прычарнамор'я — амфары з віном і алеем, з Прыбалтыкі — бурштын. Аб развітых гандлёвых сувязях з суседнімі краінамі сведчаць знаходкі свінцовых таварных пломбачак (Бярэсце, Драгічын, Полацк, Віцебск, Мінск). Аднак трэба ўлічваць, што частка замежных вырабаў трапляла ў гарады не толькі ў выніку гандлёвых сувязей. Магчыма, трафеямі былі асобныя прадметы ваеннага ўзбраення і іншыя вырабы.

Сведчаннем развіцця гандлю і феадалізацыі грамадства з'яўляюцца манетныя і манетна-рэчавыя скарбы на тэрыторыі Беларусі, што паходзяць з IX—XIII стст. У іх ліку срэбныя арабскія манеты, заходнееўрапейскія срэбныя манеты, розныя вырабы з каштоўных металаў. Яны шырока распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, аднак больш засяроджаны на водных гандлёвых шляхах.

## 1. ЖЫЛЛЁ І ГАСПАДАРЧЫЯ ПАБУДОВЫ

**Грамадзянскае дойлідства.** У пісьмовых крыніцах адсутнічаюць звесткі аб планіроўцы і забудове старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі. Таму аб іх знешнім выглядзе, элементах планіроўкі, забудовы, добраўпарадкаванні на падставе летапісу можна меркаваць толькі па адлюстраванні ў ім хоць некаторых асобных архітэктурных элементаў, уласцівых найбольш буйным старажытнарускім гарадам і добра вядомых летапісцу.

У пісьмовых крыніцах неаднаразова згадваюцца драўляныя абарончыя збудаванні і асобныя іх элементы («прясла стен», «забаролы», «ворота»), а таксама метад іх узвядзення («срубы город») (ПСРЛ. Т. ІІ.). Вядома так званая канчанская структура буйных гарадоў, пры якой горад падзяляўся на асобныя буйныя раёны — канцы (у Ноўгарадзе — Славенскі, Людзін, Плотніцкі, у Кіеве — Копыраў, Падол). У летапісах згадваюцца назвы асобных вуліц Ноўгарада Вялікага (Казьмадзям'янская, Вялікая, Слаўная), што дазволілі гаварыць аб вулічнай планіроўцы старажытнарускіх гарадоў, згадваюцца назвы цэркваў, манастыроў, княжацкага і баярскіх двароў, што сведчыць аб дваровай забудове горада. З назваў, што адносяцца да жылых і гаспадарчых збудаванняў, згадваюцца «изба», «сени», «гридница», «поруб» (ПСРЛ. Т. ІІ).

Аднак гэтых летапісных упамінанняў, вядома, недастаткова, каб уявіць у поўным выглядзе і ў дэталях забудову старажытнарускага горада, тым больш недастаткова, каб уявіць хаця б знешні выгляд таго ці іншага канкрэтнага горада. Асабліва гэта датычыцца той большасці невялікіх і сярэдніх старажытных гарадоў, звесткі аб якіх абмежаваны, бадай, толькі назвамі ў сувязі з пэўнымі палітычнымі падзеямі.

Пашырыць і ўдакладніць гэтыя звесткі — прызначэнне і задача археалагічнай навукі. Таму зразумела, што асноўнай крыніцай звестак пра дойлідства старажытнай Русі варта прызнаць матэрыялы археалагічных даследаванняў гарадзішчаў — рэшткаў старажытных гарадоў.

Вывучэнне гарадоў было пачата ў канцы 20-х гадоў XX ст. (Ноўгарад, Кіеў, Чарнігаў) і асабліва шырока разгарнулася ў пасляваенны перыяд (Древняя Русь: Город, замок, село. 1985). У ходзе даследаванняў былі выяўлены сотні жылых пабудоў у розных старажытных гарадах. Па канструкцыйнаму збудаванню яны адносяцца да двух асноўных тыпаў — паўзямлянкі (жыллё, заглыбленае ў зямлю) і наземныя збудаванні зрубнай канструкцыі. Тып жылля вызначаўся прыродна-кліматычнымі ўмовамі рэгіёна. Таму паўзямлянка характэрна, як правіла, для стэпавай і лесастэпавай зоны рассялення ўсходнеславянскіх плямёнаў, у той час як зрубнае жыллё распаўсюджана ў асноўным у лясной зоне (Раппопорт, 1975). Іншы раз гэта агульная заканамернасць парушалася, што тлумачыцца захаваннем будаўнічых традыцый насельніцтвам, а таксама своеасаблівасцю ўмоў асобных участкаў горада, на якіх выяўлены астаткі пабудоў.

**Археалагічныя крыніцы.** Жылыя і гаспадарчыя пабудовы раннефеадальнага перыяду ўскрываюцца пры даследаванні старажытных гарадоў. За тэрмін іх існавання ўтварыўся магутны (4—9 м) культурны пласт, які валодае кансервуючымі ўласцівасцямі і садзейнічае захаванню прад-

метаў і вырабаў з матэрыялаў арганічнага паходжання. У першую чаргу гэта адносіцца да збудаванняў масавай грамадзянскай архітэктуры, жыллёвых і гаспадарчых пабудоў і элементаў гарадскога добраўпарадкавання, для якіх выкарыстоўвалася ў асноўным дрэва. Пры гэтым трэба ўлічваць, што драўляныя пабудовы захоўваюцца толькі ў тых гарадах, у якіх культурны пласт утрымлівае дастаткова аб'ёмныя трывалыя гідраізалюючыя і кансервуючыя пласты (гліна, гной), што перашкаджаюць пранікненню атмасфернага кіслароду, пад уплывам якога адбываецца паступовае акісленне (распад) прадметаў з арганічных і неарганічных матэрыялаў. Астаткі драўлянай жылой і гаспадарчай забудовы захоўваюцца таксама ў мясцовасці з высокім узроўнем грунтавых вод, якія перашкаджаюць пранікненню атмасфернага кіслароду.

На тэрыторыі Беларусі драўляная забудова захоўваецца ў Гродне, Давыд-Гарадку, Мінску, Полацку, Віцебску, Пінску, Тураве, Бярэсці, Слоніме, Слуцку, Заслаўлі. Гэта менш адной трэцяй часткі ад агульнай колькасці яе раннефеадальных гарадоў. Астаткі жылых памяшканняў своеасаблівай канструкцыі, так званых паўзямлянак, выяўлены ў Ваўкавыску, Гомелі.

**Першыя даследаванні.** Жылыя і гаспадарчыя пабудовы раннефеадальнага часу на тэрыторыі Беларусі ўпершыню былі выяўлены пры археалагічных работах яшчэ ў даваенны час.

На Замкавай гары ў **Гродне** пры зняцці верхняга пласта для ўмацавання ім схілу гары, падмытай вясенняй паводкай Нёмана, ў 1933—1934 гг. неаднаразова ўскрывалі рэшткі старажытных зрубных драўляных пабудоў. Работы 1931—1934 гг. не фіксавалі ўскрытых збудаванняў у апісаннях, чарцяжах і фатаздымках (Воронин, 1954. С. 19). Работы 1937—1939 гг. добра зафіксавалі выяўленыя пабудовы. Даследчыкамі апісаны 22 пабудовы, падзеленыя на 12 «слоев дерева» (Воронин, 1954. С. 23). Значная частка матэрыялаў і дакументацыі загінула ў гады вайны, дэпашпартызавана вялікая колькасць прадметаў матэрыяльнай культуры, знойдзеных пры раскопках.

У 1937—1939 гг. Р. Якімовічам праводзіліся раскопкі на гарадзішчы старажытнага **Давыд-Гарадка**, у час якіх былі ўскрыты рэшткі драўляных жылых і гаспадарчых пабудоў, двухкамерная драўляная царква са зрубаў рознай велічыні, вулічныя маставыя, дваровыя насцілы, пахаванні ў дубовых калодах (Jakimoviz, 1939). Раскопкамі была ўскрыта значная плошча, на якой пры вельмі шчыльнай забудове размяшчалася па 12 адначасова існаваўшых жылых і гаспадарчых пабудоў, вулічныя маставыя і дваровыя насцілы (Jakimoviz, 1939).

Даследаванне гарадзішча старажытнага Давыд-Гарадка было працягнута ў 1967 г. П. Ф. Лысенкам. У раскопе плошчай 112 кв. м ускрыты рэшткі 15 пабудоў, расчлянёных на 6 будаўнічых ярусаў, у склад якіх уваходзяць жылыя і гаспадарчыя пабудовы, дваровыя насцілы, штыкетнікі. 3 шасці будаўнічых ярусаў чатыры адносяцца да дамангольскага часу, самы старажытны з іх датуецца дэндрахраналагічным метадам пачаткам 60-х гадоў XII ст. 3 15 выяўленых пабудоў 5 былі жылымі і 7 гаспадарчымі. Усе пабудовы былі наземнымі, аднакамернымі, зрубнай канструкцыі. Усе рубленыя ў «верхнее обло с остатком», ушчыльня-

ліся мохам. Іншы раз пад вуглы падкладалі падкладкі з тоўстых плах або бярвёнаў.

Жылыя пабудовы мелі памеры ад 2,7×2,7 да 4,8×4,8 м. Падлога ў жылых памяшканнях была з колатых дошак, печы — глінабітныя. Сярод выяўленых пабудоў не было ніводнай для ўтрымання жывёлы. Двары высцілалі насціламі з дошак і агароджвалі штыкетнікамі. Шчыльнасць забудовы была даволі высокай, але нераўнамернай у часе. У ніжніх, г. зн. у больш ранніх, будаўнічых ярусах ускрыта па адной пабудове, у наступных — па тры, а ў другім ярусе — нават чатыры пабудовы. Забудова вызначаецца стабільнасцю, у паўднёвай частцы раскопу на адным і тым жа месцы змяняюцца пяць пабудоў, паўночная — таксама стабільна забудавана жылымі пабудовамі.

**Мінск.** У пасляваенныя гады інтэнсіўна разгарнуліся археалагічныя даследаванні старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі. З 1945 па 1951 г. В. Р. Тарасенка праводзіў значныя раскопкі старажытнага Мінска. На гарадзішчы «ля зліцця Нямігі з Свіслаччу, у раскопе плошчай 560 кв. м» (Тарасенко, 1957. С. 199) былі выяўлены 22 пабудовы, большасць з якіх былі жылымі, мелі падлогі глінабітныя і з дошак і паўсферычныя печы з камянёў, змацаваных глінай. Зрубы пабудоў, як правіла, захаваліся на 1—2 ніжнія вянцы (Тарасенко, 1957. С. 214—215).

Найбольш раннія пабудовы, выяўленыя ў больш глыбокіх пластах, мелі слупавую канструкцыю, пры якой у вертыкальныя пазы ўкапаных слупоў гарызантальна закладвалі дошкі, плахі або бярвёны са счасанымі на клін канцамі. Асноўная маса пабудоў рублена з тоўстых бярвёнаў хвойных парод «в обло с остатком», і толькі адна пабудова XIV ст.— «в лапу». Пабудовы былі аднакамернымі, і толькі адна з іх мела акрамя асноўнага памяшкання яшчэ і сенцы. У якасці фундаментаў выкарыстоўвалі кароткія слупы-стулы або буйныя камяні. Часам пабудовы ставілі прама на зямлю або заглыблялі. Печы ў пабудовах былі з камянёў або глінабітныя, падлога — глінабітная (у ранняй пабудове) або з дошак (з XII ст.). Сярод пабудоў вызначаны дом ганчара памерам 4×4 кв. м, гарбарная майстэрня, дзе было выяўлена шмат абрэзкаў выпрабленай скуры, жылыя пабудовы, хлеў для ўтрымання дробнай рагатай жывёлы.

Планіроўкаа забудовы была стабільнай, вулічныя маставыя змяняліся адна за другой да 4 разоў, а пабудовы — да 3 разоў.

Адзначаны рост шчыльнасці пабудовы горада. У пласце XI ст. ускрыта 6 пабудоў, у пластах XII—XIII стст.— 9 (сумесна), у пласце XIV ст.— 8 пабудоў.

Выяўленыя вулічныя маставыя мелі «галінкавую» планіроўку, г. зн. ад галоўнай вуліцы адыходзілі пад вуглом завулкі ў двух напрамках. Шырыня галоўнай вуліцы, якая ішла з поўдня на поўнач, была каля 3—3,5 м, шырыня завулкаў — каля 2 м. Насцілы вулічных маставых рабілі часцей за ўсё з колатых плах (радзей — з тоўстых бярвёнаў), пакладзеных упоперак на 2—3 лагі.

З драўляных збудаванняў у раскопках былі таксама выяўлены штыкетнік з калоў, а ў ніжніх пластах — забор з вертыкальна забітых дошак.

Выяўлена і майстэрня для апрацоўкі каменных плітак, якія выкарыстоўваліся для абліцоўкі храма, і вапнавая яма — «творило» для гашэння вапны, якая прымянялася пры будаўніцтве храма. Асаблівa






*Мал 88 Мінск Планіроўка Рэканструкцыя забудовы*

трэба вылучыць пабудову, што захавалася на 10 вянцоў (Тарасенко, 1957. С. 219).

Даследаванне Мінска ў 1957—1961 гг. было прадоўжана Э. М. Загарульскім (Загорульский, 1982). З улікам гэтых работ агульная раскапаная плошча перавысіла 1800 кв. м, а колькасць ускрытых поўнасцю або часткова пабудоў дасягнула лічбы 130 Як і ў папярэднія гады, пабудовы захаваліся ў асноўным на 1—3 вянцы. Усе выяўленыя збудаванні былі

падзелены (расчлянёны) даследчыкам на 20 будаўнічых гарызонтаў, паслядоўна змяняючых адзін другога. У склад гарызонтаў уваходзяць пабудовы, вулічныя маставыя, насцілы, штыкетнікі. Чляненне гарызонтаў праведзена дастаткова выразна і аргументавана. На жаль, адсутнічае дастаткова дэталёвае апісанне асобных збудаванняў і пабудоў гарызонту, не выяўлена іх функцыянальнае прызначэнне. Таму немагчыма вызначыць у цэлым структуру гарызонту, суаднесенасць розных тыпаў пабудоў у комплексе і ў выніку — ацаніць і ўявіць у агульным выглядзе забудову і жыццё горада на ўзроўні пэўнага гарызонту. Адсутнічаюць таксама звесткі па асобных элементах жылых і гаспадарчых пабудоў, што не дазваляе правесці дадатковае іх даследаванне і прымушае тым самым зыходзіць толькі з агульных звестак і ацэнак аўтара. Разам з тым у даследаванні забудовы старажытнага Мінска ім адзначаны і несумненна новыя і станоўчыя падыходы. Даследчык праводзіць чляненне будаўнічых гарызонтаў на будаўнічыя комплексы-сядзібы, вызначае іх памеры і спрабуе прасачыць дынаміку развіцця. У яго працы праведзена больш дакладная датыроўка будаўнічых гарызонтаў (Загорульский, 1982. С. 141—150).

Забудова старажытнага Мінска, такім чынам, па выніках праведзеных даследаванняў вызначаецца наступнымі характэрнымі рысамі.

Матэрыялам для ўсіх пабудоў, як жылых, так і гаспадарчых, было дрэва хвойных парод. Усе пабудовы наземныя, абсалютная большасць з іх — зрубнай аднакамернай канструкцыі. Асноўны прыём будаўніцтва — рубка зрубаў «в верхнее обло с остатком». Злучальная чашка і паз вырубаліся з верхняга боку бервяна. Асноўныя памеры пабудоў — 16—25 кв. м, працягласць іх існавання — 20—30 гадоў. Пабудовы грунтаваліся на рэштках папярэдніх, іншы раз — на падкладках з бярвёнаў, плах, слупкоў, на «стулах», камянях, а ў асобных выпадках — на пляцоўках з бярвёнаў. Для ўзвядзення гаспадарчых пабудоў выкарыстоўваўся больш тонкі лес.

У пяці пабудовах выяўлены рэшткі дзвярных праёмаў у 3-м вянцы зруба (у адным выпадку — у першым) шырынёй 0,75—0,9 м. У пласце знойдзена трое дзвярэй, самыя вялікія мелі вышыню 1,6 м, двое астатніх — меншыя. Знойдзены таксама лесвіцы ад ганка. Знаходкі закладнога бервяна ад франтона — самца са скосам у 42—43° і какошыны гавораць аб тым, што дахі былі двухскатнымі, дранкавымі. У жылых пабудовах, як правіла, на лагах была ўкладзена падлога з дошак. Лагі ўрубаліся скразной або глухой урубкай. У XI—XIII стст. лагі іншы раз клалі проста на зямлю. Звычайна падлога насцілалася з колатых дошак, у адным выпадку — з тонкіх жэрдак. Іншы раз дошкі заціскаліся паміж вянкамі зруба. У каркаснай пабудове № 104 дошкі падлогі ўкладзены ў паз, выраблены ў лагах, укладзеных уздоўж сцяны, і прыціснуты дошкай, прыбітай драўлянымі цвікамі. У дзвюх жылых пабудовах (у пластах XI і XIV стст.) выяўлена земляная падлога. У большасці гаспадарчых пабудоў таксама была падлога з дошак. У дзвюх пабудовах — гаспадарчай і жылой — выслана бяростай.

Печы, як правіла, выяўляліся ў вугле ля ўвахода на апечку 1,2×1,2 м, вышынёй 20—30 см. Гэта былі глінабітныя печы, аснова і каркас пода якіх былі з драўляных калоў.






*Мал. 89. Мінск Гарадскія сядзібы*




*Мал. 90. Гродна. Забудова. Будаўнічы ярус VII*

Акрамя зрубных у старажытным Мінску сустракаліся і пабудовы слупавой канструкцыі. У адных выпадках слупы мелі вертыкальны паз, у які закладвалі бярвёны або дранкі, у іншых — прастора паміж слупамі зашывалася вертыкальна пастаўленымі дошкамі, якія абапіраліся на перакладзіны, замацаваныя на слупах. У пласце XIII ст. ля пабудовы № 71 была прыбудавана плеценая пабудова тыпу кашары для ўтрымання жывёлы.

Сядзібы ў Мінску ўтваралі ізаляваны двор. Сядзіба *А* складалася з дзвюх жылых і шасці гаспадарчых пабудоў. Сядзібы раздзяляліся агароджамі, часцей — штыкетнікамі з дранкі, цясін або калоў. Пабудова № 49 мела венчатую агароджу з бярвёнаў, закладзеных у пазы слупоў. Ля ўезда ў сядзібу былі вароты, вярхі якіх былі пастаўлены на адлегласці 2,2 м. У ніжняй частцы пазоў яны мелі гнёзды пад шып.

**Гродна.** У 1949 г. былі адноўлены археалагічныя даследаванні старажытнага Гродна, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам М. М. Вароніна. Былі ўскрыты жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Агульная іх колькасць, з улікам вылучаных дадаткова па чарцяжах і азначаных літарамі, дасягнула 36. Пабудовы выяўлены ў 9 будаўнічых ярусах (пластах дрэва — з 1-га па 9-ы) (Воронин, 1954. С. 34, 35, 50, 54, 164). Значная колькасць іх

адносіцца да жылых (сем пабудоў (П) — 17, 6, 7, 8, 4, 5, 12), не ўсе з якіх маюць рэшткі печаў. Ускрыты клуня (П-10, 11, 14, 3, 24), стайня (П-25), хлявы для ўтрымання свіней (П-1а), буйной рагатай жывёлы (П-30), майстэрня шаўца (П-2) (Воронин, 1954. С. 54).

Абсалютная большасць пабудоў адносіцца да тыпу наземных аднакамерных зрубных збудаванняў, рубленых «в верхнее обло с остатком» з бярвёнаў хвойных парод. Жылыя пабудовы маюць у асноўным памер 4×4 м, хаця вядомы і меншыя па памерах (П-17 — 3,8×3,4 м; П-26 — 3,25×3,25 м; П-27 — 4×3м) (Воронин, 1954. С. 164). Пабудова № 27 мае прыбудаваныя сенцы шырынёй 1 м. Зруб жылой пабудовы часта ставіўся на стулы з бярвення, на камні-валуны або слупкі з плінфы (П-26, 27, 28). Падлогу жылых пабудоў насцілалі з тоўстых колатых дошак, лакладзеных зверху лагаў. Часам канцы дошак падлогі заціскаліся паміж першымі і другімі вянцамі зруба (П-27, П-28). У жылых пабудовах, як правіла, ставілі глінабітныя печы з уключэннем дробных камянёў (П-12, 6, 7, 8, 4). Печ узводзілі на платформе з дошак, яе ніжняя частка была змацавана рамай — апечкам з дошак, пастаўленых на рабро і ўваходзячых у кутні слуп з вертыкальнымі пазамі (П-6, 8). Але сустракаюцца жылыя пабудовы без печаў (П-17, 26, 27, 5).

Гаспадарчыя пабудовы таксама ў асноўным былі зрубнымі і аднакамернымі. Тэхніка іх збудавання была такой жа, як і жылых. Па велічыні яны саступалі жылым і мелі памеры 3,2×3,2 м (П-10), 3,6×2,45 м (П-11), 3,65×4,5 м (П-25), 3×3 м (П-1). Самая буйная з іх — клуня памерам 5,9×5,4 м (П-24). Пабудовы № 10, 11, 12 былі клунямі, пабудова № 25 — стайняй, пабудова № 1а — хлявом для свіней, пабудова № 10 — кароўнікам. Пабудова № 2 памерам 2,8×2,8 м, мяркуючы па мноству скураных абрэзкаў, з'яўлялася майстэрняй шаўца. Да ліку гаспадарчых збудаванняў адносіцца навес для жылой пабудовы № 4, заходняя сценка якога была збудавана з пастаўленых вертыкальна дошак. Амаль усе гаспадарчыя пабудовы мелі падлогу з колатых дошак (П-10, 11, 24, 1а, 30, 25), пакладзеных на лагах або проста на зямлю.

Забудова Старога замка ў Гродне рэгулявалася месцазнаходжаннем Ніжняй царквы (XII ст.) і яе развалу (у больш позні час), каля якіх праходзілі вулічныя маставыя ў напрамку з захаду на ўсход, у бок уезду на дзядзінец і перпендыкулярна напрамку гэтай вуліцы. Вуліцы мелі шырыню 2—2,5 м, іх папярэчныя насцілы з дошак клаліся на прадольныя лагі. Пабудовы ўзводзіліся ўшчыльную да вулічных маставых і арыентаваліся па іх.

Вулічныя маставыя займалі стабільнае месцазнаходжанне і паслядоўна змянялі на адным і тым жа месцы да 7—8 насцілаў (на лагах) за час з сярэдзіны XII ст. да канца XIV ст. У больш ранніх пластах насціл укладаўся канцамі дошак у паз лагі, урубленай у $^1/_4$ бервяна. Выяўлены дваровыя насцілы, якія амаль цалкам пакрывалі свабодную плошчу двара.

Варта адзначыць таксама высокую шчыльнасць забудовы. У асобных «слоях дерева» пабудовы стаяць літаральна ўшчыльную адна з другой. Пры гэтым назіраецца рост шчыльнасці забудовы ад ранніх, забудаваных больш свабодна, пластоў да больш позніх, забудаваных даволі шчыльна.

**Ваўкавыск.** У старажытным Ваўкавыску археалагічныя даследаванні яшчэ ў 1925 г. пачаў праводзіць І. Ядкоўскі (Тарасенко, 1957. С. 260). Аднак раскопкі траншэямі і шурфамі не маглі выявіць рэшткаў жылля. У 1948 г. даследаванні працягваў Г. І. Пех. У невялікім раскопе пабудоў таксама не было выяўлена. У раскопках 1954 г. пад кіраўніцтвам В. Р. Тарасенкі на плошчы 288 кв. м выяўлена 7 паўзямлянак слупавой канструкцыі, часткова заглыбленых у мацярык. Паўзямлянкі да 4—5,7 м па даўжыні адной са сцен. У пабудовах былі печы, складзеныя з камнёў, змацаваных глінай. Падлогі ў пабудовах былі глінабітныя (Тарасенко, 1957. С. 268).

Даследаванні Ваўкавыска працягвалі В. Р. Тарасенка (1955, 1956), Г. І. Пех (1958), Я. Г. Звяруга (1965—1970) (Зверуго, 1975. С. 7). У раскопках Я. Г. Звяругі ў 1967 г. былі ўскрыты тры паўзямлянкі памерамі: 4,3×2,9 пры глыбіні 0,5—0,8 м; 5,6×3,2 м пры глыбіні 0,85—1 м; 3,7×3,7 м пры глыбіні 0,8—1 м. Ва ўсіх паўзямлянках выяўлены абпаленыя камяні ад печаў-каменак. Усяго ўскрыта 7 паўзямлянак. Пабудовы былі не слупавой канструкцыі, а зрубныя. Складзеныя з бярвёнаў таўшчынёй 10—12 см. Датуюцца паўзямлянкі канцом X—XI ст.

Побач з паўзямлянкавымі жылымі пабудовамі ў Ваўкавыску выяўлены рэшткі наземных зрубных збудаванняў, абмазаных глінай, узведзеных у XII—XIV стст. У найбольш заможных з іх маглі быць зашклёныя вокны, таму што ў пласце знойдзены фрагменты аконнага шкла (Зверуго, 1975. С. 22—24).

**Браслаў.** У 1955 г. Л. В. Аляксееў праводзіў раскопкі гарадзішча старажытнага Браслава, у час якіх у пластах XI—XII стст. (XIII ст.?) былі выяўлены рэшткі ніжняга вянца невялікага (4×4 м) драўлянага дома, рубленага «в обло» і пастаўленага вуглямі на камянях-стулах. Печ у пабудове была глінабітная. Пад ім былі ўскрыты рэшткі папярэдняй пабудовы, ад якой захавалася толькі падлога з дошак. У наступным годзе былі ўскрыты рэшткі зрубнай пабудовы гаспадарчага прызначэння (Алексеев, 1963).

**Навагрудак.** У 1956 г. Ф. Д. Гурэвіч пачала шматгадовыя даследаванні старажытнага Навагрудака. На тэрыторыі вакольнага горада (так званага Малога замка) ускрыты на плошчы 1992 кв. м рэшткі 38 пабудоў з шасці будаўнічых перыядаў (Гуревич, 1981). Усе пабудовы падзяляюцца на 6 будаўнічых ярусаў. Стан захаванасці пабудоў вельмі дрэнны, у большасці яны выяўляюцца па рэштках печаў і прылягаючых да іх рэштках збудаванняў. Па прызначэнню пабудовы былі жылымі, гаспадарчымі, вытворчымі. У тэхніцы іх узвядзення назіраецца значная розначасць.

У найбольш раннім ярусе жылыя пабудовы былі наземнымі зрубнымі з глінабітнымі печамі і драўлянымі падлогамі. Аднак у гэтым жа ярусе была і пабудова, заглыбленая ў мацярык на 70 см. У гэтым жа ярусе былі ўскрыты наземныя зрубныя гаспадарчыя і вытворчыя памяшканні (П-38). У другім будаўнічым ярусе выяўлены пабудовы рамеснікаў (ювеліра — П-14, 13. 21, каваля — П-23). У мацерыку выяўлена шмат ям ад вытворчых і гаспадарчых пабудоў.

У XII ст. пасад быў абнесены абарончымі збудаваннямі і ператварыўся такім чынам у вакольны горад. Усе пабудовы вакольнага горада

былі наземнымі, толькі адно буйное па памерах жытло пачатку XII ст. (каля 70 кв. м) багатага гараджаніна было заглыблена ў зямлю. У гэтым жа ярусе. ўскрыта пабудова № 12, так званы «дом баярына» памерамі 76 кв. м, сцены якога былі часаныя, атынкаваныя глінай і распісаныя фрэскамі. Да ліку заможных належала і суседняя пабудова № 18, якая пераўзыходзіла пабудову № 12 па памерах.

Асноўным будаўнічым матэрыялам для ўзвядзення пабудоў было дрэва. Гліна выкарыстоўвалася для абмазкі пазоў і атынкоўкі сцен, а таксама пры ўжыванні цаглін або вапнавых блокаў, у якія ўстаўлялася круглае аконнае шкло. Ф. Д. Гурэвіч выказвае меркаванне, што буйныя заможныя пабудовы маглі быць двухпавярховымі. Усе буйныя жыллёвыя пабудовы гарадской эліты былі сканцэнтраваны ў паўночных і цэнтральных частках вакольнага горада, утвараючы своеасаблівы квартал знаці. Аддалены ад яго раён вызначаўся больш сціплай забудовай зрубнага наземнага жытла з глінабітнымі печамі. Аднак па ўсёй ускрытай плошчы не выяўлена прыкмет падзелу на сядзібныя і дваровыя комплексы. Забудова позніх ярусаў больш шчыльная, чым ранніх.

Адначасова ў раскопках на дзядзінцы ў пластах XII—XIII стст. выяўлены рэшткі 4 наземных зрубных жытлаў, рубленых «в обло». Пабудовы мелі падлогі з дошак і глінабітныя печы на драўляных апечках. Побач з адной з іх выяўлены навес для жывёлы.

**Друцк.** У 1956 г. Л. В. Аляксееў пачаў даследаванні дзядзінца старажытнага Друцка. Матэрыялы даследаванняў да цяперашняга часу не апублікаваны ў поўным аб'ёме, а ў абагульняючай працы «Полацкая зямля» аб забудове маюцца толькі лаканічныя звесткі (Алексеев, 1966. С. 149—161). У іх гаворыцца пра дзве вузкія і крывыя перакрыжаваныя адна з другой вуліцы з насцiламі з бярвёнаў, па баках якіх «...цесна прыціскаліся адзін ад другога маленечкія, агароджаныя штыкетнікамі сядзібы, якія ўключалі дом, адну-дзве гаспадарчыя пабудовы і амаль суцэльна замошчаны бярвеннем, некалі, напэўна, крытага маленькага двара» (Алексеев, 1966. С. 154). Тут жа гаворыцца, што пабудовы былі наземнымі, рублены «в обло», мелі падлогу з дошак на лагах і нізкія глінабітныя печы-каменкі. Плошча жылых пабудоў каля 16 кв. м. Цікавым з'яўляецца назіранне аўтара аб тым, што цэнтральная частка дзядзінца не засялялася і служыла своеасаблівай плошчай, а заходняя яго частка не мела дробнай забудовы і ўяўляла сабой частку княжацкага двара, на якім была размешчана адна вялікая пабудова з глінабітнай падлогай і печчу-каменкай.

**Полацк.** У 1957 г. М. К. Каргер пачаў даследаванні дзядзінца старажытнага Полацка. У далейшым яны былі працягнуты А. Р. Мітрафанавым, В. Р. Тарасенкам, Г. В. Штыхавым (Штыхов, 1975). М. К. Каргерам былі ўскрыты першыя зрубныя пабудовы, затым у 1958 г. А. Р. Мітрафанавым каля храма Сафіі былі выяўлены рэшткі драўляных падлог і глінабітных печаў на мацерыку раскопу э невялікай магутнасцю культурнага пласта.

Асноўны матэрыял па забудове дзядзінца старажытнага Полацка выяўлены ў так званым усходнім раскопе (А. Р. Мітрафанаў, В. Р. Тарасенка, Г. В. Штыхаў). Тут на плошчы больш за 608 кв. м ускрыты рэшткі звыш 70 пабудоў, якія адносяцца да 14 розных будаўнічых гарызонтаў.




*Мал. 91. Полацк. Забудова будаўнічага гарызонту VI*

У склад гарызонтаў уваходзілі жылыя і гаспадарчыя пабудовы, вытворчыя памяшканні, вулічныя маставыя, дваровыя насцілы, штыкетнікі, водаадводныя збудаванні. Шчыльнасць забудовы ў гарызонтах была неаднолькавай. У пластах канца XII — пачатку XIII ст. (гарызонты X—XIV) на ўскрытай плошчы выяўлены па 1—3 пабудовы, у гарызонтах VII—IX (сярэдзіна XII ст.) колькасць пабудоў павялічылася да 8—10. Найвышэйшай шчыльнасці забудова дасягнула ў VI гарызонце — 14 пабудоў (канец XIII ст.), пасля чаго рэзка скарацілася да 2, 7, 5 пабудоў у гарызонтах V, IV, III.

Устаноўлена, што асноўным будаўнічым матэрыялам былі бярвёны дрэў хвойных парод таўшчынёй 20—24 см. Але ўсе пабудовы гарызонту V узведзены з тонкіх жэрдак (10—12 см). Відавочна, гэта часовыя пасля пажару пабудовы. Усе жылыя і гаспадарчыя пабудовы былі наземныя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі. Жылыя пабудовы мелі, як правіла, квадратную форму і даволі буйныя памеры — 4,6×4,65 м (2-В); 5,8×6 м (2-А); 4,4×5,2 м (2-Г); 4,7×4,7 м (2-И); 5,3×5,8 м (6-В). Аднак былі і больш дробныя жылыя пабудовы (8-П з печчу была 3,5×2,8 м). Зрубы рубілі «в обло с остатком» 20—10 см, прычым ушчыльняльны паз і злучальная чашка ўрубаліся з верхняга боку бервяна. Ніжнія вянцы пабудоў былі з дуба (6-К) або бярозы (8-П). У якасці асновы для зруба выкарыстоўваліся чурбакі, падкладкі, а ў пабудове № 6а пад ніжнім вянцом суцэльнымі радамі былі ўзведзена фундаментальная пляцоўка з кароткіх бярвёнаў. Невялікія пляцоўкі з кароткіх бярвёнаў былі выкладзены пад кутамі пабудовы 6-Е, а пабудова 7-М пад сваёй асновай мела пакладзеныя крыж на крыж бярвёны, якія выходзілі канцамі за межы пабудовы. Г. В. Штыхаў мяркуе, што жытлы Полацка маглі быць двухпавярховымі, на высокім падклецці (Штыхаў, 1975. С. 49). Жылыя пабудовы мелі, як правіла, падлогу з дошак, укладзеных на лагах, урубленых скразной або глухой (7-М) урубкай.

У адным выпадку ў пабудове Л з гарызонту VII пераводзіны падлогі не былі ўрублены ў зруб, а ляжалі проста на зямлі, а падлога з колатых дошак сціскалася кліннямі, загнанымі паміж зрубам і крайнімі дошкамі. У пабудове 11 з гарызонту VII канцы дошак падлогі заціснуты паміж другім і трэцім вянцом зруба. Неаднаразова назіраліся выпадкі, калі насціл падлогі ствараўся з тонкіх бярвёнаў (7-Н — хлеў; 9-Е — сарай). У жылой пабудове 6-Ж падлога ўкладзена з бярвёнаў паўторнага ўжытку. У адным выпадку ў невялікай пабудове 19-А памерам 2,89×2,89 м (хлеў), якая захавалася на 4 вянцы, выяўлены дзвярны праём шырынёй 0,73 м. У апісанні ўказана, што ў расколатыя канцы праёма ўстаўлена рэйка таўшчынёй 4 см, якая ўваходзіла ў праём і служыла касяком для дзвярэй (Штыхов, 1975. С. 47).

Аб памерах дзвярнога праёма сведчаць знойдзеныя трое дзвярэй, якія захаваліся часткова. Адны былі роўныя 91×49×5 см, другія мелі вышыню 85 см (захаваўся пятачны шып).

Абавязковым элементам жылой пабудовы ў Полацку з'яўляецца печ. Яна выяўлена ў 11 пабудовах, што дазваляе іх вызначыць як жытлы. Печы ў асноўным былі глінабітныя. У пабудове 6-Ж расчышчана глінабітная печ, под якой ўтрымліваў камяні і кавалкі плінфы, а сама печ размяшчалася на насціле з бярвёнаў. У пабудове 7-Г захаваўся амаль

цалкам слупавы апечак 1,2×1,3 м. У пабудове 7-А слупавы апечак 1,2××1,2 м узвышаўся над падлогай на 25 см і быў запоўнены глінай. Апечак ў пабудове 7-М памерам 1,6×1,8 м меў падвойную сценку з дошак, на якую абапіраўся гарызантальным шасток з шырокай дошкі. Дно апечка выслана двума радамі жэрдак, пад ніжнім з якіх былі пакладзены лагі. Агульная вышыня такога запоўненага глінай апечка была 30 см. Такую ж канструкцыю меў апечак у пабудове 8-Д маючы памеры 1,35××1,25 м. У гарызонце XIV выяўлена печ-каменка з камянёў.

У розных будаўнічых гарызонтах сустракаліся пабудовы для жывёлы (6-П6, 7-Д, 7-Н, 8-А6, 9-А). Яны маюць розныя памеры і прапорцыі (пабудова 9-А роўная 2,89×1,89 м, пабудова 8-А — 3,35×3,75 м). Часам сустракаюцца хлявы вялікіх памераў з выцягнутымі прапорцыямі (пабудова 7-Д — 3,3×6,8 м; пабудова 6-П — 3,1×4,7 м). Іх рубілі «в обло з остатком» з больш тонкага лесу (18—20 см у дыяметры), падлога была з жэрдак. Клуня ў гарызонце IV (41) мела памеры 4,13×4,14 м.

У раскопе ўскрыты таксама і вытворчыя збудаванні (8-І, 8-К, 8-Д). Пабудова 13-К мела памеры 1×1 м, рубленая «в обло», захавалася на 2 вянцы. У ёй расчышчаны пласты поўсці з вапнай. Відаць, гэта была скрыня для залення скуры. Пабудова 7-А памерам 3,1×3,1 м з печчу і падлогай на лагах была, відаць, жытлом-майстэрняй скарняка-шаўца. Пабудова 9-Г плошчай звыш 24 кв. м унутры захавала вымастку з бярозавых бярвёнаў, перакрытую пластом поўсці з вапнай, пад якім быў яшчэ адзін насціл, таксама перакрыты вапнай. Гэта, несумненна, майстэрня па апрацоўцы скур.

Мяркуючы па знаходкам «какошын», зрубныя пабудовы Полацка мелі двухскатны дранкавы дах.

Забудову старажытнага Полацка рэгуляваў напрамак вулічнай маставой, па якой і былі арыентаваны пабудовы. Забудова ў гарызонце VI дасягае высокай шчыльнасці.

Вулічныя маставыя пачынаюць ускрывацца з гарызонту VII (60-я гады XIII ст.). Усяго выяўлена 7 гарызонтаў вулічных маставых. Найбольш ранні ярус вулічнай маставой ускрываецца на ўзроўні IX гарызонту. Тут яна мела шырыню каля 2 м. Маставыя захаваліся кепска. У асноўным гэта прадольныя лагі і папярочныя падкладкі пад імі з невялікімі ўчасткамі насцілаў.

Даследаванні не прывялі да выразнага члянення пабудоў на сядзібныя комплексы, але Г. В. Штыхаў лічыць, што забудова выяўляе элементы пагоннага двара (Штыхаў, 1975. С. 50).

З элементаў добраўпарадкавання варта адзначыць асобныя ўчасткі ля пабудоў, перакрытыя насцілам з дошак, штыкетнікі і водаадводную каналізацыю, выяўленую ў гарызонтах VI і XIII пад насцілам вулічнай маставой. Дрэнаж зроблены з дзвюх дошак, пастаўленых на рабро на адлегласці 30—40 см. Да яго прымыкае дадатковы ўчастак 6р. У гарызонце XIII (канец XII ст.) дрэнаж зроблены больш грунтоўна. Сценкі канавы былі абкладзены бярвеннем у два рады па 6 бярвёнаў у сценцы. Першапачатковая глыбіня канавы дасягала аднаго метра. Бярвёны ў сценках змацоўваліся каламі. Паніжэнне ўзроўню канавы ішло ў заходнім напрамку ў бок Заходняй Дзвіны.

**Тураў.** Археалагічнае вывучэнне гарадоў Паўднёвай Беларусі ў пасляваенныя гады пачалося раскопкамі на дзядзінцы старажытнага Турава ў 1961 г. экспедыцыяй Інстытута археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам В. В. Сядова (Полубояринова, 1963. С. 44). Даследаванні былі працягнуты ў 1962, 1963, 1968, 1992—1993 гг. экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам П. Ф. Лысенкі (Лысенко, 1974. С. 33—68). За гады даследаванняў на дзядзінцы ўскрыта 768 кв. м, дзе было выяўлена 35 пабудоў (з іх 24 жылыя). Дрэва пабудоў мае дрэнную захаванасць. Пабудовы ў раскопах падзяляюцца на два будаўнічыя ярусы (у раскопе 1968 г.— на 6). Усе пабудовы адносяцца ад аднаго тыпу — наземныя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі.



*Мал. 92. Тураў. Забудова будаўнічага яруса IV*

Усе яны рублены ў «верхнее обло с остатком» у асноўным з дрэў хвойных парод. Вянцы, што захаваліся ад пабудовы № 2, ва ўскрытай пад ёй пабудовай № 8, рублены з дуба. Некаторыя пабудовы маюць пад кутамі і бярвёнамі падкладкі.

Памеры пабудоў невялікія, часцей за ўсё — у межах 16—18 кв. м. Так, пабудова № 6 з раскопу 1962 г.— 4×4 м, пабудова № 2 з раскопу 1962 г.— 4×4,4 м, а пабудова № 7 з раскопу 1962 г.— 4×4,4 м. Самая вялікая пабудова № 1 з раскопу 1961 г. мае плошчу каля 25 кв. м.

У чатырох жылых пабудовах выяўлена падлога з дошак, пакладзеных на лагі (П-6 у раскопе 1961 г., П-6 у раскопе 1962 г., П-7 у раскопе 1962 г., П-5 у раскопе 1961 г.). Пад насціламі з дошак у пабудове № 5 з раскопу 1961 г. выяўлена пясчаная падсыпка таўшчынёй да 15 см,

што служыла, відаць, для гідраізаляцыі. У пабудове № 7 з раскопу 1963 г. была глінабітная падлога, гладкая, добра ўтрамбаваная, таўшчыней 10—20 см, зробленая з пласта гліны светла-шэрага колеру, укладзенага зверху нівеліруючага пласта гліны цемна-шэрага колеру таўшчыней 20 см.

У раскопах расчышчана 10 глінабітных печаў, у трох з іх пры будаўніцтве выкарыстана цэгла. Печы ставілі на падушцы з сырой гліны, замацаванай каламі і дошкамі. У шэрагу выпадкаў прасочваюцца рамонтныя праслойкі пячнога пода (ад 3 да 7). Рамонт пода адбываўся шляхам падмазкі тонкага пласта гліны (2—3 см) па папярэдняму поду непасрэдна, а іншы раз — паверх нівеліруючага пласта гліны таўшчыней 5—8 см. Цэгла памерам 27×18 см; 5×4 см, 26×17×4,5 см выкарыстоўвалася пры будаўніцтве печы галоўным чынам для выкладкі пода (пабудова № 7, пабудова № 8 у раскопе 1962 г.). У печы, ускрытай у кв. 130—132 за межамі пабудоў, што захаваліся, адзначаны сценкі, складзеныя на вышыню трох радоў з цэглы памерам 24×16×5 см. Печы, складзеныя з выкарыстаннем цэглы, захаваліся толькі ў трэцім будаўнічым ярусе, у той час як глінабітныя выяўлены ва ўсіх будаўнічых ярусах.

На дзядзінцы ў Тураве выяўлены тры пагрaбы. Адзін з іх меў памеры 2,6×2 м і быў заглыблены ў мацярык на 0,6—0,7 м. Дно яго высцілала шчыльная падлога з колатых дошак шырыней 10—15 см, а зруб складзены з тонкіх (10 см) бярвенаў. Пограб будавалі ў час засялення гарадзішча. Другі пограб будавалі ў больш позні час (XII—XIII стст.). Ён прарэзвае старажытны пласт і ўваходзіць у мацярык. Сцены яго абшыты дошкамі, падлога выслана колатымі дошкамі (выяўлены тры насцілы). Пад асобныя дошкі пакладзены цагліны. Ніжні насціл ў некалькі пластоў выспаны бяростай. У пограбе знойдзена шмат фрагментаў амфар і расціснутага шклянога колбападобнага сасуда. Магчыма, гэта рэшткі віннага пограба.

На ўскрытай плошчы не выяўлена вулічных маставых і падзелу (члянення) забудовы на сядзібы. Усе пабудовы на дзядзінцы арыентаваны вугламі па старанах свету. Магчыма, такая арыенціроўка звязана з накірункам вуліц. У такім выпадку можна было б меркаваць, што адна з вуліц ішла ў паўночна-заходнім напрамку, а адваротным кірункам — да моста праз роў, што аддзялў вакольны горад, па якому праходзіла недалека ад апсіды ўскрытага храма.

**Пінск.** Археалагічныя даследаванні старажытнага Пінска таксама выявілі матэрыялы па драўлянай забудове горада раннефеадальнага перыяду (Лысенка, 1974. С. 69—117). У раскопах 1963 і 1964 гг. у пластах розных перыядаў выяўлена звыш 35 розных пабудоў, вулічныя насцілы, штыкетнікі, дваровыя насцілы на тэрыторыі вакольнага горада. У раскопе 1963 г. выяўлены вулічная маставая і 16 пабудоў, у тым ліку 9 жылых, 3 гаспадарчых і адзін хлеў.

Вулічная маставая мае сем насцілаў, што змянілі адзін аднаго. Усе збудаванні падзяляюцца на дзевяць будаўнічых ярусаў. Вулічная маставая ідзе ў напрамку вала ад дзядзінца і размешчанай каля яго рынкавай плошчы. У заходнім накірунку ад паўночнага канца вуліцы ў раскопе адыходзіць завулак паралельна валу вакольнага горада. Вулічная маста-

вая, як вынікае з выяўленай забудовы, падзяляе ўскрытыя збудаванні на два гаспадарчыя комплексы (сядзібы), якія ўключалі жытло і гаспадарчыя пабудовы, дваровыя насцілы, штыкетнікі (сядзібы ўскрыты не поўнасцю). Мяркуючы па мноству абрэзкаў скуры, фрагментаў абутку і абзоленай поўсці, гаспадарам адной з сядзіб быў гарбар-шавец.

Усе жылыя і гаспадарчыя пабудовы адносяцца да ліку наземных аднакамерных збудаванняў зрубнай канструкцыі, рубленых у «обло с остатком» з бярвёнаў хвойных парод. Злучальная чашка і ўшчыльняючы паз вырубаліся з верхняга боку берванa, для ўшчыльнення пазоў ужываўся мох. Падлога ў пабудовах была з дошак на лагах, у пабудове № 4 — з бярвёнаў. Памеры сцен пабудоў ад 3,6×3,6 да 5 м (другая сцяна не ўскрыта). Забудова вызначаецца высокай стабільнасцю, вулічныя маставыя змяняюцца на адным месцы сем разоў, жылыя пабудовы ўзводзяцца таксама сем разоў, выкарыстоўваючы ў якасці фундамента рэшткі больш ранніх пабудоў. Іншы раз пад кутам пабудовы ўкладвалі падкладкі з бярвёнаў ці дошак.

Вулічныя маставыя і дваровыя насцілы насцілалі з дошак і тонкіх бярвёнаў. Насцілы ўкладаліся зверху прадольных лагаў з бярвёнаў.

Дваровыя насцілы рабілі з колатых дошак або тонкіх бярвёнаў таксама зверху лагаў.

У раскопах 1964 г. № 9 і № 10, закладзеных у будаўнічых катлаванах, захавалася ў ніжніх пластах невялікая колькасць пабудоў, узведзеных па тых жа прынцыпах, што і пабудовы ў раскопе 1963 г. Поўнасцю ўскрыта пабудова для жывёлы памерам 4,2×3,5 м. Жылая пабудова з глінабітнай падлогай памерам 5,5×5,5 м, рэшткі жылой пабудовы — 5×5,5 м.

У 1964 г. быў закладзены раскоп № 11 плошчай 108 кв. м, у якім выяўлены 15 жылых і гаспадарчых пабудоў, што адносіліся да 6 розных будаўнічых ярусаў. Сярод пабудоў — 9 жылых, адна гаспадарчая, астатнія вызначыць не ўдалося. Пабудовы наземныя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі, рублены ў «верхнее обло з остатком», пад куты і ніжнія вянцы якіх падкладаліся падкладкі. Таксама назіраецца стабільнасць планіроўкі і змяняльнасць на адным месцы чатырох пабудоў (№ 2, 6, 8, 11). Памеры іх сцен — 4—4,5 м (П-6); 4,1 м (П-8); 4,2 м (П-9); 5 м (П-11); 4,2 м (П-2). Падлогі ў пабудовах з дошак, печы глінабітныя.

У вывучэнні старажытнарускіх гарадоў раскопкі ў Пінску маюць асаблівае значэнне. Усе папярэднія даследаванні праводзіліся на дзядзінцах старажытных гарадоў (Гродна, Мінск, Полацк, Друцк, Тураў і г. д.), што дало матэрыялы для іх вывучэння. Даследаванні на вакольным горадзе старажытнага Навагрудка ўскрылі своеасаблівы раён рассялення гарадскіх вярхоў. Аднак толькі даследаванні на вакольным горадзе старажытнага Пінска ў 1963—1964 гг. прадставілі матэрыял для вывучэння забудовы, планіроўкі, сацыяльнага побыту і такога нямалазначнага элемента гарадской структуры, як вакольны горад.

**Мсціслаў.** У 1959 г. пачаліся даследаванні Л. В. Аляксеевым старажытнага Мсціслава. На старажытным дзядзінцы, так званай Замкавай гары, ускрыта звыш 800 кв. м плошчы старажытнага горада. У раскопе выяўлены дзве перакрыжаваныя вуліцы, адна з якіх захавалася на 7 ярусаў. Жылыя пабудовы рэдкія. На ўчастку раскопаў пераважаюць гаспадарчыя пабудовы — свіраны, хлявы, клеці, паграбы, двары, выма-

шчаныя бярвёнамі і агароджаныя частаколамі. Усе пабудовы наземныя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі, рубленыя «в обло з остатком». Выключэннем з'яўляецца зруб пограба (2,9×2,9 м), заглыблены ў культурны пласт і захаваўшы 10 сваіх вянцоў. Бліжэй да цэнтра гарадзішча на вялізнай глінянай падушцы ўскрыта драўляная царква (раней вызначалася як данжон). Пабудовы маюць наступныя памеры 4,2×4,2 м; 3,6×3,6 м (пабудова № 20); 3,1×3,1 м (1-Д). 8,3 м (1-Ж). На жаль, у апублікаваных работах адсутнічаюць звесткі аб колькасці ўскрытых пабудоў, іх прызначэнні, захаванасці і элементах пабудоў (Алексеев, 1971. С. 25—31).

**Віцебск.** Старажытны Віцебск ў 1966 г. пачаў даследаваць Г. В. Штыхаў. На тэрыторыі Ніжняга замка ім ускрыты (1966 г.) 4 вулічныя маставыя на ўсход ад Благавешчанскай царквы. У іх насціл з бярвёнаў шырынёй 3 м укладзены упоперак трох прадольных лагаў.

З 1977 г. вядуцца інтэнсіўныя даследаванні Верхняга замка (дзядзінца) старажытнага Віцебска М. А. Ткачовым, Л. У. Калядзінскім, Т. С. Бубенька, В. М. Ляўко (Ткачев, Колединский, 1984. С. 123—126).

На плошчы звыш 800 кв. м ускрыты вулічныя маставыя і больш за 90 жылых і гаспадарчых пабудоў, раздзеленых на 11 будаўнічых ярусаў. Большасць пабудоў захавалася на 1—4 вянцы, радзей — на 5—6 вянцоў. Па прызначэнню 25 пабудоў былі жылымі, 22 — гаспадарчымі тыпу клеці і 20 прызначаліся для ўтрымання жывёлы. Дзве пабудовы былі вытворчымі (па апрацоўцы каменя і гарбарная майстэрня).

Асноўныя віды пабудоў — жыплё, клеці, часам хлявы ўзводзіліся ў тэхніцы наземнага аднакамернага зруба, рубленага ў просты вугал з невялікім (10—15 см) «остатком», з вырубкай злучальнай чашкі і ўшчыльняльнага паза з верхняга боку бервяна. Жылыя пабудовы мелі плошчу у асноўным 16—25 кв. м, іншы раз — 30—36 кв. м. Асноўным будаўнічым матэрыялам былі бярвёны дрэў хвойных парод, рэдка ніжнія вянцы зрубаў рабілі з дубовых бярвёнаў.

Гаспадарчыя пабудовы, у асноўным хлявы, узводзілі ў рознай будаўнічай тэхніцы. З пачатку XIII ст. сустракаюцца пабудовы ў замёт (заплот), калі сцены пабудовы ўтвораны жардзінамі, закладзенымі паміж папарна ўбітых колаў. З канца XIII ст. сустракаюцца пабудовы ў паз («у шулу»), калі сцены ўтвараюць дошкі, бярвёны, брускі, гарызантальна або вертыкальна ўстаўленыя зачасанымі канцамі ў паз слупоў або гарызантальных брусоў. З сярэдзіны XIII ст. вядомы каркасныя пабудовы з паралельных бярвёнаў сасны, у пазы якіх на канцах бярвёнаў устаўляліся слупы-апоры перакрыцця. З пачатку XIV ст. вядомы больш складаны тып каркаснай пабудовы, калі аснову складае звязаная з бярвёнаў (брусоў) рама, а вертыкальныя слупы-апоры маюць пазы для закладкі дошак, якія ўтвараюць сцены. Вядомы таксама і лёгкія навесы («павеці») і перакрыцці на слупах з вымасткай з дошак пад ім або без яе. У пласце XVI ст. ускрыты рэшткі пабудовы памерам 3,9×4,8 м на свайнай аснове (22 сваі).

У якасці фундаментаў для пабудоў у Віцебску выкарыстоўвалі рэшткі папярэдніх пабудоў, падкладкі або «стулы» з бярвёнаў, сваі. Іншы раз для гідраізаляцыі ўтваралі гліняныя падушкі таўшчынёй 6—8 см. Падлогі з дошак (у жыллі), плах (у клеці) або бярвёнаў (у хлявах) насцілаюць на

2—3 лагах (у жыллі) або адной лазе (у амбарах), яны ўрубленыя скразной, або глухой (выпадкі) урубкай паміж 2-м і 3-м вянцамі ў жылых пабудовах і 3-м і 4-м вянцамі ў амбарах. Падлогі ў хлявах часам клалі на зямлю, а бывала — на лагі, што ляжалі на зямлі. Канцы дошак падлогі іншы раз заціскалі паміж вянцамі зруба, а ў адной пабудове канца XIII — пачатку XIV ст. пакладзены ў падоўжаны паз, выраблены на $^1/_4$ бервяна зруба. Дошкі падлогі клалі і паралельна, і перпендыкулярна сцяне з уваходам. Дзвярныя праёмы шырынёй 0,6—0,8 м высякалі ў ніжнім вянцы ў выглядзе прамавугольнага паза, у якім з аднаго краю рабілі ямку пад пятку дзвярэй. Знойдзеныя дзверы былі вышынёй 0,7—1 м, шырынёй 0,53—0,8 м, таўшчынёй 4—4,7 см. Печы да XIV ст. былі глінабітнымі, а з XVIII ст. будавалі цагляныя печы. Знаходкі самцоў, «курыц» і гонты гавораць аб дранкавым двухсхільным даху.

На тэрыторыі навакольнага горада Віцебска Т. С. Бубенька ўскрыла рэшткі каля 90 пабудоў, блізкіх па будаўнічых асаблівасцях пабудовам Верхняга замка. Калекцыя выяўленых пабудоў старажытнага Віцебска адна са шматлікіх на тэрыторыі Беларусі. Добрая захаванасць, разнастайнасць тыпаў пабудоў, добрая фіксацыя і апрацоўка матэрыялаў дазваляюць лічыць яе адной з больш поўна вывучаных.

**Слонім.** Даследаванні Слоніма пачаліся ў 1959 г. Г. І. Пехам і былі прадоўжаны ў 1968 г. Я. Г. Звяругам (Зверуго, 1972. С. 248—289). Г. І. Пех раскопам 8×8 м часткова ўскрыў 8 пабудоў, Я. Г. Звяруга раскопам у 168 кв. м ускрыў два ярусы вулічных насцілаў, што ўтваралі перакрыжаванне і 7 пабудоў, якія адносіліся да 8 розных будаўнічых ярусаў. Пабудовы мелі захаванасць у асноўным на адзін вянок і ўскрываліся часткова. Яны адносіліся да тыпу наземных, аднакамерных, зрубнай канструкцыі, рубленых у просты вугал. Поўнасцю ўскрытыя пабудовы маюць памеры 3,8×3,6 м і 3,4×3,4 м. Самая буйная з пабудоў (7-ы будаўнічы ярус) памерам 4,5×3,7 м. Жылыя пабудовы мелі падлогу і глінабітную печку з вуглавым слупам і апечкам.

**Слуцк.** На дзядзінцы Слуцка П. Ф. Лысенкам у 1966 г. у раскопе ў 36 кв. м выяўлены ў 8 раскопачных пластах рэшткі трох пабудоў, насцілы з дошак, частакол. Усе пабудовы наземныя, зрубнай канструкцыі, рублены ў просты вугал. Пабудова № 2 у 8-м пласце рублена з бярозавых бярвёнаў таўшчынёй каля 15 см. Да пабудовы прылягаў насціл з дошак, на якім ў тоўстым пласце драўлянай кары было шмат абзоленай поўсці, абрэзкі скуры, рэшткі абутку. Магчыма, гэта рэшткі пабудовы слупавой канструкцыі вытворчага прызначэння. У 19-м пласце ад вугла пабудовы ідзе частакол. Даўжыня ўскрытых сцен пабудоў № 1 і № 2 адпаведна 4 і 4,2 м (Лысенко, 1974. С. 142—152).

У 1985—1986 гг. на дзядзінцы Слуцка Л. У. Калядзінскім на плошчы 90×200 м ускрыты рэшткі 35 жылых і гаспадарчых пабудоў і два вулічныя насцілы шырынёй 2—2,4 м. Насцілы пакладзены з дошак і плах упоперак вуліцы і паверх лагаў, што ідуць уздоўж вуліцы. Пабудовы рублены ў просты вугал, ніжнія вянцы звычайна з дубовых бярвёнаў. Захаванасць пабудоў — 1—6 вянцоў, у двух пабудовах выяўлены дзвярныя праёмы. Памеры пабудоў — 9—20 кв. м. Пад вуглы і сцены пакладзены падкладкі. У жылых пабудовах выяўлены рэшткі глінабітных печаў. Гаспадарчыя пабудовы плошчай 4—11,5 кв. м рублены з тонкіх

бярвёнаў (12—14 см). Падлога ў пабудовах пакладзена на лагі, урубленыя скразной урубкай паміж другім і трэцім вянцамі. У дварах насцілы таксама на лагах. Ёсць рэшткі частаколу і плятня.

На дзядзінцы ўскрыты две кузні памерам 3,4×3,5 м, рубленыя ў просты вугал. У кузні расчышчана печ-каменка памерам 1,2×1,3 м, знойдзены тачыла і скрыня для яго, жалезныя вырабы, загатоўкі і паўфабрыкаты. У другой кузні памерам 4×4 м ускрыта глінабітная печ, знойдзены накавальня, малаток, напілак, прабойнікі, гваздзільня, жужаль (Колединский, 1989. С. 93-94).

**Бярэсце.** Найбольшая колькасць драўляных старажытных пабудоў выяўлена археалагічнай экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам П. Ф. Лысенкі на дзядзінцы старажытнага Бярэсця (Лысенко, 1985). З 1969 па 1981 г. на плошчы 1844 кв. м тут ускрыты рэшткі 224 жылых і гаспадарчых пабудоў, трох вуліц, дваровыя насцілы і агароджы рознай канструкцыі. Звяртае ўвагу надзвычай добрая захаванасць ускрытых пабудоў. Часта сустракаюцца пабудовы, што захаваліся на 6—8 вянцоў, а чатыры з іх захаваліся на 10—12 вянцоў, што ўяўляе сабой неверагодны выпадак у археалагічнай практыцы. Дзякуючы цудоўнай захаванасці выяўлены такія элементы жылля, як дзвярныя і аконныя праёмы, невядомыя на іншых помніках. Захаванасць праёмаў дазваляе прасачыць іх узаемнае размяшчэнне з накірункам насціла падлогі з дошак. Да таго ж у Бярэсці ў вялікай колькасці (30—50 шт.) ускрыты розныя элементы жытла (дзвярныя праёмы, дзверы, печы), што на большасці помнікаў сустракаюцца ў адзінкавых выпадках. Тры паралельныя ўскрытыя вуліцы дазваляюць прасачыць забудову міжвулічнай прасторы, што таксама невядома на іншых помніках. Вялікая даследаваная плошча пры высокай шчыльнасці забудовы дазволіла вызначыць характар забудовы будаўнічых ярусаў і парадак іх забудовы пры адсутнасці дваровай сістэмы забудовы, што таксама невядома па матэрыялах іншых помнікаў.

Усе пабудовы старажытнага Бярэсця падзяляюцца на 13 будаўнічых ярусаў. У склад ярусаў уваходзяць вулічныя маставыя, жылыя і гаспадарчыя пабудовы, дваровыя насцілы, агароджы, што існавалі аднначасова. Чатыры найбольш раннія старажытныя ярусы не мелі вулічных маставых. Не захаваліся яны і на двух пазнейшых.

Шчыльнасць забудовы ў ярусах неаднолькавая. У самых старажытных ярусах, што засталіся ад першапачатковага горада, шчыльнасць забудовы невысокая. На 400 кв. м тут ускрыты 4 пабудовы. У пазнейшых ярусах на той жы плошчы іх колькасць хутка павялічваецца да 8, 10, 12 пабудоў. Пры гэтым агульная плошча, забудаваная ў сярэдзіне XIII ст. жылымі і гаспадарчымі пабудовамі, складае 113 кв. м, а з улікам вулічных маставых — 246 кв. м, г. зн. 59 % ускрытай плошчы. Гэта вельмі высокая шчыльнасць забудовы. У канцы XIII — пачатку XIV ст. колькасць пабудоў у будаўнічым ярусе ўзрастае да 38—39 (агульная плошча пабудоў 393—435 кв. м) на плошчы 1444 кв. м, а з улікам вулічных насцілаў (200—230 кв. м) агульная забудаваная плошча дасягае 630—665 кв. м (44—47 % ускрытай плошчы). Такая высокая шчыльнасць забудовы тлумачыцца невялікай плошчай горада, абароненай абарончы-

мі збудаваннямі і імкненнем насельніцтва сяліцца ўнутры абарончых збудаванняў ва ўмовах пастаянных набегаў на пагранічны горад.

Большасць ускрытых пабудоў мела жыллёвае прызначэнне (71), значна менш — гаспадарчае (21), пабудовы для ўтрымання жывёлы — рэдкая з'ява (7).

Асноўным і практычна адзіным тыпам забудовы Бярэсця была наземная аднакамерная пабудова зрубнай канструкцыі, рубленая ў верхняе «обло с отстатком». Асноўным будаўнічым матэрыялам былі бярвёны дрэў хвойных парод. Толькі 11 пабудоў гаспадарчага прызна-



*Мал. 94. Бярэсце. Забудова будаўнічага яруса IX (фрагмент)*

чэння былі зроблены з дрэў лісцевых парод. Абсалютная большасць пабудоў узведзена з круглых бярвёнаў таўшчынёй 14—17 см і толькі 13 пабудоў — з часаных бярвёнаў. Сярэдняя плошча зрубаў жылых пабудоў — 14—16 кв. м, вельмі мала з іх былі памерам 18—20 кв. м. Сустракаліся і жылыя пабудовы 10—15 кв. м. Гаспадарчыя пабудовы значна менш за жылыя — 8—10 кв. м. Як правіла, пабудовы ўзводзіліся непасрэдна на месцы знаходжання. Аднак ёсць і такія, зрубы якіх рабілі ў іншым месцы, вянцы іх адзначалі насечкамі, пасля чаго зрубы разбіралі, перавозілі на пастаяннае месца і збіралі з адзначаных бярвёнаў (П-6, П-53 А, П-7). Хутчэй за ўсё абсалютная большасць пабудоў была аднапавярховай. Толькі ў адным выпадку можна меркаваць аб існаванні пабудовы 39-Д на падклецці.




| Пабудова | Прызначэнне | Печ | Год |
|---|---|---|---|
| 60А | Н | | |
| 59А | Ж | Кц | 1256 |
| 85А | Х | | 1247-1254 |
| 48А | Х | | 1303-1304 |
| 86 | Х | | |
| 47Б | Ж | | |
| 46А | Ж | | |
| 72 | Кл | | 1284 |
| 33 | Ж | | |
| 32А | Ж | | |
| 34А | Ж | | |
| 24 | Х | | |
| 22 | Кл | | |
| 23 | Ж | | |
| 31А | Ж | | |
| 36 | Ж | | |
| 17А | Н | | |
| 18А | Ж | | |
| 19А | Кл | | |
| 109А | Ж | | СП-VIII |
| 1Б | Х | | |
| 7 | Ж | Кц | СП-VIII |
| 106Б | Ж | | СП-VIII |
| А | Х | | |
| 28Б | Х | | СП-VIII |
| 9 | Ж | | |
| 6 | Ж | | СП-VIII |
| 10 | Ж | | |
| 39В | Ж | | |
| 38В | Ж | | |
| 37В | Ж | | |
| 110 | Ж | | |
| 40А | Ж | | |
| 41Б | Ж | | |
| 111 | Ж | | |
| 113 | Н | | |
| 20 | Ж | | |

*Мал. 95. Бярэсце. Забудова будаўнічага яруса IX (план)*

У забудове Бярэсця выяўлена высокая стабільнасць. Вулічныя маставыя займаюць адно і тое ж месцазнаходжанне на працягу каля паўтара стагоддзя і зменьваюцца новымі ярусамі шэсць разоў. Пабудовы таксама ўстойліва займаюць адно і тое ж месца і змяняюць адна другую да сямі разоў (П-39 Д). Па гэтай прычыне своеасаблівым грунтам для новых пабудоў найчасцей служылі рэшткі папярэдніх. У выпадку, калі не супадала месцазнаходжанне старой і новай пабудоў, пад вуглы новай змяшчалі кароткія падкладкі з бярвёнаў (П-15). У асобных выпадках рэшткі папярэдніх пабудоў перакрывалі накатам з бярвёнаў (пабудовы № 17, 5, 23, 21) або насцілам з дошак (П-14). Пры ўзвядзенні пабудовы на новым месцы на вуглы звычайна ўкладалі падкладкі з бярвёнаў (а часам і пад сцены). Апора-слуп адзначана толькі ў адным выпадку. Зрэдку ўжывалі ніжнія вянцы з дуба (пабудовы № 7, 75).

У большасці жылыя і гаспадарчыя пабудовы мелі падлогі з дошак, укладзеныя на 2—3 лагах, урубленых скразной урубкай. Дошкі падлогі насцілалі як перпендыкулярна, так і паралельна сцяне з дзвярным праёмам.

Цікавейшым аб'ектам вывучэння з'яўляюцца дзвярныя праёмы ў пабудовах Бярэсця. Яны выяўлены ў 35 пабудовах 2—10 будаўнічых ярусаў, якія датуюцца XII—XIV стст.

Як правіла, іх вырубалі ў 3-м і 4-м вянцах пабудовы, аднак ёсць і з 2-га і з 5-га вянцоў. У пабудовах, якія захаваліся на 11—12 вянцоў, дзвярныя праёмы прарубленыя з 4-га па 11-ы вянец (пабудова № 6) і з 3-га па 10-ы (пабудова № 39 ), г. зн. на сем вянцоў, што дае вышыню праёма каля 105 см. Шырыня праёмаў ад 0,53 м да аднаго метра, аднак часцей — ад 0,63 да 0,89 м. Ва ўсіх пабудовах дзверы адкрываюцца ўнутр памяшкання, а гняздо пад пяткай дзвярэй — як з левага, так і з правага боку.

Па канструкцыі праёмы адносяцца да чатырох тыпаў. У праёме 1-га тыпу паз у $^1/_4$ вырабляўся знутры пабудовы, у канцах бярвёнаў праёма вырубалі вертыкальны паз, куды ўстаўлялі вертыкальную ўшчыльняльную дошку, якая адначасова фіксіравала канцы бярвёнаў ад зрушэння. У праёме 2-га тыпу канцы бярвёнаў, звужаныя на клін, фіксаваліся ў пазе вушака, які надзявалі на ніжняе бервяно праёма, а на вырублены ганак прыбівалі дадатковую дошку-ганачак. У праёме 3-га тыпу на счасаную паверхню ніжняга бервяна праёма ўкладалі тоўстую плаху-ганачак са счасанымі канцамі, у якія заходзілі скошаныя канцы тоўстых бакавых вушакоў. Іншы раз ніжні ганачак запускалі пад бакавыя бярвёны праёма (другі варыянт). У праёме 4-га тыпу ганачак у выглядзе асобнага бервяна даўжынёй 0,7 м вырубленымі канцамі ў выглядзе ластаўчынага хваста надзявалі на скошаныя бярвёны бакавога праёма. Часцей за ўсё сустракаўся праём 1-га тыпу (21 раз), радзей — 2-га тыпу (4 разы), 3-га тыпу (6 разоў) і 4-га тыпу (1 раз). Сапраўдная вышыня праёма вызначаецца па знаходках дзвярэй. У пластах канца XII — пачатку XV ст. знойдзена звыш 30 дзвярных палотнаў вышынёй галоўным чынам (80 %) ад 73 да 98 см. Сярэднія па памерах (108—112 см) складаюць 28 %. Вышэй сярэдніх памераў знойдзена толькі двое дзвярэй (127 і 147 см). Шырыня дзвярнога палатна павінна вызначацца па шырыні дзвярнога праёма. Абсалютная большасць дзвярэй складаецца з 2—

З дошак, змацаваных («сшытых») у адзінае дзвярное палатно шыпам «у іглiцу». Але сустракаюца і дзверы з адной шырокай дошкі. Нярэдка дзвярныя палотны маюць шыпы, размешчаныя з аднаго боку ў вертыкальнай плоскасці, якімі яны мацаваліся ў гнёздах верхняга і ніжняга бярвёнаў праёма.



*Мал. 96. Бярэсце. Дзвярныя праёмы пабудоў № 6, 9, 7, 16*

Унікальнай з'явай у старажытнарускай драўлянай архітэктуры з'яўляецца выяўлены ў пабудове № 109А аконны праём. Ён вырублены ў 1,25 м ад паўночна-заходняга вугла ў паўночнай, бакавой ад уваходу, сцяне ў дзесятым знізу вянцы, мае прамавугольную форму даўжынёй 40 см, праходзіць праз 11-й і 12-й вянцы і перакрыты бервяном 13-га вянца. Такі ж праём даўжынёй 60 см быў вырублены ў 9-м і 10-м вянцах пабудовы № 6 і перакрываўся звонку дошачкай-засоўкай (з рукаяццю), якая перасоўвалася ў рамцы з дошачак, прышытых да зруба драўлянымі цвікамі.

Адным з асноўных элементаў драўлянага жылля былі печы. Іх рэшткі выяўлены ў 57 пабудовах Бярэсця. У 39 пабудовах расчышчаны глінабітныя печы, якія мелі памеры 0,8×1 м; 0,85×1,3 м; 1,2×1,4 м; 1,4×1,4 м; 1,4×1,5 м; 1,8×1,8 м. Значна менш ускрыта печаў з выкарыстаннем цэглы (5). Яны з'яўляюцца толькі ў канцы XIII ст. Выяўлены тры печы, у якіх гліняны под перакрываў каменную вымастку. Глінабітныя печы ўзводзіліся ў вугле ля ўваходу, зверху глінянай падушкі, замацаванай каркасам з калоў і перакрытай драўляным насцілам з дошак або плах. Зверху насціла ўкладвалі пласт гліны, іншы раз — цагляны под. Грунт печы змацоўваўся дошкамі з кутнім слупом-апечкам.

У раскопе выяўлена шмат самцоў даўжынёй да 2,37 м, са скосам абодвух вуглоў ад 30° да 43° і чашкамі для слег-зволак. Значыць, дах быў двухсхільны, невысокі, на слегах-зволаках, з франтонам, зашытым самцамі. У Бярэсці знойдзена 12 «какошын» даўжынёй ад 0,7 да 1,56 м, з рознай адлегласцю паміж вырубленымі зарэзамі. Гэта сведчыць аб тым, што дах быў дранкавы і выступаў за межы сцяны на розную даўжыню звеса.

Раскопкі Бярэсця далі шмат звестак аб планіроўцы старажытнага горада. Асноўным элементам, арганізуючым планіроўку і забудову Бярэсця, былі вулічныя маставыя. У Бярэсці выяўлены тры вуліцы, умоўна названыя паўночнай, цэнтральнай і паўднёвай. Усе яны ўзводзіліся паводле адной тэхнічнай схемы — насціл з тоўстых колатых сасновых (зрэдку — лісцевых) дошак шырынёй 2,8—3,4 м укладаўся на тры



*Мал. 98. Бярэсце. Цэнтральная вуліца*

прадольныя лагі, якія ў сваю чаргу абапіраліся на папярэчнае бервяно-падкладку. Вуліцы ідуць галоўным чынам у напрамку з усходу на захад, іх усходнія канцы маюць паварот у сустрэчным накірунку. Відаць, за ўсходнім краем раскопу яны аб'ядноўваюцца ў адну вуліцу, якая вядзе да выязных варот з дзядзінца. Вуліцы займаюць стабільнае месцазнаходжанне і на працягу XIII—XIV стст. іх новыя ярусы змяняюць адзін другога на адным і тым жа месцы. Паўднёвая і паўночная вуліцы змяніліся на 6 ярусаў, цэнтральная — ускрыта да 3-га яруса.

Пабудовы стаялі ўшчыльную да вуліц і арыентаваліся па іх напрамку. Прастора паміж паўночнай і цэнтральнай вуліцамі забудавана 2—3 радамі пабудоў, а прастора паміж цэнтральнай і паўдневай вуліцамі — у 4 рады. Усе пабудовы выходзілі на вуліцы глухімі тыльнымі сценамі.

Дзвярныя праёмы ў пабудовах звернуты ў процілеглы ад вуліцы бок у радах, што выходзілі на вуліцу, і, наадварот, у бок вуліц ва ўнутраных радах.

Ва ўмовах шчыльнай забудовы, калі асобныя пабудовы практычна стаялі поруч адна з другой, у Бярэсці адсутнічала сядзібная, дваровая, забудова горада. Толькі ў адным выпадку да пабудовы № 59 А далучаўся агароджаны тынам невялікі дворык з навесам для жывёлы. У асобных выпадках уздоўж вуліц праходзілі частаколы, з агароджаў выяўлены тыны і агароджы з жэрдак, а ў адным выпадку выўлена моцная агароджа з дубовых колатых плах, укапаных уздоўж усходняга ўчастка галоўнай вуліцы. Са сродкаў добраўпарадкавання ў Бярэсці варта адзначыць насцілы з дошак у праходах паміж пабудовамі і перад уваходам у іх.

На працягу шматгадовых археалагічных даследаванняў (у асноўным у пасляваенны час) гарадоў раннефеадальнага перыяду на тэрыторыі Беларусі атрыманы шматлікія матэрыялы па грамадзянскаму масаваму драўлянаму дойлідству старажытнай Русі, якія даэваляюць уявіць знешняе аблічча старажытных гарадоў і ўмовы, характэрныя асаблівасці побыту гараджан.

Рэшткі жылых і гаспадарчых збудаванняў ускрыты ў 15 старажытных гарадах Беларусі (Ваўкавыск, Віцебск, Гродна, Давыд-Гарадок, Мінск, Навагрудак, Полацк, Слуцк, Слонім, Мсціслаў, Браслаў, Бярэсце, Друцк, Пінск, Тураў). У гэтых гарадах выяўлены рэшткі звыш 650 жылых і гаспадарчых пабудоў. Абсалютную большасць з іх складаюць наземныя аднакамерныя зрубныя пабудовы, рубленыя ў верхняе «обло с остатком».

**Планіроўка.** Узаемнае размяшчэнне пабудоў сумесна з дадзенымі да іх канструкцыямі дае магчымасць рэканструяваць планіроўку і знешні выгляд гарадоў, умовы штодзённага жыцця і побыту насельніцтва. Асноўным элементам планавання раннефеадальных гарадоў, рэгулюючым іх забудову, былі вулічныя маставыя. Яны выяўлены ў раскопах Гродна, Давыд-Гарадка, Мінска, Полацка, Віцебска, Слуцка, Слоніма, Мсціслава, Бярэсця, Друцка, Пінска. Яны практычна ва ўсіх гарадах мелі аднолькавае збудаванне: шчыльны насціл з тоўстых колатых дошак дрэў хвойных парод (вельмі рэдка лісцевых) у папярэчным напрамку зверху 2—3 лаг, пакладзеных уздоўж па напрамку вуліцы. Ва ўмовах выключна хуткага росту культурнага пласта ў асобных гарадах пад лагі падкладалі ў папярэчным напрамку бярвёны (Бярэсце, Давыд-Гарадок, Слуцк, Віцебск).

Напрамак вулічных маставых вызначаў планіроўку забудовы старажытных гарадоў. Вызначаць яе ўдаецца далёка не заўсёды ў сувязі з абмежаванасцю раскопу і ўскрытых участкаў вулічных маставых. Для вызначэння планіроўкі неабходна выявіць узаемнае размяшчэнне вуліц. Як можна меркаваць паводле выяўленых матэрыялаў, прамавугольная забудова з перакрыжаваных вуліц была выяўлена ў Гродне, Віцебску, Слоніме, Слуцку, Мсціславе, Друцку. Размяшчэнне вуліц у Мінску можна назваць галінкавым або веерным. На вакольным горадзе старажытнага Пінска была радыяльна-кругавая сістэма. У Бярэсці ўскрыта сістэма трох паралельных вуліц, якія, найбольш верагодна, злучаліся ў адну вуліцу. У такім выпадку, як і ў Мінску, відавочная галінкавая або веерная планіроўка.

**Забудова.** Забудова старажытных гарадоў Беларусі істотна адрозніваецца. У Мінску і Полацку выяўлена сядзібная (дваровая) забудова ўскрытых участкаў. У Мінску сядзіба агароджвалася штыкетнікам, займала плошчу 220—240 кв. м і ўключала 1—2 жылыя пабудовы і 5—6 гаспадарчых. У Полацку назіраюцца элементы пагоннага двара.

У Пінску таксама выяўлены ўчасткі двух двароў.

Аднак у гарадах з вялікай шчыльнасцю забудовы (Бярэсце, Гродна, Давыд-Гарадок), дзе асноўную масу пабудоў складалі жылыя і значна менш было пабудоў гаспадарчых і для жывёлы, відавочна, умоў для будаўніцтва і агароджвання сядзіб не было, і таму яны не адлюстроўваюцца ў археалагічных матэрыялах. Відаць, гэтыя гарады былі забудаваны жылымі пабудовамі, а гаспадарчыя, магчыма, у асноўным размяшчаліся за межамі горада.

Забудова старажытных гарадоў адзначалася высокай стабільнасцю, пры якой вулічныя маставыя і жылыя пабудовы зноў узводзіліся на месцы папярэдніх на працягу стагоддзяў і змяняліся за час існавання многіх будаўнічых ярусаў.

Для планіроўкі беларускіх гарадоў характэрна размяшчэнне пабудоў, шчыльна ўзведзеных ля самых маставых. Ва ўмовах сядзібнай забудовы (Мінск, Полацк, Пінск) частка гаспадарчых пабудоў узводзілася ў сярэдзіне двара, далей ад вуліцы.

Улічваючы адзначанае вышэй, абапіраючыся на матэрыялы археалагічных даследаванняў, можна канстатаваць, што забудова старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі адбывалася асэнсавана, з улікам канкрэтных асаблівасцей месцазнаходжання і індывідуальных магчымасцей кожнага горада (рэльеф мясцовасці, эканамічнае развіццё і г. д.). Забудова была стабільнай, рэгулявалася вулічнай сістэмай, таму гаварыць аб з'явах выпадковасці, бессістэмнасці ў забудове няма падстаў.

Асноўным тыпам масавага цывільнага драўлянага дойлідства былі наземныя аднакамерныя аднапавярховыя пабудовы зрубнай канструкцыі. У гэтай тэхніцы ўзводзілася абсалютная большасць жылых і гаспадарчых пабудоў. Зрубы пабудоў рабілі з дрэў хвойных парод і, як выключэнне, гаспадарчыя пабудовы тыпу свірна — з дрэў лісцевых парод (Бярэсце, Тураў, Віцебск, Полацк). Гаспадарчыя пабудовы ўзводзілі з больш тонкага лесу, зрубныя, як правіла,— з круглага лесу і толькі зрэдку сустракаюцца пабудовы з вянцамі, счасанымі з абодвух бакоў. Зрубы рубілі ў просты вугал (у абло, у чашку) з вырубкай ушчыльняльнай канаўкі і злучальнай чашкі з верхняга боку бервяна. У якасці ўшчыльняльнага матэрыялу часта выкарыстоўвалі мох. У Навагрудку пазы паміж бярвёнамі прамазваліся глінай.

Жылыя пабудовы ў Паўднёвай Беларусі мелі звычайна квадратную форму і памеры 3,6×3,6; 3,8×3,8 м. Плошча іх складала 11—14 кв. м. Пабудовы памерам 4×4 м ужо лічыліся вялікімі, а самай буйной пабудовай была пабудова № 39 В старажытнага Бярэсця, якая мела памеры 6×6 м. Такіх жа памераў былі пабудовы Бярэсця, Давыд-Гарадка, Турава, Пінска, Гродна, Слуцка. Значна большым было жыллё ў Полацку і Віцебску (4,5×4,5 м; 5×5 м). Асабліва варта адзначыць буйныя (6×10 м) пабудовы заможных гараджан Навагрудка, асобныя з якіх былі атынкаваны і распісаны фрэскамі.

## 2. РЭЧАВЫ ІНВЕНТАР

Раскопкі гарадоў Беларусі далі багаты рэчавы матэрыял, які разам з іншымі крыніцамі характарызуе іх высокую матэрыяльную і духоўную культуру. У калекцыях адных гарадоў (Навагрудк, Ваўкавыск, Барысаў, Лагойск, Клецк, Рагачоў, Лукомль і інш.), культурны пласт якіх дрэнна ці зусім не захоўвае прадметаў арганічнага паходжання, прадстаўлены вырабы з чорных і каляровых металаў, гліны, косці, каменя і бурштыну. У зборах другіх (Полацк, Мінск, Тураў, Брэст, Гродна, Віцебск, Слонім, Пінск, Давыд-Гарадок і інш.), у культурным пласце якіх арганічныя рэчывы захоўваюцца добра, разам з гэтымі вырабамі сустракаюцца прадметы з дрэва, скуры і тканіны.

Найбольш шматлікую групу знаходак (пасля керамікі) складаюць вырабы з жалеза. Сярод іх ёсць прадметы (цвікі, скобы, кольцы, дужкі, кручкі і інш.), выраб якіх быў даступны кожнаму кавалю. Для вытворча-




*Мал. 99. Жалезаапрацоўчыя інструменты: 1—3, 14 — клешчы; 4—6, 19 — прабойнікі; 7, 9, 13 — зубілы; 8 — складны вымяральны (?) інструмент; 10, 11 — пінцэты; 12, 16, 20 — малаткі; 15 — напільнік; 17 — цвікарня (?); 18 — кавадлачка; 21 — кавальскі молат (1, 19 — Давыд-Гарадок; 2, 8, 18, 20 — Друцк, 3, 16 — Полацк; 4, 5, 7 — Ваўкавыск; 6, 10, 17 — Мінск; 9, 14, 21 — Брэст; 11 — Пінск; 12, 15 — Гродна, 13 — Навагрудак)*

сці іншых (спружынныя замкі, прылады працы з навaранымі рабочымі краямі, прадметы ўзбраення і інш.) патрабаваліся спецыяльныя веды, высокі ўзровень майстэрства, дастатковая спецыялізацыя.

**Рамесны інструментарый.** У Брэсце ў слоі XII ст. знойдзены кавальскі молат у выглядзе прамавугольнай ў сячэнні жалезнай балванкі вышынёй 11 см, шырынёй 5—7 см, таўшчынёй 2,8—5 см, вагой 2,5 кг. У яго круг-

лая, дыяметрам 3—3,2 см, адтуліна для ручкі і моцна расплясканая ўдарная ніжняя частка. У Полацку, Мінску, Брэсце, Друцку і Давыд-Гарадку знойдзены шарнірныя кавальскія клешчы. У Давыд-Гарадку знойдзены клешчы двух відаў: вялікія, даўжынёй каля 40 см, з выцягнутымі губамі і меншыя, даўжынёй каля 30 см, з круглымі губамі. Апошнія, відаць, выкарыстоўваліся для слясарных работ. У абодвух відаў чатырохвугольныя з патоўшчанымі канцамі ручкі.

Даволі часта ў гарадскіх слаях трапляюцца прабойнікі, што прымяняліся для прабівання адтулін у нагрэтым метале, і зубілы, якімі яго секлі. Прабойнікі маюць выгляд масіўных стрыжняў круглага ці прамавугольнага сячэння з круглымі ці прамавугольнымі завостранымі канцамі. Даўжыня прабойнікаў вагаецца ад 5 да 20 см. Зубілы ўяўляюць сабой прамавугольныя ў сячэнні (зрэдку з закругленымі вугламі) стрыжні з ударнай пляцоўкай на адным канцы і плоскім (часам скошаным на адзін бок) лязом на другім. Даўжыня зубілаў 5—9 см. У Брэсце знойдзена зубіла ў выглядзе масіўнай рыдлёвачкі, стрыжань якой пры сечцы металу ўстаўляўся ў гняздо кавадла. Даўжыня зубіла 8,5 см, даўжыня стрыжня 3,5 см, шырыня ляза 2 см.

Да кавальскага інвентару ўмоўна можна аднесці дзве знойдзеныя ў Мінску жалезныя палоскі з вялікімі круглымі адтулінамі на адным канцы і дзвюма невялікімі адтулінамі (у адной круглымі, у другой квадратнымі) у сярэдняй частцы. Магчыма, гэта цвікарні, што прызначаліся для вырабу цвікоў.

Значна багацей у параўнанні з кавальска-слясарным прадстаўлены дрэваапрацоўчы інструментарый. Тут усе віды інструментаў, што былі ва ўжытку ў старажытнай Русі і суседніх краінах. Гэта сякеры, цёслы, долаты, пілы, скоблі, свердзелы, стругі, такарныя разцы, разцы-лыжкары, цыркульныя разцы, уторныя пілкі, інструменты для цяслярскай разметкі.

Асноўнай і найбольш універсальнай прыладай апрацоўкі дрэва была сякера. У Ваўкавыску знойдзена 35 сякер, у Мінску — 17, Полацку — 9, Брэсце — 8. У сякер, што знойдзены ў слаях XI—XII стст., звычайна масіўнае, шырокае, апушчанае лязо э выемкай і правушны абух э адным (унутраным) ці двума (унутраным і вонкавым) выступамі. У сякер XIII—XIV стст. лязо больш вузкае, нярэдка сіметрычнае і аблегчаны абух.

Цёслы, што прымяняліся для выемкі паглыбленняў у вялікіх драўляных вырабах (чоўны, карыты, каўшы і інш.), сустракаліся двух тыпаў: правушныя (Мінск, Гродна, Брэст, Віцебск) і ўтулкавыя (Полацк, Мінск, Ваўкавыск). Правушныя цёслы падобныя на матыкі. Адрозніць іх можна далёка не заўсёды. Правушныя цёслы насаджваліся на прамыя ручкі. Ва ўтулкавых цёслаў яны былі каленчатыя. На доўгія прамыя ручкі насаджваліся толькі масіўныя ўтулкавыя цёслы, якімі дзяўблі лясныя борці (Колчин, 1959. С. 31).

Усе долаты аднаго тыпу: масіўныя металічныя стрыжні прамавугольнага сячэння даўжынёй ад 13 да 32 см, з лязом на адным канцы і абухом — на другім. Рабочы канец зрэдку крыху шырэйшы за асноўны стрыжань. У адных экземплярах стрыжань паступова пераходзіць у лязо, у другіх (такіх большасць) ён скошаны на адзін бок.




*Мап 100 Дрэвaапрацоўчы інструментарый 1—4, 14 — разцы, 5 — уторная піпка, 6, 7, 22, 25 — свердзелы, 8 — стамеска, 9, 10 — долаты, 11, 23—24, 27 — скоблі, 12, 13 — піпы, 15, 16, 20, 21 — цеслы, 17, 19, 26 — сякеры, 18 — рашпіль (?) (1, 11, 14 — Заслаўе, 2—4, 6, 9, 10, 12, 16, 20, 25 — Ваўкавыск, 5 — Давыд-Гарадок, 7, 15, 17, 21, 23, 24 — Мінск, 8 — Гродна, 13, 18 19 — Друцк 22, 26, 27 — Попацк)*

У Ваўкавыску, Друцку, Мінску знойдзены пілы. У Ваўкавыску і Друцку знойдзены абломкі палатна аднаручных піл-нажовак. Шырыня палатна 2,6 і 3,0 см. Зуб мае форму раўнабедранага трохвугольніка. Развод звычайны: адзін зуб адведзены ўправа, другі — улева. У Ваўкавыску і Мінску сустрэліся абломкі піл шырынёй 1,3 і 1,6—1,8 см. Зубы не разведзены. Відаць, гэта абпомкі лучковых піл, палотны якіх нацягваліся ў спецыяльныя драўпяныя рамы. Яны ўжываліся як для апрацоўкі дрэва, так і косці. Лучковыя пілы вядомы па раскопках Ноўгарада, Старой Разані, Райкавецкага гарадзішча і іншых помнікаў (Колчин, 1955. С. 108; Гончаров, 1950. С. 123).

У Полацку, Брэсце, Ваўкавыску, Мінску, Гродне, Пінску знойдзены свердзелы. Канструктыўна яны падзяляюцца на два тыпы: пяропадобныя і спіральныя. Пяропадобныя свердзелы ўяўляюць сабой металічны стрыжань, у верхняй частцы якога маецца плоскі чаранок для мацавання драўлянай ручкі. Ніжні рабочы канец мае лыжкападобнае лязо з дзвюма вострымі рэжучымі гранямі. Такімі свердзеламі можна было свідраваць і пры руху ўправа і пры руху ў адваротны бок. У ніжняй частцы спіральных свердзелаў замест лыжкападобнага ляза была спіраль у адзін-два абароты.

Усе знойдзеныя скоблі канструктыўна аднатыповыя. Гэта дугападобныя і ножападобныя лёзы з папярочнымі ручкамі на канцах. У знойдзеных у Мінску і Брэсце стругаў у адрозненне ад скобляў лязо прамое, а ручкі перпендыкулярна да ляза (Мінск) ці паралельна яму (Брэст).

У Мінску ў слоі сярэдзіны XII ст. знойдзены жалезны разец ад токарнага станка па дрэве. У яго масіўная прамавугольная ў канцавой частцы ручка і плоскае крута выгнутае кручкападобнае лязо. У адрозненне ад мінскага разцы, знойдзеныя ў іншых гарадах (Полацк, Ваўкавыск, Давыд-Гарадок і інш.), маюць больш тонкія і кароткія ручкі. Гэта ручныя разцы (лыжкары). Яны бываюць як з двухбакавым, так і аднабакавым лязом.

У Слоніме і Пінску знойдзены разцы для нанясення цыркульнага арнаменту. Гэта прамавугольныя ў сячэнні стрыжні, ніжняя рабочая частка якіх патончаная, крыху пашыраная і заканчваецца двухзубым (Слонім) ці трохзубым (Пінск) вастрыём. Слонімскім разцом наносіўся арнамент, які складаўся з круга з кропкай пасярэдзіне, пінскім — двух канцэнтрычных кругоў і кропкі.

У Давыд-Гарадку знойдзена бандарная (уторная) пілкая, якая прызначалася для выбару пазоў (утораў) у клёпках бандарнага посуду, куды ўстаўляліся донцы. Яна мае форму выцягнутай трапецыі, на больш шырокай (2 см) аснове якой нарэзаны зубы. Даўжыня пілкі 10 см.

Інструменты, што ўжываліся ў ювелірнай справе, найбольш багата прадстаўлены ў Навагрудку. Тут знойдзены ювелірныя малаткі і кавадлы, нажніцы для рэзкі металу, абцугі, пінцэты, штампікі. Ювелірныя пінцэты выяўлены ў Мінску, Тураве, Пінску, Брэсце і іншых гарадах.

Металічныя срыжні ад спецыялізаванага інструменту для кастарэзнай справы — лучкавага свердзела знойдзены ў Пінску і Ваўкавыску. У іх сярэдняй частцы маецца плоскі шчыток, на які надзявалася прывадная катушка.

**Сельскагаспадарчыя і прамысловыя прылады** складаюць асобую групу знаходак. Земляробчыя прылады пададзены наканечнікамі вупражных прылад для ўзворвання, акоўкамі рыдлёвак, матыкамі, сярпамі.

У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзены наканечнік беспадэшвеннага рала. Ён вельмі спрацаваны. Агульная даўжыня была роўная прыкладна 17 см. Трубіца авальнай формы. Амаль ва ўсіх гарадах, дзе адбываліся раскопкі, знойдзены сашнікі. Разам з сіметрычнымі сустрэліся і асіметрычныя наканечнікі. Сіметрычныя наканечнікі належалі, відаць, шырока распаўсюджаным у лясной паласе Усходняй Еўропы шматзубым сохам, якія прызначаліся для рыхлення верхняга слоя глебы. Асіметрычныя наканечнікі належалі двухзубым сохам — найбольш дасканалым прыладам апрацоўкі стараворных, абложных і цалінных зямель. Некаторыя двухзубыя сохі, магчыма, мелі прыстасаванні (паліцы) для адвальвання пласта (Кирьянов, 1959. С. 346—350; Довженок, 1961. С. 90).

Жалезныя акоўкі для драўляных землярыйных рыдлёвак, што прымяняліся ў асноўным на агародных работах, знойдзены ў Брэсце, Мінску, Полацку, Гродне, Навагрудку, Ваўкавыску і іншых гарадах. У Брэсце сустрэлася шэсць такіх аковак. Яны маюць сіметрычную авальную ці прамавугольную форму. У некаторых аковак па краях маюцца адтуліны для заклёпак, з дапамогай якіх мацаваліся да драўлянай асновы. Аднак у большасці адтулін няма, відаць, яны мацаваліся шчыльнай прыгонкай да лопасці.

Пры раскопках шмат якіх гарадоў (Мінск, Брэст, Лагойск, Лукомль і інш.) знойдзены матыкі, якія, як і рыдлёўкі, ужываліся для агародных работ. Як ужо адзначалася, па знешнім выглядзе матыкі і правушныя цёслы цяжка адрозніваць. На думкуа П. Ф. Лысенкі, матыкі маюць значна меншыя правушыны для ручак, крыху іншыя прапорцыі. Асноўнай адрозніваючай прыкметай цёслаў з'яўляецца наяўнасць у іх наварных стальных лёзаў (Лысенко, 1985. С. 346).

Даволі шматлікія знаходкі сярпоў, на жаль, пераважна ў абломках. У Мінску іх знойдзены 21 экземпляр, у Брэсце — 20, у Ваўкавыску — 12. Большасць мінскіх сярпоў мае насечкі на лязе. Сярпы з Брэста падзяляюцца на дзве групы, што адпавядаюць розным храналагічным перыядам. Сярпы больш ранняга перыяду (да XIV ст.) адрозніваюцца невялікімі памерамі, шырокім лязом, крутым выгібам у канцавой частцы ляза і адносна вялікім вуглом адгіну ручкі. Для сярпоў больш позняга перыяду характэрна масіўнае вузкае лязо з плаўным выгібам (найбольшая вышыня дугі ляза знаходзіцца пасярэдзіне) і крутым адгінам ручкі (Лысенко, 1985. С. 347—348). Большасць сярпоў з Ваўкавыска мае невялікія памеры (адлегласць па прамой ад пачатку ляза да чаранка роўная прыкладна 24—27 см), палогую пачатковую частку ляза і даволі круты выгіб у канцавой яго частцы (Зверуго, 1975. С. 86). У Полацку ў слоі сярэдзіны XIII ст. знойдзены складны серп, лязо якога мае кароткую калодачку, што заканчваецца вушкам. Каля вушка жалезны штыфт, на якім шарнірным спосабам мацавалася ручка (Штыхов, 1975. С. 98).

Радзей, у параўнанні з сярпамі, у гарадскіх слаях сустракаюцца косы (у Мінску — 5, Брэсце — 8, Ваўкавыску — 17). Усе косы адносна невялікія па памерах (даўжыня не больш 40—50 см) і даволі шырокія (4—5 см). Чаранок невялікі і адагнуты крута.

У Ваўкавыску знойдзены абломак званочка, які падвешваўся на шыю жывёліне.

У якасці **паляўнічай зброі** магла выкарыстоўвацца большасць знойдзеных пры раскопках жалезных наканечнікаў стрэл і коп'яў. І ў ваеннай справе, і на паляванні выкарыстоўваліся сякеры і масіўныя доўгія нажы. Спецыфічнай паляўнічай зброяй з'яўляліся касцяныя наканечнікі стрэл з тупым канцом. Яны ўжываліся для палявання на дробных пушных звяроў. Такія стрэлы забівалі звярка і не псавалі шкурку.

**Рыбалоўныя прылады** ўключаюць кручкі, блешні, гарпуны, восці. Найбольш значная калекцыя рыбалоўных кручкоў у Ваўкавыску — 29 экземпляраў. Яны разнастайныя па велічыні і форме. Даўжыня вагаецца ад 3,5 да 13,5 см, дыяметр дугі ад 1,0 да 4,1 см. У некаторых кручкоў на канцы вастрыя няма зубца (джала) для падсякання рыбы, у другіх няма вушка (пятлі) для прывязвання лескі. Замест пятлі ў асобных экземпляраў канец стрыжня патоўшчаны ці заканчваецца пашырэннем у выглядзе лапатачкі. У Брэсце ў слаях XIII ст. знойдзены тры рыбалоўныя блешні. Адна выраблена з медзі, дзве — з чорнага металу. Усе яны маюць выгляд авальных, злёгку выгнутых пласцін, ніжні канец якіх пераходзіць у кручок. У верхнім канцы ёсць адтуліна для металічнага кальца, да якога прывязваўся павадок снасці. Аналагічныя ці падобныя па знешнім выглядзе блешні сустрэліся ў Полацку, Мінску, Тураве, Ваўкавыску, Лукомлі. Іх даўжыня вагалася ад 7,6 да 14 см, шырыня лопасці — 1,8—2,9 см.

Колючыя рыбалоўныя прылады пададзены гарпунамі і восцямі. Гарпуны — гэта масіўныя стрыжні даўжынёй да 30 см і больш, рабочы канец якіх заканчваецца адным ці двума нажападобнымі лёзамі — зубамі, а процілеглы — загібам для мацавання прылады да дрэва. Зрэдку стрыжні гарпуноў перакручаныя. Знойдзены ў Гродне, Мінску, Брэсце, Навагрудку, Ваўкавыску. Восці былі складанымі, шматзубымі. Асобныя стрыжні — зубы (як аднашыпныя, так і двухшыпныя) знойдзены ў Мінску, Навагрудку, Тураве, Ваўкавыску і іншых гарадах. Адны з іх каля канца, які ўстаўляўся ў дрэва, маюць ўпор. Іншыя мацаваліся да дрэва з дапамогай загіба. Разам з прамымі сустрэліся каленчатыя стрыжні.

Спецыяльныя прылады рыбалова ў зімовы час — пешні знойдзены ў Ваўкавыску і Брэсце. Ваўкавыская пешня мае даўжыню 27,8 см, дыяметр утулкі — 4,8 см, шырыня рабочага краю — 2,2 см. Памеры брэсцкага наканечніка: даўжыня 27 см, дыяметр утулкі 3,5 см, шырыня рабочай часткі 2,0 см. Мяркуючы па этнаграфічных матэрыялах, беларускія сяляне выкарыстоўвалі пешні для выўдзёўбвання борцей (Сержпутовский, 1914. С. 14. Рис. 7).

Акрамя кручковай снасці і колючых прылад для лоўлі рыбы выкарыстоўвалі сеткі і розныя драўляныя пасткі. У Полацку ў пабудове XIII ст. знойдзены рэшткі невада. У Мінску, Друцку, Полацку, Віцебску і іншых гарадах неаднаразова сустракаліся паплаўкі з сасновай кары ці бярosты, гліняныя грузілы для сетак.

**Прадметы пабытовага прызначэння.** Сярод гэтай групы знаходак найбольш шматлікія нажы, якія з'яўляюцца самымі універсальнымі і распаўсюджанымі прыладамі працы. У Ваўкавыску іх знойдзена 621 эк-




Мал 101 Прадметы побытавага прызначэння 1—7 — шпількі, 8—13 — нажы, 14—17 — нажніцы, 18—21 — спражкі, 22 — вушка (1—3 — Брэст, 4—6, 8—11, 13 18—21 — Ваўкавыск, 7 — Тураў, 12, 17, 22 — Навагрудак, 14—16 — Мінск)




*Мал 102 Жалезныя вырабы· 1—7, 9—11, 19 — замкі, 8, 12, 14 — дужкі замкоў, 13 — дзвярное кальцо, 15 — дзвярны кручок, 16—18, 20—22 — ключы (1, 8, 12, 14, 18 — Брэст; 2 — Тураў, 3 — Слуцк, 4, 6 — Мсціслаў, 5, 8—11, 21, 22 — Мінск, 7 — Гомель, 13, 15, 16, 20 — Пінск, 17 — Ваўкавыск, 19 — Гродна)*

земпляр. У Навагрудку — 154, Полацку — 116, Брэсце — звыш 100 экземпляраў. Найбольш раннія (IX—XI стст.) нажы звычайна невялікіх памераў. Лязо вузкае, спінка шырокая, ручка часам даўжэйшая за клінок. У больш позніх (XII—XIII стст.) лязо, як правіла, ужо даўжэйшае, шырэйшае і танейшае. Разам са звычайнымі гаспадарчымі (кухоннымі і сталовымі) нажамі сустрэліся шавецкія нажы, баявыя, для апрацоўкі дрэва і косці. Клінкі насаджаны на драўляную ці касцяную ручку. У Брэсце і Ваўкавыску знойдзены нажы, цалкам выраблеными з металу (іх ручкі былі выкаваны разам з клінкамі). Два суцэльнаметалічныя нажы з Ваўкавыска з'яўляліся па аналогіі з хірургічным нажом з Ноўгарада лекарскімі інструментамі (ужываліся для ампутацый) (Колчин, 1959. С. 56. Рис. 43). У Мінску і Лукомлі знойдзены клінкі складаных двухлязовых нажоў.

Да ліку універсальных прылад працы адносяцца нажніцы. У раскопках яны сустракаюцца значна радзей (у Ваўкавыску — 29 экз., у Мінску — каля 30 экз., у Брэсце — 7 экз.). Ужываліся нажніцы двух тыпаў: спружынныя (тыпу сучасных авечых) і шарнірныя (дзве палавінкі злучаны рухома шарнірам). Асноўным тыпам былі спружынныя нажніцы. Іх даўжыня вагалася ад 10,4 да 25,5 см. На думку Б. А. Колчына, адрозненне ў памерах нажніц вызначалася іх прызначэннем. Нажніцы малых памераў прымяняліся ў хатнім ужытку, сярэднія мелі гаспадарчае прызначэнне, а вялікія ўжываліся ў кравецкай справе, сукнаваленні і іншых рамёствах (Колчин, 1959. С. 59).

Сярод прадметаў пабытовага прызначэння адной з самых частых знаходак з'яўляюцца вісячыя (здымныя) замкі і дужкі да іх. У Ваўкавыску іх знойдзена 89 экземпляраў, у Брэсце — 74, у Полацку — 25, Мінску — 23 экземпляры. Найбольш раннія замкі (X—XI стст.) мелі цыліндрычны ці кубічны корпус з бакавой Т-падобнай адтулінай для ключа. Ключ у выглядзе маленькай лапатачкі з круглай ці прамавугольнай лопасцю. У больш позніх замкоў (XII—XIII стст.) падоўжная адтуліна для ключа адсутнічае. Ёсць толькі папярочная шчыліна, у якую ўводзілася лопасць ключа, а ў донцы — невялікая адтуліна для яго стрыжня. Ключ робіцца каленчатым. У некаторых замкоў гэтага тыпу пасярэдзіне адтуліны для стрыжня існуе штыфт, які перашкаджае свабоднаму праходу ў адтуліну ключа, на стрыжні якога няма падоўжнага выразу. У XII ст. з'явіліся замкі з прарэззю для ключа толькі ў донцы цыліндра. Яны адмыкаліся плоскімі каленчатымі ключамі. У некаторых замкоў гэтага тыпу маецца штыфт перад адтулінай для ключа. На стрыжні ключа для такіх замкоў рабілася прорэзь, якая паўтарала рысунак штыфта. Акрамя масавых тыпаў у многіх гарадах сустрэліся замкі індывідуальных форм. Корпусы вісячых замкоў пакрывалі рознымі ўпрыгожаннямі: насечкамі, напаянымі меднымі кальцавымі, падоўжнымі і зігзагападобнымі палосамі.

Частай знаходкай з'яўляюцца ключы да вісячых замкоў (у Ваўкавыску знойдзены 54 экз., у Брэсце — 28, у Полацку — 12 экз.). Сістэма і форма ключа вызначаюцца, як адзначалася раней, канструктыўнай схемай і формай замка. Па форме ключа можна ўявіць сабе і форму замка.




*Мал. 103. Ключы: 1—18, 20—22 — ад вісячых замкоў; 19, 23, 25, 27, 28 — ад нерухомых камбінаваных замкоў; 24, 26 — ад куфэрка або шкатулкі (1, 9 — Навагрудак, 2, 5—8, 10, 11, 13, 16, 18, 20, 21, 23, 25—27 — Ваўкавыск, 3, 24, 28 — Лагойск, 4, 19 — Браслаў; 12 — Пінск; 14, 15 — Слуцк; 17 — Тураў, 22 — Давыд-Гарадок)*




*Мал. 104. Крэсівы: 1, 17—20, 22, 30 — Брэст; 2, 3, 10, 11,24 — Ваўкавыск; 4—6, 9, 14—16, 25—27 — Мінск; 7, 13, 28, 29 — Віцебск; 8 — Мсціслаў; 12 — Лукомль; 21, 23 — Гомель*

Разам з вісячымі ўжываліся нерухомыя (унутраныя) замкі. Яны былі двух тыпаў: камбінаваныя (зробленыя з дрэва і металу) і суцэльнаметалічныя. Частка ключоў ад камбінаваных замкоў мае пустацелы стрыжань, які пры карыстанні надзяваўся на спецыяльны штыфт. Ключы для адмыкання суцэльнаметалічных замкоў былі стрыжнявымі.

Акрамя замкоў прымяняліся драўляныя ці металічныя засаўкі-клямкі, якія адчыняліся кручкападобнымі часцей за ўсе выгнутымі ключамі. У раскопках знойдзены ключы ад замкоў для куфраў, шкатулак і інш.

У Полацку, Мінску, Брэсце, Гродне і іншых гарадах знойдзены замочныя накладкі, накладкі пад дзвярныя ручкі, самі ручкі. Некаторыя накладкі ўпрыгожаны насечкамі ці пункцірным арнаментам. Дзвярныя ручкі ў асноўным аднатыповыя — жалезнае кальцо дыяметрам 5—10 см, прасунутае ў жалезны стрыжань ці прабой, якія ўбіваліся ў дошкі.

Крэсівы — прыстасаванні для здабывання агню — даволі частая знаходка ў гарадскіх слаях. Па знешнім выглядзе сярод іх вылучаюцца тры тыпы: калачападобныя (з язычком і без яго), двухлязовыя падоўжана-авальныя і двухлязовыя авальныя. Калачападобныя крэсівы ўжываліся ў X—XII стст. (у Полацку аж да XIII ст.), падоўжана-авальныя — у XII—XIII стст., авальныя — у XIII—XIV стст. і ў наступныя часы. Суадносіны крэсіваў розных тыпаў у асобных гарадах розныя. У Мінску пераважалі падоўжана-авальныя (9 з 14), а ў Ваўкавыску — авальныя (10 з 17). Авальныя крэсівы былі найбольш распаўсюджаным тыпам у Полацку. У Брэсце сустрэліся ўсе тры тыпы ў аднолькавай колькасці (па 2 экз. кожнага).

Нярэдкія ў гарадскіх слаях знаходкі такіх прадметаў гаспадарчага прызначэння, як шылы і швейныя іголкі (у Ваўкавыску знойдзны 72 шылы і 55 іголак). Усе шылы маюць плоскі ці квадратны чаранок, на які надзявалася драўляная ці касцяная ручка. Рабочае вастрые — круглага, квадратнага ці рамбічнага сячэння. Даўжыня шылаў вагаецца ад 5,5 да 22,5 см. Больш дробныя прымяняліся ў шавецкай справе, большыя — у рымарскіх і іншых рамествах. Іголкі па форме і канструкцыі не адрозніваліся ад сучасных. У некаторых іголак, што прызначаліся для сшывання тканіны, маецца жалабок каля вушка.

**Прыналежнасці адзення** пададзены шпількамі, фібуламі, паяснымі спражкамі і кольцамі. Знойдзеныя ў Брэсце, Ваўкавыску, Тураве, Лукомлі і іншых гарадах шпількі ўжываліся для зашпільвання верхняга адзення. Яны аднаго тыпу — з рухомымі кольцападобнымі галоўкамі ў верхняй патоўшчанай частцы стрыжня. Былі ва ўжытку ў XI—XIV стст. Аднатыповыя таксама ўсе знойдзеныя ў беларускіх гарадах жалезныя нагрудныя засцежкі — фібулы. Усе яны падковападобныя. Канцы загнутыя ў спіраль ці проста паднятыя ўверх. Знойдзены ў Навагрудку, Ваўкавыску, Мінску, Брэсце і іншых гарадах. Былі ва ўжытку ў XI—XIII стст. Паясныя спражкі ў асноўным двух тыпаў: прамавугольныя і паўкруглыя (сегментападобныя). Сустракаюцца экземпляры арыгінальных індывідуальных форм (ліраподобныя, прамавугольныя з перахватам пасярэдзіне, з прамавугольнай асновай і трохвугольным прыемнікам і інш.). Усе паясныя кольцы выраблены з круглага ў сячэнні дроту. Найбольш буйныя з іх маглі выкарыстоўвацца ў дэталях рыштунку каня.

**Гаспадарчы і дамашні інвентар.** Нярэдка сустракаюцца дужкі (ручкі),

абручы і падвесныя вушкі для вёдзер. Дужкі выраблялíся з дроту круглага ці прамавугольнага сячэння. Апошні нярэдка перакручаны ў некалькі абаротаў ці нават у некалькі дзесяткаў. Абручы выраблялíся з паласавога жалеза і круглага дроту, вушкі — з розных у сячэнні стрыжняў.

Знойдзены заклёпкі і скобы для змацавання дэталяў драўляных канструкцый, скобы для мацавання запораў, прабоі і іншыя прадметы.

Найбольш распаўсюджанымі жалезнымі вырабамі ў гарадскіх слаях з'яўляюцца цвікі (у Ваўкавыску іх знойдзена больш за 1200 экз., у Навагрудку — каля 600 экз.). Іх даўжыня ў Ваўкавыску вар'іруе ад 2,5 да 12,5 см. Разам са звычайнымі цвікамі з галоўкай сустракаюцца цвікі-кастылі. Цвікі для падкоўвання коней мелі сплюшчаную з бакоў галоўку, якая зручна ўваходзіла ў канаўку падковы.

Раскопкамі гарадоў выяўлены жалезныя вырабы, якія прадстаўлены адзінкавымі ці даволі нешматлікімі экземплярамі.

У Полацку ў слоі XIII ст. знойдзены невялікі (дыяметр 4 см, таўшчыня 1,5 см) блок з суцэльнага жалеза з адтулінай для восі ў цэнтры і канаўкай для руху гнуткай перадачы па абадку. Гэта, безумоўна, дэталь нейкага механізма.

У Ваўкавыску ў слоі XII ст. знойдзены каромысел шалевых вагаў, якія з'яўляліся неабходнай прыналежнасцю сярэдневяковага купца. Ён мае выгляд масіўнага чатырохвугольнага стрыжня з маленькімі адтулінамі для падвешвання шаляў на канцах і вялікай адтулінай у пашыранай сярэдняй частцы, у якую прасунуты жалезны крук (за яго трымалі пры ўзважванні). Даўжыня каромысла 12,4 см.

У Навагрудку знойдзены бязмен у выглядзе круглага ў сячэнні жалезнага стрыжня даўжынёй 41 см з чатырма дзяленнямі, у адным канцы якога прасунуты тры стрыжанькі, змацаваныя паміж сабой па краях. Да крайняга стрыжанька прымацавана рухомая скаба, на якую надзяваўся крук (не захаваўся). Другая рухомая скаба з надзетым на яе кальцом прымацавана да сярэдняга стрыжанька. За кальцо трымалі пры ўзважванні, за крук чаплялі груз. На стрыжань надзета яшчэ адно кальцо, да якога мацаваліся гіры. Стрыжань бязмена і кальцо з пятлёй знойдзены ў Мінску.

У Брэсце знойдзены дзве брытвы. Адна ў слоі рубяжа XI—XII стст., другая ў слоі першай паловы XIII ст. Першая з іх захавалася поўнасцю. У яе жалезная ручка (футляр), зробленая з пласціны шырынёй да 1,8 см, сагнутай удвая. Лязо мацавалася ў ручцы на штыфце такім чынам, што было здольна рабіць кругавы рух. Агульная даўжыня ляза 7 см, даўжыня рабочай часткі 5,7 см, даўжыня ручкі 7,7 см. Ад другой брытвы захавалася толькі лязо даўжынёй 9,3 см. На канцы ляза маецца петлепадобны завіток.

Даволі рэдкай знаходкай у гарадскіх слаях з'яўляюцца ланцугі. У Ваўкавыску сустрэліся абрыўкі ланцугоў з рознай формай звёнаў (кальцо, авал, у выглядзе васьмёркі). Знойдзена шарнірнае прыстасаванне, пры наяўнасці якога ланцуг мог свабодна вярцецца вакол падоўжанай восі.

**Прадметы ўзбраення воіна і рыштунак баявога каня.** У багатай і разнастайнай калекцыі зброі з раскопак гарадоў Беларусі можна




*Мал 105 Прадметы ўзбраення· 1, 2, 9, 15 — наканечнікі суліц, 3—5 — перакрыжаванні мячоў, 6 — навершша мяча, 7 — пласціна панцыра, 8 — абрывак кальчугі, 10 — баявыя сякеры, 11—13, 17 — наканечнікі ножнаў мячоў, 18 — меч, 19 — ножны, 20, 21 — наканечнікі арбалетных стрэл, 22—24 — перакрыжаванні шабляў (1, 3, 11, 19, 23 — Навагрудак, 2, 9, 14, 15 — Браспаў, 4, 8, 10, 12, 13, 20, 21 — Ваўкавыск, 5 — Гомель, 6, 22 — Мінск; 7, 16 — Друцк, 17, 24 — Мсціслаў, 18 — Полацк)*

вылучыць зброю бліжняга бою, дальняга бою і засцерагальнага ўзбраення. Зброя бліжняга бою пададзена мячамі, шаблямі, коп'ямі, баявымі сякерамі, булавамі, кісцянямі, баявымі нажамі і кінжаламі.

Мячы пры раскопках сустракаюцца рэдка. Тлумачыцца гэта перш за ўсё іх каштоўнасцю. Яны былі даступныя далёка не ўсім воінам, тым больш гарадскім апалчэнцам. У Полацку ў 1957 г. выпадкова знойдзены меч, ручка якога ўпрыгожана складаным геаметрычным узорам, а на клінку ёсць надпіс «Uefberht». Агульная даўжыня мяча 97 см, даўжыня клінка 79,7 см. Датуецца X ст. (Кирпичников, 1966. С. 82—83). У Брэсце, Навагрудку і Ваўкавыску знойдзены перакрыжаванні ад дзяржанняў мячоў, у Мінску — перакрыжаванне і навершша. Брэсцкае і ваўкавыскае перакрыжаванні жалезныя аднатыповыя, крыху выгнутыя з закругленымі краямі. Блізкія яны і па памерах (даўжыня адпаведна 11,8 і 10,8 см, шырыня — 2,4 і 2,1 см). Навагрудскае перакрыжаванне бронзавае са стылізаванымі галоўкамі птушак (драконаў) па краях. Перакрыжаванне мінскага мяча крыху выгнутае (даўжыня 10,6 см, шырыня 1,3 см), навершша трохчасткавае. Мячы з такімі перакрыжаваннямі і навершшамі датуюцца XII—XIII стст. (Кирпичников, 1966 а. С. 53—54). У Полацку, Навагрудку і Ваўкавыску знойдзены бронзавыя наканечнікі ножнаў мячоў. Паверхні полацкага і аднаго ваўкавыскага наканечніка арнаментаваны, навагрудскі наканечнік ажурны.

Шабля, як і меч, з'яўлялася прыкметай багацця і славутасці. У Мінску і Навагрудку знойдзены перакрыжаванні шабляў. Мінскае перакрыжаванне доўгае (11 см) і вузкае з невялікім пашырэннем у сярэдзіне і на канцах. Навагрудскае кароткае (5,3 см), таксама з пашырэннем. Абедзве знаходкі адносяцца да аднаго тыпу (тып II, паводле А. М. Кірпічнікава), распаўсюджанага на Русі ў XII—XIII стст. (Кирпичников, 1966 а. С. 70).

Найважнейшым відам зброі бліжняга бою з'яўлялася кап'ё. Ім карысталіся не толькі воіны-дружыннікі, але і рамеснікі, сяляне. У Ваўкавыску знойдзена 7 наканечнікаў коп'яў, у Полацку і Мінску — па 4, у Брэсце — 3. Усе яны маюць канічную ўтулку, якая насаджвалася на дзяржанне. Пяро лаўралістай і падоўжна-трохвугольнай формы ці ў выглядзе чатырохграннага (трохграннага) моцна выцягнутага стрыжня. Наканечнікі з вузкім пяром (вастрыём) можна назваць пікамі. У Брэсце ў слоі XIV ст. знойдзены наканечнік цяжкага кап'я (рагаціны), што прымянялася пешымі і коннымі воінамі як у баі, так і ў паляванні. Яго агульная даўжыня каля 40 см, даўжыня пяра 24 см, шырыня пяра 5 см. У Мінску, Брэсце, Гродне, Ваўкавыску знойдзены наканечнікі лёгкіх коп'яў, што прызначаліся для кідання, так званых суліц. Разам з утулкавымі сустрэліся і чаранковыя наканечнікі. Апошнія пераважаюць і маюць ў асноўным ромбападобную форму пяра. Знойдзены ўтокі — спецыяльныя ўтулкавыя наканечнікі, што насаджваліся на тыльны канец дзяржання кап'я.

Шырока распаўсюджанай зброяй была сякера. Дружыннікі былі ўзброены спецыяльнымі баявымі сякерамі, народнае апалчэнне карысталася галоўным чынам звычайнымі рабочымі сякерамі. У Ваўкавыску ў слоі XI ст. знойдзена баявая сякера-чакан з вузкім, трохвугольнай формы лязом і грыбападобнай галоўкай на малаточку. Даўжыня сякеры

13,9 см, шырыня ляза 4,6 см. Баявая сякера з адцягнутым лязом і падоўжаным выразным абухом знойдзена ў Мінску ў слоі XI ст. Ад аналагічных па форме рабочых сякер яна адрозніваецца памерамі і наяўнасцю ў ляза невялікай адтуліны, у якую працягваўся раменьчык для падвешвання да пояса воіна. Да разраду баявых умоўна можа быць аднесена знойдзеная ў Мінску ў слоі сярэдзіны XII ст. невялікая сякера з доўгай (62 см) ручкай.

Параўнальна рэдкімі відамі зброі бліжняга бою былі булавы і кісцяні. Дзве свінцовыя булавы знойдзены ў Брэсце: адна ў форме шара са зрэзанымі знізу і зверху сегментамі ў слоі XII ст., другая паўшарападобнай ці грыбападобнай формы ў слоі XIII ст. Памеры першай: дыяметр 6 см, вышыня 4 см; другой: дыяметр 9 см, вышыня 5 см. Круглая свінцовая булава сустрэлася ў Давыд-Гарадку ў слоі XII ст. Асаблівую цікавасць уяўляюць булавы з раскопак Гродна і Лукомля. Гродзенская булава патоўшчанай формы з чатырма пірамідальнымі бакавымі шыпамі. З ніжняга боку мае цыліндрычную ўтулку для ручкі. Дыяметр булавы 4,5 см, вышыня 5,8 см. Датуецца XII — першай паловай XIII ст. Булава з Лукомля шарападобнай формы, расчлянёная па вертыкалі рыфлёнымі валікамі на 8 частак. Булавы гэтага тыпу (тып V, паводле А. М. Кірпічнікава) датуюцца XII—XIII стст. (Кирпичников, 1966 а. С. 54).

Касцяныя кісцяні знойдзены ў Гродне, Брэсце, Мінску. Гродзенскі кісцень шарападобнай формы з вушкам для мацавання раменьчыка. Яго вышыня 5,8 см, шырыня 4 см. Датуецца XIII—XIV стст. Кісцень з Брэста (XIII ст.) мае форму цыліндра з закругленымі вуглямі (вышыня 8,4 см, шырыня 5 см). Уздоўж цыліндра па цэнтры праходзіць скразная адтуліна дыяметрам 1 см. На вонкавай паверхні двайным контурам выразана выява, падобная на літару Д. Палавіна кісцяня яйкападобнай формы знойдзена ў Мінску. Па яго восі мелася падоўжная адтуліна, у якую, відаць, устаўляўся жалезны стрыжань з пятлёй для раменьчыка на адным канцы і заклёпкай на другім. На кісцяні выразаны два княжацкія знакі ў выглядзе двузубца з крыжам уверсе, што сведчыць пра прыналежнасць рэчы прадстаўніку дружынных вярхоў.

У рукапашнай сутычцы выкарыстоўваліся баявыя нажы (даўжынёй да 20 см і больш) і кінжалы. Абавязковай прыналежнасцю сярэдневяковых воінаў з'яўляліся нажы, якія, як правіла, не адрозніваліся да звычайных бытавых. Насілі іх у чахлах на поясе. Скураныя чахлы неаднаразова сустракаліся пры раскопках. У Полацку знойдзена акоўка ножнаў кінжала XII ст., упрыгожаная пуансоннай чаканкай.

Прадметы зброі дальнага бою пададзены наканечнікамі стрэл, дэталямі складаных лукаў, налуччаў, калчаноў, арбалетнымі наканечнікамі і дэталямі арбалетаў.

Найбольш шматлікімі знаходкамі з'яўляюцца наканечнікі стрэл. У Ваўкавыску іх знойдзена 250 экземпляраў (разам з пад'ёмным матэрыялам — 266), у Навагрудку — 115, Мінску — 55, Полацку — 23, у Брэсце — 14 экземпляраў. Асноўную масу складаюць жалезныя наканечнікі: у Ваўкавыску — 234, Мінску — 50, Брэсце — 9 экземпляраў. Сярод жалезных наканечнікаў у Ваўкавыску пераважаюць утулкавыя. У Мінску і Брэсце — чаранковыя. Выключна высокі працэнт (63,7) утулкавых нака-

нечнікаў — характэрная асаблівасць ваўкавыскай калекцыі. Утулкавыя наканечнікі ў сярэднія вякі былі вельмі шырока распаўсюджаны ва ўжытку ў краінах Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Для Русі і народаў Усходняй Еўропы яны не характэрныя (на Русі складаюць каля 1 %) (Медведев, 1966. С. 54—55). У залежнасці ад формы пяра (вастрыя) жалезныя наканечнікі з раскопак Беларусі падзяляюцца на амаль паўсотні тыпаў. Толькі ў Ваўкавыску сустрэліся наканечнікі 33 тыпаў (Зверуго, 1967. С. 312—328).

Сярод утулкавых плоскіх наканечнікаў Ваўкавыска найбольш шматлікія двухшыпавыя і ромбападобныя (адпаведна 51 і 20 экз.), сярод утулкавых гранёных — шылападобныя (54 экз.). У Мінску з 21 экземпляра ўтулкавых наканечнікаў 6 двухшыпавых, 2 ромбападобныя і 10 шылападобных. Чаранковыя наканечнікі (як плоскія, так і гранёныя) у калекцыях беларускіх гарадоў пададзены адзінкавымі экземплярамі. Выключэннем з'яўляюцца два тыпы гранёных наканечнікаў у матэрыялах Ваўкавыска: шылападобныя рамбічнага сячэння з перахопам каля чаранка і шылападобныя квадратнага сячэння таксама з перахопам каля чаранка. Абодва тыпы пададзены 13 экземплярамі кожны.

З ліку плоскіх чаранковых наканечнікаў трэба вылучыць ланцэтападобныя з упорам. Гэта адзін з найбольш ранніх тыпаў у гарадскіх слаях. Знойдзены ў Полацку, Ваўкавыску, Лукомлі. Датуюцца IX — першай паловай XI ст. Яны ў гэты перыяд шырока прымяняліся ў Скандынавіі, але там былі значна большыя за нашы (Медведев, 1966. С. 73—74).

Заслугоўваюць увагі кілепадобныя наканечнікі з выцягнутым пяром і перахопам каля чаранка. Сустрэты ў Гродне, Ваўкавыску, Пінску. Такія наканечнікі звычайна знаходзяць на гарадзішчах, разбураных манголамі. А. Ф. Мядзведзеў мяркуе, што яны і былі занесены на Русь манголамі. Адносяцца да перыяду паслямангольскага нашэсця (другая палова XIII—XIV ст.) (Медведев, 1966. С. 64). Манголамі былі занесены ва Усходнюю Еўропу вялікія рамбічныя наканечнікі (знойдзены ў Ваўкавыску) і зрэзні ў выглядзе вузкай падоўжанай лапатачкі (сустрэліся ў Гродне, Полацку, Мінску, Давыд-Гарадку). У гарадах Беларусі знойдзены наканечнікі, шырока распаўсюджаныя ў паўночнай паласе Усходняй Еўропы (ромбападобныя наўгародскага тыпу), характэрныя толькі для паўднёва-заходняй Русі (шылападобныя ўтулкавыя), распаўсюджаныя па ўсёй Усходняй Еўропе і зусім не характэрныя для Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (двухрогія зрэзні), а таксама тыя, што прымяняліся на тэрыторыі заходніх славян і ў землях Прыбалтыкі (лаўраліставыя ўтулкавыя) (Медведев, 1966. С. 57—58, 67—69, 72).

Разам з жалезнымі выкарыстоўваліся, хоць і ў значна меншай ступені, касцяныя наканечнікі стрэл. У Ваўкавыску іх знойдзена 16 экземпляраў (15 утулкавых, 1 чаранковы), у Мінску — 5 (4 утулкавыя, 1 чаранковы). Сярод утулкавых пераважаюць куляпадобныя і біканічныя з гранёным вастрыём. Чаранковыя па форме паўтараюць жалезныя наканечнікі.

Простыя лукі ўяўлялі сабой сагнутую ў дугу гнуткую палку, канцы якой сцягваліся цецівой. Фрагменты такога лука знойдзены ў Віцебску (датуецца XIII ст.).

У Ваўкавыску знойдзены касцяныя пласціны-накладкі ад ручкі скла-

данага лука. Па рэканструкцыі, зробленай А. Ф. Мядзведзевым, дзве такія накладкі прыклейваліся з унутранага боку ручкі лука ўпрытык адна да адной. Знойдзены касцяныя петлі (3 экз.) для падвешвання калчаноў на паясным ці спецыяльным рэмені. Усе петлі гладкія без арнаменту. Затое выключна багата ўпрыгожаны разным узорам касцяныя накладкі на калчаны.

Разам са звычайнымі лукамі выкарыстоўваліся механізаваныя лукі — самастрэлы ці арбалеты. У Ваўкавыску, Брэсце, Гродне, Мінску і іншых гарадах знойдзены наканечнікі арбалетных стрэл. Усе сем знойдзеных у Ваўкавыску арбалетных наканечнікаў чаранковыя, з масіўнай баявой галоўкай квадратнага ці рамбічнага сячэння.

У Гродне знойдзены касцяны арбалетны курок. Два такія куркі і касцяная канцовая накладка пляча (дугі) арбалета з пазамі для цецівы знойдзены ў Брэсце. Арбалеты ў XII—XV стст. атрымалі шырокае распаўсюджанне ў краінах Заходняй Еўропы. У нас асноўнай дальнабойнай зброяй у XIV—XV стст. па-ранейшаму заставаўся складаны лук.

Засцерагальнае ўзбраенне пададзена абрыўкамі кальчуг, пласцінамі панцыраў, шлемам. Рэшткі шчытоў не сустрэліся.

Абрыўкі кальчуг знойдзены ў слаях XI—XIII стст. у Полацку, Мінску, Брэсце, Навагрудку, Ваўкавыску. Кольцы зроблены з круглага дроту таўшчынёй 0,6—1,5 мм, дыяметр кольцаў 7—11 мм. У Брэсце знойдзена паласа кальчужнага палатна даўжынёй 22 см, шырынёй 3 см, якое складаецца з 86 кольцаў. Палатно сабрана папярочным чаргаваннем радоў зварных кольцаў і кольцаў з заклёпкамі. Пласціны да панцыраў знойдзены пры раскопках Мінска, Полацка, Друцка, Брэста, Навагрудка. Памеры брэсцкіх пласцін 8×1,8 см, навагрудскіх — 15×3 см. Усе пласціны маюць адтуліны, праз якія яны прышываліся да скуранай асновы ці асновы з матэрыі. У Друцку разам з простымі пласцінамі знойдзены пласціны па-мастацку ўпрыгожаныя арнаментам.

У Слоніме знойдзены шлем з наноснікам. Верхняя частка шлема зроблена з адной жалезнай пласціны. Ніжняя, змацаваная з верхняй з дапамогай заклёпак, складаецца з чатырох пласцін. Ніжэй ідуць два пласціністыя абручы, якія паміж сабой і з ніжняй часткай шлема змацаваны таксама заклёпкамі. У ніжнім абручы ёсць адтуліны для падвешвання барміцы. Дыяметр шлема 23 см, вышыня — 17 см. Падобны шлем з акруглым верхам выпадкова знойдзены ў Літве (дыяметр 28 см, вышыня — 15 см) і па сваёй форме прыкметна адрозніваецца ад іншых конусападобных літоўскіх шлемаў (Волкайте-Куликаускене, 1965. С. 70—71).

Прадметы ўзбраення конніка і каня ўключаюць шпоры, страмёны, цуглі, агалоўе, падковы, скрабніцы.

Шпоры, якія з'яўляліся абавязковай прыналежнасцю коннага воіна, частыя знаходкі ў гарадскіх слаях. У Ваўкавыску іх знойдзена 55 экземпляраў. У Брэсце — 38, у Мінску — звыш 30, Навагрудку — 21, Полацку — 7 экземпляраў. У калекцыях пададзены амаль усе тыпы шпор, вядомыя на Русі, пачынаючы ад простых з круглымі ў сячэнні шыпамі і кручкападобнымі зачэпамі для рамянёў і канчаючы шпорамі складанай канструкцыі з зубчастым кальцом і разнастайнымі петлямі для мацавання раменьчыкаў. Пераважаюць шпоры з шыпамі ў выглядзе прытуп-




*Мал 106 Рыштунак вершніка і баявога каня 1—8 — шпоры, 9 — скрабніца, 10, 16 — ледаходныя шыпы, 11 — дэталь аброці, 12, 13 — цуглі, 14 — крук механізма арбалета, 15, 17, 18 — страмены, 19 — падкова (1—6, 10, 16, 18 19 — Ваўкавыск, 7, 11, 12 — Навагрудак, 8 — Пінск, 9 — Слонім, 13, 15 — Заслаўе, 14 — Мсціслаў, 17 — Брэст)*

ленага стрыжня круглага сячэння, пірамідальнымі і шарападобнымі шыпамі. Петлі для рамянёў самыя разнастайныя: круглыя з адной круглай прораззю, круглыя з дзвюма прамавугольнымі прораззямі, круглыя глухія з загнутай і прыварaнай палоскай, прамавугольныя з дзвюма прамавугольнымі прораззямі, у выглядзе прадаўгаватай адтуліны ў пашыраным канцы пляча і інш. У больш ранніх (X—XI стст.) шпор плечы прамыя, шыпы ляжаць у адной плоскасці з імі, у больш позніх (XII—XIII стст.) плечы выгнутыя, шыпы накіраваны ўніз. Шпоры з рухомымі зубчастымі кольцамі з'явіліся ў XIII ст. Некаторыя шпоры інкруставаны медным дротам ці радамі кропак з белага металу (серабра), пакрыты палудай ці серабром, а дзве шпоры з Ваўкавыска захавалі рэшткі пазалоты.

У Полацку, Мінску, Брэсце, Навагрудку, Браславе, Ваўкавыску знойдзены страмёны. Большасць з іх адносіцца да тыпу IX, паводле класіфікацыі А. М. Кірпічнікава. Яны амаль круглай формы. Дужка з праразным вушкам мае характэрнае кілепадобнае завяршэнне. Падножка авальнай формы, прагнутая. Адносяцца да XII—XIII стст. Такімі страмёнамі карысталіся лёгкаўзброеныя коннікі (Кирпичников, 1973. С. 52). У Гродне знойдзена стрэмя трапецападобнай формы з высокім плоскім завяршэннем, шырокай прораззю і прамой падножкай (тып X, паводле А. М. Кірпічнікава, так званага рыцарскага ўзору). Датуецца XIII—XIV стст. Такія страмёны былі характэрныя для Цэнтральнай і Заходняй Еўропы (Кирпичников, 1973. С. 54). Некаторыя страмёны багата арнаментаваны.

Цуглі ўжываліся двух тыпаў: двухсастаўныя, якія складаліся з двух звёнаў і двух кольцаў, і аднасастаўныя. Пераважалі цуглі першага тыпу (аднасастаўныя сустрэліся толькі ў Ваўкавыску). У Навагрудку знойдзены цуглі з фігурнай акоўкай, інкруставаныя бронзай.

Псаліі былі як металічныя, так і касцяныя. Сярод металічных псаліяў Навагрудка ёсць фігурныя, арнаментаваныя нарэзкай, але большасць уяўляе сабой звычайныя круглыя ў сячэнні стрыжні з патаўшчэннямі на канцах.

У Навагрудку знойдзена жалезная бляха змацавання рамянёў агалоўя (аброці) у выглядзе квадратнай з акруглымі выступамі па вуглах пласціны з канічнай трубкай у цэнтры. У Мінску ў слоі сярэдзіны XII ст. сустрэлася ўпрыгожанне каня — касцяны налобнік, характэрны для збруі качэўнікаў.

Падковы аднатыповыя, з двума заднімі шыпамі, хвалістым знешнім краем і шасцю адтулінамі для цвікоў. Знойдзены ў Пінску, Брэсце, Ваўкавыску, Навагрудку, Браславе. На думку А. М. Кірпічнікава, падкоўвалі дарожных, што ішлі з паклажай, коней. У кавалерыі выкарыстоўваліся толькі ледаходныя шыпы (Кирпичников, 1973. С. 83). Такія шыпы знойдзены ў Навагрудку, Ваўкавыску і Пінску.

У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзены дзве скрабніцы для чысткі коней. У іх двайны паўтрубчасты грэбень і раздвоеная ручка, прымацаваная зверху да грэбеня. Чаранок для драўлянай ручкі прамавугольны ў сячэнні. Аналагічная скрабніца знойдзена ў Слоніме.

Папружныя спражкі і вупражныя кольцы адрозніваюцца ад паясных спражак і кольцаў толькі больш буйнымі памерамі. Тыя ж паўкруглая (паўавальная), прамавугольная і трапецападобная формы.




Мал. 107. Ювелірныя вырабы: 1—3 — гузікі; 4—10 — бразготкі; 11—17, 20, 21 — прывескі; 18, 19, 23 — лунніцы; 22 — колт; 24—27 — прывескі-амулеты; 28, 29 — накладкі; 30 — пацерка дрыгавіцкага тыпу (1—4, 8, 14, 15, 17, 21, 24, 27 — Навагрудак, 5—7, 11, 13, 18—20 — Ваўкавыск; 9 — Заслаўе; 10, 28, 29 — Турзйск; 12 — Слонім; 16, 19, 25, 26 — Гродна; 22, 23 — Мінск, 30—Гродна)

**Ювелірныя вырабы.** Найбольш шматлікую групу ювелірных вырабаў складаюць жаночыя ўпрыгожанні. Яны прадстаўлены галаўнымі ўпрыгожаннямі (колты, скроневыя кольцы, завушніцы), нагруднымі прывескамі, пацеркамі, бранзалетамі, пярсцёнкамі.

Колты — полыя ўнутры скроневыя кольцы вялікіх памераў. Гэта было вельмі дарагое ўпрыгожанне. Сярэбраны колт, арнаментаваны цісненым узорам з раслінных парасткаў і крынападобных расткоў, знойдзены ў Брэсце ў слоі канца XI — пачатку XII ст. Ён мае форму круга з адсечаным сегментам. Па краі акружнасці напаяна ажурная аблямоўка, а па краях сегмента — вушкі, з дапамогай якіх ланцужком (стужачкай) колт мацаваўся да галаўнога ўбору. Два колты знойдзены ў Мінску. Адзін сярэбраны (другая палова XII ст.) з тыповай выявай дзвюх птушак, другі (першая палова XIII ст.) з псеўдазярністым узорам адліты з алавяна-свінцовага сплаву.

Скроневыя кольцы — найбольш характэрныя і распаўсюджаныя галаўныя ўпрыгожанні славянскіх жанчын. Амаль кожны тып з'яўляецца надзейнай этнавызначальнай прыкметай аднаго з усходнеславянскіх плямёнаў. У Полацку ў слоі канца X — пачатку XI ст. знойдзены два бронзавыя скроневыя крывіцкія кальцы з завязанымі канцамі. У слоі першай паловы XIII ст. сустрэліся фрагменты двух сямілопасных скроневых кольцаў вяцічаў. Знойдзены таксама два маленькія кругладрацяныя кальцы са свабоднымі канцамі (датуюцца XI—XIII стст.). Такія скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя несамкнутыя) маюць вельмі шырокі арэал распаўсюджання і шырокія храналагічныя рамкі ўжытку (Левашова, 1967. С. 14—15). У некаторых з іх канцы загнутыя і яны быццам звязаны, у другіх канцы заходзяць адзін за адзін прыкладна на палову абароту. Апошнія (паўтараабаротныя) В. В. Сядоў лічыць уласцівымі паўднёва-заходняй групе ўсходніх славян (Седов, 1962. С. 198). У Брэсце і Навагрудку сустрэліся паўтараабаротныя кольцы з адваротным перагібам аднаго з канцоў.

Сярод несамкнутых кругладрацяных кольцаў вылучаюцца кольцы з *S*-падобным або спіральным завіткам. Яны знойдзены ў Гродне, Навагрудку, Ваўкавыску, Брэсце, Тураве. Сустракаюцца ў паўднёва-заходняй групе ўсходніх славян, але асабліва характэрны для заходніх славян (Седов, 1982. С. 100, 120). У Навагрудку і размешчаным паблізу Брацянскім могільніку, які з'яўляўся некропалем старажытнага горада, знойдзены вялікія скроневыя кольцы са шчыльнымі спіральнымі завіткамі ў два з паловай-тры абароты дыяметрам каля 1 см. На думку К. В. Паўлавай, яны выраблены мясцовымі майстрамі па прывазных балтыйскіх узорах (Павлова, 1969. С. 120—121). Сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, якія з'яўляюцца этнавызначальнай прыкметай племя радзімічаў, пры раскопках беларускіх гарадоў пакуль не знойдзены.

У Навагрудку сустрэліся драцяныя завушніцы ў выглядзе пытальнага знака з напушчанымі пацеркамі і спіралькамі (з'явіліся не раней другой паловы XIII ст.). Сярэбраная завушніца са спіраллю знойдзена ў слоі XIII—XIV стст. у Гродне.

Нагрудныя прывескі з'яўляліся адным з найбольш распаўсюджаных відаў упрыгожанняў. Іх насілі ў складзе караляў ці асобна на шнурку (раменьчыку). Шмат якія з іх мелі значэнне амулетаў-абярэгаў і з часоў




*Мал. 108. Прывескі: 1, 3 — іконкі; 2, 4, 6, 7, 9, 10, 12, 14, 15, 18 — крыжы; 5 — гравіраваны медальен; 8, 13 — крыжы-складні, 11, 16 — ажурныя прывескі, 17 — амулет-змеявік; 19 — лунніца (1—7, 9—12, 15, 17 — Ваўкавыск; 8 — Брэст; 13, 14, 18 — Навагрудак; 16, 19 — Мінск)*

язычніцтва неслі на сабе выявы нябесных свяціл, якія пазней былі заменены сімваламі хрысціянскага культу.

У Мінску, Ваўкавыску, Гродне, Друцку знойдзены прывескі ў выглядзе паўмесяца — лунніцы. Знешні бок усіх трох знойдзеных у Мінску лунніц упрыгожаны псеўдазерню. У адной з іх паміж рагамі прысутнічае крыжападобны язычок. Ваўкавыская лунніца замкнутая з гладкай паверхняй і двума вушкамі для падвешвання (зверху і знізу). Гродзенская і друцкая — незамкнутыя маленькія, гродзенская пакрыта псеўдазерню, друцкая гладкая.

Цэнтральная частка дзвюх круглых манетападобных прывесак з Ваўкавыска ўпрыгожана кругам з разыходзячыміся ад яго промнямі-пялёсткамі (салярны знак). На знешнім баку дзвюх праразных (ажурных) ваўкавыскіх прывесак маецца выява чатырохрукай антрапаморфнай істоты, а на паверхні вушак — даволі выразная выява чалавечага твару з круглымі вачыма, адкрытым ротам і клінападобнай барадой.

У Мінску знойдзена прывеска-амулет у выглядзе канька. Такія прывескі часцей за ўсё ўваходзілі ў склад набору са званочкаў, ключыкаў, лыжачак. Разнастайныя званочкі (грушападобныя з крыжападобнай прораззю, шарападобныя з крыжападобнымі і лінейнымі проразямі, шарападобныя з дзвюма лінейнымі проразямі і інш.) знойдзены ў Полацку, Навагрудку, Ваўкавыску, Тураве і іншых гарадах. У Гродне знойдзены літыя прывескі-ключыкі, а ў Навагрудку і Лукомлі — прывескі ў выглядзе лыжачак. У Мінску сустрэлася прывеска-амулет у форме маленькага мяча з адтулінай для падвешвання ў цэнтры клінка. Манетападобная прывеска з выявай галавы быка знойдзены ў Полацку. На другой манетападобнай прывесцы з Полацка прыкметна выява яшчарападобнай жывёліны. Знойдзены прывескі з сямю- і васьмюпялёсткавымі разеткамі.

Найбольш шматлікую групу манетападобных прывесак складаюць прывескі з выявай рознай формы крыжа (чатырохканцовага, васьміканцовага, мальтыйскага і інш.). Крыж маецца на чатырох такіх прывесках з Брэста, чатырох — з Друцка, двух — з Мінска. У Мінску, Брэсце і Ваўкавыску сустрэліся прывескі ў выглядзе круга з упаяным у яго чатырохканцовым ці васьміканцовым крыжам.

У Ваўкавыску знойдзены амулет-змеявік, які ўяўляў сабою, па словах Б. А. Рыбакова, хрысціянізаваную форму антычных язычніцкіх абярэгаў ад розных хвароб (Рыбаков, 1948. С. 250). На адным баку амулета выява архангела Міхаіла, а па контуры невыразны надпіс. На другім баку пераплеценыя пачвары, а па контуры таксама невыразны надпіс, відаць, нейкага заклінання.

Даволі частымі знаходкамі ў гарадскіх слаях з'яўляюцца літыя крыжы. Адны з іх, безумоўна, з'яўляліся ўжо сімваламі хрысціянскага культу. Другія, відаць, яшчэ такімі не з'яўляліся і выконвалі тую ж ролю, што і іншыя прывескі. Прыкладам можа быць ажурны крыжык з Навагрудка.

Асаблівую цікавасць уяўляюць знаходкі пацерак дрыгавіцкага тыпу. Знойдзены ў Брэсце (XI ст.), Мінску (сярэдзіна XII ст.), Гродне (XII—XIII стст.). У Брэсце выяўлены дзве сярэбраныя пацеркі. Адна чатырохгранная, пітая, другая — круглая, выкананая ў тэхніцы напаянай зерні. Не мае аналогій знойдзеная ў Брэсце буйная (дыяметрам 4 см) шарападобная пацерка, палоскі і кольцы якой арнаментаваны звонку папярочнымі насечкамі. У Полацку сустрэлася пацерка з выявай крыжа (відаць, ад ружанца).

Да ліку найбольш распаўсюджаных упрыгожанняў у гарадскіх слаях адносяцца бранзалеты і пярсцёнкі. У Мінску ў слаях XI—XIII стст. знойдзены 21 бранзалет: 19 выраблены з бронзы, адзін — з волава, адзін — золаты. У Ваўкавыску іх знойдзена 20, у Брэсце — 13, у Полацку — 11, Навагрудку — 10. Сярод ваўкавыскіх бранзалетаў 6 літых, 6 зроблены з тонкіх штампаваных пласцін, 7 вітых і адзін псеўдавіты. Іншыя суадносіны ў Брэсце: адзін гладкі кругладрацяны, 2 вітых, 2 псеўдавітых, адзін плецены, 7 пласцінiстых. У Полацку: 2 кругладрацяныя, адзін віты, адзін плецены, 5 пласцінiстых і 2 створкавыя (наручы). Акрамя Полацка, фрагменты створкавых бранзалетаў, выкананых у тэхніцы ліцця, знойдзены ў Пінску, Гродне і Слоніме. Паверхня пінскага бранзалета пакры-




*Мал. 109. Бранзалеты: 1 — Пінск; 2, 10, 11 — Мінск; 3 — Слонім; 4, 13 — Гродна; 5 — Ваўкавыск; 6 — Турэйск; 7 — Давыд-Гарадок; 8 — Заслаўе; 9, 12 — Друцк*

та псеўдазярністым узорам, а сярздняя частка ўпрыгожана дзвюма ўстаўкамі цёмна-чырвонага шкла (каменя?).

Унікальнай знаходкай з'яўляецца выяўлены ў Мінску залаты бранзалет вагой 75,472 г, які быў у слоі запаўнення каменнага храма. Бранзалет сплецены з дроту і заканчваецца дзвюма стылізаванымі галоўкамі. Датуецца не раней XIII ст.

Шырока распаўсюджанымі ўпрыгожаннямі з'яўляліся пярсцёнкі: у Ваўкавыску знойдзена 26 экземпляраў, у Навагрудку і Полацку — па 21, у Мінску — 20 экземпляраў. Яны прадстаўлены амаль усімі тыпамі, што былі ва ўжытку на Русі. Сярод іх розныя віды пласціністых пярсцёнкаў, кругладрацяныя, гладкія, рубчастыя, спіральныя, вітыя, псеўдавітыя, плеценыя. Большасць складаюць пласціністыя пярсцёнкі (у Ваўкавыску іх 12 экз.). У Полацку знойдзены два бронзавыя пярсцёнкі рубяжа XII—XIII стст. са шклянымі ўстаўкамі, а ў слоі першай паловы XIII ст.— білонавы пазалочаны пярсцёнак з шасцівугольным шчытком, на якім выгравіравана выява птушкі з распрасцёртымі крыламі. Гэта пярсцёнак-пячатка. У Навагрудку знойдзены залаты пярсцёнак (з каменем), вузкая пласцінка якога падзелена перахопамі на роўныя часткі з лацінскай літарай у кожнай з іх (словы малітвы ці выслоўя).

Значную групу ювелірных вырабаў складаюць прыналежнасці касцюма: шпількі, фібулы, паясныя спражкі і накладкі, гузікі.

Шпількі, якія з'яўляліся засцежкамі верхняга адзення, за невялікім выключэннем аднатыповыя — з рухомымі галоўкамі ў выглядзе кальца з шарападобным патаўшчэнні на канцы стрыжня. У Друцку знойдзена тонкая бронзавая шпілька з пазалочанай галоўкай. Бронзавая пакрытая серабром і чэрню шпілька з крыжападобнай галоўкай знойдзена ў Навагрудку.

Нагрудныя засцежкі — фібулы прадстаўлены ў асноўным двума тыпамі: падковападобнымі і кольцападобнымі. У залежнасці ад формы канцоў вылучаецца некалькі відаў падковападобных фібул. Найбольш распаўсюджанымі былі фібулы са спіральна загнутымі канцамі (8 з 17 у Ваўкавыску). Даволі часта сустракаюцца фібулы з канцамі ў выглядзе звярыных галовак (у Ваўкавыску іх знойдзена 5 экз.). Астатнія віды (з патоўшчанымі, усечанаканічнымі, дыскападобнымі, макападобнымі і іншымі па форме канцамі) прадстаўлены адзінкавымі экземплярамі. У Брэсце ў слоі XII ст. знойдзена падковападобная фібула з квадратнымі (зоркападобнымі) канцамі, паверхня якой інкруставана серабром. У Лагойску і Гродне сустрэліся фібулы з патоўшчанымі канцамі, паверхня якіх багата ўпрыгожана раслінным арнаментам.

Кольцападобныя фібулы падзяляюцца на кругладрацяныя (знойдзены адзінкі) і пласціністыя (іх значна больш). Сярод пласціністых фібул сустракаюцца як літыя, так і штампаваныя. Кольцы ў большасці выпадкаў арнаментаваныя. Храналагічна кольцападобныя фібулы больш позція, чым падковападобныя. Усе чатыры пласціністыя фібулы з Брэста знойдзены ў слоі XIII ст. (Лысенко, 1985. С. 265).

У Навагрудку і Копысі знойдзены зоркападобныя фібулы з плоскімі закругленымі прамянямі трохвугольнай формы. У Брэсце ў слоі XII ст. знойдзена фібула, якая складаецца з двух бронзавых дыскаў дыяметрам 6,4 см, злучаных раменьчыкам даўжынёй 12 см (раменьчык завязаны вузламі на знешнім баку дыскаў). Гэта першая знаходка ў сабраным выглядзе нагруднай засцежкі дадзенага тыпу.

Паясныя спражкі разнастайныя. Асноўная маса адносіцца да тыпу паўкруглых, меншая — да прамавугольных. Сустракаюцца і іншыя тыпы: ліраподобныя, кальцавыя, авальныя, з прамавугольнай асновай і паўкруглым прыёмнікам (з перамычкай для мацавання іголкі і без яе) і інш. Усе спражкі літыя. Некаторыя з іх арнаментаваны насечкамі, выпуклымі лініямі, паяскамі і г. д.

Накладкі паясных набораў уяўлялі сабой розныя па форме пласцінкі (часцей за ўсё прамавугольныя) з адтулінамі ці шпянькамі для мацавання рэменя. Значная частка іх арнаментавана.

Гузікі па форме былі падобныя да званочкаў, але былі меншыя па памерах і, як правіла, без прорэзі.

Да прыналежнасцей касцюма трэба, відаць, аднесці ланцужкі, плеценыя з тонкага дроту ці злучаныя ў звёны з тонкіх вузкіх палосак. Абодва тыпы сустрэліся ў Брэсце. У Полацку знойдзены ланцужкі, складзеныя са звёнаў авальнай формы, спіралек, скручаных у два абароты, і вузкіх палосак, выгнутых у выглядзе васьмёркі.

Прадметы рэлігійнага культу складаюць асобую групу ювелірных вырабаў. Гэта нацельныя крыжыкі (цельнікі), энкалпіёны, іконкі, лыжачкі для прычасця, лампадкі, фрагменты хорасаў і падсвечнікаў, абломкі званоў.

Нацельныя літыя крыжыкі знойдзены ў Полацку, Мінску, Навагрудку, Брэсце, Тураве, Пінску, Ваўкавыску і іншых гарадах. У Ваўкавыску знойдзена 8 крыжыкаў (2 аднабаковыя, 6 двухбаковых). Усе яны роўнабаковыя і рознатыповыя (няма двух аднолькавых і нават падобных экземпляраў). Сярод іх чатырохканцовыя і васьміканцовыя, з міжкрыжаваннем і без яго, гладкія і арнаментаваныя.

Энкалпіёны (крыжы-складні, якія складаюцца з дзвюх частак-створак) сустрэліся ў Мінску, Навагрудку, Брэсце, Тураве, Полацку. У цэнтральнай частцы ўсіх энкалпіёнаў выява распятага Хрыста, а на канцах нагрудныя выявы святых (на крыжы з Турава выяў святых няма). Датуюцца XII—XIV стст.

У Брэсце ў слоі сярэдзіны XIII ст. знойдзена круглая аднабаковая іконка Багародзіцы Аранты. У яе няма вушка для падвешвання (відаць, уваходзіла ў склад аправы). На адным баку другой круглай іконкі з Брэста (канец XIII — пачатак XIV ст.) выява Багародзіцы Знаменне, а на адваротнай — клубок з 12 змей, якія адыходзяць ад галавы, змешчанай у цэнтры дыска. У гэтай іконкі ёсць вушка для падвешвання. На круглай прывесцы-іконцы з Ваўкавыска выява Георгія Перамаганосца, які забівае кап'ём дракона. На другой ваўкавыскай іконцы-прывесцы выява архангела. У Полацку ў слоі пачатку XIII ст. знойдзена створка складной іконкі з выявамі святых на абодвух баках. Абломак іконкі з выявай Хрыста (?) на адным баку і крыжа на другім знойдзена ў Навагрудку.

У Брэсце ў слоі XI ст. знойдзена бронзавая лыжачка, што прымянялася ў час прычасця. У Брэсце, Гродне і Ваўкавыску знойдзены лампады (кадзільніцы). Брэсцкая лампада мае форму паўсферы на невысокім паддоне з трыма вушкамі для падвешвання ўверсе. Адна з дзвюх гродзенскіх лампад — паўсферычная з паддонам і з двума вушкамі, другая мае ў сячэнні форму квадрыфолія.

У Ваўкавыску, Навагрудку, Гродне знойдзены фрагменты бронзавых панікадзілаў-харасаў. У многіх гарадах знойдзены фрагменты падсвечнікаў, у Брэсце і Гродне выяўлены абломкі званоў.

З каляровых металаў выраблены некаторыя інструменты для пісьма — пісалы. Усе яны маюць выгляд стрыжня з завостраным адным канцом і лапатачкай на другім. Бронзавыя пісалы ў параўнанні з жалезнымі больш багата аздоблены. У аднаго з ваўкавыскіх пісал стрыжань на ўсёй даўжыні перакручаны, і толькі рабочая частка мае круглае сячэнне. У лапатачцы другога ваўкавыскага пісала маецца крыжападобная прорэзь, а ў яе аснове — дзесяць розных па шырыні валікаў. На баках лапатачкі пісала з Навагрудка — трохвугольныя выступы, а каля асновы — тры валікі.

З бронзы і серабра выраблялiся кніжныя засцежкі. Знойдзены ў Навагрудку (5 экз.) і Ваўкавыску (2 экз.). Навагрудскія засцежкі трохпяцельныя, характэрныя для рускіх старажытнасцей. Ваўкавыскія засцежкі складаюцца з дзвюх рухома злучаных частак. Адна частка мацавалася да пераплёту, другая, з адной ці дзвюма адтулінамі на канцы, надзявалася на шпянёк ці шпянькі, што знаходзіліся на другім баку пераплёту і такім чынам фіксавалася закрытае становішча кнігі. Адна з ваўкавыскіх засцежак арнаментавана насечкамі, на другой захаваліся сляды пазалоты.

**Вырабы са шкла** пададзены бранзалетамі, пацеркамі, пярсцёнкамі, устаўкамі, фрагментамі пасудзін, абломкамі аконнага шкла.

Асноўную частку калекцый шкляных прадметаў складаюць бранзалеты. У Навагрудку іх знойдзена каля 3 тысяч (у некаторых пабудовах знаходзілі абломкі 80—100 і больш бранзалетаў). У Тураве знойдзена звыш 1600, у Мінску — 1100, на Верхнім замку ў Полацку — 792, у Брэсце — 578, у Ваўкавыску — 298 экземпляраў. Лепш чым у іншых гарадах распрацавана класіфікацыя бранзалетаў па колеру, форме і іншых паказчыках у Мінску, Брэсце, Тураве, Пінску, Ваўкавыску. Колеравая гама бранзалетаў гэтых гарадоў характарызуецца данымі табл. 1.

Па працэнтных суадносінах бірузовых, сініх і жоўтых бранзалетаў вельмі блізкія мінская і брэсцкая калекцыі, аднак у апошняй значна больш карычневых, зялёных, фіялетавых і менш чорных бранзалетаў. Колеравая гама тураўскіх бранзалетаў у цэлым падобная да кіеўскай, за выключэннем фіялетавых бранзалетаў (іх у Тураве менш, чым у Кіеве) і зялёных (іх, наадварот, больш). Укладваюцца ў кіеўскія даверныя інтэрвалы і пінскія бранзалеты, за выключэннем карычневых, якіх у Пінску прыкметна больш, чым у Кіеве (Щапова, 1972. С. 158, 160). Ваўкавыскія бранзалеты па колеру бліжэй да бранзалетаў з Навагрудка (Щапова, 1969. С. 168).

*Табліца 1*

**Колераввя гвма бранзалетаў гарадоў Беларусі, %**

| Горад | Чорныя | Карычневыя | Блакітныя | Зялёныя | Фіялетавыя | Сінія | Жоўтыя | Чырвоныя | Невыразнага прамежкавага адцэння |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 22.0 | 7,2 | 18,4 | 14,4 | 9,4 | 8,0 | 1,1 | — | 19,5 |
| Брэст | 20,3 | 21,1 | 17,8 | 19,0 | 12,0 | 8,2 | 1,2 | — | — |
| Тураў | — | 28,4 | 17,22 | 24,0 | 13,4 | 10,55 | 6,24 | 0,19 | — |
| Пінск | — | 40,0 | 11,0 | 15,0 | 20,0 | 10,0 | 4,0 | — | — |
| Ваўкавыск (Шведская гара) | 15,0 | 14,6 | 17,6 | 26,2 | 12,2 | 7,7 | 6,8 | — | — |
| Ваўкавыск (Замчышча) | 2,0 | 19,0 | 17,6 | 36,3 | 1,1 | 13,2 | 8,8 | — | — |

Заўвага: па Брэсце дадзены аналіз бранзалетаў з раскопаў з поўнасцю ўскрытым культурным споем (1974, 1976, 1977 гг.).

Цікавыя даныя па размеркаванні бранзалетаў розных колераў у розныя перыяды атрыманы ў Мінску. Так, у канцы XI ст. пераважалі колеры чорны, сіні і блакітны. Чорныя бранзалеты застаюцца найбольш шматлікімі да 30-х гадоў XIII ст., калі яны саступаюць сваё месца блакітным. Зялёныя і фіялетавыя былі ва ўжытку ў асноўным з пачатку XII ст. да сярэдзіны XIII ст., карычневыя — з сярэдзіны XII ст. да сярэдзіны XIII ст. (Загорульский, 1982. С. 229—230). У Брэсце ў позніх слаях пераважаюць бранзалеты карычневага і зялёнага колераў, а ў ранніх — чорныя, фіялетавыя, сінія (Лысенко, 1985. С. 274).

Па форме папярочнага сячэння бранзалеты былі круглыя, гладкія, кручаныя, вітыя, трохвугольныя, паўкруглыя і рабрыстыя (табл. 2).

Па форме сячэння мінскія і брэсцкія бранзалеты блізкія паміж сабой і з бранзалетамі Кіеўскай зямлі (Щапова, 1965. С. 47—49). У ваўкавыскай калекцыі асабліва шмат кручаных і вітых бранзалетаў, а гладкіх надзвычай мала. Такія суадносіны набліжаюць ваўкавыскую калекцыю да друцкай (Щапова, 1969. С. 169).

У Мінску гладкія і кручаныя бранзалеты былі ва ўжытку на працягу ўсяго дамангольскага перыяду. Гладкія асабліва характэрны для часу ад сярэдзіны XII да сярэдзіны XIII ст., кручаныя — для больш ранняга перыяду (канец XI — першая палова XII ст.). Трохвугольныя і сегментападобныя бранзалеты былі распаўсюджаны ў асноўным у другой палове XI — першай палове XII ст. (Загорульский, 1982. С. 230).

Значна бяднейшымі ў параўнанні з бранзалетамі пададзены шкляныя пацеркі. У Навагрудку знойдзены 141 экземпляр, у Мінску — 130, у Ваўкавыску — 106, у Брэсце — 59 экземпляраў. Пацеркі розных колераў: чорныя, зялёныя, жоўтыя, сінія, блакітныя, чырвоныя, празрыстыя, шматкаляровыя. Сустрэліся залочаныя і серабропыя, інкруставаныя і арнаментаваныя.

Табліца 2

**Суадносіны бранзалетаў розных форм, %**

| Горад | Гладкія | Кручаныя | Трохвугольныя | Сегментападобныя | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 46,5 | 39,4 | 5,2 | 3,7 | 5,2 |
| Брэст | 38,0 | 56,2 | 0,2 | 3,3 | 2,3 |
| Ваўкавыск (Шведская гара) | 30,1 | 59,75 | 5,8 | 2,4 | 1,95 |
| Ваўкавыск (Замчышча) | 7,7 | 69,2 | 4,4 | 17,6 | 1,1 |

Заўвага: даныя па колькасці бранзалетаў па форме з Турава і Пінска адсутнічаюць.

Сярод круглых пацерак пераважаюць зонныя пацеркі (у Мінску і Ваўкавыску па 67 экз., у Брэсце 46 экз.). Разам з пацеркамі класічнай зоннай формы сустракаюцца двайныя і трайныя пацеркі. У Ваўкавыску больш за ўсё знойдзена зялёных зонных пацерак (23), за імі ідуць жоўтыя (18), сінія (9), празрыстыя (8), фіялетавыя (4). У Мінску на першым месцы жоўтыя зонныя пацеркі (12), за імі — зялёныя (10), блакітныя (9) і фіялетавыя (6).

Іншыя тыпы пацерак з круглым папярочным сячэннем прадстаўлены ў матэрыялах асобных гарадоў адзінкавымі экземплярамі і толькі зусім нямногія — больш чым дзесяткам. У Мінску гэта шарападобныя (7), бочкападобныя (4) і цыліндрычныя (4), у Ваўкавыску — бітрапецападобныя (13), шарападобныя (5) і эліпсоідныя (5). У Полацку знойдзена 16 запоачаных і серабраных пацерак цыліндрычнай ці бочкападобнай формы і 18 пацерак-лімонак. Па аднаму экземпляру пацерак-лімонак, якія датуюцца X—XI стст., выяўлены ў Мінску і Брэсце.

Пацеркі з рабрыстым папярочным сячэннем у Мінску пададзены цыліндрычнымі, бітрапецападобнымі і рыбападобнымі (усяго 6 экз.), у Ваўкавыску — цыліндрычнымі, эліпсоіднымі і бітрапецападобнымі (7 экз.). Рэдкай знаходкай з'яўляюцца пацеркі, арнаментаваныя гладкай, часамі рэльефна выдзеленай спіраллю ці ўзорам у выглядзе вочак.

Шкляных пярсцёнкаў у Навагрудку знойдзена 96 экземпляраў (у адным жытле (№ 5) іх было 28), у Ваўкавыску — 12 экземпляраў, Полацку — 8, Брэсце — 3 экземпляры. У Мінску сустрэліся пярсцёнкі блакітнага, сіняга, зялёнага, фіялетавага і чорнага колераў. У залежнасці ад формы папярочнага сячэння шкляныя пярсцёнкі падзяляюцца на два тыпы: з круглым сячэннем і плоска-выпуклым. Дыяметр сячэння круглых пярсцёнкаў з Ваўкавыска 3—4 мм, шырыня плоска-выпуклых — 4—5 мм. Выдзяляюцца два пярсцёнкі з пабудовы № 5 у Навагрудку: адзін рубчасты, другі — з двухкаляровага шкла са шчытком.

Рэдкімі знаходкамі з'яўляюцца ўстаўкі да металічных пярсцёнкаў (у Навагрудку — 9, Ваўкавыску — 8, Брэсце — 2). Яны розныя па форме (авальныя, круглыя, рамбічныя) і колеру (чорныя, зялёныя, жоўтыя,

фіялетавыя, бескаляровыя). Выраблены ў асноўным з непразрыстага шкла.

Шкляны посуд пададзены ў асноўным невялікімі фрагментамі, аднавіць форму пасудзін па якіх, за рэдкім выключэннем, не ўяўляецца магчымым. Удалося рэканструяваць два тыпы пасудзін з Полацка: невялікія (дыяметр вусця каля 10 см) пасудзіны з тонкімі нахільнымі сценкамі і конусападобныя адкрытыя пасудзіны з вельмі маленькім (дыяметр 1,2—1,5 см) цяжкім донцам. Усе знаходкі шклянога посуду ў Мінску належаць да распаўсюджанага на Русі тыпу бакала з круглым донцам і канічным корпусам. У Тураве знойдзены пасудзіны трох тыпаў: шклянкападобныя, бакалы і лейкападобныя кубкі (Полубояринова, 1963. С. 233—238).

Унікальнымі, як па колькасці, так і па разнастайнасці, з'яўляюцца знаходкі шклянога посуду ў Навагрудку. Тут, па словах Ю. Л. Шчапавай, столькі прывазного посуду, што па ім можна выывучаць розныя мастацкія стылі візантыйскіх, кіпрскіх, сірыйскіх пасудзін (Шапова, 1872. С. 47). Знойдзены вельмі рэдкія пасудзіны «бакалы Ядзвігі», посуд алхіміка і сотні фрагментаў старажытнарускага посуду. Калекцыя навагрудскага шклянога посуду не мае сабе роўных сярод матэрыялаў іншых старажытнарускіх гарадоў.

Старажытнарускі посуд, які складае больш паловы ўсёй навагрудскай калекцыі (60 пасудзін), прадстаўлены пяццю відамі кубкаў (вастрадоннымі, з шырокім донцам, канічнымі вастрадоннымі, канічнымі ўстойлівымі, асобай формы), чаркамі, колбамі, гаршкападобнымі пасудзінамі, чашай-талеркай. Канічныя ўстойлівыя кубкі дзвюх разнавіднасцей: гладкасценныя і рабрыстыя (апошнія выдуты ў форму). Чаша-талерка мае на донцы радыяльна разыходныя рэльефы, а на знешнім баку — нанесеныя карычнева-фіялетавай эмаллю дзве канцэнтрычныя акружнасці. Дыяметр чашы амаль роўны дыяметру аконнага дыска (каля 20 см) (Щапова, 1972. С. 48—51).

Пасудзін усходняга паходжання ў Навагрудку знойдзена больш за 40. Гэта кубкі, флаконы, чашы, шклянкі, бутля. Адны з іх упрыгожаны мастацкім роспісам золатам і рознакаляровымі эмалямі, другія — налепнымі ніткамі, жгуцікамі і рыфленнем. Асобную групу складаюць таўстасценныя пасудзіны, упрыгожаныя рэльефнай разьбой, так званыя «бакалы Ядзвігі» (Гуревич, Джанполадян, Малевская, 1968. С. 7—15).

Акрамя старажытнарускіх і ўсходніх у Навагрудку знойдзены фрагменты пяці пасудзін заходнееўрапейскага паходжання.

Амаль усе навагрудскія пасудзіны адносяцца да XII — першай паловы XIII ст. Старажытнарускія і іншаземныя пасудзіны былі ва ўжытку адначасова. У адной пабудове знойдзены фрагменты 16 пасудзін (7 старажытнарускіх, 9 іншаземных), у другой — 23 пасудзіны (15 старажытнарускіх і 8 усходніх). Выкарыстоўваліся пасудзіны перш за ўсё для віна, мёду і іншых напояў. Флаконы прызначаліся для захоўвання касметычных сродкаў і лекаў. Бутля магла быць посудам алхіміка.

У Навагрудку знойдзена шмат фрагментаў аконнага шкла. Сустрэліся дыскі розных памераў (да 20 см і больш). Ф. Д. Гурэвіч мяркуе, што ў аконныя рамы ўстаўляліся па 3—4 шыбы (Гуревич, 1981. С. 123). Абломкі аконных дыскаў знойдзены ў Тураве. У Ваўкавыску разам са




*Мал. 110. Касцяныя грабяні: 1, 6—8, 15, 16 — Ваўкавыск; 2, 3— Пінск, 4, 5, 11—14 — Мінск; 9 — Тураў; 10 — Гродна; 17, 18 — Брэст; 19, 20 — Навагрудак*

старажытнарускім сустрэлася аконнае шкло заходнееўрапейскага паходжання.

**Вырабы з косці.** Касцяныя вырабы ў матэрыялах раскопак гарадоў шматлікія і разнастайныя: ад простых праколак з метакарпальных (грыфельных) касцей, завостраных канцоў рога і касцей канечнасцей дробных жывёлін да унікальных высокамастацкіх твораў.

Сярод побытавых прадметаў, выраб якіх патрабаваў значнага тэхнічнага майстэрства, вылучаюцца грабяні. Іх калекцыі ў асобных гарадах даволі значныя: у Ваўкавыску 59 экземпляраў, Полацку — 39, Навагрудку — 25 экземпляраў. У залежнасці ад формы і спосабу вырабу грабяні падзяляюцца на тры групы: аднабаковыя, двухбаковыя суцэльныя і двухбаковыя наборныя. Аднабаковыя грабяні тыпу расчосак складаюцца з трох пласцін, змацаваных меднымі заклёпкамі: пласціна з зубамі пасярэдзіне і дзве пласціны-накладкі па баках. Іх насілі ў футлярах, з якімі былі злучаны шарнірамі па прынцыпе складанага нажа. Пласціны-накладкі і асабліва пласціны футляраў багата арнаментаваны. Датуюцца X — першай паловай XI ст. У двухбаковых суцэльных грабянёў адзін бок звычайна нарэзаны рэдкімі зубамі, другі — частымі. Сустракаюцца грабяні з частай нарэзкай зубоў з абодвух бакоў. Па форме двухбаковыя цэльныя грабяні Ваўкавыска падзяляюцца на тры тыпы: трапецападобныя са злёгку скошанымі прамымі ці крыху ўвагнутымі бакамі, трапецападобныя з моцна скошанымі ўвагнутымі (зрэдку прамымі) бакамі і прамавугольныя грабяні, якія падобныя на сучасныя двухбаковыя. Грабяні першага тыпу былі ва ўжытку ў XI—XII стст., трэцяга — з'явіліся ў канцы XII ст. і ўжываліся да XIV ст. уключна. У Полацку найбольшая колькасць грабянёў з моцна скошанымі бакамі прыпадае на першую палову XIII ст. Сярэдняя частка некаторых суцэльных грабянёў упрыгожана падоўжнымі і папярочнымі паглыбленнямі, выпуклымі прамымі і зігзагападобнымі лініямі, «вочкамі» розных дыяметраў. Двухбаковыя наборныя грабяні сустракаюцца значна радзей, чым суцэльныя (у Ваўкавыску суадносіны 1:9). У іх асноўныя пласціны злучаны падоўжнымі накладкамі, змацаванымі меднымі заклёпкамі. У Полацку ў слоі X — пачатку XI ст. знойдзены грэбень, у пласцінах якога маюцца крыжападобныя адтуліны, праз якія прасвечваюцца бліскучыя бронзавыя пласцінкі.

Сярод іншых касцяных вырабаў найбольш шматлікія ручкі, накладкі і абоймы (утулкі) ад нажоў, праколкі, муфтачкі, трубачкі, паясныя накладкі, лічыльныя біркі.

Ручкі нажоў уяўлялі сабой цыліндрычныя, круглыя ці авальныя ў сячэнні стрыжні з паглыбленнямі для чаранкоў. Пласціны-накладкі мелі плоска-выпуклае сячэнне. Яны з абодвух бакоў мацаваліся да чаранкоў з дапамогай касцяных стрыжанькоў ці медных заклёпак. Ручкі і асабліва пласціны-накладкі часта ўпрыгожаны цыркульным арнаментам, падоўжнымі і папярочнымі палоскамі, а зрэдку — вельмі складаным узорам. Адна ручка з Брэста апрацавана нейкім рэчывам, таму яе паверхня стала зусім чорнай і глянцавай. Паверхня другой чорнай ручкі інкруставана белым металам (растворам), які запаўняе прарэзаныя лініі і кружкі. Абоймы маюць форму круглага ці авальнага дыска з адтулінай для стрыжня ручкі нажа ў цэнтры. Яны размяшчаліся на канцах драўляных ручак і ахоўвалі іх ад расколвання.




*Мал. 111. Касцяныя вырабы: 1 — юрок; 2 — дудка; 3, 7 — рогі з адтулінамі; 4 — інструмент для пляцення сетак, 5, 6 — трубачкі для сукання нітак; 8, 21 — накладкі; 9—11, 20 — стрыжневыя гузікі; 12, 14, 16, 17 — іголкі; 13, 18, 24—27 — ручкі; 15, 22 — лыжкі; 19 — падшыпнік-падпятнік; 23 — сякерка (1 — Навагрудак; 2, 3, 5—7, 9—11, 13, 22, 24, 25 — Ваўкавыск; 4, 14 — Слонім; 8, 15, 19, 21, 26 — Тураў; 16, 17, 23 — Давыд-Гарадок; 12, 20 — Гродна; 18 — Полацк; 27 — Лукомль)*

Акрамя пласцін-накладак ад ручак нажоў сустракаюцца больш тонкія і вузкія накладкі, якія некаторымі даследчыкамі інтэрпрэтуюцца як паясныя. Яны бываюць рознай, часам вельмі складанай, формы (апошнія, на думку М. М. Вароніна, былі выразаны па трафарэце). Амаль усе яны арнаментаваныя. У цэлых экземплярах і большасці захаваных абломкаў маюцца невялікія адтуліны.

Праколкі — найбольш частая знаходка ў гарадскіх слаях. Разам з прымітыўнымі праколкамі з кавалкаў рога і абломкаў касцей сустракаюцца старанна апрацаваныя вырабы з адпаліраванымі, упрыгожанымі арнаментам паверхнямі і ідэальна круглымі адтулінамі. Да праколак часам адносяць выраблены з адросткаў рагоў прадметы з канічнымі паглыбленнямі ў зрэзах і адной ці некалькімі адтулінамі ў сценках. Адзін такі прадмет, упрыгожаны па-майстэрску выкананым стужкавым пляценнем з чатырма адтулінамі ўнізе, знойдзены ў Ваўкавыску (падобныя сустрэліся ў Брэсце). У двух другіх такіх прадметаў з Ваўкавыска няма канічных паглыбленняў і адпаведна адтулін, ёсць толькі косыя адтуліны ў шырокіх канцах. Паверхня аднаго з іх арнаментавана стужкавым пляценнем (падобныя знойдзены ў Гродне і Брэсце).

Муфтачкі маюць форму танкасценных цыліндрычных, радзей — канічных трубачак рознай даўжыні. Некаторыя маюць ідэальна круглую форму, што сведчыць пра іх выраб на такарным станку. Знешняя паверхня асобных з іх упрыгожана цыркульным арнаментам, жалабкамі і валікамі. Адносна прызначэння муфтачак няма пэўнай думкі. П. Ф. Лысенка лічыць, што яны выкарыстоўваліся ў якасці абоймаў на канцах драўляных ручак ці з'яўляліся састаўнымі часткамі наборных ручак (Лысенко, 1985. С. 281).

У Ваўкавыску знойдзены дзве трубачкі даўжынёй 4 і 5 см з круглымі адтулінамі, размешчанымі адна каля адной упоперак. У адной трубачкі тры адтуліны, у другой — пяць (дзве з аднаго боку і тры з процілеглага). На думку У. К. Ганчарова, такія трубачкі ўжываліся для сукання нітак (Гончаров, 1950. С. 128). У Ваўкавыску знойдзена касцяная трубачка дыяметрам 1,1 см, на адным баку якой ёсць тры круглыя адтуліны, размешчаныя ўздоўж на адлегласці 0,7—0,8 см адна на адной, а на процілеглым баку — адна адтуліна. Дыяметр адтулін 0,5 см. Відаць, гэта музычны інструмент тыпу жалейкі. Такія інструменты вядомы ў археалагічным матэрыяле Латвіі (Уртан, 1970. С. 226—227).

Гузікі двух тыпаў: у выглядзе плоска-выпуклых кружкоў з адтулінай у цэнтры, праз якую раменьчыкам ці вяровачкай з вузельчыкам на канцы мацаваліся да адзення (сферычныя гузікі) і ў выглядзе стрыжанькоў з патанчэннем і адтулінай у сярэдняй частцы (стрыжнявыя). Абодва тыпы пададзены ў матэрыялах Гродна, Полацка, Ваўкавыска. Некаторыя сферычныя гузікі з Ваўкавыска і Навагрудка арнаментаваны лініямі і кружкамі. У Брэсце і Мінску знойдзены гузікі ў выглядзе квадратных усечана-пірамідальных пласцінак з адтулінай.

У шмат якіх гарадах знойдзены рэбры жывёлін з трохвугольнымі зарубкамі на адным ці абодвух баках. Некаторыя даследчыкі інтэрпрэтуюць іх як лічыльныя біркі. У Тураве і Ваўкавыску знойдзены плоскія касцяныя лыжкі. У тураўскай лыжкі авальная лопасць, а ў ваўкавыскай — круглая. Абедзве лыжкі неглыбокія, прызначаліся для сухой ежы. У абедзвюх пералом паміж лопасцю і чаранком амаль адсутнічае.


*Мал. 112. Вырабы з косці: 1, 6—8, 12, 14, 17, 19, 23, 24, 26 — накладкі; 2 — фрагмент пісала (?); 3, 4 — гузікі; 5, 11, 21 — прадметы нявызначанага прызначэння; 9 — вухавертка; 10 — ручка; 13 — прывеска; 15, 16, 20 — стрыжневыя гузікі; 18, 22 — муфты; 25 — стрыжань лучковага свердзела (1 — Турэйск; 2—4, 7, 9—11, 13, 15, 16, 21, 22, 25 — Ваўкавыск; 5 — Слонім; 6, 8, 12, 14, 17, 20, 23, 24, 26 — Гродна; 18 — Лукомль, 19 — Давыд-Гарадок)*

Прадметы вытворчага прызначэння з косці сустракаюцца рэдка. У Тураве і Брэсце знойдзены выраблены з рагоў аленя (лася) падшыпнікі, моцна адпаліраваныя гнёзды якіх сведчаць пра працяглае іх выкарыстанне. Тураўскі падшыпнік мае форму закругленага зверху шасціграннiка, брэсцкі чашападобнай формы. У Гродне і Навагрудку знойдзены спецыяльныя інструменты для пляцення сетак (так званыя качадыкі). Больш складаны інструмент для пляцення і рамонту сетак знойдзены ў Слоніме. Ён мае форму двухзубай вілкі з трыма трохвугольнымі паглыбленнямі з кожнага боку. У Брэсце, Слоніме і Навагрудку знойдзены касцяныя іголкі. Даўжыня брэсцкіх іголак 5,5—6,8 см, таўшчыня — 0,4 — 0,6 см. Круглыя адтуліны знаходзяцца ў тоўстым канцы. Такімі іголкамі можна было сшываць вельмі няшчыльныя тканіны. Іншым было, відаць, прызначэнне слонімскай іголкі. Яе даўжыня 15,1 см, папярочнае сячэнне 0,6×1,0 см. Падоўжаная адтуліна памерам 9×3 мм знаходзіцца на адлегласці менш 2/3 агульнай даўжыні іголкі ад вострага канца.

Асаблівую цікавасць уяўляе знойдзены ў Брэсце ў слоі XIII ст. мастыхін мастака ў выглядзе тонкай і вузкай (2,2 см) касцяной пласціны выцягнута-трохвугольнай формы, шырокі канец якой скошаны пад вуглом каля 40° і зрэзаны на вострае лязо (другі канец абламаны). Гэтым канцом фарбу расцiралі і наносілі на палатно ці драўляную дошку. Аналогій гэта знаходка не мае.

Нярэдкія знаходкі касцей для гульні. Яны вырабляліся з таранных костак свіней, буйной і дробнай рагатый жывёлы. На некаторых маюцца меткі ў выглядзе кропак, трохвугольнікаў, насечак і інш. У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзена косць для гульні ў форме куба з рабром у 1 см, на кожнай грані якога цыркульным арнаментам нанесены вочкі ад аднаго да шасці. Такая ж па форме і памерах, з такім жа парадкам нанясення вочак косць для гульні знойдзена ў Ноўгарадзе (Арциховский, 1949. С. 172). Відаць, да ліку дзіцячых цацак трэба аднесці пясцевыя косці з прасвідраванымі адной (Полацк, Ваўкавыск, Гродна, Брэст) ці некалькімі (Давыд-Гарадок) адтулінамі. Пры вярчэнні на туга нацягнутых нітках яны выдавалі спецыфічны гук.

Да ліку вельмі рэдкіх у старажытнарускіх гарадах знаходак адносяцца шахматныя фігуры. Яны бываюць выяўленчымі і сімвалічнымі (абстрактнымі). Выяўленчая фігура караля знойдзена ў Брэсце (у слоі пачатку XIII ст.), ферзя — у Лукомлі (у слоі XII ст.), ладдзі і пешкі — у Ваўкавыску (у слаях XI—XII стст.). Выкананая ў рэалістычнай манеры паясная фігура з Брэста ўяўляе сабой князя са шчытом на левай руцэ і булавой (жазлом ці скіпетрам) у правай. На галаве ў яго плоская круглая шапачка, з-пад якой звісаюць доўгія да плячэй валасы. Твар акруглы з апушчанымі ўніз вусамі і клінападобнай барадой. Фігура з Лукомля з'яўляецца выявай чалавека, які сядзіць са скрыжаванымі рукамі, з шапачкай (шлемам) на галаве, доўгімі валасамі і безбародым, бязвусым тварам. Ладдзя з Ваўкавыска мае выгляд вядомых па крыніцах XII—XIII стст. рачных суднаў з палубамі, якія ахоўвалі весляроў, і двухбаковым ходам. На палубе фігуркі чатырох воінаў з міндалепадобнымі шчытамі (па адным на носе і карме і два пасярэдзіне каля бартоў). Ваўкавыская пешка — гэта выява барабаншчыка, на якім надзе-

та доўгая да каленяў рубашка з поясам. На галаве шапка, на шыі барабан, у правай руцэ «вашчага» для ўдараў па ім. Барабаншчык падобны да воінаў, выразаных на ладдзі. Відаць, абедзве фігуры ўваходзілі ў склад аднаго шахматнага набору.

Абстрактныя касцяныя шахматныя фігуры знойдзены ў Копысі (ладдзя і пешка), Друцку (слон і дзве пешкі), Віцебску і Ваўкавыску (ладдзі), Полацку (слон), Тураве і Навагрудку (коні). Большасць знойдзеных на Беларусі абстрактных фігур выраблена па ўсходніх узорах. Ладдзі з Копысі і Ваўкавыска маюць выгляд прамавугольных у сячэнні калодачак з двума верхнімі выступамі. Слон з Друцка мае форму ўсечанага конуса з двума бакавымі выступамі ўверсе. Коні з Турава і Навагрудка маюць адзін бакавы выступ уверсе. Пешкі з Друцка і Копысі — гэта ўсечаныя конусы без выступаў. Разам з фігурамі ўсходняга тыпу знойдзены шахматы, выкананыя ў іншай манеры. Гэта ладдзя з Віцебска і слон з Полацка. Яны вытачаны на такарным станку, маюць круглую аснову, цыліндрычную ножку і відазмененую ў параўнанні з шахматамі ўсходняй сімволікі форму.

У Полацку і Брэсце знойдзены канькі. Яны зроблены з плюснявых костак каня ці быка. Ніжняя паверхня старанна адпаліравана, канцы эпіфізаў зрэзаны. Сустрэліся ў слаях XI—XIV стст. і ў больш позні час.

У гарадскіх матэрыялах ёсць рэчы, якія па мастацкай вартасці, майстэрству апрацоўкі можно аднесці да ўзораў кастарэзнага майстэрства. Сярод іх пласцінка ад трыпціха з Ваўкавыска. Яна прамавугольнай формы, памерам 10,7$\times$4,6 см. На знешнім баку выразаны тры пагрудныя выявы: уверсе — архангела Гаўрыіла ці Міхаіла, у сярэдзіне, відаць,— святога Пятра, унізе — зусім маладога святога, хутчэй за ўсё Георгія ці Пракопа. На адваротным баку — рэльефны крыж на сферы з акруглым міжкрыжжам і «слёзкамі» на канцах. Падобныя да ваўкавыскай знаходкі вырабы шырока вядомыя ў візантыйскіх старажытнасцях. На тэрыторыі Усходняй Еўропы гэта першая знаходка. Па майстэрству аздаблення ваўкавыская пласціна саступае лепшым візантыйскім узорам. Магчыма, яна выразана мясцовым майстрам па візантыйскіх узорах. Датуецца другой паловай XI — пачаткам XII ст.

У Мінску ў слоі першай паловы XII ст. знойдзена статуарная фігурка мужчыны (галава і ніжняя частка адламаны) у кароткім адзенні заходнееўрапейскага ўзору, сцягнутым у таліі шырокім поясам. У правай руцэ ён трымае вялікі рог, у левай — незразумелы прадмет. У. П. Даркевіч лічыць выраб фрагментам лыжачкі для прыняцця прычасця і папярэдне звязвае яго з французскім імпартам (Даркевич, 1966. С. 29).

У Навагрудку ў слоі першай паловы XII ст. знойдзена вухавёртка, выразаная з рога аленя. Верхняя частка яе ўяўляе фігуру музыкі, які грае на трохструнным інструменце, падобным на гуслі. Фігура музыкі мае знешняе падабенства з барабаншчыкам з Ваўкавыска. Ф. Д. Гурэвіч мяркуе, што абедзве выявы зроблены адным майстрам (Гуревич, 1965. С. 276—277). Вельмі прыгожа і багата арнаментаваны касцяны ігольнік з Навагрудка. Высокамастацкім вырабам з'яўляецца навершша ручкі плёткі ў форме галавы каня, знойдзенае ў слоі XIII ст. у Брэсце. Галава і частка шыі ўпрыгожаны старанна выразаным складаным арнаментам з прамых і зігзагападобных ліній, пераплеценых стужак, сятчатай нарэзкі.




*Мал. 113. Арнаментаваныя касцяныя пласціны: 1—3, 8 — Ваўкавыск; 4 — Мінск; 5 — Друцк; 6, 7 — Мсціслаў; 9, 10 — Тураў*




*Мал. 114. Вырабы з каменю і гліны: 1 — вапняковае праслíца; 2—5, 18, 19 — каменныя крыжыкі; 6, 14, 16 — гліняныя праслíцы; 7, 12, 13 — тачыльныя камяні; 9 — гліняная фігурка чалавека; 8, 10, 11, 15 — шыферныя праслíцы, 17, 20, 21 — гліняныя бразготкі, 22 — каменная зерняцёрка; 23 — гліняны падсвечнік (1—5, 7—10, 12, 13, 15—19, 21 — Ваўкавыск; 6, 1, 22 — Віцебск; 11, 20, 23 — Гродна; 14 — Лукомль)*

У Брэсце, Ваўкавыску, Мінску, Тураве, Мсціслаўі, Друцку і іншых гарадах знойдзены касцяныя пласціны, арнаментаваныя па ўсёй плоскасці наразным, рэльефным, а зрэдку і праразным узорам. Большасць з іх з'яўляецца накладкамі, што мацаваліся да нейкіх прадметаў лры дапамозе металічных заклёпак. Па стылі адны з іх звязаны з паўднёвым качзўным светам, другія — з Заходняй Еўропай.

**Вырабы з каменя і бурштыну.** На ваўкавыскім Замчышчы знойдзена каля сотні камянёў з апрацаванымі, але не адшліфаванымі плоскімі гранямі і больш за 30 камянёў з гладка адшліфаванымі плоскімі паверхнямі. Шмат камянёў, што прызначаліся для дэкаратыўных уставак у фасады сцен храмаў, знойдзена ў Гродне. У Віцебску адкапаны квадры і блокі, што прызначаліся для ўзвядзення манументальныых збудаванняў. Яны выраблены з мясцовых даламітазаваных вапнякоў. Вапняковыя пліткі для ўнутранай абліцоўкі сцен храма выяўлены ў Мінску.

Нярэдкая знаходка — жорнавыя камяні. У Брзсце ў пластах XII — XIII стст. іх знойдзена 16 экземпляраў, у Ваўкавыску — больш за 20. У адным з дамоў другой лаловы XII ст. у Навагрудку знойдзены камплект, які складаецца з верхняга і ніжняга камянёў. Выяўлены жорны, у якіх рабочая паверхня ніжніх камянёў выпуклая, верхніх — увагнутая. Але ёсць і такія, у якіх і ніжнія, і верхнія камяні маюць плоскую рабочую паверхню. У верхніх камянях, як правіла, няма паглыбленняў для порхліц, з дапамогай якіх рэгуляваўся зазор паміж камянямі. Відаць, яны ўстаўляліся непасрэдна ў адтуліны. Жалезныя і драўляныя порхліцы знойдзены ў Мінску. У Брэсце, Мінску, Слоніме сустрэліся спецыяльныя драўляныя скобы (бакавыя падшыпнікі) з круглымі адтулінамі для ручак, трымаючыся за якія круцілі верхнія камяні.

Частай знаходкай з'яўляюцца тачыльныя брускі, вырабленыя з глiністага сланцу і пясчаніку. У Ваўкавыску іх знойдзена 272 экземпляры. (На Шведскай гары ў адным месцы іх знойдзена 20 штук.) Большасць брускоў мае прамавугольную прызматычную форму. У некаторых на адным канцы ёсць прасвідраваная адтуліна для шнурка, з дапамогай якога яны падвешваліся да пояса. Сустрэліся брускі з працягнутымі ў адтуліны меднымі кольцамі.

Шыферныя праслiцы — найбольш частая знаходка ў гарадскіх слаях XI—XIII стст. У Полацку на Верхнім замку іх знойдзена 451 экземпляр, у Тураве — 232, у Ваўкавыску — 224, у Брэсце — каля 200, у навакольным горадзе Навагрудка — 93 экземпляры. Пераважаюць праслiцы біканічнай і зоннай формы (у Ваўкавыску такія праслiцы складаюць адпаведна 52 і 38 %). Бочкападобныя і дыскападобныя сустракаюцца значна радзей. Разам з прывазнымі шыфернымі і мясцовымі глінянымі часам сустракаюцца праслiцы, зробленыя з мясцовага вапняку і абломкаў керамікі.

Сярод каменных вырабаў, якія патрабавалі стараннай апрацоўкі, вылучаюцца выразаныя са шчыльнага сланцу і іншых у асноўным мясцовых парод крыжы-цельнікі. Яны, як правіла, невялікіх памераў (даўжыня 2,5—4 см), амаль роўнабаковыя, маюць адтуліны для падвешвання. У Брэсце, Ваўкавыску, Навагрудку і іншых гарадах сустрэліся мармурападобныя крыжыкі са стракатага каменя, так званыя «карсунчыкі» ад Корсуня (старажытны Херсанес), дзе іх выраблялі і адкуль прывозілі.

Іконкі, выразаныя з мяккіх парод каменя (сланцаў, вапняку), знойдзены ў Полацку, Мінску, Пінску, Ваўкавыску, Навагрудку. Па сваіх мастацкіх вартасцях, майстэрству аздаблення полацкія і мінскія іконкі могуць быць аднесены да лепшых узораў прыкладнога мастацтва.

У Брэсце ў слоі XI ст. знойдзена вапняковая плітка з прачэрчанай выявай воіна ў пласцiністым даспеху і востраканечным шлеме з круглым шчытом на левай руцэ і мячом у правай.

У Полацку, Гродне, Мінску, Віцебску, Навагрудку, Ваўкавыску, Тураве, Друцку знойдзены раздымныя каменныя формы. Яны прызначаліся для адліўкі падвесак, завушніц, крыжыкаў, гузікаў, пярсцёнкаў, у тым ліку псеўдазярністых упрыгожанняў, што пераймалі ўбор знаці. Некаторыя формы выкананы э такой стараннасцю, што самі па сабе з'яўляюцца высокамастацкімі прадметамі.

Каменныя пацеркі — параўнальна рэдкая знаходка ў гарадскіх слаях дамангольскага часу. Яны зроблены з сердаліку і горнага хрусталю і з'яўляюцца, безумоўна, прадметамі імпарту.

У большасці гарадоў сустракаліся кавалкі неапрацаванага бурштыну, а таксама вырабы з яго. На Шведскай гары ў Ваўкавыску 20 кавалкаў неапрацаванага бурштыну знойдзены разам. 22 кавалкі знойдзены ў Полацку, больш за 20 — у вакольным горадзе Навагрудка (пераважна ў слаях XII—XIII стст.). Ф. Д. Гурэвіч выказапа меркаванне, што ў якасці сыравіны бурштын у Навагрудак паступае пачынаючы з XII ст. Што датычыцца адзінкавых кавалкаў у адкладаннях XI ст., то яны хутчэй за ўсё з'яўляліся амулетамі, паколькі бурштыну ў старажытнасці прыпісвалі лекавыя ўласцівасці (Гуревич, 1981. С. 145).

Гатовыя бурштынавыя вырабы прадстаўлены прывескамі-крыжыкамі, пацеркамі і пярсцёнкамі. Крыжыкі дзвюх разнавіднасцей: чатырохканцовыя з прамымі канцамі і чатырохканцовыя з вялікімі квадртанымі міжкрыжаваннямі. У Ваўкавыску знойдзена па 3 экземпляры кожнай разнавіднасці. Усе яны строга сіметрычнай формы са старанна адшліфаванай паверхняй. Датуюцца XII—XIII стст. Пацеркі пададзены ў асноўным двума тыпамі: бітрапецападобнымі і эліпсападобнымі. Пярсцёнкі плоскавыпуклыя ў разрэзе, са слаба прыўзнятымі над паверхняй авальнымі шчыткамі і без іх.

**Скураныя вырабы** складаюць адну з найбольш шматлікіх груп знаходак у гарадах, культурныя слаі якіх захоўваюць арганічныя рэчывы. Сярод скураных вырабаў большасць складаюць рэшткі абутку. Наменклатура шавецкіх вырабаў уключае ўсе вядомыя ў старажытнай Русі віды абутку: поршні, мяккія туфлі, паўбоцікі і боты.

Найбольш простым па спосабе вырабу відам абутку з'яўляліся поршні, падобныя па знешнім выглядзе на лапці (дарэчы, ні лыкавыя, ні вяровачныя лапці пры раскопках не знойдзены). Яны выраблялися з аднаго кавалка скуры, краі якога на наску і пятцы злучаліся дратвай ці раменьчыкам. Па краях борцікаў былі прорэзі, у якія працягваліся раменьчыкі, з дапамогай якіх поршні сцягваліся і мацаваліся да нагі. Разам з простымі (з гладкай галоўкай) сустрэліся ажурныя поршні (з праразной галоўкай).

Мяккія туфлі складаліся э дзвюх частак: верху і прышытай падэшвы. Верх у сваю чаргу таксама часам складаўся э двух кавалкаў скуры. На




*Мал. 115. Скураныя вырабы 1—3 — ножны, 4—6 — кашалькі, 7, 19 — мячы, 8 — скура, інкруставаная металічнымі кружкамі, 9, 10, 14, 16, 17, 21 — фрагменты арнаментаванага абутку, 11 — рукавіца, 12 — туфель, 13 — падэшва, 15 — башмак, 18, 20 — боты (1, 12, 18, 20 — Брэст, 2, 3, 9, 10, 13, 19 — Слонім, 4—8, 11, 14—17, 21 — Полацк)*

назе туфель мацаваўся раменьчыкам, працягнутым на ўзроўні шчыкалаткі ў проразі, зробленыя на галоўцы, баках і пятачнай частцы абутку. Значная частка мяккіх туфляў была ўпрыгожана рознымі відамі арнаменту. Часцей за ўсё ўпрыгожвалася цэнтральная частка галоўкі ад наска да пад'ёму. Ад вышыўкі, як правіла, захаваліся толькo праколы ў скуры (ніткі згнілі), на якіх, аднак, можна аднавіць малюнак. На туфлях з Гродна і Слоніма першапачаткова (XI—XII стст.) папярочныя праколы ішлі паралельна радамі толькі ўздоўж галоўкі. Нярздка ў іх меліся бакавыя лініі праколаў у адзін-два рады. Пазней (XII—XIII стст.) рады паралельных праколаў спалучаліся з бакавымі лініямі, якія ўтваралі разнастайныя дугі, завіткі, што заходзілі на бакі галоўкі. Для абутку гэтых гарадоў, як і старажытнага Бярзсця, характзрна перавага геаметрычнага арнаменту над раслінным і адсутнасць цісненых арнаментаў.

Значна радзей, чым поршні і туфлі, сустракаюцца паўбоцікі і боты. Паўбоцікі складаюцца з трох частак: галоўкі з пярздняй палавінай халявы, задніка з задняй палавінай халявы і падэшвы. Боты складаліся з халяваў, галоўкі, заднікаў і падэшваў. Заднікі часам рабіліся жорсткімі з цвёрдымі пракладкамі скуры ці бярosты. Халявы ў параўнанні з паўбоцікамі былі больш высокімі, пераважна 25—30 см, але сустракаюцца і 15—17 см. Як і астатні абутак з прышыўной падэшвай, боты XI—XIII стст. не мелі абцасаў. Іх з'яўленне адносіцца, відаць, да XIV ст., пра што сведчаць знаходкі металічных падковак. Прызначаліся боты ў асноўным для дарослых мужчын, хоць сустракаліся і дзіцячыя боцікі.

Акрамя абутку знойдзены скураныя ножны, кашалькі, чахлы, рукавіцы, мячы, аплікацыі, дэталі рыштунку каня, паясы, пугі і іншыя вырабы. Найбольш шматлікая калекцыя ножнаў знойдзена ў Брэсце — 36 экземпляраў. Усе яны зроблены з аднаго кавалка скуры, складзенага папалам па даўжыні і прашытага па краі ніткай ці раменьчыкам (у адным выпадку былі змацаваны трыма заклёпкамі). Да пояса ножны мацаваліся раменьчыкамі, працягнутымі праз дзве адтуліны ў верхняй іх частцы. У Мінску знойдзены ножны, зробленыя як з аднаго кавалка скуры, так і з некалькіх асобных кавалкаў. Даўжыня брэсцкіх ножнаў вагаецца ад 8—10 да 25 см, шырыня — ад 2,5 да 5,5 см (Лысенко, 1985. С. 301—302).

Кашалькі падзяляюцца на некалькі тыпаў: прамавугольныя з клапанам, пашытыя з аднаго ці двух кавалкаў скуры; фігурныя (круглыя, пяцівугольныя і інш.) як з клапанам, так і без яго, скроеныя з двух кавалкаў скуры; кісетныя з аднаго кавалка скуры, які сцягваўся раменьчыкам, працягнутым ў надрэзы ў верхняй частцы кашалька. Усе тры тыпы вырабаў прадстаўлены ў матзрыялах Брзста і Полацка. У Мінску і Слоніме знойдзены кашалькі толькі першага тыпу. Чахол для самшытавага грабеньчыка, які знаходзіўся ўнутры, знойдзены ў Брэсце. Ён, як кашалькі першага тыпу, сшыты з аднаго перагнутага ўдвая кавалка скуры. Па баках у верхняй частцы ёсць дзве дзірачкі, відаць, ад шнурка (раменьчыка) для падвешвання.

У Мінску, Полацку, Брэсце знойдзены рукавіцы. Яны сшыты з двух кавалкаў скуры, аднолькавых па форме і памерах. Скураны мяч з двух кружкоў і злучаючай іх сярздняй палоскі знойдзены ў слоі XIII ст. у Брзсце. Часткі мячоў у выглядзе невялікіх (дыяметрым 7—9 см) кружкоў



*Мал. 116. Вырабы з дрэва: 1, 2 — рулявыя веслы, 3 — лапата, 4 — малаток, 5 — таўкач; 6 — дзіцячы меч, 7 — дошка ад дзвярэй, 8 — подачны шпангоўт, 9 — запор для дзвярэй; 10 — кухталь (штурхан), 11 — чарпак, 12 — кола, 13, 19 — бандарны посуд, 14, 16 — шавецкія капылы, 17 — санны полаз з капыламі, 18 — карыта (1, 2, 12, 13, 19 — Брэст; 3, 5, 7, 8, 14—17 — Полацк, 4, 6, 9, 11 — Гродна; 10, 18 — Мінск)*

знойдзены ў Мінску і Полацку. У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзена скураная палоска шырынёй 4 см і даўжынёй 40 см, арнаментаваная праразным скразным раслінным арнаментам. У Полацку выяўлены фрагмент скуранога вырабу з арнаментам, які складаўся з вузкіх медных пласцінак.

Скура для абшыўкі хамута знойдзена ў слоі XIII ст. у Брэсце. Сярод іншых прадметаў са скуры — фрагмент мацавання лыж з Гродна. Пятля, што надзявалася на насок абутку, прашытая сырамятнымі раменьчыкамі і мае прорэзі, з дапамогай якіх можна было падганяць да нагі. Раменьчык, што ахопліваў нагу ззаду, намертва прымацаваны да пятлі.

**Драўляныя вырабы** складаюць значную частку археалагічных калекцый у гарадах, культурны пласт якіх захоўвае прадметы арганічнага паходжання. З дрэва зроблены прылады працы і перапрацоўкі ўраджаю, дэталі транспартных сродкаў і станкоў, посуд і прадметы побыту, элементы пабудоў і збудаванняў, дзіцячыя цацкі і іншыя рэчы.

У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзена дубовае рала. Гэта адзіная ў Еўропе знаходка глебаапрацоўчай прылады гэтага часу тыпу прамаградзільных беспадэшвенных рал. Даўжыня градзіла 155 см, таўшчыня — 8—10 см, даўжыня рабочага органа, які, відаць, меў жалезны наканечнік-наральнік, 42,5 см (крыху абламаны) (Лысенко, 1985. С. 340).

У Брэсце, Мінску, Полацку, Слоніме выяўлены земляройныя рыдлёўкі. У адрозненне ад такіх рыдлёвак іншых гарадоў, якія часта мелі аднаплечыкавую форму прамавугольнай ці трапецападобнай рабочай лопасці (з аднаго боку — прамы зрэз, з другога — касы), брэсцкія земляройныя рыдлёўкі маюць двухплечыкавую лопасць трохвугольнай формы. Некаторыя рыдлёўкі з шырокай лопасцю і кароткім чаранком з'яўляліся, відаць, хлебапекавымі (на асобных з іх прыкметныя сляды агню). Сустрэліся рыдлёўкі, якія, верагодна, ужываліся і для іншых мэт (выграбання і накладвання сыпучых рэчываў, расчысткі снегу і інш.). У Мінску і Брэсце знойдзены двухзубыя драўляныя вілы. У Брэсце знойдзены фрагмент пляча планкі васьмі- ці сямізубых грабель. Граблі знойдзены і пры даследаванні Мінска.

Прылады абмалоту зерневых і бабовых культур у гарадскіх матэрыялах пададзены цапамі (сустрэліся ў Полацку і Гродне). Для абмалоту алейных культур (лён, каноплі) выкарыстоўваліся пранікі, чакмары і іншыя прылады, якія ў значнай колькасці сустракаюцца пры раскопках. Пранікі шырока прымяняліся ў хатнім ужытку (пры мыцці бялізны, выбельванні палатна і іншых работах), чакмары выкарыстоўваліся цеслярамі і сталярамі (для ўдараў па драўляных клінах пры вырабе дошак, а таксама па колючых і рэжучых металічных інструментах).

У Мінску і Брэсце знойдзены нажныя ступы, якія выкарыстоўваліся адначасова з ручнымі (не сустрэліся) для прыгатавання круп з зерневых культур. Таўкачы для нажных і ручных ступ знойдзены ў Полацку (двухручныя), Брэсце, Слоніме і іншых гарадах.

Унікальнай, не сустрэтай да раскопак у Брэсце, знаходкай з'яўляецца алейны прэс для выціскання алею з семені льну і канапель. Гэта масіўная сасновая плашка (174×42×20 см), на крыху ўвагнутай рабочай паверхні якой выразана авальная замкнутая канаўка памерам 72×33 см, шырынёй 2 і глыбінёй 1—1,5 см. Ад канаўкі па цэнтры плашкі ідзе па-

доўжная канаўка, па якой сцякаў алей са змешчанага ў ільняны мяшэчак семені, што адціскалася масай верхняй плашкі ці дадатковым прыстасаваннем.

У Брэсце знойдзены рухомы нож-біла ад двухлязовай мялкі. Даўжыня нажа 96 см, шырыня 4 см, таўшчыня лёзаў 1 см. Нерухомы брус гэтай мялкі меў адпаведна дзве шчыліны. Сярод іншых прылад для механічнай апрацоўкі валакністых культур — трапалы і часалкі. Трапала часцей за ўсё мае форму моцна выцягнутай вострай з абодвух бакоў лапатачкі з плаўным закругленнем на канцы, радзей — нажападобную з аднабаковым лязом і яшчэ радзей — мечападобную з двухбаковым лязом форму. Пераважная большасць часалак мае форму масіўнага падоўжанага нажа з зубчастым аднабаковым лязом. Значна радзей сустракаюцца часалы ў выглядзе вузкай лапатачкі з двухбаковай нарэзкай зубоў (знойдзены ў Брэсце, Слоніме).

З драўляных прыстасаванняў рамеснікаў знойдзены толькі шавецкія калодкі. Яны сустрэліся ў Мінску, Полацку, Брэсце, Гродне, Давыд-Гарадку. Ужываліся калодкі двух тыпаў: асіметрычныя і сіметрычныя (апошнія прызначаліся для пашыву абутку як на правую, так і на левую нагу).

Асаблівую цікавасць уяўляюць дэталі транспартных сродкаў. Амаль цэлае кола, спіцы, абломкі вобада іншага кола, дзве восі ад калёс знойдзены ў Брэсце. Частка вобада кола са спіцамі і калодкай (ступіцай), дзве восі ад калёс знойдзены ў Мінску, калодка і частка вобада — у Полацку, вось — у Віцебску. Брэсцкае калясо мела дыяметр вобада 86,6 см, калодку даўжынёй 41,5 см, дыяметрам 18,5 см і 10 спіц даўжынёй 38,7 см, сячэннем 4,5×2,7 см (захавалася 6 спіц). Кола выкарыстоўвалася без металічнага вобада. І брэсцкія і мінскія восі зроблены з дуба. Агульная даўжыня адной брэсцкай восі 145 см, даўжыня паўвосяў 44,2 см і 47 см, другой адпаведна 168,8 і 54 см (адна паўвось абламана) (Лысенко, 1985. С. 304—306).

Ад саней захаваліся палазы (знойдзены ў Мінску і Полацку) і капылы (сустрэліся ў многіх гарадах). У адпаведнасці з наўгародскай класіфікацыяй капылы падзяляюць на два тыпы: з сучком-вязам і без яго (Колчин, 1968. С. 52). Калі ў Ноўгарадзе пераважалі капылы першага тыпу, то ў гарадах Беларусі — другога. У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзены клешчы хамута (захаваліся не поўнасцю) і, відаць, абломак дугі.

Дэталі водных транспартных сродкаў — даволі рэдкія знаходкі. У Полацку знойдзены шпангоўты і вясло, у Гродне — вясло, у Брэсце — шпангоўты, кармавыя лодачныя і карабельныя вёслы. Брэсцкія кармавыя лодачныя вёслы мелі пяро даўжынёй 55 см і шырынёй 9 см. У кармавых карабельных вёслаў даўжыня пяра складала ад 86 да 102 см, шырыня пяра — 27—28 см.

У многіх гарадах знойдзены драўляныя бакавыя падшыпнікі ад жорнаў. Гэта сегментападобныя скобы з круглымі адтулінамі для ручак, з дапамогай якіх круцілі верхнія камяні.

Захаваліся дэталі ад гарызантальных ткацкіх станкоў, якія з'явіліся ў беларускіх гарадах у другой палове XI — сярэдзіне XII ст. У Брэсце знойдзены цягі, падножкі, чаўнок, берда. Планкі-цягі, што ўжываліся для мацавання берда, падножка і чаўнок знойдзены ў Мінску. Чаўнакі




*Мал 117 Вырабы з дрэва: 1, 2, 4—8 — точаны посуд, 3, 12 — лыжкі, 9, 10 — грабяні, 11 — прадмет нявызначанага ўжытку, 13 — загатоўка чашы, 14 — абломак разной пасудзіны (1, 2 — Мінск, 3 — Полацк, 4, 5, 9, 11 — Слонім, 6—8, 14 — Брэст, 10 — Пінск, 12, 13 — Давыд-Гарадок)*

полага тыпу сустрэліся ў Пінску, Гродне і Полацку. У Гродне і Слоніме знойдзены фрагменты валоў (навоеў), на якія намотваліся ніткі, а таксама нічанкі (ніты) для мацавання нацягнутых петляў, з дапамогай якіх падніmаліся і апускаліся ніткі асновы, прапускаючы чаўнок з уточнымі ніткамі. Брэсцкае берда па сваім выглядзе зусім не адрозніваецца ад сучасных. Драўляныя дэталі такарных станкоў не сустрэліся. Прамым сведчаннем прымянення такіх станкоў з'яўляюцца знойдзеныя ў Полацку бабышкі — адходы такарнай справы.

Посуд, вытачаны на такарным станку, знойдзены ў Мінску, Брэсце, Полацку, Слоніме і іншых гарадах. Яго наменклатура ўключае чашы, талеркі, кубкі, конаўкі. У Мінску знойдзены чашы некалькіх формаў: з акруглымі сценкамі, якія пераходзяць у нізкі кальцавы паддон; з такімі ж сценкамі на шырокай, звужанай кверху ножцы; у выглядзе слоікаў з амаль прамымі нізкімі сценкамі на нізкім кальцавым паддоне (Загорульский, 1982. С. 253). Дыяметр талерак, што былі ва ўжытку ў Брэсце, вагаецца ад 18 да 36,5 см.

Разам з вытачаным знойдзены сталовы разны посуд: каўшы, чарпакі, кубкі, апалонікі, лыжкі. Гэта пасудзіны, зробленыя пры дапамозе долата і разца. У Брэсце разам са звычайнымі знойдзены лыжкі з неглыбокай лопасцю, якія, відаць, прызначаліся для цвёрдай ежы.

Да ліку выдзеўбаных пасудзін адносяцца знойдзеныя ў Мінску, Полацку, і Брэсце карыты. У Брэсце ў слоі XIII ст. знойдзена паходная біклажка, у выдзеўбаным корпусе якой з абодвух бакоў устаўлены донцы. У верхняй больш вузкай яе частцы прасвідравана адтуліна, па абодва бакі якой у спецыяльна пакінутых патаўшчэннях ёсць дзве адтуліны для падвешвання. Ёмістасць біклажкі каля 4 л. Выдзеўбаная кадушка знойдзена ў Полацку.

Бандарны посуд уключае вёдры, кадушкі, цабэркі, балеі, бочкі. Цэлы ці поўнасцю аднаўляемы посуд сустракаецца рэдка. У Брэсце знойдзены вядро, кадушка і вадавозная бочка. Ад астатніх пасудзін захавалася 250 розных клёпак і звыш 120 донцаў. Пераважная большасць клёпак звужаецца кверху (посуд меў у сваёй большасці форму ўсечанага конуса). Вышыня брэсцкага вядра 21,2 см, дыяметр донца 31,1 см, аб'ём каля 11 л. Вышыня кадушкі 22 см, дыяметр донца 30 см, аб'ём каля 10 л. Абедзве пасудзіны складзены кожная з 12 клёпак шырынёй 7—8 см унізе і 6—7 см уверсе. Вышыня вадавознай бочкі 103 см, дыяметр днішча каля 54 см, ёмістасць 220—230 л. Складзена з 16 клёпак шырынёй 9—10 унізе і 10—11 см пасярэдзіне вышыні (Лысенко, 1985. С. 313). Мяркуючы па памерах клёпак, мінскія кадушкі прызначаліся пераважна для захоўвання зерня, мелі вышыню да 70 см.

У Мінску ў гаспадарчай пабудове пачатку XIII ст. знойдзена лубянка з драўляным днішчам, змацаваным з лубам драўляным абручом. У Полацку сустрэліся пасудзіны, выробленыя з бяросты — берасцянкі. Яны мелі ўстаўныя днішчы, якія мацаваліся лыкавымі ніткамі. З бяросты і кары зроблены паплаўкі для рыбалоўных сетак.

Адным з найбольш складаных відаў драўляных вырабаў з'яўляліся грабяні. Драўляныя грабяні звычайна большыя за касцяныя, пераважна прамавугольнай формы, часта ўпрыгожаны «вочкамі». Усе двухбаковыя з рэдкімі і частымі зубамі. Сустрэліся ва ўсіх гарадах, дзе захаваліся

арганічныя рэчывы. У Полацку знойдзены вялікія драўляныя грабяні, што прымяняліся для расчэсвання лёну.

Іншыя драўляныя прадметы хатняга ўжытку параўнальна нешматлікія, але вельмі разнастайныя. Гэта матавілы, каромыслы, падвесныя крукі, стрыжнявыя гузікі, бязмены (?), бразготкі і іншыя рэчы. У Гродне знойдзены калок струннага музычнага інструмента, відаць, гусляў. У Мінску ў слоі XIII ст. знойдзены 4 шахматныя фігуры: адна мае форму сігары, другая — конуса, аздобленага ў сярэдняй частцы паяском. Дзве астатнія фігуры аднолькавыя — у выглядзе цыліндра з двума зубцамі.

Даволі частай знаходкай з'яўляюцца булавы ў выглядзе драўлянага шара з адыходзячай ад яго збоку ручкай. Сустрэліся ў Брэсце, Полацку, Давыд-Гарадку, Гродне. Некаторыя з іх ўпрыгожаны. Мелі, відаць, рытуальнае прызначэнне.

Цікавыя дзіцячыя цацкі: лодачкі з сасновай кары, драўляныя лукі, стрэлы, мячы. Форма цацачных мячоў падобная да формы сапраўдных баявых мячоў таго часу (навершшы ў іх трохгранныя, паўкруглыя, прамавугольныя). Цацачныя лодкі таксама маюць форму рэальных рачных суднаў, якімі карысталася мясцовае насельніцтва. У Брэсце ў слаях XIII—XIV стст. знойдзены драўляныя вытачаныя яйкі.

**Кераміка** найбольш масавы матэрыял з раскопак гарадоў. У Ваўкавыску знойдзена больш за 67 тысяч фрагментаў глінянага посуду, у Брэсце — больш за 30, у Навагрудку — больш за 14 тысяч.

У ранніх напластаваннях гарадоў паўночнай Беларусі (Полацк, Віцебск, Лукомль, Браслаў) знойдзена ляпная кераміка. Гэта гаршкі, патэльні, міскі. Гаршкі маюць амаль прамы верхні край (зрэдку крыху адагнуты вонкі) і выразна выяўленыя плечыкі, што адрознівае іх ад слабапрафіляваных ці цюльпанападобных пасудзін трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Па форме, складу цеста, спосабе вырабу, характары апрацоўкі, якасці абпальвання ляпныя гаршкі з плечыкамі блізкія да керамікі доўгіх курганоў і непасрэдна пераходзяць у раннекругавую кераміку (Штыхов, 1978. С. 108).

У Віцебску і Лукомлі ў слаях X ст. ляпная кераміка сустракаецца з гаршкамі, падпраўленымі на ганчарным крузе, які з'явіўся там у сярэдзіне X ст. Раннекругавая кераміка гэтых гарадоў мае адагнуты венчык і пакатыя плечыкі. У Заслаўі і паселішчы на Менцы ў канцы X—XI ст. шырокае распаўсюджанне атрымалі гаршкі з валікам (карнізікам) у верхняй частцы, арнаментаваныя лінейным арнаментам, нанесеным грэбенем. У Полацку ў канцы XI ст. з'явіліся, а ў XII — пачатку XIII ст. мелі значнае распаўсюджанне гаршкі са скошаным унутр венчыкам, уздоўж якога праходзіць жалабок. Гаршкі гэтага тыпу ёсць у Віцебску, Оршы, Барысаве (Штыхов, 1978. С. 109).

Ляпныя патэльні гарадоў паўночнай Беларусі ўяўляюць сабой плоскія дыскі дыяметрам 20—25 см з прамымі ці крыху адагнутымі вонкі борцікамі вышынёй да 2 см. Пачынаючы з X ст. патэльні вырабляюцца на ганчарным крузе.

У гарадах паўднёвай і сярэдняй Беларусі ляпная кераміка сустракаецца вельмі рэдка, а то і не сустракаецца зусім. Адзінкавыя яе фрагменты знойдзены ў Ваўкавыску (пераважна патэльні) і Навагрудку.

У Мінску, Гродне, Брэсце, Пінску, Тураве, Давыд-Гарадку, Слуцку, Клецку, Рагачове знойдзена толькі кругавая кераміка. У асартымент кругавога посуду ўваходзяць гаршкі, накрыўкі, міскі, збаны, чарпакі, кубкі, сподкі, талеркі, макотры, патэльні, карчагі (пасудзіны для захоўвання прыпасаў). Сустрэліся пасудзіны індывідуальных форм. У Друцку і Копысі знойдзены карчажцы (пасудзіны для віна), падобныя на мініяцюрныя амфары кіеўскага тыпу. У заходніх гарадах Беларусі сустракаецца кераміка з вертыкальным горлам і багата арнаментаваным налепным валікам, якая мае аналагі ў старажытнасцях мазавецкай тэрыторыі.

Найбольш шматлікую групу керамікі складаюць гаршкі. У Гродне ў слаях XI — пачатку XII ст. яны складаюць 80% усёй керамікі, у керамічным комплексе другой паловы X ст. навакольнага горада Навагрудка — 98 %. Астатнія групы посуду ў шмат разоў бяднейшыя за гаршкі. Так, напрыклад, у слаях XII — першай паловы XIII ст. навакольнага горада Навагрудка міскі складаюць 1 %, іншы сталовы посуд (кубкі, сподкі, талеркі) — 0,5, збаны — 0,6, карчагі — 0,4 % ад усёй керамікі (Малевская, 1971. С. 14, 29—31).

Агульнымі і характэрнымі прыкметамі большасці тыпаў кругавых гаршкоў X—XI стст. з'яўляюцца высокая, плаўна адагнутая шыйка, пакатыя плечыкі і слаба прафіляваны (у больш ранніх варыянтаў) венчык. У гаршкоў XII—XIII стст. звычайна нізкая, крута адагнутая шыйка, акруглыя плечыкі (зрэдку шыйка пераходзіць у плечыка праз уступ) і простыя, але розныя па форме венчыкі.

Арнамент ранніх гаршкоў больш багаты і разнастайны: гарызантальныя і хвалістыя лініі, нанесеныя палачкай ці грэбенем, гарызантальныя лініі і шматрадная хваля, насечкі, наколы, спалучэнне расчлянёных арнаментальных матываў. У XII ст. і асабліва ў XIII ст. рашуча пераважае лінейны арнамент, хвалісты сустракаецца значна радзей. Зрэдку гарызантальныя лініі, праведзеныя на невялікай адлегласці адна ад адной, пакрываюць сценкі пасудзіны зверху данізу. Разам са звычайнымі кухоннымі гаршкамі сустракаюцца маленькія гаршэчкі, на сценках якіх звычайна няма нагару. Прызначэнне іх не высветлена.

Накрыўкі да гаршкоў у залежнасці ад выгляду ніжняй часткі дзеляцца на тры тыпы. У адных ёсць уступ (карнізік), які прылягаў да сценкі пасудзіны знутры. У другіх такога ўступу няма, яны ахоплівалі верх пасудзіны звонку. Трэція проста прымыкалі да венчыкаў гаршкоў зверху. Па стараннасці аздаблення і багаццю арнаментацыі (пераважаюць канцэнтрычныя лініі, якія нярэдка спалучаюцца з насечкамі і наколкамі) накрыўкі вылучаюцца сярод іншых груп керамікі.

Міскі пададзены ў асноўным двума тыпамі: з акруглымі, прыкметна звужанымі да дна сценкамі, якія заканчваюцца адагнутымі прафіляванымі венчыкамі, і з конусападобнымі сценкамі (часта крыху выпуклымі), верх якіх коса акруглены ці ўтварае плоскі валік. Міскі Ваўкавыска арнаментаваны бядней за гаршкі, Брэста, наадварот, прыкметна багацей (Зверуго, 1975. С. 67—68; Лысенко, 1985. С. 331—332). Наяўнасць на сценках місак нагару дазваляе меркаваць, што яны выкарыстоўваліся не толькі ў якасці сталовага посуду, але і для прыгатавання ежы.




*Мал 118 Клеймы і прыстасаванні арнаментацыі ганчарнага посуду 1—34 — ганчарныя клеймы, 35, 40 — касцяныя грабянькі для арнаментацыі посуду, 36—38 — штампы, 39 — касцяны малаточак са штампамі на байках (1, 2, 27, 35, 36, 39, 40 — Гродна, 3—7, 9—11, 15, 16, 19, 21—26, 28—30, 32, 33, 37, 38 — Ваўкавыск, 8 — Лукомль, 12, 14, 17, 20 — Полацк, 13, 31, 34 — Заслаўе, 18 — Старабарысаў)*

Збаны таксама двух тыпаў: з ручкамі, што мацаваліся да верхняга краю раструбападобнага горла і плечыка, і без іх. У большасці збаноў тулава шарападобнай ці яйкападобнай формы, але сустракаюцца збаны біканічнай формы (Брэст). Горла, плечыкі і верхняя частка тулава часта арнаментаваны. Чарпакі двух відаў: з ручкай у форме рога і ў выглядзе вушка. Кубкі без ручак адрозніваюцца ад місак толькі сваімі прапорцыямі (у апошніх больш нізкія сценкі).

У Брэсце і Гродне знойдзены макотры. Яны маюць плоскае дно, канічнае тулава і прамы ці коса зрэзаны венчык, зрэдку на невысокай шыйцы. Плечыкі і тулава нярэдка ўпрыгожаны гарызантальнымі ці хвалістымі лініямі. Некаторыя кругавыя патэльні па сваёй форме не адрозніваюцца ад зробленых уручную. Іншыя маюць полыя ручкі для драўляных чаранкоў, а зрэдку яшчэ і ножкі-падстаўкі. Пасудзіны для захавання прадуктаў (карчагі) маюць прамое ці крыху нахіленае ўнутр горла, крутыя плечыкі і конусападобнае тулава дыяметрам да 50—60 см. Горла і верхняя частка тулава зрэдку ўпрыгожаны налепленымі валікамі ці гарызантальнымі лініямі.

На днішчах некаторых кругавых пасудзін ёсць клеймы. Усе яны рэльефныя, з'яўляюцца адбіткамі выразаных на падстаўных кружках знакаў. Размешчаны, як правіла, у цэнтры донца. У пасудзін X—XI стст. клеймы звычайна маюць простую форму (круг, акружнасць, дзве канцэнтрычныя акружнасці, крыж). Кераміка позняга часу разам з простымі мае знакі складаных абрысаў (канцэнтрычныя акружнасці з перакрыжаванымі лініямі ці кратамі, шматвугольнікі з рознай камбінацыяй перамычак, трохзубцы, літарападобныя знакі і інш.). У Ваўкавыску сустрэліся клеймы ў выглядзе княжацкага знака Рурыкавічаў. На думку Б. А. Рыбакова, тая акалічнасць, што частка ганчароў замест асабістага кляйма ставіла на сваіх вырабах княжацкі знак, сведчыць пра ўваходжанне гэтых майстроў у склад вотчынных рамеснікаў, якія абслугоўвалі княжацкі двор (Рыбаков, 1948. С. 365—367).

Акрамя звычайнай у гарадах знойдзена парадная паліваная кераміка. На тэрыторыі вакольнага горада Навагрудка знойдзена 180 фрагментаў такой керамікі, якія належалі не менш чым 50 пасудзінам, у Ваўкавыску — каля 90 фрагментаў. Паліваная кераміка Навагрудка выраблена з гліны двух гатункаў: белай (прывазная кераміка) і каляровай (мясцовая). У асартымент апошняй уваходзяць гаршкі, накрыўкі, біканічныя пасудзіны, пасудзіны з полымі ручкамі, каганцы (?) і інш. Паліва свінцова-крэмнезёмная зялёнага, карычневага і жоўтага колераў (Малевская, 1969. С. 194—198).

Акрамя посуду у шмат якіх гарадах (Полацку, Віцебску, Гродне, Тураве, Пінску, Друцку, Лагойску) знойдзены паліваныя керамічныя пліткі для ўпрыгожання храмаў і княжацкіх пабудоў. Сустракаюцца і іншыя паліваныя вырабы: падсвечнікі ў выглядзе масіўных кубічных падставак са скразнымі адтулінамі для свечак, дзіцячыя цацкі (конікі), яйкі-пісанкі.

Сярод гліняных прадметаў пабытовага прызначэння — праслiцы, дзіцячыя цацкі-бразготкі, грузілы для сетак. Пераважная большасць праслiц біканічнай формы, зонных — значна менш, бочкападобных — адзінкі. З сярэдзіны XI ст. вытворчасць гліняных праслiц амаль спынілася ў сувязі з шырокім распаўсюджаннем шыферных вырабаў.

Акрамя белаглінянай паліванай керамікі прадметамі іншаземнага імпарту з'яўляюцца амфары, якія прызначаліся для перавозкі і захавання віна і алею. Па колькасці амфарнай керамікі Навагрудак і Ваўкавыск вылучаюцца сярод іншых гарадоў Беларусі. У слаях XII — першай паловы XIII ст. у Навагрудку знойдзена больш за 2200 фрагментаў, што належалі не менш чым 70 пасудзінам. У некаторых пабудовах выяўлена да 10 амфар. У Ваўкавыску знойдзена каля 1600 фрагментаў. Амфары Навагрудка падзяляюцца на пяць тыпаў. Пераважаюць пасудзіны двух тыпаў: грушападобныя з моцна раздутым тулавам, акруглым дном, нізкім горлам, дугападобнымі авальнымі ў сячэнні ручкамі (1802 фрагменты не менш чым ад 44 пасудзін) і грушападобныя з паступова звужаным кнізу тулавам, вузкім дном, высокім горлам, масіўнымі амаль круглага сячэння ручкамі (178 фрагментаў не менш чым ад 11 пасудзін) (Малевская, 1969. С. 185—188). У невялікай колькасці ў матэрыялах гарадоў сустракаецца тарная кераміка мясцовай вытворчасці.

## 3. ТЭХНАЛОГІЯ РАМЁСТВАЎ

**Тэхналогія апрацоўкі металаў.** Ва ўмовах натуральнай сярэдневяковай гаспадаркі неабходнай перадумовай паспяховага развіцця рамеснай вытворчасці былі мясцовыя крыніцы сыравіны. На тэрыторыі Беларусі паўсюдна распаўсюджаны значныя запасы дзірвановай балотнай ці азёрнай жалезнай руды, з якой мясцовае насельніцтва вырабляла жалеза ў колькасці, неабходнай для жалезаапрацоўчага рамяства.

Адным з найважнейшых відаў вытворчасці была здабыча жалеза, асноўнага матэрыялу для вырабу разнастайных прылад працы, зброі і прадметаў побыту. Як і ў папярэдні час, жалеза атрымлівалі з руды сырадутным спосабам, у аснове якога ляжаў працэс аднаўлення жалеза з дзірвановай, балотнай ці азёрнай руды. Жалеза «варылі» ў домніцах. Прынцып збудавання домніц заставаўся ранейшым, разлічаным на сырадутны працэс, але тэхналогія і аснашчанасць палепшыліся, а прадукцыйнасць узрасла (Гурин, 1982. С. 24).

Домніцы звычайна будаваліся паблізу ад крыніц сыравіны, металургія ў асноўным была пабочным заняткам сельскіх жыхароў. У сярэдневяковых гарадах рэшткі домніц сустракаюцца рэдка. На тэрыторыі сучаснай Беларусі яны адкрыты ў Ваўкавыску, Пінску, Турыйску. Лічыцца, што гарадскія жалезаапрацоўчыя рамёствы грунтаваліся на прывазной прадукцыі сялян-металургаў. Таварныя крыцы ў гарадскіх кавалёў ішлі на дапрацоўку на паўфабрыкаты. Металургічныя шлакі знойдзены пры раскопках у кожным горадзе. Але сапраўдныя крыцы — вельмі рэдкія знаходкі (Гурин, 1987. С. 17).

Апрацоўка жалеза была найважнейшым відам гарадской рамеснай вытворчасці. Гарадскія рамеснікі з жалеза і сталі выраблялі сельскагаспадарчыя прылады і інструменты для разнастайных рамёстваў, высакаякасную зброю і разнастайныя прадметы побыту. У Полацку выяўлена кузня, якая была пашкоджана пажарам у XIII ст. Сляды крычных майстэрняў знойдзены ў Друцку, Заслаўі, Слуцку. З жалеза атрымлівалі сталь. Розныя спосабы загартоўкі сталі былі значным тэхнічным дасягненнем рамяства. Кавалі добра ведалі навугляроджанае жалеза. Гэта

патрабавала спецыяльных ведаў і, як правіла, было справай гарадскіх рамеснікаў.

Для вывучэння кавальскай апрацоўкі жалеза шырока прымяняецца металаграфічны мікраструктурны аналіз. Даказана, што гарадскія рамеснікі ўжо ў раннім сярэднявеччы прымянялі шмат тэхнічных прыёмаў, уключаючы кавальскую зварку жалеза і сталі, тэрмаапрацоўку сталі. На рабочыя часткі прылад працы — нажоў, нажніц, сякер, долатаў, зубілаў, сярпоў, кос — навараліся стальныя палосы. Мікраструктурныя аналізы жалезных вырабаў праводзіліся М. Ф. Гурыным з мэтай вызначыць якасць металу і выробленых з яго прылад працы, рэканструяваць тэхналагічныя схемы вырабаў (Гурин, 1987. С. 113—136). У X—XI стст. выраблялiся «пакетныя» (трохпалосныя) прылады, пераважна нажы, у якіх сярэдняя стальная паласа выходзіла на рэжучую частку. Самай распаўсюджанай схемай у кавальскай тэхналогіі майстроў у XII—XIII стст. было наварванне стальнога ляза на жалезную аснову вырабу. Некаторыя элементы кавальскай тэхналогіі на тэрыторыі Беларусі ўнаследаваны ад папярэдніх культур, у прыватнасці ад часоў банцараўскай культуры (мал. 119).




*Мал. 119. Нажы з Заслаўя і тэхналагічныя схемы іх вырабу (па М. Ф. Гурыну)*

Кавалі ў старабеларускіх гарадах прымянялі ў асноўным тыя ж тэхналагічныя схемы і прыёмы вырабу розных рэчаў, што і рамеснікі іншых усходнеславянскіх гарадоў. З жалеза, сталі выраблялі інструменты для розных рамёстваў, сельскагаспадарчыя прылады, зброю, іншыя прадметы побыту (мал. 120). Метал абточваўся з дапамогай тачыльных кругоў і брускоў. Брускі-асялкі з пясчаніку і сланцу трапляюцца паўсюдна ў вялікай колькасці. Асялкі нярэдка маюць адтуліны для раменьчыка, каб насіць каля пояса.

Некаторыя вырабы з жалеза (цуглі, шпоры) пакрываліся тонкім слоем волава (луджэнне), другія інкруставаліся каляровымі металамі,




*Мал. 120. Жалезныя вырабы з раскопак пасада ў Лукомлі*

замковыя накладкі ўпрыгожваліся арнаментаванай дробнапуансоннай чаканкай. Кавалі выраблялі універсальныя інструменты, якімі карысталіся ў хатняй гаспадарцы і побыце (мал. 99, 100).

У апрацоўцы каляровых металаў і іх сплаваў асобнае значэнне мела ліцейная справа, якая атрымала распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі, нягледзячы на адсутнасць мясцовай сыравіннай базы. Каляровыя і высакародныя металы атрымлівалі распаўсюджанне ў выніку гандлёвых сувязей, пра што сведчаць рэчавыя і манетна-рэчавыя скарбы (Штыхаў, 1993. С. 84—85).

Значныя археалагічныя матэрыялы з раскопак гарадоў дазваляюць меркаваць пра тэхналогію ліцейнай справы. З дапамогай ліцця выраблялiся розныя прадметы ўжытку і ўпрыгожанні з каляровых металаў і іх сплаваў. Доказам развіцця ліцейнай справы з'яўляюцца знаходкі пры раскопках адлівачных форм і тыгляў з тугаплаўкай гліны. Адліўка ўпрыгожанняў рабілася ў каменных адлівачных формах. На гарадзішчы ў Лукомлі ў пласце X ст. знойдзена створка каменнай формы для адліўкі трапецападобных і круглых упрыгожанняў-падвесак. Гліняныя тыглі X ст. выяўлены на паселішчы ў Лукомлі і на Менцы ў вярхоўях Пцічы. Раздымныя формы XII—XIII стст., выразаныя з мяккіх парод каменя, знойдзены ў Полацку, Гродне, Мінску, Віцебску, Друцку, Лукомлі. Гэтыя знаходкі даюць магчымасць вывучаць працэс ліцця ў формах.

У верхняй частцы формы выразаўся спецыяльны канал — літнік, які звычайна пачынаўся як лейка. Каб не перамяшчалася паветра пры руху металу, які заліваўся, літнік звужаўся кнізу. Ліццё праводзілі пад уздзеяннем сілы цяжару. Формы, відаць, выраблялі самі ювеліры. Адлівачныя формы раздымныя. Яны мелі дзве ці чатыры створкі. Большасць форм мела лініі, урэзаныя ўглыб. Адбіткі на адліўцы атрымліваліся пукатымі на паглыбленым фоне. Для правільнага сумяшчэння створак формы ў іх свідраваліся круглыя гнёзды дыяметрам 3—7 мм і ўстаўляліся алавяныя штыфты (мал. 73).

Найбольшая колькасць адлівачных форм знойдзена ў Полацку (23 формы), яны ўжываліся для адліўкі трохпацеркавых завушніц — тыповага гарадскога ўпрыгожання, манетападобных падвесак, крыжыкаў, гузікаў, пярсцёнкаў, бранзалетаў.

Ліцейныя формы звычайна выраблены з мяккага шчыльнага каменя. Нарыхтоўкі такой пароды ў выглядзе буйных камянёў і невялікіх плітак неаднаразова сустракаліся пры раскопках. Вынікі аптычнага даследавання і хімічнага аналізу сведчаць пра тое, што формы выразаліся на даламітазаваных мікраэярністых вапняках, відаць, мясцовага паходжання. Доказам іх вырабу ў Полацку з'яўляюцца знаходкі форм, апрацоўка якіх не закончана.

Шэсць форм з Полацка вылучаны ў асобную групу. Яны належаць да імітацыйных. Пяць з іх з двума літнікамі былі прызначаны для адліўкі пустацелых упрыгожанняў спосабам «навыплеск». Гэтыя формы, старанна выразаныя на камені, давалі магчымасць узнаўляць шляхам ліцця не толькі знешні выгляд каштоўных вырабаў, але і тонкія ювелірныя прыёмы, што прымяняліся пры вырабе ўпрыгожанняў вялікакняжацкага ўбору,— зернь, філігрань, гравіроўка. Асабліва цікавае ліццё «навыплеск». Метал, запаўняючы форму, застываў перш за ўсё ў месцах

сутыкнення з яе сценкамі. Ліцейны метал, які не паспеў застыць, выліваўся праз ніжні літнік (мал. 121).

Даследчыкі, якія займаюцца вывучэннем імітацыйных форм, лічаць, што ювеліры пераходзілі ад працы па заказах да працы на рынак. У Ноўгарадзе формы для танкасценнага ліцця з'явіліся ў канцы XII ст. Самая ранняя форма для пустацелых адлівак у Полацку знойдзена ў пласце 20-х гадоў XIII ст. (Штыхов, 1975. С. 64). Такія формы выяўлены і ў Гродне (Воронин, 1954. С. 72. Рис. 34:6, 7, 9, 10).

Асноўнымі аперацыямі пры ліцці былі плаўка металу, заліванне яго ў форму і ахаладжэнне адлівак, выняцце гатовых вырабаў з формы.

Для арганізацыі ліцейнай справы неабходны зыходныя ліцейныя матэрыялы, дапаможныя матэрыялы — вогнетрывалыя гліна і паліва. Аналіз гатовых вырабаў, паўфабрыкатаў, зліткаў, нацёкаў на тыглях сведчыць, што зыходнымі ліцейнымі матэрыяламі для рамеснікаў з'яўляліся медзь, волава, свінец і іх сплавы — бронза, разнавіднасць латуні — тампак. Зліткі гэтых металаў і вырабаў з іх знойдзены пры раскопках гарадоў. У Полацку ў слаях XIII ст. было шмат ліставога свінцу, які ўжываўся для пакрыцця храмаў. Знойдзены скрутак такога свінцу вагой 3 кг.

Заслугоўвае ўвагі знаходка ўпрыгожанняў, адлітых з волава. Аналіз вырабаў з Полацка (трох манетападобных падвесак, бранзалета-наруча, а таксама ліцейнага матэрыялу, што застыў у літніку формы) паказаў, што гэта волава, у якім натуральных прымешак няшмат. Алавяныя вырабы імітавалі каштоўныя сярэбраныя ўпрыгожанні і былі распаўсюджаны ў сярэднявеччы значна шырэй, чым мы мелі ўяўленне да цяперашняга часу. Прыгожы колт, адліты ў імітацыйнай форме з волава, знойдзены ў Мінску (мал. 122). У гарадах нярэдкія вырабы з алавянасвінцовых сплаваў. Так, у сплаве вітога бранзалета з Полацка акрамя волава было 15 % свінцу і 5 % медзі, у сплаве другога бранзалетанаруча — 13 % свінцу. Ювеліры ўжывалі таксама білон — сплаў серабра і медзі.

Ліцейная справа патрабуе прымянення тыгляў, якія маюць дастатковую тэрмаўстойлівасць. Тыглі знойдзены ва ўсіх гарадах, дзе праводзіліся значныя раскопкі. У Полацку ў слаях X—XIII стст. выяўлена каля сотні тыгляў (некаторыя захаваліся цалкам). Як паказаў аналіз тыгляў з Полацка, яны ўяўляюць сабой «паўкіслыя» вогнетрывалыя вырабы. Тыглі кругладонныя, пірамідальнай формы, ёмістасцю 30—50 см$^3$, у некаторых — носікі для вылівання. З такіх тыгляў было зручна заліваць метал непасрэдна ў форму (мал. 127).

Майстры ювелірнай справы ў гарадах валодалі акрамя ліцця іншымі прыёмамі апрацоўкі каляровых і высакародных металаў — каваннем, чаканкай, цісненнем, штампаваннем, валачэннем дроту, філігранню, зерню. Ёсць падставы меркаваць, што ў Полацку выраблялііся выемчатыя і перагародкавыя эмалі (фініфць). Тэхніка названых прыёмаў разгледжана ў літаратуры. Прыемна адзначыць, што ў канцы XX ст. тэхніка перагародкавых эмаляў была адноўлена ў Беларусі эмальерам М. П. Кузьмічом (Алексеев, Макарова, Кузьмич, 1996).

Узоры дроту даюць уяўленне пра спосабы яго вырабу. Каб надаць раўнамернае сячэнне, жгуты выкоўваліся на кавадле з жалабком. У па-




*Мал 121 Каменныя ліцейныя формы з Полацка канца XII—XIII ст*



*Мал 122 Білонавая грыўня (канец XI ст) і алавяны колт рубяжа XII—XIII стст з раскопак Мінскага замчышча*

раўнанні з валачэннем працэс быў менш працаёмкім і складаным. Дрот вырабляўся таксама тэхнікай валачэння.

**Апрацоўка вырабаў з гліны, скуры, дрэва і іншай сыравіны.** Беларусь багатая на нярудныя выкапні: гліну, супескі, вапнякі. Гліна і пясок былі асноўным матэрыялам для ганчарства і выкарыстоўваліся ў будаўніцтве. Вапнякі перапальваліся на вапну, якая ўжывалася ў гарбарнай справе і будаўніцтве. Валуны знаходзілі прымяненне ў будаўніцтве і пры высяканні мукамольных жорнаў.

Жывёлагадоўля і паляванне забяспечвалі сыравінай гарбарнае, шавецкае, кастарэзнае рамёствы. Бортніцтва давала воск, які выкарыстоўваўся ў ювелірным, шавецкім і іншых рамёствах. Велізарныя лясныя багацці забяспечвалі чорную металургію танным і якасным палівам — драўляным вугалем і садзейнічалі развіццю дрэваапрацоўчага рамяства. Паўсюдна было распаўсюджана ганчарнае рамяство. Па тэхналагічнай прыкмеце кераміка падзяляецца на катэгорыі. Можна вылучыць некалькі катэгорый сярэдневяковай керамікі: гліняную непаліўную, паліўную, мароную, чарнаглянцавую, ангабіраваную.

Керамічны археалагічны матэрыял у сучаснасці даследуецца па трох асноўных напрамках: тэхналогіі вытворчасці, тыпалогіі, храналогіі. Тэхналогію вытворчасці сярэдневяковай керамікі на аснове этнаграфічных і эксперыментальных даных разгледзела В. М. Ляўко. Яна прыйшла да высновы, што на працягу X—XII стст. фарміраваліся вядучыя тыпы гаршкоў — самага масавага віду начыння, якое паступова развіваецца далей у XIII—XV стст. Гаршкам спадарожнічаў абмежаваны асартымент іншых вырабаў з простай мадэллю прафіліроўкі: гэта міскі, сподкі, збаны. З канца XV ст. пачынаюць фарміравацца новыя мадэлі гаршкоў, якія атрымалі найбольшае развіццё ў сярэдзіне XVII ст. (Левко, 1992. С. 6—8).

Ганчары выкарыстоўвалі залежы сыравіны, якія былі размешчаны паблізу ад месца вытворчасці. У якасці дамешак выкарыстоўваўся пясок, жарства, шамот. Пасля прыгатавання глінянага цеста другім этапам была фармоўка керамічных вырабаў. Важнае значэнне ў тэхналогіі керамічнай вытворчасці мела абпальванне начынння. Сярэдневяковым майстрам былі вядомы два віды абпальвання пасудзін: акісляльны і ўзнаўляльны (Левко, 1992. С. 13). Абпальванне адбывалася ці ў звычайных бытавых печах ці ў горанах.

Як сведчыць фізіка-хімічнае даследаванне сярэдневяковай керамікі ў X—XI стст., тэмпература яе абпальвання складала 600—700 °С. Яно было нераўнамерным, што пацвярджае наяўнасць некалькіх праслоек, добра бачных на кавалках гаршкоў. Нізкая тэмпература сведчыць аб недасканаласці абпальваючага прыстасавання. У XII—XIII стст. тэмпература абпальвання складала 650—800 °С, што гаворыць аб паступовым паляпшэнні працэсу абпальвання, але нянадта значным (Левко, 1992. С. 19).

Ганчарнае начынне пачало выраблягца на Беларусі каля сярэдзіны X ст. Першапачаткова ганчары выкарыстоўвалі ганчарны круг толькі для загладжвання ўжо гатовых вырабаў ці для частковай іх фармоўкі. Асноўнай формай ганчарнага начыння сталі гаршкі, зробленыя на павольным крузе. На плечуках і тулаве часта бывае лінейны арнамент з глыбока




*Мал. 123. Мінскае замчышча: 1—8 — кераміка з ніжняга напластаавання ўсходняй часткі; 9—14 — з цэнтральнай часткі*

пракрэсленых ліній. На крузе фарміраваўся і нізкі посуд накшталт місак і патэльняў. Стужкава-кальцавы налеп доўга захоўваўся як асноўны тып фармавання бытавой керамікі. Пераважае начынне з S-падобным профілем. Са з'яўленнем нажнога круга стаў выкарыстоўвацца спосаб тачэння, або выцягвання, пасудзіны з аднаго кавалка гліны.

Адметная рыса гаршкоў на беларускіх землях XI ст.— складанапрафіляваны, адагнуты вонкі патоўшчаны венчык, што мае форму «карнізіка» ці «манжэты» (тэрмін выкарыстоўваемы ўкраінскімі археолагамі) (мал. 123:1, 9, 10). Гаршкі XII—XIII стст. маюць венчык, закруглены край якога загнуты ўнутр і прыстасаваны для прылягання накрыўкі (мал. 123).

Некаторыя гаршкі канца X—XII ст. маюць на донцах рэльефнае кляймо, часта ў выглядзе канцэнтрычных акружнасцей, колаў са спіцамі. Аб прызначэнні клеймаў ёсць розныя меркаванні, больш верагодна, што гэта знак ганчара, а не заказчыка. Не выключана, што клеймы мелі характар рэлігійных сімвалаў, звязаных з салярным культам, якія потым амаль страцілі першапачатковае культавае прызначэнне і ператварыліся ў тамгі, знакі рамеснікаў (мал. 118).

Пасля прыняцця хрысціянства ў гарадах пачалося будаўніцтва цэркваў, што адразу павялічыла асартымент керамікі. З гліны пачалі выраб-

ляць танкасценную цэглу — плінфу. На гранях некаторых плінф зроблены рэльефныя знакі (Хозеров, 1994. Рис. 1—13).

Пры раскопках гарадоў, у культурным пласце якіх добра захоўваюцца арганічныя рэчывы, атрыманы шматлікія даныя, якія дазваляюць вывучаць тэхналогію гарбарнай і шавецкай справы. Такія матэрыялы знойдзены ў Полацку, Віцебску, Мінску, Гродне, Слоніме, Давыд-Гарадку, Пінску, Слуцку і іншых гарадах (мал. 115).

Сыравінай з'яўляліся шкуры буйной, радзей дробнай рагатай жывёлы. Вырабленая скура фарбавалася ў чорны, бывала, у чырвоны колер. Скуры, знойдзеныя ў Полацку, Мінску, Віцебску, Пінску вывучаны з прымяненнем метаду даследавання сучаснай гарбарнай вытворчасці. Мікраскапічнае даследаванне ўзораў пацвердзіла, што яны выраблены са скур буйной рагатай жывёлы, прычым падэшвы выкройваліся з больш тоўстага і трывалага матэрыялу спінной часткі.

Асобныя ўзоры скур былі падвергнуты хіміка-аналітычным даследаванням. Даныя аналізаў сведчаць, што на ўсіх выпадках дубленне скур было раслiннае. Шэраг паказчыкаў аналізаў адпавядаюць нормам сучаснага юфту. Скура, асабліва зверху абутку, добра прадублена. Для дублення часта прымянялася кара вярбы. Найбольш важныя паказчыкі хімічнага аналізу старажытных скур у агульным блізкія да паказчыкаў, характэрных даволі якаснаму юфту (Штыхов, 1963. С. 240—246).

Вывучэнне сярэдневяковай скуры метадамі тэхнічных навук, прыцягненне іншых археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў дазваляюць аднавіць у агульных рысах працэс яе вырабу ў XI—XIII стст. Дубленне рабілі раслінным дубільнікам (кара вярбы і інш.). У старым гарбарным рамястве ўжо шырока прымяняўся дзёгаць — прадукт сухой перагонкі вонкавай часткі бярозавай кары. Скуры з Полацка і Мінска былі так моцна ім насычаны, што гэта прыкметна яшчэ і цяпер.

Дэталі абутку змацоўваліся навошчанымі льнянымі ніткамі, швы двухнітачныя. Увесь шыты абутак мяккі, вываратны. Часцей за ўсё «ўсмашаўцы» наносілі двухнітачны шоў па краі падэшвы і верху абутку. У XII—XIII стст. майстры ўжывалі калодкі-правілы, прызначэннем якіх было выпрамленне на іх вываратнага абутку, стараннае яго абіванне.

У якасці галоўнай прыкметы пры класіфікацыі абутку трэба браць тып (канструкцыю) яго верху (нарыхтоўку). Старажытны скураны абутак падзяляецца на тры асноўныя тыпы: чаравікі, поршы (пасталы), боты. Чаравікі мелі берцы, якія закрывалі шчыкалатку нагі. Жаночыя чаравікі часта ўпрыгожаны вышываннем. Вышыўка рабілася рознакаляровымі шарсцянымі ніткамі мясцовага вырабу, зрэдку прывазнымі з Візантыі шоўкавымі (Оятева, 1962. С. 77—94). Ад вышывання захаваліся праколы па контурах кружкоў, завіткоў, пляцёнак і іншых элементаў вышыўкі.

Поршы (пасталы) — нескладаны абутак, які закрываў ступню, падобны на лапці. Яны не шыліся, а згіналіся з аднаго кавалка мяккай скуры. Поршы надзяваліся на нагу, якая спачатку абгортвалася мяккай тканінай (анучамі).

Боты — тып абутку з халявамі. Ёсць разнавіднасць гэтага тыпу: боцікі (паўбоцікі) — пераважна дзіцячыя, з суцэльнаскроенымі перадамі. Сярод знойдзеных у гарадах гарбарных матэрыялаў нямала дэталяў




*Мал 124 Полацк, Вялікі пасад Вырабы з косці (па С В Тарасаву)*

мяккіх ботаў з прышыванымі галоўкамі: халявамі, перадамі, заднікамі. Абцасаў у ботах не было. Толькі ў пластах XVI—XVII стст. пры раскопках беларускіх гарадоў знойдзены безумоўныя доказы абутку на абцасах, набраных са скуры, якія наскрозь прабіваліся і злучаліся з дапамогай дугападобнай жалезнай падкоўкі з вострымі шыпамі, што служылі для яе прымацавання (Левко, 1984. С. 100—101).

Лясы Беларусі — невычарпальная крыніца высакаякаснай драўніны і сыравіны для будаўніцтва і розных рамёстваў. У X—XIII стст. плотнікі з мясцовых парод дрэва будавалі жытлы і іншыя пабудовы, гарадскія сцены і вежы. Сталяры (цесляры) з дрэва рабілі самыя разнастайныя рэчы. Найбольш распаўсюджанай драўнінай была сасна і елка. З лісцевых парод выкарыстоўваліся дуб і бяроза. Мяркуючы па этнаграфічных матэрыялах, апрацоўка дрэва рабілася ў два прыёмы. Спачатку лес высякалі, а затым, калі ён высыхаў, для чаго патрабавалася 2—3 месяцы, прыступалі да працы над вырабамі. Не выклікае сумнення існаванне бандарнай справы. Для вырабу вядзёр выкарыстоўваліся драўляныя клёпкі, жалезныя абручы, жалезнай была ручка ў выглядзе дужкі. Некаторыя тыпы сталовага посуду, напрыклад міскі, чашкі, талеркі, рабілі з дапамогай такарнага станка.

Тэхніка апрацоўкі косці знаходзіцца блізка да апрацоўкі дрэва, і развівалася яна на аснове старажытнейшых традыцый разьбы па гэтых матэрыялах. У якасці сыравіны выкарыстоўвалі рогі ласёў і аленяў, звычайныя косці жывёпін, клыкі дзікаў ці вепраў, трубчастыя косці птушак і інш. Некаторыя віды касцяных матэрыялаў пры апрацоўцы спачатку размягчалі, распарваючы іх у кіпячай вадзе. У кастарэзнай справе прымяняліся сякера, нож, піла, свердзелы, такарны станок. Адным з распаўсюджаных відаў касцяной прадукцыі быпі грабяні — аднабаковыя, двухбаковыя і складзеныя з некалькіх пласцін, у якіх наразаліся зубцы. З касцяных пласцін рабіліся розныя накладкі (мал. 124). Касцяныя ручкі нажоў упрыгожваліся цыркульным, лінейным ці іншым арнаментам. Існавалі розныя спосабы мастацкай апрацоўкі драўніны і косці. Найбольш распаўсюджаным была разьба (апрацоўка рэзаннем) і гравіроўка (выразанне ўзораў).

Шырокае прымяненне ў гаспадарцы і побыце ўсходніх славян знаходзіў камень. З пясчаніка або сланцу высякаліся вастрыльныя брускі ў форме прадаўгаватага чатырохгранніка. Асаблівай галіной апрацоўкі каменя быў выраб мукамольных жорнаў і вастрыльных камянёў для цыркульных тачылаў, зручных пры апрацоўцы многіх жалезных вырабаў.

У некаторых гарадах, напрыклад у Полацку, быў наладжаны выраб шкляных бранзалетаў (Щапова, 1965. С. 227), практыкавалася апрацоўка прывезенага з Прыбалтыкі бурштыну.

Такім чынам, матэрыялы археалагічных раскопак сведчаць аб развіцці ў гарадах розных рамёстваў — жалезаапрацоўчага, ліцейнага, ювелірнага, шавецкага, кастарэзнага, ганчарнага, бандарнага і інш. Гэта даказваецца вялікай колькасцю адпаведных вырабаў, а таксама адходаў рамяства, паўфабрыкатаў, вытворчага браку і адкрыццём рамесных майстэрань пры раскопках. Усе гэтыя даныя дазваляюць узнавіць тэхна-

логію старажытных рамёстваў з прымяненнем метадаў прыродазнаўчых і тэхнічных навук. Вырабы сярэдневяковых рамеснікаў спалучалі ў сябе ўтылітарна-практычныя, эстэтычныя і сімваліка-абрадавыя функцыі і часта з'яўляліся творамі народнага мастацтва.

## 4. ГАНДАЛЬ І ПРЫВАЗНЫЯ ВЫРАБЫ

**Замежны імпарт.** Рэчавы матэрыял з раскопак пераканаўча сведчыць аб тым, што абсалютная большасць вырабаў з розных матэрыялаў і рознага прызначэння адносіцца да прадметаў мясцовай вытворчасці. Гэта перш за ўсё датычыць прадметаў з чорнага металу, гліны, косці, скуры, тканіны. Прадметы штодзённага гаспадарчага ўжытку вытворчага і гаспадарчага прызначэння, як правіла, выраблялісся з мясцовых матэрыялаў мясцовымі майстрамі. Яны забяспечвалі вытворчыя патрэбы мясцовага насельніцтва ў абсалютнай большасці неабходных сродкаў вытворчасці і прадметаў штодзённга побыту. Менавіта на задаволенне штодзённых патрэб і арыентаваліся мясцовая вытворчасць і мясцовыя рамеснікі (Археологія Украіньскої РСР. Т. III. 1975. С. 373). Гэтым і тлумачыцца перавага ў культурным пласце прадметаў штодзённага побыту і мясцовай вытворчасці над прадметамі імпартнага паходжання. Апошнія прадстаўлены даволі рэдкімі вырабамі і амаль выключна ўпрыгожаннямі, прадметамі раскошы і рэлігійнага культу, якія не выраблялiся мясцовымі рамеснікамі. Яны ўяўлялі сабой па гэтай прычыне найбольш дарагія вырабы, даступныя ў асноўным сацыяльным вярхам і найбольш заможным пластам і недасягальныя для шырокіх народных мас.

Імпартныя вырабы сустракаюцца ў розных археалагічных помніках сярэдневяковага перыяду на тэрыторыі Беларусі — у пахаваннях, селішчах і гарадзішчах сельскага тыпу, і асабліва часта на гарадзішчах старажытных гарадоў. Яны надзвычай разнастайныя па матэрыялу, тыпах і формах вырабу, месцу і часу вырабу, шляхам і спосабах пранікнення на тэрыторыю Беларусі. Найбольш часта сустракаюцца імпартныя вырабы з каляровых металаў, каменя і бурштыну, шкла, прадметы хрысціянскага культу. Рэдка сустракаюцца прадметы з высакародных металаў. Сярод прадметаў з каляровых металаў найбольш распаўсюджаны жаночыя ўпрыгожанні — бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, пацеркі, а таксама прыналежнасці хрысціянскага культу — крыжы-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, кадзільніцы, дэталі хораса, фрагменты званоў і г. д. З шкляных вырабаў найчасцей сустракаюцца фрагменты шкляных бранзалетаў, шкляныя пацеркі рознай формы і афарбоўкі, фрагменты шкляных пасудзін, аконнага шкла. З каменных вырабаў імпартнага паходжання найбольш шматлікія сердалікавыя пацеркі, прасліцы з оўручскага сланцу-шыферу, нацельныя крыжыкі «карсунчыкі». Зрэдку адзначаюцца і больш буйныя каменныя вырабы — іконкі, саркафагі. Часам сустракаюцца высокамастацкія разьбяныя вырабы з косці, выяўлены стыль якіх сведчыць аб іх прыналежнасці да іншых рэгіёнаў.

Найбольш значныя калекцыі вырабаў імпартнага паходжання выяўляюцца адпаведна ў найбольш буйных гарадах, якія мелі для гэтага сацы-




*Мал. 125. Жаночыя ўпрыгожанні; 1—4 — дрыгавіцкія буйназярнёныя бусы; 5, 6 — булаўкі для адзення; 7, 8 — скроневыя кольцы; 9 — спражка-фібула; 10 — металічная бусіна; 11, 12, 14, 16, 18, 20 — скроневыя кольцы; 13, 15, 17, 19 — бранзалеты (1—4, 7, 11, 12, 14, 16, 18, 20 — з раскопак У. З. Завітневіча; 5, 6, 10, 13, 15, 17, 19 — Бярзсце)*

яльную базу. Гэта перш за ўсё Полацк і Тураў — сталічныя гарады буйных княстваў, у якіх жылі князі, набліжаныя да іх людзі, святары. У іншых гарадах калекцыі вырабаў значна больш сціплыя. Выключэннем з'яўляецца толькі старажытны Навагрудак з яго надзіва разнастайнай, шматлікай і багатай калецыяй вырабаў імпартнага паходжання (Гуревич, 1981. С. 154). Значную каштоўнасць уяўляюць знаходкі кладаў манет і высокамастацкіх вырабаў з каштоўных металаў (полацкі, дзягцянскі, вішчынскі і інш.), манетныя клады, якія сведчаць аб гандлёвых шляхах, асобныя высокамастацкія рэчы іншаземнага вырабу.

**Вырабы з высакародных металаў.** У матэрыялах раскопаў старажытных гарадоў і ўсходнеславянскіх курганоў нярэдка сустракаюцца прадметы з высакародных металаў. У асноўным гэта вырабы з серабра або яго сплаваў (білонавыя). Залатыя вырабы сустракаюцца выключна рэдка. Сярод іх варта назваць залаты бранзалет (75, 472 гр) з Мінска (XIII ст.), скручаны з 3 жгутоў па 2 дроты з канцамі ў форме стылізаваных галовак (Тарасенко, 1957. С. 235—236). Залатыя ланцужок і пярсцёнкі знойдзены ў раскопах Навагрудка, Бярэсця і Віцебска (Гуревич, 1981. С. 148; Лысенко, 1974. С. 65; Штыхов, 1975. С. 63), залатыя скроневыя кольцы — у старым Барысаве і кургане № 184 ля в. Адамаўка Рэчыцкага павета (Завитневич, 1892). Дробныя кавалачкі залатой фальгі і скані — у Полацку (Штыхов, 1975. С. 63), 6 залатых «златнікаў» вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча знойдзены ў 1804 г. у кладзе з Пінска (Рябцвич, 1977. С. 68).

Значна часцей сустракаюцца вырабы са срэбра і яго сплаваў. З яго выраблялі жаночыя ўпрыгожанні — скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, металічныя пацеркі, прывескі, фібулы і г. д. Абсалютная большасць гэтых вырабаў, несумненна, мясцовага паходжання. Зыходнай сыравінай для іх было імпартнае срэбра, якое паступала на тэрыторыю Беларусі ў выглядзе срэбраных манет з краін арабскага ўсходу і Заходняй Еўропы (Гуревич, 1981. С. 44—64). Паступленні былі, відаць, даволі вялікія, бо дазвалялі засяроджваць у асобных руках даволі значную маёмасць. Мінскі князь Глеб Усяславіч у 1119 г. запавяшчаў Кіева-Пячэрскаму манастыру ўклад у 600 грыўняў срэбра (каля 120 кг) і 50 грыўняў золата (каля 10 кг). Яго жонка ў 1158 г. унесла ўклад у 100 грыўняў срэбра (каля 20 кг) і 50 грыўняў золата (каля 10 кг) (Штыхов, 1978. С. 101—102). Такія ж буйныя выдаткі панесла полацкая князёўна Ефрасіння ў 1161 г. пры вырабе напрастольнага крыжа, матэрыялы якога каштавалі 100 грыўняў, а праца майстра Лазара Богшы яшчэ 40 грыўняў (Алексеев, 1966. С. 221—226). Канечне, усходнія і еўрапейскія срэбныя манеты былі даступныя і рамеснікам для вырабу ювелірных упрыгожанняў. Магчыма, у якасці сыравіны яны атрымлівалі і срэбра, адной з крыніц якога магла быць і Чэхія. Яшчэ Святаслаў Ігаравіч згадваў пра Чэхію і Венгрыю як пра краіны, якія пастаўлялі за Дунай і срэбра, і коней (ПСРЛ. Т. II. Стб. 55).

**Вырабы з каляровых металаў.** На тэрыторыі Беларусі адсутнічаюць месцазнаходжанні каляровых металаў. Тым не менш у старажытных гарадах існавала мясцовае ювелірнае рамяство — па вырабу розных упрыгожанняў, у асноўным нескладаных па тэхналогіі выканання (скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты і інш.). Для такога мясцовага




*Мал 126 Прадметы рэлігійнага культу, 1—6 — каменныя нацельныя крыжы, 7, 8, 10 — металічныя нацельныя крыжыкі, 9, 11, 12 — дэталі хорасу, 13 — медны сасудзік, 14 — лампадка, 15, 16 — фрагменты царкоўных званоў (1—15 — Бярэсце, 16 — Тураў)*




*Мал. 127 Інструмент ювеліра 1—3, 5—7 — льячкі і тыглі, 4 — ювелірны пінцэт, 8—11 — ліцейныя формы (1—8 — Навагрудак, 9—11 — Гродна)*




*Мал. 128. Прыбалтыйскі імпарт: 1—3, 5—13 — фібулы, 4 — галоўка булаўкі (1—10, 12, 13 — Ваўкавыск, 11 — Бярэсце)*

рамяства прадметам імпарту з'яўлялася неабходная для вытворчасці сыравіна. У Тураве быў знойдзен злітак свінцу вагой каля 20 кг, а ў Бярэсці і Навагрудку — больш дробныя кавалкі свінца, з якіх мясцовыя ювеліры выраблялі розныя рэчы, якія знаходзілі ў гэтых гарадах. Злíткі свінца і волава, а таксама вырабы з іх знойдзены ў Полацку. У гэтым выпадку прадметам імпарту з'яўлялася сама сыравіна.

Няма на Беларусі і месцазнаходжанняў медзі і волава, хаця існуюць несумненныя сведчанні іх мясцовай апрацоўкі (льячкі, формачкі, пінцэты, накаваленкі, падушкі і інш.). І ў дадзеным выпадку імпартнай была сыравіна для гэтай вытворчасці, якая імпартавалася ў выглядзе зліткаў або іншых, менш каштоўных, вырабаў. Ф. Д. Гурэвіч лічыць, што магчымымі крыніцамі каляровых металаў з'яўляліся паўднёвая Германія, Скандынавія, Прыкарпацце, Альпы (медзь), сілезскія і кракаўскія месцазнаходжанні свінцу (Гуревич, 1981. С. 148, 150). І тым не менш у культурным пласце гарадоў знойдзена нямала прадметаў з каляровых металаў, несумненна, завезеных ужо ў гатовым выглядзе. Аднак не могуць быць імпартнымі этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні — скроневыя кольцы крывічоў, лунніцы, сяміпрамянёвыя вісочныя кольцы радзімічаў і пацеркі дрыгавічоў. Несумненна, іх вытворчасць была арганізавана на мясцовай племяннoй тэрыторыі. І ўсё ж значная колькасць медных і бронзавых вырабаў несумненна імпартнага паходжання. Бясспрэчна, імпартам з Прыбалтыкі з'яўляюцца падковападобныя фібулы з патоўшчанымі канцамі з галоўкамі ў форме ўсечаных пірамід, зоркападобная спражка, трохпяцельныя прывескі, крыж, крыжавідная булаўка, знойдзеная ў Навагрудка (Гуревич, 1981. С. 149). У Мінску, Лагойску, Барысаве, Браславе знойдзены бронзавыя падковападобныя фібулы з патоўшчанымі канцамі, упрыгожаныя іншы раз раслінным або геаметрычным арнаментам, якія паходзяць з паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі (Штыхов, 1978. С. 115). З Прыбалтыкі паходзіць таксама буйная фібула з квадратнымі зоркападобнымі галоўкамі, арнаментаваная срэбранымі накладкамі з пласта XIII ст. старажытнага Бярэсця (Лысенко, 1985). У Полацку знойдзены плоскавыпуклы бранзалет з чаканным узорам са знешняга боку, які адносіцца да тыпу куршскіх стужкападобных бранзалетаў (Штыхов, 1975. С. 67). У Навагрудку знойдзены трохпяцельныя падвескі і падвеска-лыжачка, якая выраблялася ў Смаленскай зямлі, а таксама зоркападобная спражка з белага металу, аналагічная старажытнарускім (Гуревич, 1982. С. 43). З Эстоніі была прывезена бронзавая крыжападобная булаўка, пакрытая срэбрам і чэрню (Гуревич, 1982. С. 43). Хутчэй за ўсё з суседняй Мазовіі ў Бярэсце завезена бронзавае кругладротавае скроневае кальцо з S-падобным завітком, характэрнае для заходнеславянскіх плямёнаў і шырока распаўсюджанае ў мазаўшан (Лысенко, 1985. С. 385).

**Зброя.** Даволі значная колькасць прадметаў узбраення таксама імпартнага паходжання. У Навагрудку знойдзена бронзавае перакрыжаванне мяча са стылізаванымі галоўкамі птушак або драконаў па краях. Аналагічныя знаходкі да сярэдзіны XII ст. сустракаюцца на тэрыторыі куршаў у Прыбалтыцы. У Ваўкавыску выяўлены наканечнік кап'я з шырокім падоўжана-трохвугольным пяром і гравіраваным па срэбру арнаментам са стужкавага пляцення па ўтулцы і рэбрах. Па характары арна-

менту ён блізкі да коп'яў X ст. з Польшчы, з вострава Готланда і Швецыі. У Ваўкавыску, Гродне і Навагрудку знойдзены шпоры з прамым плячом і прамавугольнай пятлёй з дзвюма адтулінамі ў вертыкальнай плоскасці. Шып гэтых шпор круглы, з перахватам, іншы раз інкруставаны. Часам інкруставаны і адгалінаванні. Такія шпоры вядомыя ў Ноўгарадзе і ў Польшчы.

Трохгранны наканечнік кап'я з упрыгожанай сярэбранай чаканкай шырокай конусападобнай утулкай знойдзены ў пласце першай паловы XII ст. у Мінску. Блізкія па арнаментацыі коп'і сустракаюцца ў Фінляндыі (Загорульский, 1982. С. 216). У Мінску ў пласце сярэдзіны XII ст. знойдзены навершша мяча і перакрыжаванні мяча і шаблі. Напэўна, рукаяці і перакрыжаванні шаблі маюць аналогіі ў паўднёварускіх матэрыялах (Загорульский, 1982. С. 214, 215). У Навагрудку ў пласце XII ст. знойдзена перакрыжаванне шаблі з латуні, якое мае аналогіі ў паўднёварускіх матэрыялах (Гуревич, 1981. С. 107). Абедзве гэтыя знаходкі паходзяць ад вырабаў імпартнага паходжання (Гуревич, 1981. С. 150). У Ваўкавыску на Шведскай гары і на Замчышчы знойдзены два гладкіх наканечнікі ножнаў мяча, якія маюць аналогіі ў старажытнасцях Польшчы XI—XII стст. (Зверуго, 1975. С. 100). Ажурны наканечнік ножнаў мяча з Навагрудка хутчэй за ўсё выраблены ў Прыбалтыцы (Гуревич, 1981, С. 107). Відаць, да прадметаў імпартнага паходжання варта аднесці знойдзены ў культурным пласце старажытнага Слоніма шлем напаўсферычнай формы з наноснікам. Такая форма шлема не характэрная для старажытнай Русі і Прыбалтыкі. Ф. Д. Гурэвіч сцвярджае, што найбольш блізкія да яго аналогіі сустракаюцца ў Скандынавіі (Гуревич, 1982. С. 44). Р. К. Валкайтэ-Кулікаўскене лічыць наноснік характэрнай прыкметай заходнееўрапейскіх шлемаў (Волкайте-Куликаускене, 1965). У матэрыялах старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі часта сустракаюцца наканечнікі стрэл, нехарактэрныя для старажытнай Русі. У Ваўкавыску ўтулкавыя наканечнікі стрэл, характэрныя для краін Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, складаюць 63,7 % ад ліку ўсіх знойдзеных наканечнікаў стрэл у той час, як звычайны лік іх знаходак для старажытнай Русі складае каля 1 % ад агульнай колькасці знойдзеных стрэл (Зверуго, 1989. С. 164). У іншых гарадах Панямоння — Навагрудку, Слоніме, Турыйску працэнт утулкавых наканечнікаў меншы за Ваўкавыск, але ўсё ж яны складаюць там ад трэці да чвэрці ўсіх жалезных наканечнікаў стрэл. У Давыд-Гарадку, Бярэсці сустракаліся так званыя зрэзні, характэрныя для мангола-татарскіх войск XIII ст. (Лысенко, 1974. С. 133; Ён жа, 1985. С. 221).

Вядома, трэба ўлічваць, што зброя і прадметы ваеннага рыштунку значна часцей, чым жаночыя ўпрыгожанні і прадметы культуры, могуць быць ваенным трафеем, а не прадметам імпарту і гандлёвага абмену.

**Прадметы хатняга побыту.** Несумненна прывазнымі вырабамі ў старажытных гарадах з'яўляюцца шматлікія прадметы хатняга побыту, культурнага прызначэння і хрысціяскага культу. Магчыма, прадметамі імпарту ў асобных гарадах былі такія высокамастацкія вырабы ювелірнага рамяства, як выямчатыя і перагародчатыя эмалі ў Полацку або такія рэдкія і каштоўныя жаночыя ўпрыгожанні, як колты з Бярэсця

і Мінска (Штыхов, 1975. С. 66; Лысенко, 1985. С. 259; Загорульский, 1982. С. 222).

Магчыма, імпартнае паходжанне мае медны посуд, фрагменты кляпаных сценак і верхняга краю якога знойдзены ў пластах XIII ст. у Бярэсці (Лысенко, 1985. С. 269, 271). У Навагрудку выяўлена так званая ганзейская (раманская) чаша — адкрыты бронзавы сасуд з адагнутымі краямі і напаўсферычным дном. Падобныя чашы паходзяць з Памор'я і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі (Гуревич, 1982. С. 43, 44; Яна ж, 1981. С. 107). У Навагрудку знойдзены таксама фрагмент бронзавага катла (Гуревич, 1981. С. 104). У Бярэсці і Навагрудку выяўлены невялікія танкасценныя медныя сасуды з вертыкальнымі сценкамі і плоскім дном (Лысенко, 1985; Гуревич, 1981. С. 104). Аналогіі ім вядомы ў Кіеве (Каргер, 1958. С. 478). Сярод старажытнага начыння Каложскай царквы ў Гродне знойдзены бронзавы вадалей ў вобразе рыцара на кані. Ён паходзіць хутчэй за ўсё з паўночнай Германіі (Ніжняя Саксонія) (Воронин, 1954. С. 41; Даркевич, 1966. С. 29). У Слоніме сустрэты медны збан з акруглым горлам, вузкай шыйкай і расшыраным венцам, аналогіі якому вядомы ў Сярэдняй Азіі (Зверуго, 1972. С. 269; Даркевич, 1976. С. 51).

**Прадметы хрысціянскага культу.** Значную групу рэчаў імпартнага паходжання ўяўляюць прадметы хрысціянскага культу. Да іх адносяцца крыжы-энкалпіёны, у асноўным паўднёвай, кіеўскай вытворчасці, розныя нацельныя крыжыкі, панікадзілы і хорасы, кадзільніцы, фрагменты званоў і г. д. Энкалпіёны (крыжы-машчавікі) складаліся з пярэдняй і задняй створак, паміж якімі закладвалі свяшчэныя рэліквіі. На паверхні яны мелі інкруставаныя або рэльефныя выявы святых ахоўнікаў або сюжэты на біблейскія тэмы. Гэта вельмі каштоўныя вырабы, якія завозіліся на тэрыторыю Беларусі з паўднёвых раёнаў. Энкалпіёны былі знойдзены ў Полацку ў пластах XII ст., у Навагрудку (3), у Мінску (2), Бярэсці (1), Тураве (Штыхов, 1975. С. 71; Гуревич, 1981. С. 114; Загорулский, 1982. С. 225, 321; Лысенко, 1985. С. 212). Выявы на энкалпіёнах з Навагрудка і Мінска рэльефныя, на энкалпіёне з Бярэсця — разьбяная, інкруставаная срэбрам. Мінскія і навагрудскія энкалпіёны аналагічныя кіеўскім, дзе была арганізавана іх вытворчасць.

Бронзавы нагрудны аднабаковы крыж з Друцка (Алексеев, 1966. С. 159) адліты ў аднабаковай форме і мае плоскую задняюю сценку. На знешнім баку крыжа адліты рэльефныя выявы Троіцы (зверху), Срэцення (левы бок), Зыходу ў ад (правы бок), Раскрыжаванне (сярэдзіна крыжа), Пераўвасабленне і Зыход Святога Духа да анёлаў (ніжняя частка ствала). Такі ж крыж, адліты ў той жа форме, выяўлены ў Віцебску (паведамленне Л. У. Калядзінскага).

У курганных захаваннях і матэрыялах даследавання гарадоў нярэдка сустракаюцца невялікія бронзавыя нацельныя крыжыкі рознай формы. Яны выяўлены ў Мінску, Навагрудку, Ваўкавыску, Полацку, Пінску, Тураве. Многія з іх маюць шырокія аналогіі ў старажытнарускім матэрыяле і, магчыма, некаторыя з'яўляюцца прадметамі імпарту з тэрыторыі іх вытворчасці (Загорульский, 1982. С. 225, 321; Гуревич, 1981. С. 114, 115; Зверуго, 1975. С. 41; Лысенко, 1974. С. 108). Да імпартных прадметаў з Кіева адносяцца дэталі панікадзілаў і хораса для асвятлення




*Мал. 129. Прадметы рэлігійнага культу: 1—3, 6, 9 — дэталі хорасу, 4 — лампада; 5 — падсвечнік; 7 — нацельны крыжык; 8 — сасудзік (1, 3, 4, 9 — Ваўкавыск; 2, 6, 7 — Навагрудак; 5, 8 — Гродна)*

храма. Знойдзены ў Ваўкавыску, Навагрудку, Гродне. У Ваўкавыску выяўлены два віды фігурных падвесных ланцугоў з ажурнымі прарэзамі і розныя па форме кубачкі і вастрыі для падсвечнікаў, што дазваляе меркаваць аб наяўнасці не менш двух розных панікадзілаў (Зверуго, 1975. С. 39, 49). У Навагрудку знойдзены абломак бронзавага падсвечніка, хораса або люстры (Гуревич, 1981. С. 97, 98). У Гродне знойдзены бронзавыя лампады (Воронин, 1954), у Бярэсці — бронзавыя кубачкі ад падсвечнікаў (Лысенко, 1985. С. 267, 270). Усе гэтыя прадметы хутчэй за ўсё выраблены ў Кіеве.

Да прадметаў царкоўнага ўжытку кіеўскай вытворчасці адносяцца кадзільніцы. Ніжні кубачак кадзільніцы з трыма падвеснымі вушкамі знойдзены ў Бярэсці (Лысенко, 1985). Такі ж кубачак сустрэты ў Гродне.

Відаць, да імпарту з Кіева варта аднесці царкоўныя званы, фрагменты якіх выяўлены ў Гродне, Бярэсці і Тураве, маленькую бронзавую лыжачку для царкоўнай прычасці (Воронин, 1954. С. 119—120; Лысенко, 1985. С. 267, 269, 270). Кіеўскай вытворчасці, верагодна, і бронзавы змеявік з Ваўкавыска, а таксама невялікія бронзавыя іконкі са складнятрыпціха з выявай Баожай маці з Пінска і Полацка, што маюць аналогіі ў Кіеве (Зверуго, 1975. С. 129; Лысенко, 1974. С. 108; Штыхов, 1975. С. 70, 71). Напэўна, паўднёварускага паходжання бронзавыя пісалы з крыжападобным прарэзам на лапатачцы і перахватамі на стрыжні, знойдзеныя ў Ваўкавыску і Бярэсці (Зверуго, 1975. С. 123—124; Лысенко, 1985. С. 216, 390).

**Касцяныя вырабы.** Сярод касцяных вырабаў на тэрыторыі Беларусі выяўлена значная колькасць прадметаў імпартнага паходжання. Перш за ўсё гэта касцяное навершша перакладкі складнога стула з выявай ільвінай галавы, што заглытвае старога чалавека. Па аналогіі, яно выраблена ў паўднёвай Германіі і датуецца другой паловай XII — пачаткам XIII ст. (Зверуго, 1975. С. 81; Даркевич, 1963. С. 105). Несумненна, прадметамі імпарту з'яўляюцца па-мастацку стылізаваныя шахматныя фігуры з Ваўкавыска, Турава, Навагрудка, Бярэсця, Мінска, Друцка, Лукомля, Полацка, Віцебска, Копысі, Слуцка (Зверуго, 1975. С. 57, 58; Лысенко, 1974. С. 58, 59; Ён жа, 1985. С. 213, 286; Гуревич, 1981. С. 71, 72; Загорульский, 1982. С. 252; Алексеев, 1966. С. 234; Штыхов, 1978. С. 135; Колединский, 1993). Аналогіі гэтым фігуркам вядомы на Русі і за рубяжом. Магчыма, некаторыя з іх выраблены мясцовымі майстрамі. Аднак несумненна, што частка з іх з'яўляецца прадметам імпарту.

У матэрыялах археалагічных даследаванняў неаднаразова сустракаліся касцяныя вырабы высокамастацкай апрацоўкі, якая патрабуе высокага прафесіяналізму. Некаторыя з іх вызначаюцца стылявой своеасаблівасцю, што дае падставу меркаваць аб пэўных раёнах іх вырабу. Дэкаратыўныя касцяныя накладкі, багата ўпрыгожаныя рэльефным і прарэзным арнаментам, выяўлены ў Ваўкавыску, Друцку, Мінску, Бярэсці, Тураве (Алексеев, 1962. С. 204—206; Ён жа, 1966. С. 235; Лысенко, 1974. С. 57; Ён жа, 1985. С. 279; Зверуго, 1975. С. 56; Загорульский, 1982. С. 222, 320). Частка з іх хутчэй за ўсё паходзіць з вандроўнага поўдня, дзе яны маюць блізкія аналогіі. Гэта ў асноўным дэкаратыўныя высокамастацкія накладкі — ад калчаноў і налучнікаў, што аб'ядноўва-



*Мал. 130. Каменныя вырабы: 1 — шыфернае праслiца, 2—6, 10, 14 — бурштынавыя i каменныя крыжыкi; 7, 11, 12 — ракавiны-каўры; 8, 9, 13 — бразготкi дзiцячыя, 15 — выява воiна на плiтцы (1 — Тураў, 2—6, 13, 15 — Бярэсце; 7, 10, 11 — Навагрудак, 12 — Гродна, 8, 9 — Ваўкавыск)*

юць у арнаменце матывы расліннага і жывёльнага стыляў. Такія накладкі знойдзены ў Мсціславе, Друцку, Тураве, Бярэсці, Ваўкавыску, Мінску (Зверуго, 1975. С. 81; Даркевич, 1963. С. 105). Несумненна імпартнае паходжанне двухбаковай іконкі на прамавугольнай касцяной пласціне з Ваўкавыску. На яе пярэднім баку ў квадратных рамачках выразаны рэльефныя пагрудныя выявы зверху архангела Міхаіла або Гаўрыіла, а ў цэнтры — відаць, Пятра, а знізу — Георгія або Пракопія. На заваротным баку рэльефам выразаны чатырохканцовы крыж з расшыранымі канцамі на паўсферы. Такія вырабы шырока вядомыя для візантыйскіх старажытнасцей (Зверуго, 1975. С. 154, 155). Імпартам лічыць Ф. Д. Гурэвіч усе грабяні са старажытных пластоў Навагрудка.

**Каменныя вырабы.** Значную групу прадметаў імпартнага паходжання складаюць каменныя вырабы. У першую чаргу варта назваць так званыя шыферныя праслiцы, выраблены з валынскага сланцу-«шыферу», які выходзіць на паверхню ў раёне Оўруча — Іскарасценя, дзе і ўтварыўся цэнтр па апрацоўцы гэтага каменя і масаваму вырабу з яго праслiц. З гэтага цэнтра майстэрняў і распаўсюдзіліся па тэрыторыі Беларусі праслiцы ў масавай колькасці. Яны вядомы практычна ва ўсіх гарадах, часам сустракаюцца на селішчах і сярод інвентару курганных пахаванняў. З гэтага ж валынскага сланцу выраблялі іконкі, нацельныя крыжы, саркафагі, тачыльныя камяні, жорны. Шыферныя праслiцы найчасцей маюць біканічную або бочкападобную форму дыяметрам 17—25 мм і дыяметрам канала 4—10 мм. У гарадах іх знаходкі вызначаліся сотнямі. У Мінску іх знойдзена 234, У Полацку — 451, у Лукомлі — 222, у Ваўкавыску — 224. У Бярэсці знойдзена каля 200, у Навагрудку — 93. Значна больш у Тураве (Штыхов, 1978. С. 114; Лысенко, 1985. С. 324; Гуревич, 1981. С. 154). Кавалкі шыферу сустрэты таксама ў Полацку, Тураве, на Строчацкім гарадзішчы, дзе выяўлены сляды мясцовай вытворчасці праслiц (Штыхов, 1978. С. 69, 114).

Невялікую групу каменных вырабаў імпартнага паходжання складаюць каменныя іконкі. У Полацку знойдзена ў 1967 г. у пласце пачатку XIII ст. рэльефная іконка з выявай св. Канстанціна і св. Алены. Стыль выявы блізкі да візантыйскага, хаця Г. В. Штыхаў выказвае меркаванне аб яе вырабе рускім майстрам па візантыйскіх узорах (Штыхов, 1975. С. 112—114).

У Мінску ў пласце XIII ст. знойдзена каменная іконка Спаса Эмануіла, які благаслаўляе Міколу і Стэфана. Другая іконка з пагруднай выявай дэісуснай Божай маці на правым баку і апостала Пятра на другім знойдзена ў пласце XII ст. Абедзве іконкі выразаны са светла-шэрага сланцу (Загорульский, 1982. С. 228).

У Ваўкавыску знойдзены сланцавая іконка архангела Гаўрыіла (фрагмент) і вапняковая іконка Ісуса Хрыста Эмануіла, выраблены, відаць, у Кіеве (Зверуго, 1975. С. 128, 129).

У Пінску ў пласце рубяжа XI—XII стст. знойдзена сланцавая іконка Ісуса Хрыста Эмануіла, маючая аналагі ў Кіеве і Падняпроўі, у Навагрудку — фрагмент тэатытавай іконкі Божай маці з дзіцем (Лысенко, 1968. С. 295—297). Са станаўленнем хрысціянства звязана і распаўсюджанне каменных крыжыкаў у гарадах на тэрыторыі Беларусі. Яны знойдзены ў Навагрудку, Полацку, Мінску, Тураве, Бярэсці (Гуревич,



*Мал. 131 Каменныя абразкі· 1 — св Петр, Маці Божая, 2 — св Мікола і св Стэфан, 3 — св Канстанцін і Алена (1—2 — Мінск, 3 — Полацк)*

1981, С. 152; Штыхов, 1975. С. 97; Лысенко, 1985. С. 213, 325, Загорульский, 1982. С. 326). Шыферныя праслiцы выраблены ў майстэрнях Оўруча або ў Кіеве, а крыжыкі з пярэстага каменя, так званыя мармурападобныя,— з Херсанеса (Гуревич, 1981. С. 152; Зверуго, 1989. С. 153).

Імпартнымі на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца і 5 шыферных саркафагаў, выяўленых у Тураве ў 1909, 1963 і 1992 гг. (Снитко, Скрынченко, Панов, 1911). Яны зроблены з масіўных маналітных шыферных пліт даўжыней да 190 см, шырыней да 80 см і таўшчыней 10—12 см, якія ствараюць прамавугольную скрыню. Усе яны, несумненна, вывезены з раена Оўруча. У Тураве і Давыд-Гарадку знойдзены абломкі жорна,

таксама выраблёнага з оўручскага шыферу (Лысенко, 1974. С. 134). Імпартнымі з'яўляюцца таксама рэдкія знаходкі ракавін кауры і двухстворкавых малюскаў, выяўленыя ў Ваўкавыску і Навагрудку (Зверуго, 1975. С. 4; Гуревич, 1981. С. 154).

Значную групу імпартных вырабаў на тэрыторыі Беларусі складаюць знаходкі буйных гліняных амфар, у якіх транспартавалі віно і аліўкавы алей. Яны знойдзены (у выглядзе фрагментаў) у Навагрудку, Ваўкавыску, Полацку, Мінску, Тураве, Бярэсці, Гродне, Слоніме і іншых гарадах. На асобных помніках колькасць іх даволі значная. У Навагрудку знойдзена звыш 2500 фрагментаў ад больш за 70 амфар, у Ваўкавыску — 1600 фрагментаў, у Полацку — 187 (Гуревич, 1982. С. 45; Штыхов, 1978. С. 115).

Асноўным раёнам імпарту амфар было паўночнае і заходняе Прычарнамор'е (Гуревич, 1982. С. 45).

Каменныя пацеркі — адзін з найбольш распаўсюджаных прадметаў імпарту на тэрыторыі Беларусі. Яны сустракаюцца галоўным чынам у пахавальных курганах і значна радзей у матэрыялах арадоў. Найбольш часта знаходзяць сердалікавыя пацеркі рознай формы (пліткавыя, прызматычныя, біпірамідальныя), значна радзей — пацеркі з чорнага хрусталю. Усе яны з'яўляюцца прадметам імпарту з Сярэдняй Азіі (Гурэвич, 1981. С. 154; Штыхов, 1978. С. 116).

Бурштынавыя вырабы ў найбольшай колькасці сустракаюцца практычна ва ўсіх старажытных гарадах і вельмі рэдка ў пахавальным інвентары. У асноўным гэта нацельныя крыжыкі рознай формы і значна радзей — пацеркі. Крыжыкі знойдзены ў Бярэсці, Навагрудку, Полацку, Мінску (Лысенко, 1981. С. 325; Гуревич, 1981. С. 150; Штыхов, 1975; Загорульский, 1982. С. 326).

Акрамя вырабаў у горадзе сустракаюцца і кавалкі неапрацаванага бурштыну. Гэта дае падставу меркаваць аб мясцовай апрацоўцы бурштыну. Тым не менш неапрацаваны бурштын і вырабы з яго (па крайней меры частка іх), несумненна, з'яўляюцца імпартам з Прыбалтыкі.

**Вырабы са шкла.** Найбольш значную групу імпартных прадметаў на тэрыторыі Беларусі складаюць шкляныя вырабы, як правіла, не забяспечаныя мясцовай вытворчасцю. Іх можна падзяліць на дзве буйныя групы — жаночыя ўпрыгожанні (пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі, устаўкі ў пярсцёнкі) і сасуды (бакалы, кубкі, шклянкі, гаршкападобныя сасуды, флаконы, сасуды індывідуальных форм).

Абломкі шкляных бранзалетаў сустракаюцца амаль на ўсіх паселішчах гарадскога тыпу і на феадальных сядзібах. У Навагрудку іх знойдзена каля 2500, у Ваўкавыску — 298, у Тураве — звыш 1600, у Мінску — 1100, Пінску — каля 500, Давыд-Гарадку — 188, Полацку — 792, Бярэсці — 578 і г. д. (Гурэвич, 1981. С. 154; Зверуго, 1975. С. 75; Лысенко, 1974. С. 60, 110, 124; Загорульский, 1982. С. 229; Штыхов, 1975. С. 95; Лысенко, 1985. С. 272). У выніку супастаўлення калекцый бранзалетаў па іх форме, каляровай гаме і хімічным складзе ўстаноўлена, што асноўная маса шкляных бранзалетаў паступала з Кіева (Щапова, 1962. С. 109). І ўсё ж 13 % ваўкавыскіх і 15 % навагрудскіх бранзалетаў па складу шкла, форме і каляровай гаме адносяцца да вырабаў ві-




*Мал 132 Шкляныя вырабы: 1—10 — пацеркі, 11—14 — пярсцэнкі, 15, 16, 18—20 — шкляныя бранзалеты, 17 — дно бакала (1—20 — Навагрудак)*

зантыйскай вытворчасці, а некаторыя навагрудскія бранзалеты завезены з Полацка (Щапова, 1962. С. 109).

Сістэматычнай знаходкай у пахавальным інвентары і частай знаходкай у гарадзішчах з'яўляюцца шкляныя пацеркі. У Навагрудку іх знойдзена 141, у Ваўкавыску — 106, Мінску — 130, Бярэсці — 59 (Гуревич, 1982. С. 154; Зверуго, 1975. С. 76; Загорульский, 1982. С. 233; Лысенко, 1985. С. 272). Вытворчасць шкляных пацерак на Русі пачынаецца не раней XI ст. (Щапова, 1962. С. 90, 91). Таму лімонападобныя, у вочкі, рабрыстыя і некаторыя іншыя тыпы шкляных пацерак гэтага перыяду павінны вызначацца як імпарт з краін Бліжняга Усходу і Сярэдняй Азіі (Щапова, 1962. С. 84). Бочкападобныя і зонныя пацеркі маглі быць як імпартнага паходжання, так і кіеўскай вытворчасці (Фехнер, 1959. С. 162—170). Пасля арганізацыі вытворчасці пацерак у Кіеве абсалютная іх большасць на тэрыторыі Беларусі, паводле даных спектральнага аналізу, мае той жа хімічны склад, што і кіеўскія пацеркі, і таму павінна вызначацца як кіеўскі імпарт (Наумов, 1969. С. 162).

Імпартнага паходжання і шкляныя пярсцёнкі. Яны сустракаюцца ў гарадах даволі рэдка. У Ваўкавыску знойдзена 12 фрагментаў пярсцёнкаў, у Мінску — 10, у Тураве — 60. Нязвычайна многа іх у Навагрудку, дзе выяўлена 96 пярсцёнкаў (Зверуго, 1975. С. 78; Загорульский, 1982. С. 233; Лысенко, 1974. С. 60; Гуревич, 1981. С. 152, 153). Склад шкла пярсцёнкаў з Навагрудка, Ваўкавыска, Мінска дазваляе аднесці яго да прадукцыі кіеўскага шкловырабляльнага цэнтра (Гуревич, 1981. С. 153; Зверуго, 1974. С. 78; Загорульский, 1982. С. 233).

Яшчэ больш рэдкай знаходкай у матэрыялах помнікаў з'яўляюцца шкляныя ўстаўкі для металічных пярсцёнкаў. У Навагрудку знойдзена такіх уставак 10, Ваўкавыску — 8, Бярэсці — 2, сустракаліся яны і ў Тураве (Гуревич, 1982. С. 154; Зверуго, 1975. С. 79; Лысенко, 1974. С. 60; Ён жа, 1985. С. 277). На тэрыторыі Беларусі шкляныя ўстаўкі, несумненна, таксама імпартнага паходжання і паходзяць у асноўным з Кіева, аб чым сведчыць іх хімічны склад (Гуревич, 1981. С. 150).

Асобную групу імпартных вырабаў на тэрыторыі Беларусі складаюць шкляныя сасуды. Іх фрагменты знойдзены ў Навагрудку, Ваўкавыску, Тураве, Пінску, Бярэсці, Мінску, Полацку (Гуревич, 1981. С. 152; Зверуго, 1975. С. 78; Лысенко, 1974. С. 60, 111; Ён жа, 1985. С. 277; Загорульский, 1982. С. 235). Незвычайна багатая па разнастайнасці і колькасці сасудаў калекцыя шклянога посуду з Навагрудка. Тут знойдзены фрагменты больш 100 сасудаў, з якіх 60 рускага і 40 замежнага паходжання (Гуревич, 1981. С. 152).

Большасць шклянога посуду, несумненна, кіеўскага паходжання (Щапова, 1972. С. 64, 72). Аднак у Навагрудку і Тураве значная колькасць шклянога посуду паходзіць з Візантыі і краін усходняга Міжземнамор'я, у тым ліку кубак «Ядзвігі», у Браславе знойдзены мазавецкі сасуд (Гуревич, 1981. С. 79, 152; Полубояринова, 1963. С. 233—238; Алексеев, 1960. С. 103).

Кіеўскага паходжання і дыскападобнае аконнае шкло, знойдзенае ў Навагрудку, Ваўкавыску, Тураве, Пінску, Полацку і іншых гарадах (Гуревич, 1981. С. 150, 154; Зверуго, 1975. С. 79; Лысенко, 1974. С. 60, 111; Штыхов, 1975. С. 97). Аналіз аконнага шкла з Ваўкавыска выяўляе склад,




*Мал 133 Шкляныя вырабы і амфары 1—3, 6, 9 — бакалы, 4, 8 — колбападобныя сасуды, 5 — чаша, 7 — бутэлечнападобны сасуд, 10 — амфара (1—10 — Навагрудак)*

характэрны для заходнееўрапейскага шклавырабу (Наумов, 1969. С. 164).

Сярод шкляных прадметаў імпартнага паходжання варта адзначыць і знаходкі (у Полацку, Барысаве, Віцебску) шкляной мазаікі кіеўскай вытворчасці, якая прызначалася для ўпрыгожвання манументальных пабудоў мазаічным роспісам (Штыхов, 1975. С. 97; Ён жа, 1978. С. 115; Калядзінскі — вуснае паведамленне).

**Прадметы побыту.** Да прадметаў імпарту адносяцца таксама фаянсавы посуд з Ірана, знойдзены ў Навагрудку, Полацку і Лукомлі, а таксама распісаны кобальтам і марганцам з Сярздняй Азіі, выяўлены ў Навагрудку (Гуревич, 1981. С. 151; Штыхов, 1978. С. 115).

З Кіева паходзіць белагліняны посуд з зялёнай палівай, знойдзены ў Мінску, Друцку, Віцебску, Панямонні (Штыхаў, 1978. С. 115; Макарова, 1967. С. 48; Зверуго, 1989. С. 153).

Да імпартных вырабаў на тзрыторыі Беларусі адносяцца таксама паліўныя бразготкі — пісанкі, выяўленыя ў Навагрудку, Лукомлі, Бярэсці. Паходзяць яны з Кіева і Ноўгарада (Гуревич, 1981. С. 110; Штыхов, 1978. С. 115; С. 115; Лысенко, 1985. С. 384; Макарова, 1967. С. 43, 44). З раёнаў Паўночнага Каўказа і Усходняга Прычарнамор'я паступіў самшыт, з якога выраблялі грабянцы (Штыхов, 1978. С. 116; Загорульский, 1982).

Візантыйскім імпартам з'яўлялася шоўкавая залататканая тканіна, выяўленая ў Гродне, Мінску, Тураве, Навагрудку (Воронин, 1954. С. 66; Загорульский, 1982. С. 345; Гуревич, 1981. С. 113, 152; Снитко, Скрынченко, Панов, 1911). Імпартнага паходжання таксама ракавіны каўры, грэцкія арэхі, знойдзеныя ў Полацку і Мінску, касцяная фігурка святога, прывезеная з Францыі (Штыхов, 1978. С. 116; Даркевич, 1966. С. 27—29).

**Замежныя сувязі.** Агляд імпартных вырабаў на тзрыторыі Беларусі дазваляе вылучыць краіны і гарады, з якімі ажыццяўляліся зканамічныя і культурныя сувязі. Найбольш ажыўленымі яны былі з Кіевам, адкуль паступалі прадметы ўзбраення, розныя ўпрыгожанні, прадметы культурнага і рэлігійнага прызначэння, шкляны і гліняны посуд, аконнае шкло, тканіны, віно, аліўкавы алей. З Прычарнамор'я прывозілі амфары з віном, аліўкавым алеем, тканіны, прадметы рэлігійнага культу, з Ірана — фаянсавы посуд. З Валыні паступалі шыферныя прасліцы, жорны, саркафагі. З Прыбалтыкі — зброя, бурштын і вырабы з яго, асобныя віды бронзавых упрыгожанняў. З Заходняй і Цэнтральнай Еўропы паступалі каляровыя металы, асобныя віды ювелірных вырабаў, шкляныя вырабы.

Знаходкі гандлёвага інвентару даюць падставу меркаваць, што да гандлёвых аперацый мелі непасрэдныя адносіны мясцовыя жыхары. У Мінску і Навагрудку знойдзены бязмены, у Ваўкавыску — двуплечча рычачных шалей, такога ж тыпу шалі знойдзены ў кургане № 114 ва ўрочышчы Горкі былога Мікуліцкага двара былога Рэчыцкага павета (Загорульский, 1982. С. 283; Гуревич, 1982. С. 47; Зверуго, 1975. С. 31). Неаднаразова ў розных гарадах у працэсе раскопак знаходзілі вагавыя гіры, якія маглі выкарыстоўвацца для ўзважвання асобных порцый плацежнага срэбра (Гуревич, 1982. С. 47).




*Мал. 134. Прадметы культурнага прызначэння: 1 — пячатка Кіеўскага мітрапаліта Кірылы I; 2, 3, 7 — свінцовыя таварныя пломбы; 4—6, 10 — шахматныя фігуры; 8, 9, 12—14 — кніжныя засцежкі; 11 — цэра; 15—20 — стылі-пісалы; 21 — мастыхін мастака (1, 5, 6, 8, 10 — Тураў; 2, 3, 4, 7, 11—21 — Бярэсце)*

Пераканаўчым сведчаннем развітых гандлёвых зносін з'яўляюцца знаходкі свінцовых таварных пломбачак. Яны знойдзены ў Віцебску, Полацку, Мінску, Друцку, Бярэсці і асабліва шмат іх у Драгічыне Надбужным (Штыхов, 1978. С. 116; Лысенко, 1985. С. 385; Болсуновский, 1894. Ч. 1).

Асноўнымі гандлёвымі шляхамі па заходніх землях Русі былі шляхі водныя. Па Дняпру ішоў вялікі гандлёвы шлях «з вараг у грэкі». Ад яго ішлі адгалінаванні па Заходняй Дзвіне ў Балтыйскае мора, па Прыпяці — у Буг і Нараў, адтуль — па Вісле ў Балтыйскае мора і Заходнюю Еўропу.

Л. В. Аляксееў рэканструюе наземныя шляхі з Полацка ў Рыгу на працягу правага берага Дзвіны, на Ноўгарад — праз Еменец, у Віцебск і Смаленск, у Мінск — праз Лагойск, на Лукомаль, Оршу і Друцк, а таксама наземны шлях з Мінска — на Оршу, Смаленск, на Слуцк і ў Літву праз Койданаў (Алексеев, 1966. С. 91—100). Ф. Д. Гурзвіч і Я. Г. Зваруга прасочваюць гандлёвыя шляхі Панямоння (Гуревич, 1981. С. 155; Зверуго, 1989. С. 160). В. Б. Пярхаўка разглядае паўднёвы гандлёвы шлях на Прыпяці (Перхавко, 1983. С. 4—27).

Эквівалентнымі таварамі старажытнай Русі, што ішлі на экспарт у замен імпартных тавараў, былі «скора і воск, мед і чэлядь» (ПСРЛ. Т. I. Стб. 67).

Аб развітых знешнегандлёвых сувязях сведчаць пісьмовыя крыніцы, дагаворы Смаленска і Полацка з Рыгай, гоцкім берагам і Любекам (Штыхов, 1978. С. 118). Стабільнасць гандлёвых сувязяў пацвярджаецца стварэннем купецкіх карпарацый ў Полацку і Навагрудку (Штыхов, 1978. С. 118; Гуревич, 1981. С. 156; Яна ж, 1982. С. 47).

## 5. МАНЕТНЫЯ І МАНЕТНА-РЭЧАВЫЯ СКАРБЫ

**Агульныя звесткі пра скарбы і іх тапаграфію.** Далёкі (замежны) гандаль з'явіўся крыніцай задавальнення патрэбнасцяў у металічнай сыравіне. Разам з тым з'яўленне арабскіх манет — дырхемаў азначала пачатак грашовага абарачэння. Напрыклад, на тэрыторыі Полацкай зямлі вядомы даныя аб 38 скарбах IX—XI ст. У 28 скарбах манетная частка прадстаўлена толькі дырхемамі.

Даследчыкі канстатавалі чатыры перыяды абароту арабскіх дырхемаў на тэрыторыі ўсёй Усходняй Еўропы. З некаторымі ўдакладненнямі для Беларусі, зробленымі В. Н. Рабцэвічам, гэта перыядызацыя мае наступны выгляд: 1) скарбы куфіцкіх манет з пачатку IX ст. да 833 г.; 2) з 833 па 900 г.; 3) з 900 па 938 г.; 4) з 938 па 990 г. (Рябцевич, 1995. С. 110).

Ужо не раз адзначалася сувязь паміж размяшчэннем манетных скарбаў і буйных паселішчаў ды гарадоў (Потин, 1968. С. 27, 30—32). Сапраўды, большасць скарбаў арабскіх дырхемаў узрастае па меры набліжэння да басейнаў судаходных рэк, дзе размяшчаліся гарады і адбываўся грашовы абмен. Гэта пацвярджаецца тапаграфіяй скарбаў на тэрыторыі Полацкай зямлі (Штыхов, 1993. С. 85—88).

У Беларусі скарбы дырхемаў канцэнтруюцца ўздоўж цячэння Дняпра і Заходняй Дзвіны, г. зн. па аднаму з адрэзкаў воднага «пути из варяг в греки». Паблізу Полацка ля вёскі Каз'янкі знойдзены буйнейшы скарб

ва Усходняй Еўропе (не менш чым 7600 дырхемаў), які трапіў у зямлю ў 30—40-я гады X ст. Найбольш поўныя звесткі аб куфіцкіх манетах на тэрыторыі Полацкай зямлі апублікаваў В. Н. Рабцэвіч (Рябцевич, 1998. С. 66—80).

Рух дырхема ва Усходнюю Еўропу адбываўся па двух шляхах: паўднёва-ўсходняму (з Хазарыі) і ўсходняму (з Волжскай Булгарыі). Куфіцкія манеты траплялі ў Прыбалтыку, Скандынавію, Польшчу. Вялікая колькасць гэтых манет асядала на ўсходнеславянскіх землях, дзе яны паглыналіся ўласным грашовым абаротам (Бектинеев, 1994. С. 3—4).

У выніку развіцця гандлю і грашовага абароту да X ст. у землях усходніх славян ўзнікла дзве грашова-вагавыя сістэмы — паўночная і паўднёвая (Янин, 1956. С. 141—171). Мусіць, Полацкая зямля знаходзілася ў рэгіёне паўночнай грашова-вагавай сістэмы да XIII ст., калі тут канчаткова склалася ўласная адпаведная сістэма (Бектинеев, 1987. С. 235; Ён жа, 1994. С. 8—9).

Даследчыкі адзначаюць асаблівасці грашовага абарачэння IX ст. на тэрыторыі паўночна-заходняй Беларусі, дзе вядомы знаходкі шасці скарбаў IX ст., з куфіцкімі дырхемамі. У двух скарбах — Сіманы Мядзельскага раёна і Парэчча Глыбоцкага раёна назіраецца значная колькасць рэзанай манеты, што пацвярджае існаванне на тэрыторыі Паўночнай Беларусі лакальных асаблівасцей грашовага абарачэння. Драбленне асноўнага наміналу на часткі дыктавалася патрэбнасцямі гандлёвага абароту (Милютин, 1991 а. С. 55). Грашовае абарачэнне Полацкай зямлі 70-х гадоў X ст. добра характарызуе склад скарбу з Струні (Милютин, 1992. С. 31—32).

На тэрыторыі былой Магілёўскай губерні каля 1822 г. было знойдзена 1300 цэлых і некалькі соцень фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў дынастый Умаядаў, Ідрысідаў і Абасідаў. Манеты чаканілі манетныя двары Пірынейскага паўвострава, Паўночнай Афрыкі, Азіі, Закаўказзя. Скарб захаваны ў канцы 820-х гадоў (АіНБ, 1993. С. 387).

На Дняпроўскім левабярэжжы ў Беларусі знойдзены так званы «Собалеўскі скарб» каля в. Баева Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Ён складаўся з 138 цэлых і 168 фрагментаваных дырхемаў Арабскага халіфата і быў захаваны каля сярэдзіны IX ст. (Рябцевич, 1965). Гомельскі манетны скарб знойдзены ў Гомелі ў 1822 г. У ім — 82 куфіцкія дырхемы. Скарб арабскіх манет IX ст. быў знойдзены каля в. Глыбочыца Чачэрскага раёна, відаць, запас металу рамесніка. Другі скарб X ст. выяўлены каля в. Покаць Чачэрскага раёна. У ім былі рэдкія арабскія манеты, чаканеныя ў VIII ст. (776 і 777 гг.). Касаляцкі манетны скарб дырхемаў Арабскага халіфата знойдзены ў Кармянскім раёне. Скарб захаваны ў канцы 820-х гадоў (АіНБ, 1993. С. 314).

Менш вядома скарбаў з Беларускага Панямоння. Манетны скарб куфіцкіх дырхемаў знойдзены ў 1971 г. у в. Ракаўцы Смаргонскага раёна. Большасць дырхемаў (628 экз.— 77,15 %) скарбу прадстаўлена саманідскай чаканкай Самарканда і аш-Шаша. Скарб захаваны ў 952—953 гг.

Куфіцкія дырхемы ў першай палове IX ст. пачалі пранікаць на Пасожжа, у зямлю радзімічаў. Раннія скарбы знойдзены ў Ярылавічах




*Мал. 135. Сярэбраныя рэчы са скарбу XI ст. з Гараўлян (1—8); шкляныя пацеркі (9—10)*

(820—821 гг.) і ў Касаляках (823—824 гг.). Значна павялічылася тут колькасць скарбаў у Х ст. На радзіміцка-крывіцкім памежжы вядомы скарбы з Стараселля (р. Проня), Стаек (р. Сож), Старога Дзедзіна (р. Асцёр). Канцэнтрацыя скарбаў куфіцкіх дырхемаў Х — пачатку ХІ ст. назіраецца ў міжрэччы Іпуці і Снова. Скарбы выяўлены ў Магілёўцах (926 г.), Міцькаўцы (пачатак ХІ ст.), Вялікім Крыўцы (955 г.) (Мяцельскі, 1996. С. 60—63).

На тэрыторыі Беларусі ў скарбах прысутнічаюць манеты, якія былі ў абарачэнні ў ІХ—ХІ стст. Гэта сасанідскія драхмы, дырхемы Арабскага халіфата, заходнееўрапейскія дынарыі, у малой колькасці візантыйскія міліарысії і фолісы, усходнеславянскія златнікі і сярэбранікі. Па Дняпры і прылягаючых да яго тэрыторыях назіраецца магутны паток манетнага серабра. Скарбы і асобныя манеты дазваляюць меркаваць аб дынаміцы змяненняў у складзе грашовага абарачэння, уласцівага дадзенаму рэгіёну. У Х ст. манетны паток нарастаў, а ў ХІ ст. пайшоў на спад (Милютин, 1991. С. 44—45).

Найбольш позні куфіцкі скарб выяўлены каля вёскі Краснае Міёрскага раёна, «малодшая» манета якога датуецца 986—987 гг. (Штыхов, 1993. С. 88). Куфіцкія манеты ва Усходняй Еўропе сталі настолькі звыклай з'явай, што выклікалі спробы мясцовых «варварскіх» перайманняў. У скарбе з Гараўлян (Глыбоцкі раён) налічвалася 15 падобных манет, якія выкарыстоўваліся ў якасці ўпрыгожанняў-падвесак (Очерки... 1972. С. 164). А ў скарбе з вёскі Пагарэльшчына (Валожынскі раён) знаходзілася каля 100 імітацый арабскай чаканкі.

З памяншэннем патоку куфіцкага манетнага серабра ўсходнеславянскія землі ўсё больш імпартавалі заходнееўрапейскія дэнарыі. Так, на тэрыторыі Полацкай зямлі зарэгістравана 10 скарбаў з дэнарыямі (1047 экз.). Дзевяць скарбаў мелі дамешку ўсходніх манет (Штыхов, 1993. С. 89).

Да сярэдзіны ХІ ст. заходнееўрапейскія манеты (дэнарыі) у колькасных адносінах значна пераўзыходзяць дырхемы. Асноўнымі экспарцёрамі манетнага серабра ў другой палове Х—ХІ ст. з'яўляліся Германія і Англія. Некаторую ролю ў гэтых адносінах адыгрывалі Венгрыя, Чэхія і Данія. Існавалі два галоўныя шляхі паступлення дэнарыяў: паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора — Готланд — Полацкая зямля — Русь і Скандынаўскі паўвостраў — Готланд — Полацкая зямля — Русь (Потин, 1968. С. 69).

Самы старажытны скарб з дэнарыямі выяўлены ў вярхоўях Пцічы пабпізу Менска ля вёскі Новы Двор Шчомысліцкага с/с Мінскага раёна. Дата яго захавання 1000 год. Манеты адносяцца да наступных краін: Францыя (8 экз.), Германія (262 экз.), Данія (1 экз.), Чэхія (1 экз.). Ёсць адзін міліярысій (Візантыя). Значная колькасная перавага дэнарыяў германскага чакана над іншымі манетамі несумненна ў складзе гэтага скарбу. Яна назіраецца ў шмат якіх іншых скарбах, выяўленых ва Усходняй Еўропе, уключаючы тэрыторыю Попацкай зямлі. Германскія манеты найбольш пашыраныя ў скарбах Еўропы ХІ ст.

Найбольшая колькасць манет, чаканеных у Англіі, была ў скарбе з Парэчча — 1886 г. (Талачынскі раён), дзе іх налічвалася 73 экземпляры. У гэтым скарбе прысутнічалі два абломкі візантыйскіх манет (976—

1025 гг.) і адзін абломак срэбраніка Уладзіміра Святаславіча (Русь, 980—1015 гг.).

Самы «малодшы» скарб з заходнееўрапейскімі манетамі знойдзены ў Полацку (1070 г.) (Корзухина, 1954. С. 97. № 48). Час паступлення і бытавання дэнарыя ў Полацкай зямлі працягваўся прыкладна тры чвэрці XI ст. Вобласць бытавання заходнееўрапейскіх манет адпавядае арэалу абароту дырхема. Аднак маштабы абароту дэнарыя рэзка скараціліся ў параўнанні з куфіцкімі манетамі.

Ва ўсходнеславянскіх землях дырхем быў асноўным сродкам грашовага абарачэння ў IX—X стст. Старадаўняя ўсходнеславянская грашовая сістэма складалася з цэлых і фрагментаваных экземпляраў дырхемаў. Аб гэтым сведчаць скарбы, знойдзеныя на тэрыторыі Полацкай зямлі (Добрына, Казьянкі, Ракаўцы), а таксама Старадзедзінскі манетны скарб, знойдзены на тэрыторыі рассялення радзімічаў (пазней тэрыторыя Смаленскага княства).

Абарачэнне куфіцкага дырхема працягвалася ў XI ст. разам з заходнееўрапейскімі дэнарыямі (да XII ст.). Сведчаннем таму з'яўляюцца скарбы з Полацкай зямлі (Гараўляны, Стражавічы), а таксама Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб (Капыльскі раён) з тэрыторыі Тураўскага княства.

Найбольш старадаўні скарб, які ўтрымлівае куфіцкія дырхемы і заходнееўрапейскія дэнарыі, знойдзены каля в. Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна. Ён схаваны ў 979—980 гг. У скарбе былі 201 дырхем, дзве германскія і адна візантыйская манеты (Рябцевич, 1995. С. 119).

На тэрыторыі Тураўскага княства манетных і манетна-рэчавых скарбаў IX—XII стст. значна менш, чым у Полацкім княстве. Аднак тут выяўлены важныя нумізматычныя знаходкі, сярод якіх надзвычай цікавы Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб. Ён знойдзены на ўскраіне в. Дзягцяны Капыльскага раёна падчас рамонту дарогі ў 1957 г. на глыбіні 0,6—0,7 м у круглым арнаментаваным збане з вузкім горлам і ручкай. Варта адзначыць, што такая кераміка не характэрна для старадаўніх беларускіх зямель. Манеты і сярэбраныя аздобы разышліся па руках. Збераглiся 320 сярэбраных манет: чэшскія (123), венгерскія (3), германскія (165), дацкія (1), англійскія (10), зусім сцёртыя заходнееўрапейскія (4), манеты-перайманні дэнарыяў Англіі (3) і Германіі (9), куфіцкія дырхемы (2 фрагменты). Скарб быў захаваны каля 1050 г. Па значнай колькасці чэшскіх дэнарыяў Дзягцянскі скарб не мае аналагаў ва Усходняй Еўропе. Да знаходкі ў Дзягцянах чэшскія манеты былі прадстаўлены адзінкавымі экземплярамі ў некаторых скарбах XI ст. Даследчыкі мяркуюць, што чэшскія манеты ў XI ст. пранікалі ва ўсходнеславянскія землі непасрэдна з Чэхіі. Астатняя частка манет Дзягцянскага скарбу характэрна для скарбаў Польшчы. На шляху з Чэхіі ў беларускія землі нельга было абмінуць Польшчу і, відаць, там значная частка германскіх манет была далучана да чэшскіх манет.

Вёска Дзягцяны знаходзіцца паміж двума старажытнымі гарадамі Тураўскай зямлі Клецкам і Копыссю на рэчцы Балканка, левым прытоку Лані, якая ўпадае ў Прыпяць (на адлегласці 30 км ад Турава). Агульная адлегласць Дзягцян ад Турава складае 120 км. Зусім побач з Балканкай за 2—3 кіламетры працякаюць рэчкі Конік і Цэпра, апошняя праз прыток Выня непасрэдна зліваецца з прытокамі Нёмана. Мясцовасць, дзе

знойдзены Дзягцянскі скарб, размешчана на водападзеле рэк Нёманскага і Прыпяцкага басейнаў. Сеткай малых прытокаў тут злучаліся паміж сабой праз водападзел басейны Нёмана і Прыпяці. Скарб з куфіцкімі дырхемамі быў знойдзены у наваколлі Клецка (Белямук, 1993. С. 19). Водны шлях вёў да Турава ўжо ў X ст. Далей ішоў шлях з Прыпяці на Буг, да Берасця. Пагранічны з Польшчай горад Бярэсце, размешчаны пры ўпадзенні ў Заходні Буг р. Мухавец, звязваў Буг з сістэмай Прыпяці. Нумізматычныя знаходкі пацвярджаюць існаванне шляху з Буга на Прыпяць, аб чым сведчаць скарбы, знойдзеныя ў Антопалі, Бярэсці, Драгічыне Надбужным.

Каля хутара Людвішча Кобрынскага раёна (магчыма, Людвінава Драгічынскага раёна) у 1934 г. быў знойдзены скарб заходнееўрапейскіх манет. Скарб налічваў 651 манету і адносіўся да часу паміж 1060—1065 гг. У ім была адна манета-перайманне куфіцкага дырхема і адна манетападобная пласцінка (Потин, 1967. С. 178). Склад скарбу, падобны да польскіх скарбаў другой паловы XI ст., сведчыць пра гандлёвае жыццё па воднай магістралі Заходні Буг — Прыпяць (Потин, 1961. С. 28).

У Пінску ў 1804 г. было знойдзена 20 залатых манет, 6 з якіх златнікі князя Уладзіміра Святаславіча.

Каля Драгічына Надбужнага перад 1939 г. быў выяўлены скарб канца IX ст., які складаўся з 308 куфіцкіх манет. Шматлікія пломбы пацвярджаюць, што ў Драгічыне адбывалася перагрузка тавараў на лодкі, якія ішлі па Заходняму Бугу (Musianowicz, 1982).

**Рэчавыя і манетна-рэчавыя скарбы.** Асаблівую цікавасць уяўляюць рэчавыя і манетна-рэчавыя скарбы. Выключная большасць іх выяўлена на тэрыторыі Полацкай зямлі. Каля в. Добрына Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці ў 1962 г. знойдзены скарб, які складаўся з сярэбранай шыйнай грыўні і дырхемаў Арабскага халіфата. Грыўня (маса 200,8 г) у выглядзе васьміграннага ў сячэнні дроту арнаментавана па чатырох верхніх гранях чатырохпялёсткавымі разеткамі з рэльефнымі кропкамі ў цэнтры. На канцах дроту змешчаны кубікападобныя галоўкі з усечанымі вугламі, якія маюць арнамент. Грыўня IX ст., відавочна, з вострава Готланд. Скарб захаваны ў першай палове 840-х гадоў.

Парэцкі манетна-рэчавы скарб выяўлены каля в. Парэчча Глыбоцкага раёна ў 1960 г. Яго рэчавая частка складаецца з дзвюх сярэбраных шыйных грыўняў вагой 202,3 і 216,5 г, згорнутых амаль у два віткі. Грыўні, верагодна, паходзяць з вострава Готланд. Тыпалагічна яны блізкія да грыўні з Добрынскага скарбу. Манетная частка складалася з 45 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, з якіх 6 фрагментаваныя. Скарб захаваны ў сярэдзіне 850-х гадоў (Рябцевич, 1965. С. 121—160; Ён жа, 1998. С. 68).

У 1984 г. на Ніжнім замку ў Полацку быў знойдзены рэчавы скарб, які складаўся з шасці залатых рэчаў высокай пробы IX—X стст.: бранзалет IX ст. з чатырохграннага дроту (маса 78,41 г); бранзалет з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі, разламаны ў старажытнасці або рассечаны на 2 часткі (маса 48,64 і 41,77 г); бранзалет з круглага дроту (маса 29,68 г); бранзалет або частка грыўні X ст. з чатырох дратоў (маса 40,04 г); бранзалет X ст., скручаны з двух дратоў (маса 54,07 г); фраг-




*Мал. 136. Злткі са Стражавіцкага манетна-рэчавага скарбу XI ст. (1903 г.): 1, 2 — серабро, 3 — золата, 4—6 — сярэбраныя злткі Полацкага скарбу XI ст. (1910 г.)*

мент грыўні X ст., сплеценай з чатырох дратоў з часткай яе замка (маса 41,56 г). Скарб захаваны ў другой палове X ст. (Штыхов, 1986. С. 353).

Манетна-рэчавы скарб XI ст. быў знойдзены ў 1910 г. на Верхнім замку ў Полацку. Яго рэчавая частка складалася з чатырох палачкападобных сярэбраных зліткаў (мал. 136: 4—6), 39 абрубкаў такіх жа зліткаў, аладкападобных сярэбраных зліткаў, некалькіх трапецападобных пласцін з волава. Манетная частка складалася з асобных фрагментаў куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, 128 цэлых і 13 фрагментаў заходнееўрапейскіх дэнарыяў. Скарб быў захаваны паміж 1060 і 1070 гг. і, відаць, з'яўляецца сыравінным запасам ювеліра (Штыхов, 1975. С. 107, 109).

Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы выяўлены ў 1898 і 1903 г. у Чашніцкім раёне Віцебскай вобласці. Рэчавая частка скарбу 1898 г. складалася з чатырох сярэбраных трохгранных зліткаў, пяці зліткаў у выглядзе плітак і інш. У скарбе яшчэ было 48 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, 150 заходнееўрапейскіх дэнарыяў, 9 манетападобных пласцінак. Скарб захаваны каля 1040 г. Рэчавая частка скарбу 1903 г. складалася з палачкападобнага залатога злітка (78,8 г), двух залатых пярсцёнкаў з круглага і чатырохграннага дроту, двух сярэбраных зліткаў у выглядзе гранёных палачак, фрагментаў зліткаў, 4 фрагментаў сярэбранай шыйнай грыўні, кальца з сярэбранага дробу (мал. 136). Манетная частка

налічвала 46 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, 273 заходнееўрапейскія дэнарыі і іх перайманні. Скарб захаваны каля 1045 г. (Корзухина, 1954. С. 95—96) (мал. 136:1—3).

Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы былі знойдзены на паселішчы, дзе прасочваўся культурны пласт каля в. Гараўляне Глыбоцкага раёна ў 1965 г. У вывернутым трактарам ляпным гаршку былі фрагментаваныя ювелірныя вырабы з серабра (два фрагменты чатырохграннага ў сячэнні дроту, загатоўка для пласцінкавага бранзалета), 220 пераважна фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў, 185 дэнарыяў, оўручскае прасліца. Захаваны ў сярэдзіне XI ст. У двух метрах ад першага скарбу Г. В. Штыхаў у шурфе пры раскопках знайшоў другі скарб у ганчарным гаршку, абкладзеным трыма камянямі. Гаршчок меў просты венчык, лінейны арнамент, выразныя плечыкі. У ім знаходзіліся сярэбраныя рэчы: 12 бранзалетападобных крывіцкіх скроневых кольцаў (два камплекты), вітая шыйная грыўня з вузкімі канцамі, тыповая для XI ст. (мал. 135), бранзалет з завязанымі канцамі, пярсцёнак з шырокай сярэдняй часткай, 15 манет-перайманняў куфіцкіх дырхемаў у выглядзе брактэатаў з вушкамі для падвешвання, 134 пераважна фрагментаваныя куфіцкія дырхемы, фрагмент чэшскага дэнарыя, шкляныя залачоныя пацеркі. Скарб захаваны ў сярэдзіне XI ст. (Рабцэвіч, Стуканаў, 1973).

Параўноўваючы гаршкі, у якіх знаходзіліся гараўлянскія скарбы, можна сцвярджаць, што ў глыбінных сельскіх абшчынах Полацкай зямлі ляпныя пасудзіны выкарыстоўваліся яшчэ ў першай палове XI ст., калі ўжо тут распаўсюджвалася кераміка, зробленая на ганчарным крузе.

На левым беразе р. Бярэзіна (правы прыток Нёмана) каля вёскі Пагарэльшчына Валожынскага раёна ў 1955 г. выяўлены манетна-рэчавы скарб (маса 4850,66 г). Рэчавая частка складалася з металічнай пасудзіны, фрагмента сярэбранай шыйнай грыўні, загатоўкі для бранзалета і інш. Манетная частка ўключала 1904 цэлых і фрагментаваныя куфіцкія дырхемы Арабскага халіфата. Скарб захаваны ў пачатку X ст. (АіНБ, 1993. С. 471).

У Дзягцянскім скарбе, пра манеты з якога гаварылася вышэй, была цікавая рэчавая частка: некалькі пярсцёнкаў з гранёнымі ўстаўкамі, пласцінкавыя шырокія бранзалеты (наручы), 6 скроневых кольцаў, 2 аздобы ў выглядзе конскай галавы, кавалак срэбра, 2 медныя манеты. Зберагліся 21 фрагмент сярэбраных ювелірных вырабаў са сканню і дробным зярненнем (Рябцевич, 1972. С. 204—209). Усе ўпрыгожанні характэрны для заходніх славян, што дэталёва разгледзеў В. Б. Перхаўка.

Адным з найбольш выдатных па мастацкай каштоўнасці скарбаў Беларусі з'яўляецца Вішчынскі грашова-рэчавы скарб, выяўлены на гарадзішчы каля в. Вішчын Рагачоўскага раёна ў 1979 г. (раскопкі Э. М. Загарульскага). Рэчы выкананы з высакапробнага серабра (крынападобныя падвескі, колты, аздобы з ланцужкамі, шырокі двухстворкавы пласцінкавы бранзалет, масіўны бранзалет, скручаны з трох дратоў, і інш). Два колты з выявамі птушак на шчытках, выкананых у тэхніцы перагародкавай эмалі. Грашовая частка скарбу складаецца з сярэбраных зліткаў-грыўняў (наўгародскіх, кіеўскіх, літоўскіх) (Загорульский, 1983. С. 88—89). Скарб захаваны ў канцы XII — першай трэці XIII ст.

Скарбы з'яўляюцца важнейшай крыніцай для вывучэння імпарту металічнай сыравіны. Найбольшая іх колькасць выяўлена на тэрыторыі Полацкай зямлі. Выгаднае геаграфічнае становішча садзейнічыла ўдзелу Полацка і Віцебска ў актыўным міжнародным гандлі. Гэтыя гарады адыгралі ролю значных цэнтраў транзітнага гандлю металічнай сыравінай. Старажытныя скарбы беларускіх зямель уяўляюць сабой значны патэнцыял для навукі, які яшчэ неабходна рэалізаваць. Найперш гэта датычыць сутнасці і асаблівасцей грашовага абароту ў IX—XII стст. У сувязі са спыненнем прытока дэнарыя на тэрыторыі Беларусі наступіў «безманетны перыяд», які характарызуецца абаротам зліткавага серабра, пра што яскрава сведчыць Вішчынскі грашова-рэчавы скарб.

## Раздзел 5

# КУЛЬТУРА

Паняцце «культура» мае шмат азначэнняў. З іх самае агульнае, энцыклапедычна шырокае — гэта ўсё тое, што створана фізічнай працай і інтэлектам людзей. Тэрмін культура выкарыстоўваецца для характарыстыкі пэўных гістарычных эпох, канкрэтных грамадстваў, народнасцей і нацый, у больш вузкім сэнсе маецца на ўвазе сфера духоўнай дзейнасці людзей.

Матэрыяльная культура ахоплівае формы гаспадаркі, віды заняткаў людзей, асноўныя тыпы прылад працы, паселішчаў, жылля і іншых пабудоў, формы і прадметы бытавых, г. зн. жыццёзабяспечваючых, сфер культуры. Вышэй была паказана гісторыя фарміравання многіх элементаў культуры, іх геаграфічнае і этнічнае распаўсюджанне.

Мастацкая культура — сукупнасць створаных мастацкіх каштоўнасцей поруч з рэлігіяй, мараллю, навукай адносіцца да сферы духоўнай культуры. Мастацтва ў цэлым — гэта архітэктура, літаратура, скульптура, жывапіс, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і многія іншыя віды дзейнасці чалавека.

Цікавыя, часам унікальныя археалагічныя знаходкі сведчаць аб яркай, самабытнай культуры сярэдневяковых беларускіх зямель. Разнастайным і паводле формы багатым па зместу з'яўляецца прыкладное мастацтва X—XIII стст. З кожным годам выяўляюцца пры раскопках новыя рэчы, на якіх змешчаны надпісы. Гэтыя надпісы — помнікі эпіграфікі дазваляюць меркаваць аб распаўсюджанні пісьменства сярод насельніцтва. Вянцом матэрыяльнай культуры старажытных гарадоў называюць мураванае дойлідства.

Паказчыкам распаўсюджання пісьменнасці могуць служыць знойдзеныя ў Мінску, Полацку, Друцку, Ваўкавыску, Навагрудку розныя засцежкі ад кніг. У многіх гарадах выяўлены пісалы — інструменты для пісьма. Веданне пісьма было неабходна рамеснікам — ювелірам, камнярэзам і інш. Распаўсюджанне пісьменнасці — прыкмета росквіту гарадской культуры.

Творы прыкладнога мастацтва адлюстроўвалі інтэлектуальны ўзровень, густы, мастацкія традыцыі, якія склаліся ў IX—XIII стст. Усё тое, што дайшло да нас ад помнікаў прыкладнога мастацтва, пісьменства і дойлідства, створаных на працягу стагоддзяў нашымі продкамі, мае для нас велізарную гісторыка-культурную каштоўнасць.

## 1. ПІСЬМЕНСТВА, ЭПІГРАФІКА, ГРАФІЦІ

**Рукапісныя кнігі.** Паводле агульнага прызнання, стварэнне славянскай азбукі і пісьменства належыць братам Кірылу і Мяфодзію з Салуні (Грэцыя), якія дзейнічалі ў другой палове IX ст. Славяне па паходжанню, яны з'яўляліся візантыйскімі царкоўнымі і палітычнымі дзеячамі. Кірыла і Мяфодзій былі першымі перакладчыкамі рэлігійных кніг з грэчаскай на славянскую мову.

Спачатку была створана азбука, якую называюць «глаголіца». Яе літары мелі складанае графічнае напісанне. Затым з'явілася кірыліца, створаная на аснове глаголіцы. Яна мела 43 літары. Многія літары



*Мал 137 Надпіс XI ст на цэгле з Полацкай Сафіі (а), надпіс XII ст на фрагменце драўлянага вырабу з раскопак Мінскага замчышча (б), на бяросце з Віцібска (в)*

абазначалі лічбы З перанясеннем славянскага пісьма ў Балгарыю яна становіцца краінай сярэдневяковай пісьменнасці і культуры. Зацвердзіўшыся на балгарскіх землях, старажытнаславянская пісьменнасць пераходзіць з Балгарыі да ўсходніх славян (Супрун, 1989. С. 25—29). На працягу доўгага часу літаратура Русі была па сутнасці працягам літаратуры старажытнабалгарскай. Балгарыя справядліва лічыцца калыскай славянскай пісьменнасці. Кірыліца ад старaславянскай пісьменнасці перайшла ў спадчыну старабеларускай, стараўкраінскай і старарускай пісьменнасці.

З грэчаскай мовы на стараславянскую перакладаліся царкоўныя кнігі. Самае ранняе (э тых, што захаваліся) Тураўскае евангелле, створанае ў XI ст., відаць, у Тураве. Па сваім складзе гэта так званы «апракос» — зборнік евангельскіх чытанняў на пэўны перыяд. Твор уяўляў сабой частку агульнага кодэксу, які быў перапісаны ў XI ст. Вялікія ініцыялы размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі. Твор напісаны царкоўнаславянскай мовай. Тураўскае евангелле — адна з рэдкіх і дасканалых па сваім мастацкім узроўні кніг усходняга славянства (Пуцко, 1998. С. 98—102).

У Полацку пры Сафійскім саборы існавала бібліятэка, у якой захоўваліся рукапісныя кнігі (загінула ў час Лівонскай вайны). Кнігі пісалі на пергаменце — спецыяльна выробленай тонкай скуры маладых жывёлін. Рукапісы складалі ў сшыткі. Вокладкамі служылі дзве дошкі, а кніга мела выгляд скрынкі большых ці меншых памераў. Пераплёт каштоўных рукапісаў аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. На беларускія землі траплялі царкоўныя кнігі на стараславянскай мове, якія тут перапісваліся.

Да нас дайшлі тры старажытныя рукапісы XII—XIV стст. з сярэдневяковага Полацка. Гэтыя помнікі кніжнай культуры Беларусі эпохі Сярэднявечча напісаны царкоўнаславянскай мовай на пергаменце. Больш старажытны рукапіс Полацкага евангелля створаны ў канцы XII ст. і належаў Траецкаму манастыру ў Полацку. Евангелле перапісана двума почыркамі ўставам у два слупкі на 172 лістах і аздоблена рознакаляровымі застаўкамі і кінаварнымі ініцыяламі. Захавалася дзве застаўкі. Адна мае арнамент старавізантыйскага тыпу (Нікалаеў, 1993. С. 25). Аршанскае евангелле з'яўляецца поўным апракосам канца XII — пачатку XIII ст. Надзвычай прыгожы рукапіс аздоблены больш як 300 выкананымі ў «звярыным» стылі ініцыяламі, некалькімі застаўкамі і мініяцюрамі.

**Помнікі эпіграфікі.** Археалагічныя даследаванні папоўнілі колькасць крыніц па пісьменству. На пячатцы полацкага князя Ізяслава канца X ст. змешчана выява трызубца, а вакол надпіс «Изас(лав)ос», які кірылічнымі літарамі перадае грэчаскае гучанне імя «Ізяслаў». Полацкая пячатка — найбольш старажытны ўзор пісьма ўсходняга славянства.

Надпісы XI ст. выяўлены ў полацкім Сафійскім саборы (мал. 137а). На вялікім плоскім камені ў падмурку выдрапаны імёны людзей, якія будавалі сабор: «Давидь, Тоума, Микоула», а таксама «Петьрь,Воришь». Надпісы XII ст. ёсць на прасліцах, амфарах. Яны даюць звесткі аб імёнах, лексіцы: «Бабино праслен» (Віцебск), «Ярополче вино» (Пінск), «Настасино праслене» (Пінск).

У надпісе (графіці), надрапаным вострым прадметам на сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве, «Воинегь писаль Журяговиць полоцянинь» вызначана месцажыхарства яе аўтара — Полацк. Асабліва цікавае тут напісанне слова «полоцянин» праз литару «ц», што сведчыць пра мясцовы дыялект.

На Берасцейскім гарадзішчы знойдзены грэбень з трывалага дрэва самшыту, на якім паслядоўна размешчаны славянскія літары ад «а» да «л». Грэбень выконваў ролю «буквара» для навучання пісьму (Лысенко, 1985. С. 391).



*Мал. 138. Малюнкі, ручныя надпісы і выявы рашотак на касцях з гарадзішча Маскавічы*

Каштоўнымі эпіграфічнымі помнікамі з'яўляюцца графіці Спаскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Найбольш цікавы запіс на сцяне ў непасрэднай блізкасці да алтара, які зроблены ў шырокараспаўсюджаным жанры памінання: «М(еся)ца авоуста в 3 день прьставися Козуминая письца иконьного». Даследчыкі мяркуюць, што памерлая была жонка мастака-багамаза Кузьмы, які працаваў у манастыры, а можа, нават быў адным з аўтараў цудоўных фрэсак Спаскай царквы (Тарасаў, 1991. С. 121—122).

Прыватныя лісты з паведамленнямі, даручэннямі, просьбамі адных асоб да другіх пісалі ў XI—XV стст. на бяросце. Берасцяныя граматы знойдзены пры раскопках гарадоў. Касцяной ці жалезнай палачкай-пісалам надрапвалі літары на тым баку бяросты, які прылягаў да дрэва.

Выяўлена берасцяная грамата XI ст. у Ноўгарадзе, якую напісаў Жыравіт, жыхар Полацка або Віцебска. Берасцяная грамата канца XIII ст.

знойдзена ў Віцебску. У ёй Сцяпан просіць Няжылу купіць яму «жыта за 6 грыўняў» (мал. 137:в). На фрагменце граматы пачатку XIII ст. з г. Мсціслава Магілёўскай вобласці гаворыцца аб пшаніцы на 4,5 грыўні.

Найбольш вядомыя помнікі эпіграфікі XII ст. на Беларусі Барысавы камяні. На вялікіх валунах па загаду полацкага князя Барыса (памёр у 1129 г.) былі выбіты крыжы і кароткія надпісы з яго імем.

Нечаканымі для вучоных былі надпісы і малюнкі на касцях жывёлін з Маскавіцкага гарадзішча (Браслаўскі раён). Расшыфраваныя знакі маюць сувязь са скандынаўскім рунічным пісьмом XII—XIII стст. (Дучыц, 1991. С. 71). Сярод іх асабістыя імёны, магічныя формулы (мал. 138). Надпісы належалі славянізаваным скандынавам або славянам, якія пабывалі ў Скандынавіі і навучыліся там рунічнаму пісьму.

## 2. МУРАВАНАЕ ДОЙЛІДСТВА

**Дойлідства Полацка, Віцебска, Мінска.** Дойлідства, або архітэктуру, вызначаюць як мастацтва праектавання і ўзвядзення будынкаў. Манументальныя каменныя пабудовы былі вышэйшым дасягненнем матэрыяльнай культуры сярэдневякавога горада.

Самы старажытным манументальным збудаваннем у Беларусі з'яўляецца полацкі Сафійскі сабор. У XI ст. ва ўсходнеславянскіх землях такое імя насілі толькі кафедральныя саборы Кіева, Ноўгарада і Полацка. Паколькі мураваныя сафійскія саборы Кіева і Ноўгарада мелі драўляных папярэднікаў таго ж імя, то магла мець свайго папярэдніка і Полацкая Сафія. Некаторым пацверджаннем таму служыць выяўленне пры раскопках у Полацку прыкмет велізарнага пажару, які знішчыў драўлянае збудаванне там, дзе затым была ўзведзена мураваная Сафія. У культурным пласце знойдзена кераміка X—XI стст. і вялікая колькасць фрагментаў паўднёвых амфар.

Муроўка Сафіі Полацкай, як і Сафіі Кіеўскай, змяшаная, візантыйская, з радоў каменю і плінфы, якія чаргуюцца. Памеры Полацкай Сафіі: шырыня — 26,4 м, даўжыня без апсід тая ж, а з апсідамі — каля 31,5 м. Для параўнання нагадаем, што шырыня Сафіі Кіеўскай роўная 39,2 м, даўжыня разам з апсідай — 34,25 м, Сафіі Наўгародскай адпаведна — 39,39 і 34,50 м (Раппопорт, 1982. С. 93).

У 1975—1980 гг. даследаванні Сафійскага сабора ў Полацку вяліся пад кіраўніцтвам Вал. А. Булкіна. У сцяне першапачатковага сабора былі выяўлены рэшткі галоўнага заходняга ўваходнага праёма шырынёй 2,42 м. Уваходныя праёмы зафіксаваны ў паўднёвай і паўночнай сценах (Булкин, Раппопорт, Штендер, 1977. С. 400—401). Выяўлены прыкметы лесвічнай прамавугольнай вежы каля паўночна-заходняга вугла сабора. Праз вежу траплялі на хоры, размешчаныя ў папярэчным нефе і падтрымліваемыя апорнымі слупамі.

У XII ст. (не пазней пачатку XIII ст.) вакол Сафійскага сабора ўзнік складаны комплекс цагельных збудаванняў. Раскапаны фундаменты будынка, ніжнія часткі сцен і рэшткі слупа, а таксама пахаванне ў мураваным саркафагу.

Каля паўднёвага ўваходу ў сабор знойдзены рэшткі старажытнага прытвора памерам 7,8×5 м. Да ўсходняй яго часткі прымыкаў маленькі










*Мал. 139. Сафійскія саборы XI ст. ва Усходняй Еўропе (планы): 1 — Кіеў; 2 — Ноўгарад; 3 — Полацк*

бесслуповы храм з прамавугольнай апсідай. Знойдзена мноства кавалкаў тынку з фрэскамі, вісячая пячатка 60 — 70-х гадоў XI ст. князя Усевалада Яраславіча, масіўны залаты пярсцёнак. Паводле меркавання Вал. А. Булкіна, храм з'яўляўся хрысцільняй пры Сафійскім саборы і нагадваў Пятніцкую царкву Бельчыцкага манастыра.

Раскапаны руіны вялікага мураванага збудавання памерам 30×10 м, якое прымыкала да ўсходняга фасада Сафіі на ўсім яго працягу, ахопліваючы поўнасцю апсіды. Гэта унікальная з'ява ў дойлідстве таго часу. У паўднёвай палавіне будынка размяшчалася пахавальня полацкіх князёў, што пацвярджаюць шматлікія саркафагі, складзеныя з плінфы (Булкин, 1981. С. 331).

Падсумоўваючы даныя аб Сафіі Полацкай, можна сцвярджаць, што яна мае шмат агульнага з аднайменнымі саборамі ў Кіеве і Ноўгарадзе,

пабудавана амаль адначасова з Наўгародскай Сафіяй, відаць, у 50-х гадах XI ст., мае шэраг сваіх асаблівасцей. П. А. Рапапорт прыйшоў да высновы, што Полацкая Сафія пабудавана сіламі прыезджых кіеўскіх майстроў (Раппопорт, 1980. С. 157). Паводле меркавання Л. В. Аляксеева, галоўнымі будаўнікамі Полацкай Сафіі былі грэкі (Алексеев, 1996. С. 99).

Манументальнае дойлідства XII ст. у асобных землях усходніх славян адзначана своеасаблівасцю. Палітычная самастойнасць Полацкага княства садзейнічала таму, што дойліды, уключаючы прыезджых, магпі тут больш свабодна праяўляць сваю творчасць. Рысы своеасаблівасці прасочваюцца ў будынках былога Барысаглебскага (Бельчыцкага) манастыра ў Полацку. У 1928 г., калі сцены храма яшчэ ўзвышаліся ў Бельчыцах, даследаванне мураванага дойлідства Полацка распачаў І. М. Хозераў, які дэталёва вывучыў рэшткі фундамента Вялікага сабору пачатку XII ст. (Хозеров, 1994. С. 69—70). Тры прытворы, якія прымыкалі да яго сцен, надаюць збудаванню крыжападобны выгляд (мал. 140:1). М. М. Воронін абгрунтавана зазначыў, што гэты храм па шэрагу прыкмет (прытворы, муроўка, канструкцыі драўляных лежакоў пад фундаментам) паўтарае Берастаўіцкі храм. Адсюль вынікае, што будаўнік храма ў Бельчыцах быў добра знаёмы з кіеўскім будаўніцтвам канца XI — пачатку XII ст. і, магчыма, прыбыў у Полацк з Кіева (Воронин, 1956. С. 15).

У цяперашні час больш канкрэтна вызначылася месца вялікага сабора ў стварэнні новага тыпу культавага манументальнага збудавання ў Полацку. У саборы ў наяўнасці спроба відазмяніць звычайную сістэму шасцістоўпавага крыжова-купальнага храма шляхам пераносу падкупальнай прасторы на адно чляненне да захаду (Воронин, Раппопорт, 1979. С. 390). Далейшая распрацоўка такога збудавання прывяла да з'яўлення храма вежападобнай канструкцыі.

Другая манументальная пабудова Бельчыцкага архітэктурнага комплексу — Барысаглебскі шасцістоўпавы храм (мал. 140:3). Ад помніка доўга захоўваліся тры сцяны. Старажытныя арачныя вокны размяшчаліся ў два ярусы. Трэцяя царква Бельчыцкага манастыра звычайна называецца Пятніцкай. Невялікі бесслуповы храм меў памеры 5,75×5,75 м і прамавугольную апсіду (мал. 140:2). Выяўленне крыпты пад усім будынкам, выключаючы алтар, наўрад ці можа выклікаць сумненне ў вызначэнне царквы як пахавальні.

Зусім бясспрэчная сувязь апісаных трох будынкаў Бельчыцкага манастыра з паўднёвай кіеўскай архітэктурнай традыцыяй. У Полацку атрымала распаўсюджанне чыстацагельная муроўка са схаванымі радамі, добра вядомая па муроўцы царквы Спаса на Берастове. Менавіта гэта муроўка характэрна для комплексу помнікаў Бельчыцкага манастыра. Руіны чацвёртага яго храма былі адкрыты выпадкова ў мінулым стагоддзі пры земляных работах, і яго дакладнае месцазнаходжанне нам невядома. Гэты храм мае бакавыя апсіды і стаіць асобна сярод збудаванняў царкоўнай архітэктуры Полацка (Раппопорт, 1982. С. 99). Такія будынкі сведчаць аб культурных сувязях Полацка з балканскімі краінамі або з Грэцыяй (Афонскі манастыр), дзе ўжываўся падобны тып.




*Мал 140 Планы помнікаў· 1 — Полацк, Вялікі сабор Бельчыцкага манастыра, 2 — Полацк, Пятніцкая царква Бельчыцкага манастыра, 3 — Полацк, Барысаглебская царква Бельчыцкага манастыра, 4 — Полацк, храм-пахавальня Ефрасіннеўскага манастыра, 5 — Полацк, княжацкая царква на дзядзінцы, 6 — Полацк, Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра, 7 — Навагрудак, царква Барыса і Глеба, 8 — Полацк, царква на рове, 9 — Мінск, царква на замчышчы, 10 — Полацк, царква на Ніжнім замку, 11 — Віцебск, царква Благавешчання*

Другі манастыр знаходзіўся ў 2,5 км на паўночны ўсход ад Верхняга замка на правым беразе Палаты. Каля Спаскага сабора пад кіраўніцтвам М. К. Каргера ў 1961, 1962, 1962 гг. была раскапана заходняя частка вялікага трохнефавага храма, да якога з поўдня, поўначы і захаду прымыкалі шырокія галерэі, што служылі пахавальнямі (мал. 140:4). Выяўлены грабніцы, складзеныя з плінф (Каргер, 1977. С. 241). Сцены

храма і яго галерэй упрыгожаны фрэскамі, падлога — маёлікавымі пліткамі і мазаікай. Устаноўлены план усходніх участкаў галерэй, якія ўяўлялі сабой невялікія капліцы з апсідамі. Сабор з'яўляўся пахавальняй полацкіх епіскапаў. Ён датуецца ў межах першай паловы XII ст. (Раппопорт, 1980. С. 145—150).

Гісторыя архітэктуры Полацка папоўнілася данымі аб двух храмах, якія існавалі ў XII ст. на тэрыторыі Вялікага пасада. На Ніжнім замку на беразе Палаты выяўлены рэшткі мураванай царквы з плоскімі двухступеньчатымі лапаткамі, яна была чатырохстоўпавай і аднаапсіднай (мал. 140:10). Шырыня храма — 14,1 м, даўжыня — 14,5 м (без апсід). Выяўлены сляды галерэі, якая прымыкала да храма. Будынак узведзены ў тэхніцы са схаваным радам плінф. Знойдзены пліткі, якія пакрывалі падлогі, рэшткі фрэсак, абломкі разнога шыфернага саркафага. З боку фундамента галерэі выяўлены пахаванні і сляды драўляных трун. П. А. Рапапорт мяркуе, што паўночная і паўднёвая галерэі царквы з усходу заканчваліся апсідамі і агульны план збудаванняў быў блізкі да плана храма-пахавальні Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Храм на стрэлцы Ніжняга замка, напэўна, з'яўляецца княжацкай пахавальняй і адносіцца да першай паловы XII ст. (Раппопорт, 1980. С. 151—154).

На тэрыторыі Вялікага пасада ў 1961—1962 гг. М. К. Каргер праводзіў раскопкі каля рова з усходняга боку Верхняга замка (паблізу будынка былой сярэдняй школы № 8). Была выяўлена грабніца з плінф на растворы з цамянкай. На многіх плінфах, іх «пасцелістым» і тарцовым баках — клеймы ў выглядзе знакаў-трызубцаў. Фундаменты самога храма тады знайсці не ўдалося. Яны былі вывучаны ў 1976—1977 гг. П. А. Рапапортам. Захаваліся толькі равы і рэшткі фундаментаў усходняй часткі царквы, якая мела вялікую моцна выступаючую апсіду і сярэдні неф шырынёй 4,5 м. Арыенціровачнае датаванне царквы на рове — трэцяя чвэрць XII ст. Паводле меркаванняў, гэта царква мела кампазіцыю, блізкую формам стоўпападобнага храма ў дзядзінцы (Раппопорт, 1986. С. 86).

Своеасаблівыя рысы полацкай архітэктуры праяўляюцца ў сусветна вядомым Спаскім саборы Ефрасіннеўскага манастыра. Відаць, царква называлася Спаса-Праабражэнскай. У дакуменце XVII ст. сказана: «В Спасском монастыре было освящение церкви Преображения Спасово». Пабудаваны Спаскі сабор у сярэдзіне XII ст. выдатным полацкім дойлідам Іаанам. Мусіць, Іаан з'яўляўся манахам манастыра ў Бельчыцах.

Важнай рысай Спаскага храма з'яўляецца тое, што тут з'явіўся першы ўзор какошнікаў на гранях пастамента ў аснове барабана. Закамары і какошнікі мелі кілепадобнае завяршэнне. Над вугламі пастамента майстар Іаан змясціў яшчэ адзін дэкаратыўны элемент — дыяганальныя какошнікі таксама кілепадобнай формы (Раппопорт, Штендер, 1980. С. 459—468). Увесь аб'ём Спаскага храма ў яго першапачатковым выглядзе падзяліўся на часткі рознай вышыні: высокае цэнтральнае памяшканне, з захаду — прытвор (мал. 140:6). Будынак, завяршаючыся барабанам з выцягнутымі светлавымі вокнамі і шлемападобным купалам, выглядаў закончанай ступеньчатай кампазіцыяй, якая імкнецца ўгару. У заходняй сцяне збудаваны лесвічны ход, які вёў на хоры. Па

баках хораў ёсць дзве маленькія келлі. Храм багата размаляваны фрэскамі, якія дайшлі да нашых дзен (Селицкий, 1992).

Новая кампазіцыя і новыя архітэктурныя формы, ужытыя Іаанам у царкве Спаса, знайшлі далейшае развіцце перш за ўсе ў самім Полацку, аб чым сведчыць княжацкі храм, размешчаны ў 50 м ад Сафійскага сабора Яго рэшткі вывучаны на Верхнім замку ў 1967 г. М. К. Каргерам. Выяўлены лаўночная і паўднева прамавугольныя знадворку і паўцыркульныя ўнутры апсіды і паўночна-ўсходні падкупальны слуп. Гэта быў вялікі храм з трыма прытворамі (мал. 140:5). Полацкі храм з'яўляўся прататыпам царквы Міхаіла Архангела апошняй чвэрці XII ст. у Смаленску. Магчыма, што Полацкі храм размешчаны на княжацкім двары. Грунтуючыся на апублікаваным М. К. Каргерам плане, улічваючы аналогіі Спаскага сабора ў Старой Разані і царквы Міхаіла Архангела ў Смаленску, Г. В. Штыхаў ажыццявіў рэканструкцыю (мал. 141) выгляду княжацкай царквы ў дзядзінцы Полацка (Штыхаў, 1982. С. 74).



*Мал 141 Княжацкі храм канца XII ст на Верхнім замку ў Полацку (рэканструкцыя Г В Штыхава, мастак С В Чаранові́ч)*

Такім чынам, можна гаварыць аб існаванні ў Полацку ў XII ст. 12 манументальных царкоўных збудаванняў і будынка грамадзянскай архітэктуры — церама. Да цяперашняга часу захаваліся толькі дзве старажытныя пабудовы — Сафійскі сабор і Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра.

Есць дастатковыя падставы лічыць полацкае мураванне дойлідства адной з наймацнейшых галін сярэдневяковай архітэктуры. Пачатак уласнага каменнага будаўніцтва ў Полацку адносіцца да 20-х гадоў XII ст. Напэўна, прыкладна ў гэты час у Полацк былі запрошаны кіеўскія майстры, якія ўзвялі будынак Бельчыцкага сабора, дзе яны перанеслі падкупальную прастору на адно чляненне да захаду. У далейшым гэта наватарства стала асновай арыгінальнага мясцовага будаўніцтва (Раппо-

порт, 1980. С. 157). К сярэдзіне XII ст. полацкае дойлідства прайшло плённы шлях развіцця і ў Полацку склалася ўласная архітэктурная школа. Полацк дае свой узор перапрацоўкі крыжова-купальнай сістэмы храма. Гэта можна бачыць на прыкладзе Спаскай царквы і княжацкага сабора на Верхнім замку. Будынак выглядаў ступеньчатым, пірамідальным. Не выключана, што менавіта Полацкая Сафія дала пачатак той архітэктурнай школе, якая атрымала бліскучае развіццё ў Полацку ў наступным стагоддзі (Штыхов, 1967. С. 270). У канчатковым выніку дынамічная пабудова крыжова-купальнага храма стала распаўсюджвацца у іншых гарадах: Смаленску, Ноўгарадзе, Разані, Пскове. Гэтыя новыя традыцыі ў развіцці ўсходнеславянскай архітэктуры яскрава праявіліся ў Пятніцкай царкве ў Чарнігаве, збудаванай на рубяжы XII—XIII стст. (Раппопорт, 1986. С. 86, 112, 113).

У Віцебску на маляўнічым беразе Заходняй Дзвіны ў наш час была разбурана і цяпер адноўлена царква Благавешчання. Па тэхніцы муроўкі і свайму выгляду Благавешчанская царква адносіцца да XII ст. Сцены будынка, якія месцамі захаваліся на адну трэць вышыні, складзены з абчасаных квадраў мясцовага вапняку, залежы якога ёсць у вялікай колькасці ў наваколлі Віцебска. Велічыня квадраў — ад 0,2 да 0,5 м, паміж іх гарызантальнымі радамі знаходзіцца па 2—3 рады плінф. Некаторыя плінфы на сваёй «пасцельнай» частцы маюць архаічныя рэльефныя клеймы. Раствор вапнавы з рознымі дамешкамі. Ужыванне абчасаных квадраў разам з плінфай для узвядзення сцен — з'ява амаль невядомая ў збудаваннях Кіеўскай Русі, але распаўсюджаная ў Візантыі і на Балканах.

Благавешчанская царква мае арыгінальны план. Вельмі выцягнуты будынак памерам 11×18,7 м унутры дзеліцца на тры доўгія нефы шасцю апорнымі слупамі, з усходу завяршаецца масіўнай апсідай. Дзве маленькія апсіды ў вуглавых частках усходняй сцяны знадворку нічым не выражаны (мал. 140:11). Царква была ўпрыгожана фрэскамі, аб чым ёсць згадванні ў літаратуры (Очерки, 1972. С. 210).

П. А. Рапапорт аргументаваў вывад, што ў 20—40-я гады XII ст. на Полацкай зямлі з'явіліся дзве будаўнічыя арцелі, якія арыентаваліся на розныя архітэктурныя традыцыі. Своеасаблівыя традыцыі назіраюцца ў дойлідаў, якія будавалі царкву ў Віцебску. Магчыма, тут працавалі таксама візантыйскія майстры. Мяркуючы па тэхніцы муроўкі, у старажытным Навагрудку віцебскія майстры ўзвялі царкву, а полацкія дойліды прыбудавалі да яе галерэю (Раппопорт, 1980. С. 155—159).

Творчы почырк другой арцелі яскрава праявіўся ў новых архітэктурных формах, пабудаваных у Полацку. Полацкі дойлід быў запрошаны ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў XII ст. у Смаленск, дзе ўзвёў княжацкі палацавы сабор Міхаіла Архангела і тым самым залажыў асновы ўзнікнення смаленскай архітэктурнай школы. У гэтыя ж гады полацкія майстры пабудавалі ў Ноўгарадзе на Сінічай гары царкву Пятра і Паўла. Відаць, полацкія майстры прымалі ўдзел у стварэнні будаўнічай арцелі ў Гродне. Полацкая архітэктурная школа аказвала значны ўплыў на развіццё манументальнага дойлідства іншых усходнеславянскіх княстваў (Раппопорт, 1980. С. 161). У Кіеве на гары Кудравец (на Узнясенскім спуску) выяўлены рэшткі невялікай царквы, якая, мяркуючы па канст-

рукцыі апсіднай часткі, вельмі блізкая да храмаў Полацка і Смаленска канца XII ст. Даследчыкі прывялі пераканаўчыя довады, што царква на Узнясенскім спуску будавалася пад кіраўніцтвам смаленскага дойліда (Воронин, Раппопорт, 1979. С. 365).

Мінская замкавая царква пачала будавацца, відаць, у канцы XI ст. ва ўсходняй частцы Мінскага замчышча. Яе рэшткі выявіў і даследаваў у 1949—1951 гг. В. Р. Тарасенка. Захаваліся падмуркі і ніжнія часткі сцен (Тарасенко, 1957. С. 213—228). Паводле плана падмурка, меркавалася пабудаваць кампактны крыжова-купальны храм — трохапсідны, чатырохслуповы (16×12 м). Без апсід мае форму квадрата (12×12 м), слупы знаходзяцца ў яго цэнтры. Сцены з абчасаных камянёў на вапнавай рошчыне былі зроблены на вышыню больш за 1 м, таўшчыня сцен 1,5 м. Сярэдзіна муроў запоўнена бутам. На ўнутранай паверхні паўднёвай і паўночнай сцен захаваліся выступы лапатак (мал. 140:9).

Унутры на сценах захаваліся ўчасткі, абліцаваныя пліткамі з наздраватага даламіту, пакладзенымі падобна цаглянай мураўцы. У манументальным будаўніцтве старажытнай Беларусі гэтая дэталь больш нідзе не сустракаецца. Э. М. Загарульскі лічыць, што дойлід быў знаёмы з раманскай архітэктурай Польшчы, і ў гэтым бачыць вытокі своеасаблівасці мінскай замкавай царквы (Загарульскі, 1998. С. 214).

На паўночны ўсход ад царквы выяўлены яма для прыгатавання вапны (плошча 25 кв. м) і пляцоўка майстэрні, дзе абчэсвалі пліткі для будаўніцтва. Вельмі верагодна, што прычынай спынення будаўніцтва храма быў няўдалы выбар месца непадалёку ад вала, які пасля пашырэння хутка абваліўся і засыпаў будаўнічую пляцоўку і фундамент. У другой палове XII — першай палове XIII ст. на месцы недабудаванай царквы ўзнік некропаль знатных гараджан. Выяўлена 21 пахаванне ў дамавінах скрынкавага тыпу з вялікіх хваёвых дошак на шыпах без цвікоў.

**Мураваныя помнікі XII ст. Гродна, Навагрудка, Ваўкавыска, Турава.** Археалагічныя раскопкі дазволілі вывучыць мураваныя пабудовы ў Гродне. Адна пабудова ўмоўна называецца Ніжняй царквой, бо над яе рэшткамі пазней была пабудавана другая — Верхняя царква. Ніжняя царква з'яўляецца шасцістоўпным храмам памерам 18,4×11,7 м. Таўшчыня сцен складае 1,04 м. У паўднёва-заходнім вугле царквы выяўлены рэшткі вінтавой лесвіцы, якая вяла на хоры, тыпу балкона. У мураванне цагляных сцен звонку будынка ўведзены дэкаратыўныя элементы: буйныя шліфаваныя ўстаўкі ружовага колеру (граніт і гнейс) памерам 1,4 м. Усярэдзіне прыкмет фрэскавага роспісу храма не выяўлена. У верхніх частках сцен ўмуравана шмат галаснікоў, гарлавіны якіх звернуты ў сярэдзіну будынка.

Каля ўсходняй пары слупоў з захаду была пастаўлена драўляная алтарная сценка. Ад багатага яе аздаблення знойдзены медныя пласціны з выявамі, якія выкананы гравіроўкай і пазалотай, фрагменты панікадзіл, лампад, кавалкі звона з рэльефным надпісам. Напэўна, храм пабудаваны каля сярэдзіны XII ст., загінуў у вялікім пажары ў 1183 г., аб якім паведамляе Іпацьеўскі летапіс.

На тэрыторыі былога базыльянскага манастыра ў 1980 г. І. М. Чарняўскі раскапаў рэшткі раней не вядомай у Гродне царквы XII ст. Сцены месцамі захаваліся на вышыню да 1 м. Царква трохнефавая, шасціслу-

повая, памерам 19,1×12,7 м. Цэнтральная апсіда мела звонку і ўсярэдзіне прамавугольную форму. Слупы квадратныя са скошанымі вуглამі, лапаткі плоскія. Сцены складзены з цаглін на растворы з цэмянкай у раўнаслойнай тэхніцы. Царква называлася Прачысценскай, па дакументах XVI ст. (Чернявский, 1983. С. 119—120; Чарняўскі, Жаровіна, 1982. С. 34—36).

У Гродне захавалася Барысаглебская царква на Каложы, пабудаваная ў канцы XII ст. У выніку параўнаўчага вывучэння раскапаных археолагамі рэшткаў іншых культавых збудаванняў было ўстаноўлена, што Барысаглебская царква носіць несумненныя рысы раней невядомай мясцовай школы будаўнічага мастацтва.

Даследчыкі абгрунтавана лічаць, што ў Гродне ў XII ст. склалася гродзенская архітэктурная школа. Адметнымі рысамі яе з'яўляюцца цагляная раўнарадавая муроўка, незвычайная планавая структура і своеасаблівая дэкарыроўка фасадаў. Для гэтай школы, паводле планавай структуры, найбольш характэрнымі былі асаблівасці Ніжняй царквы ў Гродне і недабудаваны храм у Ваўкавыску. Прачысценская царква мае абсіду прамавугольнай формы, што сведчыць аб уплыве полацкай архітэктурнай школы. Найбольш выразнай асаблівасцю будынкаў гродзенскай школы была дэкаратыўная апрацоўка фасадаў, для чаго выкарыстоўваліся розныя па колеру шліфаваныя камяні і фігурныя керамічныя пліткі. Мяркуюць, што кіраўніком гродзенскай арцелі дойлідаў з'яўляўся знакаміты Пётр Міланег (Раппопорт, 1986).

У Навагрудку археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам М. К. Каргера ў 1961—1962 гг. правяла раскопкі вакол існуючага будынка Барысаглебскай царквы, пабудаванай у пачатку XVI ст. У выніку знойдзены рэшткі старажытнай царквы з прымыкаючымі да яе галерэямі (мал. 140:7). У 1965 г. даследаванні закончыліся раскопкамі некалькіх участкаў унутры царквы. Усходнія часткі паўночнай і паўднёвай сцен старажытнай пабудовы захаваліся на вышыню 1,5 м.

Барысаглебская царква першапачаткова ў XII ст. была, мусіць, чатырохстоўпным трохапсідным храмам. Лапаткі на ўнутраных сценах плоскія, а знадворку — двухуступныя. Устаноўлена двухуступная прафіліроўка абрамлення паўднёвага партала. Шырыня паўночнай і паўднёвай галерэй прыкладна 3,2 м. На ўнутраных сценах галерэй былі плоскія лапаткі. Верагодна, усходняе чляненне паўднёвай галерэі вылучалася ў асобнае памяшканне. У сценках галерэй адзначаны аркасольныя нішы ў выглядзе замкнутых скрынак. У змешанай тэхніцы былі складзены сцены. Яны будаваліся з вялікіх, добра счасаных квадраў порыстага каменю з пракладкай радоў цэглы, звычайна па 2 рады. Зусім у іншай тэхніцы выкананы сцены галерэй. Яны складзены з цэглы са схаваным радам, мураваннем, вельмі характэрным для пабудоў XII ст. у Полацку. Змацоўваючая рошчына як у храме, так і ў галерэях мела прымесь цэмянкі (Каргер, 1977. С. 79—85). У сярэднім нефе інтэр'ера раскапаны ўчастак падлогі з паліваных керамічных плітак. У цэнтры храма з іх быў выкладзены круг дыяметрам 75 см. Фрагменты тынкоўкі са слядамі фрэсак сведчаць аб роспісу памяшкання. На фрэсках маюцца шматлікія графіці.

У Ваўкавыску на Замчышчы ў 1956 г. В. Р. Тарасенка і Г. І. Пех выявілі рэшткі старажытнай пабудовы. У 1958 г. Г. І. Пех зрабіў яе раскопкі, у 1959 г. П. А. Рапапорт выканаў абмерныя работы. У 1966 г. М. К. Каргер вывучыў збудаванне, якое было недабудаванай старажытнай царквой. Яе ўзвядзенне было прыпынена, калі заклалі фундамент. Не выяўлена слядоў будаўнічай рошчыны. Побач з фундаментам знойдзены штабелі камянёў, якія былі прыгатаваны для будаўніцтва, цэгла і вялікая яма, запоўненая вапнай. Плошча ямы звыш 30 кв. м. У ёй быў слой вапны таўшчынёй 1—1,2 м. Зыходзячы з магутнасці фундаменту, была задума будаўніцтва шасцістоўпавай царквы, вельмі блізкай па плану да Ніжняй царквы ў Гродне. Да паўднёва-заходняга вугла павінна была прымыкаць квадратная ў плане вежа, напэўна, з лесвіцай на хоры. У адрозненне ад гродзенскай царквы слупы храма хацелі збудаваць у плане крыжападобныя. Пачатак будаўніцтва царквы трэба датаваць другой паловай XII ст.

У Тураве ў 1962—1963 гг. М. К. Каргер вывучаў рэшткі храма. Муроўка яго сцен захавалася на вышыню ад 0,3 да 2 м. У храме былі 3 алтарныя паўколы ва ўсходняй сцяне, знутры — 6 апорных слупоў, якія мелі крыжападобную форму. Агульны памер будынка прыблізна 28,2×16,5 м. Магчыма, будынак меў лесвіцу, якая вяла на хоры. Лапаткі храма двухуступныя. Выяўлены ўнутраныя лапаткі.

Храм пабудаваны ў тэхніцы раўнаслаістай муроўкі. У рошчыне прысутнічае прымесь тоўчанай цэглы. Фундамент выкананы з валуноў насуха і закладзены на глыбіню 1,2 м. Падлогу храма ўпрыгожвалі маёлікавыя пліткі. У храме знойдзены саркафагі, якія складзены з гладкіх пліт, выробленых з оўручскага шыфернага сланцу. У саркафагах знаходзіліся пахаванні. Тураўскі храм нагадвае Успенскі сабор ва Уладзіміра-Валынскім, а таксама некаторыя збудаванні Кіева, але яму ўласцівы спецыфічныя рысы. Помнік не быў распісаны фрэскамі ў адрозненне ад многіх усходнеславянскіх храмаў таго часу.

Руіны тураўскага храма сведчаць аб будаўнічай катастрофе, якая адбылася праз нейкі, большы ці меншы, час пасля яго ўзвядзення. Верагодней за ўсё, прычынай разбурэння царквы была няўдалая канструкцыя падмурка (Каргер, 1965. С. 134).

М. К. Каргер адзначае некаторыя непаўторныя, асаблівыя, рысы храма: наяўнасць вежы, размешчанай у вугле нартэкса, гладкія апсіды, сціпла ўпрыгожаныя невялікімі плоскімі пілястрамі па вуглах і інш. Але гэтых асаблівасцей яшчэ недастаткова, каб гаварыць пра новую «тураўскую» школу дойлідства XII ст. (Каргер, 1965. С. 138). Пры раскопках знойдзены выраб з выявай лучніка.

Даследаванне побач з рэшткамі тураўскага храма у 1992—1993 гг. праводзіў П. Ф. Лысенка. На глыбіні звыш 3 м у мацерыковым грунце былі выяўлены 13 ям, размешчаных па адзінаму плану, і сляды вогнішчаў. На думку даследчыка, гэта прыкметы свяцілішча канца X ст., якое папярэднічала ўзвядзенню тут тураўскага кафедральнага храма (Лысенко, 1998. С. 53). Традыцыя ўзвядзення хрысціянскай культавай пабудовы на месцы свяцілішча (капішча) сапраўды існавала ва ўсходніх славян.

**Грамадзянскае мураванае дойлідства.** Сярод манументальных мураваных пабудоў старажытных зямель Беларусі пераважаюць культавыя збудаванні. Толькі ў Полацку ды Гродне выяўлены рэшткі церамоў — парадных частак княжацкіх палацаў XII ст.

На Верхнім замку ў яго паўночнай частцы каля абрыву Палаты ў 1972 г. Г. В. Штыхавым былі адзначаны прыкметы старажытнага збудавання. Яго рэшткі затым даследаваліся у 1976—1977 гг. групай археолагаў. Будынак аказаўся церамам XII ст., які ўяўляе сабой прамавугольнае збудаванне (4,7×4,2 м) з прымыкаючай прыбудовай памерам 2,5× ×2,4 м. Часткова захаваліся фундаменты абваленых сцен, якія зроблены з каменю на вапнавым растворы. Шырыня фундаментаў асноўнага памяшкання 0,5—0,7 м, унутры будынка размяшчалася сутарэнне (Раппопорт, Шолохова, 1981. С. 91—94). У XIV ст. да церама было прыбудавана драўлянае памяшканне, падлога якога знаходзілася на ўзроўні падлогі сутарэння церама (Раппопорт, 1982. С. 95).

У Гродне на паўднёвым баку дзядзінца польскі археолаг І. Ядкоўскі ў 1932 г. раскапаў руіны церама палаца. Захаваліся на вышыню 2 м рэшткі яго сцен. Даўжыня адной сцяны 9,72 м, шырыня памяшкання застаецца невядомай. Церам складаўся з дзвюх частак. Адно памяшканне было асноўным, другое — дадатковым, меншым за першае. У сярэдзіне паўночнай сцяны асноўнага памяшкання быў уваход, а ўнутры меліся высокія нішы з паўцыркульнымі завяршэннямі. Яшчэ адна ніша мелася ў заходняй сцяне. У меншым памяшканні быў з поўдня асобны ўваход. Муроўка церама зроблена ў раўнаслоістай тэхніцы з плінфы. Фасады аздоблены радам ўмураваных у сцяну амаль неапрацаваных рознакаляровых камянёў. Будынак быў багата аздоблены керамічнымі паліванымі пліткамі. Ён меў пакрыццё са свінцовых лістоў (Раппопорт, 1982. С. 102).

На мысе Замкавай гары у Гродне ў заходняй частцы дзядзінца выяўлены рэшткі яшчэ адной пабудовы — вуглавой цаглянай вежы гродзенскай цытадэлі, толькі рэшткі гэтыя нязначныя.

Умовы для манументальнага будаўніцтва ў беларускіх землях XIII ст. істотна змяніліся. З драбленнем Полацкай зямлі на ўдзелы і эгасаннем княжацкай дынастыі ў Полацку тут практычна прыпыняецца культавае манументальнае будаўніцтва. Затое з узмацненнем ваеннай пагрозы з боку нямецкіх крыжакоў і мангола-татараў узводзяцца абарончыя збудаванні тыпу вежаў-данжонаў. Аж дзве такія вежы былі ўзведзены ў Полацку. Мураваная вежа існавала ў Тураве.

У Іпацьеўскім спісе пад 1277 г. паведамляецца аб вежы ў Гродне: «Столпъ бо бе каменъ высакъ стоила перед вороты городе». Як вынікае з летапіснага паведамлення, гэта вежа мела вырашальнае значэнне пры абароне горада (ПСРЛ. Т. II. Стб. 877—878). У Брэсце ў часы князя Уладзіміра Васількавіча быў пабудаваны «столп высотою яко и Каменецкий». Вежа адзначана на многіх архіўных планах г. Брэста (Ткачоў, 1987. С. 24—25).

Унікальным помнікам архітэктуры і ваенна-інжынернага майстэрства канца XIII ст. з'яўляецца вежа «стоўп камен» у Камянцы, якая захавалася да нашых дзён. Вышыня пяціяруснай пабудовы складае 30 м, вонкавы дыяметр звыш 13 м. Сцены вежы, якія мелі таўшчыню 2,5 м, прарэзаны

байніцамі. Усярэдзіне знаходзілася лесвіца. У верхняй частцы «стаўпа» размяшчалася баявая пляцоўка з 14 мураванымі зубцамі. Камянецкая вежа адносіцца да тыпу так званых «валынскіх вежаў» і мае шмат агульнага з вежамі тыпу данжон, якія былі пашыраны ў XII—XIII стст. у краінах Заходняй Еўропы (Ткачев, 1987. С. 6—12).

## 3. ПОМНІКІ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА. СФРАГІСТЫКА

**Выяўленчае мастацтва.** Дэкаратыўнае мастацтва ўсходніх славян IX—X стст. адлюстроўвала язычніцкія магічныя ўяўленні. Элементы старажытных вераванняў захаваліся ва ўзораччы ювелірных вырабаў у наступныя стагоддзі, нягледзячы на распаўсюджванне хрысціянства. Адсюль бачна, чаму вырабы X—XI стст. з гарадоў блізкія да ўпрыгожванняў, вядомых па раскопках вясковых курганоў язычніцкіх часоў (ГБМ. Т. I. С. 119).

Пластыка стаяла ля вытокаў славянскага мастацтва. Яна пранізвала ўвесь быт славян, пачынаючы з апрацоўкі разьбой хатняга ўжытку і заканчваючы ўсялякімі амулетамі-абярэгамі ў выглядзе канькоў, звяроў, птушак, рыб, сякер, ключоў, лыжачак (мал. 142). У вобласці тэраталогіі славянскія майстры дасягнулі вялікага майстэрства, чаго нельга сказаць пра скульптурнае ўзнаўленне чалавечай фігуры, дзе доўга яшчэ панавала схема.

У Полацкай зямлі паўмесячніцы (лунніцы) знойдзены ў Копысі, Мінску, Друцку, плоскія стылізаваныя фігуркі жывёлін — канькі, распаўсюджаныя ў курганах часцей за ўсё смаленскіх крывічоў, знойдзены ў Віцебску, Лукомлі, Мінску, Лагойску, Браславе, на паселішчы на Менцы. Характар гэтых упрыгожанняў-амулетаў даволі ўстойлівы, хаця яны стылістычна не зусім аднатыповыя (мал. 107: 18, 19, 23).

Звяртае ўвагу значная колькасць у жаночым убранні манетападобных падвесак з салярнай сімволікай, што добра пацвярджаюць матэрыялы з Полацку. Знаходкі ліцейных форм з адпаведнымі матывамі арнаменту гавораць самі за сябе. Асабліва цікавая імітацыйная форма XIII ст. для адліву падвесак з узорам, які блізкі да кветкі з 12 пялёсткамі (Штыхов, 1975. С. 69). Падобны арнамент увасабляў комплекс касмічных вераванняў старажытных славян. У Полацку знойдзены кашалёк, на якім у тэхніцы ціснення зроблены чатыры разеткі. Упрыгожанні, якія служылі амулетамі, не зніклі ў перыяд хрысціянства, а дапоўніліся новымі відамі. Існавала гістарычная і семантычная пераемнасць хрысціянскіх абярэгаў ад язычніцкіх.

На фарміраванне выяўленчага мастацтва ў буйных гарадах пасля прыняцця хрысціянства адчуваўся ўплыў Візантыі. У Кіеве і Ноўгарадзе ўжо ў канцы X — пачатку XI ст. з'яўляюцца вырабы, якія ўзнаўляюць візантыйскія формы і арнаментыку: крын, уюн, раскавітнеўшы крыж (Седова, 1981. С. 184, 185).

У XII ст. атрымліваюць распаўсюджанне спецыфічныя гарадскія ўпрыгожанні: колты, пустацелыя арнаментаваныя пацеркі, шырокія створчатыя бранзалеты. На вырабах сустракаюцца раслінны, геаметрыч-




*Мал. 142 Ювелірныя ўпрыгожанні X—XIV стст. з Віцебска· 1, 5, 31 — X ст ; 2, 3, 8, 11, 16, 21, 22, 33, 37 — XI ст., 6—7 — XIV ст. Астатнія вырабы XII—XIII стст. (па Т. С. Бубенька)*

ны, тэраталагічны арнаменты. Можна бачыць шмат форм і выяў, часам запазычаных як з Усходу, так і з Візантыі.

Папулярнымі былі ў кампазіцыях дэкаратыўнага мастацтва сярэдневяковыя фігуры птушак і жывёлін, зберагаючых «древо жизни». Гэты матыў ёсць на алавяным кольце з Мінску, колтах Вішчынскага скарбу (АіНБ, 1993. С. 139). Птушкі ў геральдычным процістаянні па баках дрэва атрымалі шырокае распаўсюджанне ў візантыйскім і ўсходнеславянскім мастацтве X—XII стст. Выказваліся думкі, што кампазіцыя з дзвюма птушкамі па баках дрэва з'яўляецца водгаласкам усходняй, у першую чаргу сірыйскай арнаментыкі. Адтуль дадзены матыў трапіў у Малую Азію, а потым праз Візантыю быў перададзены ў іншыя краіны (Кондаков, 1896. С. 198). Рэчы, у прыватнасці ўпрыгожанні, з узорам у выглядзе дзвюх птушак, што знаходзіліся па баках дрэва, шанаваліся як абярэгі, якія адхілялі зло.

Шчодра арнаментаваныя касцяныя пласціны, знойдзеныя ў Мінску, Друцку, Лукомлі, а таксама ў Мсціславе, Ваўкавыску. Ім можна ўказаць шматлікія аналагі сярод познакачэўніцкіх старажытнасцей Еўразійскіх стэпаў (Малиновская, 1974. С. 132, 133). На пласцінах гравіроўкай выконваліся раслінныя матывы, фігуркі жывёлін. Гэтыя касцяныя абкладкі калчаноў указваюць на культурныя узаемаўплывы паміж славянамі і далёкім качэўніцкім светам (мал. 113).

Пры раскопках гарадоў у Беларусі знойдзены цудоўныя творы дробнай пластыкі — рэльефныя абразкі з выявамі святых. Звернемся да каменнага двухбаковага абразка рубяжа XII—XIII стст. э Мінскага замчышча. На адным яго баку паясная выява Божай маці ў маленні, на другім — апостала Пятра (мал. 131). Гэты ж іканаграфічны тып прадстаўлены на свінцовым вырабе э Турава і мае асаблівае значэнне ў гісторыі дробнай пластыкі старажытных зямель Беларусі. Такая ж выява ўпрыгожвае актавую вісячую пячатку, знойдзеную пры археалагічных раскопках у Полацку ў 1962 г. В. Г. Пуцко лічыць, што крыніцай падобнага тыпу ілюстраванняў магла паслужыць выява Багародзіцы ў маленні, эмешчаная ў полацкай Спаскай царкве Ефрасіннеўскага манастыра ў ніжняй частцы ўсходняй сцяны, у апсідзе ахвярніка. Іканаграфічны тып вызначаецца як Агіясарытыса або Халкапратыйская. Характэрная яго прыкмета — палажэнне фігуры Божай маці, якая стаіць бокам, у той час як яе твар звернуты да гледача (Пуцко, 1991. С. 17, 20). Адлюстраванне Божай маці ў маленні ці выява Агіясарытысы не зусім звычайная з'ява ў іканаграфіі і складае лакальную асаблівасць пластыкі старажытных зямель Беларусі (Пуцко, 1997. С. 198, 199).

Каменны абразок, знойдзены ў 1957 г. на Мінскім замчышчы, з выявай Міколы і архідзякана Стэфана, якіх блаславуляе Спас — Імануіл, таксама мае свае асаблівасці, што наглядаецца ў прапорцыях пакарочаных фігур з вялікімі галовамі, спрошчаным рэльефам (пачатак XIII ст.).

Выдатным помнікам з'яўляецца камены абразок з Полацка з выявай св. Канстанціна і св. Алены (мал. 131). Мастацкі стыль, у якім ён выкананы, нагадвае выявы на візантыйскіх помніках XI—XII стст. і сведчыць, як на мясцовай глебе творча перапрацоўваліся візантыйскія ўзоры (Штыхов, 1975. С. 113).

Да гэтай серыі помнікаў далучаецца знаходка з Ваўкавыска — касцяная пласцінка ад трыпціха XII ст. Падобныя вырабы шырока вядомыя ў візантыйскіх старажытнасцях. На тэрыторыі Усходняй Еўропы яны вельмі рэдкія. Створка з'яўляецца ўзорам працы правінцыяльнага візантыйскага або мясцовага майстра па першакласнаму візантыйскаму арыгіналу. На вонкавым баку пласцінкі пагрудныя адлюстраванні трох святых: Гаўрыіла (Міхаіла), Пятра, Георгія (Пракопія?). Фон, на якім размяшчаюцца выявы, паглыблены на 2 мм. На адваротным баку пласцінкі выява рэльефнага чатырохканцовага крыжа (Зверуго, 1975. С. 127, 128).

Іканаграфія каменнага абразка Хрыстос Эмануіл пачатку XIII ст. з Пінска бярэ пачатак таксама ад візантыйскіх узораў і служыць прыкладам паўтору візантыйскага арыгіналу хутчэй за ўсё мясцовым майстрам. Абразок з Пінска — адно з самых ранніх адлюстраванняў Хрыста Эмануіла ва ўсходнеславянскім мастацтве (Высоцкая, 1983).

Цікавасць выклікаюць чатыры свінцовыя рэльефы (памерам 2,7×2,4 см) з пагруднымі выявамі Божай маці ў маленні і трох іншых святых, знойдзеных у Тураве. Свінцовыя плакеткі пачатку XIII ст. былі адліты ў глінянай форме, а затым апрацаваны разцом буйнымі штрыхамі. Верагодна, вырабы выконвалі ролю матрыц мадэлей, якія выкарыстоўваліся пры вырабе медальёнаў для аздобы абрамленняў ікон (Пуцко, 1997. С. 54, 55).

У гісторыі выяўленчага мастацтва выключнае месца займае крыж Ефрасінні Полацкай, выраблены майстрам Лазарам Богшам у 1161 г. для Спаскай царквы жаночага манастыра. Падрабязнае даследаванне рэліквіі належыць Л. В. Аляксееву (Алексеев, 1966. С. 224—242). Праводзячы яе стараннае вывучэнне, Т. І. Макарава канстатавала: «Лазар Богша па майстэрству не ведае сабе роўных у шэрагу рускіх эмальераў. Яго мастацтва можа лічыцца вяршыняй рускай эмальернай справы» (Макарова, 1976. С. 72, 73).

Даследчыца выказвае думку пра выраб Богшам або яго вучнямі іншых выдатных твораў: пласцін «золотого оплечья» з Каменнага Броду на Валыні, дыядэмы з выявай Аляксандра Македонскага, арыгінальнага колта з Галіча. У сувязі з гэтым яна сцвярджае, што Богша — кіеўскі майстар і жыў некаторы час у Полацку, калі рабіў крыж па заказу Ефрасінні. Калі гэта менавіта так, то Лазар Богша, сапраўды, павінен быў знаходзіцца ў Полацку, няхай сабе і часова. Эскіз крыжа, трэба думаць, прапанавала сама Ефрасіння, якая бязвыезна амаль да канца свайго жыцця жыла ў Полацку («Не бывавши нигде же: ни в коей стране, ни во граде, ни в селе...»). Размяшчэнне выяў святых на творы мае свае асаблівасці. На ствале крыжа размешчаны выявы патронаў — членаў яе сям'і: бацькі Георгія, маці Соф'і і самой Ефрасінні. Каштоўныя рэчы звычайна рабіліся з матэрыялу заказчыка, апроч выкарыстання золата, срэбра, каштоўных камянёў, у драўляную аснову крыжа былі закладзены мошчы святых, прывезеныя ў Полацк. У 1941 г. крыж знік з Магілёўскага краязнаўчага музея і яго месцазнаходжанне не ўстаноўлена. У наш час майстар з Брэста М. Кузьміч вырабіў дакладную копію крыжа (Жыватворны сімвал... 1998. С. 214).

Пры археалагічных раскопках літыя бронзавыя энкалпіёны або іх фрагменты знойдзены ў Друцку (3), Мінску (2), Полацку (1), на Маскавіцкім гарадзішчы ў Беларусі. Яны былі зроблены, напэўна, у Кіеве, але некаторыя маглі быць выраблены мясцовымі майстрамі па кіеўскіх мадэлях. Адзін з энкалпіёнаў з Мінска і два іншыя з Друцка маюць выявы, выкананыя чорным сплавам (чэрню).

У Полацкай зямлі былі распаўсюджаны творы выяўленчага мастацтва з выявай Барыса і Глеба, што адбылося пад уплывам Кіева. На падвеснай бронзавай іконцы з Копысі Барыс і Глеб, паказаныя ў рост, маюць партрэтныя адрозненні. У Барыса невялікія вусы, хвалістыя падстрыжаныя валасы (Загорульский, 1973. С. 360). У Глеба кучаравыя локаны раскінуты па плячах. У правай руцэ ў Барыса і Глеба чатырохканцовыя крыжы, якія яны трымаюць перад грудзямі, у левай — мячы ў ножнах.



*Мал. 143. Бронзавы абразок з гарадзішча на Менцы XIII ст. і свінцовая вісячая пячатка з выявай Сімяона і расквітнеўшага крыжа з Ваўкавыска (дыяметр 2,3 см)*

Асэнсаванне эстэтычных каштоўнасцей мінулага беларускіх зямель немагчыма без уліку жывапісу XII ст. Вядома, што тры царквы Барысаглебскага (Бельчыцкага) манастыра і дзве пабудовы Спаса-Ефрасінеўскага манастыра ў Полацку былі размаляваны фрэскамі. Да нас дайшлі цудоўныя фрэскі Спаскай царквы. Мусіць, у жывапісе гэтага часу адбываўся складаны працэс станаўлення мясцовай лакальнай школы, якая базіравалася на засваенні традыцый візантыйскай культуры. Вывучэнне гэтых пытанняў — асобная тэма мастацказнаўчых даследаванняў (Церашчатава, 1986. С. 16—50; Селицкий, 1992. С. 154—155).

Унікальная з'ява — фрэскавы роспіс жылога памяшкання XII ст., што выяўлена ў Навагрудку. Арнамент роспісу геаметрычны і стылізаваны раслінны, на адной фрэсцы была выява галавы мужчыны ў княжацкай шапцы (Гуревич, 1982. С. 26).

Асобную групу вырабаў складаюць змеевікі — металічныя амулеты ў выглядзе манетападобнай падвескі ці круглага складня, якія ўжываліся ў XI—XIV стст. Звычайна на вонкавым баку змеевіка змяшчалася выява хрысціянскай сімволікі (Хрыстос, Божая маці з дзіцём, архангелы, святыя). На адваротным баку — кругавы надпіс — заклінанне су-

праць хвароб — і «змяінае гняздо». Лічылася, што змеевікі засцерагаюць ад хвароб і немачы.

На вонкавым баку змеевіка з Чачэрска змешчана выява Божай маці. На адваротным баку клубок змей. У Ваўкавыску выяўлены бронзавы медальён — змеявік з надпісам. На адным яго баку выява архангела (магчыма, Міхаіла), на другім — змеі з галовамі барсаў. Медны змеявік (дыяметр 52 мм) э вушкам для падвешвання знойдзены ў Заслаўі. На вонкавым яго баку выява галавы чалавека, абкружаная змеямі, абапал галавы 4 літары «дъна» (нутро), адваротны бок без выяў. Свінцовы змеявік канца XIII — пачатку XIV ст. выяўлены на Берасцейскім гарадзішчы (Брэст). На вонкавым баку — выява Багародзіцы Аранты з дзіцём, на адваротным — галава чалавек, ад якой адыходзяць 12 змяіных галоў на доўгіх тулавах (Лысенко, 1985. Рис. 184). Змеевікі пацвярджаюць, што дваяверства пасля прыняцця хрысціянства доўга ўтрымлівалася сярод насельніцтва беларускіх зямель.

На Беларусь былі завезены некаторыя вырабы, зробленыя ў краінах Заходняй Еўропы. У гродзенскай Каложскай царкве сярод старадаўніх рэчаў захоўваўся бронзавы вадаліў (рукамыйнік) у выглядзе коннага рыцара (вышыня вырабу 240 мм). Паміж вушамі каня ёсць адтуліна, куды налівалася вада. Выцякала яна з рота. Вупраж упрыгожана двайнымі зігзагамі. Гэта характэрны матыў гравіроўкі на аналагічных паўночнагерманскіх вадалівах XIII ст. Зроблены вадаліў у Ніжняй Саксоніі.

У Ваўкавыску знойдзена навершша ад трона, выразанае з маржовай косці ў выглядзе скульптурнай галавы льва (вышыня 38 мм). У льва вельмі застрашальны выгляд. У раскрытай пашчы звер трымае немаладога чалавека, апранутага ў багатае адзенне, характэрнае для заходнееўрапейскай арыстакратыі XI—XII стст. З тыльнага боку львінай галавы — выява маладога феадала, які сядзіць на троне. Ён апрануты ў такое ж самае адзенне, як і чалавек у пашчы льва. Адна і тая ж асоба паказана ў розныя перыяды жыцця. У тэраталагічнай арнаментыцы Захаду леў-антрапафаг ідэнтыфікуецца з д'яблам. Абедзве выявы звязваюцца адной ідэяй аб марнасці ўсяго зямнога. Гэты высокамастацкі выраб быў зроблены ў Паўднёвай Германіі і датуецца другой паловай XII — пачаткам XIII ст. (Даркевич, 1966. С. 28).

Такім чынам, ёсць падставы гаварыць аб асаблівасцях дробнай пластыкі XII—XIII стст. гарадоў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У той жа час можна падкрэсліць, што кожнае княства ўносіла свой уклад у развіццё культуры ўсходняга славянства.

**Шахматныя фігуры.** Праваслаўная царква не заахвочвала аб'ёмнай скульптуры, таму імкненне да пластычнага ўзнаўлення вобразаў чалавека знайшло распаўсюджанне ў дробнай барэльефнай пластыцы. Да гэтай вобласці належаць барэльефныя кампазіцыі на пячатках і пломбах.

Дзякуючы археалагічным даследаванням стала ясна, што ва ўсходніх славян у XII—XIII стст. неад'емнай часткай культуры былі шахматы. Шахматныя фігуры знойдзены на тэрыторыі Кіеўскай, Наўгародскай, Растова-Суздальскай і іншых зямель. Раскопкі гарадоў Полацкай зямлі папоўнілі калекцыю ўсходнеславянскіх шахмат. Фігура шахматнага каня з паселішча на Менцы XI ст.— старажытнейшая на тэрыторыі Усходняй

Еўропы. Шахматныя фігуры XII—XIII стст. знойдзены ў Друцку (5), Мінску (3), Полацку (3), Віцебску (2), Лукомлі (1), Ваўкавыску, Слуцку, Бярэсці, Гродне. У большасці выпадкаў гэта абстрактныя сімвалічныя фігуры, выразаныя з косці або вытачаныя на такарным станку. Пры вырабе ўмоўных стылізаваных фігур мясцовыя майстры ўлічвалі ўсходнія ўзоры. Шахматная ладдзя з Копысі нагадвае арабскага сярэдневяковага «руха» — пярсідская назва фантастычнай птушкі (Линдер, 1975. С. 46—92). Інакш выглядалі выяўленчыя шахматы «з тварыкамі» (Гісторыя беларускага мастацтва. Т. I. 1987. С. 99). Шахматная фігурка ў выглядзе чалавека, які сядзіць са шчэпленымі на грудзях рукамі, знойдзена на гарадзішчы ў Лукомлі. У Слуцку і Бярэсці выяўлены фігуры караля (Калядзінскі, 1993. С. 652).

Знаходкі шахмат — пацвярджэнне высокага ўзроўню культуры сярэдневяковага насельніцтва. Некаторыя шахматныя фігуркі маглі быць прывазнымі. Большасць з іх выраблена з рогу і косці. Гэтыя вырабы ўзнаўлялі такія ж шахматныя фігуры, распаўсюджаныя ў краінах мусульманскага Усходу. Застаецца нявырашаным пытанне, у якой форме ажыццяўляліся падобныя сувязі, былі яны непасрэднымі або адбываліся з дапамогай пасрэднікаў, што больш верагодна.

**Вісячыя пячаткі і пломбы.** Як асабісты від дробнай пластыкі можна разглядаць вісячыя пячаткі-булы (Гісторыя беларускага мастацтва. Т. I. 1987. С. 106). Звычайна яны адціскаліся на свінцовых кружках, якія падвешваліся на шнурку да дакумента (мал. 143). На беларускіх землях пячаткамі ў канцы X — пачатку XII ст. мелі права карыстацца толькі прадстаўнікі вышэйшай дзяржаўнай і царкоўнай улады. Свінцовая пячатка-була князя Ізяслава была знойдзена ў Ноўгарадзе (канец X ст.). У Тураве, Ваўкавыску і на Берасцейскім гарадзішчы выяўлена пячатка тураўскага князя Ізяслава Яраславіча (у хрышчэнні Дзмітрыя, XI ст.). Да кіеўска-полацкіх адносін XI ст. мае дачыненне свінцовая пячатка, знойдзеная ў Полацку каля Сафійскага сабора. Яна належала Усеваладу Яраславічу, які княжыў у Кіеве з 1078 па 1093 г.

На тэрыторыі Усходняй Еўропы вельмі рэдка сустракаюцца пячаткі, якія належалі жанчынам. У навуцы вядомы пячаткі маці Ефрасінні Полацкай (Штыхов, 1965. С. 242—245). У Ноўгарадзе на гарадзішчы выяўлена пячатка Ефрасінні Полацкай. На вонкавым баку булы кампазіцыя евангальскага сюжэтаПератварэння з шасці фігур. Кірылічны надпіс, які заканчваецца словамі «Ефросини нарецаемой», пацвярджае меркаванне аб прыналежнасці пячаткі-булы Ефрасінні Полацкай. У Ноўгарадзе на гарадзішчы знойдзены яшчэ дзве яе пячаткі з выявай Спаса (Янин, Гайдуков, 1998. С. 41).

Цяжка пераацаніць значэнне для сфрагістыкі і для вывучэння дробнай пластыкі пячаткі, выяўленай на Верхнім замку ў Полацку ў 1962 г. у пласце рубяжа XII—XIII стст. Яна адціснута на круглай свінцовай пласціне, мае ў папярэчніку 26—28 мм. Выява архангела Міхаіла на адваротным баку з'яўляецца шырока распаўсюджаным сюжэтам старажытнай сфрагістыкі. На пячатцы адлюстравана жаночая фігура ў рост, побач надпіс у калонку, які можа быць прачытаны як «кагиа» або «агиа», г. зн. «святая». Тут паказана Божая маці, вядомая ў іканаграфіі пад назвай Агіясаратысы або Халкапратыйскай па назве Халкапратыйскага

храма ў Канстанцінопалі. Божая маці стаіць бокам, але яе твар звернуты да гледача. На думку В. Р. Пуцко, гэтая пячатка і фрэска Божай маці ў Спаскай царкве ў Полацку з'яўляюцца адначасовымі і адпавядаюць візантыйскаму арыгіналу (Пуцко, 1991. С. 16—20).

У Віцебску выяўлена пячатка з выявай Феадора Цірона з надпісам «ги помзи рабу свое...», што належала Мсціславу, сыну Уладзіміра Манамаха, які княжыў у Ноўгарадзе (1113—1117), Смаленску (1117—1125), Кіеве (1125—1132). На другой буле (пячатцы) з Віцебска змешчана выява архангела. На гарадзішчы Вішчын Рагачоўскага раёна знойдзена пячатка князя Мсціслава Расціславіча Храбрага.

Пячаткі з выявай расквітнеўшага крыжа і св. Глеба належалі, верагодней за ўсё, мінскаму князю Глебу Усяславічу (Янин, Гайдуков, 1998. С. 61). На пячатцы з Гомеля змешчана выява св. Фёдара з дзідай у правай руцэ, на адвароце — грэчаскі добразычлівы надпіс з імем Фёдара. На пячатцы з Гродна чытаецца загадкавы надпіс «дьнесловo», з Ваўкавыска — «Симеон» (мап. 143) (Очерки... 1972. С. 174). Знойдзеная пячатка ў в. Залатуха Калінкавіцкага раёна мае выяву св. Георгія, на адваротным баку — знака Рурыкавічаў — трызубца.

Уладальнікамі пячатак акрамя прадстаўнікоў княжацкай сям'і былі духоўныя асобы. На двух экземплярах полацкіх пячатак апошняй чвэрці XII ст. бачны грэчаскі надпіс у пяць радкоў, які чытаецца: «Пячатка Дыянісія, епіскапа полацкага». Адна пячатка мае выяву св. Міны і, верагодна, належала полацкаму епіскапу Міну (Янін, 1970. С. 82). Мусіць, Дыянісій па паходжанню з'яўляўся грэкам. У Тураве пры раскопках П. Ф. Лысенкі знойдзена пячатка кіеўскага мітрапаліта Кірыла I (1225—1232 гг.).

Ад вісячых пячатак сярэдневяковыя пломбы адрозніваюцца невялікімі памерамі (1—1,5) і прызначэннем. Пломба — гэта кавалачак свінцу з адбіткам пячаткі, якім апламбоўваецца той ці іншы прадмет. Пломбы «наўгародскага тыпу» служылі малымі пячаткамі пасаднікаў (канец XI—XIII ст.). Найбольш распаўсюджаны пломбы «драгічынскага тыпу», якіх у Драгічыне Надбужскім выяўлена некалькі тысяч.

На тэрыторыі Беларусі пломбаў «драгічынскага тыпу» выяўлена каля 20 экзэмпляраў у Віцебску, Тураве, Полацку. У Віцебску знойдзены свінцовыя пломбы з выявамі на вонкавым і адваротным баках адпаведна св. Пятра і літары «Ж», невядомага святога і літары «Л», святога з паднятымі рукамі і расквітнеўшага шасціканцовага крыжа, св. Міколы і літары «Д». На адной пломбе захаваўся надпіс «Пётр». У Полацку у пласце 1240-х гадоў знойдзена пломба з выявай святога Барыса ці, напэўна, Глеба, а на адваротным баку — расквітнеўшага крыжа.

Шырока бытуе меркаванне, што пломбы прывешваліся да цюкоў з таварамі, якія вывозіліся на знешні рынак, што гарантавала іх захаванасць (Ершевский, 1985). На думку некаторых даследчыкаў, ва ўсходніх славян ужываліся «футравыя» грошы. Пломбы, якія прывешваліся да вязкі футраў, надавалі ім значэнне грошай.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

IX—XIII стст.— надзвычай важны перыяд у гісторыі нашай Радзімы, у гісторыі насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У гэты перыяд завяршаецца фарміраванне этнічнага складу насельніцтва гэтага рэгіёна. Славянскія плямёны крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў распаўсюдзіліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі і асімілявалі рэшткі папярэдняга мясцовага насельніцтва (у асноўным балцкай і угра-фінскай прыналежнасці). У гэты перыяд назіраўся значны зрух эканамічнага развіцця, у выніку якога адбылося выдзяленне рамяства з сельскагаспадарчай вытворчасці, на падставе чаго на тэрыторыі Беларусі пачалі ўзнікаць і развівацца гарады. На гэты час прыпадае канчатковае разлажэнне і заняпад першабытнаабшчыннага ладу і пачынае развівацца раннефеадальны лад, узнікае першае класавае грамадства. У гэты час на тэрыторыі Беларусі ўзніклі першыя дзяржаўныя ўтварэнні — раннефеадальныя княствы, і на змену мясцовым язычніцкім вераванням прыйшла адзіная дзяржаўная хрысціянская рэлігія праваслаўнага веравызнання. На падставе эканамічнага і сацыяльнага развіцця высокага ўздыму дасягнула развіццё культуры.

Нягледзячы на важнасць з'яў і падзей, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі, у пісьмовых крыніцах яны не знайшлі неабходнага адлюстравання. Выпадковыя, урыўкавыя ўспаміны аб іх у летапісах не даюць неабходнага ўяўлення аб важнейшых па свайму значэнню падзеях, што вызначальным чынам адбіваліся па лёсе ўсяго народа. Таму асноўнай крыніцай ведаў пра жыццё нашых продкаў у гэты перыяд сталі матэрыялы, здабытыя падчас даследаванняў археалагічных помнікаў.

У археалагічных даследаваннях 70—90-х гадоў у першую чаргу звярталася ўвага на раскопкі помнікаў, што ўтрымліваюць матэрыялы, неабходныя для вырашэння прынцыповых пытанняў гістарычнай навукі аб этнічным характары і часе засялення тэрыторыі Беларусі. Вывучаліся шляхі і час рассялення славянскіх плямёнаў на асобных рэгіёнах, напрамкі іх міграцыі. Даследаваннямі вызначана, што паўночная Беларусь была заселена славянамі ў выніку трох хваляў славянскай каланізацыі з поўначы і захаду, а засяленне славянамі Паўднёвай і Цэнтральнай Беларусі адбылося з поўдня, з Валыні. Генетычнымі продкамі дрыгавічоў было насельніцтва так званай культуры Карчак (пазней — Лукі-Райкавецкай). Археалагічнымі раскопкамі ўстаноўлена, што Беларускае Пабужжа ў другой палове 1-га тысячагоддзя н. э. было заселена ўсход-

німі славянамі. Археалагічныя матэрыялы сведчаць, што насельніцтвам Сярэдняга Панямоння на рубяжы 1-га і 2-га тысячагоддзя н. э. былі ўсходнія славяне (пераважна дрыгавічы). На ўсіх азначаных тэрыторыях у канцы X ст. узнікаюць гарады (Полацк, Тураў, Бярэсце, Навагрудак, Ваўкавыск), засноўваюцца гарадскія курганныя некропалі-могільнікі.

Вялікая ўвага надавалася даследаванням гарадзішчаў гарадоў, у культурным слоі якіх захоўваліся рэшткі пабудоў. Гэта давала магчымасць прасачыць пытанні забудовы і планіроўкі, асаблівасцей старажытнай бытавой масавай архітэктуры. Як правіла, у гарадзішчах з такім культурным пластам добра захоўваліся шматлікія рэчы з розных матэрыялаў, што аблягчала стварэнне масавых калекцый шматлікіх прадметаў, неабходных для вывучэння паўсядзённага жыцця і заняткаў гарадскога насельніцтва, узроўню развіцця рамёстваў, гандлёвых і культурных сувязяў. Археалагічныя калекцыі, дарэчы, стваралі аснову пастаянных музейных экспазіцый.

Вынікі вывучэння розных калекцый знойдзеных прадметаў сведчаць аб тым, што аснову мясцовай вытворчасці складаў выраб рэчаў і прадметаў, неабходных для задавальнення патрэб пастаяннага штодзённага жыцця насельніцтва. Значна саступала ў развіцці і распаўсюджанні галіна вытворчасці, скіраваная на выраб ювелірных і мастацкіх твораў. Высокага ўзроўню дасягнулі жалезаапрацоўчае, дрэваапрацоўчае, костарэзнае, ганчарнае рамёствы. Вырабы мясцовых майстроў знаходзіліся на высокім узроўні і не саступалі па якасці вырабам з іншых рэгіёнаў і суседніх краін.

Даследаванні паказалі, што вялікае месца ў вытворчай дзейнасці гараджан займалі заняткі земляробствам, жывёлагадоўляй. Дапаможную ролю ігралі паляванне і рыбалоўства. Пастаянным заняткам былі прадзенне і ткацтва.

Вывучэнне прадметаў і знаходак з культурнага пласта гарадоў гэтага перыяду сведчыць аб аднастайнасці вырабаў з розных матэрыялаў у рэгіёнах Беларусі і другіх рэгіёнаў старажытнай Русі. Гэта сведчыць аб іх прыналежнасці да аднаго ўзроўню развіцця вытворчых сіл, адной тэхналогіі іх вытворчасці і адной традыцыі вырабаў асобных рэчаў. Пацвярджаецца іх прыналежнасць да адзінай матэрыяльнай культуры, што пашыралася на вялікі арэал Усходняй Еўропы, заселены роднаснымі ўсходнеславянскімі плямёнамі.

Вытворчасць і тэхналогія розных рамёстваў вызначаліся высокім узроўнем для свайго часу і не саступалі па гэтых паказчыках адначасовым рамёствам з іншых краін, а часам і значна пераўзыходзілі самастойную вытворчасць шэрагу краін.

Змены ў эканоміцы на працягу IX—XIII стст. прывялі да значных перамен у сацыяльным становішчы і дзяржаўным будаўніцтве. У IX—X стст. на тэрыторыі Беларусі ва ўсходнеславянскіх плямёнах існаваў першабытнаабшчынны лад у стадыі канчатковага яго разлажэння і зараджэння ў ім праяў раннефеадальнага ладу. Летапіс гаворыць аб існаванні ў дрыгавічоў і крывічоў сваіх княжэнняў. Гэта значыць, што ў летапісных плямёнаў ужо існавалі племянныя старэйшыны і князі, што

адбылося сацыяльнае разлажэнне ў раней аднародным першабытнааб-шчынным ладзе. Аб існаванні сацыяльнай няроўнасці сведчаць археалагічныя помнікі. У курганах XI—XIII стст. існуюць больш багатыя па пахавальным інвентары захаванні, а ў раскопках гарадоў сустракаюцца знаходкі, даступныя толькі вышэйшаму слою насельніцтва. Гэта сведчыць аб сацыяльнай дыферэнцыяцыі і сельскага, і гарадскога насельніцтва.

Вынікам сацыяльнай дыферэнцыяцыі было ўзнікненне і развіццё феадальнага ладу і ўтварэнне феадальных княстваў. Іх папярэднік — летапісныя племянныя княжэнні крывічоў на чале з летапісным Рагвалодам у Полацку і дрыгавічоў на чале з напаўлегендарным Турам у Тураве. Несумненна існаванне гэтых княжэнняў у канцы X ст. Аднак ужо ў канцы X ст. (988 г.) вялікі князь кіеўскі Уладзімір Святаслававіч, які аб'яднаў пад сваёй уладай большую частку Усходняй Еўропы ў Вялікае княства Кіеўскае, правёў кардынальную адміністрацыйную рэформу і замяніў племянных князёў сваімі сынамі, падначаленымі кіеўскаму князю. Першым полацкім князем феадальнага Полацкага княства стаў Ізяслаў Уладзіміравіч, першым князем феадальнага Тураўскага княства — Святаполк Уладзіміравіч. Гэты былі першыя феадальныя княствы-дзяржавы на тэрыторыі Беларусі. Яны ўзніклі на падставе папярэдніх племянных княжэнняў. Аднак іх новую аснову складалі новыя палітычныя адносіны феадальнага (суверэнітэту і сюзерэнітэту) падпарадкавання і феадальнай залежнасці ад Вялікага княства Кіеўскага. Гэта была ўжо дзяржаўная палітычная структура новай феадальнай формы на ўзроўні дзяржаўнай арганізацыі. Яна зацвердзілася на тэрыторыі Беларусі на доўгія стагоддзі і пазней уступіла ў стадыю феадальнай раздробленасці, калі з гэтых двух княстваў пачалі выдзяляцца больш дробныя феадальныя.

Адной з праяў развіцця грамадства на тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст. было імклівае развіццё яго культуры. Падставай сталі рост эканомікі, сацыяльнае развіццё грамадства, уплыў феадальных палітычных структур. Вялікую ролю адыграла прыняцце хрысціянства. У буйнейшых гарадах пачалося манументальнае царкоўнае (а пазней — абарончае і грамадзянскае) будаўніцтва. Распаўсюджвалася пісьменства. Ствараліся летапісы. Развівалася прыкладное мастацтва ў розных галінах рамеснай дзейнасці. Існавалі жывапіс, мастацкая апрацоўка каменя. Аднак вяршыняй развіцця культуры неабходна лічыць выключна высокую творчую дзейнасць цудоўнага палымянага прамоўцы і пладавітага пісьменніка Кірылы Тураўскага, «Златоуста», «паче всех нам воссиявшего на Руси» (по словах сучаснікаў), асветніцкую дзейнасць Ефрасінні Полацкай. Археалагічныя даследаванні пацвярджаюць гэты высокі ўзровень культуры, прадстаўляючы рэчавыя доказы пісьменнасці (пісалы, цэра), пісьма (азбука па грабеньчыку, кніжныя засцежкі, надпісы на розных прадметах).

Няўмольны час і страшэнныя разбуральныя нашэсці знішчылі шмат помнікаў старажытнай культуры. Аднак рэчы, што дайшлі да нас ад старажытнасці, сцвярджаюць высокі ўзровень развіцця вытворчасці і культуры на землях Беларусі ў IX—XIII стст. Археалогія шмат дадае да

ведаў, сабраных на падставе пісьмовых крыніц. Археалагічныя помнікі прадстаўляюць шмат сведчанняў па тапаграфіі і планіроўцы гарадоў і сёлаў, апавядаюць аб характэрных рысах асобных старажытных гарадоў, іх абарончых сістэмах і збудаваннях, аб іх планіроўцы і забудове, гаспадарцы і занятках насельніцтва. Дзякуючы гэтаму нашы веды аб гістарычным мінулым нашага народа ўзнімаюцца на новы, вышэйшы, узровень.

Археалагічнае даследаванне помнікаў IX—XIII стст. на Беларусі не скончана. Будучыя работы накопяць новы, дадатковы, матэрыял і папоўняць скарбніцу гісторыі Беларусі. Аднак для гэтага трэба забяспечыць захаванасць помнікаў археалогіі і іх кваліфікаванае даследаванне.

# РЭЗЮМЕ

## ПОЛОЦКИЕ КРИВИЧИ

Кривичи — объединение племен, которое находилось в бассейне верховьев Днепра, Западной Двины, Волги, на юге — Чудского озера. В конце 1-го тысячелетия объединение кривичей распалось на три группы — полоцкую, смопенскую и псковскую (по названию их гпавных городов). Для полоцких кривичей характерна культура длинных курганов, в которой сохранилось много эпементов материальной культуры балтов. Археологические материалы подтверждают, что в этногенетическом процессе формирования полоцких кривичей было три стадии. Ранний этап купьтуры длинных курганов относится к V—VII вв. Исследовались курганы около д. Янковичи в урочищах Атоки и Повалишино в Россонском районе, у д. Дорохи в Городокском районе и др. Курганы принадлежат населению, от которого остались памятники типа верхнего слоя Банцеровщины и Тушемли (Археалогія Беларусі. Т. 2. 1999. С. 376—379). Вторая стадия датируется концом VIII—X в. В литературе памятники попучили название «смоленско-полоцкие длинные курганы» (Шмидт, 1963). На Витебщине курганы исследовались около деревень Борки, Бескатово, Вышедки. Трупосожжение почти всегда находится под насыпью. Многие курганы, как длинные так и круглые в плане, бедные инвентарем. Но встречаются курганы с большим количеством поврежденных огнем украшений, что наблюдапось в Борках (Полоцкий район) и Бескатово (Городокский район). Погребения в курганах у д. Глинище под Полоцком целиком относятся к X в. Лепные горшки VIII—X вв. имеют округлое плечико и шейку с отогнутым прямым венчиком. У кривичей-полочан в IX в. существовали укрепленные поселения Полоцк, Витебск, Лукомль, на основе которых потом сформировались города (Штыхов, 1978). Для курганов с ингумацией XI—XII вв. характерны проволочные браслетообразные кольца с завязанными концами — этноопределяющие украшения кривичей.

## THE POLOTSK KRIVISHIES

The Krivishies form the union of tribes that was found in the river basin of the Upper Dnieper, the Western Dvina, the Volga and in the south of Lake Chudskoe.

At the end of the first thousand years the Union of Krivichies disinteprated into three groups — Polotsk's, Smolensk's and Pskov's (according to the names of their main cities). The culture of long barrows is quite characteristie for Polotsk Krivishies, in which a lot of elements of Balts material culture have been preserved.

The arshaelogical meterials confirm that in the ethnic and genetic process of forming the Polotsk Krivichies there were three stages. The early stage of culture of long barrows is believed to date from the V and the VII centuries6 The long and round barrows according to the plan were investigated near the village of Yankovichi in the areas of Atoki and Povalishino of Rosson area, and near the village of Dorokhi in the Gorodock region, and others.

The barrows belong to the population who have left some monuments of the

upper stratum type of Bantserovshchin and Tushemli (Archaelogy of Belarus, Volume 2, 1999, p. 376—379). The second stage is dated the end of VIII—X centuries. In literature the monuments got the name of "Smolensk and Polotsk long barrows" (Shmidt, 1963). In Vitebsk region the barrows were widely investigated near the villages of Borki, Beskatovo, Vyshedki.

Dead bodies consuming almost always happens under the embankment. There appear barrows with a great number of damaged by fire decorations that was found in Borks and Beskatovo of Vitebsk region. The burials in the barrows by the village of Glinishche near Polotsk entirely date in the X century.

The burials in the barrows by the village of Glinishche near Polotsk entirely date from the X century. Plastic pots of the VIII—X centuries have rounded hangers and a neck with a turned back straight halo.

The Krivichies of Polotsk had in the IX century consolidated cettlements of Polotsk, Vitebsk, Lukomle, on the basis of which the cities were created later (Shtykhov, 1978). For the burials of dead bodies in the XI—XII centuries it is characteristic that wire bracelet rings with tied up ends determined the decorations of the Krivichies.

## ДРЕГОВИЧИ

Дреговичи — одно из племенных объединений восточных славян, известное по письменным источникам и археологическим материалам. Впервые в летописи упоминаются в ранней недатированной части. Расселялись, по летописным сообщениям, «межи Припятью и Двиною», по археологическим дайным — от Днепра на востоке до левобережья З. Буга на западе, от правобережья Припяти на юге до Борисова, Логойска, Заспавля, левобережья Немана на севере. Археологические памятники дреговичей — курганные могильники, селища, городища. Курганные погребения с трупосожжением в X в. сменяются погребением с трупоположением. Погребальный инвентарь сравнительно беден — глиняные горшки, пряжки, кресапа, ножи, топоры, наконечники копий. В женских погребениях преобладают украшения: стеклянные бусы, височные бронзовые кольца, перстни, браслеты и др. Характерным племенным предметом являются крупные медные или серебряные бусы с мелкими напаянными серебряными шариками — зернью.

Генетическими предшественниками дреговичей на средней Припяти в VI—VIII вв. были славянские племена пражской культуры. Расселение севернее Припяти происходило в IX—X вв. Дреговичи принадлежали к числу наиболее развитых восточнославянских племен, имевших свое «княжение» еще до включения в состав Киевской Руси. Занимались земледелием, огородничеством, животноводством, охотой, рыболовством, собирательством, прядением, ткачеством. Доказательством высокого уровня экономического и социального развития дреговичей является раннее возникновение и развитие городов — Туров (980), Берестье (Брест — 1019), Минск (1067), Пинск (1097), Слуцк (1116), Клецк (1127), Рогачев (1142), Дрогичин Надбужный (1142), Мозырь (1155), Давид-Городок (XII в.), Копыль, Каменец, Кобрин, Брагин (все — XIII в.). Находки из культурного споя городов свидетельствуют о высоком уровне развития ремесел железообабатывающего, ювелирного, косторезного, кожевенного, гончарного, деревообрабатывающего. Высокое развитие культуры дреговичей подтверждают высокохудожественное изготовление изделий, развитие письменности, деятельность Кирилла Туровского — выдающегося деятеля средневековой культуры.

## THE DREGOVICHIES

The Dregovichies present one of the pedigreed units of eastern Slavs that is known by written sources and archaelogical materials. In the chronicle they were mentioned for the first time in the early non dated part. In accordance with the

chronicle information they settled between the Pripyat and the Drina; in accordance with archaeological data — from the Dnieper in the east to the left-bank of the western Boug in the west, from the right-bank on the Pripyat in the south to the town of Borisov, Zaslavle; the left-bank of the Neman in the north. Archaeological monuments of the Dregovichies are barrow burials, villages, sites of ancient towns. The barrow burials with dead bodies cremations in the X century were changed into burials with dead bodies placed down. The funeral stock is comparatively poor: clay pots, buckles, steels, knives, axes, arrow-heads.

In women burials different decorations predominate: glass beads, temple bronze rings, finder-rings, bracelets and others. The characteristic tribal subjects are big brass or silver beads with soldered silver small balls-grains.

The genetic predecessors of the Dregovichies in the middle Pripyat river in the VI—VIII centuries were Slav tribes of Prague culture. The setting in the north of the Pripyat took place in the IX—X centuries, then the Dregovichies belonged to the most developed eastern Slav tribes, which had their own "principality" still before becoming part of Kiev Russia. They were occupied with agriculture, market-gardening, hunting, fishing, collecting, spinning, weaving. The evidence of the high standard of economic and social development of the Dregovichies was early emergence and development of towns — Turov (980), Berestye (Brest — 1019), Minsk (1067), Pinsk (1097), Slutsk (1116), Kletsk (1127), Rogachev (1142), Drogichin over the Boug (1142), Mozyr (1155), David-Gorodok (XII century), Kopyl, Kamenets, Kobrin, Bragin (XIII century). The finds of the cultural layer of the towns testify to the high level of development of handicrafts: ironworking, jewelry, bonecutting, tanning, pottery, woodworking. The high development of the Dregovichies' culture confirms the high artistic manufacture of articles, the development of written language, the activity of Kirill Turovsky, the outstanding cultural worker of the medieval culture.

## РАДИМИЧИ

Радимичи — один из восточнославянских союзов племен. По летописным сведениям, они расселились на Соже и пришли с ляшских территорий. Название получили от предводителя Радима. Упоминаются в недатированной части летописи. Археологические исследования уточнили, что радимичи жили не только на Соже, но и занимали значительную территорию по притокам Сожа и междуречье Днепра и Десны. Предшественниками радимичей являлись носители капочинской и роменской культур.

Исследования погребальных памятников радимичей выявили, что в VIII—X вв. у радимичей существовал обряд трупосожжения. В XI в. у радимичей появился обряд трупоположения. Особенностью подкурганных погребений является наличие пепельно-угольного кольца, внутрь которого клали погребенного. Погребальный инвентарь радимичей очень богат.

В этноопределяющий традиционный женский костюм радимички входили металлические семилучевые и лапчатые височные кольца. Встречаются стеклянные бусы в разном сочетании с подвесками.

Исследования Гомеля доказали, что он существовал в X—XI вв. и был хорошо укрепленным центром. Найдены мастерские по изготовлению стеклянных браслетов и оружия. В XI в. на земле радимичей возникли более мелкие города (Кричев, Пропойск, Славгород, Брагин и др.). В XII в. на земле радимичей появляются феодальные замки (Вищин, Зборов). Изучение памятников радимичей убеждает, что появились они на Посожье и Поднепровье в VIII—XI вв. и быстро обжили эти территории. В 984 г. территория радимичей была включена в состав Киевского государства. В XII в. одна часть их территории была включена в состав Черниговского княжества, а вторая — в состав Смоленского.

Основой экономики радимичей являлось сельское хозяйство. Были развиты различные ремесла (железоделательное, кузнечное, гончарное, ювелирное, косторезное и др.). Радимичи вели оживленную торговлю с близлежащими и более отдаленными странами (Византия, Германия, страны Скандинавии).

## THE RADIMICHIES

The Radimichies present one of the eastern Slav unions of tribes. According to the annalistic information they settled on the Sozh and came from the Lyashsk territories. They got their name from their leader Radim. They are mentioned in the non-dated part of the chronicle.

Archaelogical investigations precised that the Radimichies lived not only on the Sozh, but also occupied some considerable territory around the Sozh and between the Dnieper and the Desna. The predecessors of the Radimichies were the bearers of Kolochin and Romensk cultures.

The investigations of the funeral monuments of the Radimichies revealed that in the VIII—X centuries the Radimicies began to use the ceremony of dead-bodies location. The peculiarity of underbarrow burials consist of the presence of ashy-coal rings, inside of which a dead person was placed. The funeral stock of the Radimichies is very rich.

The ethnic defining traditional women's suit of a Radimichki had metallic seven-rays and palmate whisky rings. Class beads were found in different combination with pendants.

The investigations of the city of Gomel proved, that it existed in the X—XI centuries and was well stengthened centre. Some workshops for making glass bracelets and weapons were found. In the XI century on the area of the Radimichies smaller towns appeared (Krichev, Propoisk, Bragin and others). In the XII century there also appeared locks (Vishchin, Zborov).

Studying the monuments of the Radimichies convinces, that they appeared on the Sozh and the Dnieper in the VIII—XI centuries and quickly brightened up these territories. In 984 year their territory became part of the Kiev State. In the XII century one part of their territory was included into the Chernigov principality and the second into the Smolensk one.

The basis of the Radimichies' economics was argiculture. Different trades were developed (ironworking, blacksmith]s work, pottery, jeweller's art, bonecutting and others).

The Radimichies carried on animated trade with the neighbouring and more distant countries (Byzantine, Germany, Scandinavia).

## НАСЕЛЕНИЕ ПОНЕМАНЬЯ

В отличие от других регионов Беларуси, где проживало в основном одноэтничное или даже одноплеменное население, в Понеманье наряду со славянами жили балтские племена (в северо-западной части — литовские, в западной — ятвяжские). Да и славяне по своей племенной принадлежности были неоднородными.

Господствующим обрядом погребения в славянских курганах X—XIII вв. было трупоположение. Трупосожжение встречается редко. Зафиксированы сожжения как на месте, так и на стороне. В курганах с трупоположением преобладают погребения на горизонте, реже встречаются в могильных ямах. У основания курганов часто, а в насыпи иногда имеются зольно-угольные прослойки. На основании анализа особенностей погребального обряда и вещевого инвентаря установлено, что основную массу погребений в южных и центральных районах Понеманья в X—XI вв. составляют погребения дреговичей и древлян, в меньшей

степени — волынян. Изредка в центральных районах встречаются погребания кривичей. В северных районах погребения кривичей (наряду с дреговичскими) выступают весьма отчетливо. В могильниках окрестностей Новогрудка XII—XIII вв. наиболее четко выступают погребения волынян и носителей культуры каменных курганов Неманско-Бугского междуречья.

Погребальные памятники литовских племен конца 1-го — начала 2-го тысячелетия н. э. представлены так называемыми восточнолитовскими курганами. Погребальный обряд — трупосожжение на уровне древнего горизонта почвы или несколько выше его. В отличие от курганов предшествующего времени с погребениями мужчин мало предметов вооружения (в более ранних — однолезвийные мечи, в более поздних — двухлезвийные). Изредка встречаются широколезвийные топоры. В женских погребениях меньше стало украшений и совсем мало орудий труда. В конце XII — начале XIII в. обычай насыпать курганы исчезает.

Для ятвяжских могильников X — начала XI в., состоящих (как и более ранние погребальные памятники) из плоских каменно-земляных насыпей, характерны трупосожжения. В XI—XII вв. обряд трупосожжения сменяется обрядом трупоположения. Покойников клали на материк или в подкурганную яму. Преобладает западная ориентировка, хотя встречается и восточная. Погребальный инвентарь в мужских погребениях представлен немногочисленными орудиями труда и предметами вооружения, в женских — преимущественно украшениями. С каменными курганами непосредственно связаны так называемые каменные могилы, наиболее ранние из которых датируются XII—XIII вв., возможно, концом XI в.

## THE POPULATION OF PONEMANYE

In contrast to other regions of Belarus where in the main one-ethnic or oven one-tribe population lived, in Ponernanya side by side with Slavs there lived Balt tribes (in the north-west part-Lithuanian, in the west-Yatvyazhsk). And the Slavs also by their tribe membership were not similar.

The predominant ceremony of burying in Slav barrows of the X—XIII centuries was dead-bodies location. Dead-bodies cremation is found seldom. Such cremation is fixed both in that place and on another side. In the barrows with dead bodies location burials in the horison prevail over them in grave hole. There are often ashen-coal streaks in the base of barrows and sometimes in the embankment too. On the basis of the analysis of the peculiarities of the funeral ceremony and the clothing stock it is determined that the main mass of burials in the south and central districts of Ponemanye in the X—XI centuries form the burials of the Dregovichies and the Drevlyans, and in smaller degree — of the Volynyans.

Sometimes in the central regions the Krivichies' burials are met. In northern regions the Krivichies' burials (side by side with the Dregovichies') come forward quite distinctly. In the burial grounds of Novogrudok environment of the XII—XIII centuries most efficient are the burials of the Volynyans and bearers of culture of stone barrows of the Nman and the Boug space between. The burial monuments of the Lithuanian tribes of the end of the first and the beginning of the second thousand year of the new era are presented by so called eastern — Lithuanian barrows. The funeral ceremony is a dead-body cremation on the level of the ancient horison of the ground or a bit higher. In contrast to the barrows of the precedings time with burying men there are few subjects of arms (in earlier ones — one blade swords, in later ones — two blades swords). From time to time wide blade axes can be found. In women's burials there are fewer decorations and quite few tools.

At the end of the XII and at the beginning of the XIII centuries the custom of pouring barrows disappeared. For Yatvizhsk burial ground of the X and the be-

ginning of the XI century consisting (like earlier burial monuments) of plane stone-earthen embankment, dead-bodies cremations are characteristic. In the XI—XII centuries the ceremony of dead-bodies cremation was changed by the ceremony of dead-bodies location. Dead bodies were placed on the subsoil or in the hole under a barrow. The western orieming prevails though the oriental one also takes place. The funeral stock in men's burials is presented by not numerous instruments of production and articles of armament; in women's — mainly by decorations.

Stone barrows are directly connected with so called store graves, the earliest of which are dated by the XII—XIII centuries, or possibly by the end of the XI century.

## СЕЛЬСКИЕ ПОСЕЛЕНИЯ

Изучение неукрепленных сельских поселений на территории Беларуси началось по существу в послевоенные годы. Лучше других регионов исследованы Могилевское Поднепровье, Западное Полесье и Понеманье. И в Могилевском Поднепровье и в Западном Полесье преобладают поселения, вытянутые вдоль речных берегов и расположенные на дюнах или останцах террас в поймах рек. Площадь поселений колеблется от десятых долей гектара до 4—5 га. И в Могилевском Поднепровье, и в Западном Полесье большинство поселений возникли в конце IX—X в. (соответственно 21 % и 18 %) и особенно — в XI—XIII вв. (71 % и 70 %). В XIV—XVI вв. многие существовавшие ранее поселения исчезают.

При раскопках селищ вскрыты остатки полуземляночных жилищ (Хотомель, г. п. Красносельский) и наземных домов (г. Чаусы, д. Дружба (Рыловщина) — окраина г. Минска) с глинобитными печами и печками-каменками.

Подавляющее большинство укрепленных поселений Беларуси тесно связано с охранными свойствами естественного рельефа местности. Преобладают поселения двух типов: островные и мысовые. Поселения, форма которых не зависит от конфигурации рельефа местности, представлены двумя вариантами: одни из них расположены на возвышенностях (преобладают в Понеманье), другие — в низинной местности (преобладают в Полесье). Особо мощными оборонительными сооружениями среди поселений правильной геометрической формы выделяются городища-замчища.

Единственным на территории Беларуси полностью исследованным городищем является Хотомельское (Столинский район) — городище-убежище, верхний горизонт которого датируется VIII—X стст. Среди городищ, являющихся остатками феодальных замков, наиболее крупные работы проведены в Вищине (Рогачевский район). Здесь выявлены остатки шести наземных однокамерных построек, добыта многочисленная и разнообразная коллекция вещей, найден выдающийся по своей художественной ценности клад дорогих ювелирных украшений и платежных серебряных слитков. Значительные исследования проведены на двух городищах, являющихся остатками крепостей на славяно-литовском порубежье,— Кульбачино и Костенево (оба — Щучинский район), населенных профессиональными воинами, которые одновременно были и земледельцами.

## COUNTRY SETTLEMENTS

The study of non-fortified country settlements on the territory of Belarus Began in essence in postwar years. The Dnieper area round Mogilev, Western Polesye and the Ponemanye were explored better than other regions. In the Mogilev Dnieper area and in Western Polesye there are a lot of settlements disposed along the river banks and on the dunes, or on the hills in the flood-lands. The area of settlements fluctuate from 10 parts of one hectare to 4—5 hectars. Both in the Mogilev Dnieper area and in Western Polesye the majority of settlements sprang at the end of the IX—X centuries

